# БЕЛАРУСКІ ГІСТАРЫЧНЫ АГЛЯД

Том 18 Сшыткі 1–2 (34–35) Снежань 2011

## Змест

### Артыкулы



### Публікацыі



### Гісторыкі



### Новая літаратура: агляды і рэцэнзіі

## Агляд перыёдыкаў



## In memoriam

# Сувязі эліты ВКЛ з Кіеўшчынай у 1569–1648 г.

**Генрых Літвін**

Эліты Вялікага Княства Літоўскага доўгі час не пагаджаліся з далучэннем Валыні і Кіеўшчыны да Кароны, што цягнула за сабой адну з істотных прычын „унійных спрэчак”. Паўстае пытанне, у якой ступені гэтая з’ява вынікала з матэрыяльных інтарэсаў магнацкіх родаў Вялікага Княства Літоўскага, і ў якой была праявай націску на палітычнай канцэпцыі тэрытарыяльнай непадзельнасці. Каб высветліць дадзеныя аспекты, разгледзім абсяг інтарэсаў літоўскай эліты[1] на „інкарпараваных абшарах” і яе прыватнай актыўнасці на ўзгаданых землях. Такім чынам, наш артыкул будзе свайго роду спробай адказу на абазначаныя пытанні адносна Кіеўскага ваяводства.

У эпоху напярэдадні Люблінскай уніі і адразу пасля гэтага прадстаўнікі княскіх і магнацкіх родаў фактычна не мелі сваіх сядзібаў на Кіеўшчыне. Некалькі маёнткаў з вялікімі зямельнымі надзеламі, якія можна аднесці да маёмасці істотнага парадку, займалі магнаты, што часцей за ўсё сваю дзейнасць і справы вялі па-за межамі ваяводства. Сярод іх (улічваючы і перыяд пасля 1569 г.) былі таксама абывацелі (грамадзяне) Вялікага Княства Літоўскага.

[1] У прыведзеных ніжэй разважаннях бярэцца пад увагу распаўсюджанае азначэнне, дзе пад элітай разумеюцца прадстаўнікі тых літоўскіх родаў, што займалі канкрэтную пасаду ў вышэйшай палаце сойма ці мелі высокі чын у цэнтральнай адміністрацыйнай іерархіі.

Найбольш значным кіеўскім зямельным багаццем распараджаўся Філон **Кміта**, які ў 1566 г. атрымаў „на вечнасць” Чарнобыль і прылеглыя да яго тэрыторыі, у дадатак да чаго меў ва ўласнасці вялікую воласць Вяледнікі і некалькі вёсак[2]. Памер маёмасці ставіў Кміту на трэцюю пазіцыю ў спісе мясцовых землеўладальнікаў (1581)[3]. Кмітава сядзіба месцілася ў Чарнобылі, на што ўказваў допіс да ягонага прозвішча — Кміта-Чарнобыльскі. Пры гэтым ён выконваў функцыі аршанскага старасты (з 1566 г.), а з 1579 г. — ваяводы смаленскага, што звязвала яго з ВКЛ[4]. Сам ён выразна лічыў сябе ліцвінам[5]. Памёр Кміта ў 1587 г., пакінуўшы пасля сябе непаўнагадовых сыноў, з якіх толькі Лазар „даспеў” да самастойнага ўзросту, але ўсё роўна памёр маладым і без нашчадкаў у 1595 г.[6]. Названыя землі перайшлі ў спадчыну яго сёстрам.

Значнымі былі таксама кіеўскія ўладанні роду **Гарнастаяў**, што меў мясцовае паходжанне, але пры гэтым валодаў землямі і ўплывамі ў ВКЛ[7]. Са шматлікіх мужчынскіх нашчадкаў роду, што нарадзіліся ў 50-я і 60-я г., у выніку застаўся толькі адзін нашчадак — Гаўрыла Іванавіч. З 1566 г. ён быў ваяводам менскім, а пазней, з 1576 г., ваяводам берасцейскім[8]. У 70-я і 80-я г.

2 Клепатский П. Н. Очерки по истории киевской земли. Т. 1. Литовский период. Одесса, 1912. С. 215, 226, 227, 256, 301, 310.

3 Litwin H. Napływ szlachty polskiej na Ukrainę 1569–1648. Warszawa, 2000. S. 26.

4 Eberle J. Kmita Czarnobylski Filon // PSB. T. 13. S. 88–89.

5 Lulewicz H. Gniewów o unię ciąg dalszy. Stosunki polsko-litewskie w latach 1569–1588. Warszawa, 2002. S. 107–108.

6 BC, Zbiór Muzeum Narodowego, 863, cz. 5, k. 57; Ukraina (Kijów — Bracław). Dział I–III, wyd. A. Jabłonowski. [y:] Polska XVI wieku po względem geograficzno-statystycznym. T. 9, wyd.: Źródła Dziejowe. T. 20–22. Warszawa, 1894. Dz. II. S. 13.

7 Пятае месца сярод землеўладальнікаў у 1581 г. Гл.: Litwin H. Napływ… Op. cit. Гл. таксама: Litwin H. Rody pańskie Kijowszczyzny. Status majątkowy // Przegląd Wschodni. T. VIII, z. 2 (30). 2002. S. 249–250.

8 Markiewicz A. Hornostaj Gabriel (Hawryła) // PSB. T. 9. S. 626–627.

XVI ст. ён прымаў актыўны ўдзел у палітычным жыцці ВКЛ[9], адначасова ўзмацняючы матэрыяльныя пазіцыі на Кіеўшчыне. Яго адзіны сын Еранім (Ерафей) атрымаў у спадчыну ўсе маёнткі роду, уключна з літоўскімі. Частку апошніх ён прадаў[10]. Ужо наступны прадстаўнік роду, Самуэль, быў моцна звязаны з Кіеўшчынай, пастаянна там жыў, і няма звестак пра ягоныя хоць якія сувязі з ВКЛ[11].

Падобную карціну ў перыяд каля 1569 г. можна назіраць адносна роду **Тышкевічаў-Лагойскіх**. Гэты род з фамільным гняздом на Кіеўшчыне, маючы немалыя мясцовыя маёнткі, заняў на працягу XVI ст. высокія пазіцыі ў спісе землеўладальнікаў і набыў значныя тэрыторыі ў Вялікім Княстве Літоўскім[12]. Васіль Тышкевіч быў першым сенатарам у гісторыі роду, а таксама займаў пасаду спачатку падляшскага, пазней жа смаленскага ваяводы (з 1569 г.). Ягоны „набытак" складаўся з трох зямельных комплексаў у паветах Менскім, Слонімскім ды на Кіеўшчыне[13]. Маёмасць цалкам перайшла ў спадчыну ўнукам Васіля, сынам яго старэйшага нашчадка — Юрыя[14]. Шматлікія прадстаўнікі роду ў чарговых пакаленнях таксама падтрымлівалі кантакты як з Кіеўшчынай, так і з ВКЛ. Такімі былі Юры, ваявода берасцейскі[15], ягоныя сыны Фрыдрых (Тэадор Фрыдэрык), Марцін і Астап (Ян Яўстахій), якія займалі адпаведна пасады надворнага падскарбія ВКЛ (1607), мсціслаўскага ваяводы (1611) і берасцейскага ваяводы

[9] Lulewicz H. Gniewów o unię… Op. cit. S. 201, 217, 237, 247, 276, 295, 315, 357, 363, 391.

[10] Boniecki A. Herbarz Polski. T. 7. S. 340.

[11] Rulikowski E. Opis powiatu kijowskiego. Kijów — Warszawa, 1913. S. 128–129.

[12] Lulewicz H. Miszkowicze, Kalenikowicze, Tyszkowicze (Tyszkiewicze) — cztery pokolenia w dziejach rodu (XV wiek — pierwsza połowa XVI wieku). [у:] Władza i prestiż: magnateria Rzeczypospolitej w XVI–XVIII wieku, red. J. Urwanowicz. Białystok, 2003. S. 306.

[13] Op. cit. S. 324–328.

[14] Litwin H. Rody… Op. cit. S. 242–243.

[15] Lulewicz H. Gniewów o unię… Op. cit. S. 86, 111, 134, 151, 182.

(1615). Нашчадкі двух апошніх сыноў былі адпаведна: Іосіф Марцінавіч — вялікалітоўскім чашнікам (1640) і Антон Астапавіч — надворным падскарбіем ВКЛ (1645), апошні ж у хуткім часе даслужыўся да надворнага маршалка ВКЛ (1645)[16]. Іншым нашчадкам гэтага роду, у сваю чаргу, замінала падобнае рассяроджванне сваіх высілкаў. Януш, сын Фрыдрыха, Станіслаў Іосіфавіч і яшчэ двое Астапавічаў — Крыштаф і Феліцыян — трымаліся кіеўскай маёмаснай прасторы і мясцовай палітычнай сцэны. Наадварот, Пятро Юр'евіч і ягоныя дзеці, а разам з імі Юры і Казімір Астапавічы дзейнічалі на вялікалітоўскай арэне і не мелі дачынення да паўднёва-ўсходняга памежжа[17]. Тышкевічы-Лагойскія былі сярод першых у спісе найбольш заможных магнатаў Кіеўшчыны. Юры, Фрыдрых, Астап належалі да невялікай колькасці латыфундыстаў. Іосіф і Антон — да больш шырокай, але таксама нешматлікай групы заможнай шляхты[18].

Яшчэ адным прадстаўніком эліты ВКЛ, якому належалі значныя зямельныя надзелы на Кіеўшчыне (а таксама на Валыні), быў князь Аляксандр **Пронскі**. На Дняпры яму перайшлі ў спадчыну воласці Гражаны і Гарашкевічы (іншая назва — Александропаль), якія калісьці ў заставу князям пакінулі Сапегі, але так і не выкупілі[19]. Пронскі вёў актыўную палітычную дзейнасць на вялікалітоўскай арэне, у сувязі з чым ён спачатку займаў пасаду стольніка (1576 — 1588), потым — трокскага кашталяна (1591–†1596). Ён памёр, калі ягоныя два сыны — Аляксандр Актавіян і Юліюш — былі яшчэ непаўнагадовымі, таму спачатку знаходзіліся пад доглядам маці, Фядоры з роду Сангушкаў, а пасля і яе другога мужа, Андрэя Ляшчынскага. Юліюш памёр у 1613 г., Аляксандр жа паехаў за мяжу, дзе памёр пасля

16 Litwin H. Rody… Op. cit. S. 243–244.
17 Op. cit. S. 242–245.
18 Op. cit., гл. таксама: Litwin H. Napływ… Op. cit. S. 26, 30.
19 Ukraina (Kijów — Bracław)… Dz. I. S. 36. Dz. II. S. 112. У 1581 г. гэта быў дзясяты з самых вялікіх зямельных уладанняў на Кіеўшчыне, гл.: Ltwin H. Napływ… Op. cit. S. 26.

1630 г. без нашчадкаў[20]. Кіеўская маёмасць перайшла да Ляшчынскіх, а пазней была прададзена Нямірычам[21].

Вялікія, але неабжытыя воласці займалі на Кіеўшчыне **Кухмістровічы-Дарагастайскія**. Гэтыя зямельныя надзелы мелі назву Абухаў, але таксама ўзгадваліся як Кухмістроўшчына[22]. Яшчэ да 1569 г. (адпаведна і пасля 1569 г.) яны складалі долю ў спадчыне Яна, малодшага сына Мікалая, мечніка літоўскага. Па прычыне заўчаснай смерці Яна кіеўская спадчына перайшла яго непаўнагадоваму сыну Паўлу, якім апекаваўся дзядзька Пятро[23]. Па ўсім відаць, Пятра Дарагастайскага мала цікавілі прыдняпроўскія землі, таму ён прадаў іх Канстанціну Астрожскаму ў 1588 г., калі разышліся чуткі, што ягоны пляменнік, які быў выпраўлены па навуку за мяжу, там і памёр. Павел Дарагастайскі, аднак, не памёр, і калі вярнуўся на радзіму, нагадаў дзядзьку пра страчаную маёмасць. Землі вярнуліся да яго пасля другога аспрэчання ў 1598 г. Праўда, гаспадар праз пару гадоў пакінуў гэты свет (1607/1609), а Абухаў стаў уласнасцю Андрэя Фірлея, мужа дачкі Паўла — Альжбэты (Гальшкі)[24]. Сувязі Паўла з ВКЛ цалкам перарваліся, хіба што ён кантактаваў са сваякамі.

Землі ў Кіеўскім ваяводстве імкнуліся пакінуць у сваёй уласнасці не толькі Дарагастайскія, але і іншыя

[20] Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy od końca czternastego wieku. Warszawa, 1895. S. 402–403.

[21] Ukraina (Kijów — Bracław)… Dz. I. S. 67.

[22] Rulikowski E. Obuchów… [y:] Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich (далей SGKP). T. 7. S. 356–358.

[23] Op. cit. На жаль, Рулікоўскі пераблытаў тут дзве постаці. На самай справе, Паўлам апекаваўся ягоны дзядзька Пятро, што быў сынам вялікалітоўскага мечніка Мікалая, які ў хуткім часе пасля 1588 г. памёр (A. Boniecki. Herbarz… Op. cit. T. 13. S. 86). Рулікоўскі жа пераблытаў яго з Пятром, сынам полацкага ваяводы Мікалая. Названы Рулікоўскім Пятро, менскі кашталян з 1597 г., а пасля ваявода мсціслаўскі з 1600 і смаленскі з 1605 (†1611), быў па ўзросце амаль равеснікам Паўла і не мог быць ягоным апекуном.

[24] Ukraina (Kijów — Bracław)… Dz. II. S. 42, 76, 149, 191, 250, 331, 475.

літоўскія „паны” — **Халецкія**. У 1569 г. ім належала палова Ржышчава з воласцю[25]. Маёмасць была падзелена паміж сынамі Іосіфа (Есіпа), што быў аўруцкім старастам. Свае надзелы меў там таксама Андрэй, што спачатку служыў суддзёй (1579), а пасля рэчыцкім маршалкам (1589–†1595)[26], разам з ім месціліся там Васіль (пасля 1588) і Ян, які быў спачатку гаспадарскім маршалкам (1588), пасля ж мечнікам літоўскім (1589–†1615)[27]. У 1586 г. Андрэй выкупіў другую палову Ржышчаўскай воласці ў яе ўласнікаў па прозвішчы Кордыш. Пасля яго смерці маёнтак быў прыдзелены сынам Юзафіяну, Францішку і Пятру. Сваю частку саступіў ім таксама дзядзька Ян, брат бацькі, які ў крыніцах да 1604 г. узгадваецца як суўладальнік маёнтка[28]. Пятро і Францішак памерлі маладымі і без нашчадкаў, таму адзіным уласнікам Ржышчаўскай воласці стаў Юзафіян, якому давялося весці бясконцыя спрэчкі за межы паміж Кіеўскім і Багуслаўскім староствамі. Не маючы магчымасці развязаць пытанне на сваю карысць, ён надумаў прадаць увесь свой кіеўскі маёнтак Варонічам у 1625 г., пасля чаго, імаверна, перабраўся ў ВКЛ[29].

На Кіеўшчыне свае маёнткі мелі прадстаўнікі яшчэ адной лініі Халецкіх — сыны Герасіма, Васіль і Багдан. Аднак ужо ў 1572 г. яны прадалі воласць Вільск князю Багдану Карэцкаму, які, не доўга думаючы, перапрадаў яе Астрожскім[30].

Адным з двух кіеўскіх сенатараў, якія ў 1569 г. перайшлі пад юрысдыкцыю Кароны, быў кашталян Павел **Сапега**. Асноўная частка яго маёнткаў знаходзілася ў ВКЛ, а з Кіеўшчынай яго звязвала па большасці ўтры-

[25] Rulikowski E. Rżyszczów… [у:] SGKP. T. 10. S. 171–174.
[26] Halecki O. Chalecki Andrzej // PSB. T. 3. S. 247.
[27] Halecki O. Chaleccy na Ukrainie // Miesięcznik Heraldyczny. T. 3. 1910. Гл. таксама: Rulikowski E. Opis powiatu kijowskiego… Op. cit. S. 132–137.
[28] Ukraina (Kijów — Bracław)… Dz. II. S. 41, 75. Boniecki A. Herbarz… Op. cit. T. 2. S. 335.
[29] Op. cit. Dz. III. S. 396. Rulikowski E. Rżyszczów… [у:] SGKP. T. 10. S. 172.
[30] Halecki O. Chaleccy na Ukrainie… Op. cit. S. 198.

манне з 1560 г. Любецкага староства і служба аховы памежжа, што вынікала з гэтага абавязку. Маёмасць, якой Сапега быў на тых землях спадчынным уласнікам (мясцовасць Гражаны), была закладзена Пронскім. Пасля уніі Сапега быў звязаны з літоўскай палітычнай арэнай і падтрымліваў далучэнне Кіеўшчыны і Валыні да Вялікага Княства Літоўскага. Жыў ён пры гэтым пераважна ў Любечы і сумленна выконваў там абавязкі старасты[31]. Пасля яго смерці (1580) членам яго сям'і не перадаліся землі Любецкага староства, як і не вярнулася да іх Гражанская воласць, таму кантакты названых Сапегаў з Кіеўшчынай перапыніліся[32].

Зямельныя надзелы на Кіеўшчыне меў таксама іншы прадстаўнік роду Сапегаў — Багдан, кашталян берасцейскі (з 1579 г.), пазней — смаленскі (1585–†1593). Былі гэта, аднак, дзве сціплыя воласці — вёска Радомель і Гызін (Хішын)[33]. Палітычная і вайсковая актыўнасць кашталяна была скіравана на Літву[34]. Усё паказвае на тое, што пасля яго смерці сям'я прадала названыя надзелы Нямірычам, прынамсі яны належалі апошнім яшчэ да 1599 г.[35].

Хоць і прасторныя, але ў большасці неасвоеныя землі займалі на Кіешўчыне **Францкевічы-Радзімінскія**[36]. Прыкладна ў 1569 г. Гулянікі і Карашын, як незаселеныя, узяў пад свой догляд кіеўскі ваявода Канстанцін Васіль Астрожскі. Гулянікі тады запісалі ў дзяржаўную маёмасць Рэчы Паспалітай, а ў 1595 г. перадалі пад катэгорыяй „пустое гарадзішча" Яну Аксаку[37]. Радзімінскія яшчэ доўгі час судзіліся за сваё адабранае дабро, але ў 1629 г. канчаткова адмовіліся ад спрэчкі і земляў у

31 Lulewicz H. Sapieha Paweł // PSB. T. 35. S. 131–133.
32 Rachuba A. Sapieha Jan Piotr // PSB. T. 34. S. 621–624.
33 Ukraina (Kijów — Bracław)… Dz. I. S. 43.
34 Lulewicz H. Sapieha Bohdan // PSB. T. 34. S. 594–596.
35 Ukraina (Kijów — Bracław)… Dz. II. S. 88.
36 Ukraina (Kijów — Bracław)… Dz. III. S. 622.
37 Metryka Ruska (Wołyńska). Regesty dokumentów kancelarii koronnej dla ziem ukraińskich (województw wołyńskiego, bracławskiego, kijowskiego i czernihowskiego) 1569–1673, ed. P. Kennedy Grimsted. Kijów, 2002. S. 451.

Гуляніках[38]. Інакш складалася сітуацыя вакол Карашына — яго Канстанцін Астрожскі далучыў да сваіх спадчынных маёнткаў[39]. Міхал Францкевіч-Радзімінскі, полацкі падкаморы, распачаў насуперак гэтаму працэс рэстытуцыі названай маёмасці (1598)[40]. Ягоны сын Мікалай выйграў справу, дачакаўшыся фармальнай перадачы яму маёмасці, што перапісаў сабе „на спадчынных правах" Астрожскі (1604)[41]. Той самы Мікалай да 1624 г. гаспадарыў у Карашыне разам з братам Янам, якому таксама належала ўзгаданая мясцовасць, пазней жа, відаць, пасля продажу, маёнтак быў ва ўласнасці кіеўскага лоўчага Вацлава Жміёўскага[42]. Мікалай і Ян трымалі таксама іншыя пакінутыя бацькам уладанні, у тым ліку Масанаў (іначай — Масаны, Мазаны, Мазанаў). Гэты маёнтак над Прыпяццю неперарыўна належаў роду Францкевічаў-Разімінскіх прыкладна ад сярэдзіны XVI ст., калі не з ранейшага часу[43]. У першыя гады пасля прыняцця уніі быў уласнасцю Міхала, полацкага падка-

[38] Першыя згадкі пра прававыя спрэчкі за Гулянікі з удзелам Радзімінскіх датаваныя 1606 г., гл.: Опись актовой книги Киевского Центрального Архива. Т. 1, 8–14, 16–18. Киев, 1869–1882. Т. 10. С. 21. Дэкрэт ад 1629 г., гл.: Metryka Ruska… Op. cit. S. 662.

[39] Ukraina (Kijów — Bracław)… Dz. II. S. 39.

[40] Ukraina (Kijów — Bracław)… Dz. II. S. 34.

[41] Ukraina (Kijów — Bracław)… Dz. II. S. 439.

[42] Па гэтым пытанні ў нас ёсць супярэчлівыя дадзеныя. Так, Эдвард Рулікоўскі сцвярджаў, што ад Міхала мясцовасць Карашын перайшла ў спадчыну ягонаму сыну Яну, які памёр у 1631 г., а пасля сыны апошняга перадалі свае правы на маёнтак дзядзьку Мікалаю, гл.: Rulikowski E. Karaszyn. [у:] SGKP. T. 3. S. 832. Пры гэтым ёсць звесткі, што два браты — Мікалай і Ян — разам гаспадаравалі ў Карашыне, гл.: Ukraina (Kijów — Bracław)… Dz. II. S. 190, 227, 249, 254, 362. Відаць, усё ж Мікалай памёр раней за Яна. Як пісаў Руліkoўскі, Мікалай пасля 1631 г. прадаў Карашын Юрыю Нямірычу, а той перапрадаў маёнтак Вацлаву Жміёўскаму, гл.: Rulikowski E. Karaszyn. Op. cit. На самай справе Жміёўскі меў права ўласнасці ўжо ў 1624 г., а ў рэестры пабораў ад 1628 г. ён узгадваецца як адзіны ўласнік маёнтка, гл.: Ukraina (Kijów — Bracław)… Dz. II. S. 326. Dz. I. S. 71.

[43] Ukraina (Kijów — Bracław)… Dz. III. S. 667.

морыя[44]. Калі ж той памёр у 1598 г., Масанаў перайшоў да сыноў — Яна (†1635) і Мікалая, надворнага харужага літоўскага (†каля 1630)[45]. Больш дакладных дадзеных пра продаж Масанава мы не маем, але адбыўся ён не раней за 1628 г. і не пазней за 1634 г., калі ўласнікам яго запісвалі ўжо Іпаліта Радкевіча, кіеўскага мечніка[46]. З гэтага вынікае, што Францкевічы-Радзімінскія таксама адступіліся ад кіеўскага землеўладарання прыкладна ў 1630 г.

Невялікія зямельныя ўладанні на Кіеўшчыне мелі і **Скумін-Тышкевічы**. Дзмітры займаў тут нават урад падкаморыя, але ў 1576 г. атрымаў магчымасць заняць пасаду надворнага маршалка ВКЛ і знік з грамадскага і палітычнага жыцця ваяводства[47]. Ягоны брат Тодар трымаў ва ўласнасці надзелы ў Чэрніне на паўночным Задняпроўі[48], але актыўную дзейнасць праводзіў у Літве. Ён займаў тут пасады надворнага падскарбія (1576), земскага падскарбія (1586) і ўрэшце наваградскага ваяводы (1590–†1618), быў актыўным прадстаўніком палітычнай эліты ВКЛ і без сумневу лічыў сябе ліцвінам[49]. Чэрнін перадаваўся па спадчыне наступным пакаленням Скуміноў. Сын Тодара Януш пераказаў гэтыя землі дачцэ Кацярыне, якая разам з другім сваім мужам Янушам Вішнявецкім прадала іх у 1636 г. Андрэю Драгаеўскаму[50].

[44] Гл. падатковы рэестр ад 1581 г.: Ukraina (Kijów — Bracław)… Dz. I. S. 42.

[45] Ukraina (Kijów — Bracław)… Dz. II. S. 92, 248, 267.

[46] У 1628 г. рэестр пабораў мае запіс адносна ўласніка Масонава, якім з'яўляецца Мікалай Францкевіч-Радзімінскі, гл.: Ukraina (Kijów — Bracław)… Dz. I. S. 85. У наступным рэестры ад 1634 г. фігуруе ўжо Радкевіч, гл.: Центральний державний історичний архів України у Києві (далей ЦДІАУК), ф. 11, спр. 9, арк. 1808.

[47] Urzędnicy województw kijowskiego i czernihowskiego XV–XVIII wieku. Spisy, opr. E. Janas, W. Kłaczewski. Kórnik, 2002. S. 45.

[48] Ukraina (Kijów — Bracław)… Dz. I. S. 41. Dz. II. S. 213, 278, 528.

[49] Lulewicz H., Gniewów o unię… Op. cit. S. 254, 255, 294, 354, 357, 380, 395, 400, 401, 404.

[50] Biblioteka im. Łopacińskich w Lublinie, nr 465, bp.

На поўначы Кіеўскага ваяводства распасціраліся землі Слушкаў пад назвамі Мухаедавічы, Апачыцы і Углы (Вуглы). У часовых межах 1569 г. на іх гаспадарыў Мікалай, крычаўскі староста[51]. З 1581 г. іх уласніцай была запісана „пані Мікалаёва Слушчына”, а была ёю Гальшка з роду Кмітаў, на той час, відаць, ужо ўдовая па Мікалаю[52]. Праз нейкі час гэтыя маёмасці перадаліся дзецям Мікалая. У 1598 г. Мікалай Мікалаевіч Слушка запісаў на сваю жонку Ганну з роду Тхужэўскіх права дажываць і быць пад апекай на кіеўскіх маёнтках[53]. З чаго вынікае, што тады ён быў адзіным іх уладальнікам і памёр без дзяцей у тым самым 1598 г., а Мухаедавічы і іншыя надзелы спадчынна перадаліся ягоным малодшым братам Крыштафу і Аляксандру[54]. На кіеўскіх землях Слушкаў Аляксандр і Крыштаф былі сууладальнікамі, пакуль Крыштаф не памёр у 1619 г., а яго частку прынялі ў спадчыну сыны Рэмігіян і Рафал[55]. У 1631 г. дайшло да падпісання сямейнага пагаднення, паводле якога сыны Крыштафа атрымалі ў выключнае ўладанне кіеўскія землі, саступіўшы дзядзьку Аляксандру частку земляў у ВКЛ[56]. У пазнейшыя гады на гэтых землях вяліся прыгранічныя спрэчкі з праваслаўным мітрапалітам Пятром Магілам[57], што, магчыма, паўплывала на рашэнне братоў прадаць усе маёнткі ў Кіеўскім ваяводстве Стэфану Аксаку[58]. Сям'я Слушкаў даволі доўга трымалася сваёй маёмасці на Кіеўшчыне, напэўна таму, што іх землі знаходзіліся ля самай мяжы з ВКЛ. Прадстаўнікі

[51] BC, Zbiór Muzeum Narodowego, 863, cz. 19, k. 2. Ukraina (Kijów — Bracław)… Op. cit. Dz. III. S. 667. Гл. таксама: Nagielski M. Słuszka Krzysztof // PSB. T. 39. S. 151. Niesiecki. T. 8. S. 413.

[52] Ukraina (Kijów — Bracław)… Op. cit. Dz. I. S. 41, 42.

[53] Ukraina (Kijów — Bracław)… Op. cit. Dz. II. S. 20.

[54] Nagielski M. Słuszka Aleksander // PSB. T. 39. S. 136.

[55] Ukraina (Kijów — Bracław)… Op. cit. Dz. I. S. 84. Dz. II. S. 66, 208. Опись актовой книги… Т. 13. С. 86.

[56] Nagielski M. Słuszka Krzysztof… Op. cit. S. 152.

[57] Описание документов Архива Западнорусских Униатский митрополитов. Изд. С. Г. Рункевич. С.-Петербург, 1895. С. 228.

[58] BC, Zbiór Muzeum Narodowego, 863, cz. 19, k. 72.

названага роду былі звязаныя з Літвой і вялі там палітычныя і вайсковыя справы. Мікалай Мікалаевіч быў вядомым і паважаным военачальнікам. Ён кіраваў войскам ВКЛ, якое дапамагала кароннай арміі ваяваць з казацкімі аддзеламі Налівайкі, і лічыўся абывацелем ВКЛ[59]. Ягоны малодшы брат Крыштаф распачаў у ВКЛ кар'еру і ўрадавую (менскі падсудак у 1600 г.), і палітычную (менскі пасол у 1600 г.)[60]. Там ён жыў і дзейнічаў, хоць ад 1607 г. меў яшчэ пасаду вендэнскага ваяводы ў Інфлянтах, што належалі да супольных каронна-літоўскіх земляў[61]. Актыўным сенатарам ВКЛ быў і малодшы з братоў, Аляксандр Слушка — кашталян менскі з 1618 г. і жамойцкі з 1628 г., ваявода менскі з 1633 г., наваградскі з 1638 г. і трокскі з 1642 г. (памёр у 1647 г.)[62]. Нават кіеўскія спрэчкі спрабаваў вырашыць у судах ВКЛ, у выніку чаго трапіў у працяглы працэс з суседзямі з-пад Мухаедавічаў — Сурынамі[63].

Адначасова з працэсам адыходу ліцвінаў з Кіеўшчыны адбываўся — што праўда, у меншай меры — іх наплыў на названыя тэрыторыі. Прыгадаем, што кіеўскія маёнткі Кмітаў прынялі ў 1595 г. прадстаўнікі двух родаў з ВКЛ — Сапегаў і Друцкіх-Горскіх. Пасля смерці свайго брата Лазара Соф'я, жонка Лукаша Сапегі, і з ёю Багдана Друцкая — абедзве дачкі Кміты — падзялілі бацькаву спадчыну такім чынам, што першай засталася Чарнобыльская воласць, другой жа Вяледніцкая з некалькімі меншымі маёнткамі (Замысловічы, Ракітнае, Антонаў, Макалевічы, Вепрын, пераназваны пазней у Лукашаў)[64].

[59] Rzońca J. Rzeczpospolita Polska w latach 1596–1599; Wybrane zagadnienia polityki wewnętrznej i zagranicznej. Opole, 1990. S. 13–14. Niesiecki. T. 8. S. 414.

[60] Wisner H. Rzeczpospolita Wazów II. Wojsko Wielkiego Księstwa Litewskiego — dyplomacja — varia. Warszawa, 2004. S. 250.

[61] Nagielski M. Słuszka Krzysztof… Op. cit. S. 152.

[62] Nagielski M. Słuszka Aleksander… Op. cit. S. 135–136.

[63] Metryka Ruska… Op. cit. S. 690, 707, 712, 727, 728.

[64] BC, Zbiór Muzeum Narodowego w Krakowie, 863/5, k. 57; Архив Юго-Западной Росии, издаваемый Временною Комиссиею для разбора древних актов. Ч. 1–8. В 34 т. Киев, 1859–1914. Ч. 6. Т. 1. Отд. 1. С. 244–253; Ukraina (Kijów — Bracław)… Dz.

Друцкія, аднак, не прыжыліся на Кіеўшчыне. Калі ў 1609 г. Юры Друцкі-Горскі загінуў пад Масквой, удава перапісала сваю частку бацькавай спадчыны на сястру і яе сямейства. Такім чынам, у 1613 г. Лукаш Сапега стаў уласнікам усіх кіеўскіх земляў Кмітаў[65]. Спачатку ён паменшыў іх памеры продажам Ракітнага Гойскім (1623)[66], запісаўшы таксама Замысловічы ва ўласнасць езуітам з Вінніцы[67]. Калі ж адзіны яго сын Самуэль памёр у 1625 г., ён запісаў усе іншыя маёнткі на свайго сваяка, вялікага канцлера літоўскага Льва Сапегу, якому права ўласнасці на іх служыла з 1626 г.[68]. Леў Сапега сам на іх не сядзеў, а аддаў у распараджэнне стрыечным братам Паўлу, Яну і Андрэю, сынам Яна Пятра, усвяцкага старасты[69]. Тады ж адбылося чарговае памяншэнне ўсёй гэтай зямельнай маёмасці — у 1627 г. Іосіфу Корсаку быў прададзены Антонаў[70]. Дарэчы, названы зямельны надзел знаходзіўся на поўначы Кіеўшчыны і тады ўжо адносіўся да Мазырскага павета ВКЛ[71]. Воласць Вяледнікі патрапіла пад заставу, пазней жа, з прычыны яе несвоечасовага выкупу, перайшла ў спадчынную ўласнасць Станіслава Веляма[72]. Макалевічы і Вепрын, невядома дакладна якім чынам, адышлі да Чарлянкоўскіх[73]. Сапегі пакінулі сабе на Кіеўшчыне толькі Чарнобыль з воласцю. Калі ў 1633 г. памёр Леў Сапега, гэты маёнтак атрымаў ягоны сын, Казімір Ля-

II. S. 13, 205.

65 AP Kraków, Archiwum Młynowskie Chodkiewiczów, N. 972; Опись актовой книги… Т. 13. С. 87; Ukraina (Kijów — Bracław)… Dz. II. S. 205.

66 Ukraina (Kijów — Bracław)… Dz. II. S. 629.

67 Ukraina (Kijów — Bracław)… Dz. II. S. 628.

68 AP Kraków, Archiwum Młynowskie Chodkiewiczów, N. 972.

69 Опись актовой книги… Т. 9. С. 33.

70 Sapiehowie. Materiały historyczno-genealogiczne i majątkowe. T. 1–2. S.-Petersburg, 1891. S. 69.

71 Крикун М. Адміністративно-територіальний устрій Правобережної України в 15–18 ст.: Кордони воєводств у світлі джерел. Київ, 1993. С. 140–145.

72 ЦДІАУК, ф. 11, спр. 9, арк. 1803.

73 BJ 4503, k. 50, 85, Archiv Jugozapadnoj… Op. cit. Cz. 7. T. 1. S. 411; Опись актовой книги… Т. 14. С. 22.

вон[74]. З Кіеўшчынай ён не быў звязаны ніякім чынам. Вядома, што на сойме 1646 г. ён спрабаваў нават прылучыць Чарнобыль да ВКЛ[75], аднак рашучая нязгода кіеўскіх паслоў пакінула воласць у межах іх ваяводства, Сапега ж пры гэтым ад яе не адмовіўся да канца даследаванага намі перыяду.

На поўначы ад Чарнобыля, недалёка ад межаў з ВКЛ, знаходзілася воласць Вострагладавічы, якая ў 20-я г. XVII ст. таксама патрапіла ў рукі ўласнікаў, што выводзіліся з элітаў ВКЛ. Не пазней за 1624 г. гэты маёнтак стаў належаць Мікалаю Абрагамовічу[76]. Прывялі да гэтага складаныя сямейна-фінансавыя дамоўленасці. Вострагладавічы ў маёмасць Абрагамовічаў прыўнесла жонка Мікалая, князёўна з роду Курцэвічаў. Ён перайшоў ёй у спадчыне па маці, Гальшкі з роду Стужынскіх, якая трэці раз выйшла замуж за Мікалая Харленскага, у гэтым шлюбе дзяцей не мела і калі стала ўдовай, атрымала названыя землі па мужу, запісаўшы іх сваёй адзінай дачцэ[77]. Воласць знаходзілася на памежжы з ВКЛ, таму Абрагамовічам было даволі зручна займацца яе адміністраваннем. Яны таксама не адмовіліся ад яе да канца даследаванага намі перыяду.

Два наступныя і апошнія ў нашым даследаванні кіеўскія маёнткі прадстаўнікоў эліты ВКЛ аддзяліліся ад вялізнай латыфундыі Карэцкіх. Пасля смерці князя Іахіма і завяршэння „пажыццёвага ўладання" яго жонкі Ганны з роду Хадкевічаў (†1626) два надзелы перадаліся ў спадчыну яго дочкам. Ганна, Глябовіч

[74] Кароткі час суўладальнікам быў ягоны старэйшы брат Ян Станіслаў, які памёр у 1635 г., гл.: BC, Zbiór Muzeum Narodowego w Krakowie, 863/5, k. 66.

[75] Rachuba A. Sapieha Kazimierz Leon // PSB. T. 35. S. 33.

[76] Ukraina (Kijów — Bracław)... Dz. I. S. 83. Dz. II. S. 359; ЦДІАУК, ф. 11, спр. 9, арк. 1703, 1802.

[77] Гл.: Wolff J., Kniaziowie... Op. cit. S. 199. A. Boniecki. Herbarz... Op. cit. T. 2. S. 345. Біяграма Мікалая Абрамовіча ў Польскім Біяграфічным Слоўніку (PSB) чамусьці не ўзгадвае яго першую жонку Эву, якая паходзіла з роду Курцэвічаў, гл.: W. Lipiński. Abramowicz vel Abrahamowicz Mikołaj // PSB. T. 1. S. 14–15.

па мужу, атрымала мясцовасць Гаголеў з воласцю[78], а Лавінія, па мужу Радзівіл, — мясцовасць Базар з прылеглай тэрыторыяй (*cum attinentis*)[79]. Але Глябовічы на Украіне не затрымаліся, бо ўжо ў 1642 г. іх сын Марцыбелі Юры, падстолі літоўскі, прадаў усе кіеўскія землі Стэфану Аксаку[80]. У сваю чаргу Лавінія Радзівіл стала ўдовай ужо ў 1626 г. і, відавочна, апекавалася родавымі маёнткамі Карэцкіх на Кіеўшчыне да сваёй смерці ў 1648 г.[81].

Як мы пабачылі, прадстаўнікі элітаў ВКЛ, што ў 1569 г. валодалі зямлёй на Кіеўшчыне, паволі ці хутчэй пакінулі свае ўскраінныя маёнткі. Кміты вымерлі ў 1595 г. Пронскія з'ехалі з Кіеўшчыны прыкладна ў 1613 г., Дарагастайскія — каля 1607, Халецкія — каля 1625, дзве лініі роду Сапегаў — каля 1580 і 1599 г., Скуміны — пасля 1618 г., Францкевічы-Радзімінскія — каля 1630 г., а Слушкі — у 1640 г. Нашчадкі роду Гарнастаяў засталіся на Украіне, затое практычна перасталі зносіцца з ВКЛ. Толькі Тышкевічы-Лагойскія дзейнічалі па двух напрамках, падтрымліваючы зносіны як з ВКЛ, так і з Кіеўшчынай. У спадчыну атрымалі кіеўскія маёнткі Сапегі з канцлерскай лініі і Радзівілы з лініі клецкай, але ўласнасць гэтая мела для іх другараднае значэнне, і мы не адзначаем выразных сувязяў названых сем'яў з Кіеўскім ваяводствам.

Сляды палітычнай актыўнасці прадстаўнікоў эліты ВКЛ на Кіеўшчыне выяўляюцца рэдка і звязаныя з дзейнасцю прадстаўнікоў дзвюх фамілій — Сапегаў і Тышкевічаў. Фігурай, з якой лічыліся ў межах ваяводства, быў, без сумневу, Лукаш Сапега (†1626). Ён утрымліваў сядзібы ў Чарнобылі і Вяледніках, прымаў удзел у рэгіянальных фракцыях і спрэчках, нажыў сярод кіеўскай шляхты і сяброў, і ворагаў. Акрамя таго, што ён меў немалыя ўладанні, падтрымкай яго дзейнасці быў уплы-

78 Ukraina (Kijów — Bracław)… Dz. I. S. 72.
79 Jw. S. 88.
80 Lasocki Z. Sienkiewiczowskie „lwie pacholę" i ród jego // Miesięcznik Heraldyczny. 1936. T.15. S. 5.
81 CDIAK, Fond 11, nr 9, k. 1799.

вовы сваяк Леў Сапега[82]. Пасля смерці Лукаша кіеўскія маёнткі перайшлі менавіта да яго, а ўласнік аддаў іх пад дагляд сваякам — усвяцкім старасцічам. Тыя імкнуліся працягваць справу Лукаша і гэта нават няблага выходзіла, бо Павел Сапега меў гонар прадстаўляць ваяводства на канвакацыйным сойме ў 1632 г.[83]. Аднак у перыяд панавання Уладыслава IV Сапегі знікаюць з кіеўскай палітычнай сцэны.

Адзінай сям'ёй, якая свядома захоўвала актыўнасць і на Літве, і на Кіеўшчыне, былі Тышкевічы па лініі Юрыя, берасцейскага ваяводы (†1576). Ян Яўстафій, у крыніцах часцей узгадваны як Астап, быў актыўным удзельнікам кіеўскіх соймікаў. У 1605 г. яго абралі ў Жытоміры паслом на сойм[84]. Урадавую кар'еру яму ўдалося зрабіць у ВКЛ — быў адпаведна надворным падскарбіем літоўскім (1607), ваяводам мсціслаўскім (1611) і пасля берасцейскім (1615–†1631)[85]. Пры гэтым ён не адступіўся ад Кіеўшчыны і Кароны, імкнуўся падтрымліваць добрыя адносіны з Томашам Замойскім і ў 1629 г. быў прэтэндэнтам на пасаду кіеўскага ваяводы — пасля таго, як памёр Аляксандр Заслаўскі[86]. Іншымі словамі, ён актыўна ўдзельнічаў у папярэдніх мясцовых раскладах на шляху да канкрэтнай пасады, дбаў пра добрыя зносіны з мясцовымі лідарамі[87]. Ягоныя сыны — Крыштаф і Феліцыян — зрасліся з Кіеўшчынай мацней за бацьку, а вось Антон Ян выступаў падобным чынам адразу на дзвюх арэнах — літоўскай і кіеўскай. Ён быў паслом віленскага сойміка (хутчэй за ўсё ў 1641), а таксама

[82] Гл. перапіску паміж Лукашом і Львом Сапегамі [у]: Archiwum domu Sapiehów. T. 1. 1575–1606, wyd. A. Prochaska. Lwów,1892, passim.

[83] AR V, 8031, k.157.

[84] BC 320, k. 244.

[85] Urzędnicy centralni i dostojnicy Wielkiego Księstwa Litewskiego XIV–XVIII wieku. Spisy, opr. H. Lulewicz, A. Rachuba. Kórnik, 1994. S. 161.

[86] Астап Тышкевіч да Тамаша Замойскага, 9 VI 1621, 22 VI 1628, 27 IX 1629, AGAD, AZ 747, k. 111, AZ 390, nr 1, 2.

[87] [Януш Тышкевіч] да Тамаша Замойскага, [1630. M. 27 VIII а 17 IX], AGAD, AZ 930, k. 233.

житомірскага (1632, 1633, 1640, 1643), але дзяржаўныя пасады займаў — у адрозненне ад братоў — выключна ў ВКЛ (чашнік літоўскі 1640, надворны падскарбі літоўскі 1640, надворны маршалак літоўскі 1645)[88].

Варта таксама ўзгадаць пра ўплывовасць Крыштафа і Януша Радзівілаў на кіеўскай палітычнай сцэне. Кіраваная імі дысідэнцкая партыя мела сваіх прадстаўнікоў і на житомірскім сойміку. Да супольнікаў князёў на Біржах і Дубінках у апошняй фазе панавання Жыгімонта Ш адносіліся Гаўрыла і Раман Гойскія[89]. Добрыя кантакты былі ў іх тады і з Нямірычамі[90]. Пры Уладыславе IV сувязі паміж Радзівіламі і лідарам кіеўскіх дысідэнтаў Юрыем Нямірычам яшчэ больш узмацніліся[91]. Гетман ВКЛ „аддэлегаваў" нават на Кіеўшчыну ў падтрымку Нямірычу свайго вернага супольніка Самуэля Пшыпкоўскага, які вызначыўся там вялікай актыўнасцю, быў абраны паслом і маршалкам сойміка[92]. Прыхільнікамі Радзівілаў былі не толькі дысідэнты. Існуюць прыклады цеснага супрацоўніцтва з гетманам ВКЛ каталіка Антонія Тышкевіча[93]. Да радзівілаўскіх кліентаў адносіўся яшчэ адзін каталік, кіеўскі падваявода і житомірскі пасол 1646 г. Аляксандр Лянкевіч-Іпагорскі[94]. Таксама вядома, што Крыштаф Радзівіл на-

88 Urzędnicy centralni Wielkiego Księstwa Litewskiego… Op. cit. S. 77.

89 Гаўрыла Гойскі да Крыштафа Радзівіла, 16 V 1628, 24 VI 1628, AGAD, AR V, 5434, k. 4, 7.

90 S. Kryczyński. Lubienieccy na służbie u Radziwiłłów // Odrodzenie i Reformacja w Polsce. T. 28. 1983. S. 235.

91 J. Dzięgielewski. O tolerancję… Op. cit. S. 105. D. Kupisz. Zbigniew Gorajski (1596–1655). Studium z dziejów szlachty protestanckiej w Małopolsce w pierwszej połowie XVII wielu. Warszawa, 2000. S. 73.

92 Самуэль Пшыпкоўскі да Крыштафа Радзівіла, 8 III 1630, 21 I 1640, 30 I 1640, AGAD, AR V, 12600; BPAU 2252, k. 277; АЮЗР. Ч. 1. Т. 6. С. 774–775; Chmaj L. Samuel Przypkowski… Op. cit. S. 37.

93 Augustyniak U. Dwór i klientela Krzysztofa Radziwiłła (1585–1640). Mechanizmy patronatu. Warszawa, 2001. S. 361.

94 Аляксандр Лянкевіч да Крыштафа Радзівіла, 18 VIII 1632, AGAD, ARV, Nr 8318.

ладжваў добрыя сувязі з кіеўскімі лідарамі праваслаўя, напрыклад з Фёдарам Праскурам-Сушчанскім[95].

Кантакты эліты ВКЛ з Кіеўшчынай пасля 1569 г. былі рэдкімі, прычым выяўлялася выразная тэндэнцыя іх знікнення. Устойлівыя сувязі прадстаўнікоў роду Тышкевічаў і Сапегаў з Прыдняпроўскім ваяводствам трэба разглядаць хутчэй як выключэнне, а не як правіла. Абмежаваная актыўнасць прадстаўнікоў некалькіх важных родаў ВКЛ датычыла паўночнай часткі Оўруцкага павета, што была спрэчнай тэрыторыяй паміж Каронай і Княствам. Падобным чынам уплывы біржанскіх Радзівілаў на Кіеўшчыне не трэба разглядаць як праяву моцных сувязяў паміж Літвой і Кіевам, а як імкненне апошніх арганізаваць там агульнадзяржаўны рух, перадусім веравызнаўчага, хоць і не толькі, характару. Сувязі эліты ВКЛ з Кіеўшчынай былі на момант падпісання уніі рэдкія і не надта трывалыя, тым лягчэй яны паддаліся эрозіі пасля уніі. Пастулаты аб вяртанні земляў, што ставіліся лідарамі ВКЛ у 70-я і 80-я г. XVI ст., мелі, відаць, чыста палітычныя падставы.

*Пераклад Інэсы Кур'ян*

[95] Фёдар Праскура Сушчанскі да Крыштафа Радзівіла, 5 V 1632, AGAD, AR V 12401.

# Relations of the Grand Duchy of Lithuania elites with Kyiv region in 1569–1648

**Henryk Litwin**

The incorporation of Volyn and Kyiv lands to the Polish Crown is known to have had long disputes on behalf the GDL elites and to be one of the main causes of „disputes about the union". In this article the author makes an attempt to answer the question to what extent this phenomenon was related to the protection of material interests of the Lithuanian magnates. He examined the data on the domains the Lithuanian elites owned in Kiev land at that time and it turned out that the magnates who owned lands in Kyiv regionin1569 quickly or slowly tried to get rid of their outlying domains. Even after 1569 only a few Lithuanian habitants owned lands in Kyiv region. Rare were also examples of political activity of the Litvins in Kyiv region. Contacts of Lithuanian elites with the Kiev Voivodship after 1569 were rare and declining. Limited activity of several Lithuanian families related only to the northern lands of the district Ovruch which was under dispute between the GDL and the Crown. The influence of the Radziwill family belonging Biržai line on Kyiv region was the result of their efforts to create a nationwide party of confessional profile rather than a manifestation of strong ties between Lithuania and Kyiv land. At the time of the drawing of the union the relations of Lithuanian elites with Kyiv lands were innumerous and weak, and after signing the union they easily succumbed to erosion. The claims of the GDL leaders to return Ukrainian lands, heard of in the 1570–80s, had apparently purely political reasons and were a manifestation of vitality of the political concept of territorial cohesion.

*Translated by Anatol Minkovsky*

# Вайна на полацка-віцебскім рубяжы ў 1632–1633 г. і „паўстанне” ў Полацку

**Генадзь Сагановіч**

Гістарыяграфія т. зв. Смаленскай вайны 1632–34 г. налічвае дзясяткі спецыяльных прац[1], аднак падзеі, якія адбываліся ў тыя гады ў Беларускім Падзвінні, усё яшчэ застаюцца маладаследаванымі. Невыпадкова ў айчыннай літаратуры яны асвятляюцца павярхоўна і з перавагай састарэлых трактовак асноўных здарэнняў. Артыкул з'яўляецца спробай аўтара запоўніць гэты прагал і прасачыць ход вайны на полацка-віцебскім памежжы ад яе пачатку да спалення Полацка ў чэрвені 1633 г.

Падрыхтоўка ўрада Міхаіла Фёдаравіча да нападу на Рэч Паспалітую пачалася задоўга да заканчэння Дэвулінскага перамір'я, тэрмін якога завяршаўся 3 лі-

[1] Гл. напр.: Сташевский Е. Смоленская война 1632–1634. Организация и состояние московской армии. Киев, 1919; Godziszewski W. Polska a Moskwa za Władysława IV. Kraków, 1930; Kupisz D. Smoleńsk 1632–1634. Warszawa, 2001; Lipiński W. Początek działań rosyjskich w wojnie smoleńskiej // PHW. T. V. (1932); ён жа. Działania wojenne polsko-rosyjskie pod Smoleńskiem od października 1632 do września 1633 r. // PHW. T. V. (1932); ён жа. Organizacja odsieczy i działania wrześniowe pod Smoleńskiem w r. 1633 // PHW. T. VI (1933); Wisner H. Król i car. Rzeczpospolita i Moskwa w XVI–XVII w. Kraków, 1995. З апошніх публікацый варта адзначыць артыкул А. Малова, заснаваны, аднак, толькі на расійскіх архівах: Малов А. В. Начальный период Смоленской войны на направлении Великие Луки — Невель — Полоцк (до 3 июня 1633 г.) // Памяти Лукичева. Сборник статей по истории и источниковедению. Редактор-составитель Ю. М. Эскин. Москва, 2006. С. 128–129.

пеня 1633 г. Яшчэ ў сакавіку 1629 г. паслам шведскага караля ў Крамлі была дэкларавана дапамога ў антыгабсбургскай кааліцыі і — з умовай трымаць у сакрэце — сказана пра намер парушыць мір з Рэччу Паспалітай[2]. Густаў Адольф, падпісаўшы 26 кастрычніка 1629 г. у Альтмарку шасцігадовае перамір'е з Рэччу Паспалітай, хоць сам асцерагаўся правакаваць Варшаву на абвастрэнне, ужо ў 1630 г. праз свайго пасла прапанаваў Маскве навербаваць жаўнераў у падкантрольных яму нямецкіх землях для супольнай атакі на ўладанні Жыгімонта III з абодвух бакоў[3]. Пасля Сталбоўскага міру „Леў Поўначы" ўбачыў у Расіі саюзніка, якога не хапала для барацьбы супраць польскай дынастыі Вазаў. І ўжо ў пачатку 1631 г. Ёган Мёлер прывёз Густаву Адольфу пазітыўны адказ цара на яго план ды паведаміў пра ваенную падрыхтоўку Масквы і цвёрды намер атакаваць Рэч Паспалітую яшчэ да заканчэння перамір'я[4].

План Густава Адольфа быў яму вельмі выгадны з розных бакоў: усе кошты на войска, якое заставалася ў распараджэнні шведскага караля, абавязваўся пакрываць царскі ўрад, што прыносіла б вялізныя прыбыткі, а ўцягваннем Масквы ў вайну з Рэччу Паспалітай ён не толькі зводзіў бы рахункі з польскімі Вазамі, але і змог бы адвабіць Расію ад пытання спрэчнай прыналежнасці Нарвы[5]. Аргументы шведскага канцлера Аксэля Оксэншэрны, што вярбоўка жаўнераў для Масквы можа папсаваць адносіны Швецыі з Рэччу Паспалітай, з якой варта захоўваць перамір'е[6], нікольні не засмучалі караля.

[2] Поршнев Б. Тридцатилетняя война и вступление в нее Швеции и Московского государства. Москва, 1976. С. 197–198. Пра жаданне пачаць вайну, не чакаючы заканчэння перамір'я, цар і патрыярх недвухсэнсоўна выказваліся і ў 1630 г., гл.: Козляков В. Н. Михаил Федорович. Москва, 2004. С. 203.

[3] Roberts M. Gustavus Adolphus. A History of Sweden 1611–1632. Vol. II: 1626–1632. London, 1958. P. 562–563.

[4] Поршнев Б. Тридцатилетняя война… С. 267.

[5] Roberts M. Gustavus Adolphus. P. 562; Junkelman M. Gustav Adolf (1594–1632). Schwedens Aufstieg zur Großmacht. Regensburg, 1993. S. 381.

[6] Paul J. Gustav Adolf. Christ und Held. Frankfurt — Zürich,

Царскі ўрад ухапіўся за план супольнай экспансіі, на якую не шкадаваў ніякіх сродкаў, і са свайго боку таксама ў пэўнай ступені інспіраваў Швецыю заманлівай перспектывай хуткага ўступлення ў вайну Масквы. У канцы студзеня 1631 г. маскоўскае пасольства накіравалася на Захад з граматай Густаву Адольфу, у якой гаварылася, што Дэвулінскае пагадненне ўжо фактычна разарвана і на вясну цар хоча пачаць вайну. Акрамя таго яно везла і дыпламатычныя пасланні ў двары Англіі, Даніі, Галандыі і Нідэрландаў, у якіх цар Міхаіл Фёдаравіч таксама абвяшчаў, што не намераны чакаць канца перамір'я, і прасіў дапамогі ў вярбоўцы жаўнераў ды закупе зброі[7]. Праз год, калі шведскі пасол Ёган Мёлер 16 студзеня 1632 г. чарговы раз з'явіўся ў Маскве, Міхаіл Фёдаравіч пацвердзіў прынцыповае прыняцце плана Густава Адольфа, удакладніўшы толькі дэталі: навербаваная ў Нямеччыне армія мусіла складаць 10 000 пешых і 2000 конных наймітаў, на плату якім прызначалася па 80 000 руб. штомесяц з маскоўскага скарбу[8]. У самой Маскоўскай дзяржаве ў рамках падрыхтоўкі да вайны з 1630 г. складваліся каштарысы войска, і па спісах на 1632 г. у царскую армію магло быць адначасова мабілізавана больш за 98 тыс. чалавек[9].

1964. S. 76.

7 Поршнев Б. Тридцатилетняя война… С. 251–252. Вось як тады тлумачылася падстава разрыву перамір'я: „Да и то нам ведомо, что королевич Владислав хочет доступати нашего Московского государства, и разорить наше государство и веру нашу христьянскую, а свою еретическую, папежскую проклятую веру ввести и утвердить по умышлению папы римского и по совету цесареву, и короля шпанского, и короля литовского" (Цыт. па: Вайнштейн О. Л. Россия и Тридцатилетняя война 1618–1648 г. Очерки из истории внешней политики Московского государства в первой половине XVII в. Москва, 1947. С. 89–90).

8 Roberts M. Gustavus Adolphus… P. 563; Поршнев Б. Тридцатилетняя война… С. 279; Вайнштейн О. Л. Россия и Тридцатилетняя война 1618–1648 г. С. 139.

9 Козляков В. Н. Михаил Федорович. С. 204. Падрабязней гл.: Сташевский Е. Смета военных сил Московского государства на 1632 год // Военно-исторический вестник. Киев, 1910.

Пачатак вялікай вайны цар спачатку паабяцаў шведам на вясну 1631 г., калі яго ўдар па Рэчы Паспалітай з поўдня мелася падтрымаць Турцыя, потым — на лета таго ж года, урэшце перанёс пачатак дзеянняў на вясну 1632 г.[10]. Але і трэці тэрмін не быў вытрыманы, бо ў рэальнасці царскія палкі вырушылі з Масквы толькі 3 жніўня. Такая затрымка была звязана галоўным чынам з недастатковай падрыхтаванасцю маскоўскай арміі да маштабных наступальных дзеянняў, а потым і з чэрвеньскім татарскім нападам. З-за негатоўнасці для пачатку наступу не была выкарыстана нават смерць Жыгімонта III (30.IV.1632). Хоць 20 чэрвеня вайну ўхваліў Земскі сабор, скліканы патрыярхам Філарэтам, прайшло яшчэ шмат часу на прызначэнне галоўнакамандуючага, і г. д.

З мэтай падпісання вялікага дагавору са Швецыяй 31 кастрычніка, ужо пасля першых ваенных поспехаў, з Масквы выехала адмысловае пасольства, што везла і праект падзелу Рэчы Паспалітай — „праведный и добрый раздел и рубежи с поляками”. Расія збіралася анексаваць землі Беларусі з Севершчынай і Чарнігаўшчынай, а Вільню саступіць Швецыі, якая разлічвала найперш на польскае Памор'е[11]. У праекце побач са Смаленскам і Кіевам фігураваў і Полацк — горад, якім царскія войскі пры дапамозе шведаў павінны былі авалодаць.

Цар пачынаў вайну з энтузіязмам, спадзеючыся на раскол Рэчы Паспалітай на два фронты. Усё было прадумана, падрыхтавана, і сапраўды, адначасовы ўдар з двух бакоў па не гатовай да такой вайны шляхецкай рэспублiцы мог прывесці да катастрафічных для яе наступстваў. Аднак праект маскоўска-шведскага ваеннага саюзу так і не ажыццявіўся — яго сарвала раптоўная смерць Густава Адольфа ў бітве пры Лютцэне (16.

№ 9–10.

[10] Поршнев Б. Тридцатилетняя война… С. 241, 269, 280.

[11] Seredyka J. Rzeczpospolita w ostatnich latach panowania Zygmunta III (1929–1632). Zarys wewnętrznych dziejów politycznych. Opole, 1978. S.160; Поршнев Б. Тридцатилетняя война… С. 319.

XI.1632), пра што царскае пасольства даведалася ўжо ў дарозе[12]. Без Швецыі ж вайна пайшла зусім не так паспяхова для Масквы, як чакалася[13]. Гэты фактар, а таксама хуткае з'яўленне новага манарха, абранне якога адбылося за 3 дні да гібелі шведскага караля, і ўратавалі шляхецкую рэспубліку ад горшага сцэнара.

Распачатую вайну нельга назваць нечаканай для Рэчы Паспалітай. У сенаце даўно мелі ўяўленне пра намеры Маскоўскай дзяржавы. І ў Варшаве, і ў Вільні летам 1632 г. ведалі, што рашэнне аб развязванні агрэсіі супраць Рэчы Паспалітай было ўжо прынятае царом і баярамі[14]. Недарэмна з восені 1631 г. за вайсковай падрыхтоўкай суседзяў сачыў смаленскі ваявода Аляксандр Корвін Гасеўскі. Вялікі гетман Леў Сапега ўжо ў сакавіку 1632 г. у сваіх прамовах на вальным сойме, і ў сенаце, і ў пасольскай ізбе двойчы казаў пра тое, што Масква ўзгадніла са Швецыяй далучэнне да Расіі чатырох усходніх ваяводстваў ВКЛ, і што Густаў Адольф ударыць з 5 тысячамі з захаду на польскае Памор'е[15]. Акцэнтуючы непазбежнасць хуткай вайны, вялікі гетман пастуляваў неабходнасць выстаўлення 40 000 войска, або як мінімум — 20 000, аднак сойм ухваліў збор толькі 10-тысячнай арміі[16].

Нягледзячы на тое, што ўрад Рэчы Паспалітай быў загадзя інфармаваны пра ваенныя планы Масквы, фактычна да лета 1632 г. ніякай мабілізацыі не праводзілася[17].

[12] Поршнев Б. Тридцатилетняя война… С. 328–329.

[13] Падобна, што Густаў Адольф на той час сапраўды пераацэньваў вайсковыя здольнасці царскай арміі. Гл.: Roberts M. Gustavus Adolphus… P. 564.

[14] Летам 1632 г. цар ужо праводзіў агляды ратнікаў, „и говоря с бояры указали послати… на Полских и Литовских людей, за их многие к Московскому государству неправды, бояр и воевод со многою ратью" (Книги разрядныя. Т. II. С.-Петербург, 1855. С. 375, 377).

[15] Seredyka J. Rzeczpospolita w ostatnich latach panowania Zygmunta III. S. 159–160, 169–170.

[16] Тамсама. S. 172.

[17] Сцвярджэнні некаторых даследчыкаў, быццам у Рэчы Паспалітай ад пачатку 1631 г. не перапынялася ваенная пад-

На пачатку вясны 1632 г. Леў Сапега выкарыстаў згоду пасла імператара Фердынанда, каб перадаць цару пасланне, у якім пераконваў у неабходнасці трымацца пераміра і ў магчымасцях яго пратэрміноўкі, а ў канцы траўня напісаў прыватны ліст да патрыярха Філарэта са зваротам да цара і выслаў ганца, аднак той быў затрыманы на мяжы[18]. Спробы дыпламатычнага ўрэгулявання канфлікту даўно нічога не давалі. Узгадніўшы план вайны з Густавам Адольфам, Крэмль ужо з сярэдзіны красавіка — траўня 1631 г. адхіляў усялякія ініцыятывы па перагаворах.

Канкрэтныя захады па ўмацаванні межаў ВКЛ пачалі рабіцца толькі пасля смерці Жыгімонта III. Рада сената 7 траўня даручыла вялікаму гетману ўмацаваць замкі ў Смаленску, Полацку, Віцебску, Дынабургу ды іншых памежных цвердзях і забяспечыць іх гарнізонамі[19]. А Віленская канвакацыя 15 траўня вырашыла накіраваць пасла ў Маскву з завярэннямі ў імкненні трымацца міру і набраць 6000 жаўнераў для абароны межаў, аднак яе рашэнняў вялікі гетман не прызнаў, як і шэраг іншых высокіхураднікаў. У канцы траўня 1632 г. з Берасця Леў Сапега выдаў прыпаведныя лісты ротмістрам на збор жаўнераў, адзначаючы, што тыя мусяць перашкаджаць „пастаронняму непрыяцелю як ад Масквы, так і ад Густава...”[20]. З яго паслання да віленскага біскупа вынікала, што ўсяго на замках мелася быць 1350 нанятых жаўнераў, з якіх 550 прызначалася на Смаленск, па 200 на Полацк, Віцебск і Дарагабуж і па 100 на Дынабург і Белую[21]. Аднак, як пазней

рыхтоўка супраць Маскоўскай дзяржавы, выглядаюць непаразуменнем. Напр.: Поршнев Б. Тридцатилетняя война... С. 288.

18 Czwołek A. Piórem i buławą. Działalność polityczna Lwa Sapiehy, kanclerza litewskiego, wojewody wileńskiego. Torun, 2011. S. 578, 585. (у друку)

19 Biblioteka PAN w Kórniku. Rkps. 345, k. 8–9v.

20 НГАБ. Ф. 1705. Воп. 1. Ад. зах. 78. Арк. 1315–1316.

21 Biblioteka PAN w Kórniku. Rkps. 345, k. 21; Lipiński W. Działania wojenne polsko-rosyjskie pod Smoleńskiem od października 1632 do września 1633 r. // Przegląd Historyczno-Wojskowy

высветлілася, прынамсі частка тых жаўнераў і ў кастрычніку ўсё яшчэ не дайшла да сваіх замкаў, прычынай чаго, як тлумачылі гетманы, стаў недахоп грошай[22].

Хоць, як не без падстаў сцвярджаў Крыштаф Радзівіл, маскоўскі ўрад на сярэдзіну траўня 1632 г. ужо меў пад зброяй больш за 60 тыс.[23], шляхта ВКЛ, на плячах якой мусіла трымацца абарона ўсёй усходняй мяжы, дэманстравала неапраўданую бяспечнасць. Напрыклад, ашмянскае рыцарства, як і большасць шляхты Рэчы Паспалітай, у пастулатах на канвакацыйны сойм заявіла, што на магчымую вайну павінна хапіць сродкаў, ухваленых на папярэднім сойме[24], а многія соймікі ўсё яшчэ хацелі накіраваць у Маскву пасольства. На самім жа сойме, недаацаніўшы маскоўскай небяспекі не без уплыву Льва Сапегі, які да апошняга верыў, што непрыяцель не пачне вайны да заканчэння перамір'я, пастанавілі ў выпадку нападу непрыяцеля сабраць для ВКЛ 4500 жаўнераў з падаткаў, ухваленых папярэдне[25].

Абодва гетманы, занятыя на канвакацыйным і элекцыйным соймах, не шмат маглі зрабіць для арганізацыі абароны. Да сярэдзіны восені 1632 г. Леў Сапега наняў ад 2500 да 3000, а Крыштаф Радзівіл — каля 2000 жаўнераў[26]. Парадаксальным чынам сам вялікі гетман адмоўна паўплываў на абароназдольнасць ВКЛ, бо тарпедаваў захады Крыштафа Радзівіла дадаткова павялічыць свае сілы[27]. Маючы зусім іншую

(далей PHW). R. IV. T. V. Warszawa, 1932. S. 169.

22 Kaczorowski W. Sejmy konwokacyjny i elekcyjny… S. 282.

23 Wisner H. Litwa po zgonie Zygmunta III. Od zjazdu wileńskiego do konwokacji warszawskiej // Rocznik Białostocki. T. XV. Warszawa, 1981. S. 49; Kaczorowski W. Sejmy konwokacyjny i elekcyjny… S. 27.

24 Сагановіч Г. Інструкцыя паслам Ашмянскага павета на канвакацыйны сойм 1632 г. // БГА. Т. 14 (2007). С. 218.

25 Kaczorowski W. Sejmy konwokacyjny i elekcyjny… S. 123, 127.

26 Radziwiłł Albrycht Stanisław. Pamiętnik o dziejach w Polsce. T. 1 (1632–1636). Oprac. A. Przyboś i R. Żelewski. Warszawa, 1980. S. 188.

27 Czwołek A. Piórem i buławą. S. 594.

канцэпцыю абароны, вялікі гетман рупіўся толькі пра забеспячэнне памежных замкаў гарнізонамі, а вербаванне палявога войска лічыў адно дачасным абцяжарваннем скарбу[28].

Пачаткам ваенных дзеянняў прынята лічыць 3 жніўня 1632 г., калі галоўныя сілы на чале з ваяводам Міхаілам Шэіным вырушылі з Масквы на Смаленск, хоць да аблогі дняпроўскай фартэцыі яны прыступілі толькі ў снежні. Непрыяцель атакаваў межы ВКЛ на максімальна шырокім фронце — „ад Чарнігава аж да самых Інфлянтаў" вялізнымі сіламі (каля 60 тыс., з якіх трацiна — „чужаземцаў і трыбам чужаземным вывучаных") і, як пісаў Крыштаф Радзівіл, быў блізкі да перамогі, бо „межы нашыя без абароны, а замкі ў абы-якім забеспячэнню застаў"[29], але цар спакусіўся на Смаленск. І сапраўды, з кастрычніка 1632 і да вясны 1633 г. царскімі ваяводамі былі захоплены Белая, Дарагабуж, Рослаў, Сярпейск, Почап, Старадуб, Сураж, Трубчэўск і Ноўгарад-Северскі, а некаторыя аддзелы дасягалі Гомеля[30]. Устрывожаны поспехамі непрыяцеля, новаабраны манарх Уладыслаў IV у пасланні за 22 лістапада загадваў Льву Сапегу, каб той хутчэй пасылаў ротмістраў на замкі.

Трывогі не былі беспадстаўныя, непрыяцель усё бліжэй падступаў да галоўных цвердзяў на Дзвіне. Ужо 25 лістапада 1632 г., пасля нядоўгай аблогі, быў узяты Невель. Яго абаронцаў (а замак меў толькі 60 чал. пяхоты) угаворваў здацца царскім ратнікам невельскі „бурмістр" Грыгорый Сямёнаў сын Радзецкі з рускім прозвішчам Каваль, які перайшоў на расійскі бок[31]. Аднак камендант Пётр Мравінскі не прыняў капітуляцыі і сышоў у ВКЛ. Неўзабаве ён з'явіўся ў Полацку, жыхароў якога моцна ўстрывожыла страта Невеля. Полацкія мяшчане рашуча пратэставалі супраць просьбы Пятра

[28] Kupisz D. Smoleńsk 1632–1634. Warszawa, 2001. S. 87.

[29] Relacja Krzysztofa Radziwiłła z wojny moskiewskiej 1632–1634. Wyd. W. Lipiński // PHW. T. VII. Warszawa, 1934–35. S. 117.

[30] Книги разрядныя. Т. II. С.-Петербург, 1855. С. 384; Малов А. В. Начальный период… С. 131.

[31] Малов А. В. Начальный период… С. 141.

Мравінскага пацвердзіць, што непрыяцель здабыў замак з яго рук вялікай сілай, і ўскладвалі на яго віну за капітуляцыю[32].

Полацк і Віцебск са зразумелых прычын знаходзіліся пад асаблівай увагай царскіх ваяводаў, і іх выведная служба збірала звесткі пра вайсковую сітуацыю на паўночна-ўсходніх рубяжах Вялікага Княства задоўга да развязання вайны. Перад летам 1632 г., на якое напярэдне прызначаўся пачатак дзеянняў, выведка была актывізаваная. Напрыклад, нейкі селянін Пярвушка Арыстаў, якога пскоўскі ваявода пасылаў у выведку пад Полацк, паведаміў ім 15 траўня 1632 г., што там толькі Ян Лісоўскі, які збірае ратных людзей, але, маўляў, пойдзе з імі пад Смаленск[33]. У лістападзе з допытаў Мікалая Іваноўскага непрыяцелю стала вядома, што ў Полацку з Лісоўскім усяго 80 гайдукоў, аднак там чакалі прыходу ротмістра Тарусы з 200 гайдукамі, і столькі ж гайдукоў знаходзілася ў Віцебску[34]. Па афіцыйных звестках, у Полацку і Віцебску на пачатак ваенных дзеянняў мелася сядзець па 200 пяхотнікаў[35], але ў рэальнасці іх найверагодней было менш. Малалікасць полацкага гарнізона пацвярджалася і звесткамі, атрыманымі ад палонных, захопленых 15 снежня 1632 г. у бітве з харугвай ротмістра Яна Уронскага каля Колпінскага возера (цяпер паўднёвы захад Пскоўскай вобласці) — самога ротмістра, пісара полацкага ваяводы Крыштафа Курчы і шляхціча Самуіла Спісальскага. Хоць іх паказанні істотна адрозніваліся, з усяго сказанага вынікала, што на той час у Полацку былі толькі гайдукі і сотня вершнікаў ротмістра Тарусы, а ваявода Януш Кішка па распараджэнні караля наймае па 2 харугвы гусараў і

[32] Пратэстацыя полацкіх мяшчан, 22.12.1632, AGAD. AR. Dz. II. Nr 1111.

[33] Акты Московского государства. Под ред. Н. А. Попова (далей АМГ) Т. 1. С.-Петербург, 1890. № 338. С. 352.

[34] АМГ. Т. 1. № 458. С. 427.

[35] Lipiński W. Początek działań rosyjskich w wojnie smoleńskiej // PHW. R. IV. T. V. Warszawa, 1932. S. 52, спас. 5; Kupisz D. Smoleńsk 1632–1634. S. 90.

казакоў, якія, маўляў, збіраюцца сысці, і ў горадзе застануцца гайдукі ды мясцовая шляхта[36].

Нягледзячы на сваё стратэгічнае значэнне, паўночныя фартэцыі Беларусі заставаліся без належнай абароны. Яшчэ ў 1626 г. на Варшаўскім сойме паслы Полацкага ваяводства скардзіліся, што на замку да таго часу не было сталага гарнізона, але да вайны сітуацыя так і не змянілася да лепшага[37]. Як вынікае з ліста полацкай і віцебскай шляхты да гетмана, як толькі яны даведаліся пра разрыў Масквой дагавора, то адразу папрасілі „як найхутчэйшага ратунку", і былі спакойныя, атрымаўшы гетманскае абяцанне, аднак і на пачатак снежня 1632 г. не мелі патрэбных жаўнераў для сваіх гарнізонаў; непрыяцель, папярэджвалі яны, пабраўшы многа замкаў, ужо на іх намагаецца кінуць сілы, а яны ж, не маючы ніадкуль дапамогі, не змогуць супрацьстаяць яму сваімі слабымі сіламі[38].

На зіму, калі балоты і шматлікія рачулкі замерзлі, маскоўскія ваяводы сапраўды актывізаваліся. Пад канец года Леў Сапега паведамляў каралю, што непрыяцель адно сваё войска трымае пад Смаленскам, „другое накіраваў да Полацка і Віцебска, а трэцяе павярнуў да Мсціслава і Крычава", і папярэджваў, што яго „цяперашні спосаб ваявання моцна адрозніваецца ад першых часоў"[39]. Гетманы ж ВКЛ не мелі сілаў для дзеянняў супраць трох груповак. Жаўнеры, нанятыя Сапегам, былі разасланыя пераважна па замках, а харугвы, што збіраліся па прыпаведных лістах Крыштафа Радзівіла, канцэнтраваліся пад Оршай для паходу пад Смаленск. Войска сцягвалася марудна і на сярэдзіну снежня ў абозе было толькі дзве харугвы — гусарская Грыгорыя Мірскага і казацкая

[36] Малов А. В. Начальный период… С. 163–164.

[37] Wisner H. Wojsko litewskie 1 połowy XVII wieku. Cz. 1 // SMHW. T. XIX. Cz. 1. Warszawa, 1973. S. 135. Толькі ў 1636 г. на полацкім замку з'явілася 50 пяхотнікаў, служба якіх аплачвалася са скарбу ВКЛ. Той жа. Wojsko litewskie 1 połowy XVII wieku. Cz. 2 // SMHW. T. XX. Warszawa, 1976. S. 22.

[38] Ліст з Полацка і Віцебска да К. Радзівіла, 6.12.1632, Полацк, AGAD. AR. Dz. II. Nr 1076.

[39] Л. Сапега да караля, 26.12.1632, Вільня, AGAD. AR. Dz. II. Nr. 1078, k.1.

Крыштафа Клячкоўскага. Сам палявы гетман, якому па волі манарха састарэлы Леў Сапега ўрэшце перадаў галоўнае камандаванне і над палявым войскам, і над гарнізонамі, 18 снежня прыбыў пад Оршу, куды працягвала збірацца армія ВКЛ. Пакуль канцэнтраваліся аддзелы, гетман высылаў асобныя харугвы на прыкрыццё замкаў. Аднак, як прызнаваў сам Сапега, маючы такія абмежаваныя сілы, дапамагаць Смаленску і высылаць падтрымку Полацку, Віцебску ды іншым замкам — „справа вельмі цяжкая і немагчымая”[40]. Калі ж на 31 студзеня ў абозе сабралася каля 3000 жаўнераў, з якімі можна было распачынаць контрдзеянні супраць непрыяцеля, то з-пад Оршы Крыштаф Радзівіл паравёў свае сілы бліжэй да Смаленска, пад Баёва, дзе ўжо стаялі сілы смаленскага ваяводы Аляксандра Гасеўскага[41]. Уся палявая армія ВКЛ налічвала тут каля 4500 чалавек[42] і занялася ратаваннем Смаленска, а Полацк і Віцебск мусілі неяк абараняцца самі.

Віцябляне, калі непрыяцель ужо падыходзіў пад сцены, працуючы днём і ноччу, паспелі паправіць умацаванні сваіх замкаў[43]. Віцебскі ваявода Самуэль Сангушка, хоць да пачатку 1633 г. знаходзіўся ў Белым Ковелі, адкуль выслаў у падтрымку віцяблянам некалькі дзясяткаў конніцы з пяхотай і прасіў палявога гетмана абараняць горад, неўзабаве і сам прыехаў для арганізацыі абароны[44]. Прыбыццё людзей ваяводы было своечасовым, бо зімой 1632/33 каля Віцебска, Оршы і Мсціслава „прамышлялі” кантынгенты Сямёна Празароўскага і Багдана Нагога[45]. У другой пало-

[40] Л. Сапега да караля, 26.12.1632, Вільня, AGAD. AR. Dz. II. Nr 1078, k. 2.

[41] Kupisz D. Smoleńsk 1632–1634. S. 106.

[42] Lipiński W. Działania wojenne polsko-rosyjskie pod Smoleńskiem … S. 107.

[43] Ліст з Віцебска да К. Радзівіла, 21.01.1633, AGAD. AR. Dz. II. Nr 1102, k. 1.

[44] Nagielski M. Samuel Szymon Sanguszko // PSB. T. 35. 1993. S. 511.

[45] Lipiński W. Działania wojenne polsko-rosyjskie pod Smoleńskiem… S. 186.

ве студзеня пад Віцебскам адбыліся сур'ёзныя баі, дзе сіламі віцебскага ваяводы і ротмістра Клячкоўскага з дапамогай харугвы, нанятай аршанцамі, а таксама з віцебскімі мяшчанамі і дабравольцамі Яна Бірулі была разгромлена маскоўская групоўка Празароўскага, які спрабаваў заняць горад[46]. Як паведамляў сам гетман, „да ста Масквы забіта, восем харугваў і адна гармата захоплены…"[47]. Але і праз месяц віцябляне заставаліся як абложаныя. Паведамляючы князю Радзівілу, што маскоўскія ратнікі ўжо высеклі Лёзна і Вялешкавічы ды набліжаюцца да Віцебска, віцебскія ўраднікі Крыштаф Храпавіцкі і Мікалай Жаба апісвалі свой бядотны стан: „…ад частых нападаў непрыяцеля ўсе нашыя воласці ўжо спустошаныя, няма адкуль жыўнасці і сілы браць, бо ўсе сяляне нашыя пасечаныя, а іншыя ў палон пабраныя…"[48].

Полацкае рыцарства, „пазбаўленае ўсялякай падтрымкі", з'ехалася 5 лютага на грамнічны соймік да Полацка і абавязалася з кожных чатырох службаў да 11 лютага прысланаць на замак пад харугву свайго ротмістра Аляксандра Рыпінскага „гайдука выбранца з ваеннай зброяй і жыўнасцю на чатыры тыдні", а таксама ўхваліла чатыры паборы на конных жаўнераў для абароны свайго ваяводства[49]. Сама шляхта паабяцала ў выпадку наступу непрыяцеля са сваёй павіннасці без затрымкі ставіцца да Полацка, пад каманду свайго ваяводы Януша Кішкі[50].

Януш Кішка з'явіўся ў горадзе незадоўга да згаданага сойміка, а перад яго вяртаннем Полацкае ваяводства абрабавала харугва смаленскага ваяводзіча Мікалая Абрамовіча. Неаплачаныя жаўнеры пакінулі па

[46] Ліст з Віцебска да К. Радзівіла, 21.01.1633, AGAD. AR. Dz. II. Nr 1102, k. 1–2.
[47] Relacja Krzysztofa Radziwiłła z wojny moskiewskiej… S. 117.
[48] Ліст з Віцебска да К. Радзівіла, 18.02.1633, AGAD. AR. Dz. II. Nr 1105, k. 1.
[49] Лаўдум полацкага сойміка, 5.02.1633, AGAD. AR. Dz. II. Nr 1104, k. 1.
[50] Тамсама, k. 2.

сабе такую чорную памяць, што полацкая шляхта склала пратэстацыю, просячы жорсткага суду гетмана над крыўдзіцелямі і адпаведных універсалаў караля[51]. Ваявода на свае кошты наняў толькі казацкую харугву — 100 коней (не 150 гусараў[52]), якая і заставалася прыкрываць мяжу. У лісце да Крыштафа Радзівіла за 17 студзеня 1633 г. Януш Кішка дэтальна апісаў цяжкасць яго сітуацыі: у непрыяцеля „на Невель, на Лукі і на Себеж прыйшло некалькі тысяч свежага люду", і ўжо за 10 міль ад Полацка парабілі астрогі. Прасіў на цяжкі час прыслаць дапамогу на замак, абяцаючы, што калі непрыяцеля ўдасца „адвярнуць", то і людзей сваіх пашле, і сам пойдзе на паслугі гетману[53]. Замест харугвы Адама Паўловіча[54], якая стаяла побач, на полацкім гасцінцы, але мусіла на распараджэнне гетмана ісці да галоўных сілаў пад Оршу, ваявода папрасіў накіраваць хоць Дзевялтоўскага з татарамі, якія служылі з павіннасці, або хоць каго — каб толькі не пакідаць горад зусім адкрытым. Аднак калі да Полацка прыйшло „трохі татараў", гетман загадаў Дзевялтоўскаму „днём і ноччу ісці да абозу" пад Баёва, што адразу ж выклікала адмоўную рэакцыю Кішкі: „…каб мець нешта на адпужванне непрыяцеля, затрымаў пана Дзевялтоўскага пры тых жа татарах", — напісаў ён Радзівілу, бо вораг ужо „пад самы Полацк з агнём і мячом падпадаў", а ў горадзе — „люд дамовы", які мала на што здатны: „са ста

[51] Я. Кішка, з Полацка, 8.02.1633, AGAD. AR. Dz. V. Nr 6760. k. 43. Ваявода адзначаў, што палачане мусяць цяпер абараняцца „на два бакі…, правай рукой ад непрыяцеля, які забраў ужо большую частку нашых памежных земляў, а левую — ад свайго ўласнага войска, якое толькі што не паліць, але ўціскі чыніць якія толькі найбольшыя могуць быць".

[52] Малов А. В. Начальный период… С. 163.

[53] Я. Кішка да К. Радзівіла, 17.01.1633, без месца, AGAD. AR. Dz. V. Nr 6760, k. 39.

[54] Ротмістр Адам Паўловіч камандаваў казацкай харугвай і ў красавіку быў выпраўлены гетманам на левы бераг Дняпра. Гл.: Rachuba A. Pawłowicz Adam Hilary Łukiański // PSB. T. 25. 1980. S. 474.

сямідзесяці коней, што іх тут папісалася, не знойдзецца і больш за дзесяць падобных"[55].

Зразумела, ваявода не мог блытаць планы гетмана, і неўзабаве татары ўсё ж рушылі да абозу, а Януш Кішка застаўся ў Полацку, як пісаў, „толькі з чэлядкаю маёю дворнаю ды трохі пяхоты", так што „не будзем мець кім непрыяцелю адпор чыніць, калі даведаецца, што людзі з замка сышлі", — зноў з жалем падкрэсліў ваявода[56]. Праз нейкі час ён паведамляў і пра непаразуменне з наймам сотні пяхотнікаў, якую меўся сабраць ротмістр Павел Таруса, і выказваў спадзеў на тое, што кароль даручыць гэты набор яму[57].

Трэба прызнаць, што слабое забеспячэнне жаўнерамі памежных замкаў абумовіла не толькі стратэгія князя Радзівіла, — усё кіраўніцтва дзяржавы тады было занята ратаваннем абложанага Смаленска. У лютым кароль Уладыслаў IV, хоць ведаў пра цяжкае становішча замкаў Падзвіння, неаднаразова патрабаваў ад Льва Сапегі не даваць жаўнераў у гарнізоны, а ўсіх хутчэй пасылаць да абозу палявога гетмана[58].

Між тым, сітуацыя Полацка пагаршалася. Цягам усёй вясны 1633 г. луцкі ваявода Пётр Рэпнін пасылаў да горада спецыяльныя кантынгенты „за языкамі"[59], чакаючы лепшага моманту. Даведаўшыся пра пагрозу непрыяцельскага нападу, ротмістр і полацкі падваявода Ян Лісоўскі 11 чэрвеня заклікаў мяшчан панесці дадатковыя павіннасці: наняць за свае грошы яшчэ на адзін тыдзень казацкую роту Аляксандра Віскоўскага, служба якой скончалася, а таксама каб „для абароны места свайго вежу на рагу ад Палаты на замку нізшым збудавалі"

[55] Я. Кішка да К. Радзівіла, 8.02.1633, з Полацка, AGAD. AR. Dz. V. Nr 6760, k. 41.

[56] Я. Кішка да К. Радзівіла, 23.02.1633, з Полацка, AGAD AR. Dz. V. Nr 6760, k. 45.

[57] Я. Кішка да К. Радзівіла, 26.02.1633, з Полацка, AGAD AR. Dz. V. Nr 6760, k. 49.

[58] Lipiński W. Organizacja odsieczy i działania wrześniowe pod Smoleńskiem w r. 1633 // PHW. R. V. T. VI. Warszawa, 1933. S. 180–181.

[59] Малов А. В. Начальный период… С. 154–155, 157–159, 161.

або хоць дрэва на яе далі і каб дазволілі жыхарам Запалоцця перасяляцца на Верхні замак[60]. Аднак адразу пасля гэтага, як вынікае з цытаванай пратэстацыі, на ратушу прыйшлі „некаторыя асобы з мяшчан паспольства полацкага”, якія склалі пісьмовую адмову выконваць усё пералічанае, узнялі шум, абражалі падваяводу і абяцалі збіраць грошы на яго „знясенне”, а ўжо праз дзень, з 12 на 13 чэрвеня на горад напала маскоўскае войска.

Даведаўшыся пра адсутнасць значных сілаў у Полацку, ваявода Пётр Рэпнін 10 чэрвеня паведаміў у Невель, што ўжо накіраваў з Лукаў на горад сваіх ратнікаў, якія мусілі аб’яднацца з невельскімі сіламі Мікіфара Пляшчэева. Луцкая „пасылка” злучылася з ратнымі людзьмі з Невеля, Тарапца, Холма і дзвюма стралецкімі сотнямі[61], так што разам атрымаліся сур’ёзныя сілы, якія на світанку 13 чэрвеня падкраліся да Полацка. Ключавую ролю ў пранікненні непрыяцеля ў горад выканаў былы невельскі „бурмістар” Грыша Каваль (Грыгоры Радзецкі). Узяўшы 50 стральцоў, ён перабраўся цераз роў і, праламаўшы дзірку ў астрозе, дапамог пралезці ў астрог стральцам, пасля чаго падманам абясшкодзіў варту: „...литовских сторожей к себе приманил дву человек — заговорил по-литовски, и примоня их, и зарубил тех сторожей”, — выхваляўся Радзецкі сваімі заслугамі перад царом Міхаілам Фёдаравічам[62]. Пасля гэтага была адкрыта брама і ў астрог уварвалася маскоўскае войска. Са слоў падваяводы, яно „все место Полоцкое и Заполоте сплендравало и попалило, за чим як лянтвойта, так бургомистра и инших много добрых колекгов в месте позабивали, а инших в полон живых побрано...”[63]. Справаздача

[60] Пратэстацыя падваяводы Яна Лісоўскага 6.07.1633 // Акты Юго-Западной России. Т. 2. С.-Петербург, 1865. № 55. С. 90–91; Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси (далей АСД). Т. 1. Вильно, 1867. № 94. С. 271–272; Русско-белорусские связи. Сборник документов (1570–1667). Минск, 1963. № 91. С. 115–116.

[61] Малов А. В. Начальный период... С. 165.

[62] Тамсама. С. 166.

[63] АСД. Т. 1. № 94. С. 272.

луцкага ваяводы Пятра Рэпніна дадае дэталі: „…многих полских и литовских людей побили и ротмистра гайдуцкого убили и острог и в остроге посады и за Полотою рекою посады ж выжгли и высекли без остатков, и многие де литовские люди во дворех заперлись и погорели и в Двине многие потонули. И наряд, и знамена и барабаны и языки литовские поимали”[64]. Сярод трафеяў, захопленых у полацкім астрозе, было і „знамя мещанское”[65], што сведчыць пра ўдзел мяшчан у абароне.

Абаронцы „заперлися в малом городе” — у Верхнім замку, які ўзяць і пры некалькіх спробах не ўдалося. Палачане нават ажыццяўлялі вылазкі. На вестку пра набліжэнне да Полацка падмогі царскія ваяводы паспяшаліся сысці. Пакідаючы Полацк, яны „довершили разорение Полоцкого уезда”[66], вывезшы вялікую здабычу і шмат палону. Сярод прыведзеных у Вялікія Лукі палонных было нямала шляхцічаў (у тым ліку Ян і Даніла Міхайлавы Корсакавы), але найбольш мяшчан[67].

Вестка пра спусташэнне Полацка разыходзілася вельмі хутка. Кароль і вялікі князь атрымаў яе па дарозе з Варшавы на Вільню, што пацвердзіў ужо 15 чэрвеня ў пасланні з Берштаў да віцебскага рыцарства. Хвалячы віцяблянаў і дзякуючы ім за тое, што, „замкнуўшыся ў замку віцебскім з ваяводаю”, адважна пераносілі ўсе цяжкасці і непрыяцеля „такую вялікую моц шчуплаю абаронаю затрымлівалі”, назваў іх шчаслівейшымі за палачанаў, якія, маўляў, хоць адчайна абараняліся ў замку, — „горад здрадаю схізматыкаў захапіла і спаліла Масква”[68]. Пазней падобнае паўтарыў Альбрыхт Станіслаў Радзівіл: „З-за здрады схізматыкаў Масква ўзяла горад Полацк і ператварыла яго ў пух…”[69].

64 Волков В. А. Войны и войска Московского государства. Москва, 2004. С. 301.
65 Малов А. В. Начальный период… С. 167.
66 Волков В. А. Войны и войска Московского государства. С. 301.
67 Малов А. В. Начальный период… С. 168.
68 Lipiński W. Organizacja odsieczy i działania wrześniowe pod Smoleńskiem… S. 182.
69 Radziwiłł Albrycht Stanisław. Pamiętnik o dziejach w Polsce.

Даводзіцца, аднак, прызнаць, што якая-небудзь роля праваслаўных палачан у захопе горада непрыяцелем не пацвярджаецца крыніцамі. Паводле расійскіх архіваў, як паказаў у сваім даследаванні А. Малоў, ваяводы дасягнулі поспеху дзякуючы раптоўнасці нападу і падманным дзеянням Радзецкага. Канфесійны фактар цалкам адсутнічае і ў скарзе Лісоўскага на мяшчан, якія не паслухаліся яго распараджэння — усю адказнасць за „таковое сплендроване месту Полоцкому" падваявода, зразумела, усклаў на бунтаўнікоў супраць яго ўлады: „не през кого се стало, одно през тых особ мещан полоцких"[70]. Што істотна, сярод пералічаных 16 „бунтаўнікоў" не знайшлося нікога з тых, хто ў кастрычніку таго ж года бунтаваў паспольства супраць полацкага архіепіскапа Антонія Сялявы[71]. Праўдападобна, і манарх, і вялікі канцлер віну за спусташэнне Полацка звалілі на „схізматыкаў" апрыёрна, паколькі горад успрымаўся як цэнтр праваслаўя. Цікава, што ўжо праз месяц Уладыслаў IV зацвердзіў фундушовы запіс браслаўскага земскага суддзі Севасцяна Мірскага, які перадаваў полацкай Багаяўленскай царкве зямлю для пабудовы манастыра, храма, школы і шпіталя[72].

На прыкрыццё Полацка быў спешна накіраваны рэгімент крайчага ВКЛ Жыгімонта Караля Радзівіла, а для лепшага эфекту кароль з Вільні паслаў універсал да полацкага рыцарства, заклікаючы, каб усе збіраліся да Полацка, да свайго ваяводы і, „па прыкладу Віленскага і Мсціслаўскага ваяводстваў… па магчымасці далі адпор таму непрыяцелю…"[73]. Каб спыніць сыход жыхароў са спаленага горада, Уладыслаў IV ужо па дарозе з арміяй на Смаленск звярнуўся з універсалам да полацкіх мяш-

T. 1. S. 314.

[70] АСД. Т. 1. С. 272.

[71] Тамсама. С. 274–275.

[72] Витебская Старина. Материалы для истории Полоцкой епархии. Сост. и изд. А. Сапунов. Т. V. Ч. 1. Витебск, 1888. № 90. С. 138–141.

[73] Універсал караля і вялікага князя Уладыслава IV да палачан, Вільня, 4.07.1633, AGAD. AR. Dz. II. Nr 1119.

чан. Спасылаючыся на весткі, што пасля маскоўскага нападу многія палачане пераходзяць на іншыя месцы, пакідаючы горад, „на які непрыяцель пільнае вока мае", кароль распарадзіўся, каб яны „назад у горад вярталіся, зноў у ім будаваліся і разам, не разыходзячыся, за бяспекай горада сачылі", а калі хто не вернецца, пляцы такіх будуць перадавацца іншым[74].

Пасля чэрвеня 1633 г. горад і ўсё ваяводства заставаліся моцна спустошаныя. На наступнае лета Януш Кішка прасіў сястру звярнуцца да гетмана, каб той загадаў сваім харугвам сысці з Полацка, які ў выніку вайны апынуўся ў страшнай бядоце і няшчасці: „...Убогая эканомія. Мужычкі пабіты непрыяцелем, рэшта пустая, у самога збожжа няма..."[75]. Абароназдольнасць замка па-ранейшаму пакідала жадаць лепшага. Як сведчыць пазнейшая скарга таго ж Яна Лісоўскага, згаданы вышэй ротмістр Павел Таруса не сабраў харугвы, на якую атрымаў са скарбу грошы: у пачатку жніўня на замку было толькі пару дзясяткаў пахолкаў, большасць з якіх — без шабляў і мушкетаў[76]. Праз год віленская канвакацыя патрабавала „у прыклад іншым" пакараць Тарусу і яго саўдзельнікаў, які, наогул не даслужыўшы ў Полацку, „пяхоту свядома распусціўшы", а „грошы і барву гадавую ў свой пажытак абярнуўшы", вялікімі грашовымі экзекуцыямі ўціскаў вёскі і мястэчкі ў Княстве Літоўскім і Жамойцкім, займаўся рабаўніцтвам і рукі свае забрудзіў „свядомым забойствам"[77].

[74] Каралеўская грамата жыхарам горада Полацка, Барысаў, 8.08.1633 // АСД. Т. 1. № 95. С. 273: „Ażeby zatem N [ieprzyjaciel] wiekszego serca nie ważył się, rozkazujemy wam i koniecznie to mieć chcąc, abyście się nazad do miasta powracali, w nim się znowu fundując y spolnie bezpieczenstwa miasta nie rozchodząc się przestrzegali".

[75] Я. Кішка да сястры, жонкі К. Радзівіла, Вільня, 17.07.1634, AGAD. AR. Dz. V. Nr 6760, k. 53.

[76] Я. Лісоўскі да К. Радзівіла, Полацк, 4.08.1633, AGAD. AR. Dz. V. Nr 8563, k. 1.

[77] Akta zjazdów stanów Wielkiego Księstwa Litewskiego. T. II: Okresy panowań krolów elekcyjnych, XVI-XVII wiek. Oprac. H. Lulewicz. Warszawa, 2009. Nr. 59. S. 266–267.

Трагічны эпізод полацкай гісторыі адгукнуўся рэхам і ў Еўропе. Так, у Прускім герцагстве яшчэ ў лютым 1633 г. цікавіліся, ці сапраўды маскоўская армія, захапіўшы Дарагабуж, узяла ў аблогу са Смаленскам і Полацк, а 28 чэрвеня таго ж года нейкая пані Урсула Маерын, што з Варшавы перасылала навіны пра вайну ў Вену і Мюнхен, паведаміла імператару Фердынанду II пра захоп Полацка маскавітамі[78].

Хоць у сучаснай расійскай гістарыяграфіі „взятие Полоцка" лічыцца «одной из наиболее значительных побед русских войск на „северном фронте" Смоленской войны»[79], раней яно не выклікала прыкметнай увагі гісторыкаў як у Расіі, так і ў Беларусі[80]. Асаблівую значнасць канфлікту часткі мяшчан з уладамі Полацка ў 1633 г. надала толькі марксісцкая гістарыяграфія, у якой апісанае здарэнне было ператалумачана і паўстала ў зусім іншым святле.

Першым на чэрвеньскія падзеі 1633 г. у Полацку звярнуў асаблівую ўвагу савецкі ваенны гісторык І. Ф. Лочмель, які ўпісаў іх у кантэкст нацыянальных памкненняў усходнеславянскіх народаў і іх „братніх адносін"[81]. Трактуючы гісторыю пасля верасnёўскага паходу Чырвонай Арміі 1939 г., ён убачыў у канфлікце часткі мяшчан з падваяводам Лісоўскім не толькі адмову палачан рамантаваць умацаванні горада, але і няўдзел у абароне і пераход на тэрыторыю, занятую царскім войскам, — ва ўсім гэтым праявілася „стремление белорусско-

[78] Leitsch W. Eine Kriegsberichterstatterin des 17. Jahrhunderts: Zum Smolensker Krieg der Jahre 1632–1634 // Osteuropa in Geschichte und Gegenwart. Festschrift für Günter Stökl zum 60. Geburtstag. Hg. von H. Lemberg, P. Nitsche und E. Oberländer. Köln-Wien, 1977. S. 82–83.

[79] Малов А. В. Начальный период… С. 172.

[80] Напрыклад, М. Без-Карніловіч у апісанні гістарычных мясцін толькі лаканічна адзначыў, што ў 1633 г. „россияне …овладели Полоцком и большую часть города истребили огнем и мечем" (Без-Корнилович М. О. Исторические сведения о примечательнейших местах в Белоруссии. С.-Петербург, 1855. С. 87).

[81] Лочмель И. Ф. Очерк истории борьбы белорусского народа против польских панов. Москва, 1940. С. 42–45.

го народа к освобождению от панской Польши и соединению с братским русским народом"[82]. Аднак у цытаванага аўтара тыя полацкія падзеі названы „хваляваннямі", а ў Савецкай Беларусі пад пяром Лаўрэнція Абэцэдарскага, які бясспрэчна наследаваў Лочмеля, полацкія хваляванні ператварыліся ў „паўстанне". „Большая частка жыхароў Полацка, узняўшы ў 1633 г. (у час руска-польскай вайны) паўстанне, разам з рускімі войскамі змагалася супраць войск Рэчы Паспалітай, а потым са сваімі сем'ямі добраахвотна перайшла на тэрыторыю Расіі", — вось што „прачытаў" галоўны савецкі гісторык БССР у сціслых звестках добра вядомых дакументаў[83]. Пры гэтым Л. Абэцэдарскі сцвярджаў, быццам з заявы полацкага падваяводы вынікала, што „русские войска взяли Полоцк благодаря помощи мещан", якія потым у дадатак „перешли на сторону русских войск и вместе с ними осадили Верхний замок"[84].

Версія Л. Абэцэдарскага стала „кананічнай" і ўвайшла ў навучальную літаратуру ды энцыклапедычныя выданні. Паводле акадэмічнай „Гісторыі Беларускай ССР", жыхары Полацка „с нетерпением ожидали прихода русских войск", таму і адмовіліся выконваць распараджэнне, а калі царскія ратнікі падышлі да Полацка, то „жители города восстали и присоединились к русским войскам"[85]. Пры гэтым згаданыя Лісоўскім „некаторыя асобы з мяшчан" ператварыліся ў „велізарны натоўп гараджан", які адмовіўся выконваць распараджэнне падваяводы, і ўлады „не паспелі расправіцца" з імі толькі таму, што горад нечакана быў захоплены, — „гараджане

[82] Лочмель И. Ф. Очерк истории… С. 44.

[83] Абэцэдарскі Л. С. У святле неабвержных фактаў. Мінск, 1969. С. 68–69.

[84] Абецедарский Л. С. Белоруссия и Россия. Очерки русско-белорусских связей второй половины XVI–XVII в. Минск, 1978. С. 86.

[85] История Белорусской ССР. Т. 1. Под ред. В. Н. Перцева, К. И. Шабуни, Л. С. Абецедарского. Минск, 1954. С. 138. Такая ж версія ў наступным выданні, гл.: История Белорусской ССР: в 2 т. Т. 1. Ред. колл.: Л. С. Абецедарский, В. Н. Перцев, К. И. Шабуня. Минск, 1961. С. 133.

далучыліся да рускіх войск", а калі Верхні замак узяць не ўдалося, то ў Расію „разам з рускімі войскамі пайшла і большая частка гараджан"[86]. Версія Абэцэдарскага часам дапаўнялася новымі фантастычнымі дэталямі: так, у гістарычным нарысе пра Полацк гаварылася, што палачане заявілі пра сваё нежаданне рамантаваць умацаванні менавіта „пры з'яўленні рускіх войскаў ля сцен Полацка", і што ўначы з 12 на 13 чэрвеня 1633 г. акурат яны, палачане, „адкрылі рускім войскам вароты горада"[87], або што менавіта „натоўп гараджан перашкодзіў падваяводу і магістрату ўмацаваць Ніжні замак"[88], чым і дапамог царскім ратнікам.

Так звычайны канфлікт часткі паспольства з уладамі Полацка ператварыўся ў „полацкае паўстанне", якое на старонках падручнікаў па гісторыі ў савецкія часы выдавалася за прыклад „барацьбы народных мас супраць нацыянальна-рэлігійнага прыгнёту", імкнення беларусаў „да ўз'яднання з рускім народам", іх „цягацення да Расіі"[89]. Але не толькі тады. У часы прэзідэнцтва А. Лукашэнкі, калі тлумачэнне мінулага пачалі зноў „падганяць" пад былыя стандарты, у многія дзяржаўныя выданні вярнулася старая легенда пра „полацкае паўстанне"[90]. Пара б з ёй канчаткова развітацца.

[86] Гісторыя Беларускай ССР: у 5 т. Т. 1. Гал. рэд. К. І. Шабуня. Мінск, 1972. С. 253.

[87] Полоцк: Исторический очерк. Отв. ред. П. Т. Петриков. Минск, 1987. С. 58.

[88] Капыскі З. Ю. Полацкае паўстанне 1633 // Беларуская Савецкая Энцыклапедыя. Т. 8. Мінск, 1975. С. 487.

[89] История Белорусской ССР. Ред. кол.: И. Игнатенко, Н. Каменская, И. Кравченко. Минск, 1977. С. 65; История БССР. Учебное пособие для вузов. Под ред. В. Чепко, А.. Игнатенко. Ч. 1. Минск, 1981. С. 102.

[90] Полацкае паўстанне 1633 // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: у 6 т. Т. 5. Мінск, 1999. С. 527; Полацкае паўстанне 1633 // Беларуская энцыклапедыя: у 18 т. Т. 12. Мінск, 2001. С. 456.

# The 1632–1633 war on the Polack–Vitebsk frontier and „revolt" in Polack

**Henadz Sahanovich**

Although the historiography of the so-called Smolensk War in 1632–34 which Muscovy fought against the Polish-Lithuanian commonwealth counts dozens of special works, little is known about the events taking place in the Belarusian Dvina region in those years.

This article is the author's attempt to fill this gap and to reconstruct the course of the war on Polack-Vitebsk frontier from its beginning to the destruction of Polack by Muscovy army in June 1633. The archival documents show that having concentrated military forces around Smolensk to save the town, the Polish-Lithuanian governing authorities actually left the strategically important castles on the Dvina River without any military support. Polack and Vitebsk fought mainly on the force of local gentry and burghers. The author also discloses the machinations of Soviet historiography which turned the social conflict of part of burghers with Polack the authorities into „Polack revolt" against the „national-religious oppression" and gave it as an example of „attraction" of the Belarusians to Russia.

*Translated by Anatol Minkovsky*

# Выдаткі М. К. Радзівіла на абарону Нясвіжа ў 1655–1660 г.*

**Конрад Бабятыньскі**

Напад войскаў цара Аляксея Міхайлавіча і іх ваенныя поспехі прывялі да таго, што ў 1654–1655 г. амаль уся тэрыторыя Вялікага Княства Літоўскага была акупавана маскоўскай арміяй. Да гэтага дадалося тое, што ў ліпені 1655 г. Рэч Паспалітая стала аб'ектам агрэсіі з боку шведскіх войскаў, якія, між іншым, з поўначы ўвайшлі на землі Жамойці і дайшлі да польскай часткі Інфлянтаў. Як вынік згаданых падзей восенню 1655 г. на тэрыторыі Літвы засталіся некалькі анклаваў, не занятых чужымі войскамі. На захадзе такую ролю выконвала, у першую чаргу па прычыне свайго геаграфічнага становішча, Берасце, дзе знаходзіліся рэшткі арміі ВКЛ і харугвы асабістага набору літоўскага падканцлера Казіміра Лявона Сапегі[1]. Далей на ўсход паспяхова супрацьстаялі ворагу толькі некаторыя прыватныя крэпасці, якія былі акружаны сучаснымі фартыфікацыямі бастыённага тыпу, мелі моцны, забяспечаны адпаведнай артылерыяй, гарнізон і вялікія харчовыя і ваенныя запасы. Да іх ліку можна аднесці Стары Быхаў, які ляжаў на Дняпры, і тры крэпасці — Слуцк, Ляхавічы і Нясвіж, якія знаходзіліся ў глыбіні

* Пры напісанні артыкула былі выкарыстаны крыніцы, сабраныя пад час даследавання, фінансаванага ў рамках праграмы „Kwerenda" Фундацыі на карысць польскай навукі.

[1] Rachuba A. Paweł Sapieha wobec Szwecji i Jana Kazimierza (IX 1655–II 1656). Przyczynek do postawy magnaterii w okresie „potopu" // Acta Baltico-Slavica. T. XI. 1977. S. 82–94.

краіны, на землях перыферыйнага Наваградскага ваяводства[2].

У 1655 г. Нясвіж належаў літоўскаму крайчаму, маладому магнату Міхалу Казіміру Радзівілу (нарадзіўся ў 1635 г.), які толькі пачынаў сваю публічную дзейнасць. Ён стаў уладаром горада пасля смерці бацькі — вялікага маршалка літоўскага Аляксандра Людвіка (памёр 21 сакавіка 1654 г.)[3], а фактычна незадоўга да пачатку вайны з Масквой.

На працягу жыцця трох пакаленняў Нясвіж быў галоўнай рэзідэнцыяй адной з дзвюх асноўных галін Радзівілаў і адначасова выконваў функцыі адміністрацыйнага цэнтра для ўсіх уладанняў. Найбольш у справе развіцця горада зрабіў Мікалай Крыштаф Радзівіл Сіротка — аўтар нясвіжскага ўстава (1579). Дзякуючы яго сродкам у 1582 г. на месцы ранейшых драўляных умацаванняў пачалося будаўніцтва мураванага замка, якое ў асноўным было скончана каля 1600 г.[4].

Замак паўставаў у выглядзе прамавугольніка памерам каля 170 на 120 метраў і меў моцную, хоць як для сярэдзіны XVII ст. крыху састарэлую, фартыфікацыю стараітальянскага тыпу. Яна складалася з высокага землянога вала з мураванымі, каменнымі падпорамі (эскарпамі), змешчанымі па вуглах чатырох магутных бастыёнаў, і глыбокага рова. Ахове крэпасці спрыялі і прыродныя ўмовы, бо яна была пабудавана на цяжкадаступным паўвостраве, які абмываўся вадой з узніклых пасля пад'ёму вады ў рацэ Ушы двух ставоў.

[2] Больш падрабязна пра іх я напісаў у артыкуле „Fortece prywatne w Wielkim Księstwie Litewskim w czasie wojny z Moskwą w latach 1654–1667", які будзе друкавацца ў наступным нумары БГА.

[3] Апошняя версія тэстамента А. Л. Радзівіла захоўваецца ў Архіве Радзівілаў (далей AR) у Галоўным архіве даўніх актаў (AGAD) у Варшаве (далей AGAD). Dz. XI. Nr 99. S. 23–34 (на лацінскай мове) і 105–109 (копія, перакладзеная на польскую мову). Пар.: Spis czynności, wykonanych przy podziale majątku po śmierci A. L. Radziwiłła // Тамсама. Nr 103. S. 449–452.

[4] Kempa T. Mikołaj Krzysztof Radziwiłł „Sierotka" (1549–1616). Wojewoda wileński. Warszawa, 2000. S. 182–191.

Дзякуючы дамбе замак меў сувязь са старэйшай часткай горада, якой у 1586 г. Мікалай Крыштаф Радзівіл Сіротка надаў магдэбургскае права. Яна мела ўласнае, вельмі саліднае, хоць і больш слабое ў параўнанні з замкам, умацаванне — земляны вал у форме няправільнага пяцівугольніка з сямю бастыёнамі і пяццю брамамі, якія акружалі напоўнены вадой роў, а таксама ставы і рака Уша. У сваёй большасці ўмацаванні ўзніклі ў канцы XVI ст., але вядома, што праца па іх пашырэнні вялася яшчэ за два гады да пачатку вайны з Масквой. Так, у жніўні 1652 г. былі ўзведзены два дадатковыя ўчасткі ўмацаванняў. Абароназдольнасць нясвіжскага старога горада ўзмацнялі мураваныя сцены двух манастыроў (бенедыкцінак і бернардзінцаў) і царквы, якія з унутранага боку даходзілі да галоўнай лініі фартыфікацыі. Затое ўласных умацаванняў не меў новы горад, які хутка будаваўся на паўднёвым беразе Ушы[5].

Нясвіж знаходзіўся ў глыбіні краіны, а таму да 1655 г. не існавала якой-небудзь рэальнай пагрозы, што ён стане аб’ектам атакі варожых войскаў. У тым ліку і па гэтай прычыне ў мірны час у замку знаходзіўся невялікі гарнізон, які, хутчэй за ўсё, налічваў некалькі дзясяткаў салдат-пехацінцаў і драгунаў, побыт якіх з уласнай кішэні аплачвалі Радзівілы[6]. Сітуацыя кардынальна

[5] Асноўныя працы на гэтую тэму: Aftanazy R. Materiały do dziejów rezydencji. T. II. Warszawa, 1986. S. 328–362; Bernatowicz T. Miles Christianus et Peregrinus. Fundacje Mikołaja Radziwiłła „Sierotki” w ordynacji nieświeskiej. Warszawa, 1998. S. 30–37; Gruszecki S. Fortyfikacja zamku w Nieświeżu // Kwartalnik Architektury i Urbanistyki. T. X. 1965. Z. 2. S. 141–145; Hryckiewicz A. P. Warowne miasta magnackie na Białorusi i Litwie // Przegląd Historyczny. T. LXI. 1970. Z. 3. S. 434–437; Jakubowski J. Nieśwież // Ziemia. 1925. S. 210–214; Markowski F. Zamek Mikołaja Radziwiłła Sierotki w Nieświeżu // Kwartalnik Architektury i Urbanistyki. T. IX. 1964. Z. 2. S. 155–172; Ткачоў М. А. Замкі і людзі. Мінск, 1991. С. 11–16; ён жа. Замки Беларуси. Минск, 2005. С. 148–155. Гл. план Нясвіжа: Гістарычны атлас Беларусі. Т. I: Беларусь ад старажытных часоў да канца XVIII ст. Варшава — Мінск, 2008. С. 99.

[6] Пра адносна невялікую колькасць літоўскіх прыдворных войскаў у першай палове XVII ст. (паступова, праўда, іх

змянілася ўлетку 1655 г., калі маскоўскія войскі пры падтрымцы казацкіх атрадаў фарсіравалі Бярэзіну і ўварваліся ўглыб Вялікага Княства Літоўскага, захапіўшы 8 жніўня Вільню, а потым Коўна і Гродна. У той момант небяспека навісла і над Наваградскім ваяводствам, пазбаўленым прыкрыцця з боку рэгулярнай арміі, часткі якой, прайграўшы бітву пад Вільняй, або адышлі разам з Я. Радзівілам на тэрыторыю Жамойці, або накіроўваліся ў бок Берасця (харугвы дывізіі левага крыла)[7].

У верасні 1655 г. і гэтая частка Вялікага Княства Літоўскага падвергласся нападу маскоўскіх войскаў: корпуса Аляксея Трубяцкога, які ішоў з-пад Старога Быхава, і казацкіх атрадаў пад камандаваннем Васіля Залатарэнкі, што вярталіся з-пад Гродна. Пасля няўдалай спробы захапіць Слуцк (2–6 верасня) Трубяцкі распусціў свае аддзелы на ўсёй Наваградчыне. На працягу трох тыдняў яны здзейснілі вялікую колькасць злачынстваў у дачыненні да мясцовага насельніцтва і пакінулі пасля сябе вялізныя знішчэнні[8]. Вядома, што маскоўскія войскі, а разам з імі і казакі Залатарэнкі, якія вярталіся з-пад Гродна, з'явіліся ў другой палове гэтага рэйду, дзесьці каля 25 верасня, пад Нясвіжам[9]. Хутчэй за

колькасць расла пад час праўлення Уладыслава IV), пішуць: Wisner H. Wojsko litewskie 1. połowy XVII wieku // Studia i Materiały do Historii Wojskowości. T. XIX. 1973. Cz. I. S. 75–76, 115–118; Augustyniak U. W służbie hetmana i Rzeczypospolitej. Klientela wojskowa Krzysztofa Radziwiłła (1585–1640). Warszawa, 2004. S. 30–34; Rachuba A. Siły zbrojne Wielkiego Księstwa Litewskiego w XVII wieku // Przegląd Wschodni. T. III. 1994. Z. 3. S. 394–395.

7 Bobiatyński K. Od Smoleńska do Wilna. Wojna Rzeczypospolitej z Moskwą 1654–1655. Zabrze, 2004. S. 199–218.

8 Пра ўзровень знішчэнняў выразна сведчыць дакумент „Weryfikacja ludu w Księstwie Kleckim wyciętego i wybranego przez Moskwę a. 1656" // AGAD. AR. Dz. XVI. Materiały nieuporządkowane; гл. таксама: Diariusz oblężenia Słucka // AGAD. AR. Dz. II. Księga 69.14. S. 55–60 (тут ідзе гаворка і пра высячэнне Нясвіжа).

9 Варта ўзгадаць, што Аляксей Трубяцкі ў справаздачы аб сваіх дзеяннях для цара бітву пад Нясвіжам увогуле не згадвае, а апавяданне заканчвае на даце 22 верасня. У гэты дзень

ўсё, рашэнне пра штурм замка, дзе ў той час знаходзіўся сам Міхал Казімір Радзівіл, не было прынята, а войскі задаволіліся спусташэннем горада. Хоць дакладны ход падзей невядомы, падаецца, што ахвярай ворага ў той час стаў пазбаўлены ўмацаванняў новы горад, а яго жыхары схаваліся за сценамі старога горада, які, праўдападобна, не быў захоплены.

У гэтым месцы трэба згадаць, што ў наступныя гады значна большую небяспеку для Нясвіжа ўяўлялі не сілы ворага, а аддзелы Багуслава Радзівіла, якія стаялі ў Слуцку. Гэта было звязана са спробай рэалізацыі палітычных планаў князя, які з канца 1655 г. пачаў рэалізацыю сваёй ідэі па стварэнні ўласнага ўдзельнага княства, якое б знаходзілася ў непасрэднай залежнасці ад Швецыі. Яно павінна было ўзнікнуць у тым ліку на тэрыторыі Наваградскага ваяводства, а значыць увабраць у сябе ўладанні Міхала Казіміра Радзівіла. З гэтай прычыны 4–5 снежня 1655 г. аддзелы пад камандаваннем слуцкага каменданта Адама Волакса хітрасцю захапілі Нясвіж. Праз 8 дзён пасля гэтага капітуляваў і Мірскі замак, які таксама належаў крайчаму. Жаўнеры Багуслава, тым не менш, не змаглі асесці ў гэтых гарадах. Нясвіж быў адбіты ўжо ў першыя дні красавіка 1656 г. высланай гетманам Сапегам харугвай мазырскага земскага суддзі Самуэля Аскеркі, але пад час братазабойчых бітваў значныя страты панёс горад і яго ўмацаванні[10].

яго аддзелы былі ў Клецку, адкуль, верагодна, накіраваліся ў бок Нясвіжа, каб 28 верасня зноў вярнуцца пад Слуцк. Гл.: Акты Московского государства, изданные Императорской Академией Наук. Т. II / сост. Н. А. Попов. С.-Петербург, 1894. № 717. С. 436–439; Мальцев А. Н. Россия и Белоруссия в середине XVII в. Москва, 1974. С. 101–102; Сагановіч Г. Невядомая вайна 1654–1667. Мінск, 1995. С. 51–52; Тарас А. Е. Войны Московской Руси с Великим Княжеством Литовским и Речью Посполитой в XIV–XVII веках. Москва — Минск, 2006. С. 703–706.

10 Kossarzecki K. Próby tworzenia udzielnego władztwa księcia Bogusława Radziwiłła w oparciu o dobra podlaskie i słuckie w okresie zalewu szwedzkiego i moskiewskiego przełomu 1655 i 1656 roku // Studia i Materiały do Historii Wojskowości.

Сур'ёзная пагроза для Нясвіжа ўзнікла праз чатыры гады, вясной 1660 г., калі Навагрfavorдскае ваяводства стала аб'ектам нападу войскаў князя Івана Хаванскага. На пачатковым этапе кампаніі маскоўскія аддзелы не стваралі клопатаў гораду, бо былі занятыя аблогай суседніх Ляхавічаў. Гарнізон Нясвіжа імкнуўся па меры сваіх магчымасцяў дапамагаць абаронцам гэтай крэпасці, у першую чаргу паралізуючы лініі камунікацыі Хаванскага і з поспехам арганізоўваючы напады на тылы праціўніка. Толькі ў чэрвені маскоўскі военачальнік вырашыў актыўна дзейнічаць у раёне Нясвіжа. Рэалізацыю сваіх планаў ён даручыў корпусу колькасцю каля 2500 салдат, які з-пад Магілёва прывёў яму на дапамогу князь Сямён Змееў[11]. Верагодна, што маскоўскае войска ў чарговы раз спаліла новы горад, які знаходзіўся па-за лініяй умацаванняў, пасля чаго пачалі падрыхтоўку да аблогі замка і старога горада, але 26 чэрвеня нечакана яе знялі. Хаванскі пачаў прыспешаную канцэнтрацыю ўсіх падначаленых яму атрадаў для супрацьстаяння літоўскім і каронным войскам на чале з Паўлам Янам Сапегам і Стэфанам Чарнецкім, што ішлі з захаду. У сваю чаргу параза, якую маскоўскія войскі пацярпелі пад Палонкай праз два дні, прывяла да таго, што ўся Наваградчына ў хуткім часе была вызвалена ад атрадаў ворага, а ў наступныя тыдні фронт хутка прасоўваўся на захад, у кірунку Дняпра. Сам Нясвіж да моманту падпісання Андрусаўскага перамір'я (30 студзеня 1667 г.) быў недасягальным для атак царскіх войскаў[12].

T. XLIII. 2007. S. 30–41; Wasilewski T. Zarys dziejów Bogusława Radziwiłła // Radziwiłł B. Autobiografia / oprac. T. Wasilewski. Warszawa, 1979. S. 54–55.

[11] Гл. інфармацыю І. Хаванскага да цара ў гэтай справе: Акты Московского государства. Т. III / сост. Д. Я. Самоквасов. С.-Петербург, 1901. № 96. С. 95. Колькасць і склад корпуса Змеева можна падлічыць дзякуючы захаваным паказанням маскоўскіх ваеннапалонных з арміі Хаванскага; гл.: Российская Национальная Библиотека. С.-Петербург. Ф. 971. Оп. 2. Рук. 152. № 85. Л. 214–214об.

[12] Kossarzecki K. Kampania roku 1660 na Litwie. Zabrze, 2005.

Пагроза нападу варожых войскаў, якая вісела над Нясвіжам на працягу амаль пяці гадоў, прывяла да таго, што гаспадар быў вымушаны пастаянна трымаць моцны гарнізон, а таксама клапаціцца пра яго забеспячэнне харчаваннем і неабходнымі ваеннымі матэрыяламі. Афіцэрам і салдатам неабходна было больш-менш рэгулярна плаціць, каб яны не збеглі са службы ці не пачалі шукаць новага гаспадара ў суседніх крэпасцях — або ў Слуцку ў Багуслава Радзівіла, або ў Ляхавічах у гетмана Паўла Яна Сапегі. У сукупнасці ўсё гэта патрабавала вялікіх выдаткаў. Між тым ужо ў першыя месяцы вайны з Масквой Міхал Казімір Радзівіл сутыкнуўся з сур'ёзнымі фінансавымі праблемамі і пастаянным недахопам наяўных грошай. З аднаго боку, такога роду цяжкасці былі тыповымі для тагачасных магнатаў, але з іншага — яны былі звязаныя з падзелам атрыманага пасля смерці бацькі маёнтка: судовым працэсам, які ішоў у 1654–1655 г., з мачыхай Лукрэцыяй Марыяй з роду Строзавых[13]. Пра ўзровень праблем князя сведчыць той факт, што ўжо ў 1654 г. ён быў вымушаны аддаць у арэнду мясцовай шляхце і яўрэям некалькі сваіх фальваркаў, бо патрабаваў сродкі для найму незвычайна дарагой, колькасцю толькі 120 коней, гусарскай харугвы і 150-коннай казацкай харугвы. Зразумела, што арэндная плата была значна ніжэйшая, чым прыбытак ад звычайнага гаспадарання ў маёнтку[14].

S. 189–191, 209; Сагановіч Г. Невядомая вайна 1654–1667. С. 92–94.

[13] Асноўныя дакументы па гэтым працэсе захоўваюцца ў: AGAD. AR. Dz. XI. Nr 103. Гл. таксама біяграму М. К. Радзівіла аўтарства Я. Ярашука, змешчаную ў „Польскім біяграфічным слоўніку" (Polski Słownik Biograficzny. T. XXX. Z. 2. Wrocław, 1987. S. 292–299).

[14] Гл. лісты М. К. Радзівіла да берасцейскага памочніка суддзі М. Бухавецкага з Нясвіжа 8 і 15 жніўня 1654 г. і Жухавіц 23 жніўня 1654 г. // AGAD. AR. Dz. IV. Teka 26. Kop. 361. S. 15–24; таксама лісты М. Бухавецкага да М. К. Радзівіла з Берасця (8 жніўня 1654 г.), Белай (2 верасня 1654 г.), Чарнаўчыц (14 і 18 верасня 1654 г.) // AGAD. AR. Dz. V. Nr 1569. S. 51–64. Варта дадаць, што гусарская харугва крайчага наўрад ці

Неабходна памятаць і пра тое, што ўтрыманне Нясвіжа ў 1655–1660 г. не было адзіным фінансавым цяжарам для Міхала Казіміра Радзівіла. Ён павінен быў клапаціцца і пра іншыя свае крэпасці (перш за ўсё пра Белую), а акрамя гэтага выстаўляць некалькі харугваў конніцы, драгунаў і пяхоты для нясення службы як ў літоўскай, так і кароннай арміі[15]. У тэорыі выдаткі на іх утрыманне павінны былі ісці са скарбу дзяржавы, але на практыцы, у сувязі з вялікай запазычанасцю па выплаце жаўнерам, гэтыя грошы часта плаціў сам Радзівіл.

Пра ўзровень і структуру выдаткаў на абарону Нясвіжа, а таксама пра колькасць, а часам і склад гарнізона замка і горада ў 1655–1660 г. можна даведацца з дакумента, які Міхал Казімір Радзівіл прадставіў у чэрвені 1661 г. на пасяджэнні вальнага сойма ў Варшаве[16]. Праўда, князь згадаў толькі пра зварот коштаў, якія былі выдадзены ў перыяд з лютага да канца ліпеня 1660 г., калі яго ўладанням пагражалі аддзелы Івана Хаванскага, але пры гэтым не забыўся згадаць пра свае фінансавыя траты, панесеныя ад пачатку вайны. Радзівіл падлічыў, што да канца 1659 г. абарона Нясвіжа каштавала яму больш за 280 тысяч злотых (з гэтай сумы 200 тысяч былі выдадзены на ліквідацыю наступстваў тых стратаў, што горад і яго ваколіцы пацярпелі ад ворага), і адначасова адзначыў, што „бачачы <…> *exhaustum aerarium*, не ўпякуся Рэчы Паспалітай гэтымі *expensa*".

Згаданыя лічбы дазвалялі князю патрабаваць вяртання выдадзеных ім за паўгода ваенных дзеянняў у

дасягнула патрабаванай у прыпаведным лісце колькасці і, больш за тое, адслужыўшы менш за чвэрць тэрміну службы, была згорнута! Гл.: Rachuba A. Wysiłek mobilizacyjny Wielkiego Księstwa Litewskiego w latach 1654–1667 // Studia i Materiały do Historii Wojskowości. T. XLIII. 2007. S. 45–46.

15 Гл. іх дакладны спіс: Rachuba A. Wysiłek mobilizacyjny. S. 45, 46, 49–51, 53.

16 Гл. пра стан захавання дакументальнай базы пра крэпасці Радзівілаў у XVI–XVII ст.: Kossarzecki K. Fortece i zamki radziwiłłowskie w XVII–XVIII w. na podstawie zachowanych archiwaliów w Archiwum Warszawskim Radziwiłłów // Miscellanea Historico-Archivistica. T. XV–XVI. 2010. S. 53–68.

1660 г. сродкаў з дзяржаўнай казны. Агульная сума склала 56 628 злотых. Прапанаваны Радзівілам каштарыс быў зацверджаны 14 чэрвеня 1661 г. спецыяльна створанай групай дэпутатаў сената і пасольскай ізбы. Як чытаем у прысвечанай гэтай справе канстытуцыі, частка грошай павінна быць выплачана ўладару Нясвіжа з падаткаў, якія будуць прынятыя на наступным сойме, а частка — залічана якануляванне яго падатковых запазычанасцяў (*retent*)[17]. Відавочна, што такое рашэнне было прынята з прычыны пустой казны.

Невядома, ці справа вяртання падаткаў Радзівілу адгукнулася як-небудзь сярод станаў сойма. Аўтар прысвечанай сойму 1661 г. манаграфіі толькі ўзгадвае, што 14 чэрвеня ўвага прысутных пераключылася на аўдыенцыю ваенных паслоў, а другая дэкада чэрвеня прайшла пад знакам спробаў выгнаць з пасольскай ізбы Багуслава Радзівіла, што ледзь не прывяло да зрыву працы сойма[18]. Можна меркаваць, што хуткае вырашэнне справы на карысць уладара Нясвіжа магло стаць, з аднаго боку, узнагародай за тое, што князь у якасці маршалка з самага пачатку працы сойма імкнуўся праводзіць пасяджэнні ў адпаведнасці з намерамі двара, а з другога — заахвочваннем яго на далейшую падтрымку каралеўскай пары ў неверагодна цяжкай барацьбе вакол паскарэння выбараў „vivente rege"[19]. Несумненна, найважнейшай узнагародай для Радзівіла

[17] Volumina Legum. T. IV / wyd. J. Ohryzko. Sankt Petersburg, 1859. S. 377. Больш за тое, на чатыры гады горад быў вызвалены ад абавязку ўтрымліваць салдацкія пастоі, а таксама ад выплаты ўсіх падаткаў за выключэннем шпунтавога і мытнага (тамсама, s. 386).

[18] Ochmann S. Sejmy lat 1661–1662. Przegrana batalia o reformę ustroju Rzeczypospolitej. Wrocław, 1977. S. 97–99; гл. таксама Ochmann-Staniszewska S., Staniszewski Z. Sejm Rzeczypospolitej za panowania Jana Kazimierza Wazy. Prawo-doktryna-praktyka. Wrocław, 2000. T. I. S. 297, 300–301, 316; Rachuba A. Konfederacje wojska litewskiego 1657–1663. Zabrze, 2010. S. 102–105.

[19] Ochmann-Staniszewska S., Staniszewski Z. Sejm Rzeczypospolitej… T. I. S. 320–322.

за яго пазіцыю на сойме і вернасць Яну Казіміру было віленскае кашталянства, якое ён атрымаў 30 VI 1661 г. Гэты ўрад не проста гарантаваў князю месца ў сенаце, але з гэтага часу ён рабіўся другім пасля віленскага ваяводы свецкім сенатарам, і шостым — у маштабе ўсёй Рэчы Паспалітай![20].

Прыведзены ніжэй дакумент з'яўляецца вельмі цікавай крыніцай для даследавання прыдворных войскаў літоўскіх магнатаў у другой палове XVII ст. Ён змяшчае дакладны спіс вайсковых адзінак, якія ўваходзілі ў склад гарнізона Нясвіжа ў першай палове 1660 г., а таксама інфармацыю пра выдаткі на жалаванне і забеспячэнне (прыводзяцца кошты на віды прадуктаў), закупку ваенных матэрыялаў (пораха, свінцу, кноту, гранат).

Калі гаворка ідзе пра гарнізон Нясвіжа, то ўжо вядома, што ў 1654 г. Міхал Казімір Радзівіл набіраў нейкія аддзелы пяхоты і драгунаў для абароны сваёй крэпасці[21]. На жаль, калі гаварыць пра 1655–1659 г., „Summariusz expens" абмяжоўваецца толькі сухімі дадзенымі, паводле якіх у Нясвіжы знаходзіліся першапачаткова 1800 (восень 1655 г.), потым 1000 (вясна 1657 г.) і нарэшце 1200 салдат (травень — жнівень 1657 г.)[22]. Нам падаецца, што гэтыя лічбы значна завышаныя: яны ў кожным разе ўлічваюць не толькі колькасць салдат, якія служылі ў атрадах Радзівіла, але і мужчынскае насельніцтва, якое шукала ў Нясвіжы выратавання ад ворага і магло

[20] Urzędnicy Wielkiego Księstwa Litewskiego. Spisy, t. I: Województwo wileńskie XIV-XVIII wiek. Opr. H. Lulewicz, Rachuba, P. P. Romaniuk. Pod red. A. Rachuby. Warszawa, 2004. S. 112; por. Jaroszuk J. Op. cit. S. 294.

[21] М. К. Радзівіл да М. Бузавецкага. Нясвіж, 8 жніўня 1654 г. // AGAD. AR. Dz. IV. Kop. 361. S. 15–17. Неабходна згадаць і той факт, што на сойме ў ліпені 1654 г. Радзівіл змог дабіцца вызвалення Нясвіжа ад платы падаткаў і абавязку трымаць воінскі гарнізон на працягу чатырох гадоў (Volumina Legum. T. IV. S. 219).

[22] Цікавымі дакументамі наконт аддзелаў, якія набіраў М. К. Радзівіл у гэтыя гады, з'яўляюцца скарбовыя дакументы і спісы асобных фармаванняў. Гл.: AGAD. AR. Dz. VII. Nr 61, 63, 225, 226, 675; Rachuba A. Wysiłek mobilizacyjny… S. 50.

такім чынам уліцца ў шэрагі абаронцаў (асабліва пад час нападу Трубяцкога).

Затое можам даведацца, што ў першай палове 1660 г. гарадскі гарнізон складаўся з 4 харугваў драгун (налічвалі 60 рот, гэта значыць каля 600 салдат), 200 венгерскіх пехацінцаў (магчыма, у дзвюх харугвах), 300 салдат „казацкай" пяхоты (у дзвюх харугвах) і адной харугвы казацкай конніцы (яе колькасць невядомая). У суме гэта складае мінімум 1200 чалавек. Але і тут можна выказаць сумненне, ці было так на самай справе. Можна меркаваць, што і ў гэтым выпадку Радзівіл завысіў колькасць салдат, якія знаходзіліся на яго ўтрыманні, каб атрымаць большую грашовую выплату са скарбу дзяржавы.

Відавочна, што ў прыдворных атрадах Міхала Казіміра Радзівіла магло служыць няшмат прафесійных жаўнераў, бо такіх у час вайны з Масквой і Швецыяй цяжка было знайсці на вельмі абмежаваным літоўскім і каронным вярбовачным рынку. Магчыма, гэта былі толькі лічаныя асобы[23]. Ротмістры, якія згадваюцца ў дакуменце, падобна, не мелі досведу такога роду службы ў гэтым чыне ў рэгулярнай літоўскай арміі. За выключэннем маёра Яна Гроса нельга нічога сказаць пра іх ранейшую вайсковую кар'еру[24]. З вялікай доляй верагоднасці можна сцвярджаць, што ў пераваж-

[23] Такім прыкладам можа быць маёр Вільгельм дэ Інгліс (памёр у 1658 г.), які знаходзіўся на службе ў нясвіжскай галіны Радзівілаў да канца 1655 г., а потым перайшоў на службу ў гарнізон Слуцка.

[24] Магчыма, згаданы ў дакуменце без імя ротмістр казацкай харугвы па прозвішчы Здановіч яшчэ ў 1651 г. служыў у Аляксандра Людвіка Радзівіла. Мы толькі ведаем, што ротмістр літоўскага маршалка Здановіч вызначыўся ў той год пад час кампаніі супраць казакоў у абароне Любеча, дзе „ўсе павіннасці выконваючы, быў паранены". Памятаючы пра гэтыя заслугі, у 1652 г. войска ўпісала яго прозвішча ў спіс заслужаных салдат, пра магчымасць узнагароды якіх было сказана ў звароце да караля і саслоўяў у спецыяльнай інструкцыі на сойм для паслоў-вайскоўцаў. Гл.: Российская Национальная Библиотека. С.-Петербург. Ф. 971. Оп. 2. Рук. 152. № 74. Л. 181–183об.

най большасці гэта былі прыдворныя слугі і афіцыялы Радзівіла, якіх збег абставін змусіў да часовай змены прафесіі[25].

Пераважную большасць гарнізона Нясвіжа складалі абавязаныя да вайсковай службы мясцовыя мяшчане[26], залежнае насельніцтва з маёнткаў М. К. Радзівіла[27], а таксама шматлікая шляхта, якая збегла з захопленай ворагам тэрыторыі і знайшла прытулак за ўмацаваннямі горада[28].

Дакумент, які публікуецца, прыводзіцца ў форме арыгінала XVII ст. Ён захоўваецца ў Галоўным архіве даўніх актаў у Варшаве ў выглядзе асобнага архіўнага рукапісу, які знаходзіцца ў II аддзеле Архіва Радзівілаў пад шыфрам 1433. Удакладненні ў дужках прыведзены выдаўцом крыніцы.

*Пераклад Любові Козік*

[25] Пра падобную з’яву піша У. Аўгустыняк на прыкладзе прыдворных атрадаў Казіміра Радзівіла. Гл.: Augustyniak U. W służbie hetmana i Rzeczypospolitej. S. 35–65.

[26] Напэўна яны накіроўваліся ў аддзелы драгунаў і пяхоты.

[27] Можна з вялікай доляй упэўненасці лічыць, што пераважна з іх складалася „казацкая” пяхота.

[28] Пераважна набіраліся ў конныя харугвы.

## Summariusz expens w praesidium nieświeskim przez 6 miesięcy na ludzie Księcia JM pana podczaszego W. Ks. L.[29] łożonych, to jest przez oblężenie a 1 II ad ultimam [31] VII anni 1660

Forteca nieświeska propriis Księcia JM stipendiis et sumptibus strzymała impet wojska Trubeckiego[30] i Zołotarenki[31], którzy po zniesieniu wojska Wielkiego Księstwa Litewskiego, opanowaniu Wilna i innych fortec, ogniem i mieczem grassując i Wielkie Księstwo Litewskie plądrując, o tę fortecę irrito conatu w 40000 ludzi kusili się[32]. Miał natenczas Książę JM in praesidio swym własnym kosztem żołnierza 1800, na których i na amunicją ukazuje się expens **45465 zł.**

Po tym, gdy Chmielnicki wojsko swoje w Polesiu rozłożył i różne inkursje w województwo nowogródzkie czynił, aż do postanowionej z nim zgody, Książę JM miał tam ludzi 1000.

[29] Гэтую пасаду М. К. Радзівіл атрымаў 16 жніўня 1656 г. Гл.: Urzędnicy centralni i dostojnicy Wielkiego Księstwa Litewskiego XIV–XVIII wieku / opr. H. Lulewicz i A. Rachuba. Kórnik, 1994. S. 145.

[30] Аляксей Нікіціч Трубяцкі (памёр у 1680 г.) — адзін з лепшых маскоўскіх камандзіраў пад час вайны з Рэччу Паспалітай. Перамог Я. Радзівіла пад Шапялевічамі (24 жніўня 1654 г.), але пацярпеў паразу ў бітве з І. Выгоўскім пад Канатопам (8 ліпеня 1659 г.).

[31] Васіль Нікіфаравіч Залатарэнка (памёр у 1663 г.) — брат Івана, камандзіра казацкага корпуса, які ваяваў на баку царскіх войскаў у Вялікім Княстве Літоўскім у 1654–1655 г. У парадку замяшчэння са жніўня 1654 г. фактычна камандаваў ніжынскім палком. Гл. пра кар’еру Васіля: Dąbrowski J. Pochodzenie społeczne i drogi kariery wyższej starszyzny kozackiej w latach 1648–1657 // Zeszyty Naukowe Uniwersytetu Jagiellońskiego. Nr 1049. Prace Historyczne. Z. 101. Kraków, 1993. S. 66.

[32] Гаворка ідзе пра спробы захапіць горад, якія мелі месца ў верасні 1655 г. Колькасць войскаў ворага дакладна завышаная. Казакоў было не больш за 5 тысяч. Колькасць атрадаў А. Трубяцкога ў крыніцах вагаецца і ацэньваецца занадта высока — каля 20 тысяч чалавек. Насамрэч яшчэ на пачатку кампаніі 1655 г. яны налічвалі не больш за 15 тысяч салдат, а частку сваіх сілаў (полк Я. Ронэрта) маскоўскі ваявода пакінуў пад Старым Быхавам.

Którzy non in otio zostawali, lecz spólnie z województwem nowogródzkim podjazdy codzienne odprawując, nieprzyjacielskie conatus dalsze nie tylko tamowali, ale też kilka pułków znieśli[33]. Na których ludzi vivendę wyszło expens **23792 zł.**

Podczas opanowania Brześcia od Rakoc [z] ego[34], znowu się zawarło ludzi Księcia JM 1200, których proprio sumptu trzymał, a jako pan komendant[35] probuje zł. **11366** expens.

Oprócz szkód przez nieprzyjaciela w mieście poczynionych, które się mogą rachować przez spalenie kościołów, folwarków, wsi, gumien; więcej Książę JM odniósł szkody nad **200000 zł.**

Tych sumptów Książę JM podawszy do uwagi izby poselskiej, które czynią in summa **280623** zł., a widząc Książę JM exhaustum aerarium, nie przykrzy się Rzeczypospolitej o te expensa. Tylko co się przez oblężenie Żmiejowa[36] i Chowańskiego[37] spendowało, wydatki sequuntur[38]:

Na 4 chorągwie dragońskie, które były pod komandą pana majora Jana Grosa[39], wychodziło na tydzień na jednę rotę żyta korcy półtora, zboża na krupy miarek 6, grochu ćwierć, słodu 1 korzec, słoniny pół połcia, soli kwart 6.

[33] Гаворка, хутчэй за ўсё, ідзе пра вясну 1657 г., калі ўкраінскія казакі занялі Піншчыну і адтуль рабілі набегі на Наваградскае ваяводства, пагражаючы ў тым ліку і Нясвіжу.

[34] Сямігародскія войскі знаходзіліся ў Берасці ад моманту капітуляцыі горада 16 траўня 1657 г. да 10 жніўня 1657 г.

[35] У той час, верагодна, быў ім смаленскі падстолі Васіль Баканоўскі, камендант Нясвіжа ў 1655 г. (памёр у 1686 г.).

[36] Сямён Данілавіч Змееў (памёр у 1661 г.) — царскі стольнік і магілёўскі ваявода (1658–1659).

[37] Іван Андрэевіч Хаванскі (памёр у 1682 г.) — адзін з найбольш вядомых і няўдалых камандзіраў царскага войска ў вайне з Рэччу Паспалітай. З 1657 г. быў пскоўскім ваяводам.

[38] Гаворка ідзе не столькі пра аблогу Нясвіжа, якая трымалася з чэрвеня 1660 г., колькі пра ўвесь згаданы ў загалоўку дакумента перыяд з 1 лютага да 31 ліпеня 1660 г.

[39] Яхан (Ян) Грос (памёр у 1660) — у 1655 г. быў на службе ў М. К. Радзівіла, пасля захопу Слуцка Волаксам перайшоў у прыдворныя аддзелы князя Багуслава, у 1656–1658 г. камендант Слуцка, потым вярнуўся на службу да М. К. Радзівіла. Памёр пад час аблогі Нясвіжа вясной 1660 г.

A na 60 rot przez 6 miesięcy, uczyni zboża rozmaitego korcy 4824, miernie na osoby i na konie wydawano. Którego zboża korzec od obywatelów tamecznych ogółem brano po zł. 3. Słoniny wydawano połeć 720, także po zł. 3 połeć płacono.

Soli kwart 8640, a kwartę także po gr. 3 kupowano.

Które zboże, słoninę i sól na pieniądze porachowawszy, uczyni **14472 zł.**

Oficerom gotowych pieniędzy na tygodniową vivendę 100 zł., facit zł. **2400**

Węgierskiej piechoty było 200 z rotmistrzem Dawidowskim, którym na dardę[40] dawano, jako i dragonom na rotę. Co uczyni na 20 dard przez 6 miesięcy zboża korcy 1608, słoniny połci 240, a soli kwart 2880. Pieniędzmi uczyni zł. **5832**

Rotmistrzowi, porucznikowi, chorążemu po zł. 30 na żywność przez tydzień zł. **720**

Kozackiej piechoty pana rotmistrza Zaryny było 150 osób, którym tak wiele na każdy kureń dano, jako i na rotę dragońską. Co na 15 kureniów uczyni zboża korcy 1206, słoniny połci 180, soli kwart 2160, a na pieniądze zł. **4374.**

Rotmistrzowi, porucznikowi, chorążemu po 30 zł. na tygodniową żywność, na 6 miesięcy facit zł. **720**

Na chorągiew kozackiej piechoty pana rotmistrza Myszewica osób 150 wyszło tyleż **4374** zł.

Rotmistrzowi także z porucznikiem, chorążym na 6 miesięcy zł. **720**

Na chorągiew kozacką jazdy pana rotmistrza Zdanowicza, dla wycieczek i podjazdów, dano ogółem według jego kwitu zł. **3000**

Na prochy, ołów i lonty w Słucku kupione, według kwitu pana Polmana[41] zł. **5246**

Puszkarzom 4 zaciągowym zł. **600**

[40] Дарда — тып кароткай алебарды, якую насілі як адзначэнне ўлады падафіцэраў (дзясятнікаў) у польска-венгерскай пяхоце ў XVI–XVII ст. (Mała Encyklopedia Wojskowa. T. I. Warszawa, 1967. S. 296). У дадзеным выпадку азначала дзясятак пяхоты.

[41] Ян Польман — слуцкі фінансавы адміністратар.

Osobliwie prochu i amuniciej dawnej komendantowi[42] oddanej, według rachunku zł. **4000**

Granaty i inne praeparatoria do rzucania kamieni, zł. **700**

Na różne szpiegi przez wszystek czas oblężenia, zł. **150**

Na dragonią i piechotę, aby się rebelia jaka nie wszczęła i przychęcając ich do ostrożności i resistenciej, po zł. 6 na osobę: zł. **5160**

Na oficerów tak dragońskich, jako i pieszych, przychęcając ich, nad vivendę dano zł. **2000**

Panowi komendantowi na prowizją i inne requisita, zł. **2160**

Summa zboża korców 8844, słoniny połci 1320, soli kwart 15840, co na pieniądze porachowawszy uczyni in summa zł. **56628.**

Roku 1661 die 14 VI, te wszystkie expensa Księcia JM pana podczaszego W. Ks. L. na fortecę nieświeską, przed nami tak z senatu, jako i z koła poselskiego deputowanemi produkowano i authentice dokumentami probowano. Na co in vim attestationis podpisujemy się w Warszawie.

[Dalej podpisy deputatów]:

Jerzy Białłozor, biskup smoleński, deputat do liquidacy

M [ikołaj] Stephan Pac, wojewoda trocki, deputat do liquidacy

Krzysztof Zawisza, marszałek wielki W. Ks. L. manu propria

Thomasz Ujejski, bisk [up] kijow [ski], deputat do liquidacy

Stanisław Kobierzycki, wojewoda pomorski

Spytek [Rogacjan] Pstrokoński, podkomorzy brzeski kujawski, deputat do liquidacy

Jerzy Słupecki, podko [morzy] lubelski, manu propria

Chryzostom Giżycki, sędzia ziemski wieluński, deputat do liquidacy naznaczony

42 Лукаш Тыбароўскі — нясвіжскі эканом, у 1660 г. быў камендантам горада.

Krzysztof z Żałego Żelski, pisarz ziemie bilski [bielskiej], deputat do liquidacy naznaczony

Marcjan Ogiński, podst [oli] W. Ks. L., deputat do liquidaciej

Jan Kiersnowski, sędzia ziemski nowogródzki, deputat do liquidaty

Marcin z Obór Oborski, podkomorzy liwski, deputat do liquidacyjej z W [ielkiej] Polski

Jan Chrapowicki, podkomorzy smoleński, deputat do liquidaciej z Wielkiego Księstwa Litewskiego

Stanisław Zaręba, sędzia województwa sandomierskiego i poseł tegoż województwa

Jan Gniński, p [podkomorzy] p [omorski]

# Expenses of Michał Kazimierz Radziwiłł's on the defence of Niaswiž in 1655–1660

**Konrad Bobiatyński**

The given document contains brief information on the expenses incurred by one of the Lithuanian richest magnates Michal Kazimierz Radziwill on the defense of his main residence Niaswiž from Muscovy troops in 1655–1660. This was one of the few fortresses able to put an effective resistance to the offensives of Czar Alexei Mikhailovich who tried to capture it twice — in September of 1655 and June 1660 and never capitulated to the enemy for the entire duration of the war. This document was promulgated before the parliament in 1661, when Radziwill decided to claim the reimbursement from the state treasury. The prince at that time could count on a special grace from the royal couple, who, as the Speaker of the Sejm he worked closely with on activities aimed at implementing the election on the principle of „vivente rege". Thus, not only did he manage to regain during the Sejm over 56 thousand given to defend Niaswiž in the first half of 1660, but also on June 30, 1661 received from Jan Kazimierz one of the main senator positions in Lithuania — castellany of Wilno. This document is a very interesting, even a unique source to study the structure, composition and amount of private armies of Lithuanian magnates in the second half of the seventeenth century.

*Translated by Anatol Minkovsky*

# Рэспубліканска-сапежынскія перамовы на з’ездзе ў Горадні восенню 1701 г.

**Дзмітрый Віцько**

Падзенне гегемоніі Сапегаў і прыход да ўлады ў ВКЛ рэспубліканцаў у канцы 1700 г. суправаджаліся пераходам з боку апошніх да своеасаблівай формы калегіяльнага кіравання. Паводле Алькеніцкай пастановы ад 24 лістапада 1700 г. у дапамогу генеральнаму палкоўніку Міхалу Сервацыю Вішнявецкаму прызначаліся т. зв. камісары (прадстаўнікі паветаў, асобныя сенатары і цэнтральныя ўраднікі ВКЛ)[1]. Апрача таго, імкненне да падтрымання аднадумства выявілася ў частым скліканні з’ездаў шляхты ВКЛ. Толькі на працягу 1701 г. прайшлі ажно чатыры такія з’езды: у Ружанах (10–14.03), Вільні (2–14.05 і 23.07–12.08) і Горадні (26.09–26.10). Атрымаўшы згоду Аўгуста II на правядзенне першага з іх, рэспубліканцы пазней наконт гэтага асабліва не клапаціліся, прымаючы кожны раз акт лімітацыі і збіраючыся зноў у вызначаны тэрмін[2]. Удзел у з’ездах побач з камісарамі, прызначанымі пад Алькенікамі, прымалі таксама новыя, павятовыя камісары, абраныя на грамнічных сойміках у лютым 1701 г. Між тым, Аўгуст II пагадзіўся на правядзенне з’езда афіцыйна таму, што палічыў такі форум зручнай пляцоўкай для

[1] Postanowienie generalne stanów W. X. L., wieczne i nigdy nienaruszone, na zieździe walnym <...> pod Olkinikami uchwalone. Wilno, 1700. K. $E_1$.

[2] Лімітацыя ў дадзеным выпадку была актам, хутчэй, фармальным. Акты лімітацыі, з улікам унясення ў іх вялікай колькасці рашэнняў, якія прымаліся на з’ездах, нагадвалі больш выніковыя пастановы. Пасля Гарадзенскага прайшлі яшчэ два такія з’езды: у Ружанах (снежань 1702 г.) і ў Вільні (сакавік 1703 г.). Кола іх удзельнікаў істотна адрознівалася.

пачатку перамоваў паміж рэспубліканцамі і Сапегамі (рашэнні Алькеніцкага з’езда пра пазбаўленне Сапегаў урадаў і ўладанняў, выгнанне іх за межы княства мелі мала супольнага з тагачасным правам, і Аўгуст II мусіў гэта ўлічваць)[3]. Але перамовы доўгі час не маглі пачацца. Спачатку ў Ружанах ад іх адмовіліся рэспубліканцы. Потым на з’ездзе ў Вільні яны абвясцілі, што гатовыя былі ўжо іх пачаць, але Сапегі не прыслалі прадстаўнікоў. Пасля гэтага ў Варшаве бакі, якія з’ехаліся на сойм, пачалі нарэшце першыя кансультацыі, але сойм быў адкладзены на канец года. Сапегі даслалі свайго прадстаўніка, холмскага падкаморыя Томаша Яна Раманоўскага, на паўторны Віленскі з’езд, але ён прыбыў ужо пасля лімітацыі, і „калі пра яго *principaliores* даведаліся, адразу ж паслалі да яго прыстанку, рэчы трэслі, рабавалі, двух слуг пабілі, шчасце, што самога не засталі, які, *confusus infectis*, занёсшы ў Трыбунале пратэстацыю, ад’ехаў”[4]. 12 жніўня Віленскі з’езд быў адкладзены на 26 верасня; сабрацца на гэты раз ён павінен быў у Горадні[5].

3 Рахуба А. Вялікае Княства Літоўскае ў парламенцкай сістэме Рэчы Паспалітай. Мінск, 2008. С. 356–360.

4 Archiwum Główne Akt Dawnych w Warszawie (AGAD), Archiwum Radziwiłłów (AR), dz. V, sygn. 5359/I, k. 109 (Я. А. Гардына да К. С. Радзівіла, 31 жніўня 1701 г.).

5 Biblioteka Naukowa Polskiej Akademii Umiejętności i Polskiej Akademii Nauk w Krakowie (BPANKr.), Rkps. 6122, k. 128–134 (Акт лімітацыі Віленскага з’езда, 12 жніўня 1701 г.). Гарадзенскі з’езд 1701 г. і сапежынска-рэспубліканскія перамовы, што на ім вяліся, нягледзячы на іх важнае значэнне для разумення працэсаў, якія папярэднічалі ўступленню Рэчы Паспалітай у Вялікую Паўночную вайну, да сённяшняга дня не былі апрацаваныя ў поўнай меры. Даследчыкі звярталіся да іх двойчы. На перамовы паміж групоўкамі звярнуў увагу ў сваёй доктарскай дысертацыі П. Смалярэк, ён выкарыстаў частку дакументаў з архіва Станіслава Антонія Шчукі, якія трапілі потым да Патоцкіх і сёння захоўваюцца ў Галоўным архіве старажытных актаў у Варшаве (AGAD, Archiwum Publiczne Potockich). Гл.: Smolarek P. Rzeczpospolita wobec wojny północnej (1699–1702). Maszynopis pracy doktorskiej w Archiwum Uniwersytetu Jagiellońskiego, 1950 r. S. 206–211. Аднак большасць матэрыялаў з архіва Шчукі недатаваная, і без прыцягнення дадатковага кола крыніц паслядоўна

У пачатку верасня кароль прызначыў пасрэднікам на перамовах, якія павінны былі ўрэшце пачацца на Гарадзенскім з’ездзе, падканцлера ВКЛ Станіслава Антонія Шчуку[6]. Аднак у гэты час з’явіліся новыя акалічнасці, якія чарговы раз ставілі перамовы пад пагрозу. У пачатку жніўня вялікі гетман Казімір Ян Сапега распачаў перапіску са шведскім каралём Карлам XII, войскі якога занялі Курляндыю. У верасні шведскія аддзелы ўвайшлі ў Жамойць, каб абараніць сапежынскія ўладанні ад рэспубліканцаў[7]. 7 верасня вялікі падскарбі Бенядзікт Павел Сапега сустрэўся ў Варшаве з Аўгустам II, заявіўшы, што „шведскай пратэкцыі яны яшчэ не ўзялі і жадаюць пры пасрэдніцтве яго каралеўскай міласці яшчэ ў апошні раз пасправабаваць трактатаў згоды на гарадзенскай сесіі”[8]. Нават нібыта прадэманстраваў ліст Карла XII з адказам вялікаму гетману, у якім ён адмаўляўся вывесці войскі з Курляндыі і Жамойці, пра што яго быццам бы прасіў Сапега. Наўрад ці такое прызнанне ў кантактах са шведамі было разлічана, каб выклікаць давер, — хутчэй было недвухсэнсоўным папярэджаннем каралю з боку Сапегаў. Адказнасць за ўвядзенне шведаў была перакладзена на пасэсараў жамойцкіх уладанняў, Крэтынгі і Шкудаў, — вялікі гетман выказаў гатоўнасць пісаць да іх, каб не трымалі шведскіх залогаў. За Сапегаў у каралеўскім атачэнні хадайнічаў галоўным чынам мальбаркскі ваявода Ян Ежы Пшэбяндоўскі. Адначасова ў Варшаву вярнуўся ноўгарад-северскі харужы

ўзнавіць ход перамоваў праблематычна. А. Рахуба ў сваёй вядомай манаграфіі спыніўся на акце лімітацыі Гарадзенскага з’езда і мімаходзь згадаў пра перамовы: Рахуба А. Вялікае Княства Літоўскае… С. 359–360.

6 AGAD, AR, dz. V, sygn. 5359/I, k. 140 (Я. А. Гардына да К. С. Радзівіла, з Варшавы, 2 верасня 1701 г.).

7 Adlerfeld G. Histoire militaire de Charles XII, roi de Svede: en 3 t. Paris, 1741. T. I. P. 100; Nordberg J. A. Histoire de Charles XII, roi de Suéde: en 3 t. A la Haie, 1748. T. I. P. 185; Rachuba A. Sapieha Kazimierz Jan Paweł // PSB. 1994. T. XXXV/1. Z. 144. S. 44.

8 AGAD, AR, dz. V, sygn. 5359/I, k. 147 (Я. А. Гардына да К. С. Радзівіла, з Варшавы, 8 верасня 1701 г.).

Крыштаф Сеніцкі, каралеўскі эмісар, накіраваны папярэдне на рэспубліканскі з’езд у Вільню, які раіў пакуль устрымацца ад баявых дзеянняў і выказваўся на карысць перамоваў[9]. Усе чакалі прыбыцця падканцлера для падрыхтоўкі каралеўскай інструкцыі. 13 верасня Аўгуст II заклікаў яго да сябе лістом, у якім выказаў надзею на паспяховае завяршэнне ўсёй справы, паколькі вораг толькі таго і чакае, каб выкарыстаць унутраную сумятню на яго, караля, „пагібель”[10]. 18 верасня Бенядзікт Павел Сапега наведаў Пшэбяндоўскага, якому заявіў, што Сапегі вымушаны будуць звярнуцца да крайніх сродкаў (*„ad desperata media”*), калі кароль шчыра не паспрыяе ў перамовах[11].

Пасля трэцяга каралеўскага ліста Шчука 24 верасня прыбыў у Варшаву, але, не дачакаўшыся каралеўскай інструкцыі, даў кароннаму рэгенту пісьмовыя ўказанні па яе падрыхтоўцы і паехаў 27 верасня ў Тыкоцін на канферэнцыю з Сапегамі[12]. Тым не менш, згаданая інструкцыя Аўгуста II для Шчукі як для каралеўскага камісара таксама была падпісана 27 верасня (магчыма, заднім чыслом або ў той жа дзень пасля ад’езду) і ўключала наступныя пункты: 1) пасля прыезду ў Горадню паведаміць на публічным прыёме, што кароль узяў на сябе пасрэдніцтва ў перамовах і прызначыў яго сваім паўнамоцным прадстаўніком, паказаць адпаведны крэдэнс і распавесці пра ўсе небяспечныя акалічнасці, якімі пагражае нязгода; 2) спачатку імкнуцца, каб бакі даравалі адзін аднаму ўсе крыўды і прэтэнзіі, а потым з дэлегаванымі ад абодвух бакоў прадстаўнікамі падрыхтаваць праект пагаднення; 3) імкнуцца, каб у адпаведнасці з правам Сапегам былі вернуты ўладанні і староствы, а таксама чынш за гэты год, а ўсе маёмасныя прэтэнзіі былі скіраваны ў

[9] Тамсама, k. 147–148, 158–159.

[10] AGAD, Archiwum Publiczne Potockich (APP), sygn. 55, t. I, k. 604 (Аўгуст II да С. А. Шчукі, з Варшавы, 13 верасня 1701 г.).

[11] AGAD, AR, dz. V, sygn. 5143, k. 21–22 (Я. Германоўскі да К. С. Радзівіла, з Варшавы, 18 верасня 1701 г.).

[12] Тамсама, k. 25 (Я. Германоўскі да К. С. Радзівіла, з Варшавы, 29 верасня 1701 г.).

суд; 4) тое ж самае датычыла рэстытуцыі ўрадаў (асабліва падскарбія); 5) пытанне камандавання войскам адкласці да будучага сойма; 6) пытанне апекі і адміністрацыі „нойбургскіх уладанняў” да кампетэнцыі Гарадзенскага з’езда фармальна не адносіцца, але на ўсялякі выпадак дазваляецца выступіць пасрэднікам у перамовах, якія маглі б скончыцца падпісаннем адпаведнага трактата паміж Сапегамі і Каралем Станіславам Радзівілам; 7) дамагацца пакрыцця шкоды, нанесенай уладанням Ганны Крысціны з Любамірскіх, удавы Дамініка Мікалая Радзівіла (у першым шлюбе Сапежынай), і яе сына, бабруйскага старасты Яна Казіміра Сапегі; 8) імкнуцца, каб удзельнікі перамоваў заставаліся на баку караля „супраць усіх махінацый”; 9) намагацца адстойваць інтарэсы каралеўскага скарбу, што ў першую чаргу датычыла выплаты прыбыткаў з Шавельскай эканоміі, а таксама 100 тыс. злотых з мытных збораў; з Гарадзенскай эканоміі мусіў быць выдалены лагер рэспубліканскага войска і пакрыты шкоды, нанесеныя „ўбогім людзям”; 10) адстойваць прэтэнзіі Берэнта Лехмана, контрагента Аўгуста II: дамагацца выплаты яму мытных паступленняў у адпаведнасці з кантрактам, пакрыцця ранейшых выдаткаў, прызнання яму запазычанасці чарэйскіх уладанняў Бенядзікта Паўла Сапегі (240 тыс. злотых) з магчымасцю іх перадачы ў заклад, прызнання запазычанасці друйскіх уладанняў Казіміра Яна і Аляксандра Паўла Сапегаў (12 тыс. талераў) з магчымасцю іх перадачы таму, хто гэтую суму выплаціць, перадачы яму ж з новага года паводле кантракта мытні ВКЛ[13]. Інструкцыя была паслана Шчуку наўздагон. 28 верасня для яго быў падпісаны згаданы ў інструкцыі крэдэнс[14]. У гэты ж дзень Аўгуст II падпісаў універсал, якім заклікаў шляхту да згоды, паколькі шведы могуць паспрабаваць выкарыстаць раскол дзеля адхілення, яго, караля, ад

[13] AGAD, APP, sygn. 55, t. I, k. 612–615 (Інструкцыя Аўгуста II для С. А. Шчукі на Гарадзенскі з’езд, 27 верасня 1701 г.).

[14] Тамсама, k. 606–607 (Крэдэнс Аўгуста II для С. А. Шчукі, як свайго камісара на Гарадзенскі з’езд, Варшава, 28 верасня 1701 г.).

улады, а таксама паведаміў пра прызначэнне Шчукі пасрэднікам[15]. Адначасова ім жа былі падпісаны лісты да сенатараў[16], і асобна — да ўраднікаў ВКЛ[17], якія таксама заклікалі да згоды і прызначаліся галоўным чынам для рэспубліканцаў[18].

Займаліся пошукам пасрэднікаў са свайго боку і Сапегі. 17 верасня да серадзскага ваяводы Яна Хрызастома Пянёнжка прыбыў іх пасланнік, ксёндз Азямблоўскі. У прывезеным ім лісце вялікі гетман „ледзьве не заклінаў" ваяводу пагадзіцца на пасрэдніцтва. Пасля доўгіх роздумаў Пянёнжак згадзіўся на гэтую місію, каб садзейнічаць вырашэнню канфлікту, „на які не толькі цэлая Айчына, але і еўрапейскі свет заглядаецца"[19]. Спачатку таксама ў Горадню пагадзіўся ехаць пазнаньскі біскуп Мікалай Свянціцкі[20]. На пачатак з'езда Казімір Ян і Бенядзікт Павел Сапегі выслалі да яго ўдзельнікаў прывітальны ліст, дэманструючы гатоўнасць да перамоваў і прапануючы пасрэднікаў, якімі названыя пазнаньскі біскуп Свянціцкі, серадзскі ваявода Пянёнжак, холмскі падкаморы Томаш Ян Раманоўскі, а таксама падляшскі ваявода, якім быў на той час Стэфан Мікалай Браніцкі[21]. Пра

15 Российская национальная библиотека в Санкт-Петербурге. Рукописное отделение (РНБ. Рук. отд.). Ф. 957, Pol. F. IV. 257, с. 9–9об. (Копія ўніверсала Аўгуста ІІ, Варшава, 28 верасня 1701 г.).

16 Biblioteka Polskiej Akademii Nauk w Kórniku (BPANKórn.), Rkps. 2215, k. 40–40v (Копія ліста Аўгуста ІІ да сенатараў ВКЛ, Варшава, 28 верасня 1701 г.); Biblioteka Zakładu Narodowego im. Ossolińskich we Wrocławiu (BOss.), Rkps. 233/II, s. 669 (Тое самае).

17 BOss., Rkps. 233/II, s. 670 (Копія ліста Аўгуста ІІ да ўраднікаў ВКЛ, 28 верасня 1701 г.); BPANKórn., Rkps. 2215, k. 40 (Тое самае, б. д.).

18 AGAD, AR, dz. V, sygn. 5143, k. 25 (Я. Германоўскі да К. С. Радзівіла, з Варшавы, 29 верасня 1701 г.).

19 Тамсама, sygn. 11645, k. 31–32 (Я. Х. Пянёнжак да К. С. Радзівіла, 19 верасня 1701 г.).

20 Тамсама, sygn. 5143, k. 25 (Я. Германоўскі да К. С. Радзівіла, з Варшавы, 29 верасня 1701 г.).

21 Biblioteka Muzeum Narodowego im. Czartoryskich w Krakowie (BCzart.), Rkps. 2115, s. 82–83 (Копія ліста К. Я. і Б. П. Сапегаў

ўдзел апошняга ў перамовах нічога не вядома. Для трох першых Сапегамі ў Тыкоціне 24 верасня быў падрыхтаваны спіс з папярэднімі ўмовамі, які прадугледжваў: 1) бяспеку пошты і свабоднай перапіскі, як уступнае пажаданне; 2) вяртанне Сапегам міністэрстваў і іншых урадаў; 3) вяртанне ўсіх уладанняў; 4) пакрыццё шкоды, нанесенай у выніку спусташэння маёнткаў, спагнання кантрыбуцый і прыўлашчвання прыбыткаў; 5) скасаванне ўсіх вынесеных завочна дэкрэтаў (замест гэтага Сапегі абяцалі добраахвотна задаволіць усе прэтэнзіі ў адпаведнасці з дадзенымі распіскамі). Патрабаванні ахоплівалі таксама ўсіх іх прыхільнікаў, якія пацярпелі ад рэспубліканцаў[22]. 25 верасня Бенядзікт Павел Сапега ў лісце да Шчукі выказваў цвёрдую пазіцыю і не пагаджаўся на кампраміс ні ў справе свабоднага распараджэння ўрадамі, ні наконт прэтэнзій да ранейшай дзейнасці Сапегаў на гэтых урадах, ні на пакрыццё дзяржаўных даўгоў (перад войскам і г. д.), якія ўзніклі пад час іх знаходжання на гэтых ўрадах[23]. Па нейкіх прычынах у апошні момант ад пасрэдніцтва адмовіўся біскуп Свянціцкі[24], і Пянёнжак з Раманоўскім выехалі ў Горадню ўдвух.

Свой праект у інтарэсах Сапегаў (датаваны 26 верасня) прапанаваў і мальбаркскі ваявода Ян Ежы Пшэбяндоўскі. Ён прадугледжваў: 1) падрыхтоўку ўсеагульнай згоды, а не толькі з домам Сапегаў; 2) вяртанне Сапегам уладанняў шляхам скасавання Алькеніцкай пастановы або яе змякчэння, а таксама задавальненне прэтэнзій крэдытораў у звычайным судовым парадку; 3) вяртанне міністэрстваў і іншых урадаў ранейшым уладальнікам, калі сойм не прыме на гэты конт

на Гарадзенскі з'езд, б. д., перад 26 верасня 1701 г.).

22 AGAD, APP, sygn. 73, t. I, k. 274–275 (пункты К. Я. і Б. П. Сапегаў для пасрэднікаў на Гарадзенскі з'езд, Тыкоцін, 24 верасня 1701 г.).

23 Тамсама, sygn. 55, t. I, k. 672–679 (Б. П. Сапега да С. А. Шчукі, з Тыкоціна, 25 верасня 1701 г.).

24 AGAD, AR, dz. V, sygn. 5143, k. 25 (Я. Германоўскі да К. С. Радзівіла, з Варшавы, 29 верасня 1701 г.).

іншага рашэння; 4) выплату войску 4 чвэрцяў заробку ў адпаведнасці з Пузавіцкім трактатам 1698 г. і канстытуцыяй аб Скарбовым Трыбунале ВКЛ 1699 г.; 5) пераход скарбу ў распараджэнне Бенядзікта Паўла Сапегі; 6) роспуск войска, як магчымы кампраміс, у выніку якога гетман ператварыўся б у тытулярнага; калі б такі варыянт не праходзіў з-за пагрозы вайны са Швецыяй, то правядзенне такога абмежавання ўлады гетмана, якое б не дазваляла празмернага ўжывання сілы; 7) гарантаванне бяспекі ўладанням бабруйскага старасты Яна Казіміра Сапегі[25]. Праект („мемарыял”) быў перададзены Сапегам і (магчыма, праз іх) Шчуку. Бенядзікт Павел Сапега выказаў толькі засцярогі наконт абмежавання паўнамоцтваў найвышэйшыхураднікаў, як „рэчы далікатнай”[26].

Гарадзенскі з’езд пачаў працу 26 верасня пад дырэкцыяй генеральнага палкоўніка Міхала Сервацыя Вішнявецкага. Кола ўдзельнікаў (камісараў) істотна адрозніvalася ад мінулага з’езда; дзе-нідзе ранейшым камісарам напісалі дадаткі да інструкцый[27]. Адкрыццё

[25] AGAD, APP, sygn. 55, t. I, k. 626 (пункты *ex parte* Сапегаў, прапанаваныя Я. Е. Пшэбяндоўскім, 26 верасня). У канцы праекта прыпіска з шэрагам пунктаў, не зусім выразна прапісаных і, напэўна, не разлічаных на рэспубліканцаў (хутчэй абяцанні для заахвочвання Сапегаў), у тым ліку: 1) дапамога вялікаму гетману на сойме пад час справаздачы і кампенсацыя пакрыўджаным праз прызнанне ім пэўнай сумы; 2) спрыянне ў „нойбургскай справе” як наконт апекі, так і наконт прызнання кантракта на набыццё гэтых уладанняў; кампенсацыя жонцы (магчыма, Юрыя Станіслава Сапегі, — за шкоды нанесеныя яе ўладанням. — *Д. В.*); 3) пячаткі *facilitas confidentia* (? — *Д. В.*); 4) абяцанне не пакрываць віленскага каноніка Белазора, падазраванага ў арганізацыі забойства Міхала Францішка Сапегі; 5) узнагароджанне ў памеры 100 тыс. за шкоды сапежынскім і „нойбургскім” уладанням.

[26] Тамсама, k. 681–682 (Б. П. Сапега да С. А. Шчукі, з Тыкоціна, 3 кастрычніка 1701 г.).

[27] Lietuvos Valstybės istorijos archyvas (LVIA), SA, b. 4716, l. 1216–1279v (дадатак да інструкцыі камісарам Віленскага павета, дадзены на рэляцыйным сойміку 30 жніўня 1701 г.); Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў Мінску

паседжанняў праходзіла ў кляштары езуітаў. Назаўтра кіраўніцтва перанесла нарады ў палац Казіміра Яна Сапегі (уся маёмасць Сапегаў у ВКЛ рэспубліканцамі была канфіскаваная). 28 верасня Вішнявецкі вынес на разгляд удзельнікаў свае прапановы, змест якіх, на жаль, невядомы. На наступны дзень усе ўдзельнікі былі запрошаны генеральным палкоўнікам да яго на імяніны. Святкаванне праходзіла ў лагеры рэспубліканскага войска ВКЛ, які размяшчаўся недалёка ад Горадні. Пры гэтым быў праведзены яго агляд[28].

Тым часам Шчука па дарозе наведаўся да сябе ў Шчучын (Мазавецкі), адкуль толькі 7 кастрычніка выехаў нарэшце ў Горадню, „дзе, *ut fertur*, усе справы ўжо павінны быць укладзены *in ordine* да згоды, жадаючы іх міласцяў паноў Сапегаў зноў дапусціць да булавы, якую б [рэспубліканцы] хацелі мець *in suspenso* аж да будучага сойма, а гэта для таго, каб гарантаваць сабе амністыю *ab universa Reipublicae* і для абмежавання яе (булавы. — *Д. В.*) паўнамоцтваў, але *plurimi dubitant*, каб іх міласці каронныя маглі дапусціць *circumscriptionem*, бо тады такое ж абмежаванне магло б з часам *praetendi* і ў Кароне”[29].

Вечарам 8 кастрычніка Шчука прыехаў у Горадню, з ім адразу ж сустрэўся Міхал Сервацый Вішнявецкі; услед за ім на кватэру падканцлера пачалі прыбываць павятовыя камісары. Назаўтра за паўтары мілі ад Горадні прайшоў попіс войска, на які быў запрошаны таксама і Шчука[30].

Аднак публічны прыём на з’ездзе пасрэднікі атрымалі толькі 12 кастрычніка. У сваёй прамове Шчука заклікаў

(НГАБ), ф. 1729, воп. 1, спр. 5, арк. 694–694адв. (дадатак да інструкцыі камісарам Мсціслаўскага ваяводства, дадзены на фіскальных судах Андрэю Казіміру Войну-Аранскаму, як пасланніку на Гарадзенскі з’езд). Дадаткі датычылі галоўным чынам выпраўлення тарыфа гіберны.

28 AGAD, AR, dz. VI, sygn. II-79, s. 46.

29 AGAD, AR, dz. V, sygn. 5143, k. 28 (Я. Германоўскі да К. С. Радзівіла, з Варшавы, 9 кастрычніка 1701 г.).

30 Biblioteka Zakładu Narodowego im. Ossolińskich we Wrocławiu (BOss.), Rkps. 2023/II, s. 100–101 (з Горадні, 10 кастрычніка 1701 г.).

да згоды з Сапегамі, паколькі нязгода можа быць патрэбная толькі шведскаму каралю, які толькі і чакае, каб выкарыстаць яе ў сваіх інтарэсах. Размова ішла ў тым ліку пра агучанае Карлам XII жаданне правесці дэтранізацыю Аўгуста II. Прыклаўшы ўсё сваё красамоўства, Шчука, які быў адным з найлепшых прамоўцаў Рэчы Паспалітай, падаў усю справу так, што дасягненнем згоды бакі падтрымалі б у першую чаргу караля[31]. Ян Хрызастом Пянёнжак пабудаваў сваю прамову на біблейскіх алюзіях, заклікаючы таксама да згоды, якімі б непераадольнымі не здаваліся супярэчнасці, бо для Бога няма нічога немагчымага. Напрыканцы ён адзначыў, што пасрэднікі не атрымалі ад рэспубліканцаў яшчэ ніякіх прапановаў[32]. Адказваў кожнаму з пасрэднікаў Вішнявецкі, які дзякаваў за намаганні, у тым ліку каралю, але адначасова скардзіўся на Сапегаў[33].

Да канкрэтных прапановаў пасрэднікі прыступілі толькі назаўтра. Шчука, у адпаведнасці з каралеўскай інструкцыяй, адразу ж прапанаваў пагадзіцца на вяртанне Сапегам урадаў і маёнткаў. Пасля працяглай паўзы пачаліся водгукі з боку рэспубліканцаў, якія ўзгадалі пра непарушнасць Алькеніцкай пастановы. Аднак хутка ўдзельнікі з’езда сышліся на думцы, што замірэнне неабходнае, але пагаджаліся на вяртанне толькі ўладанняў. Нараканні выклікаў і прывітальны ліст Сапегаў, зачытаны пасрэднікамі надоечы, подпісы пад якім суправаджаліся іх поўнай тытулатурай. Удзельнікі з’езда пачалі патрабаваць ад пасрэднікаў, каб Сапегі выслалі новы ліст. Шчука з Пянёнжкам ледзьве іх ад гэтага адгаварылі. Тады рэспубліканцы вярнуліся да свайго

[31] BCzart., Rkps. 195, nr 72, s. 271–274 (прамова С. А. Шчукі на Гарадзенскім з’ездзе, 12 кастрычніка 1701 г.); тое самае: BOss., Rkps. 233/II, s. 367–370; Lietuvos Mokslų Akademijos centrinė biblioteka (LMAB), f. 148, b. 68, l. 38v–41v; Biblioteka Narodowa w Warszawie (BN), Rkps. 6650, s. 588–593; BPANKórn. 394, k. 405–407; AGAD, AR, dz. II, ks. 38, s. 554–559.

[32] BOss., Rkps. 233/II, s. 236–238 (прамова Я. Х. Пянёнжка на Гарадзенскім з’ездзе, 12 кастрычніка 1701 г.); тое самае: BN, Rkps. 6650, s. 593–598; AGAD, AR, dz. II, ks. 38, s. 559–564.

[33] BOss., Rkps. 2023/II, s. 101 (з Горадні, 13 кастрычніка 1701 г.).

старога праекта, пададзенага яшчэ ў Варшаве і паўторна агучанага цяпер. Калі Шчука іх і ад гэтага адгаварыў, тыя запатрабавалі, каб Сапегі спачатку прызналі Алькеніцкую пастанову, а потым ужо прасілі пра дараванне і паслабленне накладзеных пакаранняў. Пасля працяглых спрэчак рэспубліканцы агучылі апошняе патрабаванне: каб Казімір Ян Сапега адмовіўся ад вялікай булавы. Шчука запярэчыў, што гэта будзе насуперак праву і польскія паслы на сойме гэтага не дазволяць. Тым не менш, рэспубліканцы дамагліся, каб пасрэднікі выслалі гэтае патрабаванне Сапегам у Тыкоцін[34]. Аднак ні на гэта, ні на прызнанне Алькеніцкай пастановы Казімір Ян Сапега ў лісце да Станіслава Антонія Шчукі ад 14 кастрычніка катэгарычна не пагаджаўся[35].

17 кастрычніка Шчука заявіў, што вялікі гетман не можа адмовіцца ад булавы, але заклікаў не спыняць на гэтым перамовы. Рэспубліканцы ў адказ заявілі, што маюць у сваім распараджэнні доказы „здрады" Сапегаў і абяцалі назаўтра іх абнародаваць. Над перамовамі навісла пагроза зрыву.

Назаўтра, пасля імшы, якую ў езуіцкім касцёле адслужыў віленскі біскуп Канстанцый Казімір Бжастоўскі, паседжанні былі аднаўлены. Удзельнікі з'езда спачатку звярнуліся да Шчукі з просьбай агучыць далейшыя прапановы, над якімі ён працаваў з учарашняга дня, але той адмовіўся, пакуль не будуць вырашаны новыя цяжкасці, прапанаваўшы тым самым або пацвердзіць абвінавачанні Сапегаў у здрадзе доказамі, або зняць з парадку дня. Пасля працяглых ваганняў рэспубліканцы выбралі першы варыянт[36].

Яшчэ ад пачатку з'езда хадзілі чуткі пра таемнае пагадненне, нібыта заключанае паміж Сапегамі і Агінскімі. Паводле версіі рэспубліканцаў, яго копія была нібыта

[34] BOss., Rkps. 2023/II, s. 101–103 (з Горадні, 13 кастрычніка 1701 г.).

[35] AGAD, APP, sygn. 55, t, I, k. 690–693 (К. Я. Сапега да С. А. Шчукі, з Тыкоціна, 14 кастрычніка 1701 г.).

[36] BOss., Rkps. 2023/II, s. 103–104 (з Горадні, 17 кастрычніка 1701 г.).

прысланая Панцэжынскім (звязаным з Сапегамі) яшчэ летам на Віленскі з’езд, але не была тады прынята да разгляду. Зараз жа на пачатку з’езда яна была абнародавана. На нарадзе рэспубліканцы пастанавілі зрабіць выгляд, быццам хочуць аднавіць гэтае пагадненне. Ім нібыта ўдалося „завабіць” Панцэжынскага заявай, што без арыгінала яны зрабіць гэтага не могуць, і той паабяцаў паказаць арыгінал пагаднення, які захоўваўся ў адным з кляштараў. Калі кіраўніцтва рэспубліканцаў з’ехалася на ўказанае месца, Панцэжынскі дастаў арыгінал і паказаў яго Грыгорыю Антонію Агінскаму. Той узяў пагадненне з яго рук і, не аддаючы, паехаў з ім проста на з’езд і абнародаваў у прысутнасці пасрэднікаў[37].

Дакумент насіў назву „Пункты пагаднення паміж домам яснавяльможных іх міласцяў паноў Сапегаў і яснавяльможным яго міласцю панам Грыгорыем Агінскім, жамойцкім старастам, і домам іх міласцяў паноў Агінскіх”. Паводле яго, жамойцкі староста абавязваўся: 1) скіраваць усе сілы на вывад з ВКЛ саксонскага войска і больш ніколі яго не ўпускаць; 2) аб’яднаць войска ВКЛ з каронным і шведскім дзеля ратавання свабоды; 3) не дапускаць разам з кароннай шляхтай уступлення Рэчы Паспалітай у вайну са Швецыяй, нават калі дзеля гэтага давялося б адрачыся ад вернасці каралю; 4) арганізаванае рэспубліканцамі войска прывесці і аддаць пад уладу вялікага гетмана; 5) дапамагаць Сапегам у вяртанні ўрадаў і ўладанняў; пасля Віленскага з’езда, прызначанага на 22 ліпеня, перадаць у валоданне Сапегам іх уладанні, якія да яго трапілі пасля Алькенікаў; 6) на Віленскім з’ездзе клапаціцца пра заключэнне мірнага пагаднення з Сапегамі; калі б гэта не атрымалася — перадаць ім войска; 7) пад дадзеным пагадненнем павінны падпісацца за дом Агінскіх і адказваць сваімі ўладаннямі тыя асобы, якіх назаве прадстаўнік Сапегаў;

[37] BPANKórn., Rkps. 2215, k. 45a–45a v (копія ліста М. К. Коцела да К. К. Бжастоўскага, 12 лістапада 1701 г.). Копія, верагодна, несапраўдная, бо віленскі біскуп Бжастоўскі прысутнічаў на з’ездзе пад час абнародавання „пагаднення” і яму не было патрэбы ўсё гэта распавядаць.

8) бакі замацоўвалі пагадненне прысягай. Што цікава, подпісы пад пагадненнем стаялі толькі Казіміра Яна і Бенядзікта Паўла Сапегаў. Пасля яго абнародавання ўнізе была зроблена пазнака, што 18 кастрычніка 1701 г. на Гарадзенскім з'ездзе яно было прэзентавана і публічна прачытана, што пацвердзілі сваімі подпісамі прысутныя пры гэтым генеральны палкоўнік Вішнявецкі, падканцлер Шчука, віленскі біскуп Бжастоўскі, серадзскі ваявода Пянёнжак і холмскі падкаморы Раманоўскі[38].

Натуральна, сам Агінскі заявіў, што ніякіх дамоваў не падпісваў, а яго паводзіны былі нібыта закліканы гэта пацвердзіць, і рэспубліканцы, прынамсі на выгляд, у ім не ўсумніліся[39]. Працягваючы дэманстраваць сваю нявіннасць, жамойцкі староста загадаў актыкаваць пагадненне ў гарадзенскіх гродскіх кнігах[40]. Сапегі таксама адмаўлялі сваё дачыненне: яшчэ на пачатку з'езда, пасля з'яўлення копіі, Бенядзікт Павел напісаў Шчуку, што „з панам Агінскім ніякага заключэння [пагаднення] не было — гэта вашай міласці пану па сакрэту паведамляю"[41]. Тым самым падскарбі прызнаваў факт перамоваў, але адмаўляў, што яны скончыліся пагадненнем. Зрэшты, перамовы сапраўды мелі месца і, напэўна, не былі вялікім сакрэтам. Пачаліся яны ў Варшаве ў чэрвені перад соймам і працягваліся ў ліпені ў Мсцібаве. Пасрэднікам выступаў менскі староста Крыштаф Завіша, які адназначна засведчыў, што да пагаднення на іх не

[38] BCzart., Rkps. 195, nr 73, s. 275–277 („Пункты пагаднення паміж домам яснавяльможных іх міласцяў паноў Сапегаў і яснавяльможным яго міласцю панам Грыгорыем Агінскім…", б. д., выпіс з кніг гарадзенскага гродскага суда); AGAD, APP, sygn. 55, t, I, k. 646–647 (копія, якая засталася ў Шчукі; тэкст месцамі адрозніваецца); тое самае: AGAD, AR, dz. II, ks. 38, k. 578–580; тамсама, dz. II, sygn. 1928, k. 1–2; AGAD, Archiwum Zamojskich (AZ), sygn. 3055, k. 99–100; BN, Rkps. 6650, k. 609; BCzart. 2115, s. 84; LMAB, f. 148, b. 68, s. 53–54.

[39] BPANKórn., Rkps. 2215, s. 45a v.

[40] BCzart., Rkps. 195, nr 73, s. 275.

[41] AGAD, APP, sygn. 55, t, I, k. 682 (Б. П. Сапега да С. А. Шчукі, з Тыкоціна, 3 кастрычніка 1701 г.).

дайшло[42]. З'яўленне дакумента было нечаканасцю і для каронных саюзнікаў Сапегаў. Прымас Міхал Радзяёўскі атрымаў яго копію разам з лістом Шчукі ад 19 кастрычніка і, па ўласным прызнанні, спачатку ашукаўся. Прымас пытаўся ў падканцлера: „Ці не тыя гэта пункты, пра якія ў Варшаве шапталіся, што яго міласць пан Агінскі пагадзіўся з Сапегамі, ад'язджаючы з Варшавы?" Далей выказваў меркаванне, што праз гэта не павінны зрывацца перамовы, „хаця б яны былі і сапраўдныя"[43].

Абнародаванне паперы дало прадказальны вынік — пачаліся галасы супраць пагаднення з Сапегамі. Гэта выклікала непакой пры двары. Радзівілаўскі карэспандэнт Ян Антоній Гардына адзначаў 21 кастрычніка ў лісце з Варшавы, што кароль са сваім дваром вельмі разгублены пасля навін з Гародні пра тое, што рэспубліканцы не хочуць замірэння, бо і на яго падзе падазрэнне[44]. На наступны дзень з Варшавы прыйшла процілеглая інфармацыя. Пшэбяндоўскі, які па-ранейшаму выступаў за супрацоўніцтва з Сапегамі, пісаў Шчуку, што нязгода пагражае вялікімі праблемамі на сойме і ўскладніла б

[42] Pamiętniki Krzysztofa Zawiszy, wojewody mińskiego (1666–1721) / wyd. J. Bartoszewicz. Warszawa, 1862. S. 100, 102. Я. Будровіч-Навіцкі на падставе, магчыма, недакладнай інтэрпрэтацыі Завішы вырашыў, што ў Гародні праходзіла трэцяя стадыя перамоваў паміж Сапегамі і Агінскім, хаця, відавочна, перамовы ішлі з рэспубліканцамі ў цэлым. Гэта паслужыла аргументам на карысць тэорыі, што Агінскі ўвесь гэты час трымаўся нейтралітэту і ледзьве не перайшоў на бок Сапегаў і Швецыі: Budrowicz-Nowicki J. Piotr I, August II i Rzeczpospolita 1697–1706. Kraków, 2010. S. 135–136. На нашу думку, эпізод з летнімі перамовамі тлумачыцца тым, што Агінскі спрабаваў весці сваю ўласную гульню, гэта дыктавалася яго непамернымі амбіцыямі, зайздрасцю да Вішнявецкага і намаганнем рабіць усё яму насуперак. Гэтым жа ў пэўнай ступені тлумачацца яго паводзіны на з'ездзе: як толькі Вішнявецкі пачынаў схіляцца да пагаднення, Агінскі ішоў на абвастрэнне. Невыпадкова ў канцы года, перад соймам, яны былі ўжо канчаткова пасвараныя.

[43] AGAD, APP, sygn. 163, t. III, k. 383 (М. Радзяёўскі да С. А. Шчукі, 25 кастрычніка 1701 г.).

[44] AGAD, AR, dz. V, sygn. 5359/I, k. 182 (Я. А. Гардына да К. С. Радзівіла, з Варшавы, 21 кастрычніка 1701 г.).

магчымыя перамовы са шведамі[45]. У той жа час Длускі, варшаўскі карэспандэнт Шчукі, паведамляў пра настроі пры двары наступнае: „Усе тут як апараныя — выглядаюць адтуль або пацехі, або засмучэння. <…> Улавілі тут, што кароль яго міласць згоды не хоча *absolute*, процілеглыя бакі *per obliqua tacite irritando*, і абавязкова жадаючы зрабіць так, каб палякі біліся са шведам"[46]. Як вынікае, Аўгусту сталі вядомыя некаторыя падрабязнасці кантактаў паміж Сапегамі і Якубам Сабескім, які адным з першых падтрымаў план дэтранізацыі і да якога ў Алаву (Сілезія) у жніўні ездзіў Аляксандр Павел Сапега. Аўгуст пачаў падазраваць апазіцыю ў змове, быў „моцна разгневаны" на вялікага маршалка[47]. У такой атмасферы 23 кастрычніка Пшэбяндоўскі атрымаў ад Шчукі „Пункты да пагаднення", якія ацаніў як „нейкую загадку", і пераклаў каралю[48]. Іншая копія трапіла да яго праз каронную канцылярыю. Прынамсі на выгляд Аўгуст быў моцна збянтэжаны[49]. Назаўтра, 24 кастрычніка, каб ратаваць сітуацыю, Аляксандр Павел Сапега вымушаны быў прасіць у караля прабачэння за кантакты з Сабескім. Аўгуст, здавалася, стаў абыякавы да лёсу гарадзенскіх перамоваў, наконт якіх кінуў толькі: „Калі хочуць гінуць, няхай жа гінуць"[50].

Адным словам, кантэкст для падробкі быў выбраны ўдала: пра перамовы з Агінскім было вядома, як і пра кантакты са шведамі. Адсюль зразумела, чаму „Пункты…" адразу былі ўспрыняты неадназначна і выклікалі

[45] AGAD, APP, sygn. 163a, t. 30, k. 101 (Я. Е. Пшэбяндоўскі да С. А. Шчукі, з Варшавы, 22 кастрычніка 1701 г.).

[46] Тамсама, k. 112 (У. К. Длускі да С. А. Шчукі, з Варшавы, 22 кастрычніка 1701 г.); Smolarek P. Rzeczpospolita… S. 211.

[47] AGAD, APP, sygn. 163a, t. 30, k. 139 (У. К. Длускі да С. А. Шчукі, з Варшавы, 24 кастрычніка 1701 г.); Smolarek P. Rzeczpospolita… S. 205.

[48] Тамсама, k. 134 (Я. Е. Пшэбяндоўскі да С. А. Шчукі, з Варшавы, 24 кастрычніка 1701 г.).

[49] Тамсама, k. 405 (Каронны рэгент N. да С. А. Шчукі, з Варшавы, 25 кастрычніка 1701 г.).

[50] Тамсама, k. 139 (У. К. Длускі да С. А. Шчукі, з Варшавы, 24 кастрычніка 1701 г.).

сумненні, нягледзячы на тое, што зроблены самі па сабе на дастаткова прымітыўным узроўні. Акалічнасці іх з’яўлення — неверагодныя. Яны не маглі быць падпісаны Сапегамі напярэдадні другога Віленскага з’езда, бо на той час яшчэ не існавала шведска-сапежынскага паразумення, ад якога яны адштурхоўваюцца. Шмат якія абставіны таксама выклікаюць здзіўленне (аднабаковае падпісанне, захоўванне арыгінала ў кляштары пад бокам рэспубліканцаў і г. д.). Адзіная мэта, якую маглі ставіць перад сабой іх сапраўдныя аўтары — гэта дыскрэдытацыя Сапегаў праз выяўленне іх інтрыг супраць караля і супрацоўніцтва са шведамі. Прычым з усіх магчымых нядобразычліўцаў найбольшае падазрэнне выклікае сам Агінскі — у разыграным на з’ездзе спектаклі яму належала галоўная роля.

Пасля абнародавання „Пунктаў...” Шчука паставіў пытанне перад удзельнікамі з’езда такім чынам, што замірэнне ў сітуацыі, якая склалася, патрэбнае тым больш, паколькі правал перамоваў пагражае рэалізацыяй агучанага ў іх сцэнарыя пераходу Сапегаў на бок Швецыі, наступствы чаго нават складана сабе ўявіць[51]. Змякчыўшы патрабаванні бакоў, падканцлер падрыхтаваў свой уласны праект: 1) Сапегі з прыхільнікамі атрымліваюць на працягу двух тыдняў усе свае ўладанні; 2) ім жа вяртаюцца ўрады і годнасці, за выключэннем улады над войскам (захоўваецца арганізаванае рэспубліканцамі), якая часова, на працягу двух гадоў, застаецца ў генеральнага палкоўніка Міхала Сервацыя Вішнявецкага ў адпаведнасці з Алькеніцкай пастановай; 3) прэтэнзіі па сапежынскіх даўгах перакладаюцца на Галоўны Трыбунал ВКЛ, дзе павінны разглядацца паводле асаблівага рэестра два дні на тыдзень — у сераду і чацвер; 4) для вырашэння пытання апекі „нойбургскіх уладанняў” ствараецца спецыяльная камісія на чале з віленскім біскупам Канстанцыем Казімірам Бжастоўскім, куды ўваходзяць прадстаўнікі трох зацікаўленых бакоў разам з „нойбургскім” і рашэнне якой з’яўляецца канчатковым;

[51] BOss., Rkps. 2023/II, s. 104 (з Горадні, 17 кастрычніка 1701 г.).

5) усе маёнткі, якімі раней незаконна валодалі Сапегі, вернутыя цяпер іх сапраўдным уладальнікам, застаюцца пры апошніх, з той агаворкай, што Сапегі могуць аспрэчыць кожнае з такіх рашэнняў у Трыбунале ВКЛ (у тым жа парадку, што і прэтэнзіі да іх саміх); 6) скарбовыя кантракты, заключаныя рэспубліканцамі, застаюцца ў сіле да будучага сойма; 7) усе крыўды ўзаемна даруюцца; 8) у выпадку помсты за мінулае або парушэння каэквацыі кароль сваімі ўніверсаламі склікае супраць парушальнікаў паспалітае рушанне; 9) заключанае пагадненне на сойме зацвярджаецца асобнай канстытуцыяй[52].

Зачытаўшы праект перад удзельнікамі з'езда, падканцлер заклікаў абмяркоўваць канкрэтныя пункты, а не замыкацца на „здрадзе". У адказ побач з пратэстацыямі (як супраць асобных пунктаў, так і супраць праекта ў цэлым) прагучала слушная заўвага: паколькі размова ідзе пра здраду манарху, то спачатку трэба дачакацца яго рэакцыі, а паўнамоцтвы Шчукі як пасрэдніка павінны быць прыпынены. Шчука парыраваў, што бярэ ўсю адказнасць на сябе і гатовы асабіста адказваць перад каралём. Пасля працяглага маўчання было вырашана выслухаць сенатараў. Жамойцкі біскуп Ян Крышпін-Кіршэнштэйн выказаўся за мірнае пагадненне, і астатнія, у прынцыпе, яму не пярэчылі. Выказваліся толькі розныя ўмовы: ад Сапегаў патрабавалі адмовіцца ад булавы, задаволіць фінансавыя прэтэнзіі, вывесці з ВКЛ шведаў. Прагучала таксама думка адхіліць іх ад урадаў на тры гады; большасць, аднак, схілялася да ідэі прызнаць за Сапегам тытул вялікага гетмана, пазбавіўшы рэальных паўнамоцтваў. У цэлым сенатары схіляліся да праекта Шчукі, таму пасрэднікам было даручана пісаць Сапегам яшчэ раз[53].

У лісце да Сапегаў Шчука падрабязна ахарактарызаваў пазіцыі, якія займалі прадстаўнікі рэспубліканскай вярхушкі. Адзінства сярод іх не было. Адным з найбольш цяжкіх і прынцыповых пытанняў была

[52] BOss., Rkps. 233/II, s. 620–622 (праект С. А. Шчукі, прапанаваны на Гарадзенскім з'ездзе, [18 кастрычніка 1701 г.]).

[53] BOss., Rkps. 2023/II, s. 104–105 (з Горадні, 17 кастрычніка 1701 г.).

апека „нойбургскіх” уладанняў — Караль Станіслаў Радзівіл патрабаваў прызнання яе сабе і катэгарычна не пагаджаўся ні на стварэнне найвышэйшай камісіі, ні на прызначэнне са свайго боку для перамоваў трох давераных асобаў. Другая праблема была ў маёмасных і фінансавых прэтэнзіях да Сапегаў. Рэспубліканцы не пагаджаліся на прапанову Шчукі перадаць усе такія справы на разгляд Трыбунала, а настойвалі на стварэнні спецыяльнай камісіі і прызначэнні камісараў са свайго кола, прычым не хацелі аддаваць Сапегам маёнткаў да таго часу, пакуль усе прэтэнзіі не будуць задаволены. Праўда, шмат хто выказваў гатоўнасць да саступак у гэтым пытанні, але катэгарычна супраць выступілі браслаўскі маршалак Уладзіслаў Казімір Бяганскі і вялікі стражнік ВКЛ Людвік Канстанцый Пацей. Падканцлер зразумеў, што без вырашэння прыватных прэтэнзій не атрымаецца зрушыць з месца і палітычныя справы. Вяртанне ўрадаў Сапегам, асабліва булавы, выклікала цяжкасці ў тым плане, што рэспубліканцы сцвярджалі, быццам асцерагаюцца з іх боку помсты. Каралеўская гарантыя іх не задавальняла, бо ў се папярэднія дамовы былі сарваны нягледзячы на яе наяўнасць. Шчука, не ўяўляючы, што тут яшчэ можна прыдумаць, прапанаваў у якасці гарантыі свае ўласныя ўладанні і „сваю асобу”, але гэта было ўспрынята як жарт. Пра пакрыццё шкоды, нанесенай сапежынскім уладанням, і адказнасці за крымінальныя злачынствы (забойствы), здзейсненыя пасля Алькенікаў, рэспубліканцы не хацелі і слухаць, таму Шчука прапанаваў Сапегам дараваць узаемна крыўды і пагадзіцца на ўсеагульную амністыю. Таксама падканцлер ставіў перад імі пытанне запазычанасці чарэйскіх уладанняў, спаслаўшыся на каралеўскую інструкцыю, і пытаўся, як быць з рэспубліканскімі кантрактамі на збор скарбовых паступленняў. Акрамя таго, прасіў паўплываць на сваіх прыхільнікаў сярод удзельнікаў з’езда, каб тыя не маўчалі, а аказвалі яму падтрымку. Да ўсіх цяжкасцяў дадалася рэзкая змена пазіцыі Агінскага, які „зразу быў добры” і настроены на замірэнне, а пасля гісторыі з „пагадненнем” моцна

пакрыўдзіўся і ўсяляк гэта дэманстраваў. Услед за ім падліваў масла ў агонь жамойцкі харужы Казімір Заранак. Пачаліся, між іншым, новыя абвінавачанні ў супрацоўніцтве са шведамі[54].

Сапегі, адказваючы на ліст Шчукі, па многіх пунктах выказвалі па-ранейшаму цвёрдую пазіцыю, месцамі нават ішлі на абвастрэнне. Па „нойбургскім пытанні”, напрыклад, гатовыя былі спыніць перамовы, паколькі былі ўпэўнены ў сваёй слушнасці і лічылі, што прыватныя інтарэсы Радзівіла не павінны перашкаджаць замірэнню. Адносна маёмасных спрэчак прымалі прапанову Шчукі (зрэшты, ужо адкінутую апанентамі) наконт вырашэння іх праз Трыбунал, з тым аднак удакладненнем, што там жа будуць разглядацца іх уласныя прэтэнзіі, а таксама справы ўсіх, чые ўладанні пацярпелі за гэты час ад рэспубліканцаў. Адначасова яны выказвалі здзіўленне наконт рэспубліканскай прапановы стварэння спецыяльнай камісіі, „як бы іх міласці Галоўным Трыбуналам не давяралі”, і бачылі ў гэтым спробу стварэння фактычна новага судовага органа без дазволу сойма. Свае даўгі, на вяртанні якіх настойвалі апаненты, Сапегі падзялілі на тры катэгорыі. Да першай аднеслі пазыкі, узятыя імі як міністрамі на дзяржаўныя патрэбы — вяртацца яны таксама павінны былі з дзяржаўных сродкаў. Да другой — пратэрмінаваныя прыватныя, наконт якіх можна будзе па-добраму дамовіцца. Да трэцяй — усе астатнія, якія абяцалі выплаціць, як толькі атрымаюць назад свае маёнткі. Прычым яны адмаўлялі, што нешта вінаватыя браслаўскаму маршалку Бяганскаму, які больш за ўсё настойваў на камісіі. А Пацеі, паводле іх, дарэмна вінавацяць падскарбія ў прысваенні сумы (100 тыс. злотых), якую ён павінен быў выплаціць са скарбу спадчыннікам Агінскага (канцлера Марцыяна; Сапегі былі вінаватыя Пацеям розныя сумы яшчэ пасля віцебскага ваяводы Леанарда. — *Д. В.*), бо яна ўжо зболь-

[54] AGAD, APP, sygn. 55, t. I, k. 637–639 (ліст С. А. Шчукі да Сапегаў з просьбай хуткага і канчатковага адказу [18 кастрычніка 1701 г.]).

шага выплачана, а калі штосьці яшчэ і засталося, і гэта пацвердзіць калькуляцыя, то выплаціць, як толькі атрымае доступ да ўрада. Скліканне паспалітага рушання ў выпадку парушэння пагаднення павінна быць забаронена, паколькі баяцца помсты ў першую чаргу трэба ім, Сапегам, а не рэспубліканцам. Магнаты лічылі верхам несправядлівасці, калі б былі дараваныя шкоды, нанесеныя іх уладанням (прыўлашчаны чынш, спаленыя вёскі і гарады, выразаныя сяляне, каля 1 млн. злотых водкупу і сотні тысяч, забраныя ў купцоў). Не пагаджаліся таксама на дараванне крымінальных злачынстваў. Адзінае, што прымалі, — гэта вяртанне Лехману скарбовага доўгу з чарэйскіх уладанняў. Супраць жа скарбовых кантрактаў, заключаных рэспубліканцамі, выступалі адназначна — паўнамоцтвы падскарбія мусілі быць вернуты ў поўным аб'ёме. Сапегі апраўдваліся перад Шчукам, што не могуць заклікаць сваіх прыхільнікаў выказваць падтрымку на з'ездзе, паколькі рэспубліканцы (Коцел) пагражаюць ім фізічнай расправай. Адносна паводзін Агінскага заявілі, што самі шакаваныя з'яўленнем фальшыўкі, у сувязі з чым просяць для жамойцкага старасты мандатаў на сойм. Абвінавачанні ў супрацоўніцтве са шведамі называлі „больш чым хлуснёй, такой жа, як і згаданы дакумент, выдуманай нікчэмнымі людзьмі"[55]. Просьба выдаць мандаты сапраўды была накіравана каралю, што толькі яшчэ больш абвастрыла адносіны і негатыўна адбілася на перамовах[56].

21 кастрычніка на з'ездзе Шчука з пасрэднікамі зноў вымушаны быў агітаваць за свой праект, пераконваючы прысутных, што ён адлюстроўвае больш інтарэсы шляхты ВКЛ, а не Сапегаў. Рэспубліканцы тым часам дамагаліся поўнага складання вялікім гетманам сваіх паўнамоцтваў. Адначасова настойвалі, што ўладанні Сапегам не могуць быць вернуты да таго часу, пакуль усе

[55] Тамсама, k. 640–643 (ліст Сапегаў да С. А. Шчукі, б. д.).

[56] Тамсама, sygn. 163a, t. 30, k. 143 (Я. Е. Пшэбяндоўскі да С. А. Шчукі, Варшава, 27 кастрычніка 1701 г.); AGAD, AR, dz. V, sygn. 5359/I, k. 193 (Я. А. Гардына да К. С. Радзівіла, з Варшавы, 28 кастрычніка 1701 г.).

прэтэнзіі да іх не будуць разгледжаны кампрамісарскім судом. На з'ездзе быў падрыхтаваны вялізны спіс гэтых прэтэнзій, якія ў суме дасягалі 7 млн. злотых[57].

Назаўтра, 22 кастрычніка, сітуацыя толькі ўскладнілася. Усю першую палову дня Шчука ў прыватным парадку размаўляў з камісарамі, якія выступалі супраць прапанаваных умоваў, і спрабаваў давесці, што іх патрабаванні супярэчаць праву і самім асновам дзяржаўнага ладу Рэчы Паспалітай. З пачаткам паседжанняў сітуацыя не змянілася, а жамойцкі харужы Казімір Заранак нават выйшаў з пратэстацыяй, патрабуючы поўнага складання Казімірам Янам Сапегам паўнамоцтваў вялікага гетмана. Шчука ў сваім выступленні прапанаваў заявіць уголас, хто гатовы ўзяць на сябе адказнасць за наступствы і сарваць перамовы. Пасля працяглага маўчання прысутныя пагадзіліся падрыхтаваць свой уласны варыянт праекта[58].

Праект быў дасланы рэспубліканцамі Шчуку ў той жа дзень а 10-й гадзіне ночы, з агаворкай, што гэта іх апошнія патрабаванні. Ён уключаў наступныя пункты: 1) у выпадку вайны са Швецыяй улада над войскам па-ранейшаму павінна належаць генеральнаму палкоўніку нават пасля заканчэння тэрміну дзеяння Алькеніцкай пастановы (двух гадоў. — *Д. В.*); потым, у выпадку якой-небудзь іншай вайны, яна будзе перададзена гетману толькі па рашэнні сойма (пры ўмове яго паспяховага завяршэння); 2) вялікі маршалак павінен захаваць свае паўнамоцтвы (месца ў сенаце, раздаванне галасоў, нясенне перад каралём жазла і інш.), за выключэннем судовых, якія пераходзілі пажыццёва (або да павышэння Сапегі) да маршалка надворнага; 3) падскарбі таксама мог па-ранейшаму выконваць свае абавязкі, за выключэннем збору мытных паступленняў, які ў адпаведнасці з Алькеніцкай пастановай быў перададзены на два гады ў арэнду Коцелу з Агінскім і павінен быў заставацца за імі

57 BOss., Rkps. 2023/II, s. 105–106 (з Горадні, 23 кастрычніка 1701 г.).

58 Тамсама, k. 106.

да заканчэння кантракту; 4) вяртанне Сапегам уладанняў павінна адбыцца на працягу пяці тыдняў ад моманту падпісання пагаднення, пры ўмове задавальнення на працягу гэтага тэрміну прэтэнзій усіх несправядліва імі пакрыўджаных, што атрымалі адпаведныя дэкрэты ў Трыбунале ВКЛ у парадку, вызначаным Алькеніцкай пастановай; 5) апека „нойбургскіх уладанняў" застаецца Радзівілам у адпаведнасці з Алькеніцкай пастановай; 6) падзел іўеўскіх уладанняў Сапегаў паміж параненымі і нашчадкамі забітых ў Алькеніцкай бітве застаецца ў сіле; 7) застаюцца ў сіле таксама ўсе астатнія рашэнні, якія ўключае ў сябе Алькеніцкая пастанова[59].

Шчука адказаў на ўсе гэтыя прапановы, што „пагадненне не толькі не рухаецца наперад, але ідзе назад", паколькі раней рэспубліканцы былі не супраць вяртання Сапегам міністэрскіх урадаў, а праблема была толькі ў паўнамоцтвах вялікага гетмана. Падканцлер быў настроены ўжо на развітанне, але яго пераканалі паправіць у сваім праекце некаторыя пункты, спадзеючыся, што Сапегі іх таксама прымуць[60].

У выніку наступны варыянт праекта Шчукі ўтрымліваў далейшыя саступкі на карысць рэспубліканцаў. Першы пункт, наконт вяртання Сапегам уладанняў, захоўваўся ў ранейшым выглядзе. Другі, якім вярталіся ўрады, быў прыняты ў рэспубліканскай рэдакцыі: войска заставалася пад камандаваннем Вішнявецкага не проста да сканчэння тэрміну дзеяння Алькеніцкай пастановы, але, у выпадку вайны, і пасля гэтага, і магло быць перададзена Сапегу толькі па рашэнні сойма. У трэцім пункце замест Галоўнага Трыбунала для разгляду прэтэнзій да Сапегаў і іх даўгоў быў прапанаваны кампрамісарскі суд, які павінен быў пачаць працу ў Горадні праз два тыдні

59 AGAD, APP, sygn. 55, t. I, k. 644–645 (пункты пагаднення паміж шляхтай ВКЛ і Сапегамі, 22 кастрычніка 1701 г.); тое самае: LMAB, f. 148, b. 68, s. 54–54v; BOss., Rkps. 233/II, s. 671; BOss., Rkps. 2023/II, s. 106–107; BN, Rkps. 6650, s. 603; AGAD, AR, dz. II, sygn. 1928, k. 3; BCzart., Rkps. 2115, s. 88–89; Smolarek P. Rzeczpospolita… S. 209.

60 BOss., Rkps. 2023/II, s. 107 (з Горадні, 23 кастрычніка 1701 г.).

пасля рэляцыйных соймікаў. Для гэтага рэспубліканцы зараз жа на з’ездзе павінны прызначыць са свайго боку шэсць суддзяў з ліку незацікаўленых асобаў, якія не маюць да Сапегаў ніякіх прэтэнзій; столькі ж са свайго боку прызначаць Сапегі. Акрамя таго, бакі абяруць яшчэ адну (трынаццатую) асобу за маршалка. Суд павінен прымаць рашэнні большасцю галасоў і судзіць на ўзор Трыбунала. У чацвёртым пункце пакідалася прапанова стварэння камісіі на чале з біскупам Бжастоўскім для вырашэння пытання апекі „нойбургскіх” уладанняў. Пяты пункт захоўваўся ў ранейшым выглядзе (вяртанне ранейшым уладальнікам спрэчных маёнткаў, адабраных у Сапегаў, і вяртанне доўгу з чарэйскіх уладанняў) з той толькі розніцай, што Сапегі маглі аспрэчыць гэтыя рашэнні не ў Трыбунале, а на згаданым вышэй кампрамісарскім судзе. Апошнія чатыры пункты пакідаліся без зменаў: скарбовыя кантракты захоўваліся ў сіле да сойма; крыўды ўзаемна даравaліся; у выпадку парушэння пагаднення кароль сваімі ўніверсаламі склікаў паспалітае рушанне (як гарантыя ад помсты); на сойме пагадненне зацвярджалася канстытуцыяй[61]. Частка рэспубліканцаў, аднак, не хацела адступаць ад ранейшых патрабаванняў. Спрэчкі працягваліся да ночы, калі нарэшце было вырашана паслаць гэты праект Сапегам з той умовай, што гэта канчатковы варыянт і далейшых саступак не будзе[62]. Аднак пры гэтым, як вынікае, нават на яго не было ўсеагульнай згоды. Пазней у гэтым праекце была зроблена невялікая папраўка: пасля слоў пра гарантыі ад магчымай помсты была ўстаўлена фраза „пасля вяртання верхавенства і ўлады” для канкрэтызацыі, пра каго ідзе размова[63].

[61] AGAD, APP, sygn. 55, t. I, k. 648–650 (камісарскі праект С. А. Шчукі, б. д.); тое самае: AGAD, APP, sygn. 55, t. I, k. 659–661; BCzart., Rkps. 2115, s. 85–88; Smolarek P. Rzeczpospolita… S. 210.

[62] BOss., Rkps. 2023/II, s. 107 (з Горадні, 23 кастрычніка 1701 г.).

[63] AGAD, APP, sygn. 55, t. I, k. 651–653 (праект С. А. Шчукі, б. д.).

На гэты раз Сапегі пайшлі насустрач, прыняўшы, хаця і з агаворкамі, кампрамісарскі суд, найвышэйшую камісію па „нойбургскіх" уладаннях і інш. Больш падрабязна іх пазіцыя выкладзена ў лісце да Шчукі ад 24 кастрычніка. Напачатку было катэгарычна заяўлена, што Алькеніцкая пастанова не можа быць прынята імі ні цалкам, ні часткова. Магнаты лічылі, што ў іх больш падставаў хваляваца за сваю бяспеку, таму прапанавалі перадаць войска да сойма палявому гетману Юзафу Багуславу Слушку (замест Вішнявецкага. — *Д. В.*) ці якой-небудзь іншай нейтральнай асобе. Выказвалася згода замест Трыбунала на кампрамісарскі суд, які б пад час сойма ў Варшаве разглядаў даўгі і прэтэнзіі па спрэчных маёнтках. Апеку „нойбургскіх" уладанняў Сапегі пагаджаліся вынесці на разгляд спецыяльнай камісіі на чале з прымасам Міхалам Радзяёўскім (замест Бжастоўскага. — *Д. В.*), у якую б увайшлі ў якасці пасрэднікаў віленскі біскуп Бжастоўскі, вармінскі біскуп Залускі і яшчэ дзве ці тры асобы з абодвух бакоў (пры ўмове згоды на такі варыянт таксама „нойбургскага" боку). Скарб павінен быў перайсці ў поўнае распараджэнне падскарбія адразу пасля падпісання дамовы. Апошні абяцаў цалкам выплаціць чарэйскі доўг на згаданым кампрамісарскім судзе ў Варшаве. Далей магнаты пагаджаліся на ўзаемнае дараванне крыўдаў, за выключэннем крымінальных злачынстваў, а таксама прысвоеных прыбыткаў і праведзеных пабораў. Як рэспубліканцы будуць іх вяртаць — ці кожны паасобку, ці неяк цэнтралізавана — ім прапаноўвалася вырашыць самім. У выпадку парушэння пагаднення кароль і „ўся Рэч Паспалітая" павінны будуць дапамагчы пацярпеламу боку „войскамі і кароннымі ваяводствамі" (замест паспалітага рушання ВКЛ. — *Д. В.*). Аднак Сапегі ўсё адно выказвалі сумненне, што рэспубліканцы, нават падпісаўшы дамову, не будуць шукаць помсты. Прасілі таксама перадаць усё гэта Раманоўскаму і Пянёнжку, паведаміўшы, што гэта іх апошняе рашэнне. Напрыканцы яшчэ раз вярталіся да пытання выбранага з іх уладанняў за бягучы год чыншу, які павінен быць вер-

нуты ў поўным аб'ёме, а тое, што было прысвоена раней, прапанавалі таксама вынесці на кампрамісарскі суд[64].

Канчаткова праект пагаднення пасля ўнесеных Сапегамі папраўак выглядаў наступным чынам: 1) вяртанне сапежынскіх уладанняў на працягу двух тыдняў, для чаго прызначаецца двухбаковая камісія; 2) вяртанне урадаў і годнасцяў, за выключэннем улады над войскам, якое да сойма пераходзіць пад камандаванне палявога гетмана Слушкі, а ўжо на сойме прымаецца канчатковае рашэнне; 3) вынясенне даўгоў і ўзаемных прэтэнзій на кампрамісарскі суд, які пачне працу праз два тыдні ад пачатку сойма і ў склад якога ўвойдуць па шэсць незацікаўленых асобаў з кожнага боку і дырэктар, выбраны шляхам кампрамісу; перад гэтым касуюцца ўсе выракі, вынесеныя па дадзеных справах пасля Алькенікаў; 4) вырашэнне лёсу „нойбургскіх" уладанняў спецыяльнай камісіяй, якая збіраецца ў Варшаве на чале з прымасам Міхалам Радзяёўскім і ў складзе віленскага біскупа Бжастоўскага, вармінскага біскупа Залускага і яшчэ шасці асобаў ад зацікаўленых бакоў; 5) пераход скарбу ў распараджэнне падскарбія, які са свайго боку прызнае ўсе асігнацыі па заключаных рэспубліканцамі скарбовых кантрактах; 6) усеагульная амністыя і дараванне крыўдаў, за выключэннем крымінальных, а таксама шкоды, нанесенай сапежынскім уладанням, якая павінна быць кампенсавана, што асабліва датычыла прысвоенага нядаўна чыншу (наконт ранейшых пабораў за Сапегамі захоўваецца права дамагацца іх вяртання праз кампрамісарскі суд); 7) гарантыя ад помсты ці парушэння каэквацыі ў выглядзе ўзброенай дапамогі з боку караля, кароннага войска і польскай шляхты; 8) зацвярджэнне пагаднення канстытуцыяй і перадача яго ў друк[65].

[64] Тамсама, sygn. 73, t. I, k. 275–278; AGAD, AR, dz. II, ks. 38, s. 571–578; BN, Rkps. 6650, k. 604–609 (копія ліста Сапегаў да С. А. Шчукі, з Тыкоціна, 24 кастрычніка 1701 г.).

[65] AGAD, APP, sygn. 55, t. I, k. 655–658 (камісарскі праект, папраўлены Сапегамі, б. д.); тое самае: тамсама, k. 662–665; тамсама, sygn. 73, t. I, k. 278–280; AGAD, AR, dz. II,

25 кастрычніка Шчука агучыў пазіцыю Сапегаў перад удзельнікамі з'езда. Спадзявацца, што частковыя саступкі зробяць праект цалкам прымальным для рэспубліканцаў, не выпадала, але прынамсі яны дазвалялі рухацца далей[66]. Аднак нічога падобнага не адбылося. Пачаліся галасы супраць далейшых перамоваў. Шчука, якому дапамагаў і Вішнявецкі, да трэцяй гадзіны дня пераконваў удзельнікаў пагадзіцца хаця б на яго праект і паведаміць пра гэта Сапегам, каб на іх лягла віна за зрыў перамоваў. Але ўсё было дарэмна: праціўнікі пагаднення заявілі, што „ад сваіх пунктаў не адступяць і пойдуць з імі да Рэчы Паспалітай" (на сойм). Пачаліся пагрозы на адрас тых, хто спрыяў Сапегам, у тым ліку, верагодна, пасрэднікаў[67]. Урэшце падканцлер занатаваў на адвароце свайго апошняга праекта: „Рвецца згода на тым, каб [Сапега] паклаў булаву", дадаўшы ніжэй: „Ці варта пералічыць, хто [вінаваты]: 1. Яго міласць пан харужы літоўскі (магчыма, жамойцкі. — *Д. В.*); 2. Яго міласць пан [Крыштаф Дамінік Пузына], упіцкі стараста; 3. Яго міласць пан [Людвік Якуб] Хамінскі, ашмянскі камісар; 4. [Грыгорый Юзаф Катовіч], гарадзенскі харужы (апошні пункт выкраслены. — *Д. В.*)"[68].

Пасля зрыву перамоваў заставалася толькі лімітаваць з'езд і раз'ехацца. Ужо 25 кастрычніка быў гатовы адказ

sygn. 1938, k. 1–3; BCzart., Rkps. 2115, s. 89–91; Smolarek P. Rzeczpospolita… S. 210.

66 У акце лімітацыі з'езда ўзгадана, што рэспубліканцы на чацвёрты дзень пасля падачы ўласнага праекта дачакаліся „дэкларацыі з Тыкоціна" (верагодна, згаданага ліста Сапегаў да падканцлера) і „рэляцыі" Шчукі, што Сапегі „не толькі на гэтыя, ад нас прапанаваныя, але таксама і на пададзеныя ад яснавяльможнага яго міласці пана падканцлера пункты не даюць згоды, але свае, іншыя, складзеныя *ad placitum* прысылаюць": BPANKr., Rkps. 6122, k. 142v.

67 BOss., Rkps. 2023/II, s. 108 (з Горадні, 25 кастрычніка 1701 г.).

68 AGAD, APP, sygn. 55, t. I, k. 654. Застаюцца пэўныя сумненні, хто меўся на ўвазе пад „літоўскім харужым": Грыгорый Антоній Агінскі са сваім ранейшым урадам ці жамойцкі (не літоўскі) харужы Казімір Заранак (яго „правая рука"). У любым выпадку, усё паказвае на жамойцкага старасту, як галоўнага ініцыятара зрыву перамоваў.

на каралеўскую інструкцыю для Шчукі, дзе лёс перамоваў згадваўся ў агульных рысах, а ўся ўвага была засяроджана на апошніх пунктах, якія датычылі каралеўскіх інтарэсаў. Наконт паступленняў з Шавельскай эканоміі рэспубліканцы прасілі караля „цярпліва пачакаць” да сойма. Мытныя паступленні па скарбовых кантрактах, як было заяўлена, пайшлі на войска, і адміністратары цяпер іх выплаціць не могуць, у сувязі з чым прасілі адтэрміноўкі на год, да канца кантракту. Таксама было заяўлена, што каралеўскі кантракт на арэнду мытні Лехман не датрымаў (толькі за першы квартал 1701 г.), у чым сам вінаваты, але ўнесеная сума будзе яму вернута. Клапаціцца ж пра вяртанне Лехману сапежынскіх даўгоў (вялікага гетмана і маршалка) рэспубліканцы фармальна не павінны і могуць толькі параіць звярнуцца ў Трыбунал ВКЛ[69].

Назаўтра быў падрыхтаваны ліст ад з’езда да каронных ваяводстваў, дзе на пачатку звярталася ўвага на дэспатычныя паводзіны шведаў у Курляндыі і на поўначы ВКЛ. Уся віна за зрыў перамоваў ускладалася на Сапегаў, якія па-ранейшаму „палаюць помстай”, што толькі даказвае „аўтэнтычны дакумент, выяўлены на нашым з’ездзе, уласнымі рукамі іх міласцяў падпісаны, складзены на дэтранізацыю караля яго міласці <...> і на ўвядзенне шведаў” (копія прыкладалася). Аднак, адклаўшы гэты „доказ” да сойма, рэспубліканцы, з іх слоў, па-ранейшаму былі гатовы да перамоваў і нават пагаджаліся на скасаванне накладзеных на Сапегаў пакаранняў, адмову ад прэтэнзій па нібыта прысвоеных падатках, на вяртанне ўладанняў і ўрадаў (з затрыманнем хіба што апошніх на пэўны час дзеля ўласнай бяспекі), абы толькі былі задаволеныя прэтэнзіі да Сапегаў з боку крэдытораў, якія ацэньваліся ўжо на 8 млн. злотых. Але потым пераканаліся, што супрацоўніцтва Сапегаў са шведамі працягваецца, і што тыя ўжо нібыта нават прынялі швед-

[69] BCzart., Rkps. 2115, s. 103 (адказ на каралеўскую інструкцыю С. А. Шчуку, дадзены на Гарадзенскім з’ездзе 25 кастрычніка 1701 г.); LMAB, f. 148, b. 68, s. 47–48 (тое самае).

скую пратэкцыю, каб аднавіць сваё панаванне ў ВКЛ, і таму наўмысна адкідалі ўсе прапановы і саступкі[70]. Звяртае на сябе ўвагу велізарная па тых часах сума прэтэнзій да Сапегаў. Нават калі мела месца пэўнае перабольшанне, усё адно можна канстатаваць, што напярэдадні Алькенікаў Сапегі былі на мяжы банкруцтва. Такімі былі кошты падтрымання палітычнай гегемоніі і палітыкі, накіраванай на пашырэнне ўладанняў[71].

26 кастрычніка Гарадзенскі з'езд быў лімітаваны. У акце лімітацыі віна за зрыў перамоваў зноў жа ўскладалася на Сапегаў. Потым былі пералічаны іншыя справы, якія абмяркоўваліся на з'ездзе. Была прызначана камісія для праверкі разлікаў з войскам, выпраўлены тарыф гіберны і скасаваны папярэдні варыянт, прынятый пад Алькенікамі. Былі звольнены ад гіберны ўладанні духавенства, гарады Магілёў, Горадня і Ліда (у адпаведнасці з соймавымі канстытуцыямі) і шэраг прыватных асобаў. Тое самае датычыла рэпартыцыі войска ВКЛ (раскладкі на паветы): прынятая пад Алькенікамі касавалася, а замест яе зацвярджалася новая. Таксама ў акт лімітацыі былі ўнесены некаторыя рашэнні па ўладаннях былых сапежынцаў: Яну Шрэтэру (Шротэру), скарбнаму ВКЛ, былі вернуты Раклішкі ў Лідскім павеце, а Ізабэла Алена з Палубінскіх, жонка Юрыя Станіслава Сапегі, якая выплаціла на войска ВКЛ 120 тыс. злотых, была зацверджана ў сваіх спадчынных уладаннях. З'езд быў лімітаваны да 6 сакавіка 1702 г.[72]. Аднак узнавіць яго ў

[70] AGAD, AR, dz. II, ks. 38, s. 580–582 (копія ліста з Гарадзенскага з'езда да каронных ваяводстваў, 26 кастрычніка 1701 г.); тое самае: тамсама, ks. 36, s. 511; BN, Rkps. 6650, s. 611–614; BCzart., Rkps. 2115, s. 105–108; LMAB, f. 9, b. 6, s. 16v–17a; Ibid., f. 148, b. 68, s. 50v–52.

[71] Пра выдаткі на падтрыманне гегемоніі гл.: Rachuba A. Hegemonia Sapiehów na Litwie jako przejaw skrajnej dominacji magnaterii w życiu kraju // Władza i prestiż. Magnateria Rzeczypospolitej w XVI–XVIII wieku / pod red. J. Urwanowicza. Białystok, 2003. S. 217–229.

[72] BPANKr., Rkps. 6122, k. 142–147v (акт лімітацыі Гарадзенскага з'езда, 26 кастрычніка 1701 г.); тое самае (копіі): AGAD, AR, dz. II, sygn. 1926, k. 1–11; LMAB, f. 17, b. 133, s. 11–15v;

гэты час не атрымалася з-за пагрозы шведскага наступлення. У сувязі з паспешным заканчэннем Гарадзенскага з’езда акт яго лімітацыі падпісала адносна мала ўдзельнікаў (гл. дадатак 1)[73]. На развітанне выступіў Ян Хрызастом Пянёнжак, які выказаў шкадаванне, што Алькеніцкая пастанова стала краевугольным каменем, аб які разбіліся намаганні пасрэднікаў, а таксама надзею, што перамовы будуць працягнуты на сойме і скончацца пагадненнем[74]. Зрэшты, і самі рэспубліканцы, як вынікае з акта лімітацыі і лістоў да каронных ваяводстваў, фармальна не адмаўляліся ад іх узнаўлення.

Вішнявецкі пасля з’езда затрымаўся ў Горадні, каб скончыць рэпартыцыю (фармальна ўжо зацверджаную!)[75]. 1 лістапада войска з-пад Горадні было накіравана на кватэры[76]. Акрамя Вішнявецкага, затрымаліся таксама Ко-

BCzart., Rkps. 2115, s. 92–99; Рахуба А. Вялікае Княства Літоўскае… С. 359–360. 26 кастрычніка, у апошні дзень паседжанняў, Людвіку Канстанцыю і Казіміру Аляксандру Пацеям у адпаведнасці з атрыманымі ў Трыбунале дэкрэтамі было прызнана Дубровенскае графства, адабранае ў Сапегаў: палова — як спадчыннае ўладанне і палова — за 1 207 000 злотых. Гл.: НГАБ, ф. 1731, воп. 1, спр. 2, арк. 755 (падаўчы ліст Дубровенскага графства Пацеям, 30 кастрычніка 1701 г.); LMAB, f. 17, b. 133, l. 18 (тое самае); тамсама, l. 17 (універсал М. С. Вішнявецкага да Дуброўны і Дубровенскай воласці, Горадня, 30 кастрычніка 1701 г.).

[73] Параўн. таксама ліст С. Я. Слізня да К. С. Радзівіла ад 28 кастрычніка 1701 г. з Горадні: „… а то ледзьве ў чацвер мы выслухалі перасланы дакумент *limitationis*; усе раз’ехаліся, мала хто і падпісаў яго”: AGAD, AR, dz. V, sygn. 14573, k. 29.

[74] BOss., Rkps. 233/II, s. 242–243 (прамова Я. Х. Пянёнжка на закрыцці Гарадзенскага з’езда, б. д.); тое самае: LMAB, f. 168, b. 48, s. 57v.

[75] BCzart., Rkps. 2115, s. 110–118 (рэпартыцыя войскаў ВКЛ, прынятая ў Горадні, 27 кастрычніка 1701 г.). Датавана, верагодна, заднім числом, бо яшчэ 29 кастрычніка не была гатова: AGAD, AR, dz. V, sygn. 14226, k. 2–3 (В. Сялецкі да К. С. Радзівіла, з Горадні, 29 кастрычніка 1701 г.). Пра сістэму рэпартыцыі гл.: Віцько З. Ураўнаванне правоў // Энцыкл. ВКЛ. Т. 3. Мінск, 2010. С. 405.

[76] AGAD, AR, dz. V, sygn. 14226, k. 13–14 (В. Сялецкі да К. С. Радзівіла, з Горадні, 1 лістапада 1701 г.); AGAD, APP, sygn. 56, k. 102 (У. К. Длускі з Варшавы да С. А. Шчукі, з

цел і Пацей. Астатнія лідары і большасць удзельнікаў хутка раз’ехаліся. Аказалася, што праблема знайсці ахвотных данесці пра вынікі каралю. Спачатку планавалася, што ў Варшаву паедзе надворны падскарбі Мікалай Францішак Агінскі з лідскім гродскім пісарам Янам Сцыпіёнам, але апошні адмовіўся. Тады было прапанавана Юзафу Міхалу Краеўскаму, аршанскаму чашніку і камісару (менавіта на яго і Агінскага імя складзена інструкцыя), але і той не гарэў жаданнем і таксама адмовіўся. Урэшце пагадзіўся ехаць ашмянскі камісар, обер-лейтэнант Геранім Важынскі[77].

Інструкцыя паслам да караля змяшчала амаль даслоўны пераказ інструкцыі да каронных ваяводстваў і выкладзеных там аргументаў, потым ішлі розныя прыватныя просьбы. У першую чаргу ўзгадваліся фінансавыя інтарэсы прынца Якуба Сабескага (верагодна, звязаныя з Шавельскай эканоміяй). Перадавалася скарга шляхты Рэчыцкага павета на казакоў, якія нарабілі шмат шкоды на шляху з Украіны ў Інфлянты. Далей ішла скарга данатарыушаў Гарадзенскай, Магілёўскай, Берасцейскай і Аліцкай эканомій на саксонскіх рэвізораў-вайскоўцаў, якія прыраўнялі дробную шляхту да сялян, абкладаючы гібернай і рознымі паборамі. Паслы павінны былі прасіць караля, каб звольніў шляхту і не прызначаў больш саксонцаў у эканамічныя ўладанні. Таксама ішло заступніцтва за саноцкім чашнікам Зыгмунтам Стрыенскім, адміністратарам Гарадзенскай эканоміі, якога саксонцы адхілілі ад кіравання, нягледзячы на кантракт[78].

Паслы прыбылі ў Варшаву 22 лістапада[79]. У адказе Аўгуста II на дадзеную ім інструкцыю спачатку ішлі

Варшавы, 22 лістапада 1701 г.).

77 AGAD, AR, dz. V, sygn. 14573, k. 30 (С. Я. Слізень да К. С. Радзівіла з Горадні, 28 кастрычніка 1701 г.); тамсама, sygn. 14226, k. 10, 15–16 (В. Сялецкі да К. С. Радзівіла, з Горадні, 29 кастрычніка, 1 лістапада 1701 г.).

78 LMAB, f. 148, b. 68, s. 48–50v (інструкцыя паслам з Гарадзенскага з’езда да Аўгуста II, 8 кастрычніка (*sic*) 1701 г.); тое самае, б. д.: BCzart., Rkps. 2115, s. 99–103.

79 AGAD, APP, sygn. 56, k. 101 (У. К. Длускі з Варшавы да С. А. Шчукі, з Варшавы, 22 лістапада 1701 г.).

кампліменты ўдзельнікам з’езда, у тым ліку запэўненне, што кароль не забыўся на падтрымку літоўскай шляхты падчас элекцыі. Далей выказвалася шкадаванне з нагоды правалу перамоваў. Аўгуст звяртаў увагу, што шведы ўсё далей пранікаюць у ВКЛ, і таму „ў гэты час вельмі патрэбнае грамадзянскае адзінства, страшнае ворагам”. Далей заклікаў „прыступаць да згоды і з такой лёгкасцю прыехаць на будучы сойм, каб на самым пачатку *sine mora* адбылося пажаданае замірэнне”. Кароль паведамляў, што задаволіць інтарэсы Якуба Сабескага, а таксама паставіць перад расійскім царом пытанне кампенсацыі за нанесеныя казакамі шкоды. Што тычылася данатарыушаў, то ў эканамічных уладаннях пасэсія ў прынцыпе забаронена, а калі хтосьці хоча яе там мець, то павінен несці павіннасны цяжар побач з сялянамі. Просьбу пакінуць Стрыенскага адміністратарам кароль абяцаў адкласці на свае скарбовыя суды[80]. У лісце да Шчукі Аўгуст ІІ мог толькі выказаць шкадаванне з нагоды правалу перамоваў і абяцаў прыкласці на сойме ўсе сілы, каб яны скончыліся паспяхова[81].

Прапагандысцкія захады прынялі і Сапегі. 28 кастрычніка яны разаслалі зварот да шляхты, якую спрабавалі пераканаць, што рэспубліканцы таму не захацелі з імі мірыцца, каб „дашчэнту нас загубіць, а з намі і Вялікае Княства Літоўскае вывярнуць, вашым міласцям панам дыктатуру навязаць задумалі”. Таксама інфармавалі, што выдалі некалькім асобам мандаты на сойм. Але разам з тым заклікалі шляхту, каб даручыла паслам дамагацца на сойме пагаднення[82].

Як вядома, пад ціскам каронных сенатараў і паслоў 16 студзеня 1702 г. на сойме такое пагадненне было заклю-

[80] AGAD, AR, dz. II, sygn. 1933, k. 1–4 (адказ Аўгуста ІІ на інструкцыю паслам з Гарадзенскага з’езда, Варшава, 28 лістапада 1701 г.); тое самае: LMAB, f. 148, b. 68, s. 58–60v.

[81] AGAD, APP, Sygn. 55, t. I, k. 609–610 (Аўгуст ІІ да С. А. Шчукі, з Варшавы, 4 лістапада 1701 г.).

[82] AGAD, AZ, sygn. 3055, k. 102–103 (зварот Сапегаў да шляхты, Тыкоцін, 28 кастрычніка 1701 г.), k.104–105 (тое самае); РНБ. Рук. отд., Ф. 957, Pol. F. IV. 258, c. 1–2 (тое самае).

чана: рэспубліканцы пагадзіліся без агаворак на вяртанне Сапегам ўрадаў і маёнткаў, усе прэтэнзіі вырашаліся ў судовым парадку, крыўды і шкоды дараваліся (за выключэннем забойства Міхала Францішка Сапегі), а для вырашэння „нойбургскага пытання" ствaралася спецыяльная камісія на чале з прымасам[83]. Як бачым, умовы, на якіх была дасягнута згода, набліжаліся да ўмоваў апошняга тыкоцінскага праекта Сапегаў, пры невялікіх саступках з боку апошніх. Тое, што яно аказалася непрацяглым, шмат у чым было прадвызначана зменамі, якія адбыліся за перыяд ад заканчэння Гарадзенскага з'езда да сойма.

Правал гарадзенскіх перамоваў меў выключна негатыўныя наступствы. Адразу са з'езда Агінскі паехаў у Жамойць, рашуча настроены на ўзброены адпор шведам[84]. У канцы лістапада 1701 г. курляндскі князь Фердынанд, як давераная асоба Аўгуста II, прапанаваў расійскаму паслу ў Варшаве Грыгорыю Фёдаравічу Даўгарукаму праект выкарыстання дывізіі Агінскага супраць шведскіх войск у Курляндыі пры адначасовым расійскім наступленні на Інфлянты[85]. 25 снежня 1701 г. царскі пасланнік Павел Нікіфаравіч Гатоўцаў сустрэўся з Агінскім у Коўне і дамовіўся, што той будзе працягваць вайну супраць шведаў узамен за царскае ўзнагароджанне і абяцанне вайсковай дапамогі[86]. На мяжы 1701–1702 г. рэспубліканцы выслалі ў Расію пасольства шукаць дапамогі супраць шведаў, якое, як вядома, прывяло да заключэння пагаднення і ўступлення ВКЛ у Паўночную вайну. У такіх умовах пагадненне, падпісанае ў Варшаве 16 студзеня 1702 г., не мела ўжо практычнага значэння, было хутчэй саступкай польскім палітычным колам. Прычым Сапегі ставіліся да яго аналагічна і нават у сам

83 Diariusz Sejmu Walnego Warszawskiego 1701–1702 / wyd. P. Smolarek. Warszawa, 1962. S. 301–307.

84 AGAD, AR, dz. V, sygn. 14226, k. 9–16 (В. Сялецкі да К. С. Радзівіла, з Горадні, 29 кастрычніка 1701 г.).

85 Budrowicz-Nowicki J. Piotr I… S. 319.

86 Тамсама. S. 320. Аўгуст II ухваліў гэтую дамоўленасць.

дзень заключэння пісалі Карлу XII пра намер у хуткім часе прыбыць да яго асабіста[87].

Разам з тым пагадненне засведчыла адсутнасць легітымных падставаў улады рэспубліканцаў, вымушаных адступіць ад „вечнай і непарушнай" Алькеніцкай пастановы і іншых сваіх аднабаковых рашэнняў. У такіх умовах пераход Сапегаў на бок Швецыі і наступнае прызнанне іх здраднікамі было ў пэўным сэнсе ім выгаданым — як адзіны шанец для затрымання ў руках улады і ўсіх здабыткаў. Невыпадкова ў хуткім часе яны стануць у Рэчы Паспалітай фактычна „партыяй вайны", найбольш адданымі прыхільнікамі каралеўскай палітыкі. Як можна меркаваць, пачатак такому курсу быў пакладзены на Гарадзенскім з'ездзе па ініцыятыве радыкальнага крыла групоўкі на чале з Агінскім.

[87] Jonasson G. Karl XII: s polska politik 1702–1703. Stockholm, 1968. S. 36.

## Дадатак 1.
## Удзельнікі Гарадзенскага з'езда 1701 г.[88]

**Дырэктар:**
генеральны палкоўнік Міхал Серваций Вішнявецкі[89*]

**Сенатары і цэнтральныя ўраднікі:**

канцлер ВКЛ Караль Станіслаў Радзівіл, віленскі біскуп Канстанцый Казімір Бжастоўскі[90a], жамойцкі стараста Грыгорый Антоній Агінскі[a], троцкі кашталян Міхал Казімір Коцел[a]*, віцебскі кашталян Казімір Аляксандр Пацей[a], жамойцкі біскуп Ян Крышпін-Кіршэнштэйн, інфлянцкі кашталян Уладзіслаў Францішак Берг, надворны падскарбі ВКЛ Мікалай Францішак Агінскі[a]*, мечнік ВКЛ Марцыян Міхал Агінскі[a]* (але на папярэднім Віленскім з'ездзе — як віцебскі камісар), стражнік ВКЛ Людвік Канстанцый Пацей[a]*, рэферэндар ВКЛ Ян Уладзіслаў Бжастоўскі[a].

[88] Спіс складзены на падставе наступных крыніц: BPANKr., Rkps. 6122, k. 147–147v (акт лімітацыі з'езда; подпісы ўдзельнікаў); НГАБ, ф. 1731, воп. 1, спр. 2, арк. 770–770 адв. (пастанова з'езда аб квітацыі Ізабэлы Алены з Палубінскіх Сапежынай, 23 кастрычніка 1701 г.; подпісы ўдзельнікаў); НГАБ, КМФ-18, спр. 148, арк. 1003–1006 (зацвярджэнне Аўгустам ІІ „дэкрэта" аб вызваленні ад гіберны г. Магілёва, вынесенага 18 кастрычніка 1701 г.; Варшава, 10 студзеня 1702 г.; подпісы ўдзельнікаў); LVIA, SA, b. 49, l. 574–575 (ліст М. С. Вішнявецкага да віленскіх баніфратраў з упісанай у яго пастановай з'езда ад 18 кастрычніка 1701 г. аб вяртанні маёнткаў Я. Шрэтэру; подпісы ўдзельнікаў); LVIA, SA, b. 4716, l. 1276, 1539 (віленскія камісары); Vilniaus Universiteto Biblioteka, f. 7, sign. 15, 20/5974, l. 1039–1039v (троцкія камісары); НГАБ, ф. 1736, воп. 1, спр. 1, арк. 35 (рэчыцкі камісар); LMAB, f. 17, b. 133, l. 17 (згадка пра К. А. Пацея); AGAD, APP, sygn. 55, t. I, k. 654 (пералік удзельнікаў, якія сарвалі перамовы).

[89] * Удзельнікі, якія падпісалі акт лімітацыі.

[90] [a] Камісары, прызначаныя Алькеніцкай пастановай.

**Павятовыя камісары:**

віленскі стольнік Стафан Казімір Хамінскі (віленскі камісар), лідскі падкаморы Уладзіслаў Нарбут (лідскі камісар)[a]*, лідскі земскі пісар Міхал Ян Александровіч (лідскі камісар)*, лідскі гродскі пісар Ян дэ Кампа Сцыпіён (лідскі камісар), ашмянскі харужы *pro tunc* Людвік Якуб Хамінскі (ашмянскі камісар), Геранім Важынскі (ашмянскі камісар)*, вількамірскі земскі суддзіч Францішак Ігнацый Казімір Шырвінскі (вількамірскі камісар)[a]*, браслаўскі маршалак Казімір Уладзіслаў Бяганскі (браслаўскі камісар)[a], ужвенцкі стараста Дамінік Война (троцкі камісар), упіцкі стольнік Базылі Корвін-Крукоўскі (троцкі камісар), гарадзенскі падстолі Аляксандр Левальт-Язерскі (гарадзенскі камісар)*, гарадзенскі земскі суддзя Крыштаф Віктарыян Юндзіл (гарадзенскі камісар), гарадзенскі харужы і судовы падстараста Грыгорый Юзаф Катовіч* (быў, верагодна, гарадзенскім камісарам, прынамсі, у такім статусе браў удзел у папярэднім Віленскім з'ездзе), ковенскі стольнік Юрый Дамінік Даўмонт (ковенскі камісар)[a]*, упіцкі падстолі Караль Павел Белазор (упіцкі камісар), жамойцкі харужы Казімір Заранак (жамойцкі камісар)[a], новагародскі стольнік Павел Міхал Вонгль-Свідэрскі (навагародскі камісар), ваўкавыскі войскі Геранім Калантай (ваўкавыскі камісар), ваўкавыскі гродскі суддзя Лявон Казімір Хлусевіч (Хлусовіч) (ваўкавыскі камісар), ашмянскі земскі пісар Стафан Ян Слізень (слонімскі камісар)[a]*, менскі харужы Ян Юрый Завіша (менскі камісар)*, рэчыцкі маршалак Антоній Юдзіцкі (рэчыцкі камісар)*, рэчыцкі маршалковіч Пётр Юдзіцкі (рэчыцкі камісар), полацкі харужы Крыштаф Бенядзікт Неміровіч-Шчыт (полацкі камісар)[a], полацкі пісар (?) Міхал Рыпінскі (полацкі камісар), віцебскі скарбнік Казімір Саковіч (віцебскі камісар)*, аршанскі чашнік Юзаф Міхал Ясенчык-Краеўскі (аршанскі камісар), краснасельскі стараста Казімір Кміціц (аршанскі камісар)[a], мсціслаўскі харужы Марцыян Дамінік Валовіч (мсціслаўскі камісар)[a], Андрэй Казімір Война-Аранскі* (падпісаў акт лімітацыі як

мсціслаўскі камісар, але не быў ім[91]), берасцейскі падсудак Мікалай Казімір Махвіц* (берасцейскі камісар), смаленскі харужы Станіслаў Эйдзятовіч (смаленскі камісар), старадубскі харужы Андрэй Мікалай Гімбут (старадубскі камісар), інфлянцкі чашнік Ян Плятэр (інфлянцкі камісар)*, аршанскі палкоўнік Сімяон Друцкі-Любецкі (статус невядомы, магчыма, аршанскі камісар), упіцкі стараста Крыштаф Дамінік Пузына (статус невядомы, магчыма, упіцкі камісар), інстыгатар ВКЛ і каралеўскі сакратар Станіслаў Ян Рукевіч[92], віленскі падстолі і сурагатар Міхал Рафал Шумскі[a] (віленскі камісар, але, хутчэй за ўсё, не ўдзельнічаў, хаця дадатак да інструкцыі віленскім камісарам складзены ў тым ліку на яго імя).

[91] А. К. Война-Аранскі не быў камісарам, а толькі пасланнікам на з'езд, абраным у Мсціславе на фіскальных судах з даручэннем завезці ў Горадню выпраўлены тарыф гіберны Мсціслаўскага ваяводства. 16 верасня 1701 г. яму быў напісаны дадатак да інструкцыі камісарам (НГАБ, ф. 1729, воп. 1, спр. 5, арк. 694–694адв.). Пазней занёс пратэстацыю ў мсціслаўскі гродскі суд, заявіўшы, што ўдзельнікі з'езда прымусілі яго падпісацца як камісара (тамсама, арк. 1020–1020 адв.).

[92] Подпіс С. Я. Рукевіча сустракаецца толькі пад „дэкрэтам" аб вызваленні ад гіберны Магілёва і ідзе там апошнім, таму, магчыма, не як камісара, а толькі службовай асобы.

# The talks between the Republicans and the Sapieha family at the Congress in Hrodna in autumn 1701

**Dzmitry Vitsko**

After the victory over the Sapiehas near Alkeniki (Valkininkai) in 1700 the Republicans ruled out to deprive them of all their estates in the Grand Duchy of Lithuania and of their offices. Such a decision went against the legislation of that time violating the prerogatives of the Diet and the King's powers. When it became evident that it would be impossible to pass the ruling legally since the Polish elite together with August II stood for the peaceful resolution of the conflict, the Republicans had to agree on the peace talks with the Sapiehas. The talks were held in October 1701 within the congress of the nobles of the GDL in Hrodna and were mediated by the Royal Commissioner and GDL vice-chancellor Stanislau Antony Ščuka. The stance of the King's Court that favored the Sapiehas at that time could be explained by their wish to prevent the Sapiehas taking  the side of Sweden during the possible Swedish military intervention into the Commonwealth. The talks were focused on a number of issues. The most important of them were about the GDL high officials' powers (the grand hetman, the treasurer andthe marshal), property and financial claims and also on the trusteeship of the „Neuburg territories". Despite the considerable success the parties failed to find a compromise on the command of the GDL army. As a result the talks were wrecked. It encouraged further collaboration between the Sapieha family and Sweden and prompted the Republicans to orient to Russia, which resulted in involvement of the GDL and the Polish Crown into the Great Northern War.

# Беларусы на фоне нацыятворчых працэсаў у грамадствах Цэнтральнай і Усходняй Еўропы*

**Рышард Радзік**

Мадэрныя нацыі сучаснай Еўропы ўзнікалі ва ўмовах распаду даўнейшых супольнасцяў феадальнага, саслоўнага характару. Па меры росту індустрыялізацыі, пашырэння пісьменнасці і ўрбанізацыі, якімі суправаджалася станаўленне капіталізму, калі павышалася сацыяльная мабільнасць, мясцовыя сялянскія абшчыны адкрываліся шырокаму свету, а сялянства масава перасялялася ў гарады, паўстала патрэба ў стварэнні новых супольнасцяў, якія маглі б аб’яднаць безыменныя датуль масы на грунце агульнадаступнай культуры. Тым не менш, не варта лічыць, што ўзнікненне нацый было гістарычна прадвызначана, хоць такі паварот падзей, калі ўзяць пад увагу тагачасныя сацыякультурныя, а таксама эканамічныя рэаліі, быў надзвычай імаверны. Рэальнай альтэрнатывай з’яўленню нацый маглі стаць хоць бы класавыя супольнасці, і ў савецкі перыяд на ўзроўні дзяржавы рабіліся спробы сканструяваць такія.

Адказ на агульнае пытанне „Чаму ўзнікаюць нацыі?” не роўны адказу на пытанне „Чаму ўзнікла канкрэтная нацыя ў пэўных межах?”. Кажучы іншымі словамі, адна справа — магчымасць нацыятварэння наогул, а другая — магчымасць узнікнення на дадзенай тэрыторыі канкрэтных нацый, іх велічыня і арэал пражывання,

* Падставай артыкула стаў даклад, прачытаны на Першым міжнародным кангрэсе даследаванняў Беларусі (Коўна, 23–25 верасня 2011 г.)

якія загадзя цяжка прадбачыць. Або яшчэ раз перафразуем: адна справа — патэнцыяльная магчымасць зараджэння нацыятворчага працэсу, а другая — яго / іх патэнцыяльныя кірункі развіцця. Напрыклад, беларусы ў найноўшай гісторыі мелі невялікія шанцы на тое, каб стаць нацыяй, хоць працэс гэты, пачаўшыся, мог ісці па-рознаму. Гісторыя не толькі не гаворыць нам пра непазбежнасць узнікнення нацый (хоць і канстатуе высокую імавернасць іх узнікнення пры пэўных умовах), але і тым больш не дае адназначных адказаў наконт таго, якія нацыі „мусяць" узнікнуць і на базе якіх фактараў (этнічных, гістарычных і г. д.). Напрыклад, на базе этнічнай адметнасці некаторыя нацыі ўзнікалі, а іншыя этнасы раствараліся ў больш шырокіх кангламератах. Ні гісторыя, ні прырода не прадугледжваюць тут безумоўных законаў, гэтак жа як і маральных правоў. У канчатковым выніку ўсё вырашаюць людзі — або сваёй сілай (у тым ліку і ваеннай), або сваёй колькасцю (пры дэмакратычных спосабах вырашэння пытанняў).

Можна вылучыць тры розныя тыпы фактараў, якія ўплываюць на нацыятворчыя працэсы. Першыя прадвызначаюць магчымасць узнікнення нацыятворчага працэсу, але не акрэсліваюць яго кірунку. Да іх належаць цывілізацыйны ўзровень той ці іншай краіны, што ўключае ў сябе і камунікацыйныя магчымасці ў шырокім сэнсе гэтага паняцця; узровень пісьменнасці, ступень урбанізацыі, інтэнсіўнасць сацыяльнай мабільнасці (гарызантальнай і вертыкальнай), узровень эканамічнага развіцця (заможнасці), сацыяльная структура (наяўнасць „уласных" эліт або магчымасць іх адносна хуткага фармавання). Фактары другога тыпу акрэсліваюць магчымасці адасаблення дадзенай супольнасці (нярэдка вылучэння яе з іншай, шырэйшай), а таму ўплываюць на кірунак нацыятворчага працэсу. Гэта шэраг такіх культурных рысаў, як асобная мова, этнічная культура, традыцыя (у тым ліку наяўнасць уласнага гістарычнага бачання, уласных герояў, трагедый і трыумфаў), — іншымі словамі, культура ў шырокім разуменні, якая вылучае дадзеную супольнасць сярод іншых. Гэ-

тыя супольныя рысы даюць ініцыятарам нацыятворчых працэсаў шанцы на тое, каб вызначыць межы будучай нацыянальнай супольнасці, стварыць нацыянальную ідэалогію, а таксама загарнуць усё гэта ў выразны эмацыянальны кантэкст. Трэці тып фактараў — гэта чыннікі дзяржаўна-палітычнага, інстытуцыянальнага, сістэмнага характару. Дзяржаўныя ўлады (тут гаворка перш за ўсё пра Цэнтральную і Усходнюю Еўропу) часам спрыялі фармаванню некаторых нацыянальных рухаў, а развіццю іншых перашкаджалі, гулялі на тых ці іншых міжнацыянальных канфліктах або стараліся іх згасіць. Адны дзяржаўныя рэжымы спрыялі падкрэсліванню нацыянальных адметнасцяў, а другія прапагандавалі іх уніфікацыю.

У ніжэйпададзеных развагах мы параўнаем чатыры народы Цэнтральнай і Усходняй Еўропы — беларусаў, украінцаў (як галіцкіх, так і прыдняпроўскіх), славакаў і чэхаў. Часам я буду спасылацца і на польскі нацыятворчы працэс, бо палякі — гэта прыклад народа з традыцыяй беспераплыннага існавання і развіцця нацыянальных эліт, хоць на сваім гістарычным шляху гэтай нацыі даводзілася з палітычнай ператварацца ў культурную. Першая група пералічаных тут фактараў — спрошчана іх можна назваць цывілізацыйнымі — вызначала шанцы на больш хуткае або больш павольнае развіццё нацыятворчых працэсаў, але не абумоўлівала адназначнай перавагі для той ці іншай этнічнай і нацыянальнай груп, якія спаборнічалі паміж сабой. Адным з найважнейшых такіх фактараў была доля пісьменных асоб сярод прадстаўнікоў дадзенай супольнасці. Непісьменныя наогул не здольны мысліць ні ў якіх катэгорыях, апрача чыста лакальных, і разважаць над пытаннямі, якія выходзяць за рамкі штодзённага досведу, — асабліва гэта датычыць пытанняў абстрактных і моцна ідэалагізаваных, за выключэннем хіба што тых аспектаў, якія датычаць матэрыяльнага статусу людзей (класавасць у вузкім разуменні) і іх рэлігійнай прыналежнасці. Найбольш высокі працэнт непісьменных быў уласцівы прыдняпроўскім украінцам і беларусам; крыху меншай

была іх доля сярод галіцкіх украінцаў. Трохі лепшую сітуацыю мелі славакі, а кардынальна лепшую — чэхі. Згодна з царскім перапісам 1897 г., доля непісьменных сярод украінцаў у той час даходзіла да 87%, а сярод сялян перавышала 90% (удвая больш, чым у рускіх на Украіне, і ўтрая больш — чым у яўрэяў)[1]. Сярод беларусаў у тым жа годзе непісьменных было аж 86,5%[2]. На Галіччыне яшчэ ў 1910 г. сярод украінцаў, старэйшых за 12 гадоў, аж 78% былі непісьменнымі (сярод сялян гэты працэнт быў яшчэ вышэйшы)[3]. У Славакіі ў 1880 г. непісьменнымі былі 65% жыхароў краіны, а на мяжы стагоддзяў — 50%[4]. Ад славакаў выразна адрозніваліся чэхі. У 1900 г. толькі 4,26% чэхаў, старэйшых за 6 гадоў, не ўмелі чытаць і пісаць[5]. Чэхі былі ў ліку еўрапейскіх лідараў у развіцці асветы, маючы на пачатку XX ст. нават крыху вышэйшую долю пісьменнага насельніцтва, чым аўстрыйскія немцы.

Падобная сітуацыя была і з літаратурай. Усе беларускамоўныя тэксты, выдадзеныя паміж задушэннем паўстання 1863–64 г. і рэвалюцыяй 1905 г., можна сабраць у адным томе. Аналагічнае становішча было і ў Прыдняпроўскай Украіне. Пасля паўстання 1863–64 г. у Расіі была ўведзена практычна поўная забарона кнігадрукавання на гэтых мовах, за некаторымі выключэннямі — так, у Беларусі забарона не датычыла этнаграфічных прац і рэлігійных выданняў. Пасля 1905 г. з'явілася беларуская і ўкраінская прэса, пачалі выходзіць кнігі. Іх колькасць і тыражы ў параўнанні з колькасцю носьбітаў гэтых моў былі вельмі малыя, а ва Украіне дык і зусім сімвалічныя. Дрэнная сітуацыя з гэтага пункту гледжання назіралася і ў Славакіі, за-

1 Waldenberg M. Narody zależne i mniejszości narodowe w Europie Środkowo-Wschodniej. Dzieje konfliktów i idei. Warszawa, 2000. S. 135–137.

2 Терешкович П. В. Этническая история Беларуси XIX — начала XX в. в контексте Центрально-Восточной Европы. Мінск, 2004. С. 115.

3 Waldenberg M. Narody zależne… S. 75.

4 Špiesz A. Dzieje Słowacji na drodze do uświadomienia narodowego / Tłum. Birek M. [brak miejsca i roku wyd.] S. 102.

5 Waldenberg M. Narody zależne… S. 60.

тое значна лепшая — ва Усходняй Галіччыне. Што да чэхаў, то і з літаратурай, і з кнігавыданнем справы ў іх былі значна лепшыя, чым у іншых нованароджаных нацый. У 1861 г. у Чэхіі выходзіла 30 чэшскамоўных перыядычных выданняў, пад канец стагоддзя — амаль 450, а ў 1905 г. — больш за 750[6]. У сваю чаргу, першая беларуская газета з'явілася толькі ў 1906 г., і да Першай сусветнай вайны на беларускай мове паспела выйсці ў некалькі дзясяткаў разоў менш выданняў, чым на чэшскай у адным толькі 1905 г. Аналагічнае становішча назіралася і ў Прыдняпроўскай Украіне, а таксама ў Славакіі. Прычынаю гэтага не ў апошнюю чаргу была і вялікая доля непісьменных, а таксама адсутнасць асветы на мясцовых мовах (або яе абмежаванасць).

У Беларусі беларускамоўнай асветы да Першай сусветнай вайны не было зусім, а ва Украіне ўсе наяўныя нацыянальныя школы мелі прыватны характар. Што да Славакіі, то там колькасць нацыянальных выданняў і школ вагалася ў залежнасці ад палітычнай кан'юнктуры і ў цэлым была нізкай. Зусім мізэрнай была колькасць вучняў, якія вучыліся па-славацку або называлі славацкую мову сваёй роднай. „У 1893–1894 г. з прыкладна 50 тысяч вучняў сярэдніх школ толькі 3% назвалі славацкую мову сваёй роднай. На пачатку XX ст. не больш як 1/6 славацкіх вучняў наведвалі школы са славацкай мовай навучання. Славацкая мова была выкінута з праграм амаль 1600 пачатковых школ. З вышэйшых навучальных установ выключалі ўсіх студэнтаў, хто хоць як заяўляў пра сваю прыналежнасць да славацкага народа. Не без падстаў галоўная заслона была пастаўлена намаганням, накіраваным на стварэнне нацыянальнай інтэлігенцыі”[7]. Затое ва Усходняй Галіччыне на пачатку XX ст. існавалі, нягледзячы на спарадычныя канфлікты з палякамі, 3000 украінскамоўных пачатковых школ, 6 дзяржаўных і 15 прыватных гімназій. На базе Львоўскага ўніверсітэта

[6] Тамсама.
[7] Heck R., Orzechowski M. Historia Czechosłowacji. Wrocław, 1969. S. 260.

працавалі пяць украінскіх кафедраў[8]. У Чэхіі сітуацыя была кардынальна іншая, чым у Беларусі, Украіне і Славакіі. Так, Генрык Верашыцкі піша: „Ужо ў 1791 г. тут у 2600 школах навучаліся 185 тысяч дзяцей, гэта значыць больш як палова ўсіх дзяцей школьнага ўзросту. І вучылі ў тых школах чэшскіх дзяцей па-чэшску. Па-чэшску выдавалі і дапаможнікі для сялян па сучасных метадах земляробства і жывёлагадоўлі”[9].

Істотным фактарам, які ўплываў на тэмпы нацыятворчых працэсаў, была сацыяльна-класавая структура таго ці іншага грамадства (у тым ліку суадносіны паміж сельскім і гарадскім насельніцтвам), сацыяльная мабільнасць і заможнасць яго прадстаўнікоў. У 1897 г. 97,7% насельніцтва, акрэсленага ў перапісе як беларускамоўнае, пражывала ў вёсцы, а ў гарадах, нават невялікіх, яго доля не перавышала 17%[10]. У цэлым доля гарадскога насельніцтва ў Беларусі складала ў 1796 г. 3,5%, а ў 1913 г. — 11%[11]. Мінск у 1909 г. налічваў амаль 100 тысяч жыхароў, пры гэтым беларускага насельніцтва ў ім было адносна няшмат — усяго 8,2%[12]; прычым па-беларуску размаўляла галоўным чынам насельніцтва бедных ускраін (эліты гаварылі па-руску і па-польску). Вільня — з пачатку XX ст. галоўны асяродак беларускага нацыянальнага руху — была ў 1897 г. яўрэйска-польскім горадам (на трэцім месцы знаходзіліся рускія), і, паводле дадзеных тагачаснага агульнарасійскага перапісу, беларускага насельніцтва ў ёй пражывала 4,2%[13]. Сацыяль-

[8] Hrycak J. Historia Ukrainy 1772–1999. Narodziny nowoczesnego narodu. Lublin, 2000. S. 98.

[9] Wereszycki H. Pod berłem Habsburgów. Zagadnienia narodowościowe. Kraków, 1986. S. 164.

[10] Radzik R. Między zbiorowością etniczną a wspólnotą narodową. Białorusini na tle przemian narodowych w Europie Środkowo-Wschodniej XIX stulecia. Lublin, 2000. S. 140.

[11] Гісторыя Беларусі: у 6 т. Т. 4. Беларусь у складзе Расійскай імперыі (канец XVIII — пачатак XX ст.). Мінск, 2005. С. 58 (табліца 1), 369 (табліца 12).

[12] Шибеко З. В. Минск в конце XIX — начале XX в. Очерк социально-экономического развития. Мінск, 1985. С. 117.

[13] Eberhardt P. Przemiany narodowościowe na Litwie. Warszawa,

ная база беларускага руху была вельмі бедная — у пераважнай большасці яе ўтваралі непісьменныя сяляне. У неіндустрыялізаваным, напаўфеадальным і бедным рэгіёне доля беларускамоўных складала менш за дваццаць працэнтаў рабочых. Беларускай буржуазіі практычна не было, а колькасць прадстаўнікоў інтэлігенцыі, якія лічылі беларускую мову роднай, Стывен Л. Гацье ацэньвае ў 8469 чалавек (чыноўнікі, суддзі, адвакаты, медыкі, педагогі, вучоныя, літаратары), адзначаючы, што „цяжка было б сабе ўявіць, каб такая сціплая колькасць прыхільнікаў беларушчыны сярод работнікаў асветы, судаводства, медыцыны ці кіравання магла пацягнуць на сабе пачатковы этап нацыянальнай работы ў маштабе пяцімільённага народа”[14]. Праўда, на маю думку, гэтых людзей і нельга адносіць да „прыхільнікаў беларушчыны” ў сэнсе іх мэтанакіраванага, свядомага ўдзелу ў якой бы там ні было беларускай дзейнасці. Да канца XIX ст. яны заставаліся — з пункту гледжання сваёй беларускасці — культурна і нацыянальна пасіўнымі. Шляхта і арыстакратыя ў гэтай частцы Еўропы зведала раннюю і ў цэлым добраахвотную паланізацыю (Беларусь, Украіна), мадзьярызацыю (Славакія) і анямечванне (Чэхія) — асабліва на ўзроўні нацыянальнай самасвядомасці, якая ў той час разглядалася ў палітычных, а не этнічных катэгорыях. У сваёй масе — за адзінкавымі выключэннямі — мясцовая шляхта не звярталася да беларускай, украінскай, славацкай або чэшскай культуры, паколькі атаясамлівала адпаведныя народы з сялянствам, а значыць, магчымасць выступлення на іх баку лічыла праявай сацыяльнай дэградацыі[15]. Сацыяльная мабільнасць, як гарызантальная, так і вертыкальная (магчымасць прасунуцца ўгару па сацыяльнай лесвіцы), была — за выключэннем чэхаў — адносна невялікая, асабліва ў параўнанні з краінамі Заходняй Еўропы. Між тым, тагачасныя нацы-

1997. S. 46 (tabela 6).

[14] Guthier S. L. The Belorussians: National Identification and Assimilation. 1897–1970. P. 1: 1897–1939 // Soviet Studies. T. XXIX. January 1977. № 1. S. 43 (tabela 2).

[15] Гл. Radzik R. Między zbiorowością… (асабліва раздзел III).

янальныя рухі абапіраліся на мяшчанства, буржуазію, інтэлігенцыю. Вось чаму беларускі нацыянальны рух так праблемна зараджаўся і павольна развіваўся.

У сваю чаргу, у расійскай частцы Украіны сяляне ў 1897 г. складалі 93% насельніцтва рэгіёна, пры гэтым сярод саміх украінцаў гэты працэнт быў яшчэ вышэйшы. Адпаведна, сярод гарадскога насельніцтва ўкраінцы складалі толькі 31%, а ў Кіеве — і наогул усяго 22,2%[16]. Сацыяльная структура ўкраінскага грамадства нагадвала беларускую, а на ўсходнія землі Украіны, дзе ішла індустрыялізацыя, масава прыбывалі рабочыя з Расіі. Аналагічная сітуацыя існавала і ва ўкраінскай частцы Галіччыны, у якой, аднак, хутчэй, чым у Прыдняпроўскай Украіне, расла колькасць інтэлігенцыі — галоўным чынам за кошт сялян: сялянскія гаспадаркі былі раздробненыя, а азначэнне „галіцкая нэндза" стала крылатым. У Львове, ключавым асяродку ўкраінскага „нацыянальнага адраджэння", украінцаў у 1900 г. было 9,5%, а большасць насельніцтва складалі палякі[17]. Падобнае становішча было і ў Славакіі. У гэтым рэгіёне сярод уласнікаў гаспадарак з плошчай большай за 1000 „ютраў" (каля 13,6 гектара) славакі складалі толькі 1,7% (венгры — 84,8%, немцы — 13,8%). У Браціславе ў 1880 г. пражывала супастаўная колькасць славакаў і венграў, затое ўжо ў 1890 г. венграў было ўдвая больш, а ў Кошыцах — утрая больш. Непасрэдна перад пачаткам Першай сусветнай вайны насельніцтва Браціславы складала крыху больш за 70 тыс. чалавек, сярод якіх славакаў было менш як 20% (гэтак жа як і ў Кошыцах). Некалькімі гадамі пазней (у 1920 г.) доля гарадскога насельніцтва Славакіі складала ўсяго 18,5%[18]. Лех Касцелак сцвярджае, што „нават на пачатку XX ст. славакі не мелі свайго ўрбанізацыйнага і нацыянальнага цэнтра"[19]. Ён таксама

16 Waldenberg M. Narody zależne… S. 135–137.

17 Eberhardt P. Przemiany narodowościowe na Ukrainie XX wieku. Warszawa, 1994. S. 39 (tabela 6).

18 Giza A. Słowacki ruch narodowy w XIX i początkach XX wieku (do 1914 roku). Szczecin, 2000. S. 105–106.

19 Kościelak L. Historia Słowacji. Wrocław, 2010. S. 280.

дадае, што ўдзел славакаў у палітычным жыцці Аўстра-Венгрыі быў сціплы. „На 160 з гакам тысяч дзяржаўных чыноўнікаў прыпадала толькі 3,5 тысячы славакаў, паколькі ўсяго 3,83% славацкага насельніцтва мелі хоць якую адукацыю”[20].

Затое чэхі кардынальна адрозніваліся ад славакаў, беларусаў і ўкраінцаў большай доляй гарадскога насельніцтва, меншым узроўнем непісьменнасці, лепшым развіццём прамысловасці, адкуль вынікаў і большы ўзровень матэрыяльнага дастатку. У 1870-я г. большая частка насельніцтва чэшскіх зямель (апрача Маравіі) працавала ўжо па-за сферай сельскай гаспадаркі[21]. У другой палове XIX — пачатку XX ст. (да Першай сусветнай вайны) насельніцтва Прагі (разам з прадмесцямі) вырасла са 125 да 617 тыс. чалавек. Такім чынам, пры параўнальнай колькасці насельніцтва Чэхіі і Беларусі Прага стала горадам, у шэсць разоў большым за Мінск, пры гэтым абсалютная колькасць „тытульнага” насельніцтва ў ёй была ў некалькі дзясяткаў разоў большая, чым у будучай сталіцы Беларусі. У 1861 г. доля чэхаў у дагэтуль пераважна нямецкамоўным горадзе перавысіла 50%, а ў 1910 г. немцы складалі ў Празе ўжо толькі 6% жыхароў горада[22]. З цягам часу Чэхія ператварылася ў галоўны прамысловы цэнтр дзяржавы Габсбургаў, а чэхі ў апошнія дзесяцігоддзі існавання манархіі асвойвалі галоўным чынам найноўшыя галіны вытворчасці.

Такім чынам, можна канстатаваць агульную заканамернасць: чым большую долю сялян меў у сваім складзе той ці іншы этнас (і, адпаведна, меншую долю мяшчанства і буржуазіі), тым меншыя былі яго шанцы на зараджэнне моцнага нацыянальнага руху і хуткую пабудову нацыянальнай супольнасці. І славацкае, і ўкраінскае, і беларускае грамадствы былі ў першую чаргу (больш як на 90%) сялянскімі, пераважна непісьменнымі (най-

[20] Тамсама. С. 293.
[21] Heck R., Orzechowski M. Historia Czechosłowacji… S. 231.
[22] Wereszycki H. Pod berłem… S. 164.

менш непісьменных было сярод славакаў), пазбаўленымі больш-менш адукаванага і ў меру шматлікага мяшчанства ды буржуазіі (а таксама шляхты, якая захоўвала б нацыянальнае аблічча). У цэлым гэта было насельніцтва беднае або вельмі беднае. Чэхі вылучаліся на гэтым фоне як вельмі нізкім узроўнем непісьменнасці і параўнальна вышэйшым працэнтам гарадскога насельніцтва, так і адноснай заможнасцю. У другой палове XIX — на пачатку XX ст. яны масава пераязджалі ў гарады (найперш у Прагу), фармуючы ў іх усё больш заможную большасць. Поспех нацыянальнай інтэлігенцыі залежаў перш за ўсё ад таго, наколькі здольныя былі сяляне ўспрыняць абвешчаную ёю нацыянальную ідэалогію, наколькі нованароджаныя эліты былі аўтарытэтнымі ў іх вачах, наколькі яны былі ў стане вызначаць памкненні народных мас — г. зн. быць для іх пунктам пазітыўнага культурнага адліку. Асноўнай умовай для ўсяго гэтага было вызваленне сялян ад прыгоннай залежнасці (якое ў Расіі адбылося ў 1861 г., а ў Аўстрыі — у 1848 г.) і пашырэнне сярод іх пісьменнасці. Гэта выключала з працэсу нацыятварэння перш за ўсё беларускіх і ўкраінскіх сялян расійскага падданства, а таксама накладала значныя абмежаванні на ўкраінскае насельніцтва Галіччыны і — у крыху меншай ступені — на славакаў. Акрамя таго, надта вузкай была гарадская база ўкраінскага, беларускага і славацкага нацыянальных рухаў. З гэтых трох этнічных супольнасцяў вылучаліся параўнальна малалікія групы інтэлігенцыі, найчасцей сялянскага паходжання, якія доўга не маглі знайсці сабе падтрымкі сярод бедных і неадукаваных землякоў. Іначай было ў выпадку чэхаў, нацыянальныя дзеячы якіх змаглі досыць хутка — нават па мерках усёй Еўропы, а тым больш яе цэнтральна-ўсходняга рэгіёна — знайсці водгук сярод пісьменных сялянскіх мас, а таксама, беручы пад увагу хуткую індустрыялізацыю, сярод шматлікіх і заможных гарадскіх слаёў. Пісьменныя чэшскія сяляне, якія масава прыбывалі ў гарады, паспяхова ўступалі ў канкурэнцыю з нямецкай буржуазіяй і мяшчанствам, да пэўнай ступені пераймаючы іх сацыяльны лад, капіруючы іх культур-

ныя, адукацыйныя, навуковыя і гаспадарчыя інстытуты. Ім удалося стварыць заможныя чэшскія эліты. Для чэшскага селяніна, які ў апошнія дзесяцігоддзі перад Першай сусветнай вайной перабіраўся ў Прагу, далучэнне да высокаадукаванага асяроддзя новага чэшскага мяшчанства і буржуазіі было не толькі лёгкім (з моўных і культурных прычын куды лягчэйшым, чым інтэграцыя ў нямецкамоўнае асяроддзе), але і прывабным — дзеля яго масавасці і заможнасці. Так, чэхі сваю „плебейскасць" (дзякуючы якой ім удалося ўзяць верх), пад якой варта разумець непасрэднасць, прастату, адсутнасць панскай фанабэрыі і мудрагельнічання, ператварылі ў сваю станоўчую рысу (беларусы часткова паспрабавалі паўтарыць гэта ў савецкія часы на дэнацыяналізаванай глебе).

Чэхі не толькі рана ўступілі ў фазу масавага нацыянальнага руху (астатнія разгляданыя тут народы так і не дайшлі да гэтай фазы аж да Першай сусветнай вайны), але і, як заведзена лічыць, у значнай частцы афарміліся як нацыя ўжо ў 1870-я г.[23]. Што да прыдняпроўскіх украінцаў, беларусаў і славакаў, то ў іх на пачатку Першай сусветнай вайны існавалі вузкія групы мясцовай нацыянальнай інтэлігенцыі, адарваныя ад шырокай народнай масы, якая захоўвала ў цэлым класавае мысленне (асабліва гэта датычыла беларусаў і ўкраінцаў), і пазбаўленыя шырокай гарадской сацыяльнай базы. Беларусам не ўдалося запусціць механізм фармавання ўласных прывабных нацыянальных эліт на чэшскі ўзор. У буйных гарадах беларусаў было мала, яны былі пераважна непісьменныя (калі ж нават умелі чытаць і пісаць, дык дакладна не па-беларуску) і ў цэлым незаможныя. Таму ў іх не было шанцаў вылучыць са свайго асяроддзя шматлікую заможную беларускамоўную эліту, якая гуртавалася б вакол беларускамоўных інстытутаў. Сацыяльны рост яны атаясамлівалі з інтэграцыяй у рускамоўнае (значна радзей польскамоўнае) асяроддзе. Адвучыўшыся

[23] Гл.: Hroch M. Małe narody Europy. Perspektywa historyczna, Wrocław — Warszawa — Kraków, 2003. S. 15–18.

ў рускамоўных школах, яны калі і браліся нешта чытаць, то выбіралі рускамоўныя газеты. Свет рускіх і польскіх паноў быў ім класава варожы, але ж таксама прывабны. Набліжэнне да іх культуры азначала сацыяльны рост, чаго не магла ў гэты час даць беларуская культура.

Важным у гэтым працэсе было і тое, што, у процілегласць чэшскім рэаліям, Беларусь у гэты перыяд была эканамічна і цывілізацыйна адсталым краем, а таму беларусы не мелі шанцаў на стварэнне ўласнай шматлікай буржуазіі і дробнага мяшчанства (г. зн. сярэдняга класа), бо і сярод рускіх ды палякаў, што насялялі беларускія землі, гэтыя слаі былі надзвычай слаба развіты. Між тым, утварэнне такіх сацыяльных слаёў пры спрыяльных умовах можа ісці адносна хутка (што і назіралася ў чэхаў), тады як фармаванне памешчыцка-арыстакратычных, шляхецка-інтэлігенцкіх эліт, якія дамінавалі на беларускіх землях, патрабуе цэлых пакаленняў і зноўтакі спрыяльных умоў, якіх беларусы не мелі. Шляхецкія эліты ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе анямечыліся, спаланізаваліся, змадзьярызаваліся або зрусіфікаваліся ў Цэнтральна-Усходняй Украіне і нідзе ў сваёй масе не станавіліся на бок „малых народаў Еўропы” (кажучы словамі М. Гроха), якія зараджаліся ў XIX ст. Стварэнне такіх эліт на нацыянальнай глебе за некалькіх дзясяткаў гадоў было немагчымым.

Узровень нацыянальнай свядомасці польскага і тым больш рускага сялянства працяглы час не адрозніваўся ад таго, якім характарызаваліся іх славянскія суседзі. Палякі мелі адметную сітуацыю дзякучы наяўнасці ў іх шляхецка-інтэлігенцкай эліты, таму іх успрымалі як развітую нацыю, нягледзячы на тое, што нацыянальнае самаўсведамленне польскіх сялян адбылося на некалькі дзясяткаў гадоў пазней, чым у чэхаў. Адрозненні ў ступені цывілізацыйнага развіцця польскага грамадства ў трох розных частках былога Каралеўства Польскага ў некаторай ступені ілюстравалі (і сімвалізавалі) наяўныя ў гэтай частцы Еўропы цывілізацыйныя падзелы. На тэрыторыі падпарадкаванага Расійскай імперыі Царства Польскага непісьменных, паводле стану на 1897 г., было

59%, у Галіччыне ў 1910 г. — 40,8% (у яе ўсходняй частцы больш, чым у заходняй), а на польскіх землях у складзе Прусіі — усяго 5% (г. зн. на ўзроўні Чэхіі)[24]. Польскія землі ў складзе Расіі, такім чынам, характарызаваліся найніжэйшым узроўнем пісьменнасці, хоць ён і быў тут вышэйшы, чым на землях Беларусі і Прыдняпроўскай Украіны. Узровень развіцця ўсіх гэтых земляў прадвызначаўся цывілізацыйнай адсталасцю Расіі. Крыху лепш было ў Галіччыне і падпарадкаванай венграм Славакіі, а значна лепш — у Чэхіі і на польскіх землях у складзе Прусіі. Іншымі словамі, чым бліжэй да Масквы, тым горшая была цывілізацыйная інфраструктура, чым бліжэй да Вены і Берліна — тым яна была лепшая. Метады развіцця нацыянальнай самасвядомасці ў Празе і Познані былі да пэўнай ступені падобныя, хоць нацыянальная палітыка Прусіі, асабліва пасля абвяшчэння палітыкі „культурнай барацьбы", не была такой ліберальнай, як у Аўстрыі. Тым не менш, абедзве дзяржавы — хоць прусы і мелі цягу да прымусовай асіміляцыі палякаў — былі дзяржавамі права, чаго нельга было сказаць пра Расію (асабліва ў перыяд паміж паўстаннем 1863–64 г. і рэвалюцыяй 1905 г.). Гэтак жа як і чэхі, палякі ў працэсе эканамічнай канкурэнцыі з немцамі паволі „вярталі" сабе раней анямечаныя тэрыторыі (хоць перадумовы гэтага працэсу былі больш складаныя).

Пераходзячы да другой групы фактараў-перадумоў нацыятварэння, варта падкрэсліць, што істотным у працэсе вылучэння новай нацыі з ранейшага кангламерату, які нярэдка насіў палітычна-дзяржаўны характар, было тое, наколькі вялікай была культурная дыстанцыя паміж нованароджанай нацыяй і той, якая палітычна

[24] Historia Polski w liczbach. Państwo. Społeczeństwo. T. I. Warszawa, 2003. S. 228–230. Статыстыка Царства Польскага ахоплівае насельніцтва, старэйшае за 10 гадоў, галіцкая — старэйшае за 11 гадоў; што да польскіх земляў у складзе Прусіі, то дадзеныя па Цешынскай Сілезіі ахопліваюць старэйшых за 10 гадоў, тады як звесткі па Вялікім Княстве Пазнанскім і Гданьскім Памор'і датычаць толькі маладажонаў 1910 г. (Верхняя Сілезія — 99% пісьменных).

панавала[25], асабліва калі браць культуру наяўных на той час эліт. У Цэнтральнай і Усходняй Еўропе пасля заняпаду Венгрыі і паглынання яе Аўстрыяй, а таксама пасля пазнейшай ліквідацыі Рэчы Паспалітай нацыі фармаваліся на аснове моўна-этнічнай адметнасці. Такім чынам, бязмерна важным фактарам, які вызначаў шанцы на працістаянне паноўнай культуры эліт, была мова. Значная розніца паміж чэшскай і нямецкай, а таксама славацкай і венгерскай мовамі ўскладняла працэсы анямечвання і мадзьярызацыі ды спрыяла захаванню выразнай культурнай граніцы паміж дзвюма супольнасцямі, якія змагаліся паміж сабой, імкнучыся перацягнуць на свой бок народныя масы. У сваю чаргу, такога моўнага бар'еру не было паміж беларусамі ды ўкраінцамі з аднаго боку і палякамі ды рускімі з другога. Беларускія гаворкі ў XIX ст. амаль агульнапрызнана лічыліся пераходнымі формамі на памежжы рускага і польскага моўнага арэалу або нават проста складовымі часткамі гэтых арэалаў. Паколькі гэтымі гаворкамі карысталіся амаль выключна сяляне, іх адносілі да прастамоўя і лічылі не вартымі друку. Падобным было стаўленне і да ўкраінскай мовы, асабліва на Прыдняпроўскай Украіне. Вось чаму беларускія і ўкраінскія сяляне ў працэсе прасоўвання па сацыяльнай лесвіцы, які найчасцей праяўляўся ў іх пераездзе ў

[25] Юзаф Хлябоўчык (Chlebowczyk J. O prawie do bytu małych i młodych narodów. Kwestia narodowa i procesy narodotwórcze we wschodniej Europie Środkowej w dobie kapitalizmu (od schyłku XVIII do początków XX w.). Warszawa, 1983. S. 33) карыстаецца паняццем „паноўнай групы", якая вызначаецца „прыналежнасцю да дзяржаўнай супольнасці" (напр. „нямецкія анклавы да 1897 г. на тэрыторыі ўсёй Габсбургскай манархіі"), а таксама паняццем „даміноўнай групы", да якой залічаюцца „групы, што належаць да супольнасці, якая дамінуе на дадзенай тэрыторыі з прычыны сваёй эканамічнай або сацыяльнай перавагі, больш прасунутага культурна-цывілізацыйнага ўзроўню, а таксама ступені публічнай актыўнасці, займаных (узурпаваных) пасад і публічна-прававаых прывілеяў" (напрыклад, палякі ва Усходняй Галіччыне).

горад, адмову ад сваёй мовы на карысць спачатку польскай, а потым рускай лічылі, як правіла, натуральнай з’явай, не толькі не бачачы ў ёй нацыянальнага аспекту, але нават і не ў поўнай меры ўсведамляючы сам факт таго, што яны мяняюць мову (тым болей што з цягам часу ўтварыліся разнастайныя формы мяшаных кайнэ — „трасянка” ў Беларусі і „суржык” ва Украіне).

Важным было і тое, наколькі новая нацыянальная супольнасць магла апеляваць да элітарнай культуры і дзяржаўных структур, якія некалі мела (як у выпадку чэхаў) і ці былі такія магчымасці наогул (славакі тут уяўлялі сабой адмоўны прыклад, хоць яны часам і спрабавалі апеляваць да традыцый Вялікамараўскай дзяржавы). Рэшткі даўнейшых дзяржаўных структур зберагаліся на чэшскіх землях аж да XIX ст., што аблягчала працэс *нацыянальнага адраджэння* — фармавання нацыянальнай гістарычнай свядомасці. У выпадку Беларусі Вялікае Княства Літоўскае атаясамлівалася, як правіла, з літоўцамі, хоць некалі ў ім дамінавала беларуская культура. Усведамленне беларускага характару супольнай з літоўцамі старажытнай дзяржавы было слабым сярод элітаў Беларусі XIX ст., дый у XX ст. не зрабілася агульнапашыраным, хоць дзеячы беларускага нацыянальнага руху апелявалі да спадчыны ВКЛ як перад Першай сусветнай вайной, так і пасля з’яўлення незалежнай Беларусі. Крыху лягчэйшую сітуацыю мелі ўкраінцы, якія маглі ў працэсе канструявання ўкраінскай гістарычнай свядомасці спасылацца на традыцыю казацтва і Гетманшчыны — структур, якія, праўда, больш мелі характар аўтаноміі, чым увасаблялі сабой поўную, стабільную на працягу больш-менш доўгага часу незалежнасць. Вось чаму і ў гэтым выпадку ў найлепшым становішчы былі чэхі.

Апрача таго, у выпадку беларусаў і прыдняпроўскіх украінцаў у гульню ўступіў фактар, якога не было ў іншых суседніх народаў. Гэты фактар негатыўна паўплываў на магчымасць фармавання тут асобных нацый. І беларусам, і далучаным да Расіі ўкраінцам у 1839 г. было навязана праваслаўе ў яго расійскай версіі,

якая не толькі кансервавала механізмы сацыяльнага развіцццця, адрозныя ад заходніх, але і атаясамлівала ўсходнеславянскае праваслаўе з рускасцю, якая разумелася як наднацыянальнае адзінства, уласцівае „тром галінам аднаго рускага народа — велікарусам, маларусам і беларусам”. Расійскія гісторыкі, імкнучыся давесці існаванне адзінай усходнеславянскай нацыі, пачалі апеляваць да такіх паняццяў, як „древнерусский народ” і „единый русский народ”. Гэтая канцэпцыя, якая насаджалася як дзяржаўнымі, так і царкоўнымі ўладамі, была досыць шырока ўспрынята рознымі слаямі ўсходнеславянскіх праваслаўных грамадстваў (г. зн. за выключэннем галіцкіх украінцаў). Мысленне ў катэгорыях рускай супольнасці, якое не мела аналагаў на Захадзе, аслабляла ў першую чаргу магчымасць нацыянальнага развіцця беларусаў і ўкраінцаў (але адначасова замінала і пашырэнню развітой нацыянальнай свядомасці заходняга тыпу сярод простанародных слаёў велікарускага грамадства). Больш за тое, уключэнне беларусаў (і ўкраінцаў) у расійскі культурны кантэкст (што называўся, як правіла, рускай або расійскай цывілізацыяй) пацягнула за сабой фармаванне шэрагу істотных культурных асаблівасцяў і грамадскіх механізмаў, у выніку чаго на Беларусі атрымалі сілу „саборныя” канцэпцыі заходнерусізму, пазней — савецкай супольнасці, а яшчэ пазней — „славянскага адзінства” (савецка- і постсавецка-заходнярускай супольнасці). Гэты светапогляд адрозніваўся ад нацыянальнай канцэпцыі заходняга ўзору, якая набыла асаблівае развіццё ў так званы „нашаніўскі” перыяд 1906–1915 г. (больш за тое, многае сведчыць, што „саборная” канцэпцыя ў большай ступені, чым гэта было ў лацінскай цывілізацыі, арыентавала сваіх прыхільнікаў на класавыя падыходы, а гэта ў сваю чаргу таксама тармазіла нацыятворчыя працэсы). З пачатку XX ст. гэтыя дзве канцэпцыі беларускасці пачалі канкураваць паміж сабой. Заходняя канцэпцыя — асабліва напачатку — фармавалася пераважна каталікамі і несла з сабой вартасці, да пэўнай ступені чужыя і незразумелыя праваслаўнай

большасці беларускага грамадства, што і стала адной з найважнейшых прычын яе заняпаду.

На ўсходнеславянскіх землях тоеснасць, што грунтавалася на глебе праваслаўя, досыць доўга дамінавала — асабліва сярод простых людзей, у тым ліку і ў СССР, у форме так званага „бытавога хрысціянства”[26], — над свецкай разнавіднасцю калектыўнага самаўсведамлення, якою ёсць нацыя. Можна спрачацца наконт таго, наколькі гэта вынікала з расійскай традыцыі атаясамлівання свецкай і духоўнай улады. Саборная нацыя („народ”) павінна была вырастаць з праваслаўнай супольнасці і супадаць з ёю. Праяў нацыянальнага сепаратызму, якія ўзніклі ў рамках каталіцкай царквы, у праваслаўнай царкве не было. Прыведзеныя тут спецыфічныя для ўсходнеславянскай супольнасці катэгорыі мыслення характарызавалі ў рамках Расійскай імперыі беларусаў і ўкраінцаў, але, відавочна, ужо не літоўцаў, якія, нягледзячы на сваё цывілізацыйнае адставанне, супраціўляліся русіфікацыі на грунце сваёй рэлігійнай і моўнай адметнасці, а таксама набору каштоўнасцяў, які вызначаў іх прыналежнасць да заходняй культуры. Чэхі і славакі такога роду „саборных” праблем не мелі. У культурных (і моўных) адносінах яны прынцыпова адрозніваліся ад аўстрыйскіх немцаў і венграў, а іх праблема, у адрозненне ад беларусаў і ўкраінцаў, не была выклікана перспектывай нявыхаду на ўзровень нацыі і захавання ў рамках спецыфічнай „саборнасці” на ўзроўні этнаграфічна-фальклорных рэгіянальных асаблівасцяў. Перад імі стаяла дылема, ці яны ў працэсе фармавання ўласных нацый (бо непазбежнасць самога працэсу не выклікала сумнення) анямечваюцца (у выпадку славакаў змадзьярызуюцца), ці павернуцца да нацыянальнага існавання ў чэшскіх і славацкіх формах. Галіцкія ўкраінцы, нягледзячы на сваю культурна-моўную блізкасць да палякаў, дзякуючы падтрымцы венскіх улад і механізмам сацыяльнага развіцця,

[26] Гл.: Pawluczuk W. Ukraina. Polityka i mistyka. Kraków, 1988. S. 125–126.

што абумовілі іх прыналежнасць да лацінскай часткі Еўропы, паспяхова агоралі працэс уласнага нацыянальнага развіцця ў канфрантацыі з палякамі. Гэты моцны канфрантацыйны аспект фармавання нацыі, які ў эмацыянальным сэнсе аблягчаў яе ўтварэнне, практычна не склаўся сярод беларусаў у дачыненні да палякаў, а тым больш да рускіх (ці, ва ўсякім разе, быў надта слабы).

Трэцяя група фактараў, якія вызначалі кірунак і тып нацыятворчых працэсаў, мае палітычны характар і адносіцца, у кантэксце нашых разважанняў, перш за ўсё да нацый, якія вылучаліся з больш буйных дзяржаўна-палітычных, а часам культурных супольнасцяў. Еўрапейскія дзяржавы на працягу апошніх двух стагоддзяў некаторыя нацыянальныя рухі падтрымлівалі, а некаторыя прыгняталі. У адных дзяржавах панавалі ліберальныя, дэмакратычныя парадкі, а ў другіх — аўтарытарныя, дэспатычныя, што нярэдка мела істотны ўплыў на саму магчымасць існавання такіх рухаў, нават без спецыяльнага ўмяшання дзяржаўных улад. На пачатковых этапах развіцця нацыянальных рухаў, калі яны яшчэ не носяць масавага характару, іх залежнасць ад палітыкі дзяржаўных улад вельмі вялікая. Найлепш гэта відаць на прыкладзе Расіі, якая была дзяржавай дэспатычнай, дзяржавай, што не прызнавала беларусаў і ўкраінцаў за асобныя народы. Яна прыгнятала іх нацыянальнае развіццё ўсімі даступнымі сродкамі, асабліва да 1905 г., што ў немалой ступені спрычынілася да нізкага ўзроўню развіцця гэтых народаў на момант пачатку Першай сусветнай вайны. У выніку іх лідарам не ўдалося пад канец вайны натхніць людзей на нацыянальную барацьбу ў той ступені, у якой гэта было неабходна для заваявання незалежнасці, — хоць тэарэтычна магчымасць такая была, асабліва ў выпадку з Украінай.

Уплыў дзяржаўных улад на развіццё нацыянальнага руху быў асабліва відавочны ў выпадку славакаў. Славацкі рух набываў моц у перыяды здабыцця незалежнасці ад Венгрыі (прыкладам могуць служыць паўстанцкія паходы супраць Венгрыі, распачатыя прыхільнікамі Людавіта Штура ў 1848–1849 г.), якое дасягалася

нярэдка пры падтрымцы аўстрыйскіх улад. Славацкая асвета была абмежавана ў магчымасцях свайго развіцця, славацкія газеты і нацыянальныя інстытуты гвалтоўна закрываліся, нацыянальныя дзеячы зведвалі рэпрэсіі. Праз усю гісторыю славацкага нацыянальнага адраджэння мела месца з'ява, калі, з аднаго боку, то нарастала, то слабела рэпрэсіўная палітыка Будапешта ў дачыненні да славацкіх нацыянальных памкненняў, а з другога — перыядычна ўзнікала падтрымка славакаў з боку Вены. Гэта прыводзіла да яўнай „хвалепадобнасці" славацкага нацыянальнага руху.

Ліберальная палітыка Вены стварыла ўмовы для шпаркага развіцця чэшскага нацыянальнага руху. Пачынаючы з 1848 г. аўстрыйскія ўлады падтрымлівалі — праўда, у розныя часы з рознай інтэнсіўнасцю — і ўкраінскі рух, вынікам чаго было развіццё не толькі ўкраінскай асветы (якая стаяла на другім месцы пасля чэшскай), але і ўкраінскай прэсы, культурна-асветніцкіх устаноў ды палітычных партый, хоць украінская супольнасць характарызавалася значна ніжэйшым узроўнем цывілізацыйнага развіцця ў параўнанні з чэхамі. Нацыянальная свядомасць галіцкіх украінцаў, хоць і далёкая ад той, што была ўласціва чэхам, была куды вышэйшая, чым у прыдняпроўскіх украінцаў. Гэта зрабілася відавочным у канцы другога дзесяцігоддзя XX ст., калі менавіта галіцкія ўкраінцы ўзняліся на барацьбу за ўласную незалежнасць з палякамі, тады як прыдняпроўскія ўкраінцы масава рабілі выбар на карысць класавай ідэалогіі, што прывяло іх у далейшым выніку ў склад бальшавіцкай дзяржавы са сталіцай у Маскве.

Падсумоўваючы, можна канстатаваць, што ў выпадку беларусаў (а таксама — хоць і ў крыху меншай ступені — украінцаў у складзе Расійскай імперыі) слабасць моўнага фактару і нетрывалае ўсведамленне сваёй даўнейшай нацыянальна-дзяржаўнай адметнасці ўзмацнялася адсутнасцю эліт, якія маглі б лічыцца нацыянальна беларускімі, а таксама велізарнай адсталасцю цывілізацыйнай інфраструктуры і адсутнасцю аж да Першай сусветнай вайны хоць якой палітычнай

падтрымкі іх нацыянальным памкненням, не гаворачы ўжо пра палітычныя (наадварот, мела месца актыўнае супраціўленне Масквы любым спробам эмансіпацыі, якія выходзілі за рамкі літаратурных практыкаванняў — дый нават апошнія былі дазволены толькі пасля 1905 г.). Магчыма, калі б хоць адна з пералічаных трох груп фактараў склалася па-іншаму, гэта прыметна змяніла б сітуацыю на карысць беларусаў. Галіцкія ўкраінцы характарызаваліся нізкім узроўнем цывілізацыйнага развіцця, але дзякуючы ў першую чаргу рэлігійнай адметнасці ад палякаў (грэка-каталіцызм) і падтрымцы аўстрыйскіх улад (ліберальная палітыка Вены) яны значна больш прасунуліся наперад у развіцці нацыянальных формаў, чым у некалькі разоў большая паводле плошчы і колькасці насельніцтва расійская Украіна. Чэхі ва ўсіх трох аспектах развіцця былі па-за канкурэнцыяй. Гісторыя выразна спрыяла ім. Славакам жа пашанцавала пасля заканчэння Першай сусветнай вайны. У момант яе пачатку яны паводле ўзроўню развіцця свайго нацыянальнага руху не адрозніваліся ад беларусаў. „Працэс асіміляцыі, — сцвярджаюць Р. Гек і М. Ажахоўскі, — вельмі далёка зайшоў ва Усходняй Славакіі, насельніцтва якой у XIX і XX ст. неаднаразова займала мадзьярафільскія пазіцыі. У канцы XIX ст. ва ўсёй Заходняй Славакіі можна было налічыць усяго каля 1000 чалавек, якія адкрыта выказваліся пра сваю прыналежнасць да славацкага народа і актыўна праяўлялі сваю нацыянальную свядомасць”[27]. Вынікам гэтага было тое, што ў 1918 г. у Славакіі можна было знайсці ўсяго 12 урачоў і 10 настаўнікаў сярэдніх школ, якія гаварылі пра сваю славацкасць[28]. Адначасова Лявон Баршчэўскі, перакладчык, літаратуразнавец і адзін з вядучых беларускіх апазіцыйных палітыкаў нацыянальнай скіраванасці, некалькі гадоў таму так ахарактарызаваў маштаб уплыву беларускага нацыянальнага руху

[27] Heck R., Orzechowski M. Historia Czechosłowacji… S. 237.

[28] Bardach J. Od narodu politycznego do narodu etnicznego w Europie Środkowo-Wschodniej // Kultura i Społeczeństwo. 1993. № 4. S. 11.

нашаніўскага перыяду (1906–1915): „Тых, хто актыўна займаўся творчасцю і інтэлектуальнай працай, была нейкая сотня чалавек. Звычайных жа карэспандэнтаў „Нашай Нівы” за гэтыя дзесяць гадоў назбіралася хіба некалькі тысяч”[29]. Калі нават максімальна расцягнуць паняцце беларускага нацыянальнага актывіста, то атрымаем колькасць хіба ўдвая-ўтрая большую. Меркаваная лічба нацыянальна свядомых беларусаў не перавышала ў той час некалькіх соцень чалавек.

Пасля Першай сусветнай вайны дзякуючы міжнародным дамоўленасцям (бо наўрад ці дзякуючы намаганням саміх славакаў) славацкія землі былі аддзелены ад Венгрыі і ўвайшлі ў склад новай чэхаславацкай дзяржавы. На працягу некалькіх дзесяцігоддзяў сумеснага існавання з чэхамі славакі напоўніцу раскрыліся як мадэрная еўрапейская нацыя. Стварыўшы незалежную дзяржаву, чэхі не праяўлялі ў дачыненні да іх асіміляцыйных ці рэпрэсіўных памкненняў, якія маглі б значна ўскладніць іх нацыянальнае развіццё. Беларусы, апынуўшыся ў рамках СССР у адной лодцы з рускімі, з рускай культурай і прыняўшы ў сваіх гарадах рускую мову, такога ўзроўню нацыянальнага развіцця не дасягнулі. Такім чынам, у выпадку славакаў ключавым выявіўся палітычны фактар, які спярша радыкальна тармазіў развіццё славацкай нацыянальнай супольнасці, аж да небяспекі яе знікнення, а потым стварыў для яе нечакана спрыяльныя — на фоне папярэдніх рэалій — умовы развіцця.

Савецкі Саюз не даў шанцаў на паўнацэннае нацыянальнае развіццё беларусам, за выключэннем кароткага перыяду беларусізацыі ў 1920-я г. Ён стварыў мадэрнае адукаванае беларускае грамадства, знітаванае ідэалагічнымі повязямі, якое раней абыходзілася сувязямі чыста лакальнымі. Русіфікуючы беларусаў, савецкая ўлада, аднак, радыкальна аслабіла такі істотны фактар нацыятворчых працэсаў, як мова. Замест нацы-

[29] Ograbiony naród. Rozmowy z intelektualistami białoruskimi. Przeprowadzili Nocuń M., Brzeziecki A. Wrocław, 2007. S. 43.

янальных повязяў яна збудавала мадэрнае грамадства з апорай на зусім іншым грунце — савецкай ідэалогіі. Гэты грунт не заняў месца побач з нацыянальнымі каштоўнасцямі, як гэта здарылася пасля Другой сусветнай вайны ў прыбалтыйскіх рэспубліках, а выцесніў іх, што значна ўскладніла працэс фармавання беларускай нацыі, бо патрабавала адмовы ад ранейшага аб'яднальнага падмурку, які дагэтуль адпавядае патрэбам значнай часткі беларусаў. У цэлым выявілася, што лінія, якая аддзяляе грамадствы са слабаразвітым нацыянальным пачуццём ад тых, што займелі высокаразвітую нацыянальную свядомасць, — выходзячы з заходняга паняцця нацыі — у цэлым супадае з лініяй, якая аддзяляе каталіцкія грамадствы ад праваслаўных. Вальнь тут з'яўляецца выключэннем, якое патрабуе асобнага разгляду. Украінскі гісторык Яраслаў Грыцак бачыць немалаважную прычыну такога стану рэчаў у пісьмовай адсталасці праваслаўных усходніх славян, якая захоўвалася на працягу многіх соцень гадоў і праяўлялася ў познім узнікненні літаратуры, малой колькасці выданняў, малых сукупных тыражах кніг на душу насельніцтва, што можна было назіраць да самага канца існавання Расійскай імперыі. „Там, дзе на ўкраінскіх землях у найбольшай ступені мелі месца заходнія ўплывы, — сцвярджае Я. Грыцак, — адначасова наймацней праяўляліся і ўплывы нацыянальныя"[30].

Ужо ў БССР стала ясна, што ў развіцці беларусаў, як і ва ўсіх праваслаўных славянскіх грамадствах, істотнае месца займала роля эліт — больш узвышаная, чым у каталіцкай Еўропе, у якой самастойная ініцыятыва людзей, іх схільнасць да самаарганізацыі адыгрывалі куды большае значэнне. Беларусы, якія да канца Расійскай імперыі не мелі высокаадукаваных эліт, сама меней з пачатку 1930-х г. падпарадкоўваліся анацыянальным (а нярэдка і антынацыянальным) камуністычным элітам, навязаным Мінску Масквой. Ад гэтага яны так

[30] Hrycak J. Nowa Ukraina. Nowe interpretacje. Wrocław, 2009. S. 208.

і не вызваліліся да канца існавання СССР, найчасцей прызнаючы гэтыя псеўдаэліты за свае ўласныя, сумныя вынікі чаго можна назіраць і сёння. У савецкіх рэаліях яны не сфармавалі — дый гэта было б надта складана зрабіць — і моцных механізмаў сацыяльнай інтэграцыі. Адначасова нацыянальнае развіццё беларусаў ішло несінхронна з нацыянальнымі працэсамі ў Еўропе. Калі перад Першай сусветнай вайной Беларусь вызначалася надзвычай нізкім узроўнем нацыянальнага развіцця, а яе нацыянальны рух быў амаль пазбаўлены моцных нацыяналістычных акцэнтаў (у неангласаксонскім, каштоўнасным разуменні нацыяналізму), то пасля здабыцця незалежнасці на пачатку 1990-х г. гэты рух — што і зразумела — спрабуе капіяваць даўнейшыя еўрапейскія ўзоры ў сітуацыі, калі на Захадзе стан рэчаў у гэтым плане ўжо прынцыпова змяніўся.

*Пераклад Сяргея Петрыкевіча*

# Belarusians on the background of nation formation processes in Central and Eastern Europe

**Ryszard Radzik**

This article presents a comparison of the formation of nations with Belarusians, Ukrainians, Slovaks and Czechs. The author distinguishes three types of factors contributing to the processes of formation of nations in Central and Eastern Europe in XIX and early XX centuries. The first one enables such a process to begin but does not determine its direction. This is a level of civilizational development (communications, writing, urbanization, etc.). The second type is a set of cultural characteristics (single language, ethnicity, culture, tradition).They determine the possibilities of self-separation of a specific community, influencing, therefore, the direction of the formation of the nation. The third type is the state-political factors that may contribute to the national movements or vice versa, slow them down.

In the case of Belarusians, a weakness a linguistic factor and lack of memory of the nation-state individuality was supplemented by lack of the elites who saw themselves nationally Belarusians. To this we must add a strong backlog of infrastructure development and the absence of any political support for their movement until World War I. At least one of the above factors could change the situation in Belarus for the better.

*Translated by Anatol Minkovsky*

# Ідэя чарнаморскай федэрацыі Міхайлы Грушэўскага (1918 г.)

**Генадзь Каралёў**

Перыяд украінскай рэвалюцыі 1917–1921 г. быў часам рэалізацыі шматлікіх дзяржаўных і нацыянальных праектаў, якія ўзнікалі як вынік развіцця „негістарычнай" нацыі ў прасторы Усходняй Еўропы. У гэтым кантэксце крах Расійскай імперыі стаў каталізатарам працэсаў вызваленчай барацьбы народаў т. зв. заходніх ускраін. Менавіта пад час рэвалюцыйных падзей 1917–1921 г. былі абгрунтаваны праекты дзяржаўнага будаўніцтва, сярод якіх вылучаецца ідэя чарнаморскай федэрацыі.

Пад паняццем „канцэпцыя чарнаморскай арыентацыі" ў сучасным гістарычным дыскурсе варта разумець сістэму поглядаў адносна мэтаў украінскай дзяржавы ў паўднёва-ўсходнім кірунку яе палітыкі. Чарнаморская арыентацыя Украіны характарызуецца асаблівым разуменнем месца гэтага кірунку ў структуры яе міжнацыянальных (геапалітычных) прыярытэтаў і змяшчае пэўны спосаб абгрунтавання яго перспектыўнасці для сцвярджэння і захавання незалежнасці[1].

Гістарычная рэтраспектыва ідэі чарнаморскай федэрацыі пададзена ў палітычнай спадчыне ўкраінскага гісторыка і палітыка пачатку XX ст. М. Грушэўскага, у працах якога прасочваецца менавіта сістэма поглядаў, а не асобныя ідэі наконт чарнаморскай арыентацыі ўкраінскай дзяржавы на ўсходнееўрапейскай арэне.

Разуменне канцэпцыі чарнаморскай федэрацыі ў творчасці М. Грушэўскага адзначана пэўным парадоксам.

[1] Домащенко Л. М. Концепції чорноморської орієнтації України у вітчизняній політичній думці першої половини XX століття. Автореф. дис. … канд. політ. наук. Київ, 2008. С. 1.

А менавіта: чарнаморская арыентацыя не можа быць, нягледзячы на чарнаморскі статус Украіны, вытлумачана літаральна, як канчатковая мэта для ўкраінскай дзяржавы і спавяданне таласакратычнага прынцыпу ў сваёй геапалітыцы. Ідэя чарнаморскай федэрацыі з'яўляецца міждзяржаўным праектам, які дазваляе Украіне стаць асновай сінтэзу сухапутных шляхоў, скіраваных з Еўропы на Усход, і міжземнаморскіх марскіх магістраляў[2].

Гістарыяграфія праблемы маладаследаваная[3]. У большасці прац, дзе прама або ўскосна разглядаецца ідэя чарнаморскай федэрацыі, сутнасць яе тлумачыцца аднабакова. Пры гэтым вылучаецца ігнараванне больш шырокага погляду на гэтую канцэпцыю як грамадска-палітычную парадыгму.

Мэта даследавання — рэканструкцыя канцэпцыі чарнаморскай федэрацыі М. Грушэўскага ў кантэксце ўкраінскай рэвалюцыі 1917–1921 г., а таксама спроба яе інтэрпрэтацыі на аснове асобасных, геапалітычных і цывілізацыйных фактараў. На гэтай падставе вылучаем такія сэнсавыя фокусы: перадумовы і прычыны з'яўлення ідэі чарнаморскай федэрацыі ў творчасці і палітычнай дзейнасці М. Грушэўскага, аналіз галоўных характарыстык канцэпцыі чарнаморскай арыентацыі, асэнсаванне ідэі чарнаморскай федэрацыі як парадыгмы гістарычнай перспектывы ў вымярэнні Усходняй Еўропы.

З пачаткам наступу бальшавіцкіх войскаў на Украіну ў снежні 1917 г. М. Грушэўскі засяродзіўся на праграм-

[2] Тамсама.

[3] Дашкевич Я. Чорноморські проблеми в минулому і сучасному // ён жа. „Учи неможними устами сказати правду": історична есеїстика. Київ, 2011. С. 517–540; Домащенко Л. М. Концепції чорноморської орієнтації України... Корольов Г. О. Автономістсько-федералістські погляди Михайла Грушевського: формування, втілення, трансформація. Автореф. … дис. канд. іст. наук. Київ, 2009; Липа Ю. Призначення України. Львів, 1992. 272 с.; Потульницький В. А. Історія української політології (Концепції державності в українській зарубіжній історично-політичній науці). Київ, 1992. 232 с.; Рудницький С. Українська справа зі становища політичної географії. Берлін, 1923. 288 с.

най і ідэалагічнай працы, спрабуючы знайсці аптымальныя шляхі развіцця дзяржавы. Скептычнае і негатыўнае стаўленне да бальшавізму ў кіраўніка Цэнтральнай Рады ў пачатку 1918 г. узмацнілася. Важна адзначыць, што пасля правядзення з яго ініцыятывы ў Кіеве з'езда народаў Расіі (21–28 верасня 1917 г.) палітык лічыў здзейсненым фактам ператварэнне Цэнтральнай Рады ў орган барацьбы за стварэнне федэратыўнай Расійскай рэспублікі.

Аднак дынамічны наступ бальшавікоў і іх рэпрэсіі адносна лідараў украінскага руху сталі вызначальнай прычынай кардынальнай трансфармацыі поглядаў М. Грушэўскага ад расійскафільскіх федэралісцкіх пазіцый да цвёрдых антырасійскіх заяваў. Варта канстатаваць, што ён вінаваціў бальшавікоў і „Маскоўшчыну" ва ўсіх цяжкасцях украінскага дзяржаўнага будаўніцтва. Менавіта тады з-пад пяра кіраўніка Цэнтральнай Рады выйшаў шэраг прац, зведзеных у трактат „На парозе новай Украіны"[4]. Ён стаў адлюстраваннем пераасэнсавання вучоным і палітыкам асноўных ідэйных лозунгаў Цэнтральнай Рады, фактычна зрабіўшыся праграмай новых рэвалюцыйных і палітычных прыярытэтаў украінскага руху. „Праз гэта ў іх няма адказаў, — пісаў гісторык, — на трывогі цяперашняй хвалі, або, калі хочаце, ёсць — толькі з пазіцыі далейшых перспектыў, на якія трэба заўсёды арыентавацца, каб не заблукаць у хаосе супярэчнасцяў і анамалій цяперашняга дня"[5].

Стрыжнёвай тэзай зборніка было абгрунтаванне ідэі ўкраінскай незалежнасці і пошук варыянтаў яе рэалізацыі. Зварот М. Грушэўскага да ідэі самастойнасці быў заканамерным, улічваючы, што найперш народніцкая ідэалогія вызначыла яго асаблівую цікавасць да праблем народнасці і нацыянальнага пытання[6]. Даючы характарыстыку сваім палітычным перакананням, вучоны

[4] Грушевський М. На порозі нової України. Гадки та мрії. Київ, 1918. 120 с.

[5] Грушевський М. Хто такі українці і чого вони хочуть. Київ, 1991. С. 134.

[6] Потульницький В. А. Історія української політології... С. 46.

пісаў: „…як дэмакрат і сацыяліст усё сваё жыццё стаяў на варце правоў нацыянальнасцяў — не толькі сваёй нацыянальнасці”[7]. Такія інтэрнацыянальныя сентэнцыі былі рэакцыяй на дынамічную змену палітычнай карты Усходняй Еўропы.

Трактат „На парозе новай Украіны” ўзнаўляў украінскую дзяржаўніцкую перспектыву па-за расійскім кантэкстам і быў перанасычаны федэралісцкімі канструкцыямі. У пачатку 1918 г. М. Грушэўскі займаўся пошукам магчымых саюзнікаў Украінскай народнай рэспублікі (далей УНР) і абгрунтаваннем новага геапалітычнага выбару. Вылучаецца некалькі характэрных фармулёвак з яго тагачаснай публіцыстыкі, — гэта канстатацыя „канца маскоўскай арыентацыі”, прызнанне неабходнасці браць прыклад з заходняй цывілізацыі, распрацоўка чарнаморскай перспектывы дзяржаўнай будучыні Украіны. Гэтыя зыходныя пазіцыі ў М. Грушэўскага не былі самастойнымі канцэпцыямі, а выступалі як ідэалагічная цэласнасць толькі ў комплексным разглядзе. Кожная з іх была толькі магчымасцю або варыянтам хуткай выпрацоўкі палітыкі Цэнтральнай Рады, альтэрнатыўнай бальшавіцкай.

Абранне самастойнага курсу ў дзяржаўным будаўніцтве Цэнтральнай Рады пасля прыняцця IV Універсала (22 студзеня 1918 г.), які абвяшчаў незалежнасць УНР, не азначала поўнага адмаўлення ад ідэі федэралізму, адбылося толькі пераасэнсаванне вучоным яе сутнасці ў геапалітычным і цывілізацыйным кантэксце. Вядома, што да гэтага федэралізм М. Грушэўскага быў заўсёды звязаны з расійскім фактарам — Расійскай рэспублікай з федэратыўным ладам, у склад якой на правах нацыянальна-тэрытарыяльнай аўтаноміі ўвайшла б Украіна.

Нясцерпная ўнутраная крыўда на бальшавіцкую ўладу вызначыла таксама неўспрыманне ім Белага руху з яго палавіністымі праектамі канстытуцыйнага манархізму. „Першае, што я лічу пераажытым і аджытым, такім, „што згарэла ў маім кабінеце”, гэта наша

[7] Грушевський М. На порозі нової України. С. 114.

арыентацыя на Маскоўшчыну, на Расію, якая накідвалася нам доўга і ўпарта сілай...»[8], — пісаў вучоны, асэнсоўваючы наступствы бальшавіцкай экспансіі супраць УНР у пачатку 1918 г. Незалежнасць УНР у рэцэпцыі М. Грушэўскага канструявалася ў форме дэмакратычнай і сацыялістычнай Украінскай рэспублікі[9]. Ён вызначаў, што такія характарыстыкі накіраваны на тое, „каб адвесці ўсялякія падазрэнні, спадзяванні — што самастойнасць Украіны будзе формай украінскай рэакцыі або ўкраінскай нацыянальнай выключнасці”[10].

Але не варта прымяншаць ролю асобаснага фактару, эмацыйнасці, амбіцыйнасці гісторыка ў кантэксце разумення прычын вяртання да федэралісцкай ідэі. М. Грушэўскі пры ўсёй сваёй самастойнасці нярэдка „гуляў па чужых правілах”, моцна трапляючы пад уплыў негатыўных жыццёвых абставін. Прыкладам можа быць разбурэнне чырвонымі войскамі М. Мураўёва яго дома ў Кіеве ў студзені 1918 г. У яго публіцыстыцы адразу адзначаюцца кардынальныя змены ранейшых ідэалагічных пазіцый. Супярэчлівыя думкі выкладзены М. Грушэўскім у артыкулах „На пераломе”, „Канец маскоўскай арыентацыі” і інш. „25 студзеня, пад час бамбавання Кіева, — пісаў вучоны, — бальшавікі падпальнымі снарадамі расстралялі дом, дзе я жыў, — наш фамільны дом, пабудаваны дзесяць гадоў таму за грошы, пакінутыя бацькам... Доўга было б апавядаць і прыкра нават узгадваць. Цяпер ужо ніякія сілы не вернуць яго...”[11]. Тлумачэнне ўнутраных матываў ідэйна-палітычных трансфармацый М. Грушэўскага — складаная ілюстрацыя тэндэнцый гістарычнага развіцця ўкраінскага грамадства XIX — пачатку XX ст. Аднак рэзюмуючы змест названых артыкулаў, варта вылучыць тое, што асноўным інтэлектуальным крэда кіраўнік Цэнтральнай Рады абвясціў актывізацыю працэсу ўсведамлення

[8] Ён жа. Хто такі українці і чого вони хочуть. С. 138.
[9] Цэнтральны дзяржаўны гістарычны архіў Украіны ў г. Кіеве. Ф. 1235. Воп. 1. Спр. 185. Арк. 8адв.
[10] Тамсама.
[11] Грушевський М. Хто такі українці і чого вони хочуть. С. 135.

палітычных задач украінскага руху з новых пазіцый, не перагружаных „спадчынай старога, пражытага”[12].

У артыкуле „На пераломе” гісторык выразна вызначыў перспектывы папярэдніх ідэй нацыянальна-вызваленчага руху і рэвалюцыйнага часу, паказваючы, што „сіла старых поглядаў і адносін у грамадстве не толькі запавольвае тэмп руху, але і скрыўляе яго хаду, і гэта асабліва бывае небяспечна ў такія адказныя і крытычныя моманты, як цяперашні”[13]. Далей М. Грушэўскі падкрэслівае важнасць абвешчанай самастойнасці УНР і спрабуе прыцягнуць усё свядомае ўкраінства да ўдзелу ў будаўніцтве „новых прынцыпаў жыцця”. Аналіз палітычнага і маральнага становішча вызваленчага руху ў перыяд ваеннага супрацьстаяння з бальшавікамі прывёў старшыню Цэнтральнай Рады да важнасці вызначэння новых дзяржаўніцкіх перспектыў. Для гэтага трэба было абгрунтаваць антырасійскую пераарыентацыю палітыкі Цэнтральнай Рады.

Міхайла Грушэўскі як прафесійны вучоны абраў для гэтага адмаўленне на гістарычным узроўні сувязі Украіны з Расіяй. Ён удала злучыў контраверсійныя думкі і эклектычна абгрунтаваў адсутнасць перспектыў адносін Украіны з апошняй. Вучонага абурала наяўнасць агульных характарыстак у дзейнасці ранейшай імперскай бюракратыі і рускага рэвалюцыйнага руху, якія апынуліся ў дачыненні да Украіны „цвёрдагаловымі цэнтралістамі і аб’яднальнікамі”[14].

Асэнсаванне імперскай палітыкі ў дачыненні да Украіны прывяло гісторыка да думкі „пра глыбокую антытэзу гэтых двух блізкіх па крыві, але розных па духу народаў”[15]. Пры гэтым вучоны адназначна пераарыентаваў Украіну з Расіі ў бок Еўропы. Менавіта ўсходняя прастора апошняй стала полем будавання М. Грушэўскім дзяржаўнай перспектывы сваёй Айчыны. Гісторык адразу стаў

[12] Тамсама. С. 138.
[13] Тамсама. С. 136.
[14] Грушевський М. Кінець московської орієнтації // ён жа. Хто такі українці і чого вони хочуть. С. 139.
[15] Тамсама. С. 141.

абгрунтоўваць базавыя характарыстыкі мадэлі магчымага федэратыўнага саюзу з удзелам Украіны, якія выкладзены ў яго праграмных публікацыях „Наша заходняя арыентацыя”, „Арыентацыя чарнаморская” і „Новыя перспектывы”.

У гэтых артыкулах адлюстраваны трансфармацыі федэратыўнай канцэпцыі гісторыка. У іх аснове ляжыць разуменне „новай Украіны”, гэта значыць такой, якая павінна адысці ад бязмежнай веры ў арганізацыю агульнага з Расіяй дзяржаўнага арганізму. Заканамерным здаецца абгрунтаванне вучоным падстаў і значнасці небальшавіцкай арыентацыі. Менавіта гэтая думка ляжыць у аснове канструявання варыянтаў і перспектыў будучай украінскай дзяржаўнасці. Такая пазіцыя прадвызначалася неўспрыманнем Саўнаркамам лідарскай ролі Цэнтральнай Рады пад час пераўтварэння былой імперыі ў дэмакратычную федэратыўную рэспубліку.

Удалую рэалізацыю праекта „новай Украіны” М. Грушэўскі звязваў з наяўнасцю культурных і эканамічных падстаў, а таксама са з’яўленнем чарнаморскай або сусветнай федэрацыі. Ён адзначаў перспектыўнасць палітычнай дзейнасці Цэнтральнай Рады, накіраванай на пабудову „новай Украіны”, у якой суіснавалі дэмакратычныя прынцыпы, ідэі нацыянальнай згоды і гармоніі. Роля і месца сялянства ў сацыяльна-класавай структуры ўкраінскага грамадства былі для яго асновай разумення гістарычнага руху — „падмуркам гэтай Вялікай Украіны”[16]. Такая светапоглядная і навуковая пазіцыя выходзіла з народніцкіх поглядаў вучонага. Сутнасць гэтай ідэі не ў разуменні Украіны як вялікай „тэрыторыі” або магчымасці „панавання” над іншымі, а ў саборным яднанні этнаграфічных украінскіх земляў[17].

Канцэпт „новая Украіна” ў публіцыстыцы М. Грушэўскага характарызуе наяўнасць сувязі ўкраінскага народа з духоўнымі і маральнымі каштоўнасцямі за-

[16] Тамсама. С. 162.

[17] Кармазіна М. Ідея державності в українській політичній думці (кінець XIX — початок XX ст.). Київ, 1998. С. 333.

ходняга грамадства і канстатацыяй ідэі самастойнасці. Гэтае паняцце выходзіла з народніцкага светапогляду і сацыялістычных поглядаў. Негатыўная рэцэпцыя М. Грушэўскім расійскага цэнтралізму і бюракратыі вызначыла разуменне ім пагроз украінскаму дзяржаўнаму будаўніцтву. У артыкуле „Дзяржаўнасць” ён пісаў: „Мы адкідаем паліцэйска-бюракратычны лад і хочам заснаваць наша праўленне на шырокіх асновах самакіравання, пакідаючы міністэрскай адміністрацыі толькі функцыі агульнага кантролю, каардынавання і запаўнення тых прабелаў, якія могуць узнікаць у дзейнасці органаў самакіравання”[18]. Адным з галоўных падмуркаў украінскай дзяржаўнасці кіраўнік Цэнтральнай Рады лічыў шырокае мясцовае самакіраванне ў рэгіёнах і дэмакратызм у іх дзейнасці.

Большая адміністрацыйная і выканаўчая кампетэнцыя рэгіёнаў выцякала з ідэі ўнутранай федэралізацыі Украіны на аснове „грамад”. М. Грушэўскі такую дзяржаўную сістэму разглядаў як перспектыўную. Своеасаблівым вынікам публіцыстычнай і палітычнай дзейнасці Грушэўскага ў пачатку 1918 г. стала абгрунтаванне канфедэратыўнай тэндэнцыі ў канцэпцыі дзяржаўнага будаўніцтва. На практыцы, выступаючы цвёрдым праціўнікам нацыяналізму, у ідэйным плане старшыня Цэнтральнай Рады спрабаваў аб’яднаць ідэі федэралізму і самастойнасці, шукаючы падставы для гэтага ў гістарычным развіцці Украіны. Аднак варта сказаць, што гэтыя ідэі не былі раўназначнымі ў светапоглядзе М. Грушэўскага. У кантэксце пэўнай палітычнай сітуацыі ён аддаваў перавагу адной з іх, тым самым спрыяючы амбівалентнасці дзяржаўнай структуры УНР. Зразумела, што канструкцыя, пабудаваная на ўнутранай супярэчнасці ды яшчэ без міжнароднай легітымацыі, не мела дзяржаўніцкіх перспектыў.

Артыкул „Наша заходняя арыентацыя” паказвае супярэчлівы характар унутранага і міжнароднага становішча

[18] Грушевський М. Державність // ён жа. Хто такі українці і чого вони хочуть. С. 172.

УНР, фармуе дыяметральна процілеглы папярэдняму бачанню погляд на задачы ўкраінскага вызваленчага руху. Варта вылучыць стрыжнёвую асаблівасць новых палітычных націскаў М. Грушэўскага. Ён зрабіў ужо іншы цывілізацыйны выбар для Украіны ў бок заходняга (еўрапейскага) грамадства.

Пры гэтым гісторык спрабаваў знайсці падставы для ўкраінскага месіянізму і тэрытарыяльна акрэсліць сферу палітычнага ўплыву для будучай Украіны ў межах чарнаморскага рэгіёна. Такія пабудовы з боку вучонага абумоўлены выключна рускім ментальным разуменнем прызначэння і ролі дзяржавы на сусветнай арэне, што само па сабе прыводзіць да немагчымасці спалучэння яго інтэлектуальнага тэксту і народніцкага светапогляду з рэальнай дзяржаўнай дзейнасцю. М. Грушэўскі пісаў, што ўкраінскі народ належыць да заходняй культуры, пры гэтым прызнаючы вялікі арыентальны ўплыў на яго[19]. Украіна гістарычна родная з Нямеччынай і Італіяй, знаходзіцца ў пастаяннай сувязі з Захадам, жывучы яго ідэямі. Ва ўкраінскім народзе злучыліся візантыйскія традыцыі і іх камбінацыя, а таксама „перарабліванні новых заходніх дасягненняў і ўплываў”[20].

У гэтым артыкуле ў негатыўным плане асвятляецца роля расійскага фактару ва ўкраінскай гісторыі. „Расійская нацыянальная палітыка, — падкрэсліваў М. Грушэўскі, — прыклала руку да таго, каб разарваць сямейныя і ўсякія іншыя сувязі ўкраінскай інтэлігенцыі з замежнымі заходнімі краямі і схіліць яе да Вялікаросіі...„[21]. У той жа час ён перасцерагаў, што „нам не трэба падганяць наша жыццё пад які-небудзь заходнееўрапейскі ўзор, хоць бы і нямецкі”. У цэлым праца не мае пэўных высноў, завяршаецца патэтычным абвінавачваннем у бок Расіі. Такія парадаксальныя сцвярджэнні М. Грушэўскага тлумачаць дынамічную змену

[19] Грушевський М. Наша західна орієнтація // ён жа. Хто такі українці і чого вони хочуть. С. 141–142.

[20] Тамсама. С. 142.

[21] Тамсама. С. 144.

яго грамадска-палітычных поглядаў адносна ўспрымання еўрапейскай сацыялістычнай ідэалогіі.

Як гісторык і старшыня Цэнтральнай Рады ён абараняў тэзіс дамінавання народа ў грамадскай арганізацыі, які ўсведамляўся ім толькі як сялянства або працоўны люд. Ён не ўспрымаў дамінавання пэўнай сацыяльнай групы або класа. Такі погляд М. Грушэўскага цалкам супярэчыў тэндэнцыям развіцця еўрапейскай гісторыі. Інтэлектуальны і палітычны рэверанс у бок Еўропы тлумачыўся толькі бягучым рэвалюцыйным момантам, які характарызавалі завяршальны этап Першай сусветнай вайны, усталяванне бальшавіцкай улады ў Расіі і асобасны фактар.

Цэнтральная публікацыя, у якой фармулюецца ідэя федэральнай Украіны па-за расійскім кантэкстам і абгрунтоўваецца наяўнасць гістарычнай сувязі з заходняй цывілізацыяй, — эсэ „Новыя перспектывы". Менавіта ў ім М. Грушэўскі спрабаваў падаць сваё бачанне новых дзяржаўніцкіх перспектыў Украіны ва ўмовах абвяшчэння самастойнасці і вайны з бальшавікамі. Фактычна інтэлектуальныя намеры старшыні Цэнтральнай Рады былі накіраваны ў бок канстатацыі Украіны як геапалітычнай цэласнасці на карце Усходняй Еўропы. Такія сентэнцыі М. Грушэўскага вызначаюць яго палітычную пераарыентацыю на еўрапейскія ідэі і каштоўнасці. Варта падкрэсліць, што ў тэксце гэтага артыкула фігуруе думка, паводле якой гісторык адносіць украінскі народ да „нямецкага свету". „Адчужаная ад гэтай культуры, ад заходняга свету наогул штучнымі, гвалтоўнымі мерапрыемствамі маскоўскімі, — пісаў ён, — Украіна зможа цяпер вярнуцца з новай, нават — па рэакцыі — у нечым пабольшанай сілай да гэтага блізкага ёй духам і норавам свету. У першую чаргу — да свету германскага, нямецкага, з якім і ў мінулым у яе было больш за ўсё сувязяў"[22].

З'яўленне пранямецкай арыентацыі вучонага тлумачыцца асаблівасцямі фармавання яго гістарычнай свядомасці, адмаўленнем дзяржаваў Антанты пры-

[22] Грушевський М. Нові перспективи // ён жа. Хто такі українці і чого вони хочуть. С. 148.

знаць незалежнасць Украіны і арганізаваць дапамогу ў барацьбе з бальшавізмам, ідэяй адраджэння „Вялікай Польшчы ў межах 1772 г.” у дыпламатычных колах Велікабрытаніі і Францыі, паспяховым наступам кайзераўскага войска на Усходнім фронце. Названыя фактары падштурхоўвалі М. Грушэўскага яшчэ ў пачатку 1918 г. да разважанняў аб заключэнні УНР сепаратнага міру з Нямеччынай з надзеяй атрымаць ваенную і міжнародную падтрымку ў барацьбе супраць бальшавіцкай Расіі. Можна сцвярджаць, што для М. Грушэўскага немцы сталі „духоўна і культурна блізкімі” толькі ў выніку адмаўлення бальшавікоў разглядаць Цэнтральную Раду як легітымную ўладу ва Украіне, тым самым ставячы пад сумнеў палітычную будучыню яе старшыні. Ідэя самастойнасці ў разуменні вучонага была другараднай у сістэме яго палітычных перакананняў, нават пасля пераарыентацыі ў бок Захаду. Прымат федэралізму і асабісты фактар вызначалі змест яго тагачасных інтэлектуальных пошукаў. „Толькі — маючы за мэту заўсёды, як канчатковую мэту, — пісаў вучоны, — федэрацыю сусветную, я буду выходзіць, як з першага канкрэтнага кроку да яе, з федэрацыі краёў...”[23].

Менавіта ў артыкуле „Новыя перспектывы” вучоны мадэлюе новы цывілізацыйны вектар развіцця ўкраінскай дзяржаўнасці. Ён беззваротна арыентуе УНР у бок Захаду, заклікаючы вучыцца ў Нямеччыны і ЗША. Пры гэтым М. Грушэўскі падкрэслівае значэнне Украіны як цэнтра Чарнаморскага мега-рэгіёна: „Калі школай для нас павінны быць гэтыя краіны заходняй культуры, полем нашай дзейнасці, нашай уласнай творчасці павінны быць краіны, якія, як і Украіна, выраслі ва ўплывах або сувязях усходняй культуры — краіны ў сферы нашай чарнаморскай арыентацыі, аб’яднаныя Чорным морам як цэнтрам камунікацый і розных культурных і палітычных адносін”[24]. На практыцы незалеж-

[23] Тамсама. С. 151.
[24] Тамсама. С. 150.

насць УНР заставалася толькі дзяржаўнай мадэллю, дэтэрмінаванай рэзкай зменай геапалітычнай сітуацыі ва Усходняй Еўропе. Нездарма вучоны ў артыкуле „Новыя перспектывы” адзначаў: „Не лічу як раней, так і цяпер самастойнае дзяржаўнае аддзяленне за палітычны ідэал. Я быў і далей застаюся федэралістам”[25].

Праект сусветнай федэрацыі ўспрымаўся М. Грушэўскім не толькі як канчатковая мэта для ўкраінскага народа, але і як тэарэтычная фармулёўка, у межах якой змяшчаюцца сацыялістычныя ідэалы і народніцкія ідэі. Першым крокам да сусветнай федэрацыі павінна стаць арганізацыя „федэрацыі бакоў”, якія звязаны добраахвотным уваходжаннем у яе склад пры цесных эканамічных і культурных адносінах[26]. Менавіта тады вучоны сфармуляваў базавыя палажэнні канцэпцыі чарнаморскай федэрацыі, якая мела свае перадумовы ў яго гістарычнай канцэпцыі.

Як гісторык М. Грушэўскі заўсёды выяўляў цікавасць да барацьбы беларускага і літоўскага народаў за сваю незалежнасць. Такая навуковая цікавасць тлумачыцца не толькі тым, што беларусы і літоўцы аб’яднаны з украінцамі агульным гістарычным працэсам. Справа ў тым, што навуковец і палітык адводзіў Беларусі і Літве адмысловую ролю ў сваёй канцэпцыі будучыні палітычнага ўладкавання Усходняй Еўропы[27]. М. Грушэўскі адзначаў, што гэтыя народы былі саюзнікамі Украіны з пачатку іх гістарычнага шляху і „старымі сябрамі ў польскім саюзе”[28]. Гэтая сентэнцыя прывяла вучонага да думкі аб магчымасці мець пэўныя дзяржаўніцкія перспектывы ў будучыні. Агульная гісторыя ўсіх трох народаў балта-чарнаморскага рэгіёна вызначаецца тым, што паміж імі ніколі не бывае якіх-небудзь сур’ёзных канфліктаў; кожны з гэтых народаў жыве на сваёй этнічнай тэрыторыі і нацыянальна-змешаныя кардоны былі нязначнымі;

[25] Тамсама. С. 151.
[26] Тамсама.
[27] Потульницький В. А. Цыт. праца. С. 86.
[28] Hruschewskyi M. Ukraine, Weissrussland, Litanen // Ukrainische Rundschau. 1909. № 2. S. 51.

гэтыя тры суседнія нацыянальныя тэрыторыі, якія мелі агульныя знешнія стасункі і інтарэсы[29], „усе трое прыёмныя дзецi гістарычнай Польшчы"[30].

Заканамерна, што прыярытэтную ролю ў будучым саюзе дзяржаў вучоны адводзіў украінскаму народу, больш шматлікаму, са шматлікія прыроднымі рэсурсамі на сваёй тэрыторыі. М. Грушэўскі бачыў дзяржаўную мадэль толькі ў выглядзе федэратыўнага саюзу трох народаў, які павінен скласціся на балта-чарнаморскіх шляхах. Ідэя чарнаморскай федэрацыі на прасторах Усходняй Еўропы была палітычнай марай вучонага. Пры гэтым трэба ўлічваць пэўную канатацыю тэрміна „федэрацыя" ва ўспрыманні М. Грушэўскага, які па ўсіх прыкметах адпавядаў канфедэратыўнаму аб'яднанню.

У шырокім плане сваёй федэратыўнай ідэі М. Грушэўскі распрацоўваў праекты дзяржаўнага сцвярджэння Украіны ў сістэме Усходняй Еўропы. Менавіта тады ён прапанаваў канцэпцыю чарнаморскай арыентацыі Украіны, якая прадугледжвала стварэнне федэрацыі ў гэтым мега-рэгіёне.

Найбольш выгаднай для Украіны ён лічыў мадэль „каапераціі народаў Чорнага мора". У той час М. Грушэўскі напісаў артыкул „Арыентацыя чарнаморская", у якім выказаў сваю пазіцыю адносна гістарычных асноў новай мадэлі федэрацыі — Чарнаморскай[31]. Гэтая праца — лагічны працяг папярэдняга артыкула „Наша заходняя арыентацыя". Іх аб'ядноўвае агульны ідэалагічны назоўнік, які характарызуецца тым, што „гістарычныя ўмовы жыцця арыентавалі Украіну на Захад"[32], аднак геаграфічныя арыентавалі і арыентуюць на поўдзень, на Чорнае мора[33]. У ёй абгрунтоўваецца гістарычнае права дамінавання ўкраінскага народа ў чарнаморскім рэгіёне,

[29] Потульницький В. А. Цыт. праца. С. 86.
[30] Hruschewskyi M. Ukraine, Weissrussland, Litanen // Ukrainische Rundschau. 1909. № 2. S. 51.
[31] Грушевський М. Орієнтація чорноморська // ён жа. Хто такі українці і чого вони хочуть. С. 144–146.
[32] Тамсама. С. 144.
[33] Потульницький В. А. Цыт. праца. С. 87.

што ў сваю чаргу вызначае адмысловую ролю Украіны ва ўсходнееўрапейскай гісторыі. „Наогул, калі акалічнасці таму спрыялі, — пісаў М. Грушэўскі, — Украіна ішла да таго, каб шырока завалодаць чарнаморскім узбярэжжам і стаць тут цвёрдаю нагою”[34].

Чарнаморская федэрацыя дзяржаў не адмаўляла дзяржаўнага суверэнітэту украінскага народа, а толькі змацоўвала б міжнароднае супрацоўніцтва Украіны з іншымі ўсходнееўрапейскімі нацыямі[35]. Месіянскія інтэрпрэтацыі М. Грушэўскага раскрываюць адсутнасць выразнага праекта арганізацыі чарнаморскага саюзу, які ў гістарычных рэаліях пачатку XX ст. апынуўся досыць прывідным. Аднак М. Грушэўскі паспрабаваў падаць канкрэтную праграму чарнаморскай федэрацыі[36]. У эміграцыі (1919–1924) ён у адным з артыкулаў адзначыў, што ў 1917–1918 г. у асяроддзі ўкраінскіх палітыкаў абдумваліся рэальныя планы „стварэння федэрацыі… напрыклад, славянскай, у якую ўвайшлі б заходнеславянскія і балканскія землі”[37].

У шырокім кантэксце ідэя чарнаморскай федэрацыі ў рэцэпцыі М. Грушэўскага канструюецца як арганізацыя „кааперацыі чарнаморскіх народаў”, якая, па-першае, забяспечыць Украіне ўдзел ва ўзнаўленні „старых прыродных гандлёвых шляхоў”. Па-другое, — дазволіць украінскай дзяржаве „эмансіпавацца наогул”, выпрастацца з тым, каб „потым легчы ў найболей выгоднай позе”. Акрамя гэтага, М. Грушэўскі не выключаў магчымасці выкарыстання чарнаморскай арыентацыі для супрацьстаяння ідэі „славянскага адзінства” шляхам распрацоўкі для Украіны ўласнага варыянта гэтай ідэі, якая б прадугледжвала стварэнне федэрацыі ўкраінскага, беларускага і літоўскага народаў на балта-чарнаморскіх шляхах.

[34] Грушевський М. Орієнтація чорноморська. С. 146.
[35] Винар Л. Михайло Грушевський: історик і будівничий нації (Статті і матеріали). Київ, 1995. С. 55.
[36] Тамсама.
[37] Грушевський М. В першій делегації Української партії соц.-революціонерів (квітень 1919 р. — лютий 1920 р.) // Борітеся — поборете! Відень, 1920. № 3. С. 51.

У красавіку 1918 г. М. Грушэўскі ў выніку гетманскага перавароту быў вымушаны пакінуць кіраўніцтва ў разагнанай Цэнтральнай Радзе. У перыяд Гетманату П. Скарападскага вучоны практычна ўвесь час знаходзіўся на нелегальным становішчы, спрабуючы ў сваіх артыкулах даць ацэнку дзяржаўнаму ўтварэнню[38]. Прыход да ўлады Дырэкторыі УНР 14 снежня 1918 г. стаў надзеяй вяртання да Украінскага рэвалюцыйнага руху. М. Грушэўскі прапанаваў наноў склікаць Цэнтральную Раду, якая павінна сфармаваць урад, вызначыць тэрмін правядзення Установчага сходу з мэтай перадачы ім заканадаўчых функцый[39]. Аднак лідары Дырэкторыі і Украінскага нацыянальнага саюзу адкінулі гэтыя прапановы як непрымальныя.

Такая хада падзей прымусіла былога кіраўніка Цэнтральнай Рады шукаць спосабы вяртання да палітычнага жыцця. Адным з іх магла стаць барацьба за ўтварэнне сацыялістычнай федэрацыі. Ужо ў пачатку 1919 г. у артыкуле „Угодкі ўкраінскай незалежнасці" вучоны пісаў, „што гэтае абвяшчэнне самастойнасці хоць адразае ўсялякія прэтэнзіі да Украіны прадстаўнікамі старой і новай Расіі, тым больш не пагрэбуе ідэяй федэрацыі Украінскай Рэспублікі з іншымі рэспублікамі, з якімі ёй будзе па дарозе..."[40]. Вяртанне да ідэі федэралізму і да расійскага кантэксту не было выпадковым. М. Грушэўскі апынуўся ў палоне рэвалюцыйных ідэалаў. Ён пісаў пра важнасць забеспячэння свабоднага выбару УНР мадэлі дзяржаўна-палітычнага ладу: „Ці можа Украіна застацца асобнай дзяржавай, ці аб'яднаецца яна ў федэрацыі не прымусам і нейчай старонняй воляй, а сваім вольным рашэннем"[41].

Пераход вучонага ад ідэі стварэння сусветнай, чарнаморскай да сацыялістычнай федэрацыі аказаўся неапраўданым. У канчатковым выніку толькі ідэя арга-

[38] Ён жа. По шкоді // Літературно-науковий вістник. Т. 172 (кн. XII, грудень). Київ, 1918. С. 233–243.

[39] Тамсама.

[40] ЦДГАК. Ф. 1235. Воп.1. Спр. 185. Арк. 8адв.

[41] Тамсама.

нізацыі „кааперацыі народаў Чорнага мора" стала яго найбольш прагматычнай канструкцыяй. Фармаванне такой канфедэрацыі ў сістэме Усходняй Еўропы адпавядала асаблівасцям гістарычнага развіцця „іншай" Еўропы, „негістарычнасці" яе народаў, а таксама традыцыям дэмакратыі і рэспубліканізму. Трансcантынентальны характар такога ўтварэння мог спрыяць эканамічнаму развіццю. Аднак падзел Усходняй Еўропы паміж імперыямі Раманавых і Габсбургаў зводзіў да мінімуму дзяржаўніцкія патэнцыі „малых" народаў. М. Грушэўскі ў перыяд рэвалюцыі, прапаноўваючы стварыць канфедэрацыю ў балта-чарнаморскім рэгіёне, быў упэўнены ў глыбокай сацыялістычнай і інтэрнацыянальнай трансфармацыі Захаду і ўсяго свету. Аднак яго надзеі і прагнозы былі ілюзіямі.

Перыяд украінскай рэвалюцыі 1917–1921 г. быў часам адначасовага сцвярджэння і глыбокай трансфармацыі федэратыўных поглядаў М. Грушэўскага. Ультыматум Саўнаркама РСФСР, хада ўкраінска-бальшавіцкай вайны, бачанне прыярытэтнай ролі Цэнтральнай Рады па канструяванні дэмакратычнай федэрацыі на тэрыторыі былой Расійскай імперыі вызначылі з'яўленне новых ідэалагічных канцэптаў, распрацаваных яе кіраўніком. Выхад серыі публіцыстычных артыкулаў, у якіх ён выступіў заўзятым прыхільнікам самастойнасці УНР у тагачасных умовах і ворагам бальшавізму, характарызуе наяўнасць новага ідэйна-палітычнага гарызонту — бачанне федэратыўнай Украіны па-за расійскім кантэкстам. На гэтай аснове вучоны абгрунтаваў канцэпцыю чарнаморскай федэрацыі, у якой галоўнае месца павінна была заняць Украіна.

*Пераклад Юльяны Ветрык*

# The idea of the Black Sea Federation by Michail Hrushevsky (1918)

**Henadi Korolyov**

The author of this article explores the genesis of the idea of the Black Sea Federation through the prism of the works of Michail Hrushevsky — the Ukrainian historian and statesman, chairman of the Central Rada (Council) (March 1917 — April 1918). The causes and circumstances of the origin of this idea during the 1917–1921 Revolution in Ukraine have been thoroughly examined. Geopolitical, civilizational and personal factors have been analyzed. Transformations of M. Hrushevsky's federalist views, their ideological component and pro-Western and anti-Russian orientation have been described. The idea of the Black Sea Federation is modeled as „a co-operation of the peoples of the Black Sea region", which should unite the space of the nations living between the Baltic and Black Sea. „The Federation of the regions" is presented by Hrushevsky as an internal design of the future state body. Furthermore, he puts a special emphasis on the connotation of the term „federation" into „confederation" through the reception of a politician and a scientist.

It is concluded that the idea of the Black Sea federation was one of the Ukrainian elite's respond to the formation of Bolshevism in the former empire of the Romanov dynasty, to the successful offensive of the German Army on the Eastern Front in early 1918. The author believes that M. Hrushevsky's idea of the Black Sea federation was a natural result of the 1917–1921 revolution in Ukraine which, however, failed to receive a realistic political content.

*Translated by Anatol Minkovsky*

# Вынікі саветызацыі беларускіх і ўкраінскіх земляў II Рэчы Паспалітай у 1939–1941 г. з перспектывы культурнага сутыкнення

**Артур Высоцкі**

Уступленне Чырвонай Арміі 17 верасня 1939 г. на ўсходнія землі тагачаснай Польшчы, сёння вядомыя як Заходняя Беларусь і Заходняя Украіна, запачаткавала тут ваеннае панаванне Саветаў і дало старт працэсу ўсебаковай саветызацыі, якая на практыцы ў той ці іншай ступені закранула кожнага тагачаснага жыхара гэтых мясцін. З сацыяльнага пункту гледжання саветызацыя азначала не толькі палітычную і прававую ўніфікацыю памянёных земляў з рэштай Савецкага Саюза, але і не ў меншай ступені (а можа, і перш за ўсё) выхаванне новага тыпу грамадзяніна, які пазней атрымаў азначэнне *homo sovieticus*. Як заўважае Рычард Пайпс, „адной з галоўных задач усіх дзяржаўных (г. зн. савецкіх. — *А. В.*) інстытутаў — ад прафсаюзаў да Чырвонай Арміі — стала прышчапленне грамадзянам камуністычнага светапогляду”[1]. Для гэтага новыя ўлады тут усімі сродкамі і метадамі стараліся паламаць ранейшыя сацыяльныя сувязі — у тым ліку сямейнага, рэлігійнага, этнанацыянальнага і грамадзянскага характару.

У артыкуле зроблена спроба адказаць на пытанне, якімі былі сацыяльныя вынікі захадаў, зробленых савецкімі ўладамі на заходнебеларускіх і заходнеўкраінскіх землях у 1939–1941 г., якою была рэакцыя мясцовага насельніцтва на структурныя і ідэалагічныя навацыі, а ка-

[1] Pipes R. Rosja bolszewików. Warszawa, 2005. S. 337.

лі гэты працэс натыкаўся на перашкоды — то што было іх прычынай. Асаблівае месца ў адказах на гэтыя пытанні займае праблема сутыкнення культур, якая, як нам падаецца, у значнай ступені дазваляе зразумець эфектыўнасць палітыкі, рэалізаванай савецкім кіраўніцтвам.

Змест і практыка ўжывання паняцця сутыкнення культур склаліся ў польскай сацыялогіі і антрапалогіі ў працэсе рознабаковага даследавання ўсялякага роду кантактаў паміж адрознымі культурамі[2]. Сутыкненне культур можна акрэсліць як асаблівую разнавіднасць міжкультурнага кантакту, пад час якога ўзнікае процістаянне паміж асобнымі людзьмі і групамі людзей, што характарызуюцца істотна адрознымі культурнымі рысамі, якія ў сукупнасці вызначаюць іх своеасаблівую культурную тоеснасць. Міжкультурны кантакт, які падпадае пад азначэнне сутыкнення культур, адрозніваецца ад іншых тыпаў міжкультурнага кантакту сваёй адноснай раптоўнасцю і нечаканасцю, у большай ступені канфрантацыйным, чым памяркоўным характарам (хоць абодва гэтыя аспекты прысутнічаюць), а таксама тым, што ён датычыць хутчэй вялікіх сацыяльных пластоў (вялікіх груп людзей, грамадскіх класаў, а пры пэўных умовах нават цэлых сацыякультурных сістэм), а не асобных інцыдэнтаў, што вынікаюць са знаходжання аднаго чалавека або невялікай групы (скажам, сям'і) у чужародным культурным асяроддзі (напрыклад, у выніку працоўнай міграцыі або вучобы за мяжой). Пры гэтым сутыкненне культур, як і любая форма міжкультурных адносінаў, праяўляецца як на макра-, так і на мікрасацыяльным узроўні — то бок, хоць і датычыць вялікіх сацыяльных груп, на практыцы ўвасабляецца ў сукупнасці шматлікіх сацыяльных кантактаў на мікраўзроўні.

Погляд на падзеі 1939–1941 г., што разгортваліся на тэрыторыі сённяшніх Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны, з пункту гледжання сутыкнення культур дазва-

2 Падрабязней пра гэта гл.: Wysocki A. Problematyka zderzenia kultur w socjologii i antropologii // Annales UMCS. Sectio I. Philosophia — Sociologia. 2008, vol. XXXIII. S. 23–41.

ляе дадаткова ў дачыненні да цяперашняй гістарыяграфіі апісаць сацыяльныя адносіны, удзельнікамі якіх было як мясцовае (беларускае, украінскае, польскае, яўрэйскае, літоўскае), так і прышлае насельніцтва (прадстаўнікі іншых народаў, што жылі ў СССР).

Матэрыялам для артыкула паслужылі агульнадаступныя крыніцы. Першая іх група — гэта апісальныя матэрыялы, да якіх належаць манаграфічныя даследаванні гісторыкаў, прысвечаныя фактаграфічнай рэканструкцыі ці ўсёй сукупнасці падзей 1939–1941 г. або толькі іх паасобных аспектаў. Другой групай, якая дала магчымасць прыадкрыць успрыманне палітыкі саветызацыі ў тагачаснай грамадскай свядомасці, сталі першакрыніцы ў выглядзе рознага роду мемуараў, успамінаў і паведамленняў (усяго іх было выкарыстана каля 1,5 тысячы адзінак). Усе гэтыя першакрыніцы былі створаны праз пэўны час пасля падзей, што падлягаюць нашаму аналізу, але іх асноўную частку складае аўтабіяграфічны матэрыял, занатаваны ў канцы 1980-х — першай палове 1990-х г., які зберагаецца ва „Усходнім архіве” (далей УА) пры варшаўскім фондзе «Цэнтр „Хартыя”» (г. зн. успаміны, якія пісаліся ў якасці допісаў на шматлікія конкурсы мемуараў, абвяшчаныя ў 1989–1994 г.), а таксама ўспаміны, апублікаваныя ў масавых выданнях за межамі Польшчы (да 1989 г.) і ў самой Польшчы (пасля 1989 г.). Аналіз гэтых матэрыялаў быў праведзены біяграфічным метадам (метадам вывучэння асабовых дакументаў), які здаўна займае ў сацыялогіі трывалыя пазіцыі, а таксама ў адпаведнасці з канцэпцыяй гуманістычнага фактару, які ўяўляе сабой асноўную метадалагічную дырэктыву біяграфічнага метаду. Паводле гэтай дырэктывы, сацыяльныя з’явы трэба ўспрымаць праз прызму тых значэнняў, якія былі пашыраны сярод тых, хто гэтыя з’явы перажываў. У прапанаваным даследаванні мы адмовіліся ад гэтага крайне ідэалістычнага імператыву на карысць больш умеркаванай пазіцыі, якая падкрэслівае ролю гуманістычнага фактару як аднаго з аспектаў пазнава-

най грамадскай рэчаіснасці, а не адзінага яе выразніка[3]. Асабовыя дакументы, выкарыстаныя ў даследаванні, служаць толькі для пазнання грамадскай свядомасці ў яе індывідуальным увасабленні, а не грамадскай рэчаіснасці ў цэлым, і тым больш не выступаюць у якасці асновы для фактаграфічнай рэканструкцыі закранутых падзей.

## Ход саветызацыі і нацыянальная палітыка савецкіх уладаў

Прычыны і ход саветызацыі добра вядомы і належным чынам апісаны ў гістарычнай літаратуры[4]. Дзеля гэтага тут мы не будзем спыняцца на іх падрабязным разглядзе. Варта, аднак, падкрэсліць, што гэты працэс меў на мэце максімальна поўнае дастасаванне сацыякультурнай сістэмы, атрыманай у спадчыну ад Польшчы, да савецкага ладу. На практыцы гэта датычылася ўсіх без выключэнняў сфераў грамадскага жыцця. Аднак хоць саветызацыя і праводзілася паслядоўна, яе інтэнсіўнасць і скіраванасць не былі канстантай. Яны залежалі, у прыватнасці, ад дынамікі нацыянальнай палітыкі, што рэалізоўвалася савецкімі ўладамі на працягу 21 месяца „прысутнасці” на анексаваных тэрыторыях.

Нацыянальная палітыка, як і большасць іншых палітычных ініцыятыў, што рэалізоўваліся савецкай уладай у 1939–1941 г. на заходнебеларускіх і заходнеўкраінскіх землях, прынцыпова не адрознівалася ад таго, што было ў той час нормай ва ўсім Савецкім Саюзе. Тым не менш, з увагі на макраструктурную спецыфіку анексаванага рэгіёна і дынаміку змен у нацыянальным пытанні

[3] Гл. развагі на гэтую тэму: Babiński G. Metodologia a rzeczywistość społeczna. Dylematy badań etnicznych. Kraków, 2004. S. 54.

[4] Напрацоўкі польскай гістарыяграфіі на тэму падзей 1939–1941 г. на былых усходніх тэрыторыях (якія ў Польшчы зазвычай называюць „першай савецкай акупацыяй”), нягледзячы на далёка не поўнае раскрыццё архіўных першакрыніц, на сёння трэба прызнаць істотнымі.

яна аператыўна карэктавалася і дастасоўвалася да актуальных палітычных патрэбаў Савецкай дзяржавы. Асноўным інструментам гэтай палітыкі было выкарыстанне міжнацыянальных канфліктаў, што засталіся ў спадчыну ад міжваеннай Польшчы[5].

У 1930-я г. у СССР усімі спосабамі намагаліся прапагандаваць так званы савецкі патрыятызм. Гэта павінна было прывесці да сцірання культурных і класавых адрозненняў як паміж паасобнымі рэспублікамі, так і ўнутры іх саміх, што ў выніку мусіла стварыць перадумовы для выхавання савецкага грамадзяніна і ўтварэння адзінай савецкай нацыі. Асновай гэтага працэсу было насаджэнне рускіх кадраў у мясцовых органах улады і войску, а таксама наданне прыярытэту рускай культуры. На думку маскоўскіх уладаў, гэта павінна было забяспечыць большую стабільнасць цэнтралізаванай дзяржавы і трываласць дыктатуры, чым у сітуацыі, пры якой будаўніцтва дзяржаўных інстытутаў абапіралася б толькі на мясцовыя кадры[6].

У спецыяльнай літаратуры найчасцей адзначаюцца тры фазы нацыянальнай палітыкі, якая рэалізоўвалася ў гэты перыяд савецкімі ўладамі на ўсходніх землях былой Польшчы[7]. Першая фаза працягвалася нядоўга, да лістапада 1939 г., характарызуючыся адносна лагодным стаўленнем да ўсіх нацыянальных груп. Чырвоная Армія ў сваім паходзе на захад, паводле афіцыйнай прапагандысцкай версіі, несла „вызваленне” не толькі беларусам і ўкраінцам, але і ўсім рабочым і сялянам, „прыгнечаным” капіталістычнай дзяржавай. Гэты перыяд характарызуецца тым, што савецкія ўлады імкнуліся падкрэсліць адзінства лёсу працоўных мас без увагі на іх нацыянальнасць[8]. Беларускія і ўкраінскія нацыяналістычныя

[5] Гл.: Śleszyński W. Okupacja sowiecka na Białostocczyźnie 1939–1941. Propaganda i indoktrynacja. Białystok, 2001. S. 259.

[6] Гл. тамсама. С. 273.

[7] Hryciuk G. Polacy we Lwowie 1939–1944. Życie codzienne. Warszawa, 2000.

[8] Wnuk R. „Za pierwszego Sowieta”. Polska konspiracja na Kresach Wschodnich II Rzeczypospolitej (wrzesień 1939 —

лозунгі, а таксама эмансіпацыйныя адозвы, звернутыя да яўрэяў, якія тады сям-там з'яўляліся, мелі на мэце галоўным чынам прапагандысцкі эфект. Яны павінны былі стварыць уражанне сапраўднага вызвалення народных мас, а таксама, шляхам эксплуатацыі мясцовых міжнацыянальных канфліктаў, справакаваць да стыхійных актаў насілля супраць асобы і маёмасці, тым самым, у сваю чаргу, падкрэсліўшы рэвалюцыйны характар надыходзячых зменаў. Ужо напрыканцы верасня, аднак, пачаліся першыя планавыя, выконваныя на падставе загадзя падрыхтаваных спісаў, арышты нацыянальных дзеячаў усіх супольнасцяў[9].

У канцы лістапада — пачатку снежня 1939 г., пасля таго як завяршыліся ваенныя дзеянні і занятая тэрыторыя была больш-менш узята пад кантроль, становішча паасобных нацыянальных груп пачало мяняцца. Савецкія ўлады, якія ўзялі курс на тое, каб не зважаючы ні на што ўвесці тут новы сацыяльны парадак, пачалі знішчаць усялякія праявы былой польскай дзяржавы. З публічнай прасторы выціскалася польская мова, а чыноўнікі розных узроўняў і ведамстваў — пераважна палякі — пазбаўляліся сваіх пасадаў і замяняліся „ўсходнікамі" (дзяржслужачымі, прысыланымі з больш аддаленых раёнаў СССР) або прадстаўнікамі мясцовага беларускага, украінскага і яўрэйскага насельніцтва („вылучэнцамі"). Эканамічная эліта пазбаўлялася сваёй маёмасці. Цалкам знікла памешчыцтва, якое было амаль выключна польскім і больш чым любая іншая супольнасць на „ўсходніх крэсах" атаясамлівалася з польскасцю[10]. Палякі першымі зведалі масавыя арышты і сталі

czerwiec 1941). Warszawa, 2007. S. 32.

9 Wierzbicki M. Polacy i Białorusini w zaborze sowieckim. Stosunki polsko-białoruskie na ziemiach północno-wschodnich II RP pod okupacją sowiecką (1939–1941). Warszawa, 2007. S. 51–52; Śleszyński W. Okupacja sowiecka… S. 262.

10 Гл.: Jasiewicz K. Zagłada polskich Kresów. Ziemiaństwo polskie na Kresach Północno-Wschodnich Rzeczypospolitej pod okupacją sowiecką 1939–1941. Studium z dziejów zagłady dawnego narodu politycznego. Warszawa, 1998.

галоўнымі ахвярамі дзвюх першых хваляў дэпартацыі. З сакавіка 1940 г. пачасціліся выпадкі затрымання асоб, падазраваных у супрацоўніцтве з польскім падполлем. Не дзіва, што польскае насельніцтва ўспрымала ўсе гэтыя і шэраг іншых згаданых вышэй захадаў як антыпольскія, перажывала вострае пачуццё крыўды і лічыла сябе галоўнай ахвярай савецкай агрэсіі. Тым не менш, як піша Рафал Унук, „аналіз рэпрэсіўнай палітыкі Саветаў у дачыненні да нацыянальных меншасцяў паказвае, што тэрор у роўнай ступені датычыў і ўкраінскіх, яўрэйскіх, а таксама беларускіх эліт. <…> Усходні акупант змагаўся не з польскасцю як такой, а з польскай дзяржавай, а таксама з усімі праявамі польскага жыцця, што заставаліся па-за кантролем савецкай сістэмы. У той жа меры ён змагаўся і з несавецкай або антысавецкай дзейнасцю ўсіх іншых тамтэйшых нацыянальных груп”[11]. Падобнага меркавання прытрымліваецца і Войцех Сляшыньскі, для якога надзвычай жорсткая ў дачыненні да палякаў палітыка, рэалізаваная ў першы год акупацыі, вынікала не з непрыязнасці або нянавісці да канкрэтнага народа, а з процідзеяння „групе, якая палітычна і культурна дамінавала на крэсах усходніх”[12].

Адначасова разгарнулася палітыка беларусізацыі і ўкраінізацыі, якая, аднак, прадугледжвала ўключэнне абедзвюх нацыянальных культур у рэчышча агульнасавецкай інтэрнацыянальнай культуры, зводзячы іх да ўзроўню мясцовага фальклору. Як заўважае Мечыслаў Інглёт, „была запушчана ва ўжытак зручная ў прапагандысцкіх адносінах папулісцкая фармулёўка аб стварэнні даступнай для мас культуры — нацыянальнай паводле формы і сацыялістычнай паводле зместу. Кідаліся лозунгі аб апоры на літаратурную традыцыю ўсяго прагрэсіўнага чалавецтва”[13]. Але на практыцы

[11] Wnuk R. „Za pierwszego Sowieta”… S. 32.
[12] Śleszyński W. Okupacja sowiecka… S. 260.
[13] Inglot M. Polska kultura literacka Lwowa lat 1939–1941. Ze Lwowa i o Lwowie. Lata sowieckiej okupacji w poezji polskiej. Antologia utworów poetyckich w wyborze. Wrocław, 1995. S. 153.

зварот да нацыянальных культур, на думку Гжэгажа Грыцюка, азначаў пачатак шматступеннага працэсу, накіраванага на русіфікацыю ўкраінскага і беларускага насельніцтва[14]. Ужо ў пачатку 1940-х г. улады пачалі паступова адыходзіць ад лозунгаў беларусізацыі і ўкраінізацыі занятых тэрыторый. Аб гэтым сведчыла, у прыватнасці, паступовае змяншэнне колькасці „нацыянальных" школ на карысць рускамоўных, а таксама нацыянальны склад партыйных чыноўнікаў, прысыланых на акупаваныя абшары, якія найчасцей карысталіся рускай мовай, а не беларускай ці ўкраінскай[15]. Сярод галіцкіх украінцаў, як і сярод палякаў, амаль ад самага пачатку савецкай агрэсіі пераважала адназначна негатыўнае стаўленне да яе. У сваю чаргу, беларусы, яўрэі і ўкраінцы Валыні першапачаткова былі настроены да Саветаў прыязна. З цягам часу, аднак, і яны, пад уплывам шэрагу расчараванняў, турбот або незразумелых паводзінаў уладаў (для кожнай нацыянальнай групы іх набор крыху адрозніваўся), з вясны 1940 г. пачалі мяняць сваё стаўленне на негатыўнае і нават варожае[16].

Пачатак трэцяй фазы нацыянальнай палітыкі, рэалізаванай савецкімі ўладамі ў Заходняй Беларусі і Заход-

[14] Hryciuk G. Polacy we Lwowie… S. 98–99. Гл. таксама: Wnuk R. „Za pierwszego Sowieta"… S. 27.

[15] Śleszyński W. Okupacja sowiecka… S. 263.

[16] Mironowicz E. Ludność białoruska Białostocczyzny wobec władzy radzieckiej w latach 1939–1941 // Społeczeństwo białoruskie, litewskie i polskie na ziemiach północno-wschodnich II Rzeczypospolitej w latach 1939–1941 / Red. Giżejewska M., Strzembosz T. Warszawa, 1995. S. 251–253; Wierzbicki M. Polacy i Żydzi w zaborze sowieckim. Stosunki polsko-żydowskie na ziemiach północno-wschodnich II RP pod okupacją sowiecką (1939–1941). Warszawa, 2007. S. 189; Sowa A. L. Stosunki polsko-ukraińskie 1939–1947. Kraków, 1998. S. 123; Motyka G. Białorusini a Ukraińcy wobec władzy komunistycznej na Kresach Wschodnich II RP w latach 1939–1941 // Studia z dziejów okupacji sowieckiej (1939–1941). Obywatele polscy na kresach północno-wschodnich II Rzeczypospolitej pod okupacja sowiecką w latach 1939–1941 / Red. Strzembosz T. Warszawa, 1997. S. 49–60.

няй Украіне, датуецца сярэдзінай 1940 г., ён быў абумоўлены зменамі ў міжнародным становішчы. Пасля хуткага разгрому Францыі і акупацыі гітлераўскімі войскамі Румыніі ўсё больш рэальным выглядаў будучы канфлікт паміж дзвюма еўрапейскімі „звышдзяржавамі”. Тэрыторыя Польшчы магла стаць у гэтай сітуацыі полем бітвы, а яе былыя ўсходнія землі — непасрэдным тылам будучага фронту для Савецкага Саюза. У чэрвені 1940 г. Сталін пачаў вывучаць магчымасць стварэння ў СССР па-прасавецку настроеных польскіх узброеных сілаў[17]. Адначасова пачалі рабіцца захады, якія мелі на мэце выклікаць сімпатыі польскага насельніцтва на анексаваных тэрыторыях. Зноў адрадзілася ідэя, закінутая ў канцы верасня 1939 г., аб утварэнні ў будучыні Польскай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі (хутчэй за ўсё, на землях, якія меркавалася адваяваць у нацысцкай Нямеччыны). Пра паляпшэнне становішча палякаў у заходніх абласцях УССР і БССР сведчыла, у прыватнасці, спыненне масавых арыштаў і дэпартацый, з'яўленне польскамоўных савецкіх газет, пашырэнне доступу палякам да пасадаў у партыі, органах улады і адукацыі, павелічэнне колькасці пачатковых школ з польскай мовай навучання. Вялікай падзеяй сталі ўрачыстасці з нагоды 85-годдзя з дня смерці Адама Міцкевіча, якія прайшлі 25–26 лістапада 1940 г. пры шырокім (паводле ўказання зверху) удзеле мясцовых партыйных органаў. Савецкая прапаганда раптам памяняла вектар асвятлення польскай палітыкі, звыкла растлумачыўшы ранейшыя „пралікі” памылкамі шараговых членаў партыі[18]. Тым не менш,

[17] Гл.: Dębski S. Między Berlinem a Moskwą. Stosunki niemiecko-sowieckie 1939–1941. Warszawa, 2003. S. 357; Jasiewicz K. Zagłada polskich Kresów… S. 161–162.

[18] Гл.: Boćkowski D. Władza radziecka wobec Polaków, Żydów i Białorusinów na Białostocczyźnie 1939–1941 w świetle dokumentów partyjnych // Polacy — Żydzi — Białorusini — Litwini na północno-wschodnich ziemiach Polski a władza radziecka (1939–1941). W kręgu mitów i stereotypów / Red. Gnatowski M., Boćkowski D. Białystok, 2005. S. 61–84.

гэтая перамена не азначала нейкага радыкальнага павароту ў агульнай палітыцы ўладаў адносна палякаў, беларусаў і ўкраінцаў. Іх будучыня па-ранейшаму звязвалася выключна з вялікім савецкім народам і „мудрым кіраўніцтвам" з Масквы[19].

## Сацыяльная дыферэнцыяцыя вынікаў саветызацыі

У дачыненні да працэсу саветызацыі цяжка было захаваць нейтральнасць. Ён датычыў усіх і ў той ці іншай ступені змушаў да канкрэтных дзеянняў. У канчатковым выніку кожны мусіў так ці інакш акрэсліць сваю пазіцыю ў дачыненні да гэтага працэсу. На змест, скіраванасць і выражанасць гэтых пазіцый уплывалі не толькі прамыя кантакты з савецкімі ўстановамі і людзьмі ва ўмовах акупацыі (гэтак польскае насельніцтва вызначала для сябе новую сітуацыю), але і фактары, якія папярэднічалі гэтым кантактам, — асабісты досвед; уяўленне пра царскую, а пазней савецкую Расію, якое перадавалася ў сем'ях з пакалення ў пакаленне або было здабыта са сродкаў масавай інфармацыі ці папулярнай у той час краязнаўчай літаратуры; афіцыйная антыбальшавіцкая прапаганда, якая вялася ўладамі міжваеннай Польшчы; нарэшце, спароджанае гэтымі і іншымі крыніцамі цэлае скопішча нацыянальна-этнічных стэрэатыпаў у дачыненні да народаў, прадстаўнікоў якіх у той час можна было сустрэць на саветызаваных тэрыторыях (як карэнных, так і прышлых). З пункту гледжання нацыянальнай дыферэнцыяцыі, хада і вынікі саветызацыі залежалі ад культурнай дыстанцыі, якая аддзяляла тую ці іншую культурную групу ад савецкасці як адмысловага тыпу сацыякультурнай сістэмы.

Грамадскае стаўленне да саветызацыі не было аднародным. З гэтага вынікала і неаднароднасць спароджаных ёю сацыяльных вынікаў. Іх дыферэнцыяцыі маглі спрыяць розныя фактары. У прапанаваных ніжэй разва-

[19] Śleszyński W. Okupacja sowiecka… S. 259–265.

жаннях на гэтую тэму бяруцца пад увагу такія чыннікі, як узрост, тэрыторыя, сацыяльны статус у класавай структуры грамадства, а таксама нацыянальнасць. З прычыны ўжытага ў працы даследчага метаду адназначнае вызначэнне статыстычнай залежнасці паміж даследаванымі з'явамі і пералічанымі фактарамі не ўяўляецца магчымым. Тым не менш, назіранні, зробленыя ў час апрацоўкі сабранага эмпірычнага матэрыялу, дазваляюць зарыентавацца ў тэме і па меншай меры сфармуляваць зыходныя гіпотэзы, якія добра было б праверыць у іншых, прысвечаных гэтаму пытанню, даследаваннях з выкарыстаннем колькасных метадаў, што стварыла б глебу для статыстычных высноваў.

Хоць польскае насельніцтва ў пераважнай большасці амаль не мела цікавасці да культуры, якая ішла з усходу, і слаба паддавалася саветызацыі, гэтая канстатацыя будзе слушнай хіба ў дачыненні да дарослага насельніцтва. Аналіз узаемадачыненняў польскага насельніцтва з савецкай сістэмай сярэдняй і вышэйшай адукацыі сведчыць, што ўзрост, відаць, быў істотным фактарам пры выпрацоўцы стаўлення да савецкай культуры. Тут можна адзначыць наступную залежнасць: чым маладзейшы быў узрост вучня, тым большаю была яго ўспрымальнасць да новых савецкіх каштоўнасцяў, нормаў і мадэляў паводзінаў. Старэйшыя школьнікі, выхаваныя ў большай ступені ў даваеннай польскай культуры, лягчэй заўважалі кардынальна іншае аблічча савецкай сістэмы, слабей прасякаліся новымі каштоўнасцямі і з большым супраціўленнем прыстасоўваліся да змененых сацыяльных нормаў. У аналізаваных намі ўспамінах пра гэтую залежнасць сведчаць, у прыватнасці, больш частыя выпадкі пазітыўнай ацэнкі савецкай школы людзьмі, якія ў часе падзей былі малодшымі школьнікамі, тады як тыя, хто сустрэў саветызацыю ў старэйшым узросце, больш схільныя да выкрыцця ідэалагічных функцый савецкай сістэмы адукацыі, выказвання яўна негатыўных асабістых ацэнак, а таксама праяўлення меншай цікавасці да такіх праяваў пазашкольнай дзейнасці, як піянерскія і камсамольскія атрады. Што да

польскіх студэнтаў, то сярод іх назіраліся ўсё больш масавыя выпадкі адмовы ад працягу навучання ў савецкіх інстытутах і ўніверсітэтах.

З праведзенага намі аналізу таксама вынікае, што тэрытарыяльны фактар, у сваю чаргу, прынцыпова не ўплываў ні на падатлівасць палякаў працэсу саветызацыі, ні на глыбіню ўспрымання імі культурнай адметнасці, якою характарызаваліся савецкі грамадскі лад і паводзіны паасобных яго прадстаўнікоў. Успаміны ў гэтых адносінах вельмі падобныя па сваёй прыродзе. Такая сітуацыя можа азначаць, што на ўсёй даследаванай тэрыторыі характар і ўзровень польскай самасвядомасці сярод жыхароў былі прыкладна аднолькавыя (г. зн. мелі месца культурная ўніфікацыя і аднастайны тып нацыянальнай тоеснасці). З іншага боку, гэта таксама сведчыць пра падабенства інстытуцыйных механізмаў і метадаў укаранення савецкай сацыякультурнай сістэмы як у Заходняй Беларусі, так і ў Заходняй Украіне, а пазней і на Віленшчыне.

Уплыў класава-саслоўнага фактару на даследаваныя з’явы цяжка вызначыць. У цэлым можна канстатаваць, што польскае насельніцтва, і асабліва яго эліты (землеўласнікі, інтэлігенцыя), успрынялі прыход савецкіх войскаў і ўкараненне савецкай сацыякультурнай сістэмы з ярка выражанай варожасцю. Але былі і выключэнні, калі палякі ставіліся да савецкай дзяржавы з сімпатыяй. Як правіла, гэта датычыла прадстаўнікоў ніжэйшых слаёў грамадства або людзей, якія мелі трывалыя камуністычныя перакананні. Як можна меркаваць, тут большы ўплыў мелі эканамічныя і палітычныя фактары, чым нацыянальная ідэнтыфікацыя рэспандэнтаў. Палякі рабоча-сялянскага паходжання ў меншай ступені адчувалі на сабе негатыўныя вынікі савецкай палітыкі, а таму і больш прыхільна да яе ставіліся. Прадстаўнікі гэтых груп, падобна да інтэлігенцыі і памешчыкаў, таксама звярталі ўвагу на культурныя і цывілізацыйныя адрозненні. Тым не менш, сялян больш турбавалі эканамічныя вынікі сацыяльных зменаў. Вельмі часта яны адзначалі разрыў паміж прапагандай і рэальным

функцыянаваннем савецкай эканомікі. Іх думкі пра акупацыю маюць у гэтым выпадку больш практычны, дзелавы, канкрэтны і адначасова менш ідэалагізаваны характар.

У асяроддзі інтэлігенцыі і памешчыкаў ацэнка саветызацыі была адназначна негатыўнай. Гэта тлумачылася як рэальнай пагрозай існаванню гэтых груп, аж да небяспекі фізічнай ліквідацыі, так і грамадска-палітычнымі (страта сацыяльнага статусу), эканамічнымі (страта матэрыяльнага базісу існавання — у першую чаргу гэта датычыла памешчыцтва), ідэалагічнымі (уціск польскасці) і культурнымі прычынамі. Інтэлігенцыя і памешчыкі больш за ўсіх астатніх адчувалі і выказвалі сваю культурную неадпаведнасць савецкай сістэме, брак разумення новых каштоўнасцяў і нормаў, а таксама пачуццё адчужанасці ў новых умовах.

Паводзіны буржуазіі і мяшчанства ўяўлялі сабой нешта сярэдняе паміж гэтымі пазіцыямі. Практычнасць, прадбачлівасць і ўменне рацыянальна ацаніць сітуацыю, уласцівыя гэтым слаям (асабліва буржуазіі), прымушалі іх абіраць стратэгію чакання, ісці на кампрамісы і лішне не пярэчыць уладам. Яны спадзяваліся, што страчаны бізнес удасца хутка аднавіць пасля рэстаўрацыі даваеннага становішча. Таму ў першую чаргу яны намагаліся зберагчы асабістую свабоду. Патрыятызм у гэтым выпадку трактаваўся больш утылітарна („халодны" патрыятызм), чым у асяроддзі інтэлігенцыі і памешчыкаў. Што ж да ўспамінаў, пакінутых прадстаўнікамі мяшчанства, то яны больш сканцэнтраваныя на штодзённым жыцці і ў іх наогул адсутнічаюць апакаліптычныя або нацыянальна-каталіцка-месіянскія матывы.

Напрыканцы варта дадаць, што неаднастайным было і стаўленне мясцовага насельніцтва да паасобных катэгорый савецкіх грамадзян. Самы вялікі страх, найбольшае пачуццё адчужанасці і неразумення абуджалі супрацоўнікі НКУС, а найменшае — чырвонаармейцы. Розная сацыякультурная дыстанцыя ў дачыненні да гэтых дзвюх катэгорый вынікала з рознасці іх функцый і звязаных з гэтым асацыяцый ды грамадскіх адносінаў.

Нкусаўцы выклікалі панічны страх: яны ўвасаблялі рэпрэсіўнасць і чужароднасць савецкай сістэмы. Чырвонаармейцы, у сваю чаргу, звярталі на сябе ўвагу за кошт вонкавага непадабенства да „заходнікаў”, што найчасцей выклікала смех. Савецкія перасяленцы з усходу — „усходнікі” — знаходзіліся, як правіла, недзе паміж памянёнымі крайнімі катэгорыямі. У залежнасці ад сваіх функцый і ступені інтэграцыі ў мясцовае грамадства яны выклікалі здзіўленне, страх, смех ці абыякавасць.

## Уплыў саветызацыі на беларускае, украінскае і яўрэйскае насельніцтва

Поруч з палякамі пры тых жа акалічнасцях падобным саветызацыйным уплывам падлягалі і прадстаўнікі іншых народаў — беларусы, украінцы, яўрэі (калі гаварыць пра самыя шматлікія). Нават беглы аналіз прысвечанай гэтай тэме літаратуры, пры аналагічных абмежаваннях наконт глыбіні разваг, дазваляе канстатаваць, што нацыянальны фактар накладаў выразны адбітак на стаўленне насельніцтва да тэрытарыяльнай анексіі Усходняй Польшчы, а пазней — да савецкага рэжыму і працэсу саветызацыі.

Да 17 верасня 1939 г. салдаты няпольскай нацыянальнасці змагаліся з гітлераўскімі войскамі (пачынаючы з 1 верасня 1939 г., калі выбухнула вайна) у шэрагах Войска Польскага не горш за палякаў. Да таго часу не назіралася і ўзмацнення антыпольскіх выступленняў з боку нацыянальных меншасцяў. Гэтая сітуацыя змянілася пасля таго, як на ўсходнія землі ўступіла Чырвоная Армія. Сярод адступаючых на ўсход атрадаў Войска Польскага пачаліся ўсё больш шматлікія выпадкі дэзерцірства, а пасля таго, як ваенная параза польскай дзяржавы пачала выглядаць амаль непазбежнай, гэтая з’ява яшчэ больш узмацнілася і ахапіла ўсе нацыянальныя групы, у тым ліку і палякаў[20]. Адначасова

[20] Sowa A. L. Stosunki polsko-ukraińskie… S. 74–76.

пачаліся і ўсё часцейшыя выступленні прадстаўнікоў нацменшасцяў супраць польскага насельніцтва. Яны набывалі розныя формы — ад лагодных (напрыклад, адмова карміць салдат Войска Польскага або бежанцаў з Цэнтральнай Польшчы) да самых радыкальных (узброеныя напады, якія часам прымалі характар арганізаваных дыверсійных акцый). Пасля 11 верасня, адначасова са з'яўленнем ва Усходняй Галіччыне войскаў Вермахта, свае антыпольскія акцыі распачалі атрады Арганізацыі ўкраінскіх нацыяналістаў. Яны былі скіраваны галоўным чынам супраць бежанцаў, вайсковых асаднікаў і невялікіх груп салдат[21]. Пасля 17 верасня ажывіліся і баявыя ячэйкі Камуністычнай партыі Заходняй Украіны[22]. На беларускіх землях міжваеннай Польшчы антыпольскія выступленні арганізоўваліся і каардынаваліся, у прыватнасці, членамі Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі і Камуністычнай партыі Польшчы. Тут справа дайшла да нападаў, якія былі здзейснены разнастайнымі атрадамі „самаабароны", так званымі „павязачнікамі" (ад чырвоных павязак на рукавах) і атрадамі часовай міліцыі ў некалькіх дзясятках пасёлкаў і мястэчак[23].

[21] Hryciuk G. Zmiany ludnościowe i narodowościowe w Galicji Wschodniej i na Wołyniu w latach 1939–1948 // Przemiany narodowościowe na Kresach Wschodnich II Rzeczypospolitej 1931–1948 / Red. Ciesielski S. Toruń, 2003. S. 149–150; Torzecki R. Polacy i Ukraińcy. Sprawa ukraińska w czasie II wojny światowej na terenie II Rzeczypospolitej. Warszawa, 1993.

[22] Падобнага роду выступленні адбыліся, у прыватнасці, у Перамышлі, Стрыі, Драгобычы, Падгорцах, Барыславе, Трускаўцы, Мікалаеве, Даліне, Калушы, наваколлях Жыдачава, Варохты, Жабыні. Гл.: Sowa A. L. Stosunki polsko-ukraińskie… S. 80–96.

[23] Такія падзеі мелі месца, у прыватнасці, у Гродне, Азёрах, Індуры, Верцялішках, Вілейцы, Волпе, Сапоцкіне, Зэльве, Ваўкавыску, Астрыне, Дзятлаве, Дзярэчыне, Іванаве, Гарадцы, Драгічыне і Пінску. Гл.: Wnuk R. „Za pierwszego Sowieta"… S. 20; Wierzbicki M. Polacy i Białorusini w zaborze sowieckim. Stosunki polsko-białoruskie na ziemiach północno-wschodnich II RP pod okupacją sowiecką (1939–1941).

Яшчэ перад прыходам атрадаў Чырвонай Арміі ствараліся рэўкомы і рознага роду баявыя атрады, якія пераймалі ўладу ад імя Савецкага Саюза. Іх задачай было пасеяць хваляванні сярод ніжэйшых сацыяльных слаёў і ў той ці іншай ступені падрыхтаваць іх да новага ладу, які неўзабаве меўся запанаваць. Гэтаму спадарожнічалі забойствы і грабяжы, скіраваныя супраць „варожых народу" груп. Яны датычылі прадстаўнікоў мясцовай адміністрацыі, памешчыцтва і інтэлігенцыі. Знішчэнне ранейшай сацыяльна-інстытуцыйнай інфраструктуры ўтварала пустую прастору, якую павінен быў запоўніць новы, „справядлівы" грамадскі лад[24].

Стаўленне няпольскага насельніцтва да тэрытарыяльнай анексіі Усходняй Польшчы, а потым да савецкага праўлення і працэсу саветызацыі праяўлялася ў многіх сітуацыях, прадыктаваных логікай укаранення новага сацыяльнага парадку. Вобраз украінцаў, беларусаў і яўрэяў, які найбольш урэзаўся ў памяць палякам і найчасцей прысутнічае ў аналізаваных успамінах, можна падзяліць на чатыры галоўныя элементы. У гэты вобраз уваходзіла ацэнка паводзінаў памянёных груп насельніцтва пад час: 1) прыходу Чырвонай Арміі (у тым ліку і ацэнка іх стаўлення да прыходу Саветаў у цэлым); 2) кароткага перыяду „безуладдзя" паміж прыходам савецкіх войскаў, якому спадарожнічаў распад інстытутаў польскай дзяржавы, і ўтварэннем органаў новай улады, а таксама 3) перыяду панавання Саветаў і ажыццяўлення рэформаў. Чацвёртым складнікам згаданага вобраза была паступовая эвалюцыя стаўлення няпольскага насельніцтва да савецкай улады (канстатаваная палякамі не без злараднасці), якая адбыва-

Warszawa, 2007. S. 129–190; Grzelak Cz. Kresy w czerwieni: agresja Związku Sowieckiego na Polskę w 1939 roku. Warszawa, 1998. S. 211–213; Motyka G. Białorusini a Ukraińcy wobec władzy komunistycznej na Kresach Wschodnich II RP w latach 1939–1941 // Studia z dziejów okupacji… S. 49–60.

[24] Jasiewicz K. Zagłada polskich Kresów… S. 85–92; Wnuk R. „Za pierwszego Sowieta"… S. 21.

лася ў ходзе ўкаранення савецкіх парадкаў за кошт іх параўнання з парадкамі польскімі.

Пачатак Другой сусветнай вайны і спрычыненае гэтым заняцце пасля 17 верасня 1939 г. тэрыторыі Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны савецкімі войскамі дало ўкраінцам, беларусам і яўрэям, што насялялі ўсходнія ваяводствы міжваеннай Польшчы, шанцы на рэалізацыю хоць бы мінімальных палітычных, сацыяльных і эканамічных правоў, якія ў пераважнай большасці ігнараваліся або аспрэчваліся ў імя інтарэсаў польскай дзяржавы. Кожная з памянёных груп выказвала свае надзеі па-свойму. У цэлым можна сказаць, што вылучэнне на першы план тых ці іншых пастулатаў залежала ад сацыяльнага складу кожнай меншасці: чым больш сярод яе прадстаўнікоў было сялян, тым больш у авангард выходзілі пытанні эканамічна-побытавога характару. У першую чаргу гэта датычыла беларусаў і валынскіх украінцаў. Што да ўкраінцаў з Галіччыны, дзе інтэлігенцыя была больш шматлікая, а нацыянальны рух — больш развіты, то сярод іх большую папулярнасць здабывалі лозунгі аб палітычна-нацыянальным „вызваленні”. У сваю чаргу, яўрэйскае насельніцтва — асабліва яго бяднейшыя слаі — з новай сітуацыяй звязвала надзеі на паляпшэнне побытавых умоваў і большы ўдзел у грамадскім жыцці (прасоўванне па сацыяльнай лесвіцы і спыненне дыскрымінацыі).

Становішча сельскага насельніцтва на ўсходніх землях міжваеннай Польшчы ў той час вызначалася такімі фактарамі, як культурная адсталасць, галеча, непісьменнасць, перанаселенасць вёсак, малазямелле, слабае развіццё прамысловасці, адносна нізкія закупачныя цэны на сельскагаспадарчую прадукцыю і г. д. Лічылася, што ўсё гэта было вынікам палітыкі, якая праводзілася польскімі ўладамі, і іх нежадання ісці на неабходныя рэформы, якія маглі б прывесці да павышэння жыццёвага ўзроўню насельніцтва ўсходніх земляў. Сярод сялян і найбяднейшых гараджан было досыць шмат тых, хто цвёрда верыў або сімпатызаваў камуністам.

З прычыны сацыяльна-эканамічных умоваў, у якіх існавалі нацыянальныя меншасці, а таксама нацыянальнай палітыкі, што праводзілася на ўсходніх землях у міжваенны перыяд, цяжка было чакаць ад украінскага, беларускага і яўрэйскага насельніцтва лаяльнага стаўлення да польскай дзяржавы ў крытычны момант, калі над ёю навісла пагроза. Прыход Чырвонай Арміі даваў надзею на паляпшэнне жыццёвых і сацыяльных умоваў, асабліва калі ўлічыць, што сярод многіх прадстаўнікоў няпольскіх груп насельніцтва дамінавала ўяўленне пра СССР як пра краіну, дзе рэалізуюцца прынцыпы сацыяльнай справядлівасці, дзе рабочыя і сяляне бяруць рэальны ўдзел у дзяржаўным кіраванні[25]. І, напрыклад, сярод беларусаў гэтага міфа не маглі перабіць ні вопыт летніх месяцаў 1915 г. (калі паўтара мільёна жыхароў заходніх губерняў Расійскай імперыі, амаль выключна праваслаўных, былі перасялены на ўсход, а цэлыя вёскі спалены перад наступленнем немцаў[26]), ні памяць пра некалькі месяцаў панавання савецкай улады ў 1919–1920 г. (калі рэгіён быў аб’ектам інтэнсіўнай эксплуатацыі), ні палітыка, рэалізаваная ў савецкіх рэспубліках у 1930-я г. (масавае знішчэнне інтэлігенцыі, арышты і ссылкі, гвалтоўная калектывізацыя вёскі).

Ва ўспамінах польскага насельніцтва захавалася досыць аднастайная карціна прыходу Саветаў. Паводле гэтых успамінаў, беларусы, украінцы і яўрэі віталі чырвонаармейцаў кветкамі і трыумфальнымі аркамі, частавалі іх садавіной, малаком і цукеркамі, а потым дапамагалі савецкім палітрукам і камісарам чыніць рэпрэсіі супраць палякаў і разам з імі ўкаранялі новыя грамадскія парадкі. У найбольшай ступені такі вобраз захаваўся за яўрэямі, у меншай — за беларусамі і ўкраінцамі.

Для польскага насельніцтва было відавочна, што „прыход Саветаў” — гэта акт агрэсіі, акупацыя іх дзяр-

[25] Wierzbicki M. Polacy i Białorusini… S. 10.
[26] Mironowicz E. Białoruś. Warszawa, 2007. S. 28–29.

жавы. Палякі найчасцей не ўспрымалі савецкай прапаганды, якая малявала тагачасныя падзеі як „вызваленчы паход", учынены дзеля абароны беларусаў і ўкраінцаў, прыгнечаных і эксплуатаваных польскімі памешчыкамі ды капіталістамі. Некаторыя рэспандэнты прытрымліваюцца думкі, што аналагічны пункт гледжання панаваў у той час і сярод няпольскага насельніцтва памянёных земляў[27]. Што да публічнай прасторы, то тут савецкая прапаганда паспяхова ўкараніла тэрміналогію, якая сцвярджала вызваленне Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі, і з таго часу паняцці „вызваленне", а таксама „Заходняя Украіна" і „Заходняя Беларусь" набылі ў савецкай інтэрпрэтацыі гэтых падзей характар неаспрэчных аксіём.

На фактаграфічным узроўні цяжка адназначна ацаніць маштабы захопленага вітання Чырвонай Арміі няпольскім насельніцтвам. Сярод гісторыкаў паранейшаму ідуць гарачыя спрэчкі пра гэта. Больш спантанныя акты вітання атрадаў Чырвонай Арміі, як правіла, адбываліся бліжэй да польска-савецкай мяжы. Затое больш арганізаваны характар яны мелі ў населеных пунктах, размешчаных далей на захадзе, куды войскі прыходзілі пазней або нават праз некалькі дзён знаходжання ў дадзенай мясцовасці. Праходзілі яны, як правіла, паводле аднолькавага сцэнарыя і нярэдка былі аздоблены квяцістым цырыманіялам. Можна канстатаваць, што мерапрыемствы такога роду адбываліся перш за ўсё там, дзе раней існавалі структуры КПЗБ і КПЗУ. Пры гэтым варта падкрэсліць, што ў гарадах і мястэчках ядром камуністычных асяродкаў было яўрэйскае насельніцтва, а на вёсцы — беларускае і ўкраінскае. У залежнасці ад канкрэтнага месца арганізаваных урачыстасцяў пераважалі і праз гэта „кідаліся ў вочы" прадстаўнікі той ці іншай нацыянальнай меншасці. У дадатак да гэтага неабходна ўлічваць,

[27] Krechowiecki A. Okupacja sowiecka we Lwowie w latach od wejścia Armii Czerwonej we wrześniu 1939 roku do wkroczenia wojsk niemieckich w czerwcu 1941 roku, mps // AW II/1585. K. 28.

што ў некаторых выпадках удзел у вітанні Чырвонай Арміі быў прымусовы або тлумачыўся кан'юнктурнымі прычынамі[28].

Што да пазіцыі яўрэйскага насельніцтва, то частка даследчыкаў, такіх, як Марэк Вяжбіцкі, Анджэй Сава, Войцех Сляшыньскі, Бен-Цыён Пінчук і Доў Левін, лічаць, што дэманстрацыя радасці сярод яўрэяў мела амаль паўсюдны характар. Іншай думкі прытрымліваюцца, напрыклад, Кшыштаф Ясевіч[29] і Анджэй Жбікоўскі, якія сцвярджаюць, што доля тых, хто праяўляў нейкі энтузіязм, была адносна нізкай, а ўяўленні пра паўсюднасць такіх паводзінаў сярод яўрэйскага насельніцтва сталі вынікам глыбокага ўкаранення стэрэатыпаў і належаць да польскай нацыянальнай міфалогіі, народжанай пры Саветах у 1939–1941 г.

У сваю чаргу, гаворачы пра стаўленне беларусаў да савецкай агрэсіі супраць Польшчы ў верасні 1939 г., трэба канстатаваць, што хоць і невялікі, але прыметны працэнт гэтага насельніцтва стаў на бок польскай дзяржавы. Перш за ўсё гэта датычыла тых, хто займаў чыноўніцкія пасады або служыў у якасці салдат і малодшых афіцэраў у Войску Польскім — гэта значыць асобаў, якія шчыльней былі звязаны з даваеннымі дзяржаўнымі інстытутамі. Другую катэгорыю прыхільнікаў Польшчы склала насельніцтва, якое перад вайной апынулася пад уплывам узмоцненай прапагандысцкай кампаніі ў антыбальшавіцкім духу (члены Корпуса абароны памежжа або — далей ад мяжы — польскіх патрыятычных арганізацый). Многія польскія інтэлігенты і памешчыкі знаходзілі дапамогу і сховішча сярод беларусаў. Большасць прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі і дзеячаў беларускага нацыянальнага руху занялі прасавецкія пазіцыі ў дачыненні да Чырвонай Арміі і савецкай ула-

[28] Wierzbicki M. Polacy i Żydzi w zaborze sowieckim. Stosunki polsko-żydowskie na ziemiach północno-wschodnich II RP pod okupacją sowiecką (1939–1941). Warszawa, 2007. S. 147–149.

[29] Апошняя публікацыя гэтага даследчыка, праўда, мае ўжо крыху іншы тон: Jasiewicz K. Rzeczywistość sowiecka 1939–1941 w świadectwach polskich Żydów. Warszawa, 2009.

ды. Аднак некаторыя з іх з самага пачатку не верылі ў добрыя намеры ды абяцанкі савецкіх уладаў і пакінулі Вільню адразу пасля ўступлення ў горад Чырвонай Арміі[30]. Тым не менш, „пераважная большасць беларусаў, — піша Яўген Міраповіч, — сустрэлі змену палітычнай сітуацыі з насцярожанасцю або абыякавасцю. Ні камітэты, што віталі савецкіх камандзіраў хлебам і соллю, ні дыверсійныя атрады не паўставалі самі сабою, стыхійна, а наступаючае савецкае войска сваім выглядам і паводзінамі выклікала хутчэй паўсюднае здзіўленне, а не энтузіязм"[31].

Падсумоўваючы наяўныя сведчанні, Рафал Унук прыйшоў да высновы, што „ў Галіччыне сярод тых, хто вітаў Чырвоную Армію, пераважала яўрэйскае насельніцтва. У паўночнай частцы Крэсаў з кветкамі, хлебам і соллю выходзілі перш за ўсё мясцовыя беларусы і яўрэі, у паўднёвай частцы Палесся і на Валыні — яўрэі і ўкраінцы. Шмат дзе значную долю сярод вітальнікаў складалі этнічныя палякі"[32].

Падзеі, якія адбываліся на працягу некалькіх дзён (а часам і даўжэй) — з моманту прыходу савецкіх войскаў і спалучанага з гэтым больш ці менш поўнага распаду ранейшых дзяржаўных структур да моманту ўсталявання адноснага кантролю над сітуацыяй з боку новай улады, — вызначаліся цікавымі з'явамі з пункту гледжання сацыяльных адносінаў, што склаліся ў гэтым рэгіёне. Выявілася, што ранейшая (польская) сацыяльная сістэма мела для часткі мясцовага насельніцтва выключна прыгнятальніцкі характар. Так, крушэнне ранейшых грамадскіх парадкаў і юрыдычных нормаў прывяло да паўсюднага аслаблення сацыяльнай дысцыпліны, дало выхад назапашанай у грамадстве сацыяльнай напружанасці, пачуццям несправядлівасці і безнадзейнасці. Некаторыя людзі скарысталі перыяд „бе-

[30] Iwanow M. Sprawa przynależności Wilna i problemy narodowościowe na Białorusi // Społeczeństwo białoruskie… S. 85–92.

[31] Mironowicz E. Białoruś… S. 149.

[32] Wnuk R. „Za pierwszego Sowieta"… S. 20. Тамсама бібліяграфія, што датычыць вышэйпамянёных спрэчак.

зуладдзя" для звядзення асабістых рахункаў і спагнання крыўдаў. Часам тагачасныя падзеі прымалі выгляд групавога высвятлення набалелых канфліктаў. У гэты перыяд меў месца цэлы шэраг нападаў на цывільнае насельніцтва, самавольных арыштаў, грабяжоў, разбояў, збіванняў і марадзёрства.

> [Брэст] *„Адразу ж пачалі ўтварацца групы — адны з намерам будаваць вітальныя брамы, другія — каб спагнаць свае асабістыя рахункі"*[33];
> [Ваколіцы Навагрудка] *„Прыходзілі людзі з вёскі. Скакалі па фатэлях, насалоджваючыся ўсёдазволенасцю, тым, што цяпер настала іх чарга"*[34];
> [Навагрудак] *„<…> пачынаецца, я б сказаў, сапраўдная жакерыя — наступ пэўных слаёў, якія ідуць у горад. Групы сялян, нярэдка ўзброеных, прыходзяць у горад нападпітку і робяць там што хочуць — пачынаецца паляванне на паліцэйскіх, на ўраднікаў, на вайскоўцаў"*[35].

Ва ўспамінах польскага насельніцтва пераважае менавіта такая карціна падзей. Пры гэтым на першы план у ёй вылучаецца нацыянальная падаплёка. І хоць на цяперашнім этапе даследаванняў цяжка ўсебакова прааналізаваць з'яву самасудаў на ўсходніх землях Польшчы ў верасні 1939 г., але ж удзел у іх украінскага і беларускага насельніцтва на вёсцы, як і яўрэйскага ў гарадах, выглядае значным, хоць, вядома, далёка не ўсе прадстаўнікі гэтых народаў бралі актыўны ўдзел у актах насілля. Часам жа ў іх удзельнічалі і палякі. Многія вызваленыя з турмаў камуністычныя актывісты і сімпатызанты, украінскія і беларускія палітычныя, грамадскія і культурныя дзеячы, а таксама простыя людзі нярэдка па ўласнай ініцыятыве ўтваралі „сялянскія рэвалюцыйныя камітэты" і потым усту-

[33] Bręgosz S. Wspomnienia emigracyjne, rkps // AW II/1756/J. K. 2.
[34] Brzezak J. Relacja, mps // AW I/62. K. 1.
[35] Bułhak H. Relacja, mps // AW I/70. K. 15–16.

палі ў склад афіцыйна абвешчаных народнай міліцыі і працоўнай гвардыі. Гэтыя структуры, часта без загадаў павятовых або ваяводскіх часовых упраўленняў, праводзілі ў жыццё рашэнні, скіраваныя на ўвядзенне савецкіх парадкаў (напрыклад, пра парцэляцыю зямлі, канфіскацыю і падзел памешчыцкай або царкоўнай уласнасці). Ахвярамі нападаў і рэпрэсій былі сацыяльна-прафесійныя групы, абвешчаныя савецкай уладай „ворагамі народа" або звязаныя з інстытутамі польскай дзяржавы. У іх лік уваходзілі афіцэры і салдаты Войска Польскага, паліцэйскія, ураднікі, памешчыкі, вайсковыя асаднікі, святары, заможныя сяляне і мяшчане, купцы і фабрыканты, а таксама члены іх сямей. У пераважнай большасці пералічаныя сацыяльныя групы складаліся на гэтай тэрыторыі з асобаў польскай нацыянальнасці, хоць былі сярод іх і асобныя прадстаўнікі іншых нацыянальнасцяў. Вось чаму ў перыяд „безуладдзя" (як, зрэшты, і пазней) стваралася ўражанне, што на землях, занятых пасля 17 верасня 1939 г. Чырвонай Арміяй, мелі месца перш за ўсё этнічныя, а не класавыя канфлікты — хоць на самай справе ход канфліктаў вызначаўся найперш класавымі падзеламі, а ўжо на іх, як правіла, накладаліся і падзелы этнічныя. Як тлумачыць у дачыненні да беларускіх земляў Марэк Вяжбіцкі, „беднасць і сацыяльнае бяспраўе значнай часткі беларускага сялянства з аднаго боку, а з другога — магчымасць лёгкага ўзбагачэння за кошт больш заможных суседзяў <...> пры адначасовым знікненні польскага апарату прымусу і паблажлівым стаўленні савецкіх уладаў вялі да масавага ўдзелу насельніцтва ў грабяжах. Лініяй падзелу тут найчасцей выступала ступень заможнасці..."[36]. З гэтай прычыны ахвярамі грабяжоў рабіліся і заможныя сяляне незалежна ад іх нацыянальнасці.

Уяўляецца таксама, што большасць нападаў былі не столькі стыхійныя, колькі інспіраваныя, а то і проста арганізаваныя „баявымі атрадамі", утворанымі мяс-

[36] Wierzbicki M. Polacy i Białorusini... S. 136.

цовымі камуністычнымі актывістамі[37]. Магчымасць спагнаць асабістыя рахункі, а таксама ўзбагаціцца за кошт ахвяр нападаў у гэтым выпадку выступала як стымул і адначасова ўзнагарода за ўдзел у канкрэтных акцыях. З гэтай прычыны поруч з перакананымі камуністамі і іх прыхільнікамі (сярод якіх пераважала моладзь) досыць вялікі ўдзел у іх бралі і прадстаўнікі найбольш маргіналізаваных слаёў грамадства, а таксама беднаты, для якіх адкрывалася магчымасць (вядома, за выключэннем зусім ужо адпетых злачынцаў) рэабілітацыі ў вачах новай улады або хуткага і адносна лёгкага павышэння свайго сацыяльнага статусу.

Стаўленне вяскоўцаў, якія ўдзельнічалі ў самасудах, да канкрэтных „крыўдзіцеляў" залежала не толькі ад сацыяльнага і прафесійнага становішча ахвяраў, але і ад таго, як апошнім удавалася ў папярэднія часы „наладзіць стасункі з вёскай".

> *„Там, дзе той ці іншы землеўласнік, той ці іншы памешчык не ўмеў у свой час паладзіць з вёскай, дзе стаўленне да сялян было жорсткае і несправядлівае, — там здараліся нярэдка і трагічныя рэчы"*[38].

[37] Такі тэзіс вылучае, у прыватнасці, Марэк Вяжбіцкі і дае яму паважнае абгрунтаванне, прыводзячы ў якасці довадаў, сярод іншага, сацыяльны склад нападнікаў, схему іх дзеянняў, стаўленне савецкіх уладаў да падобных актаў гвалту, нарэшце — ролю камуністычных арганізацый і дыверсійнай дзейнасці СССР на тэрыторыі Польшчы перад вайной. Гл. тамсама. С. 142–145, 220–243.

[38] Bułhak H. Relacja… K. 35. Іншы аўтар, пішучы пра вёску Бабры Лідскага павета (Навагрудчына), прыгадвае, што мясцовае праваслаўнае беларускае насельніцтва пад час прыходу Саветаў паводзіла сябе „вельмі прыстойна; бацька заўсёды ім дапамагаў, часта бываў сватам на вясковых вяселлях. Маці раней была санітаркай, дык таксама часта спрыяла людзям медыцынскімі парадамі, дапамагала ў розных сітуацыях". Аўтарка падкрэслівае, што бацька дапамагаў толькі тады, калі беларусы „прасілі па-польску", а яны „ўмелі размаўляць па-польску, бо ў вёсцы была польская школа". Гл.: Ficner-Szostak M. Relacja, mps // AW I/159. K. 1.

Вядома, аднак, што не заўсёды добрых адносінаў з сялянствам было дастаткова для памешчыкаў, каб пазбегнуць грабяжоў, пабояў ці нават смерці, пра што сведчыць наступнае паведамленне з ваколіц Гродна:

> *«Непадалёк ад шваграvага маёнтка быў маёнтак адной кабеты. Яна вельмі добра абыходзілася з усімі. Заснавала ў сябе школу, бальнічку. Яе работнікі, парабкі ды і ўсе навакольныя сяляне не ведалі бяды. Яна сказала сялянам: „Вы ж заступіцеся за мяне, бо я была добраю да вас". Яны ж на гэта адказвалі: „Так, пані была добрая, але лепей уцякай, пані, бо будзем плакаць, але будзем рэзаць"»*[39].

Перыяд панавання савецкай улады ў 1939–1941 г. — гэта перш за ўсё грунтоўная і энергічная рэарганізацыя амаль усіх элементаў грамадскага жыцця, мэтаю якой было ўкараненне прынцыпаў сацыялістычнай дзяржавы. Ва ўспамінах польскага насельніцтва адыход ад польскасці практычна ва ўсіх сферах грамадскага жыцця ацэньваецца ў катэгорыях нацыянальнай трагедыі, якая пакінула пасля сябе не меншую траўму, чым падзеі верасня 1939 г., якія прадэманстравалі сапраўднае стаўленне прадстаўнікоў іншых тутэйшых народаў да польскай дзяржаўнасці. Савецкая ўлада радыкальна відазмяніла сацыяльную стратыфікацыю, якая паспела была замацавацца на гэтых землях. Гэтыя пераўтварэнні заключаліся, асабліва ў першыя месяцы, перш за ўсё ў паніжэнні сацыяльнага статусу былых эліт — пераважна палякаў, — пры адначасовым узвышэнні прадстаўнікоў ніжэйшых паверхаў сацыяльнай іерархіі, г. зн. рабочых і сялян. У першую чаргу гэта датычыла беларусаў, украінцаў і яўрэяў, а ў меншай ступені закранала і частку найбяднейшых палякаў.

Для сельскага насельніцтва палітыка савецкіх уладаў мела найперш эканамічнае значэнне. У параўнанні з ідэалагічнымі пытаннямі сялян куды больш хвалявалі

[39] Skinderowa E. Wspomnienia, mps // AW II/1422/2K. K. 13.

праблема падзелу канфіскаваных зямельных угоддзяў, аб'ёмы грамадскіх работ і збожжанарыхтовак, а пазней — калектывізацыя вёскі. Беларускасць і ў крыху меншай ступені ўкраінскасць зводзіліся да сферы рэгіянальнага фальклору — як і ва ўсходніх частках абедзвюх рэспублік. Нацыянальная мова адукацыі, якая панавала ў пачатковых і няпоўных сярэдніх школах, паступова замянялася рускай мовай (апошняя адпачатку дамінавала ў апошніх класах сярэдняй школы і педагагічных вучылішчах). Аналагічны працэс адыходу ад беларускасці і ўкраінскасці назіраўся і ў сферы кіроўных кадраў, якія ва ўсё большай колькасці прыбывалі з усходу. Асноўную масу гэтых кадраў складалі саветызаваныя партыйныя работнікі, якія нярэдка рускай мовай валодалі значна лепш, чым беларускай ці ўкраінскай[40].

На першым этапе ўстанаўлення савецкай улады адбылося адчувальнае паляпшэнне матэрыяльнага становішча сельскага насельніцтва, у асноўным дзякуючы таму, што знікла неабходнасць плаціць падаткі, знізіліся цэны на прамысловыя тавары, а попыт на сельскагаспадарчую прадукцыю вырас за кошт раскватараваных чырвонаармейцаў і ўсходнікаў. Аднак ужо праз некалькі месяцаў выявілася неэфектыўнасць савецкай эканомікі. Асабліва балючай і расчаравальнай для сельскага насельніцтва ўсіх нацыянальнасцяў аказалася ў тэорыі добраахвотная, а на практыцы прымусовая калектывізацыя сельскай гаспадаркі. Яна азначала адчужэнне ўласных зямельных надзелаў на карысць калгасаў — прадпрыемстваў, як з цягам часу выявілася, абы-як арганізаваных і кіраваных, дзе сістэматычнай з'явай стала марнатраўства і крадзяжы. У выніку ўсяго гэтага заняпала сама культура сялянскай працы. Досыць хутка высветлілася, што савецкая рэальнасць надзвычай далёкая ад вобразаў, маляваных прапагандай, а таму цяжкае матэрыяльнае становішча правакавала да параўнанняў з даваеннай рэчаіснасцю. Апроч таго, мясцовае насельніцтва мела ўсё больш нагод і магчымасцяў для кантактаў з усходнікамі. З назіранняў

40 Śleszyński W. Okupacja sowiecka… S. 260–263.

і гутарак няцяжка было атрымаць агульнае ўяўленне пра рэальную сітуацыю ў СССР, а часам і даведацца пра падрабязнасці, якія выклікалі шок (рэпрэсіі, голад, шматгадовыя прысуды за крадзяжы прадуктаў харчавання, гвалтоўная калектывізацыя і г. д.).

Змена палітычнай улады спарадзіла сярод няпольскага насельніцтва ўсеагульныя спадзевы на рэформы ў грамадстве і паляпшэнне эканамічнага і палітычнага становішча. Аднак напрыканцы 1940 г. распачатая барацьба з кулацтвам, узмоцненая калектывізацыя, паступовая русіфікацыя школьніцтва, сістэмнае выцясненне з грамадскага жыцця рэлігіі, арышты і дэпартацыі прадстаўнікоў пэўных сацыяльных груп, а таксама шмат якія іншыя рэпрэсіўныя акцыі (арышты дзеячаў нацыянальнага і камуністычнага руху[41], забароны пэўных сялянскіх звычаяў[42]) урэшце спрычыніліся

[41] Вось як пра гэта піша Тадэвуш Баркоўскі, у 1939 г. настаўнік польскай мовы з Гродна: «Знамянальным для Саветаў быў лёс мясцовых камуністаў. Пасля прыходу рускіх мясцовыя камуністы, пераважна беларусы, атрымалі кіраўнічыя пасады. Але недзе праз месяц іх усіх арыштавалі і вывезлі. У 1941 г. я сустрэў аднаго з іх, вызваленага немцамі. Ён пераказаў мне тое, што яму сказалі ў вочы: „Вы сваю справу зрабілі, але вы хвалілі Савецкі Саюз за грошы. Вы не верыце ў камунізм, а таму паедзеце „да белых мядзведзяў". Яго збіраліся вывезці, але гэтаму перашкодзілі немцы. Апынуўшыся на волі, ён кляў Саветы апошнімі словамі і, як мне здавалася, нарэшце сёе-тое зразумеў. Але пасля паўторнага прыходу Саветаў зноў прасякнуўся да іх любоўю і нават дабіўся сабе нейкай пасады». Гл.: Borkowski T. Relacja, mps // AW I/1152. K. 4–5.

[42] Казіміра Сакалоўская, памешчыца з-пад Вільні, звяртае ўвагу на рэакцыю беларускага насельніцтва на ўведзеную забарону галашэнняў: «Асабліва непрыхільна быў сустрэты загад, паводле якога жанчынам забаранялася лямантаваць. Прымірыцца з такой забаронай ім было надта складана, бо ў цяжкім бязрадасным жыцці беларуса існуе патрэба „галасіць" — у форме спеву ці плачу — пры кожнай нагодзе, як радаснай, так і сумнай. Дзікім, прарэзлівым лямантам, у якім чуваць нараканне, прарываўся звычай зацісканы ў сабе душэўны боль, набрынялая ўнутры бяссільная роспач ад немагчымасці нешта змяніць». Гл.:

да заўважнага росту нездаволенасці савецкай уладай з боку ўкраінскага, беларускага і яўрэйскага насельніцтва. Нездаволенасць сялян праяўлялася ў непрыкрытай, а часам і дэманстрацыйнай лаянцы і крытыцы на адрас савецкай улады, у невыкананні даведзеных нормаў нарыхтоўкі збожжа і іншай сельскагаспадарчай прадукцыі, ва ўхіленні ад грамадскіх работ або, прынамсі, імітацыі іх выканання[43].

Ва ўспамінах палякаў факт змянення настрояў няпольскага насельніцтва не толькі не застаецца без увагі, а нават падкрэсліваецца. Бо гэта пацвярджала абгрунтаванасць іх моцных засцярог перад новай уладай і несправядлівасць панесеных крыўдаў, не кажучы пра тое, што было важкім аргументам супраць савецкай агрэсіі і на карысць адбудовы польскай дзяржаўнасці.

Успаміны пра перагляд беларусамі, украінцамі і яўрэямі свайго стаўлення да савецкай акупацыі, убачаны з пункту гледжання палякаў, надзіва падобныя паводле сваёй структуры і афарбоўкі. Ва ўсіх іх апісваецца, як слабеў першапачатковы энтузіязм па меры раскрыцця сапраўднага аблічча савецкага „раю” і грамадзяне самых розных нацыянальнасцяў ды сацыяльных станаў пачыналі тужыць па даваеннай Польшчы. Большасць гэтых апісанняў набывалі анекдатычны характар.

У дачыненні да беларусаў сярод польскага насельніцтва быў папулярны погляд, што „першая савецкая акупацыя адвярнула беларусаў ад камунізму”[44]. Адзін з аўтараў, які прыгадвае тагачасныя падзеі, характарызуе гэтае меркаванне як досыць трапнае, а ў якасці яго абгрунтавання прыводзіць папулярную ў тыя часы думку:

*«Праз нейкія паўгода-год пасля прыходу на „крэсы” Саветаў пачалі хадзіць такія размовы: „Палякі нас*

Sokołowska K. Pożegnanie Kresów, mps // AW II/1430/2K. K. 64–65.

43 Mironowicz E. Białoruś… S. 146–171; Wierzbicki M. Polacy i Białorusini… S. 359–378.

44 Bułhak H. Relacja… K. 26–27.

*апалячвалі дваццаць гадоў, апалячыць не маглі, а Саветы ў адзін год апалячылі". І так было»*[45].

Прыведзенае вышэй меркаванне знаходзіць пацвярджэнне ў яшчэ адным анекдоце, а дакладней, гумарыстычнай бытавой замалёўцы:

*«У Навагрудку расказвалі пра адну бабу, трошкі, можа, ненармальную, якая аднаго разу выйшла на вуліцу ў такой вялікай падранай спадніцы і з кольцам каўбасы на шыі. То яе пытаюць: „Ці ж ты звар'яцела?" А яна адказвае: „Гэта панскае ярмо", — то бок каўбаса, і, паказваючы на дзіравую спадніцу, дадае: „А гэта ваша свабода"»*[46].

Аўтар, які расказаў пра гэты выпадак, далей робіць такія высновы наконт стаўлення беларускага насельніцтва да савецкай дзяржавы:

*«То бок гэты беларускі народ, з якога, урэшце, і мае сякія-такія прашчуры паходзяць, таксама мае сваю мудрасць, як і кожны іншы народ. <…> Яны выдатна разумелі, наколькі ўсё тое, што здарылася, не адпавядала прапагандзе, якую ім падсоўвалі. І ў якую яны верылі. Вось адкуль былі тыя кветкі, якімі абсыпалі савецкія танкі сямнаццатага і васямнаццатага верасня, і тыя натоўпы, якія выходзілі па-святочнаму прыбраныя, тым болей што была нядзеля. Пазней савецкія салдаты пыталіся: „Што ж гэта, самі буржуі выйшлі нас сустракаць?" — „Якія буржуі?" — адказвалі ім на гэта. „Ну, такія прыбраныя". Мы тлумачылі: „Але ж гэта простыя вяскоўцы". — „Як так, гэта ў вас вяскоўцы ходзяць у такіх строях?" І гэта былі факты. Гэта зусім не нейкая антыпрапаганда, проста так было. Таму што для многіх савецкіх салдат сутыкненне з нашым узроўнем — далёка не найвышэйшым,*

[45] Тамсама. К. 29.
[46] Тамсама.

*тым больш на крэсах, далёкіх усходніх крэсах, дзе гэты цывілізацыйны ўзровень быў, праўду сказаць, прымітыўны, „трэцегатунковая Польшча”, — усё ж для іх гэта было шокам, было адкрыццём”*[47].

Нягледзячы на ўсё вышэйсказанае, нельга сцвярджаць, што перамена настрояў няпольскага насельніцтва з прасавецкіх на антысавецкія і ў пэўнай ступені нават на прапольскія была масавай з’явай. Як паказвае (у дачыненні да беларускага насельніцтва) Яўген Мірановіч, «дасягненні савецкай улады ў 1939–1941 г. на Беласточчыне па-рознаму ацэньваліся беларускім насельніцтвам. Ацэнкі залежалі ад уласнага досведу канкрэтных жыхароў, сямей, вёсак. У дадатак да ўсяго гэты перыяд быў надта кароткі, што не дазволіла многім беларусам заняць адназначную пазіцыю ў дачыненні да новай рэальнасці. <…> Гэта была „руская ўлада, з якою мірыліся як з процілегласцю ўлады польскай — непрымальнай для беларускіх сялянскіх мас. Хоць сюды і нахлынулі „саветы” і „бязбожнікі”, нітрохі не падобныя на даўнейшую расійскую адміністрацыю, усё ж і яны не выглядалі абсалютнымі чужынцамі. Яны размаўлялі хоць і на незразумелай паводле лексікі, але ўсё ж на „сваёй”, „рускай” мове. Прадстаўнікі гэтай улады не мелі „панскіх” манер — наадварот, многія з іх лаяліся і паводзілі сябе акурат як мясцовыя сяляне»[48].

Пачуццё адчужанасці ад савецкай рэчаіснасці, як відаць, не такое вялікае ў беларусаў, у трохі большай ступені было ўласціва яўрэям і ўкраінцам, а асабліва іх элітам. Як і ў выпадку палякаў, сярод няпольскага насельніцтва стаўленне да саветызацыі таксама шмат у чым залежала ад месца, займанага тым ці іншым чалавекам у сацыяльнай іерархіі, — чым вышэйшае яно было, тым мацней адчувалася чужароднасць савецкай культуры[49].

[47] Тамсама. К. 29–31.
[48] Mironowicz E. Białorusini w Polsce 1944–1949. Warszawa, 1993. S. 85.
[49] Гл.: Klaczko L. 20 miesięcy w czerwonym Lwowie, mps // AW

У калектыўнай памяці палякаў захаваўся досыць адназначны вобраз няпольскага насельніцтва ў час прыходу Саветаў. Палякі, якія, як правіла, вызначаліся вельмі высокім узроўнем нацыянальнай самасвядомасці, найчасцей ацэньвалі інстытуты польскай дзяржавы не ў класавых (як, напрыклад, беларусы), а ў нацыянальных катэгорыях. Таму гэтыя ацэнкі мелі надзвычай эмацыянальны характар і былі звязаны з абвінавачаннямі іншых народаў у здрадзе і спрыянні знішчэнню польскасці. Сярод розных этнічных груп, якія насялялі землі былой Усходняй Польшчы, найгорш ацэньваліся палякамі паводзіны яўрэяў, потым — беларусаў і ўкраінцаў. Савецкая нацыянальная палітыка, вынікам якой, асабліва на першым этапе, было прыніжэнне статусу польскасці і рост уплыву іншых нацыянальных груп, прычынялася да рознай ацэнкі савецкага праўлення з боку польскага і няпольскага насельніцтва. Калі ж высветлілася, што ўся гэтая палітыка ў любых сваіх праявах была скіравана толькі на саветызацыю занятых тэрыторый, беларусы, украінцы і яўрэі пачалі ў большай ступені праяўляць негатыўнае стаўленне да савецкіх парадкаў і тых, хто іх праводзіў у жыццё. Тым не менш, перыяд савецкага панавання ў 1939–1941 г. прывёў да значнага пагаршэння ўзаемаадносінаў паміж палякамі з аднаго боку і яўрэямі, украінцамі ды беларусамі з другога, а таксама прадэманстраваў наяўнасць істотных разыходжанняў (а то і супярэчнасцяў) паміж імі ў цэлым шэрагу эканамічных, сацыяльных і палітычных пытанняў. Пашыраны на ўсё няпольскае насельніцтва негатыўны вобраз зрабіўся адным з міфаў часоў „першых Саветаў", які захаваўся ў гістарычнай свядомасці палякаў аж да цяперашніх часоў. Асабліва ён выявіўся пасля таго, як 22 чэрвеня 1941 г. пачалася гітлераўска-савецкая вайна і фронт неўзабаве шпарка рушыў на ўсход. У той час мелі месца даволі шматлікія акты по-

II/692. K. 2–3; Lanckorońska K. Wspomnienia wojenne. 22 IX 1939 — 5 IV 1945. Kraków, 2001. S. 41.

мсты палякаў, скіраваныя супраць прадстаўнікоў тых ці іншых даваенных нацыянальных меншасцяў, асабліва ж супраць канкрэтных асоб, якія адыгралі актыўную ролю ў антыпольскіх акцыях у верасні 1939 г.

Якія структурныя фактары паслужылі прычынай розных адносінаў мясцовага насельніцтва да саветызацыі? Як можна меркаваць, стаўленне палякаў, украінцаў, беларусаў і яўрэяў да савецкага ладу залежала ад веравызнання супольнасці, яе класавай структуры, а таксама ад ступені ўсведамлення сябе як нацыі. На гэты апошні фактар уплывалі, зрэшты, два папярэднія. На абшарах Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, пачынаючы з XIX ст., працэсы нацыятварэння шпарчэй ішлі сярод тых народаў, якія прытрымліваліся каталіцкага, а не праваслаўнага веравызнання, а таксама тых, якія валодалі больш „поўнай” сацыяльнай структурай, у тым ліку мелі развіты слой нацыянальнай эліты (у першую чаргу інтэлігенцыі). У цэлым, калі значна спрасціць карціну, можна канстатаваць, што большая прыхільнасць да саветызацыі, асабліва на яе першапачатковых этапах, была ўласціва тым супольнасцям, якія характарызаваліся меншай культурнай дыстанцыяй у дачыненні да савецкай сацыякультурнай сістэмы. І наадварот, дзе культурная дыстанцыя была большая — там расла непрыязнасць, неразуменне і варожасць у дачыненні да савецкай улады. Фактарамі, якія працавалі на змяншэнне памянёнай дыстанцыі, былі праваслаўе (у беларусаў, валынскіх украінцаў), перавага ў сацыяльнай структуры сялянства (у беларусаў і ўкраінцаў), а таксама нізкі ўзровень нацыянальнага развіцця (у беларусаў і валынскіх украінцаў). У сваю чаргу, фактарамі, якія павялічвалі гэтую дыстанцыю, былі каталіцызм (у палякаў), развіты слой эліты ў структуры грамадства (у палякаў і ў меншай ступені ў галіцкіх украінцаў), а таксама высокі ўзровень нацыянальнай самасвядомасці (зноў жа ў палякаў і ў меншай ступені ў галіцкіх украінцаў). Прыхільнасць да саветызацыі з боку часткі яўрэяў вызначалася адносна высокай пашыранасцю сярод іх камуністычных поглядаў і сімпатый,

а таксама магчымасцю дабіцца ў новай дзяржаве куды большых кар'ерных пазіцый, чым гэта было ў даваеннай Польшчы.

Выглядае, што тыя самыя фактары прадвызначылі і перамену ў стаўленні да Савецкага Саюза і яго палітыкі ў больш позні перыяд. Праваслаўнае беларускае і ўкраінскае насельніцтва нярэдка лічыла польскую дзяржаву чужым для сябе ўтварэннем. Ад часоў польска-савецкай вайны 1920 г. яно чакала прыходу войскаў з усходу — пасланцоў іншай, як лічылася, праваслаўнай, дзяржавы. Між тым прыход 17 верасня 1939 г. Чырвонай Арміі і ўсталяванне савецкай улады пацягнулі за сабой уціск рэлігіі, ліквідацыю прыватнай уласнасці і нават пераслед за ідэйныя камуністычныя перакананні. Гэта былі асноўныя прычыны, па-рознаму важкія для кожнай няпольскай супольнасці, у выніку якіх нарастала расчараванне і мянялася стаўленне да савецкай дзяржавы і савецкага ладу.

## Прычыны нетрываласці саветызацыі

У цэлым можна канстатаваць, што вынікі саветызацыі аказаліся зусім не такія, якіх чакалі савецкія ўлады, асабліва ў дачыненні да польскага насельніцтва[50]. Нетрываласць саветызацыі, як можна меркаваць, была прадвызначана некалькімі фактарамі. Першы з іх датычыў часу, на працягу якога ўкараняліся змены, і тэмпаў іх ажыццяўлення. Пачатак нямецка-савецкай вайны (а дакладней, гітлераўская акупацыя саветызаваных земляў) перапыніў нядаўна запачаткаваны працэс. Паводле першапачатковай задумы, саветызацыя далучаных земляў мелася быць максімальна глыбокая, але ж пры гэтым павінна была ісці адносна павольна і

[50] Нетрываласць гэтых працэсаў была відавочная не толькі ў свядомасным плане (у плане ацэнкі новай рэчаіснасці), але і ў сферы аб'ектыўных з'яў. Асабліва гэта датычыць удзелу палякаў у рабоце савецкіх афіцыйных установаў, а таксама ў сацыяльным ахопе руху супраціўлення, калі разумець яго шырока.

паступова, а не так рэзка (прынамсі спачатку), як гэта мела месца, напрыклад, пры літуанізацыі Віленшчыны, пры спробах украінізацыі Заходняй Украіны рэспубліканскімі ўладамі (што добра відаць на прыкладзе Львоўскага ўніверсітэта) або ў выпадку палітыкі, якую праводзілі гітлераўскія ўлады. Бо савецкія ўлады, урэшце, не кіраваліся вартасцямі, тыповымі для нацыянальных рухаў, і былі далёкія ад характэрнага для апошніх радыкалізму пры ўтварэнні дзяржаўна-нацыянальных інстытутаў. Яны не мелі на мэце дасягнуць этнічна-культурнай аднастайнасці, характэрнай для нацыянальных дзяржаваў, а таму не збіраліся, напрыклад, цалкам выкасоўваць польскасць з грамадскага жыцця; замест гэтага ім неабходна было паступова дабіцца падпарадкавання, кантролю і ўніфікацыі, уласцівых таталітарнаму рэжыму камуністычнай дзяржавы. Пераўтварэнні, спрычыненыя саветызацыяй, мусілі быць больш павольныя (чым, напрыклад, літуанізацыя), таму што павінны былі азначаць змены ў грамадскай свядомасці мясцовага насельніцтва, а не толькі і выключна фармальныя перамены або трансфармацыю сацыяльнай структуры. У канчатковым выніку сацыякультурная сістэма на беларускіх і ўкраінскіх землях міжваеннай Польшчы мусіла набыць такі самы выгляд, як ва ўсіх астатніх частках Савецкага Саюза. Умовы, пры якіх адбывалася паглынанне новых тэрыторый, — недахоп кадраў і слабасць інфраструктуры, боязь выклікаць празмерныя хваляванні з боку насельніцтва (напрыклад, у выпадку калектывізацыі) — былі дадатковымі прычынамі таго, што ўкараненне новай сістэмы на месца старой рэалізоўвалася ў некаторых сферах грамадскага жыцця паступова (напрыклад, у адукацыі[51]). Улічваючы непрацягласць ажыццяўлення гэтага працэсу, перапыненага пачаткам нямецка-савецкай вайны, цяжка зрабіць канчатковыя высновы наконт

[51] Варта падкрэсліць, што з гэтай прычыны ніхто з вучняў і студэнтаў любога ўзросту не паспеў прайсці поўнага цыкла савецкага навучання і выхавання.

паспяховасці выбраных метадаў і ўспрымальнасці да іх мясцовага насельніцтва.

Другім фактарам, які прадвызначыў нетрываласць саветызацыі, была недастаткова добрая падрыхтоўка савецкіх кадраў і адносна высокі ўзровень іх „разбэрсанасці”. Гэта ў роўнай ступені датычыла як тых, хто прыбываў сюды з аддаленых раёнаў Савецкага Саюза („усходнікаў”), так і работнікаў, набіраных з мясцовага насельніцтва („вылучэнцаў”). Як канстатуе Уладыслаў Банусяк, «нягледзячы на тое, што партыйны апарат сістэматычна разбудоўваўся, а на акупаваныя землі накіроўваліся ўсё новыя і новыя работнікі, тут нават праз паўтара года пасля анексіі назіралася куды больш, чым у „старых” раёнах, хібаў у рабоце партыйных, дзяржаўных і следчых органаў. Магчыма, менавіта тэрытарыяльная спецыфіка, прыхільнасць людзей да іншага тыпу гаспадарання і кіравання, а таксама расчараванне жыхароў акупаваных земляў у „савецкай рэчаіснасці” прыводзілі да таго, што чарговыя групы актывістаў так і не маглі дасягнуць поспеху ў „саветызацыі” насельніцтва, а ў дадатак да гэтага паддаваліся дэмаралізацыі»[52].

Нетрываласць саветызацыі, асабліва ў дачыненні да палякаў, была звязана і з сутыкненнем культур, якому прысвечаны наш артыкул. Дыстанцыя паміж вартасцямі, нормамі і ўзорамі паводзінаў кожнай з культур (польскай і савецкай) была настолькі вялікая, што польскае насельніцтва, нават перад абліччам усеагульнага і татальнага тэрору, перад пагрозай ссылак, арыштаў, расстрэлаў і г. д., аказвала працэсу саветызацыі актыўны супраціў. Яно лічыла новыя парадкі незразумелымі, ірацыянальнымі і безнадзейнымі з пункту гледжання рэалізацыі хоць бы першарадных інтарэсаў уласнай культурнай групы. Падобнае стаўленне было і да савецкіх культурных

[52] Bonusiak W. Polityka ludnościowa i ekonomiczna ZSRR na okupowanych ziemiach polskich w latach 1939–1941 („Zachodnia Ukraina” i „Zachodnia Białoruś”). Rzeszów, 2006. S. 80.

вартасцяў — яны не мелі вялікай прывабнасці ў вачах большасці палякаў, часта былі занадта недаступныя для іх разумення; іх сустракалі з крытыкай, насмешкай, у найлепшым разе з абыякавасцю. У канчатковым выніку польскае насельніцтва слаба ўспрымала гэтыя вартасці і тым больш не прасякалася імі. Навязаная палякам сацыякультурная сістэма ўспрымалася імі як чужая іх ментальнасці і не прыдатная для задавальнення іх патрэб. Іх уражвалі ўласцівыя савецкай сістэме паказуха, успрыманне адукацыі, навукі, мастацтва і культуры ўсяго толькі як інструментаў для прасоўвання камуністычнай ідэалогіі, назойлівае выхаванне ў духу інтэрнацыяналізму і савецкага патрыятызму замест патрыятызму нацыянальнага і гонару за свае нацыянальныя традыцыі, дый наогул адмаўленне нацыянальных і рэлігійных каштоўнасцяў, — з чаго вынікала і непазбежнае прыніжэнне польскіх нацыянальных вартасцяў у рамках новай сістэмы. Асноўнымі бенефіцыярамі апошняй сталі іншыя нацыянальныя і этнічныя групы (найперш беларусы, украінцы, яўрэі, літоўцы і рускія). Польскае насельніцтва атрымлівала ў ёй статус нацыянальнай меншасці. Апрача таго, цяжка было зразумець такі парадак рэчаў, пры якім арганізацыйныя і чалавечыя высілкі, найчасцей адарваныя ад рэальных патрэбаў грамадства і меркаванняў яго карысці, былі разлічаны найперш на прапагандысцкі эфект, прычым сам змест прапаганды нярэдка карэнным чынам разыходзіўся з навакольнай рэчаіснасцю. Зусім мала ахвоты мелі палякі мірыцца і з такімі асаблівасцямі новай сістэмы, як разгалінаваная бюракратыя, адмова ад ранейшых звычаяў і традыцый, жорсткая цэнтралізацыя і падзенне прэстыжу ранейшай сацыяльнай эліты. Агулам кажучы, рэалізацыя асноватворнай мэты савецкай сістэмы, якою была „як мага хутчэйшая — найлепей у межах аднаго пакалення — поўная перамена менталітэту грамадзян і іх адаптацыя да шаблонаў камуністычнага ладу”[53], сутыкнулася з сур’ёзнай перашкодай у выглядзе

[53] Śleszyński W. Okupacja sowiecka… S. 491.

культурнай несумяшчальнасці польскага насельніцтва з насельніцтвам савецкім і з савецкай сацыякультурнай сістэмай.

У выніку кантакту з савецкай культурай адбыўся рост нацыянальнай і культурнай самасвядомасці яго ўдзельнікаў, а таксама рост усведамлення культурных адметнасцяў уласнай і чужых культурных груп. Чым большым было пачуццё культурнай адрознасці ад савецкага ладу, тым больш гэтая з'ява праяўлялася на ўзроўні грамадскай свядомасці. Гэтая выснова датычыць як мясцовага (польскага, беларускага, украінскага, яўрэйскага і г. д.), так і прышлага (савецкага) насельніцтва. У дачыненні да польскага насельніцтва атрыманыя ў выніку праведзенага аналізу аўтабіяграфічнага матэрыялу элементы культурнай адметнасці на фоне савецкай рэчаіснасці 1939–1941 г. можна супаставіць з пэўнымі рысамі савецкай сістэмы, выкарыстоўваючы для гэтага як сацыялагічную тэрміналогію, так і тэрміналогію, ужываную ў метадалагічных даследаваннях, прысвечаных пытанням савецкага і камуністычнага ладу. Такая спроба пададзена ў табліцы 1[54].

[54] Пералічаныя ніжэй рысы сацыяльна-культурных сістэм (культур), узятыя са штодзённых назіранняў за паводзінамі Саветаў і функцыянаваннем савецкага грамадскага ладу, зробленых палякамі ў 1939–1941 г., вядома, не вычэрпваюць усіх рысаў савецкасці і тым больш польскасці. Урэшце, дакладна акрэсліць спецыфіку ўсёй сацыяльна-культурнай сістэмы як цэлага, незалежна ад прасторавага і часавага кантэксту, не так і проста.

*Табліца 1*

**Савецкасць і польскасць.**
**Тыпы сацыяльна-культурных сістэм**

| Крытэрый | Савецкасць (у процілегласць польскасці) | Польскасць (у процілегласць савецкасці) |
|---|---|---|
| Агульныя прынцыпы арганізацыі грамадскага жыцця | **Калектывізм** | Індывідуалізм |
| Грамадска-палітычная сістэма | **Сталінізм** (асабліва пасля 1929 г. — дыктатарскі паліцэйскі рэжым, таталітарызм, заснаваны на ідэалогіі марксізму-ленінізму ў сталінскай інтэрпрэтацыі[55]) | Да 1926 г. дэмакратычная рэспубліка, шматпартыйная парламенцкая сістэма; з 1926 г. аўтарытарная прэзідэнцкая сістэма |
| Даміноўны тып палітычнай культуры | Традыцыя **аўтакратычнага** ладу (традыцыя самаўладства) | Большая насычанасць элементам ліберальнай дэмакратыі (традыцыя шляхецкай дэмакратыі) |
| Стаўленне да ўлады | Глыбока ўкаранёнае **паслушэнства** (канфармізм) і страх перад начальствам і апаратам улады | Больш нізкая ступень паслушэнства і страху |
| Ступень талерантнасці да абмежавання грамадзянскіх свабодаў і сферы прыватнага жыцця | Высокая (усюдыіснае пачуццё страху, трывогі, пастаяннай небяспекі ва ўмовах штодзённага існавання) | Нізкая |

[55] Chałubiński M. Komunizm i socjalizm // Encyklopedia socjologii. T. 2. Warszawa, 1999. S. 54–55.

| | | |
|---|---|---|
| Стаўленне да права | Права як інструментальная каштоўнасць[56]. **Улада партыі (як ідэал)** | Права як самакаштоўнасць. **Улада права (як ідэал)** |
| Пачуццё справядлівасці | Апеляванне да класавых прынцыпаў, заснаваных на паказной каштоўнасці роўнасці | Апеляванне да агульначалавечых прынцыпаў, укаранёных у традыцыі, і як вынік іх трываласць |
| Эканамічная сістэма | Механізмы цэнтралізаванага кіравання. **Этатызм.** **Нізкая эфектыўнасць,** безгаспадарлівасць і ірацыянальнасць эканамічных адносінаў | Рынычныя механізмы |
| Прыярытэтная форма ўласнасці | **Дзяржаўная (грамадская) уласнасць** | Прыватная ўласнасць |
| Узровень тэхнічнай кампетэнтнасці | Нізкі | Параўнальна вышэйшы |
| Культура працы | **Праца як прымус,** непазбежнае зло. Працоўныя адносіны падпарадкаваны дзяржаўнай ідэалогіі згодна з прынцыпам сацыялізму „Кожнаму паводле працы” (прапагандысцкі лозунг „Хто не працуе, той не есць”). Падзел працы з увагі на лаяльнасць і кумаўство | Праца як сродак дасягнення багацця і грамадскага прызнання. Большая рацыянальнасць працоўных адносінаў. Падзел працы з увагі на кампетэнтнасць і сацыяльнае паходжанне |

[56] На гэта звяртае ўвагу, напрыклад, Ян Томас Грос у прадмове да адной з першых публікацый, прысвечаных успамінам палякаў (у тым ліку і дзяцей) пра часы першай савецкай акупацыі. Гл.: „W czterdziestym nas Matko na Sybir zesłali…” Polska a Rosja 1939–1942 / Wybór i oprac. Grudzińska-Gross I., Gross J. T. Kraków, 2008. S. 75–81.

| | | |
|---|---|---|
| Мэты адукацыі і грамадзянскага выхавання | Падпарадкаваны камуністычным каштоўнасцям. Паслушэнства, прыстасаванства, канфармізм, уніфікацыя | Падпарадкаваны нацыянальным, рэлігійным і дзяржаўным каштоўнасцям. Большы акцэнт на развіццё індывідуальных здольнасцяў, талентаў, незалежнасці ў меркаваннях. |
| Стаўленне да ісціны | **Ісціна як інструментальная каштоўнасць** | Ісціна як самакаштоўнасць |
| Стаўленне да рэлігіі | Прапагандаваны **атэізм** (ад арэлігійнасці да антырэлігійнасці) | Высокі ўзровень рэлігійнасці (каталіцызм як падмурак нацыянальнай ідэнтычнасці) |
| Культурная творчасць | Кіраваная зверху. „Культура як сродак прапаганды"[57] | Стыхійная |
| Пачуццё прыгожага. Крыніцы эстэтыкі | Візантыйская пышнасць, багатая арнаментыка. Крыніцы эстэтыкі навязваюцца ідэалогіяй | Вызначаныя традыцыяй. Моцныя заходнееўрапейскія (лацінскія) уплывы |
| Крыніца маралі | Прынцыпы этыкі навязваюцца ідэалогіяй калектывізму (на першае месца выстаўляюцца інтарэсы партыі) | Прынцыпы этыкі ў большай ступені кантралююцца асобай, грунтуюцца на традыцыі і хрысціянскай маралі |
| Стаўленне да асобы | **Нізкая каштоўнасць жыцця** і здароўя асобы (адчуванне, што жыццё асобы мае ніжэйшы прыярытэт перад рэалізацыяй ідэалагічна акрэсленых калектыўных інтарэсаў; апераванне вялікімі лікамі; асоба ахвяруе сабой дзеля калектыву) | Жыццё кожнага чалавека мае значэнне (пачуццё годнасці кожнага чалавека) |

57 Pipes R. Kultura jako propaganda // Rosja bolszewików. Warszawa, 2005. S. 302–360.

| | | |
|---|---|---|
| Ступень прадказальнасці ўласнага жыццёвага шляху, сацыяльнага статусу (пачуццё кантролю над уласным лёсам) | Нізкая (няпэўнасць, страх, тэрор, пастаянная зменлівасць умоваў па волі начальніка, а ў канчатковым выніку — партыйных улад і аўтакрата Сталіна) | Адносна высокая |
| Узаемаадносіны паміж публічнай і прыватнай сферай | **Дуалізм публічнай і прыватнай сферы**[58] | Інтэграцыя публічнай і прыватнай сферы |
| Ступень міфалагізацыі і ідэалагізацыі публічнай прасторы | Высокая. Ідэалагізацыя амаль усіх элементаў сацыяльна-культурнай сістэмы (прапаганда). Сакралізацыя выказванняў Сталіна, рост значэння прапаганды і прысутнасці камуністычнай сімволікі ў публічнай прасторы | Нацыянальная і дзяржаўная сімволіка (у больш умеранай колькасці) |
| Ступень адпаведнасці паміж рэальнасцю і яе ідэалагічнай інтэрпрэтацыяй | Велізарная неадпаведнасць (прапаганда) | Большая ўзгодненасць, кагерэнтнасць |
| Узровень актыўнасці асобы ў публічнай сферы | **Нізкі.**<br>**Пасіўнасць асобы** ў публічнай сферы (другаснасць і падпарадкаванасць інтарэсам партыі, органаў улады, начальства).<br>Актывізацыя (часам паказушная) паводле распараджэння (або загаду) начальніка — асабліва ў сферы ўлады | Адносна высокі.<br>Грамадская актыўнасць (большая вера ў сілу ўласных намаганняў, дзеянняў і ў магчымасць зменаў у грамадскім жыцці) |

[58] Waszkiewicz J. Diagnoza: sowieckość // Magazyn Polski na Uchodźstwie. 2006. № 9.

| | | |
|---|---|---|
| Узровень грамадскага даверу | Нізкі, зведзены да найбліжэйшага сацыяльнага кола — сям'і. Страх, пагроза, тэрор як галоўныя інструменты кантролю над жыхарамі таталітарнай дзяржавы | Адносна высокі, што знаходзіць праяву ў трываласці прэстыжу эліт або выбарных публічных інстытутаў. Высокі ўзровень грамадскага капіталу |
| Сацыяльная стратыфікацыя | Стратыфікацыя, заснаваная на доступе да **ўлады** (наменклатура).<br>Нізкі ўзровень талерантнасці да праяваў вялікай сацыяльна-эканамічнай няроўнасці (**эгалітарызм**) — не датычыць сферы ўлады (тут высокі прэстыж „добрага” кіраўніка — міф пра добрага цара-бацюхну).<br>На практыцы досыць вялікае сацыяльнае расслаенне і як вынік **існаванне грамадскага ідэалу роўнасці.**<br>Падкрэсліванне класавых адрозненняў і маргіналізацыя адрозненняў нацыянальных (хоць пры гэтым савецкая палітыка ўспрымалася як яўна антыпольская), спалучанае са скіданнем з п'едэсталу ранейшых грамадскіх эліт | Стратыфікацыя, заснаваная на фактарах прэстыжу (шляхецка-інтэлігенцкае паходжанне і культурная „вышэйшасць”), узроўню даходаў і наяўнасці ўласнасці.<br>Адносна вялікая талерантнасць да праяваў сацыяльна-эканамічнай няроўнасці (**элітарызм**), што выяўляецца, у прыватнасці, у высокім сацыяльным прэстыжы эліт[59].<br>На практыцы меншае, чым на ўсходзе, сацыяльнае расслаенне і звязаная з гэтым **меншая пашыранасць грамадскага ідэалу роўнасці** |
| Даміноўны тып сацыяльных сувязяў (тып супольнасці) | **Супольнасць класавага, сацыяльна-эканамічнага характару** | Супольнасць нацыянальнага, моўна-этнічнага характару |

[59] Гл.: Radzik R. Kim są Białorusini. Toruń, 2002. S. 63–78.

| | | |
|---|---|---|
| Талераваны маштаб фамільярнасці | **Шырокі маштаб фамільярнасці. Інклюзіўная культура** (класавасць, што прадукуе слабейшыя сацыяльныя сувязі ў параўнанні з нацыянальнымі) | **Вузкі маштаб фамільярнасці. Эксклюзіўная культура** |
| Ступень згуртаванасці грамадства | **Атамізацыя грамадства** (распад сацыяльных сувязяў, якія тлумачыцца не празмерным індывідуалізмам, а **масавым адчужэннем** членаў грамадства, „самазамыканнем" у сваяцкіх і сяброўскіх групах) | Параўнальна высокая ступень кагерэнтнасці грамадства (згуртаванасць індывідуалізаваных адзінак, заснаваная на адносна высокіх у параўнанні з савецкімі рэаліямі ўзроўні грамадскага даверу і ступені засваення нацыянальных, рэлігійных і дзяржаўніцкіх каштоўнасцяў) |
| Ступень задавальнення грамадскіх патрэбаў | **Фасаднасць сацыяльных інстытутаў** | Большая адпаведнасць сацыяльных інстытутаў грамадскім патрэбам |

На заканчэнне варта заўважыць, што, хоць палітыка савецкіх уладаў улічвала і паспяхова выкарыстоўвала для ўласных мэтаў міжнацыянальныя канфлікты і макрасацыяльную спецыфіку занятых тэрыторый, няўвага да культурнай адметнасці мясцовага насельніцтва (асабліва польскага) вяла да неэфектыўнасці ў працэсе ўсталявання фармальных і нефармальных правілаў паводзінаў, навязвання патрэбных пазіцый і каштоўнасцяў. Вось чаму выбраныя меры аказаліся непрыдатнымі для здзяйснення задуманых планаў па культурнай перабудове падпарадкаваных супольнасцяў. У гэтым сэнсе савецкія ўлады і сам Сталін, як можна меркаваць, занадта паспяшаліся залічыць насельніцтва ўсходніх земляў міжваеннай Польшчы (у тым ліку і палякаў) да блізкіх сабе культурных груп[60].

*Пераклад Сяргея Петрыкевіча*

[60] Абгрунтаваннем такога тыпу мыслення пра Польшчу можа быць, напрыклад, папулярнае ў Расіі з XVIII ст. выслоўе: „Курица не птица, Польша не заграница”.

# The results of Sovietization of Belarusian and Ukrainian lands of the Second Republic in 1939–1941 viewed through the prism of a clash of cultures

**ArturWysocki**

The article presents the results of socio-historicalanalysis relating to the effects of the Sovietization of Belarusian and Ukrainian lands of the Second Republic in 1939–1941. The analysis is made in plane of empirical factual material and memoirs, and in the angle of theoretical concept of cultural face-off. In addition to the available works the adopt-ed perspective allows historical description, and above all, to a certain degree helps

explain the events of the first years of World War II, the participants of which were both the natives (Belarusian, Ukrainian, Polish, Jewish, Lithuanian population) and the outlanders (the representatives of different nationalities of the Soviet Union). The results of the analysis show why Sovietization failed to achieve the expected results. Among them were a short time for its actualization and drastic changes resulting from this process. Others include inexperience of Soviet cadres in this issue and pathological nature of power. Special emphasis is made on cultural differences of the collective actors who came in touch with each other.

*Translated by Anatol Minkovsky*

# Савецкая сістэма „закрытых гарадоў”

## Прапіска і недахоп жылля як паказчыкі сацыяльнай няроўнасці*

**Томас М. Бон**

ХХ з’езд КПСС, які адбыўся ў 1956 г., прыцягнуў увагу сусветнай грамадскасці сакрэтным дакладам Хрушчова „Пра культ асобы і яго наступствы”. Хрушчоў адчыніў дзверы культурна-палітычнай „адлізе”; заслугай яго стала тое, што ён увайшоў у гісторыю як папярэднік галоснасці і перабудовы. На самой справе „дэсталінізацыя па-хрушчоўску” была скіраваная не толькі на рэстаўрацыю ленінізму, але і на стабілізацыю тагачаснага рэжыму[1]. Важнай перадумовай для гэтага было ўтаймаванне савецкага „алювіяльнага грамадства” (*quicksand society*), як называў яго Машэ Левін[2]. У гэтым дачыненні Хрушчоў у сваім прачытаным ад імя

* Арыгінальная версія: Thomas M. Bohn. „Das sowjetische System der „geschlossenen Städte”. Meldewesen und Wohnungsmangel als Indikatoren sozialer Ungleichheit” // F. Lenger, K. Tenfelde (Hg.). Die europäische Stadt im 20. Jahrhundert. Wahrnehmung — Entwicklung — Erosion. Köln / Weimar / Wien, 2006 (Industrielle Welt 67). S. 373–385.

1 Параўн.: S. Merl. „Entstalinisierung, Reformen und Wettlauf der Systeme 1953–1964” // S. Plaggenborg (Hg.), Handbuch der Geschichte Russlands. Bd. 5: 1945–1991. Vom Ende des Zweiten Weltkriegs bis zum Zusammenbruch der Sowjetunion. I. Hlbbd., Stuttgart, 2002. S. 175–318; А. Пыжиков. Хрущёвская „оттепель”. Москва, 2002; W. Taubmann. Khrushchev, The Man and the Era. New York, 2003.

2 Параўн.: M. Lewin. The Making of the Soviet System. Essays in the Social History of Interwar Russia. London, 1985. P. 12–21; яго ж. The Gorbachev Phenomenon. A Historical Interpretation. Expanded Edition, Berkeley / Cal., Los Angeles / Cal., 1991. P. 13–42.

Цэнтральнага Камітэта КПСС справаздачным дакладзе адзначаў: „Пытанне паляпшэння жыллёвых умоў у такіх найбуйнейшых гарадах, як, напрыклад, Масква, Ленінград, Кіеў і іншыя, у высокай ступені звязана з прыростам насельніцтва за кошт тых, што прыязджаюць з іншых раёнаў краіны”. І пад апладысменты дэлегатаў партз’езда працягваў: „У сувязі з гэтым неабходна спыніць практыку прыцягвання рабочай сілы ў гарады з іншых мясцовасцяў, а патрэбу буйных гарадоў у рабочай сіле задавальняць за кошт насельніцтва саміх гарадоў”[3]. Тым самым Хрушчоў закрануў адну з галоўных праблем сацыялістычнага шляху ў сучаснасць: індустрыялізацыя і ўрбанізацыя павінны былі ажыццявіцца ў Савецкім Саюзе ўсяго за некалькі дзесяцігоддзяў. У далейшым выявіліся разнастайныя цяжкасці з забеспячэннем, пераадоленне якіх павінна было стаць паказчыкам дзеяздольнасці дзяржавы. Урэшце з прычыны „суровасці гарадоў” (Аляксандр Мічэрліх), якая мела прамое дачыненне да ўцёкаў з вёскі і недахопу жылля і назіралася ў Савецкім Саюзе асабліва пасля Другой сусветнай вайны, ставіліся пад сумненне стабільнасць сацыяльнага будаўніцтва і эфектыўнасць планавай эканомікі.

Пры такой перадумове даследаванні ў такіх сферах, як гісторыя горада і ўрбанізацыя, павінны — у дачыненні да Савецкага Саюза — канцэнтравацца на трох ключавых тэмах: узорны вобраз „сацыялістычнага горада”, сістэма „закрытых гарадоў” і катэгорыя „сацыяльнага расслаення, абумоўленага месцам жыхарства”. Ніжэй спачатку будуць удакладняцца паняцці, а потым у параўнальнай перспектыве будзе пастаўлена пытанне сацыяльных няроўнасцяў у сталіцы дзяржавы Маскве і сталіцы саюзнай рэспублікі Мінску. Масква дала мадэль, якая стала абавязковай для ўсіх савецкіх га-

[3] Отчетный доклад Центрального Комитета КПСС XX съезду партии. Доклад товарища Хрущёва Н. С., Первого секретаря ЦК КПСС, прочитанный 14 февраля 1956 г. // XX съезд Коммунистической партии Советского Союза. 14–25 февраля 1956 г. Стенографический отчёт. Т. I. Москва, 1956. С. 9–120, тут с. 79.

радоў. Адпаведнасці і адхіленні, якія назіраюцца ў беларускага аб’екта параўнання, пераканальна асвятляюць сацыяльную рэчаіснасць у Савецкім Саюзе ўвогуле. У прынцыпе ў прапанаваным матэрыяле — пра гэта хацелася б нагадаць спачатку — канцэптуальным праблемам аддаецца перавага перад эмпірыкай.

## 1. Узорны вобраз „сацыялістычнага горада”

Хоць у Савецкім Саюзе планаванне гарадоў і ўрбанізацыя знаходзіліся ў непасрэднай сувязі з індустрыялізацыяй, якую фарсіравана ажыццяўляла дзяржава, само слова „ўрбанізацыя” аж да Другой сусветнай вайны лічылася заганным, словам, якое можа ўжывацца толькі ў дачыненні да „капіталістычнага горада”[4]. Таму ў савецкіх даследаваннях існавалі дзве характарыстыкі „савецкага горада”. Па-першае, „антаганізм паміж горадам і вёскай”, які лічыўся паказальным для феадалізму і капіталізму, неабходна было пераадолець абмежаваннем росту гарадоў і механізацыяй вёскі. Па-другое, лозунг „Сацыяльная гігіена за кошт разрэджвання забудовы” імпліцыяваў адыход ад кардынальнага для старых еўрапейскіх гарадоў прынцыпу „Урбанная атмасфера за кошт шчыльнасці”[5].

Гістарычны характар выраз „сацыялістычны горад” набыў у дзвюх розных галінах: першы комплекс тычыцца дыскусіі паміж „урбаністамі” і „дэзурбаністамі” ў Савецкім Саюзе напрыканцы 20-х — пачатку 30-х г. Прадметам дыскусіі быў распад сям’і і ажыццяўленне калектыўных формаў жыцця праз стварэнне дамоў-камун і рабочых клубаў[6]. Другі комплекс мае непасрэд-

[4] Параўн.: Д. Зайцев. Урбанизация // БСЭ. Т. 56. Москва, 1936. С. 248–249.

[5] Параўн.: Основы советского градостроительства. Т. I–IV. Москва, 1966–1969.

[6] Параўн.: S. O. Chan-Magomedow. Pioniere der sowjetischen Architektur. Der Weg zur neuen sowjetischen Architektur in den zwanziger und zu Beginn der dreißiger Jahre. Dresden, 1983. Дапоўненае рускае выданне: С. О. Хан-Магомедов.

нае дачыненне да выпрацаванага пасля 1945 г. ва Усходняй Еўропе адзінага вобраза горада, устойлівы выгляд якога ствараецца наяўнасцю прадстаўнічага цэнтра і манатонных мікрараёнаў[7].

Нараджэнне горада савецкага кшталту ў аспекце гісторыі архітэктуры можна паказаць у выглядзе наступных крокаў. А) Зародкавую клетку ўтварае „сацыялістычны горад”. Яго заснаваная на канструктывізме канцэпцыя абапіраецца на дзелавітасць і рацыянальнасць. Яе мэта — стварэнне „новага чалавека”. Б) Як эмбрыён паўстае „горад сталінскага часу”, горад „сацыялістычнага рэалізму”. Натхнёны класіцызмам, ён выклікае сімпатыю сваёй сіметрычнасцю і манументальнасцю. Яго сімвалічны змест сведчыць пра падпарадкаванне індывіда вешчаваннем уладаў. В) Пад канец з’яўляецца своеасаблівая крэатура „камуністычнага горада”. Новы функцыяналізм дыктуе рух і рытм. Тэхнічны прагрэс служыць векселем шчаслівай будучыні. Пускаецца пыл у вочы наконт роўнасці і гамагенізацыі грамадства[8].

У выніку ў аспекце тыпалогіі горада для разгляданага феномена неабходна мецць на ўвазе наступныя характарыстыкі: а) арганізацыя зямельнага фонду без уліку адносін уласнасці; б) структурызацыя прасторы за кошт просталінейных магістральных вуліц і высотных дамоў, што вылучаюцца на агульным фоне; в) ства-

Архитектура советского авангарда. Кн. 1. Проблемы формообразования. Мастера и течения. Кн. 2. Социальные проблемы. Москва, 1996–2001.

[7] Параўн.: E. Goldzamt. Städtebau sozialistischer Länder. Soziale Probleme. Berlin, 1974; J. Friedrich (Hg.). Stadtentwicklungen in West- und Osteuropa. Berlin / New York, 1985; A. Åman. Architecture and Ideology in Eastern Europe during the Stalin Era. An Aspect of Cold War History. New York, Cambridge / Mass., London, 1992.

[8] Параўн.: J. H. Bater. The Soviet City. Ideal and Reality. London, 1980; A. Karger, F. Werner. „Die sozialistische Stadt” // Geographische Rundschau 34 (1982). S. 519–528; A. Tarchanow, S. Kawtaradse. Stalinistische Architektur. München, 1992; H. Bodenschatz, C. Post (Hg.). Städtebau im Schatten Stalins. Die internationale Suche nach der sozialistischen Stadt in der Sowjetunion 1929–1935. Berlin, 2003.

рэнне манументальных адміністрацыйных і ўрадавых кварталаў; г) закладка грамадскіх плошчаў цырыманіяльнага характару; д) адкрыццё паркаў культуры і адпачынку з сацыялістычнымі помнікамі; е) будаўніцтва жылых раёнаў з ідэнтычных аб’ектаў; ё) сегрэгацыя, якая вынікае са стасункаў „патранат — кліентура” ў сферы размеркавання жылля; ж) адсутнасць субурбанізацыі і агламерацыі[9].

З таго факта, што „сацыялістычны горад” адпаведна вызначэнню ўяўляе сабою антыпод „капіталістычнага горада”, можна зрабіць дзве высновы: 1. „Сацыялістычны горад” з’яўляецца тады, калі індустрыялізацыя праходзіць пад знакам адзяржаўлівання рэсурсаў і ўстаноў. Яе нельга лакалізаваць у фенатыпічным аспекце ў планавых гарадах НДР (Сталінштадт / Айзенхютэнштадт), Польшчы (Нова Гута) ці Венгрыі (Сталінвараш / Дунайвараш), а неабходна даследаваць у гістарычнай перспектыве як феномен мадэрнізацыі „наўздагон” ва Усходняй і Паўднёва-Усходняй Еўропе. 2. „Сацыялістычны горад” вызначаецца тым, што ён не дае грамадзянам пачуцця роднага дому і, як вынік, не дае магчымасці цывільнаму грамадству праявіць сябе. Яго крах ва Усходняй Еўропе тлумачыцца тым, што яму не хапала кваліфікаваных рабочых і ён не мог супрацьстаяць націску сялянскіх мас.

## 2. Сістэма „закрытых гарадоў”

Для рэгулявання ўнутранай міграцыі палітычнае кіраўніцтва ў Савецкім Саюзе мела два механізмы: прак-

[9] Параўн.: R. A. French, F. E. I. Hamilton (eds.). The Socialist City. Spatial Structure and Urban Policy. Chichester et al., 1979; R. A. French. Plans, Pragmatism and People. The Legacy of Soviet Planning for Today’s Cities. London, 1995; H. Häußermann. „Von der Stadt im Sozialismus zur Stadt im Kapitalismus” // ён жа, R. Neef (Hg.). Stadtentwicklung in Ostdeutschland. Soziale und räumliche Tendenzen. Opladen, 1996. S. 5–47, асабліва S. 6–20; J. Stadelbauer. Die Nachfolgestaaten der Sowjetunion. Großraum zwischen Dauer und Wandel. Darmstadt, 1996. S. 217.

тыкаванне сістэмы прапіскі (а) і дэцэнтралізацыя месцаў размяшчэння прамысловых аб'ектаў (б).

а) Увядзенне дзяржаўных пашпартоў у гарадах і прыгранічных мясцовасцях Савецкага Саюза ў канцы 1932 — пачатку 1933 г. мела непасрэднае дачыненне да пераследу кулакоў. Мэтай увядзення штэмпеля з прапіскай з 1933 г. была ўсёахопная рэгістрацыя насельніцтва і замацаванне яго за месцам жыхарства. На практыцы ж гэта абмяжоўвала ўцёкі з вёскі, але не спыняла іх. Як эфектыўны інструмент абмежавання росту гарадоў т. зв. пашпартны рэжым пачаў дзейнічаць толькі пасля смерці Сталіна. Дзякуючы Указу ад 31 кастрычніка 1953 г. дазвол на пражыванне ў буйных гарадах для навасёлаў ставіўся ў залежнасць ад пацверджання наяўнасці жылой плошчы, якая адпавядае санітарнай норме. Санітарная норма ў жылых дамах складала 9 м кв. на чалавека, у студэнцкіх інтэрнатах 6 м кв., а ў інтэрнатах для рабочых — 4,5 м кв. [10]. З улікам таго факта, што індывідуальная жылая плошча на чалавека, у якую не ўваходзілі кухня, ванны пакой і калідоры, складала ў 1950-я г. у сярэднім 4–5 м кв., а санітарная норма 9 м кв. на чалавека была забяспечана ў сярэднім па Саюзе толькі пад канец 1980-х г., права свабоднага перасялення ў заходнім разуменні слова рэалізавацца не магло[11].

б) Каб належным чынам адрэагаваць на прыцягальную сілу гарадоў-агламератаў, дзяржава пасля абвяшчэння ў 1929 г. фарсіраванай індустрыялізацыі паслядоўна забараніла пабудову новых і пашырэнне тагачасных заводаў і фабрык — у Маскве і Ленінградзе (Санкт-Пецярбургу) яшчэ ў 1932 г., у Кіеве, Харкаве, Растове-на-Доне, Горкім (Ніжнім Ноўгарадзе) і Свярдлоўску

[10] Параўн.: M. Matthews. The Passport Society. Controlling Movement in Russia and the USSR. Boulder / Col., San Francisco / Cal., Oxford, 1993; G. Kessler. „The Passport System and State Control over Population Flows in the Soviet Union, 1932–1940" // Cahiers du Monde russe 42 (2001). P. 477–504.

[11] Параўн.: Социальное развитие СССР. Статистический сборник. Москва, 1990. С. 210.

(Екацярынбургу) — у 1939 г. Патрэба ў новых захадах узнікла пасля Другой сусветнай вайны, калі насельніцтву СССР пры Хрушчове вярнулі ліквідаванае ў 1940 г. права звальняцца з працы і неабходна было прымаць меры для рацыянальнага размеркавання рабочай сілы. У выніку ў 1956 г. адпаведна рашэнню XX з'езда яшчэ на 64 гарады быў распаўсюджаны абавязак стрымліваць свае вытворчыя магчымасці ў межах[12]. З гэтага вынікаў пастаянны латэнтны канфлікт паміж цэнтрам і перыферыяй, з аднаго боку, і паміж гарадскімі саветамі і кіраўніцтвам прадпрыемстваў, з другога.

Спалучэнне абодвух фактараў — увядзення пашпартнага рэжыму і падтрымання індустрыяльнага *статуса кво* — абумоўлівала ў хрушчоўскую эру сістэму „закрытых гарадоў”. Яна ахоплівала фактычна ўсе гарады з насельніцтвам больш як 200 000 чалавек, і яе трэба адрозніваць ад сістэмы сакрэтных, ці замкнёных, гарадоў ваенна-прамысловага комплексу і атамных даследаванняў. Гэтая сістэма прывяла за таго, што калгаснікі былі асуджаныя на „другое прыгонніцтва”. Да 1974 г. ім не выдаваліся пашпарты. Яны не маглі мяняць месца працы без дазволу старшыні калгаса і таму *de jure* былі прывязаныя да свайго кавалка зямлі[13].

Тым не менш, у другой палове XX ст. Савецкі Саюз перажываў фазу бурнай урбанізацыі, якая суправаджалася моцным ростам насельніцтва. Шлюзамі ў

[12] Параўн.: B. Knabe. Bevölkerungsentwicklung und Binnenwanderung in der UdSSR 1967–1974. Dargestellt an ausgewählten Territorien und unter Berücksichtigung interregionaler Migrationen. Berlin, 1978; P. J. Grandstaff. Interregional Migration in the U. S. S. R. Economic Aspects, 1959–1970. Durham / N. C., 1980; C. Buckley. „The Myth of Managed Migration: Migration and Market in the Soviet Period” // Slavic Review. 54 (1995). P. 896–916.

[13] Параўн.: Б. С. Хорев. Проблемы городов. (Урбанизация и единая система расселения в СССР). Изд. 2-е, доп. и перераб. Москва, 1975. С. 78–87; V. Zaslavsky. „Closed Cities and the Organized Consensus” // яго ж. The Neo-Stalinist State. Class, Ethnicity and Consensus in Soviet Society. With a New Introduction. Armonk, N. Y., 1994. S. 130–164.

гарады былі, з аднаго боку, універсітэты і спецыяльныя вышэйшыя навучальныя ўстановы, а з другога — спецкантынгенты рабочай сілы, запатрабаваныя прадпрыемствамі, асабліва для будаўнічага сектара. Агульная колькасць насельніцтва павялічылася з 178,5 млн. у 1950 г. да 290,1 млн. у 1991 г. У той час, калі гарадское насельніцтва, для якога характэрна нізкая нараджальнасць, за гэты перыяд амаль патроілася (у 1950 г. — 69 млн., у 1991 — 191,7 млн.), колькасць сельскага насельніцтва з больш высокім узроўнем нараджальнасці, па сутнасці, заставалася канстантнай (у 1950 г. — 109,1 млн., у 1991 — 98,4 млн.). На гэтым фоне ўзнікае пытанне: ахапіла ўрбанізацыя ў Савецкім Саюзе грамадства ў цэлым ці, наадварот, насуперак усім механізмам кантролю *de facto* надышло хутчэй „асяляньванне” гарадоў[14]?

## 3. „Сацыяльнае расслаенне, абумоўленае месцам жыхарства”

Пастулат бяскласавага грамадства не дапускаў у Савецкім Саюзе публічнага дыскурсу пра сацыяльную няроўнасць. Паводле марксісцка-ленінскай тэрміналогіі грамадства складалася з двух саюзных „класаў” — рабочых і сялян — і роднаснай ім „праслойкі” — інтэлігенцыі. На самай справе пасля Другой сусветнай вайны ў насельніцтва выявіліся градуальныя адрозненні ў межах заснаванага на падзеле працы індустрыяльнага грамадства, якое дыферэнцыюецца ў залежнасці ад функцыі і выніковасці работы[15].

[14] Параўн.: C. D. Harris. Cities of the Soviet Union. Studies in their Function, Size, Density and Growth. Chicago / Ill., 1970; R. A. Lewis, R. H. Rowland. Population Redistribution in the USSR. It’s Impact on Society, 1897–1977. New York, 1979; G. M. Lappo, F. W. Hönsch. Urbanisierung Russlands. Berlin, Stuttgart, 2000; А. С. Сенявский. Урбанизация России в XX в. Роль в историческом процессе. Москва, 2003.

[15] Параўн.: T. M. Bohn. „Bevölkerung und Sozialstruktur” // S. Plaggenborg (Hg.). Handbuch der Geschichte Russlands. Bd. 5: 1945–1991. Vom Ende des Zweiten Weltkriegs bis zum

З гістарычнага пункту гледжання Савецкі Саюз у 1920-я і 1930-я г. прайшоў рэвалюцыйную фазу, звязаную з пераломамі і зменай стратыфікацыі. Пасля Другой сусветнай вайны грамадскае развіццё перайшло ў стацыянарную фазу, у якой кансалідуюцца наноў сфармаваныя іерархіі. Спачатку адзяржаўліванне прамысловасці і калектывізацыя сельскай гаспадаркі прыводзілі да нівелявання грамадства. Потым на працягу фарсіраванай індустрыялізацыі і бурнай урбанізацыі сяляне, якія кінуліся ў гарады, станавіліся пралетарыямі, а спецыялісты займалі кіраўнічыя пасады, падымаючыся па іерархічнай лесвіцы. Нарэшце ў гады Вялікага тэрору адбылася змена партыйнай эліты. Пасля Другой сусветнай вайны сацыяльныя змены прадоўжыліся ў сувязі з працягам міграцыі, з аднаго боку, і пачаткам ператварэння калгасаў у саўгасы, з другога, аж да 1960-х г. Праўда, большая частка насельніцтва рэагавала на ўзмацненне сацыяльнай замкнутасці партыйнага апарату ў хрушчоўскую эру „адыходам у прыватную сферу”. У параўнанні з галечай сталінскага часу людзі ўпершыню выйгралі ад „спажывецкай рэвалюцыі”. Кансэнсус, дасягнуты паміж партыяй і насельніцтвам, грунтаваўся на забеспячэнні сталых рабочых месцаў і на гарантыі стабільных цэн. У індывідуальным выпадку ўзровень жыцця вымяраўся спажываннем прадуктаў харчавання і забяспечанасці жыллём[16].

Zusammenbruch der Sowjetunion. II. Hlbbd. Stuttgart, 2003. S. 595–657, тут S. 631–634.

16 Параўн.: B. Meissner. Sowjetgesellschaft im Wandel. Russlands Weg zur Industriegesellschaft. Stuttgart et al., 1966; яго ж. Sowjetgesellschaft am Scheideweg. Beiträge zur Sozialstruktur der Sowjetunion. Köln, 1985; M. E. Ruban et al. Wandel der Arbeits- und Lebensbedingungen in der Sowjetunion 1955–1980. Planziele und Ergebnisse im Spiegelbild sozialer Indikatoren. Frankfurt am Main, New York, 1983; M. Teckenberg. Gegenwartsgesellschaften: UdSSR. Stuttgart, 1983; D. Lane. Soviet Economy and Society. Oxford, 1985; яго ж. Soviet Union under Perestroika. Boston / Mass. et al., 1990; K. v. Beyme. Reformpolitik und sozialer Wandel in der Sowjetunion (1970–1988). Baden-Baden, 1988; V. Shlapentokh. Public and Private

У далейшым савецкія сацыёлагі ўзбагацілі сталінскую схему „два плюс адзін" у тэрміналагічным сэнсе двума новымі падыходамі. Па-першае, яны адрознівалі сярод інтэлігенцыі „спецыялістаў" і „службоўцаў". Па-другое, яны ўжывалі паняцце „сацыяльная структура". Спасылаючыся на ленінскае азначэнне класаў, яны карысталіся катэгорыямі „дзяржаўная ўласнасць ці калектыўная ўласнасць", „горад ці вёска" і „разумовая праца ці фізічная праца". У аснове іх аналізу сацыяльнай структуры знаходзілася „якасць працы", і яны праводзілі розніцу паміж класамі як галоўнымі элементамі і слаямі як субэлементамі. У якасці крытэрыяў прыцягваліся прафесія, адукацыйны ўзровень і даход. Але гнасеалагічны інтарэс савецкай сацыялогіі заўсёды скіроўваўся на „збліжэнне" ўсіх сацыяльных груп[17].

Тым не менш, пытанне пра кіраўнікоў і падначаленых, бедных і багатых ставілася толькі крытыкамі сістэмы. Варта нагадаць пра распачатую ў канцы 50-х г. Мілаванам Джыласам і працягнутую ў 70-я і 80-я г. Дзьердзем Конрадам і Івонам Селены, а таксама Міхаілам Васленскім дыскусію пра „новы клас"[18]. У заходніх да-

Life of the Soviet People. Changing Values in Post-Stalin-Russia. New York, 1989; L. J. Cook. The Soviet Social Contact and Why It Failed. Welfare Policy and Worker Politics from Brezhnev to Yeltsin. Cambridge / Mass., London, 1993; I. A. Boutenko, K. E. Razlogov (eds.). Recent Social Trends in Russia, 1960–1995. London, Buffalo / N. Y., 1997; S. A. Resnick, R. D. Wolff. Class Theory and History. Capitalism and Communism in the USSR. New York, London, 2002.

17 Параўн.: R. Ahlberg (Hg.). Soziologie in der Sowjetunion. Ausgewählte sowjetische Abhandlungen zu Problemen der sozialistischen Gesellschaft. Freiburg i. Br., 1969; M. Yanowitch. The Social Structure of the USSR. Recent Soviet Studies. Armonk / N. Y., 1986; яго ж. Controversies in Soviet Social Thought. Democratization, Social Justice, and the Erosion of Official Ideology. Armonk / N. Y. etc., 1991.

18 Параўн.: M. Djilas. Die neue Klasse. Eine Analyse des kommunistischen Systems. München, 1958; G. Konrád, I. Szelényi. Die Intelligenz auf dem Weg zur Klassenmacht. Frankfurt am Main, 1978; I. Szelényi. „The Prospects and Limits of the East European New Class Project: An Auto-critical

следаваннях у гэтай сувязі адзначалі, што савецкі рэжым нарадзіў не толькі сацыяльную няроўнасць, але і арыентаванае на статус грамадства. У адпаведнасці з гэтым улічвалася сацыяльная стратыфікацыя па восях „доступ да прывілеяў” і „размеркаванне рэсурсаў”. Недахоп гэтага падыходу — ён занадта факусуецца на эліце, у той час як сацыяльнаму становішчу і асяродку аддаецца занадта мала ўвагі[19].

Больш перспектыўную альтэрнатыву стварае распрацаваная эмігрантам Віктарам Заслаўскім у эсэ 1981 г., але яшчэ не выкарыстаная савецкімі даследчыкамі мадэль „тэрытарыяльнага расслаення”. Адносна даходу, асартыменту тавараў, адукацыйных устаноў, сістэмы аховы здароўя і магчымасцяў арганізацыі вольнага часу ў Савецкім Саюзе існавала адпаведнае зніжэнне па лініі „сталіцы і іншыя буйныя гарады — гарады сярэдняй велічыні” і „невялікія гарады — вёска”[20]. Сегрэгацыя ўнутры адпаведнага населенага пункта вынікала непасрэдна з недахопу жылля. У якасці вызначальных фактараў можна ўлічваць якасць і месцазнаходжанне жылля (напр., цэнтр ці ўскраіна і г. д.) і яго характар (напр., інтэрнат, камунальная ці асобная кватэра і г. д.)[21].

Дыферэнцыяцыя жыллёвых умоў адлюстроўваецца ў будаўнічых якасцях дамоў. Інфармацыю даюць неапублікаваныя вынікі Усесаюзнай інвентарызацыі жыллёвага фонду, што праводзілася ў 1960 г., а таксама часткова апублікаваныя вынікі перапісу насельніцтва 1989 г. Сапраўды, матэрыял сцен — гэта просты, але

Reflection on ‘The Intellectuals on the Road to Class Power’” // Politics & Society. 15 (1986/87). P. 103–144; M. Voslensky. Nomenklatura. Die herrschende Klasse der Sowjetunion in Geschichte und Gegenwart, 3., aktualisierte und erweiterte Ausgabe. München, 1987.

19 Параўн.: M. Matthews. Privilege in the Soviet Union. A Study of Elite Life-Styles under Communism. London etc., 1978; D. Lane (ed.). Elites and Political Power in the USSR. Aldershot, 1988.

20 Zaslawsky. „Closed Cities”. P. 139–141.

21 Параўн.: G. Smith. „Privilege and Place in Soviet Society” // G. Derek, R. Walford (eds.). Horizons in Human Geography. Houndmills, London, 1989. P. 320–340.

эфектыўны паказчык адрознення. Ён характарызуе не толькі прыватны драўляны дом ці дзяржаўны шматкватэрны, але і градацыю ад прымітыўнага падворка да камфартабельнай кватэры ў навабудоўлі. Да таго ж гэта і паказальнік сегрэгацыі гарадскога грамадства па прасторы. Простае правіла: „дрэва" азначае збудаваны на гарадскіх пустках сялянскі дом, „цэгла" — сталінскі жылы палац у цэнтры або прыгожы рабочы пасёлак на ўскраіне, „бетонны блок" — занядбаны пяціпавярховы будынак з пляскатым дахам („хрушчоба") у мікрараёне хрушчоўскай эры, а „панэльная пабудова" — высотны дом у змрочным мікрараёне брэжнеўскага часу[22].

## 4. Развіццё Масквы і Мінска ў параўнанні

Параўнанне паміж Масквой і Мінскам можна правесці тут толькі ў выглядзе грубага эскіза і на прыкладзе некалькіх выбраных паказчыкаў. У практычных адносінах цяжкасць заключаецца ў тым, што з прычыны савецкай маніі засакрэчвання апублікаваную інфармацыю пра прыток насельніцтва ў гарады і пра сітуацыю ў жыллёвым сектары можна знайсці ў большай ці меншай ступені толькі з часу перабудовы. У прынцыпе нягледзячы на ўсе адрозненні можна, без сумнення, канстатаваць, што развіццё абодвух гарадоў адбывалася ў выглядзе зрушанага па фазе працэсу. Іншымі словамі: тыя з'явы, якія характарызавалі Маскву 30-х г., паўтарыліся ў Мінску 60-х.

Масква ўжо напрыканцы царскай імперыі была горадам з мільённым насельніцтвам. Асаблівасць заключа-

[22] Параўн.: A. Martiny. Bauen und Wohnen in der Sowjetunion nach dem Zweiten Weltkrieg. Bauarbeiterschaft, Architektur und Wohnverhältnisse im sozialen Wandel. Berlin, 1983; G. D. Andrusz. Housing and Urban Development in the USSR. London, Basingstoke, 1984; W. C. Brumfield, B. A. Ruble (eds.). Russian Housing in the Modern Age. Design and Social History. Cambridge / Mass., 1993; Н. Б. Левина, А. Н. Чистиков. Обыватель и реформы. Картины повседневной жизни горожан в годы нэпа и хрущевского десятилетия. С.-Петербург, 2003.

лася ў тым, што яна мела характар цэнтра агламерацыі. Аб'екты прамыслова-рамесніцкай эканомікі і фабрыкі ствараліся не толькі ў цэнтральнай частцы горада, але і, нават найперш, у прамысловым поясе. Пры савецкай уладзе Масква адабрала першынство па эканамічным патэнцыяле і колькасці насельніцтва ў ранейшай сталіцы, Санкт-Пецярбурга. У 30-я г. горад вызначаўся не толькі як месца знаходжання савецкай эліты (наменклатуры), але і як „сялянскі мегаполіс”. З часу Другой сусветнай вайны і да распаду Савецкага Саюза насельніцтва Масквы павялічылася з 4 да 9 млн. Сталічны эфект магніта грунтаваўся пры гэтым не толькі на прамысловасці, але і на функцыі Масквы як цэнтра навукі. Калі колькасць занятых у прамысловасці з 1947 да 1987 г. паменшылася з 43,7 % да 24,6 %, то ў навуковай сферы яна павялічылася за той самы час з 4,8 % да 19,5 %[23].

Мінск знаходзіўся ў занядбаным як царскай імперыяй, так і савецкай уладай — да Другой сусветнай вайны — прыгранічным рэгіёне. У канцы XIX — пачатку XX ст. больш за палову насельніцтва — агульным лікам 100 000 чалавек — складалі яўрэі. На *tabula rasa*, што засталася ад Другой сусветнай вайны, быў створаны „сацыялістычны” горад, у якім з'явіліся ключавыя прадпрыемствы савецкай прамысловасці — такія, як трактарны і аўтамабільны заводы. У далейшым колькасць насельніцтва павялічылася з 274 000 у 1950 г. да 1,6 млн у 1990-м. Дасягнуты ў 60-я гадавы тэмп росту 5,5% не здолеў дасягнуць ні адзін з іншых параўнальных савецкіх буйных гарадоў. Гэты паказчык амаль на 70% быў вынікам уцёкаў з вёскі[24].

[23] Параўн.: W. J. Chase. Workers, Society, and the Soviet State. Labor and Life in Moscow, 1918–1929. Urbana / Ill, Chicago / Ill., 1990; D. L. Hoffmann. Peasant Metropolis. Social Identities in Moscow, 1929–1941. Ithaca / N. Y., London, 1994; T. Colton. Moscow. Governing the Socialist Metropolis. Cambridge / Mass., London, 1995; M. Rüthers, C. Scheide (Hg.). Moskau. Menschen, Mythen, Orte. Köln, Weimar, Wien, 2003.

[24] Параўн.: S. Schybeka. „Das ‚alte' Minsk — vom zaristischen Gouvernementzentrum zur sowjetischen Hauptstadt” //, D. Beyrau, R. Lindner (Hg.). Handbuch der Geschichte

У той час як у Маскве пасля Другой сусветнай вайны індывідуальнае жыллёвае будаўніцтва не выконвала амаль ніякай ролі, у Мінску яно да 1960 г. павінна было кампенсаваць недахопы дзяржаўнага жыллёвага будаўніцтва. Калі ў Мінску ў канцы 40-х г. прыватныя дамы складалі больш за чвэрць гарадской жыллёвай гаспадаркі, то ў Маскве толькі 2,5%. Улічваючы той факт, што пабудовы гэтыя ўяўлялі сабою зусім не асабнякі ў заходнім сэнсе слова, а прымітыўныя вясковыя хаты, можна сцвярджаць, што ў беларускую сталіцу былі перасаджаны звычайныя вёскі[25].

Пры такой перадумове не здзіўляе, што камуністычны „ўзорны горад" Масква і сацыялістычны „ўзорны горад" Мінск у аспекце галоўнай задачы савецкага планавання гарадоў моцна адрозніваліся паміж сабою — адносна камфорту і інфраструктуры. Калі ў Мінску на пачатак 60-х г. вадаправод мелі толькі 38,4% кватэр, а цэнтральнае ацяпленне 23,5%, то ў Маскве адпаведныя паказчыкі складалі ўжо 96% і 71%[26].

З прычыны проста неабмежаванай патрэбы прадпрыемстваў у рабочай сіле гарадскія саветы былі вымушаны скарачаць абмежаванне росту насельніцтва і дапускаць паслабленне рэжыму прапіскі. Асабліва яскравы выпадак уяўляюць сабою так званыя *лімітчыкі*, работнікі па кантынгенту. Гэта рабочыя з іншых мясцовасцяў, якія запатрабаваны прадпрыемствамі ў лімітаванай колькасці; яны атрымліваюць у горадзе часовую прапіску. *Лімітчыкі* стваралі субпралетарыят, які цалкам залежаў ад прыхільнага стаўлення кіраўніка адпаведнага прадпрыемства і мусіў згаджацца

Weißrusslands. Göttingen, 2001. S. 308–318; T. M. Bohn. „Das ‚neue' Minsk — Aufbau einer sozialistischen Stadt nach dem Zweiten Weltkrieg", тамсама, S. 319–333; яго ж. Minsk — Musterstadt des Sozialismus. Stadtplanung und Urbanisierung in der Sowjetunion nach 1945. Köln / Weimar / Wien, 2008 (Industrielle Welt 74).

25 Colton. Governing the Socialist Metropolis. P. 308, 487; Bohn. Minsk — Musterstadt des Sozialismus. S. 219, 223.

26 Colton. Governing the Socialist Metropolis. S. 488; Bohn. Minsk — Musterstadt des Sozialismus. S. 346–347.

на катастрафічныя жыллёвыя ўмовы. Гэтая з’ява мела масавы характар. У 1968 г. у Мінск прыехала 20 000 рабочых па кантынгенту. Адносна Масквы на час з 1971 да 1986 г. называецца лічба 700 000[27]. У такіх умовах у абодвух гарадах кварталы, забудаваныя драўлянымі дамамі, ператвараліся, нягледзячы на нібыта татальны кантроль з боку савецкай улады, у месцы пражывання на мяжы легальнасці. Фактычна права здаваць жыллё ў субарэнду прыводзіла да росквіту ценявой эканомікі ў сферы афіцыйна не існуючага рынку жылля.

## 5. Рэзюмэ

Спецыфіка сацыялістычнага шляху ў сучаснасць заключалася ў тым, што фарсіраваная індустрыялізацыя абумовіла невядомую ў царскай Расіі канцэнтрацыю эканамічнага патэнцыялу ў гарадах, а часам, калі ўзнікалі новыя прамысловыя цэнтры, ператварэнне пасёлкаў у прыдаткі прадпрыемстваў. Не выпадкова выраз „вялікая будаўнічая пляцоўка” ўжываўся ў прапагандзе як метафара пабудовы камунізму. Гэткім чынам на практыцы па-рознаму ігнаравалася ідэалагічнае патрабаванне супрацьдзейнічаць дамінаванню гарадоў і сціраць межы паміж горадам і вёскай. Нівеляванне зусім іншага кшталту забяспечвалася прынамсі савецкім „алювіяльным грамадствам”. У выніку дзвюх хваляў міграцыі — у 30-я і 60-я г. — гарады „асяляніліся”. З прычыны жыллёвага крызісу, які абвастрыўся ў многіх гарадах у 40-я і 50-я г. у выніку Другой сусветнай вайны, у якасці пераважных формаў гарадскога жыцця выпрацоўвалася культура баракаў і камуналак. І толькі масавае жыллёвае будаўніцтва, пачатае пры Хрушчове, дало шырокім слаям насельніцтва магчымасць забяспечыць прыватную сферу. Паколькі цывілізацыйны перапад паміж горадам і вёскай да 60-х г. значна ўзмацніўся, у выніку сыходу маладога пакалення сельская мясцовасць

[27] Colton. Governing the Socialist Metropolis. P. 464–465; Bohn. Minsk — Musterstadt des Sozialismus. S. 202–205.

апынулася пад пагрозай дэмаграфічнага „вымывання". А з іншага боку назіралася ўшчыльненне насельніцтва вялікіх гарадоў. Нягледзячы на сістэму прапіскі, націск на гарады, выкліканы ўцёкамі з вёскі, быў такі моцны, што лічбы межаў росту, закладзеныя ў генеральных планах, дасягаліся часта ўжо за палову прадугледжанага часу. Таму цэнтральная сацыяльная праблема Савецкага Саюза — жыллёвая — да канца заставалася нявырашанай. Насуперак абяцанням праграмы партыі 1961 г. менавіта маладыя сем'і забяспечваліся жыллём недастаткова. Паколькі перавага адназначна аддавалася індустрыяльнаму развіццю, а рост гарадоў выходзіў з-пад кантролю, савецкія гарады вылучаліся яшчэ і недастатковым развіццём сферы паслуг. Хоць доля гарадскога насельніцтва Савецкага Саюза на час яго распаду складала 60%, на статус урбанізаваных грамадстваў маглі прэтэндаваць хіба што прыбалтыйскія рэспублікі. Аднак сістэма „закрытых гарадоў" здолела не дапусціць утварэння трушчоб і тым самым быў гарантаваны пэўны ўзровень жыцця, які з хрушчоўскай эры можна было параўноўваць з узроўнем жыцця заходняга свету.

*Пераклад Галіны Скакун*

# Das sowjetische System der „geschlossenen Städte”

## Meldewesen und Wohnungsmangel als Indikatoren sozialer Ungleichheit

**Thomas M. Bohn**

Ein Spezifikum des stalinistischen Weges in die Moderne bestand darin, dass die forcierte Industrialisierung eine im Zarenreich nicht gekannte Konzentration des Wirtschaftspotentials auf die Städte nach sich zog. Nicht von ungefähr fungierte die „Großbaustelle” in der Propaganda als Metapher für die Errichtung des Kommunismus. Auf diese Weise wurde die ideologische Forderung, der Dominanz der Städte entgegenzuwirken und den Gegensatz zwischen Stadt und Land aufzulösen, in der Praxis auf mannigfache Weise unterlaufen. Für eine Nivellierung ganz anderer Art sorgte allenfalls die sowjetische „Treibsandgesellschaft (Moshe Lewin). Im Zuge zweier Migrationswellen, einmal in den dreißiger Jahren und einmal in den sechziger Jahren, kam es zu einer „Verbäuerlichung” der Städte. Aufgrund der durch die Folgen des Zweiten Weltkrieges in vielen Städten verschärften Wohnungsnot bildeten sich in den vierziger und in den fünfziger Jahren die Barackenkultur und die „Wohngemeinschaft” (kommunalka) als vorrangige urbane Lebensformen heraus. Erst der unter Chruschtschow eingeleitete Massenwohnungsbau ermöglichte weiten Bevölkerungsteilen einen Rückzug ins Private. Nachdem sich das zivilisatorische Gefälle zwischen Stadt und Dorf bis in die sechziger Jahren zunehmend verschärft hatte, wurde das flache Land durch den Exodus der jungen Generation von einer demographischen „Auswaschung” (vymyvanie) bedroht. In der Folge fand eine Verdichtung der Bevölkerung in Großstädten statt. Trotz des Meldesystems war der durch die Landflucht ausgelöste Druck auf die Städte so stark, dass die in den Generalplänen festgelegten Ziffern für die Grenzen des Wachstums häufig in der Hälfte der vorgesehenen Zeit erreicht wurden. Daher blieb die zentrale soziale Frage der Sowjetunion, das Wohnungsproblem, bis zum Schluss

ungelöst. Entgegen den Versprechungen des Parteiprogramms von 1961 blieben gerade junge Familien unterversorgt. Angesichts der eindeutigen Präferierung der industriellen Entwicklung und aufgrund des außer Kontrolle geratenen Stadtwachstums zeichneten sich sowjetische Städte zudem durch die Unterbelichtung des Dienstleistungssektors aus. Obgleich die Sowjetunion zum Zeitpunkt ihres Zusammenbruchs über einen Anteil von 66% städtischer Bevölkerung verfügte, konnten allenfalls die baltischen Republiken, den Status urbanisierter Gesellschaften für sich beanspruchen. Immerhin vermochte das System der „geschlossenen Städte", d.h. die reglementierte Vergabe von Aufenthaltsberechtigungen (propiska), eine Slumbildung wie in den Entwicklungsländern zu verhindern und dadurch einen Lebensstandard zu garantieren, der sich seit der Chruschtschow-Ära an demjenigen der westlichen Welt messen lassen konnte.

# Кітайскія красоўкі для працоўных Мінскага завода халадзільнікаў

## Савецкая Беларусь вачыма лектара САПН у сакавіку — красавіку 1989 г.

### Аляксандр Фрыдман

З 28 сакавіка да 3 красавіка 1989 г. у Мінскай вобласці з працоўным візітам знаходзіўся лектар Сацыялістычнай адзінай партыі Нямеччыны (САПН) Э. К. У госця з Нямецкай Дэмакратычнай Рэспублікі (НДР) адбыліся сустрэчы з тагачасным абласным партыйным кіраўніцтвам (другі сакратар абкама КПБ Анатоль Бычак, сакратар абкама па ідэалогіі Уладзімір Атрошчанка), ён наведаў Беларускі політэхнічны інстытут і іншыя навучальныя ўстановы, пазнаёміўся з працай мінскіх маторнага і аўтамабільнага заводаў, завода халадзільнікаў, оптыка-механічнага завода „Зеніт" у Вілейцы і іншых буйных прадпрыемстваў. У сваіх выступленнях перад навучэнцамі і працоўнымі „нямецкі таварыш" распавёў пра становішча ў НДР[1]. Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка, у прыватнасці Мінск і Мінская вобласць, пакінулі ў К. досыць станоўчае ўражанне. Пасля вяртання на радзіму лектар 10 красавіка 1989 г. склаў падрабязную справаздачу, копію якой атрымала таксама і адчыненае ў 1972 г. генеральнае консульства НДР у Мінску. У сваёй справаздачы К. адзначыў, што размовы, сустрэчы і выступы прайшлі ў „добрай, дзелавой і сяброўскай атмасферы"[2].

[1] BArch [Bundesarchiv Lichterfelde Ost; Федэральны архіў ФРН, Ліхтэрфельдэ-Ост] DY 30/12403, арк. 152–162, тут: арк. 152, 159.

[2] Тамсама, арк. 152.

Справаздача К. — каштоўная крыніца па гісторыі Беларусі ў перыяд гарбачоўскай перабудовы. Вялікую цікавасць выклікае знешні погляд аўтара, які з пазіцыі „замежнага сябра" падрабязна спыніўся на развіцці беларускай прамысловасці, сцісла акрэсліў стан сельскай гаспадаркі, а таксама паведаміў пра палітычнае жыццё рэспублікі, настроі мясцовай партыйнай эліты і насельніцтва. Пры аналізе гэтай крыніцы абавязкова неабходна ўлічваць тагачаснае становішча ў НДР, якое, безумоўна, паўплывала на характар справаздачы і на высновы аўтара адносна сацыялістычнай будучыні БССР. У гэтай сувязі трэба адзначыць, што ў красавіку 1989 г. на чале Нямецкай Дэмакратычнай Рэспублікі па-ранейшаму стаяў сумнавядомы Эрых Хонэкер (Erich Honecker), САПН выконвала цэнтральную ролю ў грамадскім, палітычным і эканамічным жыцці краіны, а дзяржаўнае кіраўніцтва вельмі скептычна ставілася да пераменаў у СССР. У пачатку 1989 г. узрасла колькасць грамадзян НДР, якія хацелі пакінуць краіну, а ў траўні Нямецкую Дэмакратычную Рэспубліку ахапіла хваля пратэстаў супраць камуністычай дыктатуры, што значна ўзмацнілася ў верасні і кастрычніку і скончылася адстаўкай Хонэкера. Прадбачыць такое хуткае развіццё падзей вясной 1989 г. было фактычна немагчыма.

## „Паспяховае развіццё" прамысловасці і сельскай гаспадаркі

У сваёй справаздачы К. падкрэсліў поспехі мясцовай прамысловасці і сельскай гаспадаркі, звязаў іх з ініцыяванымі савецкім урадам эканамічнымі рэформамі, а праблемы ўзгадаў толькі мімаходзь ці ўвогуле абышоў увагай. Так, аўтар, у прыватнасці, спыніўся на прыросце сельскагаспадарчай вытворчасці ў БССР, які пераўзышоў агульнасавецкі ўзровень і быў, паводле меркавання другога сакратара абкама Бычака, увогуле галоўным дасягненнем Савецкай Беларусі за апошнія тры гады.

„Беларускім таварышам" заставалася яшчэ, аднак, папрацаваць над пашырэннем асартыменту сельскагас-

падарчай прадукцыі. Такім чынам К. прызнаў, што ў сельскай гаспадарцы Беларусі вырашаны далёка не ўсе надзённыя пытанні[3].

Лектар САПН прытрымліваўся меркавання, што ў БССР і ў далейшым захаваюцца буйныя сацыялістычныя (дзяржаўныя) прадпрыемствы, якія ўжо падрыхтавалі дакладныя канцэпцыі развіцця прадукцыйнасці і павелічэння збыту сваёй прадукцыі, у тым ліку на экспарт. Асабліва ўразілі К. планы Мінскага завода халадзільнікаў і вілейскага завода „Зеніт", якія меркавалі да 1995 г. павялічыць выпуск сваёй прадукцыі на 50 і прыкладна на 70% адпаведна. Нямецкі госць падкрэсліў, што беларускія прадпрыемствы вельмі хочуць пастаўляць свае вырабы за мяжу і такім чынам зарабляць валюту. Справа была яшчэ і ў тым, што дзяржава дазволіла прадпрыемствам самастойна распараджацца зробленымі сродкамі і, напрыклад, выкарыстоўваць чвэрць атрыманай валютнай выручкі на набыццё тавараў народнага спажывання за межамі СССР. Менавіта такой магчымасцю і скарыстаўся сталічны завод халадзільнікаў. Выконваючы пажаданні працоўнага калектыву, ён набыў у Кітаі красоўкі, а ў Ганконгу побытавыя рэчы, якія працоўныя потым змаглі купіць за савецкія рублі. К. адзначыў, што гэты эксперымент павялічыў зацікаўленасць працоўных у стварэнні якаснай і канкурэнтаздольнай прадукцыі[4]. Завод халадзільнікаў бачыўся яму ўвогуле бадай найсучаснейшым беларускім прадпрыемствам, якое актыўна і паспяхова ўжывала новыя формы гаспадарання[5].

Э. К. высока ацаніў сацыяльную інфраструктуру беларускіх прадпрыемстваў, што мелі ўласныя паліклінікі, дзіцячыя сады, дамы адпачынку, прафесійна-тэхнічныя вучылішчы і г. д., а акрамя таго, цесна супрацоўнічалі з калгасамі і саўгасамі, дапамагаючы апошнім у

[3] Тамсама.
[4] Тамсама, арк. 153.
[5] Тамсама, арк. 155.

мадэрнізацыі сельскай гаспадаркі. Вядомая савецкая практыка накіравання працоўных з горада ў вёску пад час збору ўраджаю знайшла сваё адлюстраванне і ў справаздачы лектара САПН, які патлумачыў, што прамысловыя прадпрыемствы атрымліваюць ад калгасаў і саўгасаў сельскагаспадарчую прадукцыю і рэалізуюць яе сярод працоўных. З дапамогай такіх мерапрыемстваў у БССР вырашалася „харчовая праблема"[6].

У Мінску К. пачуў пра рацыяналізацыю працы і сучаснае тэхнічнае абсталяванне беларускіх прадпрыемстваў. Пабачыць гэтае абсталяванне на ўласныя вочы ў „таварыша з НДР", аднак, не атрымалася. Камуністычныя функцыянеры ці кіраўніцтва прадпрыемстваў палічылі (відаць, зусім невыпадкова) непатрэбным знаёміць замежніка, хай і з „братэрскай" Нямецкай Дэмакратычнай Рэспублікі, з апошнімі дасягненнямі савецкай тэхнічнай думкі. Пад час сустрэч на прадпрыемствах „беларускія сябры" ахвотна распавядалі госцю пра эканамічнае супрацоўніцтва з замежнікамі і ў тым ліку з заходнімі фірмамі. Пад уплывам гэтых размоў К. прыйшоў да высновы, што ўзяты савецкай прамысловасцю курс на супрацоўніцтва з замежжам набыў незваротны характар, а НДР, з якой у СССР па-ранейшаму хацелі цесна супрацоўнічаць, павінна выкарыстаць сітуацыю і замацаваць свае пазіцыі на савецкім рынку. У Мінскім аўтазаводзе лектар САПН убачыў патэнцыйнага партнёра для ўсходненямецкіх прадпрыемстваў. Мінчане хацелі пастаўляць сваю прадукцыю ў НДР і былі са свайго боку зацікаўлены ў набыцці сучаснага тэхнічнага абсталявання ў гэтай краіне[7].

### „Беларусь вучыцца дэмакратыі"

Візіт Э. К. распачаўся ў панядзелак 28 сакавіка 1989 г. За два дні да таго, 26 сакавіка, адбыўся першы тур выбараў народных дэпутатаў СССР, вынікі

[6] Тамсама, арк. 154, 155.
[7] Тамсама, арк. 153, 154.

якога моцна расчаравалі мясцовы партыйны апарат і паўплывалі на яго настроі. Камуністычнае кіраўніцтва відавочна не чакала, што выбарцы ў шэрагу выпадкаў адмовяцца падтрымаць прапанаваных партыяй кандыдатаў, і наракала як на прэсу, якая паспрыяла паразе некаторых сакратароў абкамаў і гаркамаў, так і на выбаршчыкаў, якія яшчэ „толькі вучацца дэмакратыі", нібыта не прызвычаіліся да новых плюралістычных умоваў і схільны абіраць „папулістаў" і „гарлапанаў", не заўважаючы кандыдатаў з сур'ёзнай праграмай. Да тэмы выбараў нямецкі госць падышоў вельмі асцярожна, падкрэсліўшы, аднак, што сярод дэпутатаў стала менш сялян, рабочых, жанчын і моладзі[8]. Хутчэй за ўсё К. ізноў прыгадаў гэтае адносна свабоднае волевыяўленне грамадзян СССР ужо ў траўні 1989 г., калі ў НДР адбыліся мясцовыя выбары, на якіх т. зв. „нацыянальны фронт" на чале з САПН атрымаў 98,85% галасоў, а абуранае нахабнай фальсіфікацыяй вынікаў насельніцтва выйшла на вуліцы[9].

У красавіку 1989 г. Э. К. быў упэўнены, што КПБ зрабіла адпаведныя высновы і будзе ў будучым, напрыклад, пад час выбарчай кампаніі ў Вярхоўны Савет БССР і мясцовыя саветы, яшчэ больш актыўна працаваць з насельніцтвам, рашуча адстойваючы лінію партыі[10]. У сваёй справаздачы К., акрамя таго, паспачуваў мясцоваму партыйнаму апарату, што апынуўся пасля скарачэння кадраў у даволі цяжкім становішчы: у мінскім абкаме, у прыватнасці, з 109 супрацоўнікаў на сваіх пасадах засталіся 75, а колькасць аддзелаў скарацілася з 16 да 7. Скарачэнне прывяло, па меркаванні лектара САПН, да таго, што некаторыя функцыянеры перагружаны працай і не ў стане выконваць свае прафесійныя абавязкі на адпаведным палітычна-ідэалагічным узроўні[11].

8 Тамсама, арк. 156, 157.

9 Klaus Schroeder, Der SED-Staat. Partei, Staat und Gesellschaft 1949–1990, München 1998. S. 284, 297.

10 BArch DY 30/12403, арк. 156.

11 Тамсама, арк. 157.

Распавядаючы пра палітычнае жыццё рэспублікі, Э. К. узгадаў і т. зв. „народны фронт", што вылучае „экстрэмісцкія патрабаванні"[12]. На ўвазе меўся Беларускі народны фронт „Адраджэнне", устаноўчы з'езд якога прайшоў напрыканцы чэрвеня 1989 г. у Вільнюсе. У адрозненне ад К., які не палічыў патрэбным падрабязна спыніцца на станаўленні новага грамадскага руху, што кінуў выклік КПБ, адыграў гістарычную ролю ў стварэнні незалежнай беларускай дзяржавы, а ў 1990-я г. заставаўся прыкметнай з'явай на палітычным небасхіле Рэспублікі Беларусь, генеральнае консульства НДР у Мінску ўважліва сачыла за дзейнасцю БНФ[13].

## Вопыт „нямецкіх таварышаў"

У красавіку 1989 г. лектар САПН Э. К. выказваў спадзяванне на ўмацаванне ўсебаковых сувязей паміж БССР і НДР, спасылаючыся пры гэтым на станоўчы вопыт супрацоўніцтва паміж Мінскай вобласцю і акругай Патсдам. Аўтар з задавальненнем адзначыў, што „мінскія таварышы" ў сваёй кадравай палітыцы пераймаюць „карысны вопыт" САПН і актыўна працуюць з нізавымі партыйнымі структурамі[14]. Адметным лічыў К. таксама той факт, што мясцовыя партыйныя функцыянеры падтрымалі рашэнне ўладаў НДР спыніць распаўсюджванне выдання савецкага Агенцтва друку „Новости" „Спутник" на тэрыторыі Усходняй Нямеччыны. Штомесячны дайджэст савецкага друку „Спутник", які выходзіў таксама і на нямецкай мове, рашуча падтрымліваў палітыку галоснасці і дэмакратызацыі і лічыўся таму ў НДР Эрыха Хонэкера непажаданым[15]. Як і ва Усходнім Берліне, у Мінску меркавалі, што „Спутник" — як, дарэчы, і вядомы штодзённік „Московские но-

12 Тамсама, арк. 155.
13 Гл. напрыклад: BArch DY 30/12403, арк.144–151, тут: 147, 148; арк. 171, 172; арк. 185–191, тут: 189–191.
14 BArch DY 30/12403, арк. 157, 158.
15 Klaus Schroeder, Der SED-Staat. Partei, Staat und Gesellschaft 1949–1990, München 1998. S. 295f.

вости" пад рэдакцыяй Ягора Якаўлева, — не даюць чытачам сапраўднага ўяўлення пра Савецкі Саюз[16].

## Пытанні без адказаў: ці існуе алкагалізм у НДР?

У дадатку да сваёй справаздачы Э. К. змясціў вялікі спіс пытанняў, якія ўздымаліся грамадзянамі БССР пад час сустрэч з нямецкім лектарам[17]. Свае адказы на гэтыя, часам досыць непрыемныя, пытанні ён, аднак, не прывёў. Пытанні паказваюць, што суразмоўцы імкнуліся даведацца пра сапраўднае становішча ў НДР, каб перш за ўсё параўнаць яго з сітуацыяй у СССР. У К. пыталіся пра эканамічную палітыку ўрада НДР, пра дзяржаўную падтрымку сельскай гаспадаркі, пра памер заробкаў, пенсій і стыпендый і пра выдаткі насельніцтва НДР на аплату жылля. Лектар мусіў патлумачыць, як грамадзяне Нямецкай Дэмакратычнай Рэспублікі праводзяць адпачынак, ці існуе ў краіне беспрацоўе, ці сутыкнулася НДР з праблемай дэфіцыту дзяржаўнага бюджэту. У шэрагу пытанняў закраналіся развіццё адукацыі, культуры і спорту ў НДР, дэмаграфічныя тэндэнцыі, становішча ў галіне мацярынства і дзяцінства, а таксама дзяржаўная падтрымка маладых сем'яў. Чакалася таксама, што К. выкажацца наконт уплыву сталінізму і брэжнеўскага застою на НДР і распавядзе пра стаўленне ўсходніх немцаў да палітыкі перабудовы ў СССР. Некаторыя грамадзяне хацелі абавязкова даведацца пра экалагічную сітуацыю ў НДР і пра распаўсюджанне алкагалізму і СНІДу ў гэтай краіне. Калі пытанне пра алкагалізм было выклікана, верагодна, сумнавядомай антыалкагольнай кампаніяй у СССР (1985–1987), а тэма СНІДу набыла актуальнасць у сувязі з хуткім ростам захворванняў у Савецкім Саюзе, дык цікавасць да экалагічнай праблематыкі тлумачылася, хутчэй за ўсё, чарнобыльскай трагедыяй і яе страшэннымі наступствамі для БССР, якія партыйнае

[16] BArch DY 30/12403, арк. 158.
[17] Тамсама, арк. 160–162.

кіраўніцтва старанна замоўчвала. У гэтай сувязі не павінен здзіўляць той факт, што і лектар САПН абышоў у сваёй справаздачы „непрыемную” чарнобыльскую тэму.

Працэс дэмакратызацыі грамадска-палітычнага жыцця ў другой палове 1980-х г. паспрыяў актывізацыі культурнага і нацыянальнага жыцця этнічных меншасцяў у СССР. Вялікая колькасць савецкіх грамадзян яўрэйскага і нямецкага паходжання скарысталася магчымасцю пакінуць Савецкі Саюз. Пад уплывам гэтых падзей беларускія суразмоўцы ўздымалі пытанні пра нацыянальныя меншасці ў НДР і працу з імі, пра спробы ўсходніх немцаў перасяліцца ў Федэратыўную Рэспубліку Нямеччына (ФРН) і пра магчымую дапамогу, якую НДР магла б аказаць СССР у працы з савецкімі немцамі.

У К., як у прадстаўніка САПН, пыталіся пра сучасны стан гэтай партыі, яе ўзроставую структуру, арганізацыю і фінансаванне, а таксама ўплыў у розных частках НДР. Адказы на гэтыя пытанні павінны былі дапамагчы параўнаць САПН і КПСС (КПБ). Цікавасць у новых палітычных умовах выклікала таксама існаванне „нефармальных груповак” і шматпартыйная сістэма ў НДР, якую САПН выкарыстоўвала ў якасці дэмакратычнага фасаду для сваёй дыктатуры.

Шэраг пытанняў тычыўся адносінаў паміж ФРН і НДР. Лектара САПН, у прыватнасці, папрасілі параўнаць жыццёвы ўзровень у абедзвюх Нямеччынах, магчыма, дакладна ведаючы, што параўнанне будзе зусім не на карысць сацыялістычнай дзяржавы, а акрамя таго, распавесці пра адносіны паміж САПН і Сацыял-дэмакратычнай партыяй ФРН, спыніцца на праграме гэтай партыі і патлумачыць ідэалагічную накіраванасць заходненямецкіх зялёных і стаўленне САПН да гэтай новай палітычнай сілы. Беларускія суразмоўцы хацелі пачуць меркаванне К. наконт магчымасці аб’яднання Нямеччыны, пра стаўленне НДР да савецкай знешняй палітыкі, аднабаковага скарачэння савецкіх узброеных сілаў, частковага вываду савецкіх войскаў з Усходняй Нямеччыны і пра верагоднасць павелічэння арміі НДР у гэтай сувязі. Лектару давялося таксама патлумачыць, як

насельніцтва НДР успрымае размешчаны на тэрыторыі краіны савецкі вайсковы кантынгент. Урэшце ў цэнтры ўвагі апынулася і замежная палітыка Нямецкай Дэмакратычнай Рэспублікі, яе далейшая дзейнасць у межах Савета эканамічнай узаемадапамогі, адносіны з Польскай Народнай Рэспублікай і эканамічныя сувязі з СССР.

## Вынікі

Разгледжаная ў гэтым артыкуле красавіцкая справаздача Э. К. — цікавая крыніца, якая, нягледзячы на адпаведную ідэалагічную афарбоўку, дазваляе скласці пэўнае ўяўленне пра развіццё прамысловасці і сельскай гаспадаркі ў БССР, пра грамадска-палітычнае жыццё рэспублікі, пра становішча КПБ і настроі насельніцтва, якое, дарэчы, прадэманстравала значную цікавасць да падзей за межамі СССР. Лектар САПН прыйшоў да высновы, што як партыйныя кадры, так і працоўныя не бачаць альтэрнатывы палітыцы перабудовы і паскарэння сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны і абранаму Міхаілам Гарбачовым курсу на палітычныя пераўтварэнні. Пры гэтым СССР, як адзначыў аўтар, трэба яшчэ вызначыцца з памерам і тэмпам пераўварэнняў[18]. Абавязковае для партыйнага функцыянера з Нямецкай Дэмакратычнай Рэспублікі ўсхваленне СССР, вера ў паспяховае развіццё „братэрскай краіны", сімпатыя да мясцовых „партыйных таварышаў" і адначасовае імкненне ўстрымацца ад прынцыповай (пазітыўнай ці негатыўнай) асабістай ацэнкі перабудовы і перш за ўсё адмоўна ўспрынятых кіраўніцтвам НДР палітычных пераўтварэнняў у Савецкім Саюзе з'яўляюцца адметнымі рысамі справаздачы, што ўзнікла ў апошнія месяцы хонэкераўскай дыктатуры. Так, К. палічыў за лепшае заплюшчыць вочы на яскравыя праявы эканамічнага крызісу ў СССР і выказаў спадзяванне на тое, што прамысловасць і сельская гаспадарка БССР і надалей будуць дынамічна развівацца на сацыялістычных рэй-

[18] Тамсама, арк. 152.

ках, гаспадарчае супрацоўніцтва паміж БССР і НДР узмоцніцца, а КПБ „паспяхова навучыць" насельніцтва дэмакратыі і шляхам інтэнсіўнай агітацыі замацуе сваю кіроўную ролю ў грамадстве.

Надзеі лектара САПН Э. К. не спраўдзіліся. Сістэмны крызіс сацыялістычнага лагера скончыўся знікненнем НДР у 1990 г. і распадам СССР у 1991 г. Прадчуванні кансерватыўных колаў КПБ, якія яшчэ ў 1989 г. вельмі хваравіта ўспрынялі развіццё „некантраляванай дэмакратыі" і з хваляваннем назіралі за ўзмацненнем „нефармальных экстрэмісцкіх сілаў", аказаліся недарэмнымі. У той жа час беларускае грамадства даведалася пра жахлівыя наступствы Чарнобыля, якія не знайшлі свайго адлюстравання ні ў савецкай афіцыйнай партыйнай прапагандзе, ні ў справаздачы лектара САПН.

## Chinese sneakers for workers of the Minsk refrigerators plant:

a lecturer of the Socialist Unity Party of Germany about Soviet Belarus (March — April, 1989)

**Alexander Friedman**

The lecturer of the Socialist Unity Party of Germany E. K. had a working trip to the Minsk area from March 28 till April 3, 1989. He met some local Communist Party leaders as well as workers, students and other citizens. He visited industrial enterprises and educational institutions. Returned back to the GDR, K. composed a detailed report on his trip to Belarus.

Despite the respective ideological colouring, K.'s report is an interesting source of Belarusian history at the end of the 1980th years. The report allows making an impression about the development of the local industry, agriculture, political life in the republic and situation over the Communist Party of Belarus (CPB) and moods of people who have shown a great interest to events outside the USSR. It should be pointed out that the author from the GDR declined to make his personal assessment of the political transformations in the USSR and he kept his eyes shut to bright displays of the economic crisis in the Soviet Union. For the Belarusian industry K. predicted a socialistic future, standing up for strengthening the economic cooperation between the GDR and the BSSR and hoping for strengthening the hegemony of the CPB in the Belarusian society.

*У дзённікавых запісах Ніла Сымонавіча Гілевіча, народнага паэта Беларусі, які стаў непасрэдным удзельнікам станаўлення маладой беларускай дзяржаўнасці, рэдакцыя бачыць каштоўную крыніцу па нядаўняй палітычнай гісторыі Беларусі. Занатоўкі старшыні Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па адукацыі, культуры і ахове гістарычнай спадчыны адлюстравалі не толькі стаўленне народных абраннікаў да лёсаносных пытанняў мацавання суверэнітэту Беларусі, але і тагачасныя клопаты беларускага грамадства.*

# Дзевяноста трэці год. Дзённік*

**Ніл Гілевіч**

## „Занатоўкі для сябе”, зробленыя ў час пасяджэнняў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

*2. I. 1993*

Упершыню за апошні час сустракаў Новы год пачалавечы — у мілым сямейным коле, і зноў адчуў гэтую непараўнаную радасць. Божа, дапамажы мне — сівому, ды неразумнаму! Я апраўдаю давер Твой!..

Першы дзень новага года прайшоў у трывожных, цяжкіх роздумах. Што будзе? Куды ідзем? Ці бачым, ці разумеем самі? Два тыдні ляжаць накіды да артыкула „Што з намі?”. Не магу ўзяцца, каб сказаць гэтае балючае слова, не хапае сілы духу.

* Першая версія дзённіка публікавалася ў газеце „Літаратурная Беларусь” (№№ 52–54, 56; снежань 2010 — красавік 2011).

30-га вечарам засядалі ўсім Прэзідыумам Вярхоўнага Савета ў Драздах, у былой рэзідэнцыі Першых асобаў (раней мая нага тут ні разу не ступала). На маё здзіўленне быў поўны кворум — прыйшлі ўсе да аднаго. Пілі мала. Гаварылі шмат. У тым ліку — шмат кампліментаў і клятваў вернасці Станіславу [Шушкевічу[1]], нашаму спікеру, фактычна — галаве дзяржавы. (Але ж: „Пяюн не прапяяў тры краты". Не паўторыцца? Далёка ж не ўсе яго аднадумцы! Сёй-той толькі і чакае каманды: „Назад!") Ш-ў трохі перабраў, відаць, і па-дзіцячы смешна прасіўся ў Шушкевіча і ва ўсіх нас у замежную камандзіроўку. Як усё-такі цягне іх усіх у гэтыя паездкі! Як яны помняць пра сябе! Падсякай, пакуль клёў ёсць! Падсякай ды ў вядзерца! Ці на дно чоўна! Далі слова і мне. Сказаў пра прафесійны рост і старшыняў і ўсіх дэпутатаў, і ўсім пажадаў зрабіць хоць крок да практычнага карыстання беларускай мовай. Дарэчы, да гэтага заклікаў у слове на развітанне і Шушкевіч. А Б. Савіцкі зусім сур'ёзна сказаў мне: „А вы знаеце, што ў справе адраджэння беларускай мовы я зрабіў не менш за вас?" Яшчэ і паўтарыў гэтае самае „не менш". „Можа быць, — адказаў я спакойна. — У такім разе гісторыя аддасць вам належнае". Усякае даводзілася чуць ад тых, хто сам і двух слоў па-беларуску сказаць не можа, ну але такое — пачуў упершыню. Нават і накуляўшыся мог бы сёе-тое помніць, шаноўны прафесар.

Учора прачытаў у „Правде" прагнозы замежных саветолагаў. Прарочаць: у красавіку Ельцын[2] падасць у адстаўку, да восені прэзідэнтам стане Руцкой[3] і возьме курс на аднаўленне СССР (напачатку — у форме

[1] Шушкевіч Станіслаў Станіслававіч (нар. 1934) — беларускі фізік, дзяржаўны дзеяч, у 1991–1994 — старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. (Біяграфічныя звесткі пра згаданых аўтарам асобаў падаюцца па стане на 1993 г. — *Рэд.*)

[2] Ельцын Барыс Мікалаевіч (1931–2007) — першы прэзідэнт Расійскай Федэрацыі, займаў пасаду прэзідэнта з 1991 да 1999.

[3] Руцкой Аляксандр Уладзіміравіч (нар. 1947) — расійскі дзяржаўны і палітычны дзеяч, з 1991 да 1993 — першы і апошні віцэ-прэзідэнт Расійскай Федэрацыі.

канфедэрацыі). Мяркуючы па ўсім, будзе менавіта так. Нас далучаць без крыві — эканамічнай блакадай і гатоўнасцю народа да страты незалежнасці.

*3. I. 1993*

Ельцын і Буш падпісалі дагавор аб скарачэнні стратэгічных узбраенняў. Ну што ж, хоць трохі больш надзеі, што ачуняем.

Па тэле ішоў фільм пра Сталіна („Баляванне Валтасара”). Яшчэ адзін выразны штрых да вялікай трагедыі народа і народаў. Між іншым, нядаўна вычытаў, што ў Сталіна была калекцыя парнаграфічных малюнкаў. Сексуальна-паталагічны тып. Як і многія з яго атачэння, перш за ўсё — Берыя.

У чацвер, 31-га, заходзіў міністр Вайтовіч[4] — наконт заснавання ў Беларусі Акадэміі мастацтваў і літаратуры. Ён загарэўся гэтай ідэяй і хоча давесці справу да канца. Ну што ж, хай бы была ў нас і такая Акадэмія. Але мяне гэта больш не хвалюе. Сябры музыкі і мастакі, як сведчыць іх ліст у друку, проста не ведаюць, які ў мяне настрой і якога „акадэмічнага спакою” мне хочацца.

Гаварылі з Нінай [Іванаўнай, жонкай] пра Данчыка[5] (ішоў яго канцэрт). Сам Бог яго паслаў нам — цяпер, калі мы Адраджаемся. Часцей бы толькі даваць яму экран і эфір! Праз добры беларускі голас можна зрабіць для Адраджэння вельмі многа. Ды яшчэ пры ягонай артыстычнай і чалавечай прывабнасці.

*4. I. 1993*

Перабіраючы завалы прэсы за апошнія гады, знайшоў дзве газеты з артыкуламі Б-а і з маімі горкімі паметамі на палях. Незразумела здрадніцкі выпад. Якраз тады, калі мне было так цяжка: „Правда” за 24.XI.89 і „Лите-

[4] Вайтовіч Яўген Канстанцінавіч — беларускі палітык і дыпламат. З 16 ліпеня 1990 быў міністрам культуры БССР.

[5] Данчык (Багдан Андрусішын, нар. 1958) — беларускі спявак і журналіст. Супрацоўнік, в. а. дырэктара Беларускай службы „Радыё Свабода”.

ратурная газета” за 27.6.90. Ах ты мой дарагі брат, мой найблізкі сябра! І што ж гэта здарылася з табой? І хто ж гэта ачмурыў цябе так страшна? Хто і за што купіў душу тваю?..

На першы артыкул я тады ж адказаў вершам „Пра нашу годнасць”[6]. Без прысвячэння. Але рэдактар ЛіМа В. адразу ж разгадаў, каму верш адрасаваны, і не хацеў пускаць яго ў друк. А на другі артыкул я ўжо нічога не адказваў. Які сэнс? Гора маё дый толькі. Гэта Б. не ведаў, хто амаль на працягу года трымаў у 306 пакоі Дома Літаратара штаб БНФ? На чыёй крыві і нервах гэты штаб там дзейнічаў? Якой цаной я амаль штодзённа адбіваўся ад званкоў з ЦК, з ГК, з РК? Ды ведаў ён гэта, ведаў!..

*5. I. 1993*

Да пытання аб прадчуваннях. Учора, перачытаўшы ў старых газетах прысвечаныя мне пасажы Б-а, расхваляваўся і амаль да раніцы не мог заснуць. Ад горычы і крыўды. Шмат чаго перабіраў у памяці, перадумаў. А сёння раніцай — наце вам! — інтэрв’ю з Б-м у „Звяздзе”. Апрача звыклай злосці на ўсіх і ўсё — нічога новага. Ніякай прасветліны. Ніякай надзеі. Намёкі на асоб часам досыць туманныя, адных я распазнаў, другіх — не. І мінімум уласнага пакаяння: браў узнагароды, прэміі, званні — самыя высокія ў СССР; ведаў, што гэта абавязвае… але браў. Як і ўсе грэшныя. Як Броўка, як Танк, як Шамякін… Адмовіцца пакуль не сабраўся. А можна было б — пры такой нянавісці да той сістэмы, якая іх давала. А то ж неяк непаслядоўна атрымліваецца! Гэта ж ужо ледзь не „віхлярства”, за якое атрымаў у „Правде” Ніл Гілевіч.

Тады, пасля „Правды” (а артыкул быў у той жа дзень і ў ЛіМе), я сказаў яму: „Ну, дык запомні, брат: у гэтых адносінах нават ты мне не суддзя. Нават ты! Не кажучы ўжо тваё новае акружэнне…”

[6] Гл. верш на с. 270.

*7. I. 1993*

Каляды. Званіў М. А. Савіцкі[7]. Сказаў, што ўчора міністр Вайтовіч збіраў „рабочую групу” па арганізацыі Акадэміі мастацтваў і літаратуры (спісак яе, той групы, мне Вайтовіч чытаў раніцай 31-га). Прагаласавалі — за Акадэмію, а не за Аддзяленне літаратуры і мастацтва ў складзе АН Беларусі. Адзін Казінец, нібыта, супраць. Але механізм стварэння Акадэміі на мой погляд, сумніўны. Кандыдатаў у акадэмікі будуць вылучаць творчыя саюзы. Уяўляю, якое гэта будзе вылучэнне і хто ў тую акадэмію трапіць.

*9. I. 1993*

Пісаў артыкул „Не плюйце ў крыніцы, панове!”. Свайго роду водпаведзь „ворагам беларушчыны”, паклёпнікам і чорным злоснікам. Трэба ж нешта гаварыць, не маўчаць!

*11. I. 1993*

Вечарам перадаў у „Звязду” рэпліку на інтэрв’ю Слва[8], старшыні камісіі В[ярхоўнага] С[авета] па нацыянальных пытаннях. Рэпліка — рэзкая і іранічная, таму будзе, напэўна, і адказ. А трэба было б і яшчэ вастрэй. Якія ж у нас дзяржаўныя „абаронцы” свайго народа!..

*12. I. 1993*

Цэлы дзень, з раніцы, у Радашкавічах, на адкрыцці новай школы, да завяршэння будаўніцтва якой я меў дачыненне (як дэпутат гэтай акругі). На мяне выпаў гонар перарэзаць стужку. У вачах — першакласнікі (чатыры класы беларускія, два рускія — для прыезджых). Аж расчуліўся, гледзячы на іх. Трэба часцей глядзець

[7] Савіцкі Міхаіл Андрэевіч (1922–2010) — беларускі мастак, кіраўнік Творчай акадэмічнай майстэрні Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь.

[8] Слямнёў Міхаіл Аляксандравіч (нар. 1939) — старшыня Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па нацыянальнай палітыцы і міжнацыянальных адносінах. (звесткі пра дэпутатаў узяты з выдання: Народныя дэпутаты Рэспублікі Беларусь. Дванаццатае скліканне. Мінск, 1992).

малым у вочы. Як шкада, што ў мяне з імі так мала сустрэчаў!..

*13. I. 1993*

У „Звяздзе” — мая рэпліка Сл-ву: „Прабачце, гэта не апіскі?”. Звышаператыўна надрукаваў Наркевіч[9]. Малайчына. Першыя водгукі (тэлефонныя) вельмі хвалебныя. Днём — лекцыя ў Наргасе (ЭУ), на адкрыцці факультатыўнага Універсітэта беларускай культуры, мовы, гісторыі. Гаварылася мне чамусьці цяжкавата, але людзі — дэканы і загадчыкі кафедраў — здаецца, засталіся задаволенымі. Былі пытанні наконт моўнай сітуацыі ў Беларусі. Яшчэ раз пераканаўся, што трэба сустракацца і гутарыць.

Вечар (шчодры!) правёў у Музычнай Акадэміі, з Казінцом[10] і Шаранговічам[11], пасля далучыўся і Дрынеўскі[12]. Гадзіны чатыры „прабалантэсілі” — і амаль толькі пра будучую акадэмію мастацтваў. А сабраў нас мой ліст да іх. К. сказаў: „Ніколі за 50 гадоў не атрымліваў такога ліста, у якім столькі болю, але і столькі неразумення мяне...”. З доўгай размовы вынікала: нам трэба трымацца разам і не аддаваць справу заснавання Акадэміі ў рукі М. С. (пры ўсёй да яго павазе), бо — не туды пакіруе. Прымірэння, а тым больш любові ў гэтых з гэным — не будзе. У чым я пераканаўся канчаткова. Наша нацыянальная трагедыя. Вынікі халуйскага становішча Беларусі ў імперыі.

*14. I. 1993*

Маленькае свята паэзіі ў Карповічах, у маіх выбаршчыкаў, з ініцыятывы дырэктара саўгаса У. І. Худога.

9 Наркевіч Уладзімір Браніслававіч (нар. 1952) — галоўны рэдактар газеты „Звязда”.

10 Казінец Міхаіл Антонавіч (нар. 1938) — беларускі дырыжор, народны артыст Беларусі (1987).

11 Шаранговіч Васіль Пятровіч (нар. 1939) — народны мастак Беларусі, майстра кніжнай і станковай графікі.

12 Дрынеўскі Міхаіл Паўлавіч (нар. 1941) — мастацкі кіраўнік (з 1975) і галоўны дырыжор Нацыянальнага акадэмічнага народнага хору Рэспублікі Беларусь імя Г. І. Цітовіча.

Былі і старэйшыя школьнікі, і дарослыя. Сустрэча прайшла вельмі хораша, — дзякуючы настаўніцы В. І. Цыбулінскай, якая выдатна ўсё арганізавала. Дзеці таксама чыталі свае вершы, і досыць слаўненькія. Асабліва 9-класнік Вадзім Равяка — пра Багдановіча.

*15. I. 1993*

Прачнуўся ў 4:15 і да 8:00 напісаў водпаведзь тром землякам, акадэмікам РАН, што прабілі ў рэйку: трымайцеся, беларусы, за рускую мову — і ў навуцы, і ў тэхніцы, і ў школах! А ў 10:00 ужо быў у Доме настаўніка — з лекцыяй (гутаркай) аб сучасным становішчы беларускай мовы і культуры — для загадчыкаў кафедраў абласных ІПК Міністэрства адукацыі. Сярод прысутных — яўныя і нават зацятыя ворагі беларусізацыі жыцця ў Беларусі. Але такіх менш.

*16. I. 1993*

З 10 да 18 быў на сумесным пасяджэнні двух Прэзідыумаў — Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў. Уражанне вельмі цяжкае — ніхто нічога не ведае, як не дапусціць канчатковага краху эканомікі і выйсці з крызісу. І ў прыватнасці, як адолець чарнобыльскую бяду. Падобна на тое, што нашыя вучоныя-ядзершчыкі ўсё ж вінаватыя перад народам.

*18. I. 1993*

А. М. Ганчарэнка[13] прапанаваў мне зрабіць на агульным сходзе АН даклад аб праблемах фальклору. Прапанова з прыцэлам: пакажа, чаго варты. Паглядзім і, можа, выберам членкорам — наўздагон за іншымі. Здаецца, спазніліся, дарагія мае. Быў час, была магчымасць. Не паруліліся. На сёмым дзесятку плешчыцца ў членкоры? Смешнавата. Ну, а рабіць даклад проста так — можна было б, але знайду часу на падрыхтоўку, трэба шмат перачытаць, перадумаць. Адным словам…

[13] Ганчарэнка Андрэй Маркавіч (нар. 1932) — беларускі фізік, акадэмік, галоўны вучоны сакратар НАН Беларусі (да 1997).

Званіў А. А. Марачкін[14] з просьбай (ад імя ініцыятыўнай групы) — увайсці ў аргкамітэт па падрыхтоўцы і правядзенню 75-й гадавіны БНР. Згадзіўся з удзячнасцю, што не забыліся пра мяне. Гэту Дату трэба адзначыць хораша! І на дзяржаўным узроўні!..

*18.V.1993*[15]

Першы дзень працы XII сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Пасля доўгага перапынку. Запісы раблю на пасяджэнні. Пачалося вельмі сумбурна. Зноў у зале, у радах, пануе нейкі лёгкі настрой, гучыць гумарок, жарцікі. Зусім не адчуваецца настроенасці на цяжкую, сур'ёзную працу. Чорт жа знае, што робіцца ў краіне — у эканоміцы, у гаспадарцы. Ды і на свеце. Паўсюль у зале — гэтакае маладзецкае бадзёрства. Ні знаку, што ў рэспубліцы — крайне цяжкая, нават трывожная сітуацыя. У тым ліку і ў маральным стане грамадства.

Пачынаецца абмеркаванне Парадку дня. Дэп[утат] У. Новік[16] прапануе ўключыць законапраект аб паліве — бо надта страшная можа быць для нас зіма. Рэпліка З. Ломаця[17]: „Садзіся на свой нейтралітэт і язджай, нашто табе бензін. Хацеў жа нейтралітэту, без саюзу з Расіяй".

Дэпутат З. Пазьняк[18] унёс дзве прапановы. Першая: адмяніць пастанову, якая рэабілітавала Камуністычную

[14] Марачкін Аляксей Антонавіч (нар. 1940) — беларускі мастак, загадчык кафедры Беларускай акадэміі мастацтваў, адзін са стваральнікаў і старшыня мастацкага аб'яднання „Пагоня".

[15] З гэтага дня і да канца публікаванага дзённіка ідуць запісы пра XII сесію Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

[16] Новік Уладзімір Уладзіміравіч (нар. 1952) — сакратар Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па пытаннях развіцця прамысловасці, энергетыкі, транспарту, сувязі і інфарматыкі.

[17] Ломаць Зянон Кузьміч (нар. 1944) — беларускі дзяржаўны дзеяч, у 1991–1992 — сакратар Камітэта Савета Рэспублік па аграрных пытаннях Вярхоўнага Савета СССР у Маскве. У 1992–1995 — член планавай і бюджэтна-фінансавай камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

[18] Пазьняк Зянон Станіслававіч (нар. 1944) — беларускі палі-

партыю Беларусі, каб заставалася ў сіле першая пастанова, паводле якой КПБ — антыдзяржаўная арганізацыя. Другая: паставіць на разгляд пытанне аб адмене пастановы аб Рэферэндуме, бо такі рэферэндум не патрэбен, ён будзе на шкоду Беларусі. У зале — адпаведнае (нядобрае) рэагаванне. Падхапіўся дэп. Качан[19]. Патрабуе: 1. Уключыць у Парадак дня пытанне аб забароне БНФ як арганізацыі антыдзяржаўнай (у піку Пазьняку). 2. Аб аднаўленні свята Кастрычніцкай рэвалюцыі. Спаслаўся на ліст 112 дэпутатаў у Прэзідыум Вярхоўнага Савета. (А з якім пафасам гаварыў! З якой загартоўкай у голасе!)

Канфрантацыя пачалася з абмеркавання складу Рэдакцыйнай Камісіі. „Беларусы” зарэзалі ўсіх „дэмакратаў” (Герменчука[20], Герасюка[21], Трусава[22], Навумчыка[23] і інш.). Узначаліў Камісію Б. І. Недарэка, што і засведчыў, выступіўшы (хай Бог даруе, што я даў Б. І. такі псеўданім).

Дэп. В. Ганчар[24] пляжыць Прэзідыум ВС і рабочы прэзідыум Сесіі за няўменне арганізаваць працу, парушэнне

тык і грамадскі дзеяч, адзін з заснавальнікаў Беларускага Народнага Фронту „Адраджэнне”, старшыня Кансерватыўна-Хрысціянскай Партыі — БНФ, з 1990 — кіраўнік дэпутацкай Апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце. Быў членам Канстытуцыйнай камісіі Вярхоўнага Савета БССР і Рэспублікі Беларусь XII склікання.

[19] Качан Міхаіл Арцём’евіч (нар. 1927) — старшыня Гомельскага абласнога савета ветэранаў вайны і працы.

[20] Гермянчук Ігар Іванавіч (1961–2002) — беларускі журналіст і грамадскі дзеяч, дэпутат Вярхоўнага Савета БССР XII склікання, былы рэдактар забароненай газеты „Свабода”, заснавальнік часопіса „Кур’ер”.

[21] Герасюк Іван Мікалаевіч (нар. 1949) — аглядальнік рэдакцыі „Народная газета”.

[22] Трусаў Алег Анатольевіч (нар. 1954) — намеснік старшыні Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па адукацыі, культуры і ахове гістарычнай спадчыны, адзін з заснавальнікаў БНФ, БСДГ (з 1991), намеснік (1991), старшыня Цэнтральнай Рады БСДГ (1992–1995).

[23] Навумчык Сяргей Іосіфавіч (нар. 1961) — каардынатар парламенцкай Апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь, узначальваў інфармацыйнае агенцтва „Павет”.

[24] Ганчар Віктар Іосіфавіч (1958 — 16 верасня 1999 г. бясслед-

рэгламенту, — з вялікай непавагай да кіраўніцтва ВС — як заўсёды. І як заўсёды — высакамерна, настаўіцельна, павучальна, па-рэзанёрску, катэгарычна…

Дэп. Мінько[25] патрабуе ўключыць у Парадак дня справаздачу Шушкевіча аб выкананні ім п. 4-га Пастановы XI сесіі. Вядома ж, не толькі ад свайго імя. Даюць адразу ж зразумець Шушкевічу. Дэп. Трафіменка[26]: „Намі ставілася пытанне аб барацьбе са спекуляцыяй — які яго лёс? Ці будзе яно ставіцца нанава?"

Дэп. Лукашэнка[27]: напачатку хвошча Прэзідыум ВС і Шушкевіча, затым патрабуе ўключыць у Парадак дня справаздачу кіраўнікоў дзяржавы Шушкевіча і Кебіча[28] аб мерах па паляпшэнні эканамічнага становішча ў краіне. А яшчэ — „Я падтрымліваю дэпутата Качана наконт забароны БНФ і святкавання дня Кастрычніцкай Рэвалюцыі".

Дэп. Гаркун[29] прапануе разгледзець пытанне аб кампенсацыі калгасам і ўсім сельгаспрацаўнікам панесеных імі цяжкіх стратаў ад поўнага адпускання цэнаў на тавары прамысловасці. Вельмі справядлівае патрабаванне.

Дэп. Лукашэнка: пытанне аб прыватызацыйных чэках не абмяркоўваць — зняць!

на знік разам з Анатолем Красоўскім) — першы намеснік старшыні Маладзечанскага гарадскога Савета народных дэпутатаў. Член Партыі народнай згоды (1992–1995).

25 Мінько Франц Францавіч (нар. 1954) — дырэктар Стаўбцоўскага раённага прадпрыемства па вытворча-тэхнічным забеспячэнні сельскай гаспадаркі.

26 Трафіменка Васіль Сяргеевіч (нар. 1938) — намеснік старшыні Віцебскага абласнога аб'яднання па вытворчасці свініны.

27 Лукашэнка Аляксандр Рыгоравіч (нар. 1954) — у 1987–1994 — дырэктар саўгаса „Гарадзец" Шклоўскага раёна Магілёўскай вобласці.

28 Кебіч Вячаслаў Францавіч (нар. 1936) — Старшыня Савета Міністраў БССР, прэм'ер-міністр Беларусі.

29 Гаркун Уладзімір Гіляравіч (нар. 1946) — старшыня Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па аграрных пытаннях, харчаванні і сацыяльным развіцці сяла, член Канстытуцыйнай камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

Шушкевіч: без прыватызацыі — мы адстанем у рэформах ад Расіі, трэба даганяць рэформы Расіі! (Што даганяць? Гэны дзікі капіталізм?)

Дэп. Міцько[30] (пасля правалу пытання аб правах дзіцяці — набрала 123 галасы, не прайшло, не ўключылі): „Не разумею! Супроць будучыні Беларусі прагаласавалі!" (З абурэннем.)

Дэп. Савіцкі[31] (пасля правалу пытання аб экалагічнай інспекцыі): „Віншую! Нас з'ядуць тараканы скора, калі мы так рашаем пытанні экалогіі!"

Дэп. Катушкін[32] — Шушкевічу: «Станіслаў Станіслававіч, вы, іменна вы расколваеце Сесію. Вы ўжо дзесяць разоў зрабілі выпад супроць дэпутатаў аб'яднання „Беларусь"! Я вам раблю катэгарычную заўвагу!» (Усё — з вялікай злосцю.)

Пытанне аб санітарна-эпідэміялагічнай службе — зарэзалі. Не ўключылі. Ну і ну! Гэта заняло б толькі паўхвіліны часу. І вось — маем!..

Пытанне аб Рэферэндуме (з удакладненнем пытанняў, якія выносяцца на ўсенароднае галасаванне). Дэп. Пазьняк: рашуча супроць. Булахаў[33], Станкевіч[34], Грыбанаў[35]:

[30] Міцько Пётр Антонавіч (нар. 1944) — старшыня Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па справах жанчын, аховы сям'і, мацярынства і дзяцінства.

[31] Савіцкі Барыс Парфёнавіч (нар. 1933) — старшыня пастаяннай Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па пытаннях экалогіі і рацыянальнага выкарыстання прыродных рэсурсаў.

[32] Катушкін Пётр Міхайлавіч (нар. 1940) — намеснік старшыні выканкама Магілёўскага абласнога Савета народных дэпутатаў.

[33] Булахаў Дзмітрый Пятровіч (1960–2006) — старшыня Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па заканадаўстве, пазней кіраваў ініцыятыўнай групай па вылучэнні кандыдатам у прэзідэнты Беларусі А. Лукашэнкі.

[34] Станкевіч Уладзімір Міхайлавіч (нар. 1950) — намеснік старшыні Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па заканадаўстве.

[35] Грыбанаў Уладзімір Міхайлавіч (нар. 1944) — сакратар Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па нацыянальнай палітыцы і міжнародных адносінах.

рашуча за. Булахаў узяў слова яшчэ раз — за! „У 1991-м у нас не было вопыту, рэферэндум быў недасканалы”.

Наша Камісія прасіла ўключыць у план Сесіі пытанні „Аб архівах” і „Аб бібліятэках”. Не ўключылі: толькі 88 галасоў „за” (і па адным, і па другім). Было бачна, з якім вялікім энтузіязмам зарэзалі — аж пошчак ішоў па зале, як галасавалі супроць! Выступленне Трусава не памагло. Пытанне „Аб племянной справе” — зарэзалі пад гучны рогат. Настолькі на пошлы лад настроеныя думкі дасціпнікаў. А пытанне вельмі важнае для развіцця жывёлагадоўлі. Дэп. Унучка[36] (эканаміст!) пульнуў досціп: „Штучна ці натуральна асемяняць?” (з націскам на „натуральна”). А між тым дэп. Лужынскі[37] з вялікай горыччу сказаў, якая гэта важная эканамічная праблема.

Дэп. Герасюк прапанаваў уключыць у Парадак дня пытанні: 1. Аб катэджах наменклатуры; 2. Аб адстаўцы В. Кебіча з пасады Старшыні Савета Міністраў. Абедзве прапановы з трэскам праваліліся.

Дэп. Вярцінскі[38] (ад сябе і ад дэп. Гілевіча) унёс прапанову абмеркаваць пытанне „Аб канцэпцыі інфармацыйнай прасторы” — замест праваленага Законапраекта аб СМІ. Прапанова была з вялікім поспехам зарэзана — „за” толькі 75 галасоў.

Дэп. Трусаў унёс прапанову абмеркаваць пытанне аб датэрміновых выбарах у Вярхоўны Савет. „За” — усяго 95 галасоў. Дзівак-чалавек! Людзі ашалелі ад шчасця, што сталі „членамі Парламента”, і цяпер самім адмовіцца

36 Унучка Раман Іосіфавіч (нар. 1944) — старшыня пастаяннай Планавай і бюджэтна-фінансавай камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

37 Лужынскі Станіслаў Антонавіч (нар. 1949) — старшыня калгаса „Бальшавік” Валожынскага раёна Мінскай вобласці.

38 Вярцінскі Анатоль Ільіч (нар. 1931) — беларускі паэт, драматург, публіцыст, крытык, перакладчык. У 1986–1990 — галоўны рэдактар газеты „Літаратура і мастацтва”. Член Беларускага ПЭН-цэнтра (з 1989). У 1990–1995 — намеснік старшыні Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па пытаннях галоснасці, сродках масавай інфармацыі і правоў чалавека.

ад такога гонару? Прагаласавалі прапанову Качана аб забароне БНФ: „за” — 45. (Я думаў, што будзе больш.) Яго ж прапанову аб аднаўленні дня 7 лістапада як Свята Кастрычніцкай рэвалюцыі падтрымалі 131 голасам. Не прайшла. Прапанова Мінько абмеркаваць на Сесіі справаздачу Шушкевіча атрымала 176 галасоў. Прайшла! Рыхтуйся, спікер, да справаздачы! Ой, мала табе не будзе!

*19 траўня*

Пачалося, як звычайна, з „Рознага”. Дэп. Дзейка[39] звярнуўся з запытам да генеральнага пракурора, чаму быў звольнены з Арміі афіцэр Мікалай Статкевіч[40]. Дэп. Кучынскі[41] прабіў трывогу аб пашырэнні ў Беларусі рэлігійных сектаў „Белыя браты”, „Крышнаіты” і іншых — аб страшным уздзеянні іх на псіхіку нашай моладзі, аб неабходнасці ратаваць яе. Маладыя хлопцы, трапіўшы ў іх сеці, сохнуць, усыхаюць. Многія наогул знікаюць! Дэп. Баршчэўскі[42]. Запыт намесніку прэм’ера М. Дземчуку: чаму ў кнігарнях няма беларускіх кніг? Апратэставаў („у народа выклікаў смех”) выпад дэп. Качана і кампаніі супроць БНФ. (У зале прамаўчалі.)

Першае пытанне Парадку дня: Аб зменах у Канстытуцыі. Дакладчык дэп. Леўчык[43]. Доўга затрыма-

[39] Дзейка Лявон Іванавіч (нар. 1950) — інжынер-электронік, адзін з заснавальнікаў Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада), член парламенцкай апазіцыі БНФ і фракцыі БСДГ .

[40] Статкевіч Мікалай Віктаравіч (нар. 1956) — лідар Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада). Адзін са стваральнікаў грамадскага аб’яднання „Беларускае аб’яднанне вайскоўцаў”.

[41] Кучынскі Віктар Францавіч (нар. 1958) — сакратар Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па справах моладзі.

[42] Баршчэўскі Лявон Пятровіч (нар. 1958) — беларускі філолаг, перакладчык, грамадскі дзеяч і палітык, намеснік дырэктара па навукова-метадычнай рабоце Беларускага гуманітарнага адукацыйна-культурнага цэнтра.

[43] Леўчык Уладзімір Канстанцінавіч (нар. 1935) — старшыня пастаяннай Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

ліся на першай жа папраўцы. На кожную заўвагу — у зале рэплікі, як у школьнікаў ці студэнтаў — лёгкія, зубаскальскія, з прэтэнзіяй на дасціпнасць. Ах, гэтыя практыкаванні ў досціпах! Як яны выдаюць узровень культуры, выхаванасці! У зале — вялікая суматоха. Спрэчкі — якіясьці анархічныя, мітынговыя, амбіцыйныя і нават бзікаватыя. Леўчык, пасля правалу першага пытання, што называецца „плюнуў" і сеў на месца. Дэп. Арціменя[44] прысарамаціў усіх — асабліва Лукашэнку: за яго выступленне. Шушкевіч злосна абрэзаў Лукашэнку: „Хопіць дэмагогіі! Вы толькі крычыце, як на мітынгах. А ніводнай за ўвесь час канкрэтнай прапановы! Ніхто так не дэстабілізуе залу, як вы!"

Праект новай Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. Дакладчык Шушкевіч. Гаварыў хвілін 15 — максімум, а можа і 10. Для такога даклада — малавата. Я чакаў, што зойме каля гадзіны. Пайшлі пытанні. Першае: Дык што за лад у нас будзе, у Беларусі — сацыялістычны ці капіталістычны? — Адказ: Пачытайце ўважліва тэкст, там сфармулявана. Дэп. Камай[45]: А дзе Закон аб сімвалах у Канстытуцыі? Адказ: Ёсць закон, і добры, добра прыняты грамадскасцю, і няма патрэбы яго мяняць. (Сапраўды, сімвалы ў нас выдатныя. Адно што Гімна няма.) Пытанне: Чаму — платнае навучанне? А было бясплатнае. — Адказ: Было не для ўсіх, было сацыяльнае рэгуляванне. Пытанне: Што ў эканамічнай аснове ладу — якая ўласнасць? — Адказ: Не трэба вызначаць! Будзем будаваць справядлівае грамадства, на прававых асновах. — Пытанне: Ці парламент будзе прафесійны, ці такі, як цяпер? — Адказ: Прафесійны, але… з пэўнымі агаворкамі (рэгламентацыямі).

па пытаннях працы Саветаў народных дэпутатаў і развіцця самакіравання.

[44] Арціменя Дзмітрый Канстанцінавіч (нар. 1932) — народны дэпутат БССР, старшыня выканкама Гродзенскага абласнога Савета народных дэпутатаў.

[45] Камай Аляксей Сцяпанавіч (нар. 1936) — член Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па міжнародных справах і сувязях з СНГ, былы другі сакратар ЦК КПБ.

Дэп. Заблоцкі[46]: Нідзе ў свеце няма спалучэння выканаўчых і заканадаўчых улад. Усюды яны размежаваны. Дэп. Качан: Дзе гарантыя на працу, на адукацыю і г. д.? Шушкевіч: Не трэба слоў „гарантыя”. Гэта — нерэальна! Дэп. Камай: Дык якая ж эканамічная аснова РБ? Трэба вызначыць у Канстытуцыі эканамічны базіс РБ! Адказ: Няма патрэбы ў такім вызначэнні, у іншых краінах няма.

Дэп. Трафіменка: На здароўе — гарантуецца права, а на ўсё іншае — не, слова „гарантуецца” няма.

Дэп. Сінчылін[47]: Чаму адна беларуска мова — дзяржаўная? Шушкевіч адказаў вельмі эмацыйна, але добра, лагічна і доказна. Праўда, спасылка на шведскую мову ў Фінляндыі — няўдалая.

Дэп. Лакцюшын[48]. Таксама аб мовах. Паршывую сацыялогію прыцягнулі з „Советской Белоруссии”, фальшывыя лічбы… Ах, сацыёлагі! Шушкевіч рэзка абрэзаў.

Дэп. Баршчэўскі пачаў дасведчана гаварыць аб мовах у Фінляндыі. У зале заулюкалі. Асабліва — дэпутат-генерал Гетц[49]. Дэп. Лавіцкі[50] прапанаваў зняць у прэамбуле ўпамінанне аб Статуце Вялікага Княства Літоўскага. Прагаласавалі прапанову. „За” ўпамінанне — толькі 106 галасоў. Знялі! З энтузіязмам! Вось адносіны да гісторыі Бацькаўшчыны. Не было яе і няма — у душах і сэрцах бальшыні.

[46] Заблоцкі Уладзімір Мікалаевіч (нар. 1939) — намеснік старшыні Камісіі Вярхоўнага Савета па навуцы і навуковатэхнічным прагрэсе, сябра Камісіі Вярхоўнага Савета па пытаннях развіцця прамысловасці, энергетыкі, транспарту, сувязі і інфарматыкі. Член Канстытуцыйнай Камісіі. Старшыня Часовай камісіі Вярхоўнага Савета па расследаванні фактаў выкарыстання псіхіятрыі ў палітычных і рэпрэсіўных мэтах. Намеснік старшыні Апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце. Прэм'ер-міністр Ценявога Кабінета (урада) Апазіцыі БНФ.

[47] Сінчылін Васіль Ільіч (нар. 1925) — старшыня Мінскай секцыі Савецкага камітэта ветэранаў вайны.

[48] Лакцюшын Мікалай Іванавіч (нар. 1926) — старшыня Ваўкавыскага раённага савета ветэранаў вайны і працы.

[49] Гетц Барыс Гаўрылавіч (нар. 1925) — Герой СССР, старшыня Барысаўскага гарсавета ветэранаў вайны і працы.

[50] Лавіцкі Генадзь Міхайлавіч (нар. 1942) — намеснік старшыні КДБ Рэспублікі Беларусь.

*20 траўня*

Арганізацыя працы і дысцыпліна — ніякая. Калі галасавалі пункт аб грамадзянстве — спачатку было ў зале 203 дэпутаты, паўторна — ужо 250, амаль 50 набеглі з калідораў, з кафэ. Не склікаўшы людзей у залу, паставілі на галасаванне. Станкевіч нахіліўся да мяне і прашаптаў: «Шушка (Шушкевіч) перад выбарамі спікера запрасіў на кватэру Лукашэнку, Ганчара, рэзаў і чысціў селядца і прасіў: „Галасуйце за мяне! Я вас не пакрыўджу, буду падтрымліваць...”. А цяпер — такія ворагі Лукашэнка і Шушкевіч!». (Па-мойму, плётка, у якой зацікаўлены непрыяцелі Станіслава, а іх процьма.)

Аб дзяржаўнай мове ў Рэспубліцы Беларусь. Зноў вылезлі: Лакцюшын (учора — Сінчылін) і член нашай Камісіі, дзядок П. З. Мінчанка[51] (пасланец ад КПБ) і іншыя. Канешне ж, узяў і я слова. Пры маім выступленні рэпліку „Не пугай!” кінуў дэпутат з Барысава Трусаў[52] (не ўпершыню і менавіта „Не пугай!” — на „ты”, як у сябе на заводзе). Кінуў — пасля маіх слоў: „Для Беларусі стане горш, калі мы адступім назад ад Закона аб мовах”. Выступіў я нялепшым чынам, трэба будзе пры абмеркаванні п. 50 паправіць. І аднак жа за дзве дзяржаўныя мовы прагаласавалі 83 дэпутаты, а за адну беларускую — 204. Ура! Хоць гэта яшчэ толькі абмеркаванне праекта Канстытуцыі.

*21 траўня*

Пачалі з пытанняў непрадбачаных: выступленне дэп. Сапронава[53] аб злоўжываннях у замежным гандлі агаламшыла. Калі ўсё гэта праўда, то — жахліва! Слухалі з выключнай увагай і пры поўнай цішыні ў зале. Урад распрадае краіну, багацці народа, заганяючы людзей

[51] Мінчанка Пётр Захаравіч (нар. 1922) — старшыня Аршанскага гарадскога савета ветэранаў вайны і працы.

[52] Трусаў Іван Іванавіч (нар. 1944) — дырэктар Барысаўскага завода „Чырвоны металіст”.

[53] Сапронаў Уладзімір Аляксандравіч (нар. 1955) — намеснік начальніка аддзела знешнеэканамічных сувязяў ВА „Беларускалій”, Салігорск.

у жабрацтва. Выступіў Міністр хлебапрадуктаў — амбіцыйна — з водпаведдзю Герасюку. А Герасюк тут жа прыпёр яго да сцяны фактамі. Затым паўгадзіны аддалі тэме: як прымусіць дэпутатаў пастаянна быць на сесіях і ўдзельнічаць у пасяджэннях. Ой, што тут пачалося! Як узяліся бэсціць адзін аднаго! Шушкевіч неасцярожна назваў імёны адсутных дэпутатаў. А Станкевіч, бэсцячы яго за нібыта „пошла-кухонны ўзровень", сам пакарыстаўся менавіта такім стылем: „Вы можаце з маладой сваёй жонкай такое на кухні гаварыць...". Гэта — пра спікера Вярхоўнага Савета. Крэпенька! Выйшла: усе вы, шаноўныя, адною культурай валодаеце. Шушкевіч узарваўся: „Я не ў міліцыі ў вас, дэпутат Станкевіч, не падследчы на допыце ў вас!.." Затым дэп. Ганчар з гасподніх вышак спляжыў усіх. Асабліва Шушкевіча і Прэзідыум.

*25 траўня*

Выбары намесніка Старшыні Прэзідыума. Прапанавалі дэпутата Міцько, разумнага, інтэлігентнага чалавека, медыка па адукацыі. Правалілі: толькі 125 „за". Чаму? Праясніў сваім пытаннем да Міцько ваяўнічы дэпутат-генерал Сарокін[54]: „Вашы адносіны да ўваходу Беларусі ў Калектыўную Бяспеку?". Добра адказаў Міцько, вельмі добра, але ўжо было ясна, што „зарэжуць". Якая зацятасць ворагаў нашай дзяржаўнай незалежнасці!

Абмеркаванне главы Канстытуцыі „Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь". За прэзідэнцкую форму кіравання выказаліся толькі 132 дэпутаты. Зарэзалі саму ідэю „прэзідэнцтва". Ніякага прэзідэнта не трэба: ні „моцнага", ні „слабага" (як у Германіі). Не трэба! Слова ўзяў Ганчар: патрэбен галава ўлады, дзяржавы без галавы не бывае, такога няма ў свеце! Прагаласавалі паўторна. Набралі 147. Рост! Не разумеюць шаноўныя, не разумеюць, якая

[54] Сарокін Валянцін Інакенцьевіч (нар. 1929) — старшыня Гродзенскага абласнога аддзялення саюза ветэранаў Афганістана.

нас можа чакаць бяда — пры нашай масавай палітычнай культуры.

*26 траўня*

У „Розным”: дэп. Бойка[55] зачытаў ліст свайго выбаршчыка супроць „тарашкевіцы” (палічыў вартым увагі). Ліст рэзкі. Дарэмна зачапіў Данчыка. Пытанне ж увогуле правамернае і ў прынцыпе — рэзкасць справядлівая. „А можа, гэта правакацыя?” — сказаў Бойка, як бы звяртаючыся да прысутных дэпутатаў-філолагаў. Не, вядома, не правакацыя, але падумаць так можна — настолькі самаўпэўнена і напорыста ў друку „плянуююць” і „клясуюць”. Дарэмна А. Трусаў, узяўшы слова, „рашуча заявіў пратэст” супроць выступлення Бойкі. Праблема ж ёсць!

Абмеркаванне главы „Суд”. Пункт аб увядзенні суда прысяжных не прайшоў… пасля выступлення А. Трусава, які напомніў зале, што суд прысяжных быў ліквідаваны бальшавікамі пасля 1917-га. Знайшоў каму напомніць! Тым, для каго суд прысяжных вельмі непажаданы. Пытанне зусім не звязана з палітыкай, але раз выступіў у падтрымку апазіцыйнік і крытыкнуў бальшавікоў — усё, кранты! Адразу ж многія ўсумніліся і — 20 галасоў не хапіла. Трусаў забыўся, хто ў зале.

Пытанне аб Кантрольнай Палаце. Сама назва не прайшла. Дэп. Грынёў[56]: Трэба сістэма кантролю, а Палата пакуль не адпавядае. „Вы протаскиваете то, в чём заинтересованы”. (Гэта — Шушкевічу. Не зусім карэктна.) Дэп. Сапронаў: Не разумею логікі паводзін дэпутатаў, што галасавалі супроць. Патрэбен жа кантроль!

Дэп. Макейчанка[57] (у адказ на „шпільку” А. Трусава): І ў ЦК працавалі людзі, якія нешта ведалі ў галінах

[55] Бойка Уладзімір Васільевіч (нар. 1939) — з 1991 да 2001 старшыня Вышэйшага Гаспадарчага Суда Рэспублікі Беларусь.

[56] Грынёў Мікалай Фёдаравіч (нар. 1946) — старшыня Магілёўскага абласнога Савета народных дэпутатаў, член Канстытуцыйнай камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

[57] Макейчанка Барыс Андрэевіч (нар. 1937) — намеснік

гаспадаркі. Між іншым, гэта праўда: былі такія людзі — і дасведчаныя, і кампетэнтныя, і культурныя. На жаль, часта ім не хапала мужнасці, стойкасці, упартасці, іх волю ламалі недасведчаныя і некультурныя, амбіцыйныя і фанабэрыстыя „сталаначальнікі".

*27 траўня*

У „Розным" дэп. Герасюк гаварыў пра росквіт карупцыі ў Беларусі (набывае ўсё большыя маштабы). Папрасіў даваць яму слова па гэтым пытанні кожны дзень і да канца сесіі. (Брава, Герасюк! Малайчына! Нехта ж павінен пароць у вочы зладзюгам — што яны зладзюгі.) Дэп. Крыжаноўскі[58] спачатку расказаў пра састарэласць тэхнікі ў Беларусі і пра нядбайнасць Урада ў гэтай справе. Затым папракнуў дэпутатаў за нападкі на Шушкевіча — што не падпісаў Дагавор аб Калектыўнай бяспецы, асудзіў і за непрыманне імі Кантрольнай Палаты — бо яна пачала ўскрываць злачынствы мужоў дзяржаўных.

Пытанне аб дадатковых паўнамоцтвах Савета Міністраў у Канстытуцыі. Дакладчык дэп. Леўчык. Спрэчкі разгарэліся страшныя. Кебіч (пасля выступлення дэп. Какоўкі[59] і іншых) — ох і ўскіпеў ад злосці! „Ніводнай стрэльбы не прадалі ў Таджыкістан! І не прададзім без рашэння Вярхоўнага Савета! І вы, таварыш гаспадзін Трусаў, перастаньце!.. У газетах поўна хлусні!..". А пачаў сваю прамову так: „Спыніце балбатню! Іначай не магу

старшыні Дзяржэканомплана Рэспублікі Беларусь.

[58] Крыжаноўскі Мікалай Кірылавіч (нар. 1937) — член Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па пытаннях развіцця прамысловасці, энергетыкі, транспарту, сувязі і інфарматыкі. Член Часовай камісіі Вярхоўнага Савета па прывілеях. Член Канстытуцыйнай Камісіі. Член Ценявога Кабінета (урада) Апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце, уваходзіў у камітэт па барацьбе з карупцыяй.

[59] Какоўка Віктар Фёдаравіч (нар. 1949) — інжынер-тэхнолаг завода „Вымяральнік" (Наваполацк), член Камісіі Вярхоўнага Савета па пытаннях развіцця прамысловасці, энергетыкі, транспарту, сувязі і інфарматыкі. Член Камісіі па пытаннях дэпутацкай этыкі.

сказаць!..” (Ох і разышоўся! Відаць-такі — дапяклі!) Лакцюшын, Лукашэнка, асабліва генерал Гетц — крычаць так, што аж глушаць залу, патрабуюць амаль усенароднага ганьбавання дэмакратаў-апазіцыянераў. (Лакцюшын: „Все эти Каковки, Сасновы, Барщевские…”) Дэп. Заблоцкі абрэзаў крыкуноў, а галоўнае — гакнуў па эканамічнай палітыцы Урада за адсутнасць стратэгіі, за нягоднасць такога эканамічнага курса. Дэпутаты Жукоўскі[60], Мачуленка[61] зноў паднялі крык супроць дэмакратаў, — крык наогул, без канкрэтных прапаноў. Дэп. Сасноў[62] вельмі пераканаўча даў ім водпаведзь.

*28 траўня*

У „Розным” дэп. Чэпік[63] патрабаваў або — або: або — Урад у адстаўку, калі праўда тое, што казаў Герасюк, або — дэпутата Герасюка пазбавіць на паўгода мандата за яго ўчарашняе выступленне пра міністра хлебапрадуктаў Якушава М. С. Вось такое або — або. Такая інтрыга ў сюжэце.

Пытанне Аб дзяржаўнай службе. Дакладчык — дэп. Заблоцкі. Не ўцямлю, чаму Заблоцкі? Ён — намеснік старшыні Камісіі па навуцы і навукова-тэхнічным прагрэсе. Размова ж — пра служачых дзяржаўнага апарату! Дэп. Голубеў[64] зрабіў вельмі слушную прапано-

60 Жукоўскі Міхаіл Дзмітрыевіч (нар. 1926) — старшыня пастаяннай Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па справах ветэранаў вайны, працы і Узброеных Сіл.

61 Мачуленка Міхаіл Арцёмавіч (нар. 1941) — да дэпутацтва працаваў другім сакратаром Гомельскага абласнога камітэта КПБ.

62 Сасноў Аляксандр Віктаравіч (нар. 1947) — старшыня пастаяннай Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па пытаннях працы, коштаў, занятасці і сацыяльнай абароне насельніцтва.

63 Чэпік Васіль Васільевіч (нар. 1948) — старшыня Пастаўскага раённага Савета народных дэпутатаў.

64 Голубеў Валянцін Фёдаравіч (нар. 1955) — сакратар пастаяннай Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па міжнародных і знешнеэканамічных сувязях. Адзін з аўтараў Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі. З’яўляўся членам рабочай групы па падрыхтоўцы праекта

ву: аб абавязковым веданні беларускай мовы як мовы дзяржаўнай тымі, хто паступае на працу ў дзяржаўную ўстанову. Узнікла спрэчка. Дэп. Цярэшка[65]: „Камісія не прапаноўвала такога". Голубеў: „Непрыемна казаць, Іван Іванавіч, але Камісія тройчы разглядала і рэкамендавала гэтую прапанову". (Галасавалі як за прапанову аднаго Голубева. „За" — 42 галасы. Рэпліка з залы дэпутата-генерала Піскарова[66]: „Великое множество!" Здзеклівым тонам, вядома. Чаму ж з дзяржаўнай мовы і не паздзеквацца! У нас, у незалежнай Беларусі гэта можна. Нават пахвальна. Пад воплескі…)

*1 чэрвеня*

У „Розным". Дэп. Волкаў[67]: „Нам у Камісію прыйшло звыш 100 пісем пра дзяцей з ракам шчытавіднай залозы. Колькасць расце. Ужо цэлыя сем'і хварэюць. Усіх чакае смерць! Дзяцей запісваюць інвалідамі ад нараджэння! Гэта дзікунства!"

Дэп. Качан. Тэма — Другі з'езд камуністаў Беларусі, названы аб'яднаўчым. Чытае Зварот З'езда да Вярхоўнага Савета РБ. Аб недапусцімасці свабодных цэн на прадукцыю першай неабходнасці. Затым кінуў лозунг: „Адрадзіць саюзную дзяржаву! Іначай — пагібель!" Дэп. Судас[68]: пра ільготы пенсіянерам на транспарт у сельскай мясцовасці. Патрабуе вырашыць гэта пытанне ў карысць пакрыўджаных. Шушкевіч дае водпаведзь М. Грыбу[69] за

Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 1994 г.

65 Цярэшка Іван Іванавіч (нар. 1942) — намеснік старшыні Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па міжнародных справах і знешнеэканамічных сувязях.

66 Піскароў Віктар Аляксеевіч (нар. 1929) — генерал-лейтэнант унутранай службы.

67 Волкаў Анатоль Ягоравіч (нар. 1931) — кіраўнік радыелагічнага цэнтра, г. Пінск.

68 Судас Мікалай Міхайлавіч (нар. 1942) — намеснік начальніка ўпраўлення па працы і сацыяльнай абароненасці насельніцтва Гомельскага аблвыканкама.

69 Грыб Мечыслаў Іванавіч (нар. 1936) — другі старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, член Прэзідыума Вярхоўнага Савета, старшыня пастаяннай Камісіі па пытан-

яго выступленне ў „Народнай газеце” наконт падпісання Дагавора аб Калектыўнай бяспецы.

Слова ўзяў намеснік прэм’ера С. Лінг. Ад закона будзе залежаць, хто будзе працаваць на дзяржаўных службах. Тыя, што будуць, як жабракі, зазіраць у вочы кожнаму наведніку? (Гэта — у адказ тым, хто лічыць, што ў чыноўнікаў вельмі высокія зарплаты.)

*2 чэрвеня*

У „Розным”. Дэп. Холад[70] крытыкуе Кебіча, што не скарачае раздзьмутыя чыноўніцкія штаты. Дэп. Лябедзька[71] робіць запыт да сп. Жыльскага (старшыня камітэта па справах Рэлігіі) — у абарону каталіцкай парафіі ў Ашмянскім раёне, у абарону прыезджага святара (здаецца, са Славакіі). Няма ксяндзоў, а патрэба ў іх вялікая і ўсё нарастае. „У Гародні вучацца на ксяндзоў толькі 74 семінарысты. Гэтага зусім мала!” — бядуе Лябедзька. Дэп. Пракаповіч[72]: Спад вытворчасці працягваецца. Заключэнне эканамічнага саюза — працэс доўгі. Патрэбен палітычны Саюз у рамках СНД. Чаму ігнаравалі прапанову VII з’езда народных дэпутатаў Расійскай Федэрацыі аб утварэнні Канфедэрацыі? (Вось яно — куды хіліць! Да Канфедэрацыі! Нашто нам гэтая незалежнасць!)

Пытанне аб барацьбе з эканамічным злачынствам і карупцыяй. Дакладчык — дэп. Папоў[73]. Схапіліся спра-

нях нацыянальнай бяспекі, абароны і барацьбы са злачыннасцю. Генерал-лейтэнант міліцыі (1993).

70 Холад Павел Ігнатавіч (нар. 1935) — дырэктар Рэспубліканскай вучэбна-спартыўнай базы Добраахвотнага таварыства садзеяння арміі, авіяцыі і флоту (г. п. Плешчаніцы).

71 Лябедзька Анатоль Уладзіміравіч (нар. 1961) — намеснік старшыні Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па справах сям’і і моладзі. У 1992 стварыў Беларускую асацыяцыю маладых палітыкаў і быў яе прэзідэнтам.

72 Пракаповіч Пётр Пятровіч (нар. 1942) — галоўны інжынер Брэсцкага аблміжкалгасбуда, генеральны дырэктар Брэсцкага аблсельсбуда, ВА „Брэстаблсельбуд”.

73 Папоў Юрый Мікалаевіч (нар. 1949) — намеснік старшыні

чацца, што такое карупцыя. Дэп. Булахаў: Суб'ектам карупцыі з'яўляецца ўвесь беларускі народ! Бо эвентуальна кожны так ці іначай у ёй удзельнічае… Дэп. Какоўка: Зняць першы артыкул! Дэп. Аксаміт[74]: Зняць увесь законапраект, дапрацаваць і ў канцы сесіі прыняць! Як добра ў ходзе абмеркавання пытання аб карупцыі бачна, хто не мае ніякага дачынення да злачынстваў, у каго сумленне чыстае!.. Гэта адчуваецца вельмі выразна. Сумленны чалавек (напрыклад, Аксаміт) гаворыць такім асаблівым тонам — і без крыку, і пераканаўча. Або як дэп. Герасюк, які сказаў: „Пры паступленні на дзяржаўную службу кожны павінен прад'явіць дэкларацыю". Так усюды ў свеце. Але калі вам падабаецца без дэкларацый — хай будзе так! (Прагаласавалі прапанову Герасюка: „за" — 171. Не прайшла. Дзіва што!..)

Ну і схватка! Па колькі разоў бяруць слова адны і тыя ж. Большасць схіляецца, што гэта не закон, а пастанова аб узмацненні барацьбы з карупцыяй і злачынствамі ў сферы эканомікі.

*3 чэрвеня*

У „Розным" першы ўзяў слова дэп. Прывалаў[75]. О, які, аказваецца, гэта ваяўнічы палкоўнік! Ястрабок! Але ж і заслужыў: крыкамі сагналі з трыбуны. Не любяць нашыя людзі празмернай ваяўнічасці. Дэп. Федарчук[76]: Побач з вамі, Станіслаў Станіслававіч, група па згатаванню віцебскіх „блюд", асабліва з Кантрольнай палаты. Знаю людзей, якія не мяняюць масак. (Нейкія цяжкія закіды, а пра што?)

Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па пытаннях нацыянальнай бяспекі, абароны і барацьбы са злачыннасцю.

74 Аксаміт Мікалай Уладзіміравіч (нар. 1954) — мастак-афармляльнік (Ваўкавыск).

75 Прывалаў Леанід Пятровіч (нар. 1940) — намеснік старшыні Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па пытаннях нацыянальнай бяспекі, абароны і барацьбы са злачыннасцю.

76 Федарчук Мікалай Аляксеевіч (нар. 1941) — старшыня Віцебскага гарадскога Савета народных дэпутатаў.

Дэп. Маркевіч[77] у прамове ўжыў слова „шпалеры”. У зале — бачна — не разумеюць, што гэта. Трэба рускім языком гаварыць, шаноўны!

Дэп. І. Трусаў. Пытанні Шушкевічу: Ці падпісаў Станіслаў Станіслававіч Дагавор аб Калектыўнай бяспецы? Якую пазіцыю ў гэтым займае Прэзідыум? І нарэшце: калі вы былі шчырым? (Во дзе сапраўдная „вандэя”! Божа, як мы яшчэ далёка да беларускай Беларусі!)

Дэп. Казлоў[78]. Выйшаў, каб пахваліць „Фемиду” — як найвыдатную ў Беларусі газету (не важна, што на мове другой краіны). Пафас выступлення: „Далоў Шушкевіча!” Абкладаюць Стася. Але ці толькі яго? Думаю пра выступленні на сесіі дэпутата І. Т. Увесь час адчуваю, што гэты беларус няйначай як вывучанік вядомага „северозападника” І. Саланевіча. Умоўна, бо гэтага прозвішча ён, напэўна, і не чуў, тым больш яго шавіністычных опусаў не чытаў. З першых момантаў знаёмства мая інтуіцыя па адносінах да яго — у напружанні, у насцярожанасці. Цяпер ясна, чаму на плошчы крычаць „Шушкевича в отставку!”. У крыкуноў ёсць натхняльнікі і абаронцы. Вось і рашылі ўзяцца. Ужо ўзяліся.

Пытанне аб Камітэце Дзяржаўнай Бяспекі. Дакладчык — дэп. М. Грыб. Па дакладу разгарнуліся цікавыя спрэчкі.

Дэп. Станкевіч: Камітэт не павінен быць у веданні Прэзідыума ВС! Яго трэба неадкладна перадаць у веданне Савета Міністраў. І кропка. І ніякіх размоў! (З тым жа апломбам, як і заўсёды.) Дэп. Малашка[79]: Усім ясна, дзеля чаго хочуць перападпарадкаваць Камітэт Саўміну. Для таго, каб запалучыць аператыўную

[77] Маркевіч Мікалай Мікалаевіч (нар. 1962) — карэспандэнт абласной газеты „Гродзенская праўда”.

[78] Казлоў Генадзь Іванавіч (нар. 1946) — першы намеснік начальніка Упраўлення па пытаннях правоў грамадзян, грамадскай бяспекі і абароннай работы Кіраўніцтва справамі Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь.

[79] Малашка Віталь Аляксеевіч (нар. 1958) — вядучы інжынер Навукова-даследчага інстытута сродкаў аўтаматызацыі, Мінск.

сілу ў СМ і пазбавіць Вярхоўны Савет неабходнай інфармацыі... І ўсё ж рашылі прагаласаваць. Раптам выходзіць Лінг. І катэгарычна патрабуе: Перападпарадкаваць Камітэт Саўміну! Абавязкова! Не драбязіце функцый КДБ. Сачыць за дзейнасцю Савета Міністраў — гэта дробязь! Генерал Піскароў. Рашуча за перападпарадкаванне Саўміну. Нарэшце пачалі галасаваць. За тое, каб пакінуць, як ёсць — г. зн. за рэдакцыю Камісіі — 98 галасоў. Не прайшло. За перападпарадкаванне Саўміну — 147. Таксама не прайшло. Але больш, і на многа, чым за рэдакцыю Камісіі Вярхоўнага Савета.

Пытанне аб Грамадскіх аб'яднаннях. Дакладчык — дэп. Вярцінскі. Даклад разумны, пераканаўчы. У Беларусі на сёння 420 грамадскіх аб'яднанняў, зарэгістраваных. (Ніколі не падумаў бы, што іх аж столькі! Во — актыўнасць грамадзян на свабодзе!) Так рэалізуюцца правы грамадзян на аб'яднанні. А ў зале — ніводнага пытання дакладчыку, ніводнай рэплікі, ніводнага выступлення! Значыць, ніякіх праблем няма. Прагаласавалі моўчкі. „За" — 178. Усяго! І ніякіх пярэчанняў не было — і не блаславілі. Дзіўны народ сабраўся ў зале ВС!

*4 чэрвеня*

У „Розным". Дэп. Слямнёў — аб дыскусіі па Калектыўнай бяспецы. Тлумачыць талкова — у апраўданне Шушкевіча.

Дэп. Жураўлёў[80]: падтрымлівае рашэнне ген. Казлоўскага[81] аб звальненні з арміі афіцэра М. Статкевіча, б'е Шушкевіча за пазіцыю ў гэтым пытанні („Вас втянули!"). Дэп. Гермянчук. Аб дамове наконт стратэгічных сіл. Калі пачаў гаварыць пра неадпаведнасць тэкстаў дамовы на беларускай і рускай мовах — у зале іранічна

[80] Жураўлёў Мікалай Іванавіч (нар. 1922) — намеснік старшыні Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па справах ветэранаў вайны, працы і ўзброеных сілаў.

[81] Казлоўскі Павел Паўлавіч (нар. 1942) — міністр абароны Рэспублікі Беларусь.

заа-яй-калі. Не зусім тактоўна зрабіў запыт Кебічу: „Калі не маеце — я вам дам свайго карэктара”. Не зусім тактоўна па форме, а па сутнасці — зусім справядліва: павінны ж быць у Саўміне людзі, якія дасканала валодаюць беларускай мовай — каб змястоўных, сэнсавых разыходжанняў у тэкстах не было. Дэп. Лябедзька: Чым праславіў Беларусь Карл Маркс, што яго імем названа вуліца, на якой знаходзіцца наш Вярхоўны Савет? Мінгарсавет павінен тэрмінова разгледзець гэта пытанне!

Пытанне аб справаздачы Нацыянальнага Банка. Дакладчык С. Багданкевіч[82]: Калі мы не спынім інфляцыю — не выйдзем з крызісу. Нашы крэдыты павінны быць дарагімі — іначай тупік, і ніякіх ілюзій. Крэдытная палітыка павінна быць больш жорсткай. У камерцыйных банках рэсурсаў — 40 млрд. рублёў. Нацынальны Банк — не Сабес (Аддзел сацыяльнага забеспячэння). Да якога часу ён будзе іменна такім Сабесам? Не пераменім закон — наперадзе тупік і поўны крах эканомікі! Рост аплаты працы на 60 працэнтаў перавышае прадукцыйнасць працы! А ільготы? На ўсё — ільготы! Гэта ненармальна! Утварылі камісію па кантролю за дзейнасцю камерцыйных структур. Старшынёй Камісіі абралі дэп. Лукашэнку.

*8 чэрвеня*

У „Розным” дэп. Жук[83] падняў пытанне аб будаўніцтве вакол Мінска і іншых гарадоў на захопленай зямлі катэджаў (дамоў, палацаў). Трэба перагледзець Зямельны кодэкс. Старшыні сельсаветаў робяць, што хочуць. Дэп. Заблоцкі: Рэформа не ідзе. Ёсць ілюзіі, што мы рэфармуемся. Законы не выконваюцца. Развал паглы-

[82] Багданкевіч Станіслаў Антонавіч (нар. 1937) — беларускі эканаміст, грамадска-палітычны дзеяч, прафесар. Старшыня Нацыянальнага банка Беларусі ў 1991–1995 г.

[83] Жук Анатоль Міхайлавіч (нар. 1938) — першы намеснік старшыні выканкама Мінскага абласнога Савета народных дэпутатаў.

бляецца. Спрэчкі па ўчарашнім дакладзе Багданкевіча. Дэп. Беленькі[84]: Нацыянальны Банк самастойнай крэдытна-грашовай палітыкі не праводзіць, — як і ў 1991 годзе, аб чым тады адкрыта гаварыў Багданкевіч. Дэп. Лукашэнка крайне рэзка выказаўся пра падрыў эканомікі, пра нейкую незразумелую прыватызацыю. Затым — пра вайну між кіраўніцтвам Вярхоўнага Савета і Урадам. «„Ад Савета Міністраў пахне мерцвячынай", — кажуць у Вярхоўным Савеце». (Шум у зале, крыкі: „Хто кажа? Назаві!") Рэпліка Шушкевіча: „Чую першы раз! Першы раз! Як можна так безадказна гаварыць?" Дэп. Цялежнікаў[85]: Мы думалі, нам удасца перасядзець і выйграць. Не ўдалося. Пераступілі рысу. Віна не Нацбанка. Вінавата наша эканамічная палітыка — крайне няўдалая. Трэба кардынальна змяніць падыходы — іначай к восені дамы не будуць ацяпляцца, заводы і фабрыкі масава стануць спыняцца. Трэба стымуляваць экспарт у Расію і гандаль з Расіяй. Трэба называць рэчы сваімі імёнамі. Сельскай гападарцы крэдыты выдаваць не бяздумна і не ўсім.

Дэп. Какоўка: У Латвіі рубліс, выпаўшы з рублёвай зоны, пайшоў угору. А ў нас? Чаму мы не зрабілі гэтак? Хацелі жыць за чужы кошт? Трэба сесці за стол перамоў з Расіяй і ўсё чыста выкласці. Мы не бяром ні капейкі за чыгунку, за газапровад і многае іншае. Трэба даць больш прасторы прыватызацыі! — каб кожны паклапаціўся пра сябе, што ён будзе есці.

Дэп. Новік: Наш урад напорна імкнеца да дэстабілізацыі! Разам з Нацбанкам. Яны пагоршылі эканамічную сітуацыю ў краіне. Банк не кіруе сітуацыяй. Цэны выраслі на 5000 працэнтаў! Хіба гэта — не гіперінфляцыя? А хто атрымаў ільготны крэдыты? Нямногія. І несправядліва. Расія, маючы друкарскі станок для

[84] Беленькі Юрый Адамавіч (нар. 1960) — працаваў у складзе Апазіцыі Беларускага Народнага Фронту ў Вярхоўным Савеце, член планавай і бюджэтна-фінансавай Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

[85] Цялежнікаў Уладзімір Іванавіч (нар. 1954) — дырэктар Полацкага камбіната будаўнічых матэрыялаў.

рублёў, нас душыць. Яна экспартуе інфляцыю ў нашу краіну. Наша багацце — высокакваліфікаваныя кадры. Нас рабуюць — праз фінансавую сістэму. Колькі ўвозіцца грошай з Расіі? Як кантраляваць грашовую масу? Ніяк. І яе ніхто не кантралюе. І апошняе: патрабую ўвесці беларускую грашовую адзінку! (Ну малайчына, Новік! Во каго міністрам паставіць!)…

*9 чэрвеня*

Закон аб праве ўласнасці на зямлю. Дэп. Гаркун[86] (старшыня Камісіі па аграрных пытаннях): Камісія рэкамендуе замацаваць у Законе дзве формы ўласнасці: дзяржаўная і прыватная. Упершыню, калі мы абмяркоўвалі Праект на Камісіі, не было аднадушнага пагаднення. Пачалося галасаванне (паіменнае, бо надта важнае пытанне). За прапанову Камісіі — 194 галасы. За папраўку дэп. Лакцюшына (толькі дзяржаўная ўласнасць!) — усяго 41 голас. „Дзяды" атрымалі паразу. Дэп. Жук: Вясковыя людзі ўсе супроць прыватнай уласнасці на зямлю! Надта ж лёгка мы тут ставімся да выключна важнай праблемы! Дэпутат-ветэран Коваль[87]: Ні ў якім разе! Ні пядзі прыватнай! Толькі дзяржаўная! Дэп. Какоўка: Усе мае выбаршчыкі — і за прыватную. „Аддалі б нам нашы прысядзібныя кавалачкі!.." Дэп. А. Трусаў: А ўспомніце, як бальшавікі адбіралі ў сялян зямлю! …

Дэп. Баршчэўскі: На сёння законапраект ужо састарэлы, але хоць гэткі трэба прыняць. (Састарэлы? Ужо? А які быў бы самы раз на сёння? Бальшавіцкі — з процілеглым знакам? Сацыяльны пераварот?) Дэп. Бамбіза[88]: Давай-

[86] Гаркун Уладзімір Гіляравіч (нар. 1946) — старшыня Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па аграрных пытаннях, харчаванні і сацыяльным развіцці сяла.

[87] Коваль Мікалай Мікалаевіч (нар. 1928) — старшыня калгаса „XXI з'езд КПСС" Рэчыцкага раёна.

[88] Бамбіза Іван Міхайлавіч (нар. 1952) — беларускі дзяржаўны дзеяч, старшыня назіральнай рады ААТ „Белаграпрамбанк".

це ўдасканалім Зямельны Кодэкс, які ёсць! З якой мэтай мы ўводзім прыватнае права на зямлю?

Дэп. Дубоўскі: Два гады працавалі над законапраектам у Камісіі. Праз дзесяць гадоў будзе трэба яго карэктаваць. Нічога страшнага для калгасаў у Законе няма. Тры-чатыры соткі зямлі — дайце людзям! Дайце! І ў сацыяльным плане — вялікая карысць!

Дэп. Зданевіч[89]: „Вы!.. Вы! Вы!..” — з такім абурэннем і так рэзка крычаў на дэпутатаў — праціўнікаў прыватызацыі зямлі, то ў яго адабралі мікрафон. Як вадой сцюдзёнай абдалі!..

Дэп. Гаркун: Продаж зямлі ўсё адно ідзе! Але — падпольны. Незаконны. Без дазволу дзяржавы, у абыход Закона. Дэп. Лукашэнка: Хто пралічыў, што будзе з эканомікай, калі пачнецца купля і продаж зямлі? Дэп. Марыніч[90]: Увесь свет чакае, калі ён зможа ўкладаць інвестыцыі ў эканоміку Беларусі. Дэп. Малашка: Трэба выдзяляць зоны, дзе могуць у нас купляць зямлю замежнікі, каб — не ўсюды, дзе ім захочацца, не любы ласы кавалак!..

*10 чэрвеня*

У „Розным”. Дэп. Зарэцкі[91]: Пакуль не вызначылі, якое грамадства мы хочам пабудаваць, — няма сэнсу прымаць закон аб праве ўласнасці на зямлю. І не трэба ставіць сёння пытанне аб прыватнай уласнасці на зямлю. Гэтаксама і наконт прыватызацыі дзяржаўнай маёмасці. (Правільна! Сур’ёзная перасцярога!) Дэп. Сеч-

[89] Зданевіч Лявонцій Ульянавіч (нар. 1955) — беларускі архітэктар і палітык, член Канстытуцыйнай камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь з 1990, а таксама Апазіцыі БНФ і яе „Ценявога кабінета”.

[90] Марыніч Міхаіл Апанасавіч (нар. 1940) — былы старшыня Мінскага гарадскога выканаўчага камітэта, член Планавай і бюджэтна-фінансавай камісіі і Камісіі па пытаннях архітэктуры, будаўніцтва, вытворчасці будаўнічых матэрыялаў і жыллёва-камунальнай гаспадаркі сяла і горада.

[91] Зарэцкі Сцяпан Рыгоравіч (нар. 1945) — старшыня Чачэрскага раённага Савета народных дэпутатаў.

ка[92] праінфармаваў аб стварэнні дэпутацкай групы „Згода”. У групу ўвайшлі: Сапронаў, Карпенка[93], Марыніч, Булахаў, Даўгалёў[94], Драбышэўская[95], Сукач[96], Сярдзюк[97], Кічкайла[98] і інш. — усяго 20 чалавек. Цікава, хто ініцыятар стварэння „Згоды”? І на якой платформе згода? Што агульнага, напрыклад, у Карпенкі з Булахавым?

Дэп. Волкаў: Калі Беларусь пакінулі стратэгічныя сілы СССР, засталіся пуставаць 150 ваенных гарадкоў. Гэта — багацце беларускага народа. Размешчаны яны ў экзатычна прыгожых мясцінах: зялёных, чыстых, упарадкаваных. Іх трэба аддаць для чарнобыльскіх дзяцей — для аздараўленчых комплексаў. Іначай гэтыя гарадкі захопяць камерцыйныя структуры. (Правільна, сп. Волкаў! Абавязкова захопяць! І не агледзімся, як захопяць. Вельмі слушна сказалі!)

Працяг абмеркавання закона Аб праве ўласнасці на зямлю. Дэп. Грынёў: артыкул аб чарнобыльцах і чарнобыльскіх землях не ўзважаны, з істотнымі заганамі. Дэп. Скарабагацька[99] падтрымлівае Грынёва і патрабуе

92 Сечка Леанід Міканоравіч (нар. 1948) — намеснік старшыні Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па пытаннях экалогіі і рацыянальнага выкарыстання прыродных рэсурсаў.

93 Карпенка Генадзь Дзмітрыевіч (1949–1999) — беларускі навуковец і палітык. Старшыня камісіі па навуцы і навукова-тэхнічным прагрэсе. У 1992 узначаліў Маладзечанскі гарвыканкам.

94 Далгалёў Васіль Барысавіч (нар. 1951) — сакратар Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па пытаннях работы Саветаў народных дэпутатаў і развіцця самакіравання.

95 Драбышэўская Інэса Міхайлаўна (нар. 1947) — галоўны ўрач Гомельскага абласнога анкалагічнага дыспансэра.

96 Сукач Міхаіл Данілавіч (нар. 1941) — дырэктар міжгаспадарчага прадпрыемства „Стадолічы” Лельчыцкага раёна.

97 Сярдзюк Валерый Канстанцінавіч (нар. 1952) — сакратар Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па навуцы і навукова-тэхнічным прагрэсе.

98 Кічкайла Аляксандр Трафімавіч (нар. 1933) — намеснік Мінсітра сельскай гаспадаркі і харчавання Рэспублікі Беларусь.

99 Скарабагацька Пётр Андрэевіч (нар. 1949) — старшыня

артыкул зняць і дапрацаваць. Дэп. Смоляр[100] абвяргае Грынёва, яго заўвагі трэба абмеркаваць асобна. Дэп. Лукашэнка: па Смоляру — дык там жывуць не людзі. Гэтага артыкула мала, трэба даць яшчэ адзін артыкул аб абароне чарнобыльцаў!

Дэпутат-генерал Гетц: трагедыя ў тым, што ўсё гэта транслюецца па тэле. „Товарищ Лукашенко! Или оставьте этот Верховный Совет, или перестаньте заниматься словоблудством!”

Дэп. Станкевіч: Хопіць спекуляваць на чарнобыльскай тэме! Не бяры, не прыватызуй, калі забруджаная — і ўсё!

Дэп. Сасноў: Ідзе свядомая блакіроўка Закона — і толькі! Блакіроўка „чарнобылем” — каб не зрабіць хоць маленькі крок наперад да прыватнай уласнасці на зямлю.

*11 чэрвеня*

„Рознае”. Дэп. Сапронаў выказаў абурэнне, што на яго запыт міністру няма ніякага адказу. „Гэта дзяржава — ці што? Адно прадпрыемства спаганяе з другога плату ў валюце, не маючы ніякага юрыдычнага права! Ідзе нарастанне крытычнай масы! Скора выбухне!..”

Дэп. Сумар[101] — аб бясчынствах у сферы рынку збыту, аб бедах вытворцаў гароднінная прадукцыі.

Дэп. Зяленін[102]: што за парадак і дысцыпліна? Зарэгістравана 232 дэпутаты, а ў зале — 156. Суседзі рэгіструюць адсутных! Трэба пазбавіць такіх дэпутатаў мандата і правесці ў акругах новыя выбары! Чаму пакрываем мы іх?

Лунінецкага раённага Савета народных дэпутатаў.

[100] Смоляр Іван Мікалаевіч (нар. 1938) — былы старшыня пастаяннай Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па праблемах наступстваў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і забеспячэння бяспечнага пражывання насельніцтва рэспублікі.

[101] Сумар Канстанцін Андрэевіч (нар. 1949) — старшыня Брэсцкага раённага Савета народных дэпутатаў.

[102] Зяленін Валерый Іванавіч (нар. 1949) — вайсковец, начальнік лабараторыі вымяральнай тэхнікі.

Пытанне „Аб статусе дзяржаўнай граніцы". Дэп. Бачароў[103] зрабіў добры аргументаваны даклад. Прагаласавалі: за — 202. Упэўнена прайшло. Цікава, як некаторыя пытанні праходзяць. Здавалася б, у пафасе многіх прамоўцаў: „Ніякіх граніц! Ні з Украінай, ні з Расіяй!" А вось жа прагаласавалі. Значыць, за „адмежаваную" Беларусь?..

*15 чэрвеня*

У „Розным" — дэп. Піскароў, іранічна кагось цытуе: „Вярхоўны Савет працуе добра?". Нельга так ацэньваць работу ВС — калі рэзка павышаюцца цэны, ідзе сацыяльнае расслаенне грамадства. „Даць сацыяльна-эканамічную інфармацыю", — гэта — да Шушкевіча і Кебіча.

Дэп. Вярцінскі А. І. даў адпор выдавецтву „Эрыдан" за яго праект Закона аб мовах. Зачытаў зварот гр. Саламонава ў абарону беларускай мовы. Дэп. Лукашэнка: патрабуе неадкладнай справаздачы кіраўнікоў дзяржавы аб сацыяльна-эканамічным становішчы ў краіне. І прафсаюзаў таксама! І нельга спешна згортваць работу Сесіі! (А гэта правільна.)

Закон Аб дзяржаўнай службе (працяг абмеркавання).

Дэп. Заблоцкі. Зноў: у служачых трэба прымаць прысягу! Паставілі на галасаванне. За — усяго 167. Завязалася спрэчка. За прысягу выступілі дэпутаты Вярцінскі (А. І.), Грыб. А дэп. Савіцкі супроць (іранічна-здзеклівa). Дэп. Бабачонак[104]: або здымайце законапраект зусім — або абавязкова з прысягай! Яшчэ раз заклікае галасаваць за прысягу Заблоцкі, спасылаецца на Гарыбальдзі: „Создали идеалы, теперь создадим гражданина" (мудра!). Зноў на галасаванне — і зноў недабор. Не праходзіць! Цікава! Не хочуць нашыя дэпутаты цырыманіялаў!

[103] Бачароў Яўген Міхайлавіч (нар. 1948) — генерал-маёр, камандзір вайсковага злучэння.

[104] Бабачонак Станіслаў Ульянавіч (нар. 1937) — дырэктар прадпрыемства „Маналіт" (Магілёў).

*16 чэрвеня*

Рознае. Дэп. Ваўчэцкі[105] (з нашай Камісіі) зачытаў пастанову прафсаюза аб забастоўцы настаўнікаў з 1-га верасня, калі не павялічаць зарплату. (Правільна! Колькі можна цярпець жабрацкае становішча?) Дэп. Какоўка зачытаў Зварот калектыву рабочых завода і гарадскога Савета дэпутатаў (г. Наваполацак). Б'е Кебіча за… мае час наведаць фестываль у Маладзечне, лікёра-гарэлачны завод і пахваліць прадукцыю, а на наш горад часу не мае.

Дэп. Баршчэўскі. Услед за Валчэцкім гаворыць пра мізэрную зарплату работнікаў адукацыі. Зарплата служачых у прамысловасці ўсё ж на 50 і нават на 70 працэнтаў большая, чым у настаўнікаў.

Дэп. Бойка — аб папярэджанні рабочых прафсаюзаў: патрабуюць адмяніць падаткі на дабавачную вартасць. Ужо на гэтай сесіі трэба разгледзець пытанне аб эканамічна-сацыяльным становішчы ў Рэспубліцы.

Аб прыватызацыйных чэках. Дэп. Кудравец[106]. „Прыхватызацыя" ідзе ўжо на мільярды, а не на мільёны. Трэба вярнуць усё да нуля назад — дзяржаве і тады пачаць спачатку — сумленна, па закону. (Гэта тысячу раз правільна! Толькі так!)

Дэп. Баршчэўскі і ўслед дэп. Трусаў: ні ў якім разе не прыватызаваць бібліятэкі і музеі! Гэта пярэчыць Закону аб культуры! Паставілі на галасаванне. За іх прапанову — 220. Брава! Хоць гэтыя аб'екты культуры пакінулі дзяржаве.

*17 чэрвеня*

У „Розным". Дэп. Лябедзька: 240 дэпутатаў прагаласавалі за агульныя стратэгічныя (ядзерныя) сілы (СНД-1). Гэта не клопат пра нейтральную Беларусь. А дзе гарантыя? Дэп. Пазьняк: без пэўных вызначальных палажэнняў прымаць Канстытуцыю няма сэнсу. БНФ —

[105] Ваўчэцкі Уладзімір Вячаслававіч (нар. 1935) — настаўнік Суткоўскай СШ Уздзенскага раёна.

[106] Кудравец Віктар Міхайлавіч (нар. 1947) — намеснік старшыні Гродзенскага Савета народных дэпутатаў.

за парламенцкую рэспубліку! (Правільна! Толькі так! Толькі парламенцкая!)

**Аб праекце Канстытуцыі РБ.** Дэп. Шаладонаў[107]. Прапануем тры блокі законапраекта — тры варыянты: першы — на чале дзяржавы прэзідэнт, другі — улада прэзідэнта абмежаваная, трэці — дзяржава без прэзідэнта, парламенцкая рэспубліка. Прагаласавалі за кожны. Вынікі засведчылі адсутнасць адзінага погляду на форму вярхоўнага кіравання ў дзяржаве. І аднак жа блок першы (з моцным прэзідэнтам) набраў 213 галасоў, каб яшчэ 17 — і прайшоў бы. І мне страшнавата: на першую ролю вылезе антыбеларус — і Беларусі каюк! А нашай мове — перш за ўсё.

*29 чэрвеня*

Напачатку — сустрэча з Лехам Валенсам. Натуральна, яму першаму і далі слова. Выказаўся з дыпламатычнай далікатнасцю, але і з яўнымі сімпатыямі да ўсходняй суседкі. Не сказаў бы, што ў зале важную асобу слухалі ўважліва і з дастатковай павагай. Калі ж сказаў, што „Салідарнасць” будзе супрацоўнічаць з Беларускім Народным Фронтам — у радах зашумелі яшчэ больш. Пайшлі галасы, і чуць гэта было непрыемна. Калі скончыў сваю нядоўгую прамову — воплескі былі досыць рэдзенькія. Адным словам — не „герой часу”.

Далей пайшло „Рознае”. Дэп. Качан: Што далі рэспублікам суверэнітэты? Патокі крыві? Куды вы, Станіслаў Станіслававіч, нас вядзеце? У 17-ы век? У грамадстве — „растление”! А што робіцца з асвятленнем нашай гісторыі? Нацыянальнымі героямі становяцца здраднікі тыпу Вацлава Іваноўскага! Народ вам не даруе гэтага! Да якога часу вы, Станіслаў Станіслававіч, будзеце разбураць тое, што стварыў народ? Дэп. Трафіменка злосна „пахваліў” Валенсу: той пацвердзіў ленінскі тэзіс, што дзяржавай можа кіраваць „кухарка”. А ў нас з ленінскага тэзіса смяюцца. Дэп. Холад. Аб

[107] Шаладонаў Васіль Іванавіч (нар. 1948) — намеснік старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

крымінальных справах у Барысаве. Камісія ВС праверыла, а вынікі праверкі разгледзелі не на Прэзідыуме ВС, а ў Мінскім аблвыканкаме. Б'е Кебіча за патуранне „нягоднікам".

Дэп. Антончык[108]. Мае артыкулы аб канкрэтных злачынствах „Звязда" не друкуе („здымі прозвішча міністра"), „Народная газета" не друкуе (рэдактар Сярэдзіч[109] зрабіў высновы, бо сам хоча стаць кампаньёнам будаўнікоў). Вось такія сур'ёзныя абвінавачванні. З такой высокай трыбуны.

Дэп. Грыб: мы, дэпутаты ВС, маем права на непасрэдную інфармацыю аб міжнародных падзеях, справах, а бяром яе з друку, у інтэрпрэтацыі журналістаў. Напрыклад, аб забастоўках у блізкіх суседзяў, аб заяве ўрада Расіі — што мы ведаем з дакладных крыніц? Трэба, каб у нас быў свой інфармацыйны цэнтр.

Дэп. Жукоўскі[110]. Заяўляю пратэст супроць зневажання ветэранаў і гераізму народа ў Вялікай Айчыннай вайне. Іваноўскага рабіць героем — ганьба! А верх — апафеоз — гэтага — намер правесці вечар 50-годдзя Саюза Беларускай Моладзі. У савецкай Беларусі, іменна ў савецкай, былі створаны ўмовы для суверэннай дзяржавы! (Усё гэта — з вялікім-вялікім пафасам, нават большым, чым заўсёды.)

**Пытанне аб Камітэце Дзяржаўнай Бяспекі: каму КДБ павінен належаць — Савету Міністраў ці Вярхоўнаму Савету?** Дэп. Грыб за першае — за Савет Міністраў. (Вельмі кепска слухае зала. Старшыня дае званок за званком. Крыкі: „Галасуем!".) Зноў разгарэліся спрэчкі. Дэп. Грыбанаў: ні ў якім разе нельга ў СМ!

[108] Антончык Сяргей Антонавіч (нар. 1956) — апаратчык Мінскага вытворчага аб'яднання імя У. Леніна, член Апазіцыі БНФ. Быў у складзе антыкарупцыйнай парламенцкай камісіі, якую ўзначаліў А. Лукашэнка.

[109] Сярэдзіч Іосіф Паўлавіч (нар. 1949) — з 1990 да 1995 галоўны рэдактар „Народнай газеты", органа Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

[110] Жукоўскі Міхаіл Дзмітрыевіч (нар. 1926) — старшыня Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па справах ветэранаў вайны, працы і ўзброеных сілаў.

Заклікаю не галасаваць! Дэп. Майсееў: чаму Кебіч так цягне КДБ у СМ, пад сваё крыло? Задумаліся? Прашу вас устрымацца ад непрадуманага кроку!

Дэп. Баршчэўскі: Хай вырашыць новы Вярхоўны Савет! У вас усё роўна не пройдзе! Гэта пытанне канстытуцыйнае. Толькі пасля прыняцця новай Канстытуцыі вырашыцца.

Дэп. Навумчык: у 1991 годзе паводзіны старшыні КДБ Шыркоўскага былі годнымі. Вы ж не захацелі!.. Вы ж не захацелі!.. Вы ж!.. Вы!..

Дэп. Папоў: КДБ павінен быць падпарадкаваны Савету Міністраў! Урад адказвае за бяспеку дзяржавы! Як без КДБ ён забяспечыць? З юрыдычна-прававога пункту гледжання — толькі СМ! (У зале шум, крыкі, поўны хаос!) Кузняцоў[111] яўна не спраўляецца з залай. Трыбуну захапіў дэп. Папкоў[112]. Крычыць: „Мікрафон выключылі за трыбунай! Мікрафон дайце!” Да Кузняцова падляцеў Пазьняк, нешта крычыць яму ў твар, што — не чую. Каля мікрафона на праходзе галяпуе Гермянчук: дайце звесткі! дайце звесткі аб…! Затым махнуў рукой і пайшоў на праводзіны Леха Валенсы, недзе там жа і Шушкевіч. А тым часам прагаласавалі. Трох галасоў для перамогі Саўміна не хапіла. Засталося, як было.

**Пра падпісанне Шушкевічам Дагавора аб калектыўнай бяспецы.** Старшыня ВС Шушкевіч тлумачыць, чаму да гэтага часу Дагавор не падпісаны. (Ой, зараз будзе гвалт! Ой, будзе!) Даказвае, чаму нам ні ў якім разе нельга падпісваць гэты Дагавор. У Таджыкістане ўжо загінула сто тысяч чалавек. Дык што — і мы ўцягнемся туды? (Добра гаворыць, пераканаўча. Вельмі пераканаўча!) Ва Узбекістане насельніцтва ў два разы больш, чым у Беларусі. А армія ў пяць разоў меншая.) Дэп. Ганчар: „Сем пятніц на тыдні. Абвергніце,

[111] Кузняцоў Вячаслаў Мікалаевіч (нар. 1947) — старшыня Савета народных дэпутатаў г. Мінска, з 24 лютага 1992 г. быў першым намеснікам старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

[112] Папкоў Сяргей Пятровіч (нар. 1940) — дырэктар навукова-вытворчага прадпрыемства „Рыф-М” (Мінск).

што гэта не датычыць вас", „Ці маеце права кіраваць калектыўным органам?". (О, куды хапіў! Ды як бесцырымонна!)

Дэп. Гетц: Дзе карані — чаму пагаршаецца эканамічнае становішча? Шушкевіч: Нельга адной нагой стаяць у чоўне прыватызацыі, а другой — у чоўне планавай эканамічнай сістэмы! Прыклад трэба браць з Польшчы! (Г. зн. усё прыватызаваць.) Дэп. Навумчык: Ці не лічыце вы неабходным зрабіць кадравыя перамены, калі ва Урадзе такі развал? Шушкевіч: Не пра асобы гаворка, а пра канцэпцыі! Дэп. Казлоў. Дамагаецца, каб Шушкевіч выказаў свае асабістыя адносіны да Дагавора. Дэп. Новікаў[113] (генерал). Што перашкаджае вам выслухаць ваенных, афіцэраў? Апошняя вашая сустрэча з вайскоўцамі была 2 студзеня 1992 г. Шушкевіч. Армія павінна быць па-за палітыкай. Дэп. Мачуленка. Вы падпісалі ці не падпісалі Дагавор? У вашым лісце ў СНД няма ні слова аб тым, што Вярхоўны Савет РБ — за далучэнне Беларусі да Дагавора аб калектыўнай бяспецы. (Усё гэта — з веданнем працэдуры, юрыдычнага боку справы. О, як зацята, як настырна і як ядавіта!) Дэп. Мінько. Ці ўхваляеце вы ўдар ЗША па Іраку? (У зале рогат.)

Дэп. Сарокін (генерал). Чаму тут няма членаў Урада, калі абмяркоўваецца такое важнае пытанне? Дзе Кебіч, міністр Казлоўскі і іншыя? Усе гавораць на расійскай мове, і Шушкевіч таксама — нібыта адпаведна пытанню. Хаця — а чаму? Хай яны пытаюцца па-расійску, а ты — сячы ім на дзяржаўнай беларускай!

Дэп. Камай. Можна думаць, што вы перагледзелі сваю пазіцыю, якую займалі ў Віскулях? Так ці не?

Шушкевіч. Жыццё ідзе наперад, і трэба ўлічваць новыя рэаліі і рабіць адпаведныя карэктывы. Дэп. Лукашэнка. „Игра!" Ён прымае нас за студэнтаў! „Только двусторонние отношения!" — заяўляў у Віскулях. (Ох, і

[113] Новікаў Анатоль Мікалаевіч (нар. 1941) — генерал-лейтэнант, намеснік камандуючага войскамі Беларускай ваеннай акругі, г. Мінск.

кусаюць! Ох, і грызуць Старшыню! Пра павагу і гаворкі няма.)

Шушкевіч. Калі вы хочаце „на калені” — то я „на калені” не хачу! І каб Беларусь падала на калені — не хачу! Вядома, трэба ісці па шляху двухбаковых згодаў, хаця я не выключаю і іншых пагадненняў.

Дэп. Новік (Шушкевічу): Колькі праз Беларусь на захад прайшло зладзейства? Ці лічыце вы, што калі б мы не засцерагліся і дапусцілі, наш Урад пайшоў бы на здачу беларускай Дзяржаўнасці, нашай незалежнасці?

Шушкевіч. Не хачу, каб з майго дакладу рабіліся такія высновы…

(Рэпліка Станкевіча — напаўголаса, для блізкага акружэння: „Столькі выпіўшы, можна яшчэ і не так гаварыць!” О-о-о, усе ў адну дудку!)

Дэп. Скарынін[114]. Здзекліва іранізуе, што Шушкевіч не ведае зместу Дагавора аб калектыўнай бяспецы. О, як прыпірае Станіслава да сцяны! Дэп. Вайцянкоў[115]: Паедзьце з Кебічам у Маскву, і праз два тыдні мы тут збярэмся і абгаворым сітуацыю. Бо сёння ў зале надта многа істэрыкі. Вы досыць паспешліва і нечакана для многіх праінфармавалі, а трэба спакойна, не так, як сёння… З’ездзіце пагаварыце ў Маскве…

*30 чэрвеня*

У „Розным”. Дэп. Ніканчук[116] — аб школьных падручніках: сітуацыя на сёння катастрафічная, вучыцца няма па чым.

Дэп. Звераў[117]. Мільёны даляраў пускаюць на чорт ведае што, а на лекі дзецям няма і цэнта! (Малайчына, Звераў!)

[114] Скарынін Мікалай Паўлавіч (нар. 1947) — галоўны саветнік Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь.

[115] Вайцянкоў Мікалай Рыгоравіч (нар. 1947) — старшыня Гомельскага абласнога Савета народных дэпутатаў.

[116] Ніканчук Аляксей Сямёнавіч (нар. 1943) — дырэктар СШ №1 г. Драгічына Брэсцкай вобласці.

[117] Звераў Леанід Аляксандравіч (нар. 1939) — загадчык рэнтгеналагічнага аддзялення Магілёўскай абласной бальніцы.

**Па дакладу С. С. Шушкевіча (працяг).** Дэп. Грыб. Вельмі настойліва — у абарону Дагавора аб калектыўнай бяспецы. (З унутраным напорам супраць Шушкевіча.) Дэп. Слямнёў. Спакойна тлумачыць, што праблемы з падпісаннем Дагавора па сутнасці няма. Апраўдвае дзеянні Шушкевіча.

Дэп. Піскароў. Рэкамендуе Шушкевічу ехаць у Маскву да Ельцына, а не ў Злучаныя Штаты да Клінтана. Дэп. Грынёў. Гаворыць спакойна, разважліва, — але! Як і Піскароў, рэкамендуе паехаць у Маскву, а не ў Амерыку. Дэп. Скарынін. Патрабуе прагаласаваць за давер Шушкевічу па галоўных пытаннях: Дагавор, КДБ, Рэферэндум і інш. Дэп. Зданевіч. Спакойна, але настойліва гне сваё (прыватызацыю). Дае ў косці і Шушкевічу — за непаслядоўнасць, за непадтрымку ў многіх пытаннях дэмакратаў.

Дэп. Сцепаненка (Шушкевічу): Ці ёсць у вас крэда? Лінія? Дзе паслядоўнасць? Што за „изворотливость”? Гэта ж палітычная спекуляцыя! Вы — як прафесійны акцёр! Перастаньце хітраваць! (Бросьте лукавить!) Патрабую: даклад Шушкевіча не прымаць! Паездку ў ЗША адмяніць! На чарговай сесіі паставіць пытанне аб даверы Шушкевічу!

(Даўно падазраваў, што гэты былы першы сакратар з Жыткавічаў належыць да ліку крайніх ачмурэлых. Помню, як ён не захацеў сустрэцца са сваім дэпутатам ВС Васілём Быкавым — ухіліўся, схаваўся ад гасцей. Прыехалі — у яго была нарада ў райкаме, і нас папрасілі пачакаць. А потым — няма! Знік! Сакратарка: „Наверное, куда-то срочно позвали…”. Куды? У Мінск? Дык папрасі прабачэння — і госць-дэпутат зразумее…) Дэп. Майсееў: Прэм’ер-міністра — неадкладна ў адстаўку! Наш Савет здольны на разумныя рашэнні. Дэп. Трусаў А. З чаго пачалося ў нас канфліктаванне? З пытання аб уласным войску. „Увесь урад сёння ж у адстаўку!” Дэп. Дзейка (у працяг Трусава): Хто і сёння ў дзяржаўных крэслах? Усе тыя ж чыноўнікі антыбеларускай загартоўкі! (Малайчына, Дзейка!) Дэп. Гілевіч. (Колькі гаварыў — увесь час бачыў, як генерал Піскароў вульгарна паводзіць сябе,

ёрнічае, „лыбіцца", бо — за трыбунай „не той", і не тое, што ім трэба, кажа. Ды яшчэ і не на той мове.)

*1 ліпеня*

У „Розным". Дэп. Даўлюд[118]. Падобна, што дэпутаты Лукашэнка, Станкевіч, Скарынін і інш. страцілі чалавечае сумленне…

Дэп. Даўгалёў. (Ад групы „Згода".) Урад не здольны вырашаць найважныя праблемы, структуры — усе — камуністычных часоў. Змянілі вывескі — і толькі! (У зале шумяць — не падабаецца. А ён — ох і пляжыць. Ох і пляжыць!) Няма канстытуцыйнага ўрада! Ёсць прапановы па новых назначэннях.

**Абмеркаванне даклада Шушкевіча (працяг).** Дэп. Грынёў. Трэба распрацаваць доўгатэрміновую эканамічную палітыку. Для гэтага — Шушкевічу сустрэцца з Ельцыным. Шушкевіч прымае прапанову. Падтрымалі і галасаваннем. Дэп. Трусаў. Адмяніць паездку афіцыйнай дэлегацыі на чале з Шушкевічам у ЗША, а заняцца тут наспелымі праблемамі. Дэпутата Вярцінскага А. І. заглушылі. Заглушаюць і дэп. Заблоцкага крыкуны з фракцыі „Беларусь". Дэп. Карпенка паездку падтрымаў, але… з агаворкамі. Паездкі фармальныя, гасцявыя, з жонкамі і дзеткамі — навошта? Дайце праграму паездкі! (Даўно бачу, што Карпенку наш спікер нечым не задавальняе.)

Шушкевіч дакладвае, што ў праграме, але скомкана. Дэп. Цярэшка. Заклікае: Будзем памяркоўнымі! Гэта не проста візіт старшыні ВС, а візіт кіраўніцтва дзяржавы. Прадугледжана падпісанне многіх пагадненняў. (У зале шумяць, крычаць, адчуваецца агульная непрыязнасць да ЗША.) Дэп. Гетц. Чаму не ў кампетэнцыі ВС задума паездкі? Іменна Вярхоўны Савет павінен рашаць! (Крычыць.) Чаму іменна гэтыя ў дэлегацыі людзі? Дэп. Мачуленка. Не трэба сёння галасаваць прапановы!

[118] Даўлюд Аляксей Уладзіміравіч (нар. 1953) — брыгадзір электрыкаў Лідскага завода „Оптык".

Дэп. Станкевіч. Уключыць у склад дэлегацыі міністра Краўчанку[119]! Шушкевіч упарціцца, стаіць на сваім. Паставілі пытанне на галасаванне. Супроць паездкі ў ЗША — усяго 44 галасы. Дробны крыкун за спіной у мяне крычыць і крычыць — ну проста як дурнаватая вясковая баба. Мае права! Дык чаму ж не? Дэп. Цумараў[120]. Коратка і ясна — звольніць з пасадаў увесь Прэзідыум ВС — і не менш! Дэп. Булахаў. Горача падтрымаў Цумарава.

Дэп. Ганчар. Зноў у атаку на Шушкевіча і Прэзідыум. Дэп. Карпенка. Зноў пра маральны бок у справах дзяржаўных.

Спрэчкі скончыліся галасаваннем. За недавер Шушкевічу — 166, за давер — 27, астатнія, больш сотні, не галасавалі ніяк. На перапынку члены прэзідыума сабраліся ў пакойчыку за сцэнай. Апрача Шушкевіча і Кузняцова былі Грыб, Слямнёў, Савіцкі, Кулічкоў, Леўчык, Сасноў, Гілевіч... угаворвалі Шушкевіча папрасіць прабачэння ў ВС за пераход у спрэчках на пярсоны, бо гэта, маўляў, на шкоду яму самому. Вядома, карэктнасць трэба захоўваць. Пасада!

*2 ліпеня*

У „Розным”. Дэп. Кучынскі робіць „утык” Кебічу, што і ён вінаваты (а не толькі кіраўніцтва ВС) у знішчэнні зброі, якая патрэбная нашай рэспубліцы. Дэп. Навумчык. Заўвага ў адрас рэдакцыйнай камісіі ВС — крытыка радыё і тэлебачання за тэндэнцыйны характар інфармацыі, за нападкі на тых, „што не хацелі ўдзельнічаць у камуністычным шабашы, у спробе камуністычнага перавароту”. Дэп. Герасюк. Падстаў крыўдзіцца на Шушкевіча шмат... Але — хто раскрадае дзяржаўныя, народныя багацці, хто шыкоўна будуецца? Кебіч, Кенік, Мясніковіч — не хопіць часу, каб назваць усіх.

[119] Краўчанка Пятро Кузьміч (нар. 1950) — міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь (да 1994).

[120] Цумараў Яўген Аляксандравіч (нар. 1957) — сакратар Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны.

Пытанне аб імянных прыватызацыйных чэках. Дакладчык — старшыня камісіі Козік[121]. Вельмі складанае, цяжкае пытанне. З дакладу мне стала ясна адно: для зладзюганаў тут магчымасці пажывіцца і нажыцца агромністыя. Пачаліся гарачыя, вострыя спрэчкі.

*6 ліпеня*

У „Розным". Дэп. Ціхіня[122]. Абвінавачвае ва ўсім Шушкевіча і пагражае: сыходзь! (Нічога не дайшло да шаноўнага?)

Дэп. Гілевіч. Дзяржаўныя мужы (Кебіч і іншыя) не пераадолелі псіхалогіі залежнасці, паслухмянасці, падпарадкавання Крамлю — захавалі звыклы стан душы, свядомасці: там, там разумнейшыя, мудрэйшыя, там ведаюць лепш, як павінна быць, як трэба, — там! Яны бяруць на сябе адказнасць — і нам так лепш, лягчэй і прасцей, зручней. Нашыя мужы не падняліся ў душы, у свядомасці, да самастойнасці, да незалежнасці, да самапачування гаспадарамі ў сваім доме, да ўсведамлення: „Мы вырашаем, як і што, мы самі! Мы і толькі мы! Мы бярэм на сябе ўсю адказнасць!".

Дэп. Майсееў. Выказаўся ў падтрымку Шушкевіча. Дэп. Новік. Таксама абараняе пазіцыю Шушкевіча. Дэп. Дзейка. Робіць запыт старшыні КДБ Шыркоўскаму (паўторна, ужо нядаўна рабіў): якімі фактамі валодае КДБ? „Патрабую поўнай інфармацыі!" Дэп. Крыжаноўскі. Абвінавачвае былых партакратаў у ганебнай пазіцыі. Затым пра дэп. Станкевіча, які нібыта яму пагразіў: „Мы тебя сделаем инвалидом" (У зале шум, незадавальненне. Відаць, Станкевіч гаварыў жартам).

Пытанне аб прыватызацыйных чэках. Прэамбулу да размовы зрабіў Шушкевіч. Але дакладчык Козік па-

[121] Козік Леанід Пятровіч (нар. 1948) — страшыня Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па эканамічнай рэформе, дасягненні эканамічнай самастойнасці і суверэнітэту рэспублікі.

[122] Ціхіня Валерый Гур'евіч (нар. 1940) — загадчык кафедры права Акадэміі кіравання пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь.

прасіў на некалькі гадзінаў адкласці абмеркаванне. А ў гэтага, што ў мяне за спіною, не зачынецца рот — зусім не помніць чалавек, дзе ён знаходзіцца: крычыць па ўсякім повадзе і без поваду.

Пытанне аб пакаранні смерцю — уводзіць ці не ўводзіць у Беларусі гэту вышэйшую меру пакарання за цяжкае злачынства. Старшыня Вярхоўнага Суда Каравай прапанаваў адмяніць смяротнае пакаранне за эканамічныя злачынствы (якія б цяжкія яны не былі). Нечакана разгарэлася вялікая спрэчка, здаецца, ёй не будзе канца.

*7 ліпеня*

У „Розным”. Дэп. Качан. Зноў той жа крык — і гэта ўжо сумна. Адкладзенае пытанне аб прыватызацыйных чэках. Дакладчык — Козік. Пачалася вострая гаворка — і законапраект сёння не прынялі.

**Пытанне аб Рэферэндуме.** Дакладчык — старшыня Камісіі Леўчык. Фактычна даклада не зрабіў, сказаў дзве-тры фразы і — „Законапраект у вас у руках. Чытайце! Рашайце! Галасуйце!”. Дэп. Баршчэўскі. Гаворыць без паперкі. Як прафесійны прамоўца. Ды і голас пастаўлены. Пра рэферэндум — вельмі пераканаўча. Дэп. Навумчык. Б’е Шушкевіча за згодніцтва з партакратамі.

Дэп. Прывалаў. О, які баявіты палкоўнік! Цікава, хто яму напісаў гэты лямант? Колькі нецярпімасці, нянавісці, варожасці да… Тон — падкрэслена ваенны, загадны. Патрабуе не выносіць пытанне пра Дагавор аб Калектыўнай бяспецы на рэферэндум. Увогуле — рэзка супроць правядзення рэферэндуму. Калі ж і праводзіць, то: „Что делать с языком, на котором в Беларуси говорят 90 процентов населения?”. О, які гадзюк! Крыві, крыві хочуць, таварышы палкоўнікі!..

Дэп. Сарокін, генерал. У тую ж дудку, што і палкоўнік. Адна нянавісць да Беларусі, да нашай незалежнасці, да нашай мовы.

Дэп. Казлоў. Нібыта спакойна і культурна. Спаслаўся на артыкул Н. Г. аб расійскай мове ў Беларусі, аб яе статусе па Канстытуцыі (мова міжнацыянальных зносінаў).

„Гэта ўсё мы адрэгулюем! Мы павінны ставіць пытанне на рэферэндуме!”

Дэп. Зданевіч. Дае ў косці і Шушкевічу за балансаванне сярод правай большасці. Дэп. Скарынін. Дубасіць Шушкевіча па ўсіх лініях. Пазіцыю спікера характарызуе як „верх цынізму”. Гэта ў Шушкевіча — цынізм? Дзе?

Дэп. Пракопаў. Патрэбны неадкладныя выбары прэзідэнта! Дэп. Какоўка. Здзекуецца з партакратычнай большасці ў зале.

Дэп. Пазьняк. Як і Какоўка, бязлітасна здзекуецца з пракамуністычнай бальшыні ў зале, але яшчэ больш здзекліва — з Шушкевіча. Вось гэта і ёсць мы, беларусы. Толькі так! Толькі есці адзін аднаго! Іначай мы не можам!

Дэп. Жукоўскі. О, які галасок! Толькі на плошчу! Толькі на мітынг! Стары ідэалагічны кадр з тых, што не турбуюцца — слухаюць іх людзі ці не слухаюць, ведае, што перакрычыць усіх. Поўныя вушы, поўная галава крыку, бухання ў мікрафон! І навошта так галяпаваць?

Дэп. Ганчар. Ад пачатку да канца — суцэльны здзек з Шушкевіча…

Дэп. Даўгалёў. О, як з’еў Ганчара! Аж запляскалі ў зале.

Шушкевіч. Заключнае слова. Адбіваецца, як можа. Амаль нічога не прызнае. І зноў сарваўся (у дачыненні да Ганчара).

Божа, як сумна, горка і брыдка! Як горка! Нішто не аб’яднае нас, нішто! Тое, што магло нас аб’яднаць — таго ў душах няма. Свяшчэнны доўг перад Беларуссю — г. зн. перад мовай і культурай Беларусі, перад Святым Духам Беларусі, — няма! Думаюць пра іншае — пра свае чыноўніцкія амбіцыі, пра сваю ўласную пыху…

*9 лістапада*

Просьба нашай Камісіі ўключыць у Парадак дня пытанне аб архівах і бібліятэках адхілена. Абодва законапраекты не прайшлі: двойчы ставілі на галасаванне — і двойчы родненькія дэпутаты правалілі. Ні архівы, ні

бібліятэкі іх не хвалююць. Дробязь! Хаця на абмеркаванне гэтых законапраектаў у першым чытанні хапіла б дзесяці хвілін. Так людзі выказалі свае адносіны да культуры наогул. Удалося ўставіць у Парадак дня пытанне аб зарплаце настаўнікам і педагогам.

Дэп. Пазьняк: „Першым трэба ставіць пытанне аб адстаўцы Урада!" І вельмі рэзка асудзіў Урад, які давёў краіну да цяперашняга становішча. Дэп. Ізмайлава (ваяўнічая бабулька!): зусім не па тэме Парадку дня пачала крычаць аб пагрозе дзяржаве з боку апазіцыі і БНФ. Гэтую небяспеку ўбачыла яна і ў інтэрв'ю Сярэдзіча з Шушкевічам. (За два рады перада мной сядзіць дэпутат „ад інвалідаў" і ўвесь час паварочвае галаву, каб кінуць кеплівую рэпліку Гермянчуку, а ўхмылка дурненька-дурненькая. Можа, і добры чалавек, і заслужаны ветэран, але… Ён ведае адно, што трэба перш за ўсё ўчыняць абструкцыю „дэмакратам". Крычы, стукай і грукай нагой аб падлогу, рукамі па стале. Навыбіралі такіх законатворцаў, навыбіралі!.. А для чаго? Недарэчна гэта было зроблена, недарэчна.

*11 лістапада*

Дэп. Гілевіч: „Дазвольце сказаць пра адно ўражанне, якое мяне вельмі засмучае. Мнагавата гаворыцца тут таго, што не дапамагае адказаць на пытанне: як, якімі шляхамі выйсці з глыбокага крызісу, як не дапусціць, каб здарылася самае горшае — каб абрабаваныя, ашуканыя няшчасныя сумленныя людзі не пачалі паміраць ад голаду і холаду". „Дарэчы, у вуснах многіх нашых грамадзян словы „суверэнітэт", „незалежнасць" сталі словамі зняважліва-абразлівымі, гучаць, як лаянка. Няшчасце на галаву звалілася — суверэнітэт! Жылі-жылі — і раптам на табе! Суверэнітэт!.."

**16 лістапада. Абмеркаванне дакладаў С. С. Шушкевіча і В. Ф. Кебіча.** Дэп. Заблоцкі У. М. Нам патрэбен нейтралітэт па ўзору Швецыі. У любых абставінах — нейтралітэт! Ні ў якім разе не ўтвараць агульную рублёвую зону з Расіяй. Рашуча супроць здачы суверэнітэта і незалежнасці!

Прапанаваў выбраць старшынёй Урада… Марыніча. (У зале — шум і посмехі — не прынялі.) Дэп. Новік У. У. „Сёння Расія ў руках ліберальнай буржуазіі, а заўтра?” Трэба было на другі дзень пасля ўвядзення расійскага рубля нам у Беларусі ўводзіць свой, беларускі. Вярхоўны Савет і Савет Міністраў не зрабілі гэтага. Задзейнічалі хапугі. Трэба помніць пра геапалітычныя інтарэсы Расіі ў Беларусі. Паглядзіце: набіраюць сілу дзялкі-кампрадоры! Я заклікаю і ВС і СМ да разумнай згоды. Урад, дай праграму выйсця са становішча! ВС адказвае за дзейнасць Урада, і калі той не так дзейнічае — дык у адстаўку!

Дэп. Садоўскі П. В[123]. Колькі будзе цягнуцца пераходны перыяд з агульным рублём, агульнай рублёвай зонай? Павінна быць камісія, якая б выпрацавала праграму выратавання эканомікі. Гэта зробіць абноўлены Урад — толькі абноўлены! Далей П. В. робіць бліскучы аналіз, куды пайшлі грошыкі і адкуль іх узяць. (Куды ўцяклі капіталы?) Дэп. Сукач М. Д. Узнікла патавая сітуацыя — з-за канфрантацыі ВС і СМ. Няма агульнай стратэгіі — вось бяда! Чаму ў нас павінна быць горш, калі маюцца ўсе ўмовы, каб было лепш? Адкажыце, хто вінаваты? Вячаслаў Францавіч, ніколі не хітрыце! Я — за ўласную беларускую валюту! Але — не за ізаляцыю!.. Вячаслаў Францавіч, вы кажаце: мы не дапусцім развалу сельскай гаспадаркі. Ды яна ж ужо развалена! Калгас ужо не корміць, а фермер тым больш не можа карміць, бо не мае падтрымкі. Нам ёсць чым гандляваць з усім светам, а не залежаць ад Расіі! (Ой, як разумна гаворыць!) І яшчэ: трэба пакончыць з хаосам у мясцовых уладах! Скараціць начальнікаў усіх рангаў (скароцяцца шафёры, бензін, сакратаркі!).

Дэп. Чакушоў У. М[124]. Нашто нам рабіць самазвалы і столькі трактароў, не маючы сваёй матэрыяльнай базы

[123] Садоўскі Пётр Вікенцьевіч (нар. 1941) — старшыня Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па міжнародных справах і знешнеэканамічных сувязях.

[124] Чакушоў Уладзімір Міхайлавіч (нар. 1939) — першы намеснік старшыні Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па матэрыяльна-тэхнічным забеспячэнні.

(вугалю, руды)? Знізілі экспарт, прадаём за бясцэнак. Перавагі клірынга відавочныя, але мы не ўмеем ім карыстацца.

Дэп. Турак[125] А. М. Чаша цярпення перапоўнена. Хаваем ад людскіх вачэй бяздзейнасць. (Слухаюць, як і папярэдняга, кепска!) Яўны здзек з вытворцаў! „Беспредел" ва ўзаеморазліках з краінамі СНД.

Дэп. Андрэйчанка У. П.[126] У сельскай гаспадарцы мы дайшлі да небяспечнай рысы. Усе калгасы сталі аднолькава беднымі. У жніўні працуем у полі па 6–7 гадзін — удумайцеся! „Не будзе вёскі — не будзе і рэспублікі!" (!!!) Пастаўлялі ў Расію 300 тысяч тон мяса, зараз — 40 тысяч тон. Павярнуць бюджэт на сельскую гаспадарку! Непарытэт цэн — галоўная прычына гібелі сельскай гаспадаркі! Сёння крэдытаванне сяла — ніякае. Трэба даць вёсцы ільготныя крэдыты! Разлік за здадзеную сельскую прадукцыю праводзіцца несвоечасова, а грошы абясцэньваюцца.

Дэп. Цялежнікаў У. І. Ні адно рашэнне Вярхоўнага Савета не давялі да канца — за ўсе тры гады. Мы спадзяваліся на палітычны цуд, а ён не адбыўся. Але яшчэ многія ў яго вераць. І эканамічнага цуда не будзе. Адказнасць на нас. Трэба правесці структурныя змены ў Савеце Міністраў.

Дэп. Цярэшка І. І. Аб рабоце Нацыянальнага банка: яго палітыка прывяла да вялікіх страт у народнай гаспадарцы, да іншых страт. (Рэпліка з залы: „Усё ў руках Савета Міністраў, а не банка!") Прапаную падпарадкаваць Нацыянальны банк Прэзідыуму Вярхоўнага Савета. (Ну і прапанова!)

Дэп. Навумчык С. І. дае ацэнкі дакладам Шушкевіча і Кебіча. „Вы, Вячаслаў Францавіч, чатыры гады ўзначальваеце Урад — і што зрабілі? Зарплата — 26 адсоткаў „спажывецкага кошыка". Пазыка — ужо каля двух мільярдаў даляраў. Хто разлічыцца? Наступныя пакаленні

[125] Турак Анатоль Мікалаевіч (нар. 1950) — дырэктар Рэчыцкага доследна-прамысловага гідролізнага завода.

[126] Андрэйчанка Уладзімір Паўлавіч (нар. 1949) — намеснік старшыні Віцебскага аблвыканкама.

народа? Савет Міністраў займаецца не эканомікай, а палітыкай і палітыканствам. Прапаную стварыць пераходны кааліцыйны Урад. З гэтым мы, апазіцыя, і выйшлі на Сесію.

Дэп. Трусаў А. А. Згодніцкая палітыка Шушкевіча карысці народу не дала. Паглядзіце на харомы сучасных буржуяў вакол Мінска і іншых гарадоў — хто жыве і будзе жыць у іх? Урад даў прастору жулікам, злодзеям. Зняў мытню з аднаго боку. Мае прапановы: першая, трэба стварыць кааліцыйны Урад, другая, скараціць колькасць міністраў (і яшчэ восем прапаноў!).

Дэп. Жыдзіляеў І. І. Так і не зразумеў з дакладу Кебіча, ці бачыць Урад крызіс эканомікі. І ў Шушкевіча мала канкрэтных прапаноў.

Дэп. Карпенка Г. Дз. У дакладах няма аналізу крызісу ўлады на ўсіх узроўнях. Ідзе працэс палітычнага развалу дзяржавы. Перад намі два шляхі выйсця: дрэнны і зусім дрэнны. (Абмалёўвае гэтыя шляхі.) Галоўная задача — выратаванне насельніцтва ад голаду і холаду. (Малайчына!)

Дэп. Какоўка В. Ф. Спасылаецца на сваю нацыянальную валюту ў Казахстане і Узбекістане. Прыводзіць прыклад Германіі пасля вайны: стабільнасць валюты (грошай) і цэн. Гэта галоўнае права чалавека — стабільнасць. Асноўнай задачай сёння бачу змену прэм'ера.

Дэп. Жук А. М. Крытыкуй — каб самому дарвацца да ўлады, — і ўсё! Многія так і робяць. Аб справах у Аграпроме скажу так: горш, чым дзе б ні было!

Дэп. Лукашэнка А. Р. (Крытыкуе даклад Шушкевіча, але — не пераканаўча, абы прычапіцца. Нічога канструктыўнага не сказаў. Агульнае ўражанне — дэмагогія і папулізм.) „А дзе, Станіслаў Станіслававіч, былі вы? З вамі з гэтага крызісу мы не выйдзем! Прапаную вызваліць ад пасад і Шушкевіча, і Кебіча". (Шушкевіч тут жа даў водпаведзь.)

Дэп. Каўбаска М. І[127]. Вельмі ўпэўнена — за сваю беларускую валюту як за сімвал незалежнасці. (Малайчына, Каўбаска, не чакаў!)

[127] Калбаска Мікалай Ігнатавіч (нар. 1951) — старшыня Цэн-

Дэп. Камай А. С. Корань усіх бед зусім не там, куды паказвае Шушкевіч. А ў Віскулях! У рыначнай стыхіі, якая можа запанаваць у рэспубліцы! У дакладах Шушкевіча і Кебіча няма эканамічных разлікаў. Шушкевіч хай выконвае волю Вярхоўнага Савета! У сельскай гаспадарцы патрэбна мэтавая дзяржаўная праграма па вытворчасці прадукцыі (мяса і малака).

Дэп. Грынёў М. Ф. Рэзка крытыкуе Шушкевіча і тых, хто супроць агульнарублёвай зоны. „Давайце гандляваць! Працуем на склад, а трэба везці ў Расію! Я — за незалежнасць, але гэта трэба рабіць паступова, разумна, узважана, а не з ходу!” (??? Што гэта значыць?) Рожкі-ножкі засталіся ад абяцанняў. Помнік паставяць Кебічу і Чарнамырдзіну за падпісанне пагадненняў аб далучэнні… да Расіі.

Дэп. Крыжаноўскі М. К. Хваліць даклад Шушкевіча; Кебіч прачытаў той самы даклад, што і шмат разоў раней. Урад не ажыццяўляе законы. (У зале шумяць.) Б'е наменклатуршчыкаў за катэджы: цэмент бяруць па 70 рублёў мяшок, шпалеры — па 3,5 рубля метр. „Гарызонт” праеў крэдыт на 20 млн. марак, а выраб тэлевізараў знізіўся на 140 тысяч. (Сапраўды, дзіўна! Дзе ж плён ад крэдыту?) Жудасныя страты БелАЗа!..

Дэп. Грыб М. І. У дакладах прагучала сур'ёзная крытыка і самакрытыка. Расійскія тавары складуць нашым моцную канкурэнцыю. Не забываць і аспекты палітычныя! Павінен быць рэальны падзел уладаў і паўнамоцтваў.

Дэп. Жукоўскі М. Дз. У дакладах бачанне выйсця ёсць, задача ў тым, каб аб'яднаць намаганні. У свеце 170 рыначных дзяржаў, а працвітаюць з іх — 20–30. А чаму? Рыначныя адносіны павінны быць рэгуляваныя! Трэба сыходзіць з тых пазіцый, на якіх былі, калі звалілася на нас незалежнасць Беларусі. Сродкаў аднаго бюджэту не хопіць на сацыяльна незабяспечаных. Гуманітарная дапамога часта паступае абы-каму, а не ў дзяржаўны фонд.

тральнага праўлення Беларускага таварыства інвалідаў.

Дэп. Спіглазаў А. Ф[128]. Эканоміка не церпіць эксперыментаў. Нам абавязкова патрэбная свая валюта! Трэба мяняць склад Урада, і ёсць кім замяняць у самім Урадзе.

Дэп. Баршчэўскі Л. П. З агульнай рублёвай зонай страцім і ўнутраны рынак — канчаткова! Задача Урада — прагназаваць, што будзе. Урад ставіць на палітычную карту, і нас ужо не ўспрымаюць як самастойную, незалежную краіну. Неабходна зрабіць поўныя замены ва Урадзе! Вячаслаў Францавіч, падайце ў адстаўку — і я складу свой дэпутацкі мандат і не буду выбірацца на чарговых выбарах!

Дэп. Пазьняк З. С. Віна Кебіча — у разбурэнні эканомікі і многага іншага. Прычына — у палітычных пазіцыях Кебіча. Ён — за адраджэнне СССР, за ліквідацыю незалежнай Рэспублікі Беларусь, за ператварэнне Беларусі ў эканамічнае падмаскоўе. Самая вялікая шкода, нанесенная Урадам, — паліўны голад. У Балтыі — свая валюта, і таму — зусім іншае становішча. (Дае Кебічу і ў хвост і ў грыву!) „Што гэта за скамароства? Адкуль гэта глупства? Апрача дзяржаўнага самазабойства — Кебіч не бачыць выйсця. Ён не бачыць і не разумее, як выйсці з крызіснага становішча.

Дэп. Данілевіч І. М.[129] Нагадвае пра гучную заяву Урада „легчы пад паравоз” — калі спатрэбіцца. „Буду гаварыць пра сельскую гаспадарку. Кожны дакладчык лічыць, што праўда ў яго. А я не бачу праўды ні ў аднаго, ні ў другога. Усходнія немцы не ліквідавалі сельгаскалектывы. Усякая стратэгія пачынаецца з земляробства. Я, кіраўнік аграфірмы, прадаў усю прадукцыю — і стаў у шэсць разоў бядней. Што ж гэта? Скажыце: калі пяройдзем на сусветныя цэны? Тады вёска выжыве. Ні адна сельская гаспадарка ў свеце не жыве без датацыі. Як дажыць да 1-га студзеня — не знаю. Лічу: тое, што зрабіў Нацыянальны банк, гэта — дыверсія супроць сяла. СМ

[128] Спіглазаў Аляксандр Фёдаравіч (нар. 1960) — урач Жабінкаўскай раённай бальніцы (Брэсцкая вобласць).

[129] Данілевіч Іван Мікалаевіч (нар. 1951) — старшыня аграфірмы-калгаса „Малеч” Бярозаўскага раёна.

павінен прадугледзець сродкі на вёску, на сельскую гаспадарку. Лён і бабовыя — наша золата, а не бульба і не мяса.

Дэп. Грыбанаў У. М. Чакалі высноў ад Шушкевіча. Але — не было: ні аб рэформах, ні аб адстаўцы. Як ісці да мэты — адказу не пачулі ў дакладах. Трэба хірургічнае ўмяшанне! Са скальпелем!

*17 лістапада*

Працяг абмеркавання дакладаў Шушкевіча С. С. і Кебіча В. Ф.

Дэп. Булахаў Дз. П. Здрада нацыянальным інтарэсам — голы суверэнітэт, што ў галовах у нацыянал-радыкалаў. Трэба наводзіць парадак у структурах улады — у рамках Канстытуцыі. 1. Давайце падпішам пагадненні! 2. Абновім склад Урада! 3. Прымем новую Канстытуцыю! 4. Нам трэба моцная ўлада! („Сильная власть!" Што мае на ўвазе? Дыктатара?)

Дэп. Даўгалёў В. Б. Прапановы Шушкевіча і Кебіча, як выйсці з крызісу, — прынцыпова разыходзяцца. Далей прыводзіць жахлівыя лічбы (сапраўды: жах!). Міністэрства абароны стала камерцыйным. 500 тысяч гектараў лясоў, што ў веданні ваенных, — распрадаюцца. (Жах!) У кішэні сабе кладуць мільёны. (Жах!). Глыбокі крызіс праваахоўнай сістэмы.

Горш няма куды. Прэм'ер адводзіць кожны раз убок ад галоўнага якой-небудзь прыдумкай. Урад не здольны ўзначаліць работу па выхаду з крызісу — трэба ставіць пытанне аб яго адстаўцы!

Дэп. Кучынскі Е. Ф. Крытыкуе Вярхоўны Савет за знешнепалітычную дзейнасць. За неажыццяўленне пагадненняў, падпісанных у Віскулях. „Скажыце: чаму ніводнай пастановы аб паездках у краіны СНД? Вузкі круг людзей дыктуе волю нам — усяму Вярхоўнаму Савету. Прапаную: 1. Зняць Шушкевіча з пасады старшыні ВС. 2. Прагаласаваць давер старшыні Нацбанка. 3. Трэба новая каманда, якая павядзе дзяржаву. (З каго, з якіх сіл каманда?)

Дэп. Сечка Л. Н. Сітуацыя з банкавай справай у нас — нікуды не вартая. Патрэбна паэтапная рэарганізацыя кіраўнічых структур.

Дэп. Кулакоў У. П.[130] Што ў краіне такое становішча — вінаватыя і Урад і Вярхоўны Савет. Ніхто за нас нашы праблемы не вырашыць. Я — за эканамічны саюз з Расіяй, за рублёвую зону. Але — гэта залежыць не толькі ад РБ. Беларусь — зборачны цэх, залежны ад Расіі і іншых краін. Прапаную: 1. Правесці глыбокую структурную перабудову народнай гаспадаркі! 2. Трэба іншая падатковая сістэма. 3. Рацыянальна выкарыстоўваць рэсурсы! Напрыклад, лес: мы яго гонім за мяжу неапрацаваным, а трэба гнаць мэблю. Навісла небяспека над ільнаводствам. 4. Нельга траціць рынак збыту сельгаспрадукцыі. У нас ідзе няспынны рост цэн. Але ж гэта — не рынак! Рынак — канкурэнцыя тавараў!

Дэп. Гаркун У. Г. Што і як рабіць далей? Якія рэальныя шляхі на заўтра? — Ратыфікаваць пагадненне з Расіяй! Розніца ў цэнах прывяла да поўнага банкруцтва многіх-многіх гаспадарак. Выйсце адно — у цэнавай палітыцы. Чым больш калгас вырабляе мяса і малака — тым больш стратна для яго! Што гэта? Бутэлька кефіру — 40 рублёў, бутэлька мінералкі — 330! Што гэта ТАКОЕ? Карэнным чынам змяніць крэдытную палітыку! Няма доўгатэрміновых крэдытаў для сельскай гаспадаркі. Што гэта? Дзе такое ёсць у свеце? (Божа прамілы! Сапраўды: што гэта? Што гэта?)

Дэп. Сасноў А. В. Толькі эканамічныя рэформы змогуць вырataваць краіну! Хай і ў саюзе з Расіяй і іншымі дзяржавамі — але рэформы! І рэнтабельныя прадпрыемствы чакае крах, калі не абнаўляць фонды. Даць рэнтабельным прадпрыемствам замацавацца на рынку! Бо — адкуль будзе бюджэт? Урад абяцае... ужо тры гады! А Вярхоўны Савет верыць яму! І зацвярджае кожную новую праграму. Адносіны Урада да недзяржаўнага сектара — абыякавыя, няма падтрымкі. Можа, усё ж

[130] Кулакоў Уладзімір Панцялеевіч (нар. 1936) — старшыня Віцебскага абласнога Савета народных дэпутатаў.

адправім Урад у адстаўку? (Які малайчына Сасноў, які малайчына!)

Дэп. Беленькі Ю. А. Прычына развалу фінансавага становішча Беларусі — поўная некампетэнтнасць Урада ў фінансава-валютных справах. Ён прымае незаконныя пастановы. Банк іх не выконвае. Ствараецца фіктыўны капітал. (Во! Во малайчына!) Што дасць аб'яднанне грашовых сістэм? Будзе страшны ўдар па сельскай гаспадарцы. Нацыянальны банк не дапаможа ёй.

Дэп. Пракаповіч П. П. Што мы сабе думаем? Маем 150 мільярдаў доўгу Расіі за газ — і чакаем, пакуль нас адключаць? Чаму Вярхоўны Савет не кантралюе выкананне Законаў і Пастаноў? Напрыклад, аб прыярытэтах сяла? Паставілі б пытанне — і вызвалілі ад пасады, калі Багданкевіч не слухае! КДБ — у вас! Кантрольная палата — у вас!

Дэп. Гермянчук І. І. Лепш сёння адправіць Кебіча пакаваць чамаданы! Бо праз месяц-другі ўсё адно пойдзе! (У зале шумяць, стукаюць, ляпаюць.) Заяўляюць: „Рэспубліка папала ў крызіс!" Як быццам — сама сабой! Ніякага даверу Ураду няма і не будзе! Абяцалі, абяцалі і зноў абяцаюць! І што? У рабочы час член Прэзідыума Вярхоўнага Савета едзе на свой катэдж. Гэта не дробязь, гэта нахабства! Жонку Кебіча злавілі за руку: тры мільёны бюджэтных даляраў! І што? Журналіста — у суд!

Дэп. Голубеў В. Ф. Хто будзе несці адказнасць за невыкананне Праграм? Чаму вы, Станіслаў Станіслававіч, не паставілі пытанне аб бяздзейнасці Урада? Не трэба, сп. Кебіч, уводзіць валюту сваю прымусова! Расійскі Урад будуе Расію. Кебіч не разуме гэта, ці не хоча разумець. Наконт структуры Урада скажу: у нас над міністрамі стаяць упраўленні і кіруюць міністэрствамі. Наконт знешняй палітыкі: станцыю Гадуцішкі аддалі Літве. Без рашэння Вярхоўнага Савета! Кебіч аддаў! Сам! (Ох, і зашумелі-закруціліся ў зале.)

Дэп. Герасіменка А. М.[131] Заклікаю падтрымаць ідэю стварэння Вышэйшага Савета па эканоміцы. 1. Рэфар-

[131] Герасіменка Аляксандр Міхайлавіч (нар. 1946) — беларускі

маваць банкавую сістэму. Усе банкі передаць Ураду! 2. Падатковая палітыка павінна стымуляваць прадпрыемствы, а не быць фіскальнай. Затым цытуе нейкі зварот аб падтрымцы эканамічнага саюза і рублёвай зоны. Прадпрыемствы вінаваты гораду Мінску 75 мільярдаў рублёў (Жах! Што ж адбываецца?) Рэкамендуе не захапляцца чэкамі, думаць пра сацыяльную абарону грамадзян! І пра бюджэт!

Дэп. Сямдзянава Г. Г.[132] Чэргі па хлеб такія, што — у адстаўку ўвесь кабінет Урада! Яго грахі не пералічыць!

Дэп. Унучка Р. І. БНФ і ПКБ (Партыя камуністаў) самкнуліся ў сваёй дзейнасці. Мала шукаем крыніцы энергіі. Ядзерную трэба развіваць! Каб не загубіць эканоміку — трэба ўзяць крэдыт на 450–500 мільёнаў даляраў. Вёску заспакойваем, ашукваем — як і раней. Вытворчасць прадукцыі сельскагаспадарчай стала нявыгаднай. Стала нявыгадна ў вёсцы жыць.

Дэп. Антончык С. А. Гваздае карпаратыўныя партыйна-дзяржаўныя групы, якія рабуюць народ і краіну. (Ой гваздае!) Гваздае — як прайдзісветаў. (А як доказна!) Урад дазваляе ім займацца прыхватызацыяй! У гэтых умовах — толькі адстаўка Урада! Заклікае народ да забастовак, да бунту, на вуліцу! (Такога з трыбуны ВС яшчэ не гучала!.. Сапраўдны рабоча-пралетарскі лідэр! Брава, Антончык!)

Дэп. Качан М. А. Унучка — былы першы сакратар РК КПСС, сёння ён — жоўта-карычневы. Я абвяргаю ўсе яго абвінавачванні. Далей — драпежыць БНФ, прамовы Пазьняка, Гермянчука, Голубева. А галоўнае — у адстаўку Шушкевіча! У гэтых мэтах патрабуе арганізаваць ліст выбаршчыкаў. І зноў і зноў — пра Віскулі.

палітык і дыпламат. У 1990–1995 быў старшынёй Мінскага гарадскога савета народных дэпутатаў і старшынёй выканаўчага камітэта г. Мінска. Быў членам Канстытуцыйнай камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь XII склікання.

[132] Сямдзянава Галіна Георгіеўна (1947–2011) — працавала інспектарам Наваградскага гарадскога камітэта народнага кантролю.

Дэп. Алампіеў В. П.[133] Мы ўхіліліся ад рашэння эканамічных праблем. Цытуе Лінга: „Калі паперадзе эканомікі ідзе палітыка — будзе крах!” Не будзе — ужо ёсць. (Робіць доказны аналіз гэтага.) Што ў такім хаосе, як у нас, можна зрабіць? Адны (Заламай, Казлоў) — за СНД, другія — супроць, за дэнансацыю дагавора. Кебіч даўно заслугоўвае адстаўкі!

Дэп. Марыніч М. В. Заклікаў падтымаць і Кебіча і Шушкевіча. Даверыцца ім — і няхай працуюць!

*18 лістапада*

Дэп. Гілевіч Н. С. Тут была заява, што пытанне аб незалежнасці хочуць абмяркоўваць адно дэпутаты з апазіцыі — члены БНФ ды Грамады. Я не належу ні да БНФ, ні да Грамады, ні да якой-небудзь іншай партыі. Не належу і не збіраюся належаць. Але я належу да народа, які тут жыў, жыве і будзе жыць і які заслугоўвае лепшае долі, чым тая, якую меў у стагоддзях, калі з яго воляй ніхто не лічыўся, да народу, які мае права, Богам данае права, быць і пачувацца гаспадаром на гэтай зямлі, на сваёй роднай зямлі — іншай у яго няма. І таму зразумець маю трывогу ў гэтую хвіліну, думаю, няцяжка. Нельга недаацэньваць момант, які мы зараз перажываем — бо ён можа аказацца лёсавызначальным, ён можа стаць пачаткам канца — канца таго, да чаго мы так доўга ішлі — да суверэннасці, да незалежнасці. І што ж прымушае многіх з нас, сыны і дочкі Беларусі, так легкадумна ставіцца да лёсу сваёй Бацькаўшчыны?

[133] Алампіеў Віктар Пятровіч (нар. 1947) — начальнік інфармацыйна-вылічальнага цэнтра Пінскага вытворчага аб’яднання верхняга трыкатажу.

*Рэд.*: Верш, згаданы аўтарам у запісе за 4 студзеня 1993 г., друкуецца паводле выдання: Гілевіч Н. Незалежнасць: зб. вершаў. Мінск, 1991.

**Пра нашу годнасць**

Што праўда,
То праўда –
Даўно гэта стала:
Віхляння — багата,
А годнасці — мала.

Багата юродства,
Блюзнерства,
Крыўляння,
А мова народа –
На грані скanання.

Таму і цямнеем,
Чарнеем ад злосці.
Аж хочацца нават
Ударыць кагосьці.

Каго — зразумела,
Ды чорт яго знае,
Чым кончыцца можа
Адвага такая!

І што ж тады робім
У злосці і скрусе
Мы — існыя родам
Сыны Беларусі?

Што — робім?
А б'ём-дабіваем заўзята
Свайго
Недабітага злыднямі
Брата.

У гэтым — і мужнасць,
І мудрасць,
І годнасць,
І нашага гора-гібення
Нязводнасць.

*(27.11.1989)*

# Беларускі акцэнт саратаўскага гісторыка

**Ганна Харашкевіч**

*„Есть свой Ключевский у студентов,*
*— Вы, Леонард Адамыч Дербов!”**

Аж да канца больш за паўвекавой (з 1938 г.) выкладчыцкай дзейнасці ў Саратаўскім універсітэце імя М. Г. Чарнышэўскага Леанарда Адамавіча Дзербава (10.10.1909–19.10.1994) гаварылі, што ў яго мове чуецца „нярускі акцэнт”. Як ні дзіўна, многія беларусы, якія працавалі ў межах Расіі, захоўвалі гэтую асаблівасць (можна прывесці прыклад класіка беларусістыкі савецкага, ды і ў няменшай меры постсавецкага часу Мікалая Мікалаевіча Улашчыка). Аднак ва ўспамінах гаворка ідзе не толькі пра вымаўленне, але і пра лёс, лад мыслення, стыль і жыццёвую пазіцыю Леанарда Адамавіча.

Яго ўспаміны, скупыя на словы, дазваляюць зразумець, што гэта быў за чалавек. Але найперш некалькі фармальных звестак пра саму кнігу. Услед за серыяй зборнікаў „Годы и люди” да стагадовага юбілею Саратаўскага ўніверсітэта, заснаванага ў 1909 г., была падрыхтаваная серыя мемуараў „О времени и о себе”, у якую ўвайшлі 7 кніг успамінаў выкладчыкаў універсітэта (А. І. Аўруса „О друзьях товарищах”, В. А. Артысевіч „Одинаковых судеб не бывает”, Б. І. Барысава „О, спорт (люди, события, факты)”, В. А. Ермалаева „Без гнева и пристрастия: Записки историка”, В. Б. Сірацінінай „Жизнь во-

* Дербов Л. А. Страницы воспоминаний. Саратов: Изд-во Саратовск. ун-та, 2009. 229 с.

преки, или Я — счастливый человек. Воспоминания", С. М. Стам „Моя жизнь, учителя, друзья и наука", рэцэнзаваная кніга Л. А. Дзербава), зборнік „В. Г. Борухович в воспоминаниях и письмах" (убачылі свет тры — Барысава, Ермалаева і Дзербава). Вядома, легкадумна было б спадзявацца на тое, што бліскуча задуманая і шыкоўна выкананая (маю на ўвазе і вельмі ўдалае паліграфічнае і мастацкае афармленне, зробленае з вялікім густам) серыя мемуараў можа асвятліць усю складаную, шматгранную і часам супярэчлівую дзейнасць універсітэта нават у тых храналагічных рамках, якія ахоплівае названая серыя, гэта значыць пераважна савецкі адрэзак XX ст. Тым не менш варта адзначыць, што падобнай сістэмнай гістарыяграфічнай задумай не можа пахваліцца ні адзін іншы расійскі ўніверсітэт.

У гэтым выявілася высокая культура гістарыяграфіі, выхаваная ў Саратаўскім універсітэце і ў немалой ступені дзякуючы высілкам Л. А. Дзербава. Аўтары прадмовы да яго ўспамінаў А. І. Аўрус і С. А. Мезін наракаюць на тое, што ў самім іх тэксце мала гаворыцца пра „плённы сімбіёз" іх настаўніка з гістарычным факультэтам. А рэцэнзент хацела б дадаць, што не зашкодзіла б змясціць у разгляданым томе і спіс навуковых прац, дапоўніўшы апублікаваны ў 1999 г. няўлічанымі ў ранейшым варыянце газетнымі артыкуламі і неапублікаванымі працамі[1], з аднаго боку, і яго ўспамінамі пра свайго настаўніка С. У. Бахрушына, з другога. Затое лёгка можна прыняць меркаванне аўтараў прадмовы наконт таго, нібыта Л. А. Дзербаў „надеялся, что факты его жизни представляют интерес для истории науки и университета"[2], а на самай справе нашмат шырэй — для гісторыі ўсёй краіны і ў прыватнасці Беларусі, дзе прайшло дзяцінства і юнацтва аўтара.

[1] Историк и историография: Материалы науч. конф., посвященной 90-летию со дня рождения Л. А. Дербова. Саратов, 1999. С. 17–20.

[2] Аврус А. И., Мезин С. А. Мемуары историка // Дербов Л. А. Страницы воспоминаний. Саратов, 2009. С. 9.

Менавіта гэтая асаблівасць мемуараў Л. А. Дзербава здаецца рэцэнзенту асабліва цікавай, таму цяжка пагадзіцца з выдаўцамі, быццам больш інфармацыйная другая частка ўспамінаў, даведзеных толькі да 1940 г., хоць яна сапраўды больш „гістарыяграфічная”[3].

Такім чынам, пачнем з месца нараджэння дзеда аўтара па бацькавай лініі. Гарадзішча Наваградскага павета Менскай губерні за 22 км ад станцыі Баранавічы адрознівалася ад звычайных беларускіх мястэчак у рысе яўрэйскай аселасці, бо было населена пераважна аратымі і земляробамі. У сям'і Дзербавых лёгка суіснавалі прыхільнікі каталіцтва (па дзедаўскай лініі) і праваслаўя (па жаночай лініі), што захоўвалі ў памяці творы язычніцкай культуры — беларускага фальклору; напрыклад, бабуля аўтара мемуараў Вікторыя Кандрацкая, непісьменная дачка мікалаеўскага кантаніста, якая памятала і пераказала ўнуку мноства падданняў, прымавак, прыпавесцяў і праспявала столькі ж песень. Як тут не ўспомніць выдатнае выданне беларускага фальклору Шэйна, ажыццёўленае якраз пры жыцці В. Кандрацкай. Можна толькі пашкадаваць, што Леанард Адамавіч не ўнёс у свае мемуары тое, што запомніў і ведаў да старасці з бабулінага голасу.

Дзед Антон Дзерба быў шорнікам, таму ён меў магчымасць даць сваім шасцярым дзецям адукацыю. Цяга беларускіх сялян другой паловы XIX ст. да адукацыі была надзвычай вялікай (варта ўспомніць сям'ю Улашчыкаў). Аднак адзіная дачка Міхаліна Антонаўна яшчэ да Першай сусветнай вайны памёрла ад сухотаў, якія ў той час асабліва жорстка касілі дзяўчат з адукацыяй. Двух сыноў лёс закінуў у Паволжа (Ніжні Ноўгарад і Уфу), аднаго — у Адэсу, дзе ён вучыўся ў юнкерскім вучылішчы, аднаго, які сапраўды стаў вайскоўцам, у Смаленск.

Незвычайна адораным чалавекам быў бацька аўтара мемуараў Адам Антонавіч (1886–1925). Нягледзячы на „мінімальную” адукацыю (чатырохкласнае вучылішча ў Наваградку) ён дзякуючы настойлівай празе ведаў

[3] Тамсама. С. 14.

стаў энцыклапедычна адукаванай асобай — яму былі не па чутках знаёмыя ўсе віды сялянскай працы і будаўнічай справы, ён ведаў чатыры мовы (лаціну — мову каталіцкага богаслужэння, польскую, нямецкую, французскую), рыхтаваў па матэматыцы гімназістаў 8-га класа перад іспытамі на атэстат сталасці, іграў на скрыпцы, спяваў, займаўся жывапісам (настолькі прафесійна, што пісаў тэатральныя дэкарацыі і ў 1915 г. распісваў апартаменты ў царскай стаўцы ў Баранавічах). З 16 гадоў працаваў на чыгуначнай станцыі Баранавічы, потым у Почапе (каля Бранска) і з 1916 г. — у Гомелі. У 1919 г. пад час Дзянікінскага наступлення ўступіў у партыю, служыў пры палітаддзеле 12-й арміі і аказаўся начальнікам агітпункта станцыі Гомель-пасажырская, дзейнасць якога ўхваляў А. В. Луначарскі[4]. Нарэшце ў 20-я г. вымушаны быў зрабіцца і „заместителем директора по политической части” (так!), а фактычна арганізатарам сухотнага санаторыя на станцыі Злынка для чыгуначнікаў ва ўладаннях былых запалкавых фабрыкантаў Шведавых, Волкавых. Надзвычайны факт стварэння санаторыя ва ўмовах грамадзянскай вайны. Сам Адам Антонавіч памёр ад сухотаў у Ялце. Лёс у многім тыповы — ад сялянства да інтэлігенцыі, ад каталіцтва — да камуністычнай партыі. Члена гэтай партыі ад рэпрэсій канца 20–30-х г. выратавала, з аднаго боку, дачасная, з іншага, — „своечасовая” смерць.

Дзед па матчынай лініі — Адам Каятановіч Радзюк, непісьменны парабак у маёнтку графа Развадоўскага, потым качагар на чыгунцы ў Баранавічах, заўзяты паляўнічы і самавук-скрыпач, якога любілі дзеці за дабрыню і справядлівасць, „добрый, простой, рабочий человек” (с. 26), хоць і з запальчывым характарам, які дрэнна пераносіў польскую мову і „хорошие манеры” ўласнай жонкі (у душы каталічкі, нягледзячы на прыняцце праваслаўя ў сувязі з замужжам) Анастасіі Міхайлаўны

[4] У сувязі з гэтым нельга не пашкадаваць, што выдаўцы ў дадатку не змясцілі гэты дакумент, які захаваўся ў сямейным архіве.

Радзюк (народжанай Бальзоўскай), схільнай да канфліктаў і яхіднасці. Іх дзяцей, якія дажылі да дарослага веку, лёс таксама раскідаў па свеце — ад Мінска да Рыгі і Польшчы.

Маці Леанарда Адамавіча — Дар'я Адамаўна (1893–1947) — чалавек няшчасны: хворая на найцяжэйшую форму псарыязу, яна да 22 гадоў нарадзіла 6 дзяцей, 3 з якіх памерлі ў маленстве, разам з астатнімі перажыла эвакуацыю з Баранавічаў „в засыпанном карболкай товарном вагоне" (з-за халеры) у Калужскую вобласць (с. 29), ледзь выратавала хворага на сыпняк, а потым на крупознае запаленне любімага мужа, але ў 28 гадоў страціла яго, у Другую сусветную страціла сына Віктара і зведала нямецкую акупацыю Беларусі.

Дзяцінства Леанарда Адамавіча прайшло ў пристанцыйным пасёлку Баранавічы, які, хоць і быў населены чыгуначнікамі, захаваў цалкам вясковае „першароднае" аблічча (с. 32). Такім жа быў і стыль жыцця — простая ежа, у якой пераважалі гародніна, крупы, малочныя прадукты і алей. Аўтар прыводзіць і кошты (пуд, г. зн. 16 кг, бульбы — 15 кап., абутак — 3 руб., заробак чыгуначніка — 30–35 руб.). Цацак у яго дзяцінстве не было, калі не лічыць Катафея Іванавіча, напхнутага сенам зайца з палачкамі ў вушах, зробленага дзедам Адамам Радзюком.

Прыхільнасці да рэлігіі ў хлопчыка не атрымалася, нягледзячы на высілкі каталічкі бабкі Вікторыі і праваслаўнай цёткі Вольгі. І Леанард Адамавіч шчыра піша, што не змог „принять ее мифологическую сторону (и связанную с этим наивную, а в некоторых случаях и нелепую обрядность), которая представляется <...> примитивным детским баснословием, противоречащим самым элементарным научным понятиям" (с. 35), а цяперашняе (пачатак 90-х г. ХХ ст.) захапленне рэлігіяй лічыць проста модай.

Некаторага дабрабыту сям'я — дзякуючы падпрацоўкам бацькі — дасягнула перад вайной, але з яе пачаткам ён абрынуўся. У Баранавічах з'явілася шмат салдат. Цікавыя ўспаміны пра „обывательский патрио-

тызм", які ахапіў усю краіну, але набыў розныя формы ў сталіцах і на ўскраіне: у Баранавічах грамілі краму немца каўбасніка Ніпе, спявалі непрыстойныя песні пра Вільгельма II і яго жонку, «а матери, сажая на горшок своих детей, приговаривали: „Делай на немца, детка, на немца!"». Як і большасці людзей, якія жылі ў пачатку XX ст., хлопчыку давялося ўбачыць Мікалая II, „человека с усталым и бледным лицом", млявымі рухамі, у якіх не было „ничего царского". У жніўні 1915 г. Дзербавы і Радзюкі выправіліся ў эвакуацыю ў Жыздру. Шлях туды заняў амаль месяц, у эшалоне пачалася халера.

У памяці 6–7 гадовага хлопчыка засталося ўяўленне пра першы сапраўдны, няхай і дробны павятовы, горад у цэнтры Расіі, напоўнены воінскімі часцямі, тужлівы спеў салдатаў (пра пагібель казака ў Кіеве, смерць параненага ў ваеннай лякарні), хваробы і жахлівыя нягоды ўцекачоў. У 1916 г. сямейства вярнулася ў Беларусь, у „еврейский город" Гомель, „неказистый, грязноватый, <…> (во многих местах ручейки нечистот стекали из дворов прямо на улицу)", які, аднак, не адчуваў „недостатка духовной культуры", тут пастаянна ладзіліся сімфанічныя канцэрты (аўтару асабліва запомнілася выкананне сюіты Грыга „Пэр Гюнт"), прыязджалі знакамітыя скрыпачы (аж да Яна Кубеліка ў 1926 г.) і спевакі, нават оперныя трупы з „Травіятай" Вэрдзі і „Пікавай дамай" Чайкоўскага, пастаянна дзейнічаў цырк, а таксама кінатэатр з шэдэўрамі нямога кіно.

Але тое было ў горадзе. Дзербавы — Радзюкі, зноў „беженцы", туліліся ў адным пакойчыку „гробообразного", па азначэнні бацькі, барака на станцыі Гомель-гаспадарчая за 3 км ад горада, дзе размяшчаліся дэпо, майстэрні, на шматлікіх запасных пуцях стаялі эшалоны з салдатамі, „лакомый объект для бомбардировок" (с. 42–46). Дзеці і падлеткі бавілі час на чыгунцы або ля сцёкавай канавы, якая пралягала ўздоўж адной са сцен барака. Леанарду, як і большасці яго аднагодкаў часоў грамадзянскай і пазней Айчыннай войнаў, рана давялося далучыцца да гаспадарчага жыцця — дастаўка вады, догляд коз, біццё дроў, іх здабыванне ў качагараў паравозаў, выпрошван-

не ежы. Падобнымі былі і хлапцоўскія забаўкі — катанне на тармазных прыступках або прычапіўшыся кручкамі за грузавікі. Дзяцінства было, як і ў часы Айчыннай вайны, „голодным, безрадостным, тревожным. Такое не забывается” (с. 48). І больш за тое, вызначае душэўны настрой усяго наступнага жыцця…

У 8 дзербаўскіх гадоў на фоне абясцэнення грошай (1 фунт хлеба ў 1916 г. каштаваў 1 рубель замест некалькіх капеек) і адыходзячага войска грымнула рэвалюцыя з мітынгамі, прамовамі, сцягамі і абавязковай „Марсельезай”, што гучала ў тых краях ужо ў пачатку Першай сусветнай (с. 39, 48). А ў 1918 г. прыйшлі немцы. «Да простят мне советские историки, — заўважае аўтар, — так красноречиво и подробно описавшие „зверства”, насилия и грабежи немецких оккупантов в 1918 г., — ничего этого не было» (с. 49). У Гомелі з'яўляліся войскі Цэнтральнай Рады і гетмана Скарападскага, пятлюраўцы, латышы, кітайцы, усіх адрозніваў адмысловы стыль, „но на всех наложила в той или иной степени свой проклятый отпечаток война” (с. 50)… Самым страшным успамінам часоў грамадзянскай вайны быў голад. Леанард Адамавіч з удзячнасцю і некаторым здзіўленнем успамінае салдата сталага веку, які падзяліўся з падлеткам кавалкам сала і лустай хлеба. Паездкі мяшочнікаў ва Украіну (асабліва яму запомнілася вандраванне ў Борзну Чарнігаўскай губ.) суправаджаліся небяспекай, не меншай, чым баі 1919 г. з белагвардзейцамі палкоўніка Стрэтакапытава ў непасрэднай блізкасці ад барака або бамбаванне пасёлка пад час савецка-польскай вайны 1920 г.

Аднагодкі браліся за ўсялякую працу, каб здабыць сродкі для жыцця — дробны гандаль цыгаркамі, ірыскамі, газетамі (у гэтым Дзербаў не ўдзельнічаў), працавалі насільшчыкамі на вакзале, збіралі яблыкі ў настаўніцкім садзе…

У адрозненне ад шматлікіх іншых у 1917 г. бацька пачаў вучыць 8-гадовага Леанарда іграць на скрыпцы. З гэтага часу амаль усё жыццё прайшло ў сяброўстве з музыкай („Музыка — душа моя”, — паўтараў ён за М. Глінкам). Ён быў да яе вельмі здольны і нягледзя-

чы на несістэматычнае навучанне бацькам, а пазней і кіраўніком мясцовага акадэмічнага аркестра З. Л. Захарыным рана пачаў выступаць, часам удваіх з Адамам Антонавічам, часам у складзе трыа. Сярод чыгуначнікаў было шмат аматараў музыкі, цэлыя сем'і былі захоплены ёю (так, дзеці калегі бацькі Пуксты пазней сталі прафесійнымі музыкамі — спявак, скрыпач, кампазітар). Бацькавы сябры Нікіціны загарэліся ідэяй стварэння струннага квартэта, які даў некалькі канцэртаў, за кожны з іх невысокі і непрыкметны на сцэне падлетак атрымліваў, як піша з вялікім гонарам, па 500 руб. Змена месца службы бацькі прынесла канец музычным заняткам, аднак і ў ЛДУ Л. А. Дзербаў выступаў на студэнцкіх вечарынах — але ўжо не на скрыпцы, а на мандаліне. І ў гэты час працягваў марыць пра заняткі музыкай. „Но и теперь — старый и оглохший… чувствую, как во мне где-то глубоко внутри звучат старые, полузабытые мелодии, будят прошлое, тревожат душу" (с. 65). І сумленна прызнаецца, што яму „неприятно видеть, как долговласые юнцы… гримасничают, кривляются и делают далеко не эстетические телодвижения, слушать беспорядочный набор звуков с назойливыми ритмами и бесконечными повторами, весь этот шум, гром и треск… это отвлекает и отучает молодежь от настоящей, истинной музыки" (с. 64–65).

Хлопчыка дома рыхтавалі да гімназіі. Ён шчыра зубрыў правілы ўжывання літары „яць", правілы арыфметыкі, табліцу множання, пачаў вывучэнне французскай і нямецкай моў. Да звычайных у тыя часы вячэрніх сямейных чытанняў Гогаля, Лермантава, Надсана, Апухціна, А. К. Талстога[5] неўзабаве дадаліся бібліятэчныя кнігі — прыгодніцкія і гістарычныя раманы, модныя часопісы „Нива", „Огонек", „Вокруг света". Але гімназіі, як „пережиток" ненавіснага буржуазнага ладу, у 1918 г. былі ліквідаваныя, а Леанард апынуўся ў 3-м

[5] Набор папулярных у пачатку XX ст. паэтаў і празаікаў быў стандартны па ўсёй краіне і ва ўсіх яе яшчэ недабітых саслоўях. Рэцэнзентка чытала тое самае ў 30–40-я г. XX ст. сярод рэштак сямейнай бібліятэкі.

класе „единой трудовой школы", які змяшчаўся, як і ўсё 1-я і 2-я ступені, у амаль неацяпляльным аднапавярховым будынку без санітарных выгод, дзе заняткі часта адмяняліся. У Гомелі сшыткаў і паперы не было, як і чарнілаў, падручнікі ж былі старыя — знакаміты задачнік [А. С.] Малініна і [К. П.] Бурэніна, „Книга для чтения" [В. П.] Вахцерава, [А. Я.] Астрагорскі і [І. Р.] Турцэвіч распавядалі пра цараванні манархаў і імператараў, намаляваных на ілюстрацыях з нязменнай шапкай Манамаха на галаве[6]. У цэлым школьныя гады былі бязрадаснымі і нешчаслівымі.

Затое наступная пара гадоў (1921–1922) падарыла радасць зносін з прыродай, гімн якой — „великому чуду, воспетому художниками и поэтами", — Леанард Адамавіч далучыў да хору сваіх папярэднікаў, аспрэчыўшы тургенеўскага Базарава, які бачыў у ёй не храм, а майстэрню. Адам Антонавіч атрымаў заданне стварыць санаторый у Злынцы ў цудоўным хваёвым бары паблізу ракі Іпуці і знакамітых бранскіх лясоў. Самотныя паходы на ўзлесак, на бераг ракі запомніліся „восторгом, радостью жизни — чувствами ранее никогда не испытываемыми, новыми и яркими" (с. 79), хоць і тут у 12-гадовага хлопца былі абавязкі нарыхтоўкі дроў — узімку, догляду за трусамі — цэлы год, лоўлі рыбы. Гэта дазволіла яму навучыцца многаму, „чего в городе не постигнешь за всю жизнь", — арыентавацца ў лесе, узлазіць на высокія дрэвы, плесці кошыкі, рабіць снасці, надраўшы для лёскі конскі волас проста з хваста каня і г. д.

Аднак спакойны і радасны перыяд змяніўся цяжэйшым. Вяртаючыся ў Гомель, бацька моцна застудзіўся, атрымаў абвастрэнне сухотаў і ў 1925 г. памёр. Карову давялося прадаць, цяля зарэзаць. Маці — нягледзячы на сваю хваробу — пайшла на працу, дзе служыў яе муж. „Нас выручил нэп" з яго багаццем харчовых і іншых

[6] Міжволі ўспомніш раман А. П. Чудакова „Ложится тень на старые ступени", дзе герой, амаль равеснік Л. А. Дзербава, здзіўляў школьных настаўнікаў, пачціва называючы прадстаўнікоў дому Раманавых „государями императорами", а ў задачках даведваўся кошт сукна, змеранага ў аршынах.

тавараў і „божескими ценами”, гэтая „единственно возможная в тех условиях, правильная политика, что люди были сыты, одеты… имели досуг и возможность отдохнуть”, — піша Л. А. Дзербаў і рытарычна пытаецца: „Что же сейчас, в 90-х гг. наши политики никак не могут… уберечь страну и народ от скатывания в экономическую и социальную пропасть?” (с. 91).

Разважанні васьмідзесяцігадовага старога ў 1992 г. напоўненыя некаторым песімізмам. Параўноўваючы сябе з бацькам-камуністам, які змагаўся, як і ён, за „светлое будущее”, сын піша, што „ничего не достиг… и теперь сижу у разбитого корыта”, «не нажил ничего, что мог бы оставить детям и внукам. Один только „интеллектуальный багаж”, а им одним, увы, жить нельзя» (с. 38). Псіхалагічны стан гісторыка падобны да аналагічнага не толькі яго пакалення, але і інтэлігенцыі (або яе рэшткаў) маладзейшага веку. „После долгих голодовок и нужды до сих пор осталось какое-то болезненное отношение к еде, хлебу, неуверенность в будущем, в завтрашнем дне, постоянно тревожащий вопрос — что мы оставляем своим детям, внукам?” (с. 40–41). Са шчырасцю, наогул уласцівай Л. А. Дзербаву, што адрознівае яго ад шматлікіх аднагодкаў, віну за гэта ён ускладае не столькі на сямейныя акалічнасці (раннюю смерць бацькі і хваробу маці), колькі на „неудавшуюся, неоправдавшую себя социальную систему, основанную на ложных принципах” (с. 40).

Але вернемся да храналагічнай канвы біяграфіі Л. А. Дзербава. Школьныя эксперыменты савецкай улады працягваліся. Звычайную школу ператварылі ў сямігодку, чыгуначная школа, перапоўненая спецыяльнымі прадметамі (накшталт вывучэння разнавіднасцяў паравозных і вагонных колаў), была ліквідаваная, але ў 1927 г. Дзербаву ўдалося закончыць звычайную школу-дзевяцігодку. Яго сябрамі сталі захопленыя музыкай, палітыкай, радыётэхнікай, выяўленчым мастацтвам аднагодкі, якія ўзбагацілі яго сваім жыццёвым і прафесійным досведам. Нягледзячы на гэта, першая спроба паступлення на геаграфічны факультэт

Ленінградскага ўніверсітэта „сына ж/д служащего" аказалася няўдалай з-за не такога, як трэба, сацыяльнага паходжання (!!!). „Предпочтение отдавалось парттысячникам, участникам гражданской войны, партийным и комсомольским активистам" (с. 106). Ва ўмовах страшэннага беспрацоўя Л. А. Дзербаў з цяжкасцю знайшоў месца на будоўлі ў якасці „специалиста по гашению извести", на самай справе грабара, і на наступны год, змяніўшы сацыяльны статус і ператварыўшыся ў „рабочего", паступіў на „ямфак" (факультэт мовазнаўства і матэрыяльнай культуры)[7] па той простай прычыне, што на гэты факультэт быў самы нізкі конкурс (13 чалавек замест 90 у Політэхнічны, 70 — у Лясны інстытуты; с. 106). Сямейная сітуацыя (хворая маці і непаўнагадовыя брат і сястра) не дазваляла „больше ждать или выбирать... Мне предстояло или поступить куда угодно, хоть к черту лысому, или навсегда остаться чернорабочим, человеком без профессии". На філалагічнае аддзяленне факультэта юнака не ўзялі, і ён вымушаны быў з прычыны „суровой необходимости" навучацца гісторыі.

З цягам часу аўтар палюбіў яе, спасцігнуўшы яе прывабныя рысы і грамадскую значнасць[8], стаў выдатным лектарам і выкладчыкам, нягледзячы на юнацкі зарок не быць педагогам, хоць у адрозненне ад музыкі «история, — робіць аўтар яшчэ адно сумленнае прызнанне, — так и не стала моей „душой", единственным и главным призванием, увлечением, моим „хобби", которому я бы отдал все свои силы и помыслы» (с. 109).

Леанард Адамавіч з захапленнем апісвае свае ўражанні ад Ленінграда, прывабнасць якога запомніў на ўсё жыццё, хоць адсутнасць інтэрната і сродкаў (нягледзячы на працу грузчыкам у порце і на заводах і на-

[7] У тыя гады гісторыя як такая была заменена вывучэннем матэрыяльнай культуры; дзейнічала Расійская акадэмія гісторыі матэрыяльнай культуры (РАГМК). Пра гэта гл. падрабязней: Формозов А. А. Русские археологи эпохи тоталитаризма. Москва, 2005.

[8] Падрабязней гл.: Дербов Л. А. Введение в изучение истории. Москва, 1981.

ват архівістам у падвалах Сената, дзе захоўваўся архіў царскай сям'і) рабілі і навучанне, і знаёмства з горадам пакутліва цяжкім. І першыя тры гады ён ацалеў толькі дзякуючы дапамозе сваіх беларускіх сяброў і знаёмых і прадуктовым пасылкам з радзімы.

Леанарду Дзербаву давялося вучыцца ў перыяд паскоранай падрыхтоўкі новых кадраў (радзіма была не ў стане чакаць іх больш за тры гады), брыгаднага метаду, засілля сацыялогіі і вывучэння гісторыі ў адваротнай або збітай храналогіі. Найбольш моцнае ўражанне на студэнтаў зрабілі яркія лекцыі Я. В. Тарле (на памяць мімаволі прыходзяць водгукі пра лекцыі В. В. Ключэўскага, роўныя па ўздзеянні на слухачоў), „исполненные полемического остроумия выступления приезжавшего в Саратов зама наркома просвещения М. Н. Покровского", але застаўся недаацэненым „тончайший знаток источников" С. Н. Валк, па заслугах атрымаў „субъективную" ацэнку Л. А. Дзербава „конформист" Б. Д. Грэкаў, „не пользовавшийся любовью студентов" (с. 119–123). Затое са шчырай любоўю і падзякай Леанард Адамавіч успамінае свайго кіраўніка па гісторыі англійскай рэвалюцыі XVII ст. П. П. Шчогалева (сына знакамітага пушкініста П. Е. Шчогалева, які шчодра аддаваў беларускаму хлопцу час, увагу і забяспечваў яго кнігамі са сваёй бібліятэкі), і выкладчыцу англійскай мовы Н. В. Ягараву (якая заахвоціла яго да вывучэння англійскай мовы).

Нельга сказаць, каб пераломныя ў гісторыі краіны падзеі (найперш барацьба з трацкізмам або акадэмічная справа) пакінулі прыкметны след у памяці аўтара ўспамінаў. Падрабязней ён апісвае працу па выратаванні ўніверсітэцкіх кніг і абсталявання пад час паводкі 1929 г. (с. 127).

Скончыўшы ўніверсітэт, ужо не ў якасці гатовага „ямщика", але выпускніка ЛГЛІ (Ленінградскага гісторыкалінгвістычнага інстытута) з дыпломам ЛГУ атрымаў накіраванне ў Растоў-на-Доне, а пачаў працаваць у педагагічным тэхнікуме імя Камінтэрна ў Новачаркаску, што захоўваў яшчэ рысы казацкай сталіцы (вобласці

войска данскога), жыхары якой ганарыліся, што яны „казакі". Вельмі цікавыя звесткі пра сістэму навучання на школьным (дакладней, там рыхтавалі выкладчыкаў пачатковай школы), дашкольным (выхавальнікі дзіцячых садоў) аддзяленнях і СПОНЕ, што выпускала спецыялістаў па барацьбе з беспрытульнасцю і ахове непаўналетніх (беспрытульнікаў у той час налічвалася больш за 6 млн.). Усе яны па брыгадна-лабараторным метадзе (адказваў адзін, залічвалася ўсёй „брыгадзе") праходзілі палітычную эканомію, эканамічную палітыку СССР, ленінізм, дыялектычны і гістарычны матэрыялізм і адзіны гістарычны прадмет — гісторыю класавай барацьбы ўсіх часоў і народаў.

Новачаркаскам завяршыўся беларускі перыяд жыцця Л. А. Дзербава, які перавёз з Гомеля сям'ю. Пачаўся новы, афарбаваны сяброўствам з украінскім біёлагам М. В. Вайтэнка, заняткамі спортам і музыкай, марамі аб заваяванні Эльбруса і авалоданнем класічнай літаратурай ад Іліяды да XX ст.

Але не скончыліся яго бедствы. Леанард Адамавіч патрапіў у агульную плынь, гэтым разам тых, якія галадалі ў выніку калектывізацыі, спецыфічна для гэтага раёна — пад час ліквідацыі казацтва, што стала „подлинным геноцидом" яго (с. 144). Мясарубка калектывізацыі на Доне мела сваю спецыфіку, бо там «главной фигурой <…> был „справный" казак, хозяин, имевший необходимый достаток для того, чтобы не только содержать семью, но обзавестись конем, обмундированием и вооружением для несения государственной военной службы. <…> Попытки протеста рассматривались как „кулацкий саботаж". Вслед за сообщениями о занесении той или иной станицы на „черную доску" или награждении „рогожным знаменем" начались насильственная депортация, выселение и подлинный геноцид» (с. 144). Перасяленне ў апусцелыя станіцы сялян з поўначы сітуацыю з харчам не палепшыла, як і ліхаманкавыя высілкі гараджан, у тым ліку студэнтаў і выкладчыкаў, выратаваць ураджай 1932 г. „А весной 1933 г. уже и сеять было некому" (с. 145). Л. А. Дзербаў двойчы падкрэслівае, што карціна

шолахаўскага рамана „Поднятая целина” зусім не адпавядала таму, што адбывалася навокал, і прыходзіць да высновы, што Шолахаў „явно подыграл Сталину!” (с. 135).

„Голод, небывалый и страшный” (у вуснах чалавека, што напакутаваўся ўжо пад час грамадзянскай вайны, гэтыя словы асабліва важкія), які яго сям’я перажыла з неверагоднай цяжкасцю, з апуханнямі ад голаду і сыпным тыфам, захапіў усе хлебныя раёны краіны — Дон, Украіну і Паволжа. У сувязі з цяперашнімі спрэчкамі пра „галадамор” ва Украіне, як адзінае месца савецкага генацыду сялянства, сведчанне Л. А. Дзербава набывае асаблівую актуальнасць.

Выпрабаванні 1932–1933 г. раскідалі сям’ю. Брат паступіў у Маскоўскі бібліятэчны інстытут, сястра, авалодаўшы прафесіяй трактарысткі, пераехала спачатку ў Гомель, а потым у Мінск, маці з’ехала да сваякоў у Гомель. А сам Л. А. Дзербаў вырашыў паступіць у аспірантуру, не па спецыяльнасці „замежная новая гісторыя”, па якой ён пісаў дыпломную працу, а па айчыннай гісторыі, разумна разважыўшы, што заняткі гэтай праблематыкай маюць большыя магчымасці па даступнасці архіваў і літаратуры, і паступіў не ў ЛГУ, які, як і ўвесь горад, пазбавіўшыся пераведзенай у Маскву Акадэміі навук, „заметно захирел”, а ў МДУ, які насіў тады імя М. М. Пакроўскага. Удала паступіўшы пры конкурсе 4 чалавекі на месца аспірант першага пасля ўзнаўлення гістфака прыёму заспеў сталіцу з яшчэ не знесенай кітайгародскай сцяной, андрэеўскім помнікам Гогалю на Арбацкай плошчы, апякушынскім Пушкіным у канцы Цвярскога бульвара, Садовым кальцом, якое сапраўды патанала ў садах, але ўжо з кінатэатрам „Художественный” і гасцініцай „Москва”, ранейшы варыянт якой быў знесены ўжо ў XXI ст. разам з ацалелымі ў 30-я і гады Другой сусветнай вайны асабнякамі.

Аспіранту, які толькі пачынаў навуковую кар’еру, пашанцавала з выкладчыкамі. Ён заспеў зорны склад кафедры — М. Л. Рубінштэйна, М. М. Дружыніна, С. У. Бахрушына, К. В. Базілевіча. Першым круатарам Дзербава

быў М. М. Ванаг, які загінуў у 1936 г. Фактычным жа кіраўніком быў М. Л. Рубінштэйн[9], сяброўства з якім, умацаваўшыся пад час эвакуацыі апошняга ў Саратаў у гады Айчыннай вайны, суправаджала ўсё жыццё абодвух[10]. Гэткімі ж трывалымі былі цёплыя пачуцці беларускага саратаўца да чалавека „золотой души <...> доброго и отзывчивого" Г. М. Панкратавай. Маскоўска-аспіранцкая частка ўспамінаў Л. А. Дзербава напоўнена сяброўскімі водгукамі і пра аднакурснікаў (К. А. Антонаву, С. С. Дзмітрыева, А. Л. Нарачніцкага, Г. Д. Тэйвеле, Р. П. Канюшую), і пра новых сяброў з крымскага санаторыя, куды аўтар патрапіў у 1936 г. як „победитель социалистического соревнования и ударнік"[11] (сярод аспірантаў) — у прыватнасці, пра генетыка У. В. Сахарава, гэтак жа, як і Дзербаў, захопленага музыкай, паэзіяй, літаратурай.

Рэпрэсіі на гістфаку МДУ 1936 г., якія суправаджаліся арыштамі дэкана Г. Ч. Фрыдлянда, П. Ф. Праабражэнскага, ак. М. М. Лукіна, М. М. Ванага, С. М. Дуброўскага, большасць якіх загінулі, і выгнаннем з партыі, высылкай у Саратаў Г. М. Панкратовой, ледзь не загубілі і аўтара ўспамінаў з жонкай Т. Л. Марозавай: ім прыгадалі выставу матэрыялаў па гісторыі СССР вясны 1935 г., дзе стэнд з царом Іванам IV апынуўся пад партрэтам Сталіна (выпадкова, але вельмі прароча!), і ў 1936 г. ацэненую Е. Яраслаўскім як „контрреволюционную". Клопаты аб „реабилитации" аказаліся безвыніковымі. Муж і жонка атрымалі характарыстыкі, падобныя да „волчьих билетов". У выніку шлях у Мінск, „приграничный город", у БДУ, з якім ужо была заключана дамова, быў

9 Пад яго кіраўніцтвам Л. А. Дзербаў напісаў працу „Крестьянская война на Украине в середине XVII в.", але „разошелся в главных и принципиальных проблемах темы со своим научным руководителем" (с. 160).

10 Цамутали А. Н. „У меня, как всегда, много работы...": Несколько штрихов к облику Н. Л. Рубинштейна // Страницы российской истории: Проблемы, события, люди. Сб. статей в честь Бориса Васильевича Ананьича. С.-Петербург, 2003. С. 275–285.

11 Не блытаць з музычнай прафесіяй.

зачынены… Вяртанне на радзіму стала немагчымым. Можа быць, „это был перст божий… спустя 4 года Минск был превращен в развалины и оккупирован немцами" (с. 170).

Іх прытуліў пединстытут у Сталінградзе, які ў той час быў „неинтересным городом <…> и в экологическом, и в культурно-историческом отношении" (с. 174). Мала было цікавых людзей і ў самім інстытуце, і ў горадзе (выключэнне складалі — у інстытуце М. А. Алпатаў, Е. Кандзель, а ў горадзе — Г. А. Замяцін, спецыяліст па гісторыі Смуты пачатку XVII ст.). Знаходжанне ў Сталінградзе аблягчала толькі сяброўства з М. А. Алпатавым, яркім і таленавітым данскім казаком, выпускніком ІФЛІ, гісторыкам, культуролагам і пісьменнікам („Горят костры", „Откуда течет Тихий Дон") ды нязменная спадарожніца Дзербава музыка (дзякуючы набыццю электрафона, папярэдніка патэфона, ён пачаў калекцыянаваць пласцінкі, якімі заслухоўваліся частыя госці сямейства). Нездаволенасць пасадай метадыста, адсутнасцю магчымасцяў для заняткаў навукай зрушыла сямейства Дзербавых з гарачага і пыльнага горада на поўнач — у Саратаў, дзе працавала Г. М. Панкратава і выпускнікі маскоўскай аспірантуры. «Может, это опять был „перст божий" — ровно через четыре года Сталинград был снесен с лица земли во время немецкого нашествия и великой битвы на Волге!» (с. 183).

Апошні раздзел пра доўгае, напоўненае працай і плённае жыццё ў Саратаве кароткі і хутчэй нагадвае афіцыйную справаздачу аб прачытаных ва ўніверсітэце курсах, незлічонай колькасці лекцый у шматлікіх установах і г. д.[12], калі не лічыць студэнцкіх прысвячэнняў на падораных яму кнігах. Прывяду адно з гэтых пасланняў:

[12] Ад чаго засталося толькі „чувство горечи о зря потерянном времени. Надо было растить детей, сажать деревья, писать книги. Это остается…" (с. 194). Цяжка цалкам пагадзіцца з аўтарам успамінаў. Жывое слова больш даходлівае, менавіта яно можа павярнуць лёс чалавека, які і праз дзясяткі гадоў будзе з удзячнасцю успамінаць настаўніка і лектара (пра што, між іншым, піша і сам Леанард Адамавіч; с. 192).

„Вы — первый учитель в нашей взрослой жизни, сумевший увлечь нас историей, приблизить к ее тайнам… Вы научили нас стремлению узнавать каждый день новое, читать, слушать музыку, понимать живопись, без чего жизнь была бы серой и неинтересной” (с. 191). Другая асаблівасць гэтага раздзела — сумленная ацэнка сваёй навуковай прадукцыі. „…Больше всего мне нравятся мои труды о русско-польских отношениях (особенно статья о кандидатуре Ивана Грозного на польский престол — единственная в советской литературе!), моя докторская диссертация о Новикове[13] и другие публикации о русских просветителях XVIII в.” (с. 193).

У заключэнні кнігі аўтар сам адзначае галоўную асаблівасць сваіх мемуараў: „приведенные здесь факты достоверны, соответствуют реальной действительности. Ничего выдуманного, никакого баснословия, стариковских фантазий нет” (с. 197).

Завяршае ж кнігу палымяны — у адрозненне ад спакойна-талерантнага (нават у дачыненні да даносчыцы 30-х г.) стылю — маніфест навукоўца „Несколько горьких мыслей о развитии советской исторической науки и причинах нынешнего ее плачевного состояния” — урывак з нявыказанай прамовы чэрвеня 1989 г. (у год свайго 80-годдзя). Хоць тут Дзербаў звяртаўся да праблем „савецкай” навукі, шматлікія яе палажэнні яшчэ больш актуальныя ў наш „постсавецкі” час.

Варта паўтарыць галоўныя палажэнні прамовы: 1. Стварэнне няправільнай, спрошчанай, аднабокай мадэлі (тэорыі) гістарычнага працэсу з перабольшаным уяўленнем аб ролі матэрыяльных умоў, эканомікі, класавай барацьбы і інш. і відавочнай недаацэнкай чалавечага фактара, ролі асобы, духоўнага жыцця, ролі ідэй, грамадскай псіхалогіі, дзяржаўных, нацыянальных і рэлігійных момантаў”. Калі ад першай прычыны „плачевного состояния” наша навука паступова пазбаўляецца, то другая („узкоклассовый догматический подход, нетерпимость к

[13] Дербов Л. А. Общественно-политические и исторические взгляды Н. Н. Новикова. Саратов, 1974.

инакомыслию") проста мадыфікавалася: месца „дореволюционных" і замежных „буржуазных ученых" занялі сучасныя айчынныя, якія не згаджаліся „выпрямлять" гісторыю ў афіцыёзна-патрыятычным духу. Менавіта пра гэта і ідзе гаворка ў пункце трэцім прамовы Л. А. Дзербава: „прямое и грубое подчинение исторической науки политической конъюнктуре" (нашы дні — гэта трактоўка ролі Івана IV і „эффективного менеджера" Іосіфа Сталіна, апошняга ў кантэксце яго замежнай палітыкі і асабліва Айчыннай вайны). У поўнай меры захаваліся „административно-командные" метады кіравання гістарычнай навукай, прамое і грубае ўмяшанне дзяржаўнага і партыйнага (які носіць, праўда, крыху іншае найменне) кіраўніцтва ў справы навукі і „девальвация исторической науки", якая яго суправаджае (у нашы дні выявілася найвыразней у феномене Фаменкі). Паўтараць жа ўслед за Л. А. Дзербавым тэзіс пра „нищенскую (по сравнению с Западом) материальную и техническую базу исторической науки, ее учреждений и кадров" не лічу патрэбным, бо ў аналагічным становішчы знаходзяцца і іншыя галіны навукі (біялогія, хімія і інш.), адкуль адбываецца яшчэ больш масавы адток кадраў за мяжу.

А вось апошні тэзіс вучонага заслугоўвае адмысловай увагі, бо ў ім якраз і „зарыта собака" бедстваў айчыннай навукі і культуры і ўрэшце хуткага і катастрафічнага скочвання Расіі да ўзроўню краін трэцяга свету. «Нигилизм и недоверие со стороны „народа" и „руководства" к научной интеллигенции, к интеллигенции и „интеллигентности" вообще, отношение к ним как к чему-то отрицательному, „стыдному", классово чуждому, во всяком случае, неполноценному, особенно к наукам гуманитарным и их представителям, которые ведь не „пашут" и не „сеют", да и вообще ничего не производят. А историческая наука — одна из самых „интеллигентных" наук!

Кажется, козе должно быть ясно, что науку создает не „рабочий класс" и не „народ" вообще, а лишь образованная его часть, т. е. интеллигенция. Нетрудно понять, что без науки общество обречено на застой, деградацию и гибель» (с. 201).

Вядома, у нашы дні рабочы клас і цудам ацалелыя сяляне па ступені нядбайнасці да іх інтарэсаў зраўняліся з інтэлігенцыяй, і не толькі навуковай, але і з „балалаечнікамі" і іншымі дзеячамі культуры. Але асноўная выснова Л. А. Дзербава аб асуджанасці падобнага грамадства застаецца ў поўнай сіле. Бо дагэтуль дзейнічае дактрына У. І. Леніна аб немэтазгоднасці выхавання новай інтэлігенцыі: „Вообще к интеллигенции, как вы, наверное, знаете, я большой симпатии не питаю, и наш лозунг „ликвидировать безграмотность" отнюдь не следует толковать как стремление к нарождению новой интеллигенции. „Ликвидировать безграмотность" следует лишь для того, чтобы каждый крестьянин, каждый рабочий мог самостоятельно, без чужой помощи, читать наши декреты, приказы, воззвания. Цель — вполне практическая. Только и всего"[14].

Насуперак ёй жыў і дзейнічаў годны сын беларускага народа Л. А. Дзербаў. Успаміны Дзербава адрозніваюцца ад асноўнай масы мемуараў яго калег. Яны вельмі нешматслоўныя, стрыманыя ў ацэнках, высакародныя ў дачыненні да годных людзей, надзвычай сумленныя і інфармацыйныя. Карціны жыцця ў Беларусі напярэдадні і пад час рэвалюцыі і грамадзянскай вайны, у Новачаркаску ў перыяд калектывізацыі — сур'ёзны уклад гісторыка ў разуменне мінулага стагоддзя.

Яго зацятасць у авалоданні ведамі насуперак усім і ўсялякім перашкодам, тыповым для савецкага часу, яго сумленнасць у навуцы і выкладанні — неўміручы прыклад для новых пакаленняў, прыклад чалавека таго самага пакалення савецкай інтэлігенцыі, якую не хацеў гадаваць заснавальнік Савецкай дзяржавы. У ім не было ўласцівага стандартнаму савецкаму чалавеку цынізму, які склаўся яшчэ ў 20-я г. і пышна квітнее ў нашы дні. Логіка цяжка і мужна пражытага жыцця прывяла Л. А. Дзербава да адмаўлення той самой міфічнай дактрыны, на якой трымаўся дзяржаўны лад,

[14] Анненков Ю. П. Дневник моих встреч. Цикл трагедий. Москва, 2005. С. 60.

які абрынуўся ў бездань. І гэта таксама адзін з урокаў для новых пакаленняў людзей, якія выдаюць сябе за інтэлігентаў і мараць пра вяртанне савецкай сістэмы. Атэіст Л. А. Дзербаў належыць да тых прадстаўнікоў новай інтэлігенцыі савецкага часу, на якіх у свой час — у 20–40-я г. XX ст. — ускладаў надзеі на выратаванне Расіі вялікі рускі рэлігійны філосаф Г. П. Фядотаў.

Ёсць і яшчэ адзін — чыста гістарыяграфічны аспект значнасці рэцэнзаванага тома. Успаміны Л. А. Дзербава змяшчаюць і ключ да разумення цяперашняга развіцця беларускай гістарычнай навукі. Не абцяжараныя ўласцівым расіянам імперскім комплексам, пераўтвораным цяпер у комплекс непаўнавартаснасці, беларускія гісторыкі больш свабодныя ў сваіх пабудовах. Акрамя таго, мірнае суіснаванне некалькіх рэлігій, якое, дарэчы, паспрыяла адмаўленню аўтара ад ўсіх, не дазволіла ні адной з беларускіх цэркваў уступіць у ганебны альянс з дзяржаўнай уладай, як зноў зрабіла РПЦ. А гэта ў сваю чаргу пакінула прастору свабоды і для вывучэння гісторыі мінулага. Нельга скідаць з рахункаў і ўплыў геапалітычнага фактара, які аблягчаў цеснае і зацікаўленае супрацоўніцтва з суседзямі, што прывучала не толькі да талерантнасці да іншых народаў, але і да вывучэння іх моў. Таму да выкліку нашага часу гісторыкі Беларусі падышлі больш псіхалагічна і прафесійна падрыхтаванымі, чым іх расійскія калегі. У выніку сучасная беларуская гістарыяграфія мяжы XX–XXI ст. перажывае небывалы ўзлёт.

*Пераклад Юльяны Ветрык*

# Пра князя Юрыя Лынгвеневіча Мсціслаўскага і не толькі*

**Сяргей Палехаў**

На старонках прац, прысвечаных сярэднявечнай гісторыі Вялікага Княства Літоўскага, доўгі час амаль не знаходзілася месца жывым людзям, якія стваралі і асэнсоўвалі гэтую гісторыю. Вучоныя нярэдка ішлі пракладзеным шляхам: біяграфіі людзей Вялікага Княства (князёў, баяраў, епіскапаў) абмяжоўваліся зводкамі генеалагічных і прасапаграфічных дадзеных, якія практычна не ўплывалі на агульную карціну: у ёй працягвалі дзейнічаць крыху абстрактныя „рускія землі ВКЛ", „саслоўі" і „народныя масы". Гэта, у сваю чаргу, у многіх выпадках вяло да складання няправільных лагічных сувязяў. Бадай, менш за ўсё пашанцавала князям, у тым ліку з кіроўнай дынастыі Гедымінавічаў: яны традыцыйна застаюцца ў цяні манархаў, і зацікаўлены чытач да нядаўняга часу вымушаны быў задавольвацца фундаментальнай, але па неабходнасці лапідарнай працай Ю. Вольфа пра літоўска-рускіх князёў (1895)[1], у лепшым выпадку — біяграмамі ў „Польскім біяграфічным

* Варонін, Васіль А. Князь Юрай Лынгвеневіч Мсціслаўскі. Гістарычны партрэт. Мінск: Тэхналогія, 2010. 63 с., [4] іл. *Рэд.*: Першы варыянт рэцэнзіі пабачыў свет у Маскве (гл.: Полехов С. В. Несколько замечаний к биографии князя Юрия Лугвеневича Мстиславского // Древняя Русь. Вопросы медиевистики. 2011. № 2(44). С. 106–112) і зацікавіў нас. З ласкавага дазволу рэдакцыі часопіса „Древняя Русь. Вопросы медиевистики" мы змяшчаем яе беларускі варыянт, папраўлены і дапоўнены аўтарам.

1 Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy od końca XIV wieku. Warszawa, 1895.

слоўніку" ці ў адной з „Літоўскіх энцыклапедый". На першы погляд магло б падацца, што гісторык пазбаўлены выбару: ва ўмовах станаўлення пісьмовай культуры ў ВКЛ мала хто з яго жыхароў да мяжы XV–XVI ст. пакінуў пасля сябе комплекс крыніц, які дазволіў бы больш-менш усебакова асвятліць яго біяграфію, або такія крыніцы да нас не дайшлі з прычыны няпростага палітычнага лёсу рэгіёна.

Але шлях да абагульненняў у гістарычнай навуцы ляжыць праз індывідуальнае і ўнікальнае. Нядаўнія даследаванні польскіх і літоўскіх аўтараў (Я. Тэнгоўскі, Р. Пятраўскас і інш.) паказалі перспектыўнасць прасапаграфічнага падыходу, які на падставе дадзеных пра жыццё асобных князёў і вяльможаў дазваляе паставіць і вырашыць больш агульныя праблемы гісторыі ВКЛ[2]. У гэтым шэрагу стаіць і новая праца беларускага гісторыка Васіля Вароніна. Невялікая кніга прысвечана князю Юрыю Лынгвеневічу (Сямёнавічу), унуку Альгерда па бацьку і Дзмітрыя Данскога па маці, Гедымінавічу, які ў першай палове — сярэдзіне XV ст. кіраваў у Мсціславе, Ноўгарадзе, Смаленску і Полацку, мог сур'ёзна прэтэндаваць на віленскі прастол, але так яго і не заняў. Выбраны аўтарам жанр гістарычнага партрэта дае магчымасць не толькі ўбачыць героя кнігі ў кантэксце яго эпохі, але і па-новаму зірнуць на шэраг аспектаў гісторыі ВКЛ таго часу, хоць некаторыя канкрэтныя высновы патрабуюць

[2] Асноўныя працы: Tęgowski J. Pierwsze pokolenia Giedyminowiczów. (Biblioteka Genealogiczna. T. 2.) Poznań, Wrocław, 1999; Petrauskas R. Lietuvos diduomenė XIV a. pabaigoje — XV a.: Sudėtis — struktūra — valdžia. Vilnius, 2003; Idem. Didžiojo kunigaikščio institucinio dvaro susiformavimas Lietuvoje (XIV a. pabaigoje — XV a. viduryje) // Lietuvos istorijos metraštis. 2005. T. 1. Vilnius, 2006. Вынікі гэтых даследаванняў Р. Пятраўскаса даступныя і на іншых мовах, акрамя літоўскай: Petrauskas R. The Lithuanian Nobility in the Late Fourteenth and Early Fifteenth Centuries: Composition and Structure // Lithuanian Historical Studies. Vol. 7: 2002. Vilnius, 2003; Пятраўскас Р. Фармаваньне інстытуцыйнага двара вялікага князя ў Літве (XIV — пачатак XV ст.) // Arche Пачатак. 2009. № 9.

удакладненне ці нават карэктаванне. Але пра ўсё па парадку.

Кніга складаецца з уступу, трох раздзелаў, заключэння і дадаткаў. Першы раздзел, самы кароткі, прысвечаны сям'і і гадам юнацтва князя Юрыя. Аўтар пачынае з біяграфіі яго бацькі Лынгвеня (у праваслаўным хрышчэнні Сямёна) — аднаго з сыноў Альгерда. Звяртае на сябе ўвагу тое, што Лынгвень, пачаўшы сваю палітычную дзейнасць як „чалавек Ягайлы", будучага польскага караля Уладыслава II, пасля стаў „сваім" і для новага вялікага князя Вітаўта (у адрозненне ад іншых каралеўскіх братоў — Скіргайлы і Свідрыгайлы). Пра гэта сведчыць і яго жаніцьба з сястрой вялікага князя маскоўскага Васіля Дзмітрыевіча, які сам быў жанаты з дачкой Вітаўта, і ўдзел у ваенных кампаніях вялікага князя літоўскага (карыстаючыся выпадкам, адзначу, што праціўнікам Лынгвеня ў бітве пад Любуцкам 1402 г. быў разанскі князь Радаслаў Алегавіч, а не Яраслаў, як напісана ў кнізе). Дзеля паўнаты карціны аўтару варта было б адзначыць, што пасля прыезду з Ноўгарада ў 1392 г. Лынгвень атрымаў Мсціслаўскае княства, з якім быў цесна звязаны лёс яго нашчадкаў. Тут, як відаць, і нарадзіўся яго сын Юрый. В. Варонін справядліва адносіць гэтую падзею да 1395–1399 г., калі Лынгвень быў у першым шлюбе. Гэта дазваляе ў далейшым расповедзе аргументавана адхіліць распаўсюджаны пункт погляду, быццам Юрый Лынгвеневіч узначальваў нейкае фармаванне ў Грунвальдскай бітве 1410 г.

Другі, самы вялікі, раздзел даследавання ахоплівае найбольш яскравы перыяд жыцця Юрыя Лынгвеневіча — з 1422 г., да якога адносіцца першае дакладнае ўпамінанне пра яго самастойную дзейнасць, да канца 40-х г. XV ст. Са смерцю Вітаўта ў 1430 г. у ВКЛ пачаліся бурныя падзеі, у якіх немалую ролю выконваў герой кнігі. Гэта патрабуе ад аўтара, з аднаго боку, звяртаць асаблівую ўвагу на гістарычны кантэкст дзейнасці героя яго кнігі, з другога — не сыходзіць у расповед пра эпоху. У цэлым В. Варонін паспяхова справіўся з гэтай задачай, асабліва калі ўлічваць, што ў гістарыяграфіі

ВКЛ адсутнічае сучаснае, усебаковае і падрабязнае даследаванне падзей 30–40-х г. XV ст. Але некаторыя рашэнні, прапанаваныя ў кнізе, патрабуюць удакладнення. Першая даследчая праблема, з якой тут сутыкаецца аўтар, — пытанне пра выбранне / прызначэнне вялікага князя пасля смерці Вітаўта. В. Варонін далучаецца да гіпотэзы Л. Калянкоўскага: новага вялікага князя прызначыў польскі кароль і вярхоўны князь Літвы Уладыслаў II Ягайла, якому неабходна было захаваць асобнае Вялікае Княства Літоўскае, каб у далейшым гарантаваць сваім сынам польскі прастол. Таму, робіць выснову В. Варонін, яго выбар і выпаў на бяздзетнага Свідрыгайлу, а не на Лынгвеня, у якога ўжо былі два сыны (15–16). Аднак пасля выдання працы Калянкоўскага гісторыкі прыйшлі да высновы, што сынам караля не пагражала непрызнанне з боку польскай шляхты, а яе канфлікт з дынастыяй быў выкліканы меркаваннямі прэстыжу[3]. Больш за тое, як паказаў Я. Нікодэм, гіпотэзу Калянкоўскага не пацвярджаюць ні сучасныя падзеям крыніцы, ні гістарычны кантэкст гэтых падзей (узаемаадносіны Ягайлы і Вітаўта), ні фармальная логіка (Ягайла, безумоўна, разумеў, што каранацыя Вітаўта зусім не вырашала пытання пра атрыманне ў спадчыну літоўскага прастола на карысць польскага каралевіча)[4]. Не пацвярджаецца і гіпотэза пра прызначэнне новага вялікага князя польскім каралём[5]. Свідрыгайла стаў вялікім князем пры падтрымцы шляхты ВКЛ, але не па прызначэнні Ягайлы. Да таго ж у найбліжэйшыя планы Свідрыгайлы ў канцы 1430 г.

[3] Падрабязней гл.: Gawlas S. Zbigniew Oleśnicki wobec sporu o ustrój państwa (1425–1430) // Zbigniew Oleśnicki. Książę Kościoła i mąż stanu. Materiały z Konferencji (Sandomierz, 20–21 maja 2005 roku) / Pod red. F. Kiryka i Z. Nogi. Kraków, 2006.

[4] Nikodem J. Spory o koronację wielkiego księcia Litwy Witolda w latach 1429–1430. Cz. II: Próba rekonstrukcji wydarzeń // Lituano-Slavica Posnaniensia. Studia Historica. T. 7. Poznań, 1997. S. 158–163.

[5] Nikodem J. Wyniesienie Świdrygiełły na Wielkie Księstwo Litewskie // Białoruskie Zeszyty Historyczne. T. 19. Białystok, 2003.

уваходзіла жаніцьба з дачкой малдаўскага гаспадара[6]; што зрабіў бы Ягайла, калі б у Свідрыгайлы нарадзіўся нашчадак? Усё гэта прымушае зусім у іншым кірунку шукаць адказ на пытанне, чаму прастол заняў не Лынгвень, а Свідрыгайла. Адказ, па сутнасці, дае сам аўтар: нават калі згода з Ягайлам і Вітаўтам „не ва ўсім адпавядала яго ўласным інтарэсам і палітычным амбіцыям, Лынгвень падпарадкоўваўся" (10). Свідрыгайла ж многія гады падкрэсліваў свае правы на „бацькоўскую спадчыну"[7], а ў крытычны для Вітаўта момант у 1430 г. распачаў энергічныя дзеянні і заняў віленскі прастол.

[6] Пра гэта Свідрыгайла паведаміў рымскаму каралю Жыгімонту Люксембургскаму праз свайго пасла Жыгімонта Рота, даверчая грамата якому датаваная 9 лістапада 1430 г. (Geheimes Staatsarchiv Preußischer Kulturbesitz, XX. Hauptabteilung: Konigsberger Archiv Ordensbriefarchiv (далей — GStAPK, OBA) 5542, Bl. 1r–v; кароткі змест апубл.: Codex epistolaris Vitoldi, magni ducis Lithuaniae. Cracoviae, 1882. (далей — CEV). Nr. 1464).

[7] У найбольш яскравай форме гэта было выражана ў прамове прадстаўніка Свідрыгайлы, Іагана Нікласдорфа, на Базельскім саборы ў 1434 г.: па яго словах, бацька вялікага князя (Альгерд) распарадзіўся, што калі яго старэйшы брат Ягайла атрымае каралеўства, то вялікім князем літоўскім павінен стаць Свідрыгайла (Joannis de Segovia, presbyteri cardinalis tit. Sancti Calixti, Historia gestorum generalis synodi Basiliensis // Monumenta conciliorum generalium seculi decimi quinti. Concilium Basileense. Scriptorum t. 2. Vindobonae, 1873. P. 619). Падрабязны аналіз гл.: Matusas J. Švitrigaila Lietuvos didysis kunigaikštis. Vilnius, 1991. P. 18–19; Nikodem J. Data urodzenia Jagiełły. Uwagi o starszeństwie synow Olgierda i Julianny // Genealogia. Studia i Materiały Historyczne. T. 12. Poznań, Wrocław, 2000. S. 44–45. Між тым спасылка Свідрыгайлы на „бацькоўскую спадчыну" практычна нязменна паўтараецца ў дакументах, звязаных з яго барацьбой за літоўскі прастол: напрыклад, у дагаворы з Тэўтонскім ордэнам 2 лютага 1402 г. ён называе сябе „наследнікам Літвы і Русі" (Die Staatsverträge des Deutschen Ordens in Preußen im 15. Jahrhundert. Bd. 1: 1398–1437 / Hrsg. von E. Weise. Marburg, 1970. Nr. 10. S. 18). Не выпадковае і ўпамінанне бацькоўскага прастола ў пасольстве Свідрыгайлы да Жыгімонта Люксембургскага ад 9 лістапада 1430 г. (GStAPK, OBA 5542, Bl. 1r.)

Лынгвень (памёр каля 1431 г.) і яго сын актыўна падтрымлівалі палітыку новага вялікага князя. Юрый Лынгвеневіч застаўся на баку Свідрыгайлы і пасля яго звяржэння ў ноч з 31 жніўня на 1 верасня 1432 г. Той збег у Полацк, дзе неўзабаве пачаў збіраць войска для паходу супраць новага вялікага князя Жыгімонта Кейстутавіча з мэтай адваявання прастола. Аснову войска Свідрыгайлы пад час яго паходу на Літву складалі не толькі палачане (18), але таксама віцебскія і смаленскія баяры (і, верагодна, мяшчане), паколькі войскі паўднёвых земляў ВКЛ (Кіеўшчыны, Валыні, Усходняга Падолля) вялі баявыя дзеянні супраць Польшчы, якая скарысталася пераваротам у гэтай дзяржаве. Дарэчы, менавіта тады, восенню 1432 г. (а не ў 1433–1435 г., як мяркуе В. Варонін), быў складзены „Спіс гарадоў Свідрыгайлы": пра гэта сведчыць і яго змест, і ўпамінанне ў тагачаснай перапісцы[8]. Але галоўнае, што выклікае пярэчанні ў аўтарскай характарыстыцы дзейнасці Свідрыгайлы, — гэта сцверджанне пра яго „рускую праграму", якую ён „актыўна праводзіў" у 30-я г. XV ст. (50). Насуперак распаўсюджанаму меркаванню, няма падстаў лічыць палітыку Свідрыгайлы ў 1430–1432 г. „праafрускай"[9]. Што ж датычыцца „ідэі Вялікага княства Рускага", пра якую піша В. Варонін (25), то варта памятаць, што такое асэнсаванне падзей грамадзянскай вайны у ВКЛ (уладанні Свідрыгайлы як „Вялікае княжанне Рускае") цалкам належыць смаленскаму летапісцу XV ст., сам жа Свідрыгайла працягваў тытулавацца „вялікім князем літоўскім і рускім"[10], а яго

[8] Полехов С. В. О дате и обстоятельствах возникновения „Списка городов Свидригайла" (у друку).

[9] Полехов С. В. К вопросу о причинах государственного переворота в Великом княжестве Литовском в 1432 г. // Studia Historica Europae Orientalis = Исследования по истории Восточной Европы. Минск, 2008. Вып. 1. Гэты артыкул напісаны да майго знаёмства з матэрыяламі гістарычнага Каралявецкага архіва, якое прымусіла скарэктаваць некаторыя моманты, але пацвердзіла правільнасць агульнай высновы.

[10] Звяртае на сябе ўвагу тое, як характарызуе сітуацыю іншы сучаснік — дыякан Іосіф, які перапісаў у Кіеве ў 1434 г. тлумачальнае Евангелле: кніга перапісана „при самодръжци

галоўнай мэтай было вяртанне віленскага прастола, што цудоўна разумелі (і падтрымлівалі) рускія падданыя[11].

Да восені 1432 г. адносіцца яшчэ адзін эпізод біяграфіі Юрыя Лынгвеневіча, які трапіў на старонкі крыніц, — яго знаходжанне на кармленні ў Ноўгарадзе. Па меркаванні аўтара кнігі, князь прыехаў у Ноўгарад у жніўні — верасні, хоць пскоўскі летапісец змяшчае паведамленне пра яго прыбыццё на Волхаў паміж звесткамі аб канфлікце („рагозе”) паміж Свідрыгайлам і Жыгімонтам Кейстутавічам з-за вялікага княжання, які пачаўся 1 верасня, і аб Ашмянскай бітве паміж гэтымі князямі, якая адбылася 8 снежня 1432 г. У гэтай бітве на баку Свідрыгайлы ўдзельнічаў і герой кнігі, які вярнуўся з Ноўгарада і ў выніку трапіў у палон да Жыгімонта Кейстутавіча. Менш чым праз год Юрый Лынгвеневіч уцёк з палону: ужо 3 кастрычніка 1433 г. ён, як вынікае з ліста Свідрыгайлы вялікаму магістру Тэўтонскага ордэна Паўлю фон Русдорфу, знаходзіўся ў Мсціславе[12]. 26 кастрычніка мсціслаўскі замак асадзіў Жыгімонт Кейстутавіч. Ёсць усе падставы меркаваць, што Юрый узначаліў абарону, а не проста „знаходзіўся ў Мсціславе разам са Свідрыгайлам”, як піша В. Варонін (18). Да пачатку асады Свідрыгайлы ўжо не было ў горадзе: 21 кастрычніка ён знаходзіўся каля Паповай Гары на

літовьском великом князи Швитригаиле” (апубл.: Записи писцов в датированных древнерусских рукописях XIII–XV вв. (из архива М. Г. Гальченко) // Palaeoslavica. Vol. XI. Cambridge (Mass.), 2003. С. 81–82). Як бачым, ніякага „вялікага князя рускага” тут няма.

11 Пра гэта кажа ўвесь ход падзей на пачатковым этапе грамадзянскай вайны ў ВКЛ, ёсць і наўпростыя сведчанні, напрыклад: „Liv-, est- und curländisches Urkundenbuch (далей — LUB). Bd. 8. Riga, Moskau, 1884. Nr. 650. S. 382. У першапачатковым варыянце гэтай публікацыі я спасылаўся на сярэдненямецкі пераклад паслання Свідрыгайлы інфлянцкаму магістру ад 30 лістапада 1432 г. (Ibid. Nr. 642. S. 376), але цяпер яго інтэрпрэтацыя мне ўяўляецца не такой адназначнай.

12 Арыгінал гэтага паслання (GStAPK, OBA 6226), на якое аўтар спасылаецца ў перакaзе І. Даніловіча, дагэтуль не апублікаваны.

поўдні Мсціслаўскага княства, 10 лістапада — у Кіеве[13]. Пад кіраўніцтвам Юрыя Лынгвеневіча добра ўмацаваны замак вытрымаў трохтыднёвую асаду асноўных сілаў Жыгімонта Кейстутавіча, якія ўзначальваў сам вялікі князь[14]. Становішча змянілася пасля знішчальнага паражэння Свідрыгайлы каля Вількаміра (цяпер г. Укмярге ў Літве) 1 верасня 1435 г.: восенню таго ж года Жыгімонту Кейстутавічу падпарадкаваўся Смаленск, а ў найбліжэйшае лета за ім пайшлі Полацк і Віцебск; прыкладна тады ж іх лёс падзяліў і Мсціслаў[15]. Як у гэты час складваўся лёс Юрыя Лынгвеневіча, мы не ведаем: вядома толькі, што ён удзельнічаў у Вількамірскай бітве і пасля яе разам са Свідрыгайлам уцёк у Полацк. Праўда, у нашым распараджэнні ёсць запіс на наўгародскім артосным панагіары з упамінаннем Юрыя Лынгвеневіча

[13] GStAPK, OBA 6236, 6701; Halecki O. Z Jana Zamoyskiego inwentarza archiwum koronnego. Materyały do dziejów Litwy i Rusi w XV wieku // Archiwum Komisji Historycznej. T. 12. Cz. 1. Kraków, 1919. Nr. 6. S. 216. Цікава, што ў першай з гэтых крыніц — лісце комтура Меве Людвіга фон Ландзее, які прадстаўляў інтарэсы Тэўтонского ордэна пры Свідрыгайлу, — назва Паповой Гары прыводзіцца ў літаральным нямецкім перакладзе: „Gegabin czu dam Phaffenberg".

[14] Звесткі пра гэтую падзею захаваліся не толькі ў летапісах ВКЛ і перапісцы Свідрыгайлы з Ордэнам, але і ў гістарычнай памяці насельніцтва: у адным дакуменце другой половы XV ст. пацвярджаецца падараванне, якое Жыгімонт Кейстутавіч здзейсніў, „коли ездили ко Мстиславлю" (Lietuvos Mokslų akademijos Vrublevskių Bibliotekos Rankraščių skyrius. F 37–799).

[15] Напэўна, гэта адбылося ў канцы 1435 ці пачатку 1436 г. Справа ў тым, што 29 лютага 1436 г. Свідрыгайла пісаў вялікаму магістру з Кіева, што незадоўга да гэтага яго войскі аблажылі і ўзялі Старадубскі замак, гарнізон якога ўжо быў умацаваны Жыгімонтам Кейстутавічам, „з яго паветам і многімі іншымі паветамі" (GStAPK, OBA 7156). Калі ўлічваць, што ўладу Жыгімонта прызнаваў яшчэ і мцэнскі ваявода Грыгор Пратасьеў (GStAPK, OBA 7160), дык атрымліваецца, што ў той час Мсціслаўскае княства з усіх бакоў было аточана землямі, якія падпарадкоўваліся Кейстутавічу.

і датай 14 верасня 1435 г., але сумнеўна, што ён менш чым за два тыдні дабраўся з Полацка ў Ноўгарад, да таго ж пакінуў ВКЛ у вельмі напружаных абставінах, калі варта было чакаць, што Жыгімонт Кейстутавіч паспрабуе развіць дасягнуты поспех, а Свідрыгайла прасіў дапамогі у вялікага магістра Тэўтонскага ордэна Паўля фон Русдорфа[16]. Хутчэй, як піша аўтар кнігі, „наўгародцы… лічылі Юрыя сваім князем”[17] (19). Дакладна вядома, што ў 1438 г. герой кнігі ў чарговы раз прыехаў у Ноўгарад — як мяркуе В. Варонін, наўгародцы прынялі яго на кармленне ад Жыгімонта Кейстутавіча. Выключаць такую магчымасць нельга, але крыніцы не даюць прамых падстаў для такой адназначнай высновы: у Наўгародскім першым летапісе не гаворыцца, што Юрый прыехаў з Літвы (у адрозненне ад паведамленняў пра яго прыезд у 1432 г.), а пагадненне „по старине” паміж наўгародцамі і Жыгімонтам Кейстутавічам, заключанае зімой 1436/1437 г., зусім не прадугледжвала абавязковай адпраўкі літоўскага „кармленшчыка” ў Ноўгарад[18]. Галоўнае, што, як мне падаецца, паказвае па меншай меры на напружаныя адносіны паміж Юрыем Лынгвеневічам і Жыгімонтам Кейстутавічам, — гэта тытул Юрыя („наследнік Літвы”), ужыты ў пасланні вялікаму магістру ад 31 студзеня 1440 г. (г. зн. пры жыцці Жыгімонта і неўзабаве пасля пацвярджэння польска-літоўскай уніі, па ўмовах якой ВКЛ пасля яго

[16] Гл. яго ліст вялікаму магістру з Віцебска ад 24 верасня 1435 г.: LUB. Bd. 8. Nr. 981.

[17] Не пацвярджаецца і меркаванне А. В. Кузьміна, які са спасылкай на Кароткі Валынскі летапіс піша, што ў 1433 г. Юрый Лынгвеневіч прыехаў на кармленне ў Ноўгарад (Кузьмин А. В. Фамилии, потерявшие княжеский титул в XIV — первой трети XV в. Ч. 2 // Герменевтика древнерусской литературы. Сб. 13. Москва, 2008. С. 453). На самай справе гэтая звестка ўзыходзіць да Наўгародскага IV летапісу і адлюстроўвае прыезд князя ў Ноўгарад восенню 1432 г. (Арнаутов В. А. „Киевская” летопись Супрасльского сборника // ИОРЯС. Т. 14. Кн. 3–4. С.-Петербург, 1910. С. 17).

[18] Янин В. Л. Новгородские акты XII–XV вв. Хронологический комментарий. Москва, 1991. С. 178–179.

смерці пераходзіла ў распараджэнне польскага караля). У тым жа дакуменце Юрый называе сябе „рускім князем”, што, па словах В. Вароніна, адлюстроўвае яго „складаную нацыянальна-рэлігійную самасвядомасць” (21–22). Да гэтага можна дадаць, што так успрымалі Юрыя Лынгвеневіча і сучаснікі: у летапісе, створаным у Смаленску каля 1436 г., ён названы ў ліку „рускіх князёў”[19]. Тым не менш ён, як паказвае аўтар, займеў прыхільнікаў сярод літоўцаў (яны суправаджалі яго ў Мсціславе і Ноўгарадзе) і жамойтаў. Былі ў яго атачэнні і немцы, здольныя весці перагаворы з Тэўтонскім ордэнам[20].

Пасля забойства Жыгімонта Кейстутавіча ў 1440 г. вялікім князем літоўскім стаў малалетні Казімір Ягелончык, ад імя якога сыну Лынгвеня было вернута Мсціслаўскае княства. У хуткім часе ён стаў адной з галоўных дзейных асобаў смаленскага паўстання і далейшых падзей, якія ахапілі і суседнія рускія землі ВКЛ. Гэты эпізод і сёння застаецца адным з самых загадкавых у гісторыі ВКЛ XV ст., бо канва падзей вядомая толькі па летапісе, складзеным у Смаленску. Рухальнай сілай паўстання сталі „чорныя людзі”, якія запрасілі на княжанне Юрыя Лынгвеневіча. Па словах аўтара, гэта была адна з галоўных сацыяльных сілаў горада, якая захоўвала ўплыў і пазней (пра гэта сведчаць яе ўпамінанні ў прывілеях вялікіх князёў літоўскіх[21] і да-

[19] ПСРЛ. 1980. Т. 35. С. 34, 57, 76.

[20] У пасланні ад 1 верасня 1434 г. Жыгімонт Кейстутавіч паведамляў вялікаму магістру пра затрыманне па дарозе з Прусіі „слугі князя Юрыя” („herczog Jorge diener”) — немца з Сілезіі Мікалая Шэллендорфера (Шальдорфа): GStAPK, OBA 6860 (у апублікаваным перakазе пра гэта нічога не гаворыцца: LUB. Bd. 8. Nr. 854. S. 498–499). Яго ж Свідрыгайла накіроўваў у Ордэн з-пад Мсціслава ў кастрычніку 1433 г.: GStAPK, OBA 6236, 6701; Petrauskas R. Didžiojo kunigaikščio institucinio dvaro susiformavimas. P. 30 (прыведзена памылковая дата — 1432 г.).

[21] Пар. упамінанне ў прывілеі Жыгімонта Старога 1513 г., не адзначанае Вароніным (Кром М. М. Неизвестный привилей Сигизмунда I Смоленску (1513 год) // От Древней Руси к Рос-

равальнай грамаце Васіля III, выдадзенай Смаленску ў 1514 г.). Характарыстыку гэтай групы можна было б пашырыць за кошт дадзеных Смаленскага летапісу пра паўстанне, а таксама параўнання з „чорнымі людзьмі” Полацка, Ноўгарада і Пскова. Характарызуючы становішча Юрыя Лынгвеневіча ў гэты час, В. Воронін прыцягвае не толькі дадзеныя летапісу, да якіх і так прыцягнута ўвага даследчыкаў, але і аповесць Сімяона Суздальца пра Фларэнційскі сабор, якая паведамляе пра кантакты Юрыя Лынгвеневіча з мітрапалітам Ісідорам, а таксама крыху нечаканы дакумент — дамову, якую вялікі князь Казімір Ягелончык „и с своею братьею” заключыў з пскоўскімі пасламі 30 снежня 1440 г.[22]. З яе тэксту аўтар робіць выснову, што ў пачатку свайго кіравання Казімір пайшоў на саступкі сваім дваюрадным братам — нашчадкам Альгерда, магчыма, нават дзяліўся з імі ўладай. Адным з іх, па меркаванні аўтара, мог быць і Юрый Лынгвеневіч (29–30). Аднак крыніца сведчыць пра адваротнае: на працягу ўсяго дакумента настойліва падкрэсліваецца прыналежнасць Полацка, Віцебска і Смаленска, якія незадоўга да гэтага былі самавольна захоплены Юрыем Лынгвеневічам, да „вотчыны” гаспадара — „Літоўскай зямлі”. Да таго ж дамова складалася ў хуткім часе пасля першага, няўдалага паходу войскаў Казіміра на Смаленск, не выключана, што Юрый Лынгвеневіч да гэтага моманту ўжо ўцёк у Маскву: па сведчанні Наўгародскага першага летапісу, гэта адбылося „тои же осени” (1440 г.), а восенню ў Старажытнай Русі лічыўся час да 25 снежня[23].

сии нового времени. Сб. ст. к 70-летию А. Л. Хорошкевич. Москва, 2003. С. 138–139).

[22] Нядаўна гэты дакумент быў апублікаваны па арыгінале, які захоўваецца ў Варшаве: Договор 1440 г. между Псковом и Великим княжеством Литовским / Вступит. статья М. Е. Бычковой, подгот. текста А. А. Бондаренко и О. И. Хорученко // Вестник РГГУ. Серия „Исторические науки. Историография, источниковедение, методы исторических исследований”. 2009. № 4. С. 231–237.

[23] НПЛ. С. 420; Кучкин В. А. Был ли митрополит Киприан в 1380 г. в Москве? // Анфологион. Власть, общество, культура

Пасля гэтага Юрый Лынгвеневіч правёў некалькі гадоў у Маскве і Ноўгарадзе (на гэты раз у якасці маскоўскага „кармленшчыка"). Як паказвае В. Варонін, да 1446 г. сітуацыя склалася такім чынам, што Юрый вымушаны быў перайсці ад кантактаў з Міхаілам Жыгімонтавічам (сынам забітага Жыгімонта Кейстутавіча, які прэтэндаваў на прастол ВКЛ) да пошуку прымірэння з Казімірам Ягелончыкам. Такі шлях выбраў і Свідрыгайла, які ў 1442 г. самавольна заняў Луцкую зямлю; праўда, яго прымірэнне з Казімірам адбылося не ў 1446 г., як мяркуе Варонін, а на тры гады раней[24]. Вельмі хутка Юрый Лынгвеневіч заняў высокае месца ў акружэнні Казіміра: захаваліся звесткі пра яго ўдзел не толькі ў польска-літоўскім з'ездзе 1448 г. у Любліне, пра які піша Варонін, але і ў сустрэчы з пасламі Тэўтонскага ордэна ў Вільні ў самым канцы 1447 г.[25].

Завяршаюць раздзел два цікавыя эпізоды з біяграфіі Юрыя Лынгвеневіча, якія праліваюць святло на характар рэлігійнасці гэтага праваслаўнага князя: не пазней за сярэдзіну 40-х г. XV ст. ён стаў хросным бацькам дзяцей каталіка Яна Гаштаўта, а ў 1447 г. здзейсніў паломніцтва да „святой крыві" ў в. Вільснак у Брандэнбургу (па папулярнасці сярод каталіцкіх паломнікаў яна саступала толькі Іерусаліму, Рыму і Санцьяга-дэ-Кампастэла). Пры гэтым у прыхільнасці князя да праваслаўя не даводзіцца сумнявацца: дастаткова ўспомніць яго падараванне Ануфрыеўскаму манастыру паблізу Мсціслава, заснаванаму яго бацькам, і цесныя кантакты з маскоўскім мітрапалітам Іонам, пра якія таксама гаворыцца ў кнізе. У сувязі з гэтым аўтар справядліва заўважае, што „нашы ўяўленні пра тагачасныя ўзаемаадносіны праваслаўных і каталікоў у Вялікім Княстве Літоўскім абумоўлены

в славянском мире в Средние века. К 70-летию Б. Н. Флори. (Славяне и их соседи. Вып. 12.) Москва, 2008. С. 270, 275.

24 GStAPK, OBA 8274; Kolankowski L. Dzieje Wielkiego Księstwa Litewskiego za Jagiellonów. T. 1. Warszawa, 1930. S. 236.

25 GStAPK, OBA 9424; Korczak L. Monarcha i poddani. System władzy w Wielkim Księstwie Litewskim w okresie wczesnojagiellońskim. Kraków, 2008. S. 86. Przyp. 162.

пераважна гістарыяграфіяй XIX ст. з яе моцным акцэнтам на тэме вечнага суперніцтва і нават супрацьстаяння канфесій", у той час як факты ўкладаюцца ў гэтую схему далёка не заўсёды (34). Першы з адзначаных фактаў не выключэнне для гісторыі ВКЛ XV ст.: вядома, што не пазней за 1485 г. праваслаўны смаленскі епіскап Іаакім стаў хросным бацькам Юрыя Радзівіла — малодшага сына смаленскага намесніка, каталіка, літоўскага пана Мікалая Радзівілавіча[26]. Складаней з паломніцтвам у Вільснак: застаецца няясным, ці ўспрымаў Юрый Лынгвеневіч „святую кроў" як агульнахрысціянскую рэліквію, ці быў знаёмы з каталіцкай традыцыяй, як мяркуе М. Старнаўска[27], і адчуваў „ідавочныя сімпатыі да заходняга хрысціянства", як піша В. Варонін (49). Магчыма, адказаць на гэтае пытанне дапаможа далейшае вывучэнне адносін праваслаўных насельнікаў ВКЛ да каталіцкіх святыняў і традыцый духоўнага жыцця (асабліва ў сітуацыі культурнага пагранічча). Так ці інакш, паломніцтва Юрыя Лынгвеневіча ў Вільснак сведчыць пра яго цесныя кантакты з адным з каталіцкіх цэнтраў Еўропы — літоўскім велікакняскім дваром ці Тэўтонскім ордэнам (ад братоў якога, верагодна, даведаўся пра „святую кроў" іншы літоўскі паломнік у Вільснак — баярын Ян Няміра[28]).

Трэці раздзел прысвечаны перыяду княжання Юрыя Лынгвеневіча ў Мсціслаўскім княстве, якое Казімір Ягелончык вярнуў яму па хадайніцтве Яна Гаштаўта ў канцы 1446 ці пачатку 1447 г. Аўтар акрэслівае тэрыто-

[26] AGAD, dok. perg. nr 7370. Апубл.: Ліцкевіч А. У. Старабеларускія граматы XV ст. з Archiwum Głównego Akt Dawnych у Варшаве // Здабыткі: дакументальныя помнікі на Беларусі. Вып. 11. Мінск, 2009. № 17. С. 30.

[27] Starnawska M. Die Beziehungen des Königreichs Polen und des Herzogtums Litauen zu Wilsnack und die Christus-Reliquienverehrung im Spätmittelalter // Die Wilsnackfahrt. Ein Wallfahrts- und Kommunikationszentrum Nord- und Mitteleuropas im Spätmittelalter / Hrsg. von F. Escher und H. Kühne. (Europäische Wallfahrtsstudien. Bd. 2.) Frankfurt am Main, 2006. S. 88.

[28] Ibid. S. 85–86.

рыю Мсціслаўскага княства (у кнізе падаецца яго карта, выкананая В. Цемушавым). Далей разгледжаны вядомыя падараванні Юрыя Лынгвеневіча. Нягледзячы на іх нешматлікасць, аўтару ўдалося на іх аснове коратка ахарактарызаваць насельніцтва ўдзельнага княства; асабліва цікавае пытанне літоўскіх баяраў, з'яўленне якіх на Мсціслаўшчыне, хутчэй за ўсё, было звязана з дзейнасцю героя даследавання. Тыя самыя крыніцы праліваюць святло і на структуры ўлады Мсціслаўскага княства — „раду" і двор удзельнага князя. Калі адпаведныя агульнадзяржаўныя структуры вывучаны досыць добра, то пра іх удзельныя аналагі сярэдзіны XV ст. вядома не так ужо і шмат — у асноўным па матэрыялах Луцкай і Кіеўскай земляў.

У канцы раздзела аўтар закранае пытанне пра дату смерці Юрыя Лынгвеневіча. Традыцыйна лічыцца, што ён памёр каля 1457 г. (гэтым годам датавана апошняе вядомае падараванне князя). В. Варонін мяркуе, што герой яго даследавання памёр каля 1460 г., але не пазней за 1461 г. (47, 51), а ў 1458–1459 г. паспеў пабываць на кармленні ў Ноўгарадзе. Наўгародскія летапісы другой паловы стагоддзя гавораць пра прыезд князя „Юрыя Сямёнавіча Літоўскага", і даследчыкам даводзіцца выбіраць паміж сынам Лынгвеня і яго цёзкам з роду князёў Гальшанскіх. Звычайна выбар робіцца на карысць другога. Праблемы не вырашаюць ні звесткі Яна Длугаша, які відавочна памылкова выводзіць гэтага князя з роду Астрожскіх, ні пералік прыгарадаў, якія атрымаў Юрый Сямёнавіч (Руса, Ладага, Арэшак, Карэльскі гарадок, Ям і паў-Капор'я): іх традыцыйна атрымлівалі князі з Літвы, а не толькі Лынгвень і яго сын[29]. В. Варонін мяркуе, што патрабавальныя наўгародцы, хутчэй, папрасілі б Казіміра Ягелончыка прыслаць да іх знаёмага ім Юрыя Лынгвеневіча, яго дваюраднага брата. На мой погляд, нельга выключаць таго, што ў XV ст. у Ноўгарад прыязджалі князі, якія не

[29] Янин В. Л. Новгород и Литва. Пограничные ситуации XIII–XV веков. Москва, 1998. С. 90–96.

належалі да кіроўнай дынастыі: згодна з позняй (XVI ст.) „Хронікай Быхаўца”, пры Вітаўту наўгародскім князем некаторы час быў князь Сямён Гальшанскі[30] (дарэчы, бацька князя Юрыя Сямёнавіча). Магчыма, за гэтымі звесткамі стаіць нейкая дакладная аснова. Важна і тое, што Ю. С. Гальшанскі быў адным з самых уплывовых асобаў у ВКЛ у пачатку кіравання Казіміра, да таго ж даводзіўся дваюрадным братам каралеве Соф'і Гальшанскай — маці Казіміра. І ўсё ж любое вырашэнне гэтай праблемы застаецца ў плоскасці здагадак. Магчыма, на яе пралье святло знаходка новых дакументаў, якія фіксавалі б знаходжанне аднаго з князёў у названы перыяд у Ноўгарадзе ці ВКЛ.

У заключэнні аўтар дае агульную характарыстыку князю Юрыю Лынгвеневічу і яго дзейнасці. Ён своечасова зразумеў, што „вялікіх князёў літоўскіх выбіралі ў Вільні і Троках, а не ў Кіеве, Смаленску ці Полацку”, і абмежаваў свае палітычныя амбіцыі межамі „вотчыны” — удзельнага княства (50). У гэтым праявіўся рэалізм яго мыслення. Дадам, што мала было заняць віленскі прастол, гэтак жа важна было на ім утрымацца. Пра гэта красамоўна гаворыць лёс Свідрыгайлы і Жыгімонта Кейстутавіча.

Некаторыя заўвагі выклікае кампазіцыя кнігі. Так, можна было б аб'яднаць звесткі пра апісанні Юрыя Лынгвеневіча (12–13, 39–41). Быццам deus ex machina з'яўляецца на старонках даследавання Мсціслаў (11), і чытачу, які ўпершыню звяртаецца да дадзенай тэматыкі, можа быць незразумела, што Лынгвень атрымаў яго ў 1392 г. Ад выпадку да выпадку ўзгадваецца ў даследаванні і Яраслаў — брат Юрыя Лынгвеневіча. Праўда, пра яго захавалася не так ужо і шмат дадзеных, затое вядомыя даты яго нараджэння і смерці, ёсць і звесткі пра яго землеўладанні ў Мсціслаўскім княстве.

Як адзначае сам аўтар, асноўная складанасць даследавання заключалася ў тым, што звесткі пра дзейнасць героя яго кнігі рассеяны „па шматлікіх гіста-

[30] ПСРЛ. 1975. Т. 32. С. 150.

рычных крыніцах самага рознага паходжання: ад нямецкага да маскоўскага” (7). В. Варонін паспяхова справіўся з задачай іх асваення; больш за тое, яму ўдалося пашырыць кола крыніц за кошт пазнейшых твораў гістарыяграфіі („Вандалія” А. Кранца) і актавых матэрыялаў (пацвярджэнні падараванняў Юрыя Лынгвеневіча), якія рэдка выкарыстоўваюцца ў працах па гісторыі ВКЛ XV ст. У дадатках да кнігі апублікаваны восем грамат Юрыя Лынгвеневіча, тэкст якіх захаваўся поўнасцю ці часткова: тры з іх вядомыя па пазнейшых пацвярджэннях, запісаных у кнігі Літоўскай метрыкі, пяць — па арыгіналах. Дзве з гэтых грамат нядаўна былі апублікаваны беларускім гісторыкам А. Ліцкевічам па арыгіналах, якія захоўваюцца ў Галоўным архіве старажытных актаў у Варшаве[31]. Месцазнаходжанне некалькіх грамат аўтару кнігі выявіць не ўдалося; цалкам верагодна, што частку іх варта шукаць у неразабранай частцы архіва Радзівілаў, які захоўваецца цяпер у Варшаве. Шкада, што В. Варонін не звярнуўся да неапублікаванага корпуса перапіскі сярэдзіны XV ст., якая захавалася ў архіве вялікіх магістраў Тэўтонскага ордэна (гістарычны Каралявецкі архіў, цяпер знаходзіцца ў Берліне). Як паказвае вопыт аўтара гэтых радкоў, прыведзеныя ў літаратуры (у А. Кацэбу, К. Э. Нап’ерскага, І. Даніловіча) кароткія звесткі пра змест гэтых дакументаў відавочна недастатковыя, а часта і памылковыя. Між тым названыя крыніцы дазволілі б больш дакладна ахарактарызаваць шэраг падзей палітычнай гісторыі ВКЛ, у якіх удзельнічаў Юрый Лынгвеневіч, і маглі б наблізіць нас да разумення некаторых больш агульных праблем гісторыі ВКЛ. Прывяду канкрэтны прыклад. Прыналежнасць Мсціслаўскага княства Лынгвеню і яго сыну да 1432 г. не выклікае сумненняў. Але які быў яго статус пасля палонення князя Юрыя? Лагічна было б дапусціць, што ён атрымаў яго ад Свідрыгайлы, як толькі уцёк з палону

[31] Ліцкевіч А. У. Старабеларускія граматы XV ст. з Archiwum Głównego Akt Dawnych у Варшаве. № 8, 10. С. 21–23.

у 1433 г. Аднак 3 кастрычніка гэтага года той дыкуте свой ліст вялікаму магістру „ў нашым замку Мсціславе", хоць Юрый Лынгвеневіч, як вынікае са зместу ліста, знаходзіўся тамсама[32]. 21 кастрычніка ён дыктуе новы ліст, на гэты раз „у 12 мілях ад нашага замка Крычава", які таксама ўваходзіў у „вотчыну" Юрыя Лынгвеневіча[33]. Між тым 26 сакавіка 1434 г. Свідрыгайла пісаў магістру Лівонскага ордэна Франке Керскорфу ўжо з „[сяла] Кашчэева князя Міхаіла Вяземскаго" (паблізу цяперашняга с. Цюхменева за некалькі кіламетраў ад Вязьмы)[34]. Усё гэта вядзе да праблемы становішча ўдзельных княстваў у дзяржаве Гедымінавічаў, якая яшчэ чакае даследавання. Зрэшты, тое самае можна сказаць і пра многія іншыя аспекты гісторыі гэтай дзяржавы. Паспяховая стратэгія іх даследавання прапанавана ў разгледжанай кнізе В. Вароніна.

*Рэцэнзія напісана пры фінансавай падтрымцы Фонду Герды Хенкель (Gerda Henkel Stiftung, Дзюсельдорф) по праекце AZ 08/SR/09 „Politische Konflikte und die Gesellschaft im Großfürstentum Litauen im 15. Jahrhundert".*

[32] GStAPK, OBA 6226.

[33] GStAPK, OBA 6701; НПЛ. С. 420.

[34] „Datum in Koschcziewo ducis Michaelis de Mezwa (!) anno etc. XXXIIII^to^, sexta feria in Parasceven" (GStAPK, OBA 6787; кароткі змест — LUB. Bd. 8. Nr. 789. S. 462). Дапушчаную пісцом памылку выпраўляюць дадзеныя пра маршрут Свідрыгайлы: ужо на наступны дзень ён прыехаў у Вязьму, якую той самы пісец назваў Wezma (GStAPK, OBA 6795). Кансультацыяй па гэтым пытанні я абавязаны светлай памяці В. Цемушаву (Мінск).

## Новае выданне „Бібліятэкі БГА”

**У серыі „Бібліятэка БГА” неўзабаве выйдзе кніга Анджэя Валіцкага *Нацыя, нацыяналізм, патрыятызм* (арыгін.: Naród, nacjonalizm, patriotyzm, Kraków, UNIVERSITAS, 2009).**

Аўтар — вядомы польскі філосаф і гісторык, адзін са стваральнікаў „варшаўскай школы гісторыі ідэі”, чые працы па праблемах таталітарызму, камунізму, лібералізму, нацыяналізму і патрыятызму перакладзеныя на розныя мовы свету.

Выхад кнігі запланаваны на другі квартал 2012 г.

Замаўляйце выданне ў Рэдакцыі і цэнтральных кнігарнях Мінска.

# „Двуногие сталинские шакалы”?*

## Аляксандр Гагун

> Всех предателей, находившихся на службе у немцев, можно разделить на две категории. Первая, самая незначительная, но исключительно вредная категория — это предатели, которые пошли на службу к немцам вполне добровольно из-за ненависти к советскому строю. Вторая категория, представляющая особо огромное большинство — это люди, служившие у немцев из-за трусости, потери веры в победу Красной армии, из-за желания спастись от посылки в Германию.
>
> *З інструкцыі Украінскага штаба партызанскага руху*
> *аб аператыўным выкарыстанні*
> *былых калабарацыяністаў.*
> *13 красавіка 1943 г.*

Нягледзячы на тое, што ва ўмовах глабальнага распаўсюджвання канфліктаў слабой інтэнсіўнасці вопыт савецкай партызанскай вайны 1941–1944 г. робіцца ўсё больш актуальным і запатрабаваным, вартых абагульняльных прац па дадзенай тэме не так ужо і шмат. Да 1991 г. архівы СССР былі закрытыя, а адпаведныя даследаванні[1] грашылі вялікай колькасцю адвольных экстрапаляцый і занадта смелых гіпотэз.

Часовая дэмакратызацыя таксама не прывяла да асвятлення гэтай старонкі Другой сусветнай вайны расій-

* Musial, Bogdan. Sowjetische Partisanen. Mythos und Wirklichkeit. Paderborn: Ferdinand Schöning, 2009. 590 S.

1 Soviet Partisans in World War II. Armstrong J. (ed). Madison, 1964; Hesse E. Der sowjetrussische Partisanenkrieg 1941 bis 1944 im Spiegel deutscher Kampfanweisungen und Befehle. Göttingen — Zürich — Frankfurt, 1969.

скімі вучонымі. Частка гісторыкаў[2] публікуюць свае кнігі без спасылак на дакументы, у манаграфіях іншых спецыялістаў[3] навуковасць абмяжоўваецца формай. У апошнім выпадку гэта выклікана, па-першае, надзвычайнай неахайнасцю пры выкарыстанні зусім недастатковага па аб'ёме комплексу крыніц, па-другое тым, што аўтары добраахвотна прытрымліваюцца ідэалагічных установак найсучаснейшага афіцыёзнага расійскага цемрашальства.

На жаль, беларуская гістарыяграфія праблемы адсутнічае. Магчыма, гэта звязана не толькі з дыктатам знакамітага прэзідэнта, але і з павальнай апатыяй, сапраўдным летаргічным сном беларускага грамадства, што ў сукупнасці прыводзіць да надзвычайнай пасіўнасці інтэлектуальных колаў беднай і няшчаснай паўаграрнай краіны.

Як часта бывае ў падобнай сітуацыі, чытэльную абагульняльную працу напісаў амерыканскі даследчык — Кеннэт Слеп'ян[4]. Яго манаграфія з рамантычным загалоўкам „Сталінскія герыльера" прысвечана сацыяльнай гісторыі савецкіх партызанскіх фармаванняў. Аднак у той перыяд, калі паважаны гісторык праводзіў архіўны пошук (пачатак „ліхіх" 1990-х), многія фонды былі яшчэ закрытыя.

Таму з'яўленне кнігі „Савецкія партызаны" вядомага польска-нямецкага гісторыка Багдана Мусяля можна толькі вітаць. Праца мае сціплы і вытанчаны падзагаловак „Міфы і рэальнасць". У манаграфіі выкарыстаны матэрыялы на пяці мовах з дваццаці архівасховішчаў Беларусі, Расіі, Польшчы, Літвы, Украіны, ЗША, Ізра-

[2] Соколов Б. В. Оккупация. Правда и мифы. Москва, 2002; Боярский В. И. Партизаны и армия: История утерянных возможностей / Под общ. ред. А. Е. Тараса. Минск — Москва, 2003.

[3] Партизанское движение (По опыту Великой Отечественной войны 1941–1945 г.). **Москва, 2001; Попов А. Ю. Диверсан**ты Сталина. Деятельность органов Госбезопасности СССР на оккупированной советской территории в годы Великой Отечественной войны. Москва, 2008.

[4] Slepyan K. Stalin's Guerrillas. Soviet Partisans in World War II. University Press of Kansas, 2006.

іля і Нямеччыны, а таксама інтэрв'ю з удзельнікамі і сведкамі падзей.

Задачай працы было стварэнне шматмернай і комплекснай карціны савецкай зафрантавой барацьбы на прыкладзе параўнальна невялікай Беларусі. Партызаны, якія ваявалі на акупаваных прасторах Расіі, Украіны, Прыбалтыкі, Карэліі і Малдавіі, не разглядаюцца, значыць, назва кнігі некарэктная.

Манаграфія, акрамя ўводзінаў і заключэння, уключае ў сябе дзевяць раздзелаў. Першыя два пабудаваны па храналагічнай прыкмеце (1941 г., пачатак 1942 г.). Трэці раздзел названы ўжо па тэматычным прынцыпе (Цэнтральны штаб партызанскага руху; далей ЦШПР). Чацвёрты раздзел прысвечаны партызанскай барацьбе ў 1943 г. Пяты зноў вяртае чытача да праблемнага расповеду („Рэйкавая вайна”). Шосты раздзел апісвае партызанскую барацьбу ў цэлым, яе задачы, метады і асноўныя накірункі. Сёмы раздзел расказвае пра партызанаў у 1944 г., г. зн. зноў ужыты храналагічны прынцып. Сацыяльнай гісторыі беларускіх партызанаў прысвечаны восьмы раздзел. Не зусім зразумела наяўнасць у ім падраздзела пра спаленне партызанамі асобных будынкаў і цэлых вёсак, таму што гэта, хутчэй, адносіцца да раздзела пра партызанскую барацьбу (VI). Дзявяты раздзел апавядае пра карэннае насельніцтва рэгіёна (а дакладней, пра розныя этнічныя групы Беларусі) у партызанскіх фармаваннях. У апошнім падраздзеле апошняга раздзела („Палякі і савецкія партызаны”) прысутнічаюць 5 недарэчных параграфаў (IX, 3. d — 3. h, с. 416–437). У іх апісваюцца не ўзаемаадносіны *палякаў* (нацыянальнай меншасці) і савецкіх „народных мсціўцаў”, а фармаванні *Арміі Краёвай* і іх барацьба з чырвонымі партызанамі. Куды лагічней было б змясціць вельмі цікавы сюжэт пра міжпартызанскую вайну ў шосты раздзел, або падзяліць яго паміж пятым і сёмым раздзеламі.

Нягледзячы на некаторую сумбурнасць апавядання, пастаўленая ва ўводзінах мэта дасягнута. Такім чынам, гэты водгук варта лічыць станоўчым. З-за масіву

задзейнічаных крыніц кніга заслугоўвае перакладу на англійскую і рускую мовы і публікацыі ў Нью-Ёрку ў навуковым, а ў Маскве ў буйным камерцыйным выдавецтве. Верагодна, манаграфія зверне на сябе ўвагу не толькі спецыялістаў, але і шырокага кола аматараў гісторыі. Кніга ўжо атрымала станоўчы водгук вядучага нямецкага даследчыка сталінізму, апублікаваны ў самай саліднай кансерватыўнай газеце ФРН[5].

Таму ў дадзенай рэцэнзіі ёсць сэнс звярнуць увагу як на канкрэтныя недапрацоўкі даследавання, так і на спрэчныя тэзісы і дыскусійныя абагульненні. Умоўна падзелім заўвагі на дзве групы — па-першае, апісанне аб’ектыўных недахопаў, па-другое, тых фрагментаў, якія не з’яўляюцца памылкай, але маглі б быць напісаны па-іншаму. З такой трактоўкі будзе зразумелы і змест працы.

Кідаецца ў вочы невысокі псіхалагізм апавядання: у працы сотні імёнаў, але няма людзей — „лясныя салдаты” паказаны чымсьці накшталт безаблічнай і аморфнай, але затое крыважэрнай біямасы. Нават контурамі не прапісаны характары тых, ад каго ў значнай меры залежаў поспех партызанскай барацьбы — кіраўнікоў буйных злучэнняў[6], начальнікаў ЦШПР і Беларускага штаба партызанскага руху (далей БШПР). Хоць сам Мусяль у свой час атрымаў доктарскую ступень за дысертацыю, пабудаваную якраз на аналізе і супастаўленні дзясяткаў біяграфій, прамалёўцы індывідуальных асаблівасцяў акцёраў гістарычнай сцэны, дакладней — нямецкіх арганізатараў генацыду[7].

[5] Baberowski J. Orgie hemmungsloser Gewalt // Frankfurter Allgemeine Zeitung. 08.10.2009.

[6] На першы погляд, адзіным выключэннем можа падацца наяўнасць у кнізе раздзела пра малавядомага партызанскага камандзіра Уладзіміра Нічыпуровіча. Але нават у гэтым выпадку чытач даведаецца толькі пра дзейнасць палкоўніка, а не пра яго асобу, г. зн. у аповедзе прысутнічае не чалавек, а функцыя.

[7] Musial B. Deutsche Zivilverwaltung und Judenverfolgung im Generalgouvernement. Eine Fallstudie zum Distrikt Lublin 1939–1944. Wiesbaden: Harrassowitz Verlag, 1999.

У рэцэнзаванай манаграфіі назіраецца відавочны лішак паўтораў. Вось толькі тры прыклады. Ледзь не праз старонку згадваюцца партызанскія прыпіскі (жарг. *туфта*) у аператыўных справаздачах, прыводзяцца звесткі партызан з манатонным каментаром: „дадзеныя перабольшаны”. Можна было б і не публікаваць гэтую наскрозь хлуслівую інфармацыю, а пра страты нямецкага боку меркаваць па менш сфальсіфікаванай у дадзеным выпадку нямецкай дакументацыі. Партызанскі разбой, расстрэлы мірнага насельніцтва, здзек з калгаснікаў і калгасніц, агнястрэльныя ўнутраныя канфлікты, п’яныя дэбошы, бойкі і оргіі праходзяць ненавязлівым рэфрэнам праз увесь расповед. Да таго ж названым праблемам прысвечаны асобныя падраздзелы. Гэтак жа часта тэматызуецца і знішчэнне нацыстамі мірных сялян, якія праходзілі ў статыстыцы Вермахта і СС пад назвай „бандпасобнікі”. Але гэта шырока вядомая практыка, апісаная многімі нямецкімі[8] і ўсходнееўрапейскімі даследчыкамі, знайшла яна сваё месца і ў мастацкай літаратуры.

Пры гэтым пры рабоце з крыніцамі не заўсёды праяўляецца дастатковая крытычнасць.

Напрыклад, згаданыя знішчаныя „бандыты і бандпасобнікі” ў кнізе звычайна механічна трансфармуюцца ў забітых грамадзянскіх асобаў. Не ставіцца пытанне: ці не з’яўляюцца гэтыя лічбы хоць бы часткова банальным

[8] З апошніх прац можна адзначыць манаграфіі Клаўса Ёхена Арнольда і Дытэра Поля, прысвечаныя функцыянаванню вайсковай акупацыйнай адміністрацыі. Калі першы аўтар схіляецца да думкі пра тое, што салдаты Вермахта не былі моцна задзейнічаны ў тэроры супраць мірнага насельніцтва, то другі даследчык мяркуе: удзел шарагоўцаў Вермахта ў рэпрэсіях супраць цывільных асобаў быў усё ж даволі значным: Arnold K. J. Die Wehrmacht und die Besatzungspolitik in den besetzen Gebieten der Sowjetunion. Kriegführung und Radikalisierung im „Unternehmen Barbarossa”. Berlin, 2005; Pohl D. Die Herrschaft der Wehrmacht. Deutsche Militärbesatzung und einheimische Bevölkerung in der Sowjetunion 1941–1944. München, 2008.

ашуканствам, якім была глыбока прасякнута нацысцкая сістэма адміністравання?

Вельмі сумнеўным выглядае і сюжэт пра свядомую вярбоўку нацысцкімі спецслужбамі яўрэяў для правядзення тэрактаў і шпіянажу: звесткі бяруцца выключна з дакументаў савецкага боку. Праўда, пры публікацыі большасці партызанскіх паведамленняў пра такі „феномен” у кнізе агаворваецца, аднак, што няясна, наколькі тыя звесткі дакладныя. Але адзін выпадак (с. 243–244) усё ж выклікае аўтарскі давер, прычым на падставе сведчанняў самога былога агента, дадзеных савецкім органам. Але ж, ад падследнага на дазнанні якраз і варта чакаць усялякіх апраўданняў. Таму выдумка пра тое, што немцы схілілі яго да супрацоўніцтва, выкарыстоўваючы звесткі пра яўрэйскае паходжанне, была б з яго боку цалкам адэкватным крокам. Ды і які аператыўнік будзе вербаваць для спецзаданняў чалавека, упэўненага ў тым, што яго і яго сваякоў у найбліжэйшы час знішчыць бок, які яго завербаваў?

Значыць, стройнасць расповеду ў шэрагу выпадкаў не вытрымана, прычым гэта тычыцца як працы з лічбамі, так і сацыяльнага аналізу.

Напрыклад, робіцца выснова пра тое, што афіцыйныя савецкія лічбы, якія грунтуюцца на партызанскіх данясеннях, перабольшваюць колькасць забітых „народнымі мсціўцамі” немцаў у 67–78 разоў (с. 292). Па-першае, выкарыстаныя ў кнізе дадзеныя партызанскіх пераможных зводак уключаюць у сябе не толькі немцаў, але і наогул „акупантаў” — шматлікіх нямецкіх саюзнікаў і калабарацыяністаў. Па-другое, у гэтых аператыўных справаздачах гаворка ідзе не пра беззваротныя страты праціўніка, а пра забітых і параненых. Такім чынам, надзвычайнае выхвалянне савецкіх партызанаў з-за метадалагічных памылак пры падліку ў кнізе яшчэ і перабольшана. Але яшчэ горш тое, што сваёй асабістай, няхай нават ацэначнай лічбы вынікаў партызанскіх дзеянняў Мусяль не дае ўвогуле.

У кнізе крытыкуецца тэзіс пра тое, што адносна вялікая колькасць яўрэйскіх бежанцаў, якія перажылі вайну ў

беларускіх гушчарах і балотах, была выклікана даволі лаяльным (у параўнанні з іншымі народамі) стаўленнем беларусаў да яўрэяў. Пра гэта ўзгадваюць многія, хто перажыў Халакост. Па меркаванні Мусяля, вырашальнае значэнне меў ландшафт, а не паводзіны сялян, у якіх яўрэйскія групы выжывання пад пагрозай гвалту адбіралі ежу і вопратку (с. 388). Тут можна запярэчыць, што спагада або варожасць — гэта шматгранныя пачуцці, якія выяўляюцца не толькі ў добраахвотных пастаўках правіянту або іх адсутнасці. Грамадзянскае насельніцтва можа дапамагаць актамі або, наадварот, непрацўленнем, па-рознаму ставячыся як да саміх фактаў рэквізіцый, так і да тых, хто збірае „прадуктовы падатак". Барацьбу з любымі ўзброенымі жыхарамі лесу насельніцтва, калі яно таго хоча, вядзе не прамымі боесутыкненнямі, а ўтойваннем ад партызанаў або бежанцаў каштоўнай інфармацыі, паведамленнямі ў мясцовыя органы ўлады, суправаджэннем паліцэйскіх частак пры аблавах і г. д. і да т. п. І нават нейтралітэт, або хоць бы славутая пасіўнасць[9] мірных жыхароў могуць зрабіць быццё людзей, пастаўленых па-за законам, цярпімым. Зразумела, што антысемітызм у тых або іншых прапорцыях і праявах існаваў у любой краіне Еўропы. І, магчыма, што наступнае аўтарскае палажэнне заслугоўвае абмеркавання: «Беларусь сярод іншых еўрапейскіх краін ні ў якім разе не была „яскравым прыкладам" салідарнасці з яўрэямі» (с. 393). Але якую акупаваную нацыстамі тэрыторыю можна назваць тады ўзорна-паказальнай у гэтым сэнсе, з даследавання незразумела.

У адборы матэрыялу для публікацыі часам відаць пэўныя перакосы. У прыватнасці, першы падраздзел чацвёртага раздзела названы „Военная разведка для

9 Пар. з вытрымкай з данясення айнзацгрупы „Б", якая дзейнічала ў Беларусі ў пачатку жніўня 1941 г.: „Население, несомненно, питает к евреям чувство ненависти и гнева и одобряет немецкие мероприятия… но взять на себя инициативу неспособно" (Дин М. Пособники Холокоста. Преступления местной полиции Белоруссии и Украины, 1941–1944 гг. С.-Петербург, 2008, с. 60).

Чырвонай арміі", а ў гэтым параграфе няма звестак пра структуру партызанскай разведкі, вайсковую разведку злучэнняў „народных мсціўцаў", прынцыпы вярбоўкі агентуры, колькасць інфармацыі, перададзенай у Цэнтр. Гаворка тут ідзе выключна пра недахопы паведамленняў ЦШПР для Рабоча-сялянскай чырвонай арміі (далей РСЧА). Да таго ж у раздзеле VI няма звестак пра разведку, якую партызаны вялі не для Чырвонай арміі, а ў інтарэсах уласных атрадаў і злучэнняў.

У кнізе існуюць і іншыя прабелы.

Напрыклад, не разгледжана прасякнутая нянавісцю, злосцю і хлуснёй партызанская агітацыя, хоць у ЦШПР існаваў аддзел прапаганды пад назвай „палітычны аддзел".

Але нашмат важней тое, што прапушчаны цэлы пласт — зафрантавая дзейнасць органаў дзяржбяспекі. Нават мімаходзь не ўзгадваюцца спецгрупы НКУС (з красавіка 1943 г. — НКДБ) БССР[10]. Ды і фармаванням „легендарнага" 4-га ўпраўлення НКУС-НКДБ СССР прысвечана ўсяго дзве старонкі (с. 349–351), на якіх апісваюцца толькі п'янкі і сваркі. Пра мэты і метады названых падраздзяленняў нічога не расказваецца, а групы НКУС называюцца дыверсійнымі. Такая грубая памылка выклікана хібамі ў гістарыяграфічнай базе даследавання[11]. І ў дакументах партызан, падсправаз-

[10] Да канца 1942 г. як на базе фармаванняў ЦШПР, так і самастойна ў Беларусі дзейнічалі 30 спецгруп НКУС БССР. Дадзеныя па першай палове 1943 г. сёння не даступныя. З чэрвеня 1943 г. да чэрвеня 1944 г. рэспубліканскі апарат органаў дзяржбяспекі накіраваў у тыл Вермахта або вылучыў са складу ўжо дзейных падраздзяленняў яшчэ 60 аператыўна-чэкісцкіх груп, у тым ліку „Мстители", „Кровные", „Охотники", „Истребитель" (Соловьёв А. К. Они действовали под разными псевдонимами. Минск, 1994. Passim). Частка дакументаў пра спецгрупы НКДБ БССР знаходзіцца ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь у адктытым доступе, у прыватнасці ў фондзе 4386 (Мінскі падпольны гарказм КП(б)Б).

[11] Аперацыі 4-га ўпраўлення НКУС СССР апісаны ў працы, адзін з суаўтараў якой — ветэран адпаведнага спецпадраздзялення. У кнізе з красамоўнай назвай неаднаразова

дачных ЦШПР, і ва ўнутранай дакументацыі лубянскага ведамства выразна падзяляліся «задачы па „Д”» (дыверсіі) і «задачы па „Т”» (тэрарызм). Ды і выснова пра прыярытэты „чацвёркі” ляжыць на паверхні, варта толькі ўспомніць імя яе начальніка — Паўла Судаплатава, прызнанага майстра заказных забойстваў.

Значнае месца ў кнізе займае паўсядзённы тэрор „народных мсціўцаў”, а падраздзел VII-5 названы „Партызаны пасля прыходу Чырвонай арміі”. Але ў манаграфіі не адзначаны такі амаль невядомы сюжэт, як масавыя расправы былых партызанаў над былымі калабарацыяністамі і членамі іх сем’яў. У Беларусі калектыўныя самасуды прымалі часам форму калектыўных бойняў. Тэма вартая разгляду, прычым не з пункту гледжання крыміналістыкі. Па-першае, у дадзеным выпадку ў 1943–1944 г.назіраўся канфлікт дзвюх частак савецкай сістэмы: партызанаў з органамі НКУС і НКДБ. Па-другое, нешта крыху падобнае адбывалася ў 1944–1945 г. і ў Заходняй Еўропе, у прыватнасці ў Францыі і Італіі. Гэтыя з’явы дзякуючы публіцыстыцы і кінематографу шырока вядомыя ва ўсім свеце. І праз параўнанне аналагічных фактаў можна было б выразна паказаць розніцу стылістыкі і наступстваў вайны на ўсходнееўрапейскім і заходнееўрапейскім тэатры ваенных дзеянняў.

Увогуле ў кнізе не хапае кампаратывістыкі. Да чаго гэта можа давесці, паказвае раздзел VIII („Да сацыяльнай гісторыі партызанскага руху ў Беларусі”). Большая частка раздзела прысвечана той бурлівай партызанскай жыццядзейнасці, пра якую савецкая гістарыяграфія ахвотна маўчала: дзёрзкія выхадкі, „зухаватыя” штукі, разгульныя кругласутачныя вечарынкі. Пры гэтым у раздзеле змяшчаецца падраздзел „Суровасць партызанскага жыцця”. Такім чынам, недасведчаны чытач можа

ўжываецца тэрмін „тэрарыстычны акт”, які толькі ў рэдкіх выпадках замяняецца эўфемізмам: **„На основании приговоров,** вынесенных партизанами, ОМСБОНовцы осуществили 87 актов возмездия” (Зевелев А. И., Рурлат Ф. Л., Козицкий А. С. Ненависть, спрессованная в тол. Москва, 1991. С. 278).

зрабіць выснову: знаходжанне пад небам блакітным каго заўгодна пэратворыць у бескампрамісных геданістаў, а ціск цяжкіх абставінаў проста вымушаў „народных мсціўцаў” да страшэннай распушчанасці. Горш за тое, адзін з падраздзелаў, дзе апісваецца чарговая фантасмагарычная вакханалія, заканчваецца рэмаркай, якая робіць бессэнсоўным увесь раздзел: „Гэта была вайна” (с. 358). Армія Краёва ў 1943–1944 г. у Беларусі ваявала ў тых самых умовах, што і чырвоныя. А паводзілі сябе яе байцы і камандзіры больш стрымана. Мяркуючы па спасылках, аўтар працаваў з вялікай колькасцю літаратуры пра АК, а таксама з мноствам унутранай дакументацыі яе фармаванняў, г. зн. адрозненняў не заўважыць не мог, але чамусьці не расказаў пра іх чытачу.

А па аб’ёме праца вялікая: толькі расповед, без спасылак і дадаткаў, займае 440 старонак вельмі дробнага шрыфту. На жаль, тэкст даволі складаны для ўспрымання. З аднаго боку, ён відавочна перагружаны датамі, дэталямі, дробязямі, лічбамі: нярэдка на адной старонцы нагрувашчаны дзясяткі лічбаў, толькі ў некалькіх выпадках зведзеных у табліцы. У выданні няма графікаў, дыяграм, схемаў.

Але галоўнае, што ў манаграфіі не так шмат канцэптуальных канструкцый, якія аблягчаюць разуменне складанага гістарычнага працэсу, г. зн. малавата абагульненняў і тлумачэнняў як такіх. У прыватнасці, невялікае заключэнне ўяўляе сабой у асноўным не новыя вывады, а кароткі змест (дайджэст) кнігі, больш за тое, часткова паўтарае ўводзіны.

Не ўсе выказаныя ў „Эпілогу” ацэнкі падаюцца цалкам абгрунтаванымі. Канкрэтней, сцвярджэнне пра дрэнную разведку партызанаў, якая праводзілася імі для Чырвонай арміі (с. 440), выглядае занадта простым у святле таго факта, што ў манаграфіі колькі-небудзь падрабязна разглядаюцца толькі партызаны ЦШПР-БШПР. Але акрамя таго, разведдзейнасцю ў тыле Вермахта ў Беларусі займаліся атрады, групы і агентура 4-га ўпраўлення НКУС-НКДБ СССР, 4-га ўпраўлення НКУС-НКДБ БССР, а таксама Галоўнага разведупраўлення

Генеральнага штаба Чырвонай арміі. Названыя ведамствы спецыялізаваліся на агентурнай рабоце[12]. І якасць разведінфармацыі, якая падавалася ў Цэнтр ад сетак інфарматараў гэтых арганізацый, істотна перавышала паказчыкі ЦШПР.

Як ваенна-гістарычнае даследаванне кніга адпавядае сярэдняму ўзроўню. Баявым дзеянням і дыверсіям аддадзена дастаткова месца, але рэльефным іх апісанне назваць нельга. У кнізе толькі адзін раз сустракаецца ўказанне на пралік (с. 305) і зусім няма згадвання пра пісьменныя арыгінальныя тактычныя рашэнні пры праведзенні нават буйных баявых аперацый[13], няма прык-

[12] Пра колькасць інфармацыі, што перасылалася ў Цэнтр з акупаванай тэрыторыі рознымі сілавымі структурамі, пэўнае ўяўленне даюць наступныя дадзеныя.
Ва Украіне за 1941–1943 г. толькі НКУС-НКДБ УССР пакінуў пры адступленні Чырвонай арміі ці закінуў у тыл Вермахта 16 737 агентаў (і гэта без уліку агентуры, атрыманай спецгрупамі ў 1943–1944 г.). За 1941–1944 г. абмен радыёграмамі з агентурай, групамі і атрадамі гэтага ведамства склаў 5523 радыёграмы (Итоговый доклад о боевой и агентурно-оперативной деятельности 4-го управления НКГБ УССР в 1941–1945 гг., 26 июля 1945 г. // З архівів ВУЧК-ГПУ-НКВД-КГБ. № 1/2(2/3). 1995, с. 28).
А разведвальнымі аддзеламі груп, атрадаў і злучэнняў Украінскага штаба партызанскага руху ў гады вайны было атрымана толькі 3160 агентаў, да таго ж з іх 60% складалі агенты ў саміх атрадах (г. зн. даносчыкі), сярод насельніцтва — толькі 1182 (Отчёт о работе разведывательного отдела УШПД, 1942–1944 гг. // ЦДАГОУ, ф. 62, воп. 1, спр. 275, арк. 118, 125).
На пэўныя высновы наводзяць і такія дадзеныя з рэцэнзаванай працы (с. 167): на 7 сакавіка 1943 г. у партызанскіх атрадах і групах Беларусі знаходзілася 86 радыёперадатчыкаў. З іх партызанам ЦШПР належала толькі 37 (або 43%), астатнія выкарыстоўваліся фармаваннямі Галоўразведупраўлення і НКУС. Праўда, пазней гэтыя суадносіны змяніліся на карысць падначаленых ЦШПР.

[13] Цікавае даследаванне аператыўнага боку пытання ўяўляе сабой сумесная праца амерыканскага і крымскага спецыялістаў: Munoz A. J., Romanko O. V. Hitler‘s White Russians: Collaboration, Extermination and Anti-Partisan Warfare in Byelorussia, 1941–1944. New York: Europa Books, 2003.

ладаў прыгожых агентурных камбінацый таго ці іншага боку, ТТХ выкарыстоўванай зброі. Значыць, праца хутчэй адносіцца да разраду саветалогіі.

Ды і ў вывучэнні адпаведнага сегмента савецкага грамадства ёсць дасягненні, але прарываў публікацыя не зрабіла. У прыватнасці, хранічна пераацэньваецца ідэйнасць забітых сталінскіх падданых, да 1941 г. у цэлым ужо дэідэалагізаваных.

Напрыклад, пры апісанні падзей другой паловы 1941 г. настроі насельніцтва БССР характарызуюцца як антысавецкія. Пры гэтым расповед трапляе ў стандартную „пастку сакрэтнай крыніцы”, выкліканую багатым цытаваннем палітычных данясенняў супрацоўнікаў НКУС: на с. 42 — чатыры дакументы запар! Але гэтыя паведамленні складаліся іх аўтарамі з намерам паказаць начальству ўласную значнасць (выкрылі крамолу!), паскардзіцца на цяжкасць умоў працы (вакол адны ворагі!), а таксама выпрасіць як мага больш сродкаў ва ўласнае распараджэнне. У гэтым падраздзеле хоць бы для палемічнасці выкладання можна было б узгадаць і пра існаванне супрацьлеглых па змесце ацэнак удзельнікаў падзей таго часу, напрыклад, савецкіх партыйных функцыянераў.

Падобныя неправамерныя акцэнты можна ўбачыць і ў апісанні асноўных супернікаў партызанаў — паліцаяў і іншых „здраднікаў”. Па сцвярджэнні Мусяля, „матываў гэтай падтрымкі [акупантаў] не трэба доўга шукаць. Яны, у першую чаргу, заключаліся ў тым, каб разлічыцца з ненавісным савецкім рэжымам…” (с. 80, падобны тэзіс на с. 243, 372). Як ні дзіўна (а можа быць, цалкам заканамерна), савецкая гістарыяграфія давала больш правільнае абагульненне ў гэтым выпадку. Родныя калабарацыяністы трапна называліся шкурнікамі. Менавіта былы „партсовактив”, кандыдаты ў члены партыі і камуністы, камсамольцы, дзяржслужачыя, апаратчыкі, сілавікі розных ведамстваў і ўстаноў былі касцяком, г. зн. структураўтваральнай сацыяльнай праслойкай у агульнай масе людзей, якія ваявалі на баку немцаў або цягнулі лямку на гаспадарчым фронце. Можна

было б прывесці аўтэнтычныя доказы 1941–1944 г., але абмяжуемся познім, затое яркім сведчаннем. Ленінградскі дэсідэнт Міхаіл Хейфец вымушана правёў некалькі гадоў пад адным дахам з ветэранамі Другой сусветнай вайны. І пра бандэраўцаў, заўзятых нацыяналістаў, у сваіх мемуарах ён адгукаецца з павагай. А вось паліцаі паказаны ў яго ўспамінах нейкімі големамі, андроідамі, нечым накшталт членаў фракцыі „Единая Россия" ў Дзяржаўнай думе Расійскай Федэрацыі: „Экс-каратели и экс-старосты иногда были вовсе не плохими от природы людьми, и добрыми иногда — но они все, почти без исключения, казались мне морально сломленными, причем не зоной или войной, а еще раньше, почти изначально. Они казались нормальными советскими людьми, то есть слугами власти, любой власти — что гитлеровской, что советской, что польской, что, если появится, своей украинской. Часто это были просто человекообразные автоматы, роботы, запрограммированные на исполнение любого приказания — недаром среди самых кровавых гитлеровских убийц можно было обнаружить людей, которые после войны — до ареста — числились советскими активистами и орденоносцами. Не буду притворяться, я иногда жалел их — хотя отлично понимал, сколько людей от них пострадало, скольких они убили (и среди них — моих земляков) — убили людей, мизинца которых не стоили. Честное слово, иногда казалось, что вины у них не больше, чем у овчарок, которые лаяли на заключенных концлагерей, — не больше они понимали, чем эти овчарки, и что, если посадить овчарку на 25 лет в тюрьму, какой в этом смысл?"[14].

Берлін — Бостан

*Артыкул напісаны пры фінансавай падтрымцы Гарвардскага інстытута ўкраінскіх студый (HURI).*

[14] Хейфец М. Избранное: в 3 т. Т. 3: Украинские силуэты; Военнопленный секретарь. Харьков, 2000. С. 136–137.

## Wybitni historycy wielkopolscy / Praca zbiorowa pod red. JERZEGO STRZELCZYKA. Poznań, Wydawnictwo Poznańskie, 2010. 875 s.

Познань і Велікапольшча маюць значную колькасць дакументальных збораў па гісторыі рэгіёна і І Рэчы Паспалітай, у тым ліку сучасных усходніх суседзяў — Беларусі і Літвы. Іх узнікненне было звязана з дварамі князёў, біскупаў і манастыроў яшчэ ў эпоху Пястаў. У Сярэдневеччы з'явіліся такія каштоўныя крыніцы, як „Хроніка Велікапольская" ці „Хроніка" Янкі з Чарнкова, збіраліся матэрыялы працэсаў з Нямецкім ордэнам, якія сталі выдавацца з сярэдзіны XIX ст. Сярод найбольш значных былі „Lites ac res gestae inter Polonos Ordinemque Cruciferorum" (выдаў Тытус Дзялыньскі, які фактычна стаў пачынальнікам працы ў гэтым накірунку), а потым „Acta Tomiciana" — дакументацыя каралеўскай канцылярыі часоў Жыгімонта Старога. З Велікапольшчы паходзілі і такія старапольскія храністы, як Свентаслаў Ажэлка, Самуэль Твардоўскі. Пад час знаходжання земляў пад уладай Прусіі аховай помнікаў нацыянальнага мінулага займаліся такія патрыёты, як Эдвард Рачыньскі і Тытус Дзялыньскі. Вынікам іх працы сталі кнігазборы, якія існуюць і сёння, — Бібліятэка Рачыньскіх (з 1829 г.) і Курніцкая бібліятэка (узнікла каля 1828 г.), у той час як іншыя зборы зніклі. Важнае месца займаюць і зборы створанага ў 1857 г. Таварыства сяброў навукі. У 1919 г. яго старшыня, Х. Свянціцкі, выступіў ініцыятарам стварэння Вышэйшай Пястаўскай вучэльні, цяпер — Універсітэт імя Адама Міцкевіча. Прафесура, якая тут працавала, падрыхтавала яшчэ ў міжваенны перыяд значную колькасць выдатных вучоных, якія пасля Другой сусветнай вайны стварылі ўласныя даследчыцкія цэнтры ў Познані і іншых гарадах паўночна-заходняй Польшчы.

Пасля заканчэння Другой сусветнай вайны ў Познані ўзнік Заходні інстытут, а потым філіялы Польскай акадэміі навук. Тут пачалі выдавацца такія

навуковыя серыі, як „Roczniki Historyczne”, „Przegląd Zachodni”, „Słownik Starożytności Słowiańskich”, „Studia Źródłoznawcze” (першы з пералічаных убачыў свет яшчэ ў міжваенны перыяд), а таксама даследаванні па гісторыі Памор’я, Велікапольшчы і Познані. Акрамя гэтага з’яўляліся працы па сусветнай гісторыі, гісторыі Нямеччыны, Літвы. У першую чаргу ў гэтай сувязі варта згадаць імёны знакамітых медыявістаў — К. Тымянецкага, Г. Лаўмяньскага і Г. Лябуды.

У сувязі з адзначаным не выклікае здзіўлення жаданне познаньскіх гісторыкаў адлюстраваць дасягненні рэгіянальнай гістарыяграфіі па ўзоры іншых польскіх навуковых асяродкаў[1]. Ва ўводзінах да выдання рэдактар згадвае, што „ідэя асэнсавання гісторыі познаньскага і велікапольскага гістарычнага асяроддзя ўпершыню была сфармулявана… прафесарам Герардам Лябудам пад час урачыстасцяў з нагоды яго шасцідзесяцігоддзя ў кастрычніку 1976 г.”.

У 1989 г. у Навуковым выдавецтве Універсітэта імя А. Міцкевіча выйшла добра падрыхтаваная кніга пад назвай „Wybitni historycy wielkopolscy” (рэд. Е. Стшэльчык), дзе прыводзіліся біяграфіі 33 ужо памерлых даследчыкаў. У новым выданні, якое выйшла пад той самай назвай у Познаньскім выдавецтве, да змешчанай раней інфармацыі дадаліся матэрыялы пра іншых 28 гісторыкаў, якія адышлі ў іншы свет за апошнія 20 гадоў.

Можна спрачацца, ці ўсе пададзеныя ў кнізе асобы былі выбітнымі, але, безумоўна, кожны з іх заслугоўвае, каб застацца ў памяці нашчадкаў. Мы сустракаем тут імёны як тых, хто ўсё свае жыццё звязаў з універсітэтам імя А. Міцкевіча, так і тых, хто воляй лёсу быў вымушаны пакінуць Велікапольшчу. У кнізе прыводзяцца таксама біяграфіі даследчыкаў, якія працавалі на юрыдычным факультэце (З. Вайцэхоўскі, З. Качмар-

[1] У якасці прыкладу згадаем кнігу „Historycy warszawscy ostatnich dwóch stuleć” (Warszawa, 1986), дзе ў храналагічнай паслядоўнасці прыведзены біяграфіі 26 асоб, пачынаючы ад А. Нарушэвіча і І. Лелявеля.

чык, М. Шчанецкі). Справядліва згадваецца і Анджэй Вайткоўскі (памёр у 1975 г.), які ў якасці дырэктара Бібліятэкі Рачыньскіх у міжваенны перыяд шмат зрабіў для Велікапольшчы. Пасля нападу Нямеччыны ён выехаў з Познані, а апошнія трыццаць гадоў жыцця працаваў у Літоўскім каталіцкім універсітэце. Нягледзячы на яго шматлікія просьбы ў 1949 г. яму не дазволілі вярнуцца ў Познань, а таму „на чужыне" ён працаваў над бібліяграфіяй гісторыі Велікапольшчы. Яго даследаванне пра Э. Рачыньскага стала класічным і, больш за тое, захавала крыніцазнаўчую вартасць, таму што большая частка матэрыялаў, на падставе якіх яно было напісана, знікла пад час Другой сусветнай вайны.

Падобным чынам можна згадваць мноства паважаных імён. Першыя дзесяць маюць дачыненне да XIX — пачатку XX ст. Гэта арыстакраты-асветнікі, якія збіралі старапольскія пісьмовыя помнікі, мецэнаты і выдаўцы старадаўніх крыніц, іх супрацоўнікі і дакументалісты свайго часу (Эдвард Рачыньскі, Тытус і Ян Дзялыньскія, Юзэф Лукашэвіч, Енджэй Марачэўскі, Казімеж Ярахоўскі, Ян Карыткоўскі, Ігнацы Закшэўскі, Эдмунд Калье і Станіслаў Карвоўскі). Наступная група звязана з сучаснай гістарыяграфіяй міжваеннага перыяду (Тэадор Тыц, Адольф Варшаўэр, Браніслаў Дэмбіньскі, Казімеж Хадыніцкі, што прыехаў з Вільні, і адзін з заснавальнікаў універсітэта ксёндз Станіслаў Казероўскі). Частка даследчыкаў перажыла акупацыю і працягнула працу пасля 1945 г. Сярод такіх былі Ян Руткоўскі, Адам Скалкоўскі, Станіслаў Бодняк (дырэктар Курніцкай бібліятэкі і прафесар Познаньскага ўніверсітэта). З пасляваеннага пакалення трэба згадаць Уладыслава Кавалёнка, Здзіслава Грота, Уладыслава Кусіньскага, Вітольда Якубчыка, Ежы Тапольскага, Брыгіду Кюрбіс, познаньцаў Герарда Лябуду, Чэслава Лучака і Бенона Міськевіча.

Звычайна Познань трактуюць як цэнтр нямецкіх даследаванняў. Аднак яшчэ з сярэдзіны XIX ст. тут вялося вывучэнне Вялікага Княства Літоўскага і з'яўляліся адпаведныя публікацыі. Яны мелі важнае значэнне для

далейшых даследаванняў. У гэтым месцы неабходна зазірнуць у біяграфіі велікапалян Э. Рачыньскага, Ю. Лукашевіча, Т. Дзялыньскага. На жаль, не змешчаны ў кнізе матэрыял пра памерлага ў маладым узросце гісторыка Яна Непамуцэна Раманоўскага. У міжваенны перыяд аўтарамі фундаментальных прац па гісторыі ВКЛ сталі выхадзец з Віленшчыны Казімеж Хадыніцкі (працаваў у Познаньскім універсітэце), Станіслаў Боднях і Уладыслаў Пацеха, якія закраналі літоўскую тэматыку ў даследаваннях гісторыі XVI ст.

У 1925 г. з Львова прыехаў Зыгмунт Вайцэхоўскі (1900–1955), у працах якога перавагу мелі нямецкая тэматыка і пачатак існавання манархіі Пястаў. Два познаньскія гісторыкі — Уладыслаў Каваленка (1884–1966) і Уладзімір Двожачэк (1905–1988) — нарадзіліся ў Мінску, у Беларусі. Першы ў 1921 г. прыехаў у Познань, дзе і пражыў да смерці ў 1966 г. Яго цікавіла марская тэматыка і гісторыя першых славян. Доўгі час ён быў адным з рэдактараў шматтомнага „Słownika starożytności słowiańskich", дзе шмат месца адводзіў малой радзіме. Двожачэк паходзіў з паланізаванай чэшскай сям'і, якая з'явілася на тэрыторыі Беларусі ў канцы XVIII ст. У 1920 г. ён пераехаў з Мінска ў Познань. Тут скончыў школу, потым атрымаў вышэйшую адукацыю і пад кіраўніцтвам Адама Скалкоўскага (які прыехаў з Львова) заняўся старапольскай генеалогіяй. І хоць у яго навуковай спадчыне пераважаюць працы па гісторыі Вялікапольшчы, ёсць сярод іх і даследаванні па гісторыі І Рэчы Паспалітай.

Значнай фігурай у познаньскай гістарыяграфіі пасля Другой сусветнай вайны стаў Генрык Лаўмяньскі, які да 1939 г. выкладаў ва Універсітэце імя Стэфана Баторыя ў Вільні і быў аўтарам двухтомніка „Studia nad początkami społeczeństwa i państwa litewskiego". Біяграфічная нота, змешчаная ў разгляданай кнізе, паказвае яго літуаністычныя працы і фундаментальныя даследаванні па гісторыі славян, якія ён праводзіў пасля 1945 г. І хоць у свой познаньскі перыяд жыцця Лаўмяньскі не вывучаў гісторыю ВКЛ, ён падрыхтаваў шмат вучняў,

якія заняліся згаданай тэматыкай, і шчыльна сачыў за дасягненнямі сучаснай гістарыяграфіі ў гэтым напрамку[2]. Пасля смерці выдатнага гісторыка некаторыя з яго прац з'явіліся ў часопісе „Lituano-Slavica Posnaniensia. Studia Historica". Больш за тое, была перавыдадзена яго дысертацыя — „Akta cechów wileńskich"[3] (падрыхтаваная Я. Юркевічам), а таксама гісторыя насельніцтва Вялікага Княства Літоўскага ў XVI ст., што праляжала доўгі час у рукапісах, і „Polityka Jagiellonów".

Разглядаючы новае выданне пра знакамітых познаньскіх гісторыкаў XIX–XX ст., варта заўважыць, што іх унёсак у даследаванне гісторыі старадаўняй Літвы і Беларусі заслугоўвае больш дэталёвага аналізу і асобнай манаграфіі.

Познань *Марцэлі Косман*

## LABUDA, GERARD. Próba nowej systematyki i nowej interpretacji źródeł historycznych z Posłowiem. Poznań: Wydawnictwo Poznańskie, 2010. 114 s.

Новая серыя „Wydawnictwa Poznańskiego" „Бібліятэчка крыніцазнаўцы" была ўпершыню прадстаўлена перадрукам працы суаўтара і шматгадовага рэдактара (поруч з А. Гейштарам і Б. Кюрбіс) „Studiów Źródłoznawczych", якая больш за паўстагоддзя таму (у 1957 г.) адкрыла іх першы том, — „Спроба новай сістэматыкі і новай інтэрпрэтацыі гістарычных крыніц" (3–52). Публікацыі гэтай працы ў 1957 г., што мела праграмны характар і выклікала жывую дыскусію, пра якую

[2] Падрабязней пра гэта гл: Косман М. З гісторыі і культуры Вялікага Княства Літоўскага. Мінск, 2010. С. 360–375.

[3] Гл.: рэц. М. Космана на гэтае выданне // БГА. Т. 14. Сш. 1–2. 2007. С. 398–404.

ў цяперашнім выданні згадвае аўтар (асноўны тэкст — с. 11–93, „Пасляслоўе: дапаўненне пра крыніцы дыялогу” — с. 94–114), папярэднічаў прачытаны за два гады да таго (29 сакавіка 1955 г.) на пасяджэнні Торуньскага навуковага таварыства рэферат, апублікаваны пад той самай назвай, але са значнай затрымкай — налета пасля з’яўлення першага тома „Studiów Źródłoznawczych” (Sprawozdania TNT, 1955, № 9, выд. 1958, с. 65–68). Цяпер жа рэдактар крыніцазнаўчай серыі Юзаф Добаш (кніга Г. Лябуды выйшла ў ёй пад нумарам 1) адзначае, што новая выдавецкая ініцыятыва, вядома ж, не складае канкурэнцыі для „Studiów”, і дадае, што яе адкрыццё перадрукам працы познаньскага медыявіста, якая мае характар гістарыяграфічнай класікі, „не вымагае больш дэталёвага абгрунтавання”.

Развагі Лябуды з’явіліся больш за паўстагоддзя таму, у зусім іншай ідэалагічнай атмасферы: іх першая версія была прадстаўлена ў Торуні за год да кастрычніцкага пералому 1956 г. Аўтар мусіў лічыцца з прыдзірлівасцю цэнзуры і „дзяжурных” гісторыкаў, адданых прынцыпам сацыялізму. Аднак канчатковая версія працы была падрыхтавана ўжо пасля перамен 1956 г., калі стала магчымым заснаванне „Studiów Źródłoznawczych”. Як Г. Лябуда адзначыў у прадмове, яго праца — плён разважанняў, звязаных з выкладаннем гісторыі гістарыяграфіі, а таксама з метадычным семінарам, што праводзіўся ў 1951/52 і 1953/54 акадэмічных гадах ва ўніверсітэце, які тады яшчэ не насіў імя Адама Міцкевіча. Узяўся ён за гэтую тэму, грунтуючыся на высновах Ванды Машчэнскай (1950) і Романа Лютмана, а таксама на крытыцы апошняга прыхільнікамі марксізму (Адам Шаф, 1953 г., некаторыя савецкія вучоныя). Адначасова заўважым, што сваю цвярозую ацэнку якасці распрацоўкі гэтай тэмы ў польскай гістарычнай навуцы Г. Лябуда падаў праз шмат гадоў у першай частцы кнігі пад назвай „Развіццё метадаў гісторыяпісання ад старажытнасці да сучаснасці” (ч. I: „Да канца XIX ст.”[1], с. 151–171; ч.

[1] Labuda G. Rozwój metod dziejopisarskich od starożytności do

ІІ: „ХХ стагоддзе”; працу над трэцяй часткай, якая павінна была стаць завяршальнай, перапыніла смерць актыўнага да апошніх дзён жыцця аўтара). Гэтая кніга развівае нямала думак, выказаных яшчэ ў той даўняй, апісванай тут публікацыі, — гэтак жа, зрэшты, як і трэцяя, апублікаваная ў апошнія месяцы жыцця кніга Нестара нашай гуманістыкі — „Пра гісторыкаў. Хто ёсць хто ў польскім гісторыяпісанні”[2] (перш за ўсё с. 15–33). Невыпадкова яшчэ ў 1957 г. аўтар шмат увагі аддаў генетычнаму метаду.

Пасля ўступных заўваг у першай часты свайго аналізу Г. Лябуда перайшоў да абмеркавання сістэматыкі крыніц, надзвычай даступна і празрыста — як для метадалагічных разважанняў — раскрытыкаваўшы ранейшыя напрацоўкі ў гэтай сферы (16–39). Пры гэтым крытыка Г. Лябуды пазбаўлена нярэдкай у такіх справах блытаніны. Затым ён перайшоў да фармулявання паняцця крыніцы, спачатку прывёўшы фармулёўкі сваіх папярэднікаў — Э. Бернгайма, Ш. Ланглуа і Ш. Сеньябоса, М. Гандэльсмана — і потым прапанаваўшы такое азначэнне: „Да крыніц — у самым агульным разуменні — мы адносім любыя матэрыяльныя і інтэлектуальныя сляды, якія з’яўляюцца прадуктам і адначасова адлюстраваннем ды часткай прыродных і сацыяльных працэсаў у часе і прасторы”; пераходзячы ж да паняцця гістарычнай крыніцы, ён акрэсліў яе як „любыя сляды інтэлектуальнай і грамадскай дзейнасці, якія, будучы прадуктам чалавечай працы і адначасова ўдзельнічаючы ў развіцці жыцця грамадства, набываюць праз гэта здольнасць да адлюстравання гэтага развіцця. Дзякуючы гэтым сваім уласцівасцям, г. зн. паходжанню з чалавечай дзейнасці і здольнасці да адлюстравання, крыніца з’яўляецца пазнавальным сродкам, які робіць магчымым навуковую рэканструкцыю развіцця грамадства ва ўсіх яго праявах” (39–56).

współczesności. Cz. I: Do schyłku XIX wieku. Poznań, 2003.

2 Labuda G. O historykach. Kto jest kim w dziejopisarstwie polskim? Poznań, 2010.

У трэцяй частцы працы аўтар, адкінуўшы даўнейшую сістэматыку, пераходзіць да выкладання ўласнай яе версіі, якую, пасля ўводнага слова, падае ў графічнай форме (56–91). Высновы ён падводзіць у сціслай чацвёртай частцы (91–93), у якой заўважае, што яго задачай было прапанаваць новую сістэматыку, якая б „не толькі вырастала з варштата гісторыка, але і практычна ды мэтазгодна гэты варштат арганізоўвала”.

Такая прапанова знайшла багаты водгук. Неўзабаве пасля публікацыі Г. Лябуды на старонках таго самага штогодніка з’явіліся разважанні выдатнага логіка Ежы Гедыміна („Семантычныя праблемы класіфікацыі гістарычных крыніц. Да артыкула Герарда Лябуды”[3]), больш як праз дзесяцігоддзе ў „Studiach Metodologicznych” адгукнуўся Юзаф Матушэўскі („Аб спробе новай сістэматыкі гістарычных крыніц”[4]), з якім тамсама палемізаваў Бэнан Міськевіч („Да спроб вызначэння і класіфікацыі гістарычных крыніц”[5]). Першы з гэтых водгукаў (г. зн. Матушэўскага) кампетэнтная даследчыца праз шмат гадоў (у 1986 г.) акрэсліла як поўнае непаразуменне (Брыгіда Кюрбіс. „Крыніца ў гістарычных даследаваннях Герарда Лябуды”[6]).

Пастарэлы ж аўтар, даючы сваю згоду на перавыданне і, паводле свайго звычаю, не ўносячы аніякіх змен у першапачатковы тэкст, забяспечыў яго грунтоўным пасляслоўем, акрэсліўшы яго ў падзагалоўку як „Дапаўненне пра крыніцы дыялогу”. У ім ён абапіраецца, вядома, на здабыткі новай літаратуры і асабліва шмат месца аддае археалагічнай тэматыцы. Пачынаючы ад самога паняцця крыніцы (п. 1) і яго шматаспектнасці, чарговыя

[3] Giedymin J. Semantyczne problemy klasyfikacji źródeł historycznych. W związku z artykułem Gerarda Labudy // Studia Źródłoznawcze. 1958. № 3. S. 187–197.

[4] Matuszewski J. O próbie nowej systematyki źródeł historycznych // Studia Metodologiczne. 1968. № 4. S. 17–50.

[5] Miśkiewicz B. W sprawie prób wyjaśniania i klasyfikacji źródeł historycznych // Тамсама. С. 51–62.

[6] Kürbis B. Źródło w historycznych dociekaniach Gerarda Labudy // Naukowe dzieło Profesora Gerarda Labudy / Pod red. J. Dobosza. Poznań, 2006. S. 33.

пункты свайго артыкула ён прысвячае псіхатэхнічным (п. 2), сацыятэхнічным (п. 3), эргатэхнічным (п. 4) і археалагічным крыніцам (п. 5 — тут ён спасылаецца перш за ўсё на натхняльнае даследаванне Ганны Залеўскай „Тэорыя археалагічнай і гістарычнай крыніцы ў сучасным метадалагічным аналізе”[7], напрыканцы адзначаючы спецыфічны характар гэтага тыпу крыніц, якія застаюцца „нямымі” і не даюць самі па сабе падставы для нарацыі). „Пасляслоўе” завяршаецца заўвагамі пра традыцыю як носьбіта і пераносчыка ведаў пра мінуўшчыну (п. 6).

Метадалагічнае даследаванне Герарда Лябуды, у тым ліку яго дапаўненне больш як праз паўстагоддзя пасля выхаду першага выдання, сведчыць пра велізарную эрудыцыю і свежасць даследчага погляду аўтара на 94-м годзе жыцця. На жаль, далейшыя крыніцазнаўчыя дыскусіі гісторыкаў будуць праходзіць ужо без яго ўдзелу, паколькі Г. Лябуда памёр 1 кастрычніка 2010 г. — акурат у той дзень, калі меўся атрымаць першыя экзэмпляры сваёй кнігі. Пабачыць іх яму так і не давялося.

Познань *Марцэлі Косман*

## ШЫБЕКА, ЗАХАР В. Гарадская цывілізацыя: Беларусь і свет. Курс лекцый. Вільня: ЕГУ, 2009. 372 с.

Гарадскі арэал — гэта свайго роду апазіцыя прыроднаму свету з яго стыхіямі, якія пагражаюць стабільнасці. Чалавек заўсёды хацеў гарантаванай абароны ад катаклізмаў прыроды. Такім чынам аб’ектывізавалася ідэя цывілізацыі, якая найбольш яскрава адлюстравалася ў гарадской форме існавання.

7 Zalewska A. Teoria źródła archeologicznego i historycznego we współczesnej refleksji metodologicznej. Lublin, 2005.

Развіццё грамадства на працягу XX ст. паказала, што фундаментальныя працэсы, якія адбываюцца ў гарадской цывілізацыі, істотна ўплываюць на развіццё культуры, а буйныя гарады як форма чалавечага суіснавання апынуліся ў авангардзе не толькі станоўчых, але і адмоўных трансфармацый. Механізацыя соцыуму, нябачная раней канцэнтрацыя чалавечых лёсаў сталі вызначаць жыццё. Між тым за шматгадовую гісторыю свайго развіцця гарадская цывілізацыя акумулявала вялізны досвед чалавечага суіснавання, значны патэнцыял культурных каштоўнасцяў, якія патрабуюць паўнавартаснага асэнсавання.

Да сацыяльна-эканамічнага, палітычнага, культурнага жыцця горада праяўлялі інтарэс прадстаўнікі навуковага асяроддзя шматлікіх краін. Спробу абагульніць наяўныя напрацоўкі беларускіх і расійскіх даследчыкаў, а таксама параўнаць іх з падыходамі заходнееўрапейскіх даследчыкаў зрабіў З. Шыбека ў працы „Гарадская цывілізацыя: Беларусь і свет". Галоўная вызначальная рыса выдання заключаецца ў спробе вызначыць месца і ролю беларускіх гарадоў у сусветным працэсе ўрбанізацыі. Неабходна адзначыць, што выданне заяўлена як курс лекцый, хоць па стылі выкладання і падыходах яно, хутчэй, трапляе пад вызначэнне „манаграфія". Аўтар арганічна спалучае палітычную, эканамічную, сацыяльную, духоўную гісторыю горада і паказвае іх узаемаабумоўленасць і ўзаемаўплыў, але пры гэтым менш увагі аддае метадычнаму складніку. У канцы кожнага раздзела аўтар падаў толькі пытанні да зместу. Магчыма, мэтазгодным было б прапанаваць студэнтам храналогію, заданні, тэрміны, якія дапамаглі б рэалізаваць метадычную *задуму*.

Структура працы лагічная і самастойная. Варта адзначыць якаснае і ўмелае спалучэнне розных даследчыцкіх стратэгій, агульнанавуковых і спецыяльных метадаў, выкарыстанне міждысцыплінарнага падыходу. Аўтар паспрабаваў паказаць не толькі сучасныя падыходы да вывучэння гарадской цывілізацыі, але і свой погляд на шэраг праблем. Разам з тым, характарызаваць, як гэта

робіць З. Шыбека, выдадзены курс лекцый як пачатак развіцця гістарычнай урбаністыкі ў Беларусі, нельга. На працягу XX ст. у Беларусі, як і ў СССР, з'яўляліся працы, што фактычна заклалі падмурак для развіцця гэтага напрамку ў навуцы. Пра гэта гаворыць і сам аўтар, калі вылучае ў беларускай гістарыяграфіі тры асноўныя напрамкі: „1) вывучэнне горада як гістарычнай з'явы з толькі яму ўласцівымі рысамі; 2) вывучэнне працэсаў урбанізацыі ў цеснай узаемасувязі з усімі грамадскімі працэсамі, што мелі месца на кожным канкрэтным этапе гістарычнага развіцця, і ў кантэксце ўрбанізацыі сусветнага маштабу; 3) вывучэнне разнастайных аспектаў жыццядзейнасці гараджанаў" (21). Аднак З. Шыбека не адзначае, што ўсе айчынныя ўрбаністы ў савецкі час будавалі сваю аргументацыю ў межах марксісцкай тэорыі. У апошнія ж пятнаццаць гадоў гістарычная ўрбаністыка набыла новыя формы адлюстравання. Гэта звязана ў першую чаргу з актыўным уключэннем беларускіх гісторыкаў у сусветную супольнасць вучоных і знаёмства з метадалогіяй і тэматыкай сучасных гуманітарных даследаванняў.

Кніга З. Шыбекі ў гэтым сэнсе ўяўляе сабой адну з першых у беларускай навуцы спроб канцэптуальнага адказу на фундаментальныя пытанні, якія ставяцца сучаснай гістарычнай урбаністыкай. У беларускага чытача і ў першую чаргу студэнта з'явілася магчымасць комплексна паглядзець на праблему ўрбанізацыі ў Беларусі і свеце. Аўтар прапануе пункт гледжання на цэлае, на агульную карціну мінулага ў адпаведнасці з новым, сучасным, разуменнем і новымі патрэбамі чалавечай супольнасці. Інакш кажучы, ён кіруецца пэўнай сістэмай каштоўнасцяў пры паказе гісторыі людзей, якія жылі ў пэўным рэгіёне ў пэўны час.

У першым раздзеле — „Горад" — З. Шыбека паказвае станаўленне гарадской цывілізацыі, падае перыядызацыі гісторыі развіцця гарадоў Беларусі і гарадоў іншых рэгіёнаў свету (22). Абедзве перыядызацыі ніякім чынам не звязаныя паміж сабой і існуюць незалежна адна ад адной, паколькі ў аснову кожнай закладзены розныя крытэрыі. Другая перыядызацыя

ўяўляе сабой еўрапейскае (еўропацэнтрычнае) бачанне гісторыі станаўлення гарадоў. Менавіта яна прымаецца за аснову ў курсе лекцый. Адпаведна з гэтым урбангісторыя Еўропы падаецца больш дэталёва, чым гісторыя станаўлення гарадоў іншых рэгіёнаў свету.

Найбольш выразна пазіцыя аўтара прасочваецца ў апісанні гісторыі развіцця гарадоў Беларусі. Значнае месца З. Шыбека надае аналізу ролі і ўплыву цэхаў, унёсак якіх у развіццё беларускіх гарадоў ацэньвае пазітыўна. Разам з тым ён звяртае ўвагу на тое, што ВКЛ не пашанцавала, бо „разбурэнне гарадской інфраструктуры ў сувязі з бясконцымі войнамі з суседзямі істотна аслабіла Княства і стала адной з прычынаў яго мілітарнага далучэння да Расійскай імперыі". У цэлым жа развіццё беларускіх гарадоў у складзе Расійскай імперыі, а потым СССР, аўтар ацэньвае негатыўна. Ён адзначае, што ў першым выпадку ў выніку праведзенай адміністрацыйнай рэформы шматлікія захопленыя гарады ВКЛ пераводзіліся ў разрад мястэчак, а ў другім — залежнасць ад Масквы і адсутнасць актыўных гандлёвых і эканамічных кантактаў з Захадам перашкаджалі паўнавартаснаму развіццю гарадоў БССР.

Другі раздзел — „Урбанізацыя" — прысвечаны асэнсаванню ўрбанізацыі як галоўнай грамадскай з'явы і выяўленню яе асаблівасцяў на беларускіх землях. Аўтар сцвярджае, што „існуе тры асноўныя прычыны канцэнтрацыі рабочых месцаў у гарадах, а гэта значыць тры прычыны росту гарадоў, ці ўрбанізацыі". Сярод іх ён адзначае з'яўленне ў якім-небудзь рэгіёне перавагі ў вытворчасці пэўнага тавару або групы тавараў; эфект маштабаў вытворчасці; эфект канцэнтрацыі вытворчасці (146). Далей, аналізуючы асноўныя праявы працэсу росту гарадоў, аўтар падводзіць чытача да разумення спецыфікі эканамічнага развіцця сучаснай Заходняй Еўропы і Беларусі.

У дадзеным раздзеле З. Шыбека выкарыстоўвае заходнія падыходы, у прыватнасці тыпалогію амерыканскага эканаміста Фішэра-Кларка, да асэнсавання працэсу ўрбанізацыі ў Беларусі (151), пераносіць на

беларускі матэрыял паняцці агламерацыі, канурбацыі і прыводзіць іх прыклады, падае перыядызацыю дынамікі росту гарадскога насельніцтва Беларусі (162).

Асэнсоўваючы ролю сталіцы ў працэсе ўрбанізацыі, З. Шыбека з жалем канстатуе, што Мінск так і не змог замяніць гістарычную сталіцу — Вільню. Ён лічыць, што сучасная сталіца Беларусі „прасякнута духам былой савецкай эпохі", а „руйнаванні і перабудовы, якія вяліся на загад небеларусаў, зрабілі і вобраз сталіцы Беларусі небеларускім" (188). Паступова ў рэчышчы крытыкі аўтар уздымае праблему мадэрнізацыі горада і прыводзіць некалькі прыкладаў яе адмоўнага ўплыву. Нельга ў гэтым не пагадзіцца з даследчыкам. Згаданая праблема мае месца не толькі ў Беларусі, але і ў іншых гарадах свету. З іншага боку, яна непазбежная. Пакуль насельніцтва не дасягне пэўнага ўзроўню культуры, не будзе мець акрамя нацыянальнай гістарычную самасвядомасць, нічога не зменіцца.

Прааналізаваўшы гістарычныя ўмовы развіцця культуры ў гарадах Беларусі, З. Шыбека прыйшоў да высновы, што „культура беларускіх гарадоў існуе сама па сабе і развіваецца нейкім штучным шляхам, яна не задавальняе і не кансалідуе грамадзянаў Беларусі". Па сцверджанні аўтара, „першая адметнасць культурнага ўздзеяння беларускіх гарадоў на развіццё краіны, у параўнанні з гарадамі іншых краінаў, палягае ў тым, што яны маюць ніжэйшы культурны патэнцыял" (228). Сярод прычын гэтага ён называе знішчэнне матэрыяльных каштоўнасцяў у выніку шматлікіх войнаў, вываз культурных каштоўнасцяў у гарады Расіі, Украіны, Польшчы, Нямеччыны, ад'езд за мяжу творчай эліты, празмерную ідэалагізаванасць і недафінансаванасць культуры ў савецкі час (229). Другая ж адметнасць „культурнага ўздзеяння гарадоў на беларускае грамадства выяўляецца ў тым, што гэтыя гарады — рускамоўныя" (231).

Трэці раздзел — „Гараджане" — аўтар пачынае вылучэннем шырокага спектра матэрыяльных і духоўна-маральных праблем, якія існавалі і існуюць у гарадах. Да іх ліку ён адносіць недахоп зямлі, траўматызм, па-

гаршэнне экалогіі, недахоп жылля, перанаселенасць, злачыннасць, прастытуцыю, душэўны камфорт і іншае. Разважанні пра жыццё гараджан і горада З. Шыбека завяршае сцверджаннем, што беларускі народ так і не рэалізаваў нацыянальны праект ідэальнага горада, „горада-сонца”, а таму „стварэнне гарманічнага гарадскога асяроддзя, дзе чалавек мог бы задаволіць усе свае патрэбы, застаецца актуальнай” (278).

Напрыканцы варта адзначыць, што, закранаючы шматлікія праблемы гарадской цывілізацыі на розных гістарычных этапах развіцця, аўтар сцірае межы паміж грамадствам і чалавекам, хоць у працы сам жа заяўляе, што асноўны акцэнт робіцца на гуманітарным складніку горада. У працы не прасочваецца ўплыў гарадской супольнасці на чалавека і чалавека на гарадскую супольнасць, што вельмі істотна пры такім аналізе. У курсе лекцый адсутнічае „жывы” чалавек са сваімі жаданнямі, патрэбамі, праблемамі і марамі. Ён уніфікуецца. У гэтай сувязі чытачу складана зразумець, чым адрозніваецца гарадскі жыхар XIX ст. ад жыхара XX ст. Таксама неабходна адзначыць і той факт, што пры аналізе праблем даследчык у большай ступені кіруецца культуралагічным, а не гістарычным, падыходам. Больш за тое, З. Шыбека не да канца змог захаваць баланс у выкарыстанні гістарычна-параўнальнага і культуралагічнага падыходаў, а таму некаторыя падзеі гісторыі пададзены ў абсалютна іншым ракурсе, чым гэта прынята ў сучаснай гістарычнай навуцы.

Адзначаныя спрэчныя моманты не носяць прынцыповага характару і не зніжаюць агульнай высокай ацэнкі курса лекцый. Праца З. Шыбекі вылучаецца з агульнага кантэксту сённяшніх даследаванняў, паколькі сапраўды ўпершыню ў ёй зроблена спроба ўпісаць гісторыю беларускага горада ў гісторыю гарадоў свету.

Брэст *Таццяна Тахіян*

## Культавыя і гістарычныя валуны Беларусі / КАРАБАНАЎ, АЛЯКСАНДР К. [і інш.] Мінск: Беларуская навука, 2011. 235 с.

Аўтарамі гэтай манаграфіі пазначаны пяць чалавек: А. К. Карабанаў, В. Ф. Вінакураў, Л. У. Дучыц, Э. М. Зайкоўскі, І. Я. Клімковіч. Гэтая кніга — нязвыклы прыклад супрацоўніцтва спецыялістаў у галіне геалогіі і гісторыі. Тэме даследавання беларускіх валуноў прысвечана нямала прац, асабліва ў галіне краязнаўства і лакальнай гісторыі, аднак прадметам манаграфічнага даследавання яны становяцца ўпершыню.

Пры тым, што праца мае ўсе фармальныя прыкметы манаграфіі, стыль яе напісання — навукова-папулярны. На гэта настройвае лірычны стыль уводзінаў: „Складваецца ўражанне, што яны [камяні] вылезлі з-пад зямлі падыхаць паветрам" (3) і назвы першых падраздзелаў, такія, як „1.1. Ледавіковыя прышэльцы" (6). Далейшае чытанне толькі пацвярджае ўражанне: у працы адсутнічаюць спасылкі на крыніцы, не названы мэты і задачы даследавання, няма агляду бібліяграфіі пытання (за выключэннем вывучэння праблемы геолагамі). Сказанае прыводзіць да высновы, што да кнігі было б недарэчна высоўваць патрабаванні, прынятыя для навуковага тэксту, і разглядаць яе толькі праз такую прызму. У той жа час сабраны і сістэматызаваны матэрыял, без сумневу, заслугоўвае ўвагі зацікаўленых вучоных, а значыць, і больш падрабязнага разгляду з нашага боку.

Першы раздзел „Вандроўныя камяні" прысвечаны гісторыі станаўлення ледавіковай тэорыі, вывучэнню валуноў геолагамі ў Беларусі, апісанню спосабаў іх фармавання, парод, якімі яны ўтвораны, і распаўсюджанню на тэрыторыі краіны. Завяршаецца раздзел гісторыяй стварэння парка камянёў у Мінску і яго апісаннем. Гэта адзіны ў кнізе „геалагічны" раздзел, астатнія структураваны паводле патрэб марфалагічна-фалькларыстычнай сістэматызацыі матэрыялу, і толькі апошні, дзясяты, — па лакалізацыі.

Такое рыгарыстычнае раздзяленне навуковых сфер пашырана і на ўвесь тэкст кнігі: у большасці раздзелаў апісваецца пэўная група камянёў толькі з аднаго пункту гледжання, часцей за ўсё фальклорнага. Там, дзе мы бачым сумесную працу геолагаў і гісторыкаў ці фальклярыстаў, яна мае дастаткова фармальны характар — на гатовы тэкст „накладаюцца” геалагічныя дадзеныя, такія, як парода каменя і яго памеры. Прыкметы непаразумення паміж аўтарамі мы знаходзім і ў канцы першага, „геалагічнага”, раздзела, дзе паведамляецца, што „пры выбары экспанатаў для ілюстрацыйнага матэрыялу гэтага раздзела перш за ўсё ўлічваліся прапановы супрацоўнікаў Інстытута гісторыі НАН Беларусі” (30). Між тым, такое супрацоўніцтва магло б прынесці свой плён. Напрыклад, у другім раздзеле, прысвечаным камяням-следавікам, падаюцца інтэрпрэтацыі з’яўлення практык шанавання такіх камянёў, пераказваюцца звязаныя з імі павер’і і легенды. Але аўтары не прыводзяць геалагічных тлумачэнняў і версій паходжання следападобных адбіткаў на камянях. Толькі праз сто старонак, у сёмым раздзеле, дзе разглядаюцца тыпалагічна блізкія „ямкавыя камяні”, пры геалагічным апісанні аднаго з іх робіцца заўвага пра тое, што „вялікае паглыбленне на камені, якое ўзнікла натуральным чынам у выніку разбурэння гнейса, мясцовыя жыхары лічаць адбіткам следу нейкай істоты” (124).

Да двух названых тэматычна блізкіх раздзелаў, другога і сёмага, прымыкае шосты: „Валуны са штучнымі паглыбленнямі”. Такая тыпалагічная блізкасць матэрыялу апісання стварае пэўныя праблемы ўзаемаперасячэння і паўтарэння, але гэта нельга паставіць у віну аўтарам, улічваючы няпросты характар аб’екта даследавання і тое, што на практыцы бездакорныя класіфікацыі прадметаў, якія існуюць у культуры ці створаны ёю, практычна ніколі не атрымліваецца скласці.

Самымі слабымі месцамі ў кнізе, на наш погляд, з’яўляюцца тыя, дзе робяцца спробы інтэрпрэтацыі да-

дзеных у рамках гістарычных і культуралагічных абагульненняў. У апошнія гады мы сталі сведкамі актыўнай вульгарызацыі ведаў пра паганства на Беларусі і разрастання калянавуковага дыскурсу на гэтую тэму, які пастуова пачынае засланяць сабою навуковыя веды. Праблема тым больш складаная, што мяжу паміж імі не заўсёды можна дакладна правесці, асабліва ў той плоскасці, дзе ў суседстве знаходзяцца спрэчная тэорыя ці гіпотэза і спекуляцыя. Аўтараў ні ў якім разе нельга абвінаваціць у тым, што яны свядома спрычыніліся да міфалагізацыі ці прафанацыі гэтай сферы, аднак некрытычнае выкарыстанне матэрыялаў па тэме спрыяе пашырэнню сумнеўных тэзісаў і ідэй.

Некаторыя з іх можна назваць проста спрэчнымі, але тэарэтычна магчымымі. Да такіх адносіцца тэорыя пра тое, што чорт як персанаж славянскай дэманалогіі — гэта ўзніклы ў хрысціянскія часы спадкаемца бога Вялеса, хтанічнага боства і антаганіста Перуна. Адпаведна камяні з назвай „чортавы” не што іншае, як старажытныя месцы пакланення Вялесу. Найбольш паслядоўна гэтая тэорыя выкладаецца ў раздзеле 5.5. „Хтанічнае боства” (104–106). Праз усю кнігу праходзіць ідэя сувязі культавых камянёў і Вялеса. На наш погляд, відавочнае несупадзенне статусаў Вялеса як аднаго з багоў паганскага пантэона і чорта — ніжэйшай дэманалагічнай істоты, які не быў аб’ектам ні пакланення, ні шанавання, робіць гэтую тэорыю нежыццяздольнай. У іншым месцы чытач даведваецца, што ад Вялеса паходзяць не толькі чэрці, але і Сцяпан і, адпаведна, камяні, названыя яго імем: „Пасля распаўсюджвання на нашых землях хрысціянства персанаж беларускага фальклору Сцяпан пераняў імя святога Стафана, але захаваў рысы паганскага бога Вялеса” (59–60).

Акрамя такіх спрэчных месцаў, сустракаюцца і проста памылковыя. Прывядзем толькі некаторыя з іх. Так, мы даведваемся, што ў XVI–XVIII ст. адбывалася аднаўленне язычніцкіх культаў (114); што „нага, а тым больш ступня, лічыліся самымі міфалагізаванымі часткамі цела”, а „старажытныя людзі лічылі ступню часткай цела, праз

якую душа сыходзіць на той свет” (32); што „ў часы Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай <...> Святы Марцін быў тады на Беларусі адным з самых улюбёных святых. Яму было прысвечана больш за 200 храмаў” (125); што на яўрэйскіх надмагіллях „яшчэ на пачатку XX ст. імя нябожчыка, яго заслугі перад Богам і людзьмі пісалі на іўрыце. Цяпер сустракаюцца помнікі толькі на рускай мове або на ідышы” (150).

Разам з тым у кнігі дастаткова і моцных бакоў. У першую чаргу да іх адносіцца сам сабраны матэрыял апісання культавых і гістарычных валуноў і яго сістэматызацыя. Разам апісана больш за 360 валуноў, прыведзены іх назвы, лакалізацыя; для некаторых тыпаў, такіх, як камяні-краўцы, камяні-шаўцы, валуны са штучнымі паглыбленнямі, складзены параўнальныя табліцы, якія ўключаюць інфармацыю пра памеры, пароду, для першых двух з названых тыпаў — прычыны акамянення (паводле падання), крыніцы вывучэння. Такім чынам, сабраная і сістэматызаваная інфармацыя дае добрую глебу для далейшых даследаванняў у гэтай галіне. Заўважым, напрыклад, што цікава было б параўнаць распаўсюджанне заходняй / усходняй традыцыі іменавання Маці Божай / Багародзіцы ў дачыненні да камянёў з яе слядамі ў залежнасці ад іх лакалізацыі. Выдатны матэрыял для гэтага можна знайсці ў другім раздзеле.

Другі важны момант — змешчаныя ў кнізе карты і ілюстрацыі. Карты адлюстроўваюць пашырэнне тых ці іншых тыпаў камянёў на тэрыторыі Беларусі і з’яўляюцца цікавым дадаткам для даследавання праблемы лакалізацыі гісторыка-культурных рэгіёнаў. Прыведзена больш за сто чорна-белых ілюстрацый, пераважна гэта фотаздымкі з аўтарскіх экспедыцый; акрамя таго, ёсць восем старонак каляровай укладкі.

Разгледжаная намі кніга, нягледзячы на некаторыя названыя хібы, будзе каштоўнай для спецыялістаў у галіне лакальнай гісторыі, фалькларыстыкі, археалогіі. Факталагічны матэрыял у ёй зручна сістэматызаваны і суправаджаецца геаграфічным паказальнікам. На жаль,

яна выйшла малым накладам (200 асобнікаў), а гэтага яўна недастаткова, улічваючы навукова-папулярны характар тэксту і кола патэнцыйных чытачоў.

Мінск *Сяргей Грунтоў*

## BOJKO, KRZYSZTOF. Stosunki dyplomatyczne Moskwy z Europą Zachodnią w czasach Iwana III. Kraków, 2010. 222 S.

У еўрапейскай гісторыі XVI стагоддзе займае асаблівае месца як час „вялікага пералому”. Такім яно было і для Расіі. Скончыўся працэс аб’яднання ўдзелаў. Вялікае Княства Маскоўскае стала адзіным арганізмам. Дзяржаўны пачатак паступова стаў выцясняць вотчынны. Узрос аўтарытэт маладой усходнееўрапейскай дзяржавы на міжнароднай арэне. Постаць Івана III як вялікага князя маскоўскага няўмольна набывала царскую веліч. Менавіта час панавання Івана III стаў пераломным момантам у гісторыі Расіі. І шмат у чым гэта было звязана са знешняй палітыкай дзяржавы.

Тым не менш, нават у сучасных школьных падручніках „узвышэнне Масквы” падаецца для вучняў у сувязі з кіраваннем Івана IV. Між іншым, яшчэ ў канцы XIX ст. расійскі гісторык М. Дзьяканаў адзначыў, што ўяўленні Івана IV аб царскай годнасці, аб правах і абавязках цара складаліся ўжо па падрыхтаваных узорах і яму не давялося дадаваць нічога новага да ўжо наяўных тэорый[1].

Галоўная мэта новага даследавання сучаснага польскага гісторыка Кшыштафа Бойкі — паказаць значэнне захадаў, якія рабіў Іван III, каб павялічыць ролю Маскоўскага княства на еўрапейскай арэне. На праця-

[1] Дьяконов М. Власть московских государей. Очерки из истории политических идей Древней Руси до конца XV в. С.-Петербург, 1894. С. 138.

гу пяці раздзелаў аўтар імкнецца адлюстраваць стан маскоўскай дзяржавы напярэдадні панавання Івана III, кантакты з краінамі Апенінскага паўвострава, актывізацыю палітыкі ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе, наступленне Масквы ў Прыбалтыйскім рэгіёне, наогул змены ў Вялікім Княстве Маскоўскім у часы Івана III.

Даследчык у першую чаргу абапіраецца на ўжо вядомыя надрукаваныя гістарычныя крыніцы, на здабыткі расійскай і польскай гістарыяграфіі, прыцягвае даследаванні італьянскіх, нямецкіх, англійскіх гісторыкаў. Адсутнасць спасылак на новыя архіўныя матэрыялы не стала перашкодай для глыбокага гістарычнага аналізу азначанай тэмы. Выклікае павагу той факт, што аўтар не імкнецца заявіць пра сваю манаграфію як пра, так скажам, выбух у галіне гістарычнай навукі і апошнюю кропку на ніве даследаванняў перыяду Івана III. Але пры гэтым ён выкладае новыя гіпотэзы і абгрунтоўвае цікавыя высновы.

Іван III меў больш спрыяльную палітычную сітуацыю для пабудовы моцнай дзяржавы ў параўнанні з папярэднікамі. Адным з галоўных фактараў, які дапамог, як лічыць К. Бойка, рэалізаваць яго амбіцыйныя планы, стала падпісанне ў 1449 г. мірнай дамовы з Казімірам Ягелончыкам. Аўтар падтрымлівае канцэпцыю Я. Натансан-Лескага і згаджаецца, што з гэтага часу Масква атрымала магчымасць займацца ўнутранымі справамі (33).

Іван III валодаў асаблівымі дыпламатычнымі здольнасцямі, пра што сведчыць і ўмелая палітыка ў адносінах з Крымскім ханствам. Падзеі 1480 г. на р. Угра, смерць хана Ахмата ў 1481 г., поўнае знішчэнне сталіцы Вялікай Арды — Сарая — у 1502 г. дапамаглі змяніць у хуткім часе расклад палітычных сіл ва Усходняй Еўропе і сведчылі пра незвычайную паспяховасць маскоўскага князя. „Дзякуючы палітыцы Івана III Маскоўскае княства атрымала досвед, які дапамагаў у дыпламатычнай дзейнасці. Гэты факт, а таксама канфлікты, у якія былі ўцягнуты суседнія краіны, дазволілі пабудаваць моцную дзяржаву і дамінаваць ва Усходняй Еўропе” (36).

Пры апісанні заходняга напрамку знешняй палітыкі Івана III К. Бойка на першае смела месца выносіць кантакты з дзяржавамі Апенінскага паўвострава. Аргументуецца гэта тым, што менавіта дзякуючы ім у XVI стагоддзе Масква ўвайшла як краіна, з якой лічыліся на міжнароднай арэне. Дыпламатычныя адносіны з гэтым рэгіёнам аўтар не абмяжоўвае толькі эканамічнымі, гандлёвымі, культурнымі інтарэсамі, што было даволі характэрнай рысай савецкай гістарыяграфіі. Менавіта зносіны з гэтымі дзяржавамі распачалі, на думку даследчыка, адкрыццё Масквы на Захадзе. Мостам на шляху да Міжземнамор'я сталі чарнаморскія калоніі Венецыі і Генуі — Тана, Керч, Кафа, Судак (39). Менавіта іх жыхары, якія са старонак летапісаў сталі вядомыя як „фрязіны", былі крыніцай найдакладнейшай інфармацыі пра Маскоўскую дзяржаву на Захадзе. Аўтар фактычна адмаўляецца ад даволі папулярнай у гістарыяграфіі тэзы, што веды пра Вялікае Княства Маскоўскае ішлі з Вялікага Княства Літоўскага (ВКЛ) і Кароны Польскай. Цікава, што на працягу ўсёй кнігі К. Бойка ніводнага разу не выкарыстоўвае даволі звыклага для польскіх гісторыкаў слова „Масковія". Наогул вялікая заслуга даследчыка — вельмі карэктны падыход да гістарычных тэрмінаў.

Пішучы пра тое, што дзяржава Казіміра Ягелончыка была не ў стане выконваць ролю пасрэдніка ў адносінах Масквы і Заходняй Еўропы, аўтар, на наш погляд, крыху перабольшвае. Бо як тады паставіцца да таго факта, што ў 1470 г. папа рымскі дараваў прывілей свабоднага, без перашкод, праезду маскоўскіх паслоў у Рым, у тым ліку і праз землі ВКЛ і Кароны Польскай?

Палітычны характар кантактаў паміж Масквой і італьянскімі краінамі праявіўся ў XV ст. Першай Маскоўскім княствам зацікавілася Апостальская Сталіца. На гэта паўплывалі такія фактары, як пагроза з боку Асманскай імперыі, а таксама спроба рэлігійнай уніі. Пунктам адліку сталых адносінаў называюцца 30-я г. XV ст., а дакладней, падзеі, звязаныя з Ферара-Фларэнцыйскім Саборам. Аўтар лічыць, што падарожныя

нататкі маскоўскага пасольства натхнілі Івана III на супрацоўніцтва з Захадам (41–42). Падзеі 1453 г. сталі наступнай прычынай для зацікаўленасці рымскіх папаў Маскоўскім княствам.

Апісваючы, як развіваліся ўзаемаадносіны Масквы з краінамі Апенінскага паўвострава, даследчык падрабязна распавядае пра ўсе пасольствы, іх мэты, асаблівасці і вынікі. Пры гэтым адзначаюцца і самыя значныя, якія адыгралі, на думку аўтара, найбольшую ролю.

З 1462 г. Масква адыходзіць ад традыцыйнай палітыкі засцярогі ў адносінах да Заходняй Еўропы. На шлях да зменаў прывялі і падзеі, звязаныя са шлюбам Івана III і Соф'і Палеалог. Аўтар, як і яго многія папярэднікі, выказвае свой пункт гледжання на ініцыятараў гэтага саюзу. Выказваецца думка, што планы шлюбу маглі ўзнікнуць адначасова і ў Рыме, і ў Венецыі, і ў Маскве. Аўтар вельмі трапна заўважае ролю кардынала Весарыёна як галоўнага ініцыятара палітыкі збліжэння з Масквой (45)[2].

Даследчык вылучае ўнутраныя і знешнепалітычныя матывы шлюбу Івана III і Соф'і Палеалог. Пры гэтым падкрэсліваецца, што дзеянні маскоўскага князя — гэта спланаваная палітычная гульня, скіраваная на атрыманне дывідэндаў ад зносінаў з Заходняй Еўропай.

Аўтар не ставіць перад сабой мэту паказаць ролю ВКЛ і Кароны Польскай у стасунках Масквы і Заходняй Еўропы. А гэта, на наш погляд, варта было б зрабіць, асабліва ў фокусе адносінаў Вялікага Княства Маскоўскага і Рымскай курыі.

Значная ўвага ў сувязі з развіццём кантактаў Вялікага Княства Маскоўскага і краін Цэнтральнай і Усходняй Еўропы надаецца перамовам Івана III і Мацея Корвіна. Між іншым, у згаданым кантэксце варта было б адзначыць і дэталізаваць характар узаемаадносінаў Мацея Корвіна і Апостальскай Сталіцы. Бо яны, у сваю чаргу,

[2] Шимак Е. К. Политическая игра в ходе заключения брака Ивана III и Софьи Палеолог // Гуманітарна-эканамічны веснік. 2007. № 3 (39). С. 107–114.

уплывалі на пазіцыю і Кароны Польскай, якая рабілася перашкодай для маскоўскіх пасольстваў, накіраваных да Рымскай курыі.

Тэза, якая праходзіць праз усю кнігу К. Бойкі, — Іван III імкнуўся ў адносінах з заходнімі дзяржавамі не да падпісання экзатычных трактатаў, а да атрымання магчымасці карыстацца найноўшымі цывілізацыйнымі дасягненнямі Захаду. Важная рыса дадзенай манаграфіі — імкненне паказаць актыўнасць, дасведчанасць у міжнародных адносінах, сканцэнтраванасць, прадуманасць і паспяховасць знешняй палітыкі Івана III.

Што датычыцца маскоўска-габсбургскіх кантактаў, аўтар падкрэслівае, што найважнейшым вынікам падзей было ўключэнне княства ў глыб еўрапейскай дыпламатыі (96).

Далучэнне Ноўгарада паставіла Маскоўскае княства перад фактам неабходнасці правядзення актыўнай знешняй палітыкі ў балтыйскім рэгіёне і адкрыла новы аспект ва ўзаемаадносінах з ВКЛ, Швецыяй, Лівонскім ордэнам. Данія засталася адзінай з балтыйскіх краін, з якой Масква не мела палітычных і гандлёвых супярэчнасцяў. Аўтар згаджаецца з Г. Лаўмяньскім, які называе Івана III распачынальнікам палітыкі, скіраванай да трывалага авалодання Вялікім Княствам Маскоўскім Балтыйскім узбярэжжам (110). К. Бойка падкрэслівае, што менавіта агрэсіўная палітыка гэтага вялікага князя і надалей стала характарызаваць дзеянні Маскоўскай дзяржавы ў дадзеным рэгіёне.

Выклікае цікавасць той факт, што шлюб Алены Іванаўны падаецца аўтарам як пункт раздзела, прысвечанага знешняй палітыцы ў Прыбалтыцы (110–123). Абгрунтаванне гэткага падыходу можна знайсці на с. 121, дзе даследчык асэнсоўвае згаданыя падзеі ў сувязі з падрыхтоўкай Масквы да вайны са Швецыяй і неабходнасцю ўсталяваць спакой на межах з ВКЛ. Аўтар адзначае непахісную пазіцыю Рымскай курыі (папы Аляксандра VI) у адносінах да праваслаўнага веравызнання Алены. Але варта было б адзначыць, што стаўленне

Апостальскай Сталіцы змянілася ў час пантыфікату Юлія II[3].

Увогуле, К. Бойка ў манаграфіі адыходзіць ад традыцыі разглядаць заходні вектар знешняй палітыкі Маскоўскай дзяржавы толькі праз прызму ўзаемаадносінаў з ВКЛ і ад паглыбленай засяроджанасці на ваенных канфліктах за т. зв. „землі Русі”.

Такім чынам, можна канстатаваць, што манаграфія К. Бойкі, прысвечаная дыпламатычным адносінам Масквы і Заходняй Еўропы ў часы панавання Івана III, з'яўляецца глыбокім, абгрунтаваным і сучасным навуковым даследаваннем, якое дае магчымасць на падставе на першы погляд ужо вядомых фактаў паставіць новыя пытанні.

Мінск *Алена Шымак*

## Praktyka życia publicznego w Rzeczypospolitej Obojga Narodów w XVI–XVIII wieku. Materiały XVIII konferencji Komisji Lituanistycznej przy Komitecie Nauk Historycznych PAN w dniach 22–23 września 2009 roku / Pod red. URSZULI AUGUSTYNIAK i ANDRZEJA ZAKRZEWSKIEGO. Warszawa: Wydawnictwo Neriton, 2010. 197 s.

Рэцэнзаванае выданне з'яўляецца зборнікам рэфератаў, агучаных на міжнароднай навуковай канферэнцыі, арганізаванай Інстытутам гісторыі права Варшаўскага ўніверсітэта, Гістарычным інстытутам Варшаўскага ўніверсітэта і Інстытутам гісторыі Польскай акадэміі

[3] Шымак А. К. Усходняя Еўропа і дыпламатыя Рымскай курыі (канец XV — пачатак XVI ст.) // Весці Беларус. дзярж. пед. ун-та. Серыя 2, Гісторыя. Паліталогія. Сацыялогія. Эканоміка. 2008. № 2. С. 30–34.

навук. Удзельнікі канферэнцыі з Польшчы, Літвы, Беларусі і Украіны сканцэнтравалі ўвагу перадусім на аналізе дзейнасці найважнейшых сфераў шляхецкага самакіравання ў Рэчы Паспалітай — павятовых соймікаў і судаводстве. Разгледжаны і шляхецкія канфедэрацыі на землях Вялікага Княства Літоўскага.

Першая частка зборніка (4 тэксты) прысвечана парламенцкай практыцы ў Кароне Польскай і Вялікім Княстве. І. Хаіньска-Міка (Варшава) акрэслівае найважнейшыя даследчыя праблемы ў вывучэнні павятовых соймікаў Кароны ў XVI–XVII ст. (13–23). Разгледжаны не толькі праблемы, што ўжо закраналіся ў гістарыяграфіі, але і вызначаны новыя патэнцыйныя накірункі даследавання. На думку аўтара, гэта выданне крыніц (у т. л. і ў электронным выглядзе ў сеціве), вывучэнне сойміка і як грамадскага інстытута, і як месца прэзентацыі сацыяльна-палітычных поглядаў шляхты, аналіз працэдуры працы (напр., спосаб абрання паслоў, дэбаты, прыняцце ўхвалаў), адлюстраванне кантактаў соймікаў з мяшчанствам і паміж самімі соймікамі ў розных рэгіёнах краіны. Актуальнай застаецца праблематыка, звязаная непасрэдна са шляхтай, якая ўдзельнічала ў сойміках: даследаванне палітычных, суседска-сваяцкіх, кліентальных сувязяў лакальных парламентарыяў, вызначэнне шляхецкіх лідараў і груп уплыву, іх актыўнасці і ступені самастойнасці. Для лепшага разумення сацыяльна-палітычных працэсаў у Рэчы Паспалітай прапануецца звярнуцца да вывучэння стасункаў на ўзроўнях „пасол — выбарцы" і „соймік — сойм". Заклікае аўтар і вярнуцца да планаў падрыхтоўкі слоўніка парламентарыяў Рэчы Паспалітай (20). Асабліва хацелася б адзначыць ідэю наконт аналізу месца сойміка ў сістэме сацыяльнай камунікацыі між лакальнымі супольнасцямі і цэнтральнай уладай (*points of contact*, 23). І хоць І. Хаіньска-Міка падкрэслівае, што яе рэфлексіі датычаць толькі каронных соймікаў (13), але, на нашу думку, фактычна ўсе з прапанаваных даследчых накірункаў надзвычай актуальныя і для вывучэння павятовых соймікаў Вялікага Княства Літоўскага. Павятовым соймікам, як арганізацыйнай форме

грамадскага (публічнага) жыцця Вялікага Княства ў часы панавання першых Вазаў, прысвечаны артыкул выбітнага польскага гісторыка Г. Віснэра (25–33). Разглядающца пытанні іерархіі соймікаў, працэдуры іх склікання і працы, месца правядзення паседжанняў, складу і колькасці ўдзельнікаў. Не застаецца па-за ўвагай даследчыка спосаб прыняцця соймікавых ухвалаў і шляхі іх рэалізацыі непасрэдна на сойме. На заканчэнне коратка ахарактарызаваны такі палітычны інстытут, як Галоўны соймік Вялікага Княства Літоўскага (32).

У артыкуле Робертаса Юргайціса (Вільня) робіцца спроба праз характарыстыку дзейнасці сойміка Віленскага павета ў 1717–1795 г. паказаць карэляцыю шляхецкага парламентарызму і самакіравання (35–53). Аўтар не звязвае інстытут павятовых соймікаў выключна з дзейнасцю сойма Рэчы Паспалітай, а паказвае, што паступова крышталізаваліся новыя функцыі соймікаў, якія на лакальным узроўні канцэнтравалі найважнейшыя паўнамоцтвы шляхецкага самакіравання. Пры гэтым розныя віды соймікаў падзяляюцца на два тыпы: звязаныя з парламентарызмам (перадсоймавыя, перадканвакацыйныя, перадэлекцыйныя, рэляцыйныя) і з самакіраваннем (элекцыйныя, гаспадарчыя і трыбунальскія). На аснове статыстычных метадаў даследавання Р. Юргайціс аналізуе інтэнсіўнасць дзейнасці віленскага сойміка (працягласць соймікавых сесій, перыядычнасць і час іх правядзення), на якую непасрэдна ўплывала функцыянаванне такіх інстытутаў, як сойм і Галоўны Трыбунал. У выніку робіцца даволі важная выснова, што ў дзейнасці сойміка Віленскага павета значна пераважалі функцыі шляхецкага самакіравання, а ўзмацненне тэндэнцый самакіравання ў дзейнасці соймікаў было звязана з больш інтэнсіўнай дзейнасцю сойма і якасным скачком у развіцці парламентарызму Рэчы Паспалітай у другой палове XVIII ст. (52). Безумоўна, цікава было б праверыць падобныя высновы на матэрыяле соймікаў з іншых рэгіёнаў Вялікага Княства. Заўважым, што асобная ўвага аддадзена месцу віленскага сойміка ў іерархіі павятовых соймікаў Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы

Паспалітай (38–42). Самы аб’ёмны матэрыял зборніка належыць беларускаму даследчыку Андрэю Радаману (Мінск) і прысвечаны шляхецкаму самакіраванню ў Навагародскім ваяводстве ў 1565–1632 г. (55–103). Пасля кароткага агляду пытанняў, звязаных з месцам правядзення соймікаў Навагародскага, Слонімскага і Ваўкавыскага паветаў, колькасцю іх удзельнікаў і кіраўнікамі паседжанняў, аўтар пераходзіць непасрэдна да вывучэння сфераў шляхецкага самакіравання. Перадусім на аснове шырокай базы крыніц аналізуюцца ваенныя, гаспадарчыя, судовыя і адміністрацыйныя функцыі мясцовых соймікаў. Падрабязна разглядаецца дзейнасць элекцыйных і дэпутацкіх соймікаў. Важна, што атрыманыя звесткі дазволілі А. Радаману збольшага адлюстраваць асабісты склад лакальнай палітычнай эліты, яе палітычную і прававую культуру, шляхі кар’ернага росту. На думку аўтара, характэрнымі рысамі палітыка-прававой культуры мясцовай шляхты (прынамсі, яе палітычна актыўнай часткі) былі павага да права і даволі высокія патрабаванні да маральных якасцяў і ўзроўню адукацыі лідараў рэгіянальных шляхецкіх эліт (97). Вельмі важнай падаецца і выснова пра тое, што частка сярэдняй шляхты Навагародскага павета не хацела быць проста кліентэлай магнатаў, а прэтэндавала на самастойную ролю ў палітычным жыцці (101). Сапраўды, ужо наспела неабходнасць на сучасным узроўні даследаваць пытанне аб існаванні самастойнага шляхецкага руху ў Вялікім Княстве Літоўскім у другой палове XVI — пачатку XVII ст. і паставіць пад сумнеў тэзу аб выключна пасіўнай ролі сярэдняга і дробнага шляхецтва Вялікага Княства ў тагачасных грамадска-палітычных працэсах.

Наступны блок даследаванняў (таксама 4 тэксты) закранае практыку судаводства ў Рэчы Паспалітай. Эва Дубас-Урвановіч (Беласток) разглядае кароннае судаводства ў час першых двух бескаралеўяў у Рэчы Паспалітай (107–117). На яе думку, у часы першага бескаралеўя (1572–1574) узніклыя канфедэрацыі і каптуровыя суды былі найперш выражэннем клопату шляхты

аб унутранай бяспецы і сведчаннем яе здольнасці да самаарганізацыі ў крызісны момант (110, 112). А ўжо на каранацыйным сойме Генрыха Валуа ў 1574 г. быў прапанаваны праект рэформы судовай сістэмы ў Кароне Польскай. Прычым аўтар падкрэслівае генетычную сувязь дадзенага праекта з ідэямі экзекуцыйнага руху, асабліва ардынацыі 1563 г., аснову якіх складала імкненне стварыць вышэйшую судовую інстанцыю, незалежную ад караля. Для другога бескаралеўя (1574–1576) ужо было характэрна распаўсюджанне сярод шляхты планаў грунтоўнай судовай рэформы (114). Згодна з Э. Дубас-Урвановіч, першыя бескаралеўі мелі надзвычайнае значэнне для паглыблення дыскусіі пра стан правасуддзя ў краіне. Матэрыялы, сабраныя ў артыкуле, датычаць выключна каронных земляў. Аднак хочацца спадзявацца, што і ў беларускай гістарыяграфіі актывізуюцца даследаванні, прысвечаныя ідэям ды праектам рэформы судаводства Вялікага Княства Літоўскага ў другой палове XVI ст. Крыху іншы погляд на ідэі рэфармавання судовай сістэмы ў Рэчы Паспалітай прапануе Наталля Старчанка (Кіеў) (119–132). Украінская даследчыца ставіць даволі правакацыйнае пытанне: а ці сапраўды валынская шляхта ў канцы XVI ст. патрабавала выпраўлення судаводства? На падставе аналізу дзейнасці судоў Валынскага ваяводства ў часы першых трох бескаралеўяў аўтар спрабуе вызначыць асаблівасці развіцця канфліктаў у мясцовым шляхецкім грамадстве і месца судовых ды пазасудовых механізмаў у іх улагоджанні. Н. Старчанка выступае з гіпотэзай, што грунтоўная рэформа судовай сістэмы была ідэалістычным праектам, які нават у выпадку рэалізацыі неабавязкова мусіў змяніць сітуацыю у судаводстве (123). Справа ў тым, што, на думку даследчыцы, афіцыйныя суды выконвалі функцыю свайго роду „тэатра” (*proscenium*) для прававога прызнання пазіцыі кожнага з бакоў канфлікту, бо на самай справе спрэчкі паміж шляхтай вырашаліся праз палюбоўныя суды (123, 131). Важнай падаецца і прапанова наконт неабходнасці пераацэнкі погляду пра неправавы характар шляхецкага грамадства ранняга

Новага часу (131). Рэферат Віялеты Зялецкай (Торунь) прысвечаны разгляду судовых спраў аб спадчыне паміж блізкімі сваякамі ў Вялікім Княстве Літоўскім у XVI–XVIII ст. (133–142). Адна з пастаўленых задач — далейшае падрабязнае даследаванне праблемы ўдзелу жанчын у наследаванні па бацьку і іх рэальны ўдзел у распараджэнні нерухомай маёмасцю (142). Мэтай артыкула Томаша Цясельскага (Аполе) стаў падрабязны паказ механізмаў выкарыстання Вялікіх (Галоўных) і Скарбовых Трыбуналаў Кароны Польскай і Вялікага Княства ў палітычнай барацьбе ў 1740-я г. (143–172). Асаблівая ўвага аддадзена падзеям 1749 г., калі ўпершыню ў Рэчы Паспалітай дайшло да зрыву новага Вялікага Трыбуналу ў Кароне.

Нарэшце, у асобную частку зборніка вылучаны артыкул літоўскай даследчыцы Р. Шмігельскітэ-Стукене (Вільня), прысвечаны складу і сферы дзейнасці лакальных органаў канфедэрацыі Вялікага Княства Літоўскага ў 1792–1793 г. (175–189). У выніку аналізу персанальнага складу лакальных канфедэрацый Вялікага Княства робіцца выснова, што большасць іх кіраўніцтва належала да павятовай палітычнай эліты і быў распаўсюджаны прынцып выбарнасці ўраднікаў. Праўда, фактычна не разгледжана, наколькі свабоднымі ад знешняга (расійскага) уплыву былі гэтыя выбары. Што датычыць паўнамоцтваў мясцовых канфедэрацый, то, як добра паказала Р. Шмігельскітэ-Стукене, яны выконвалі судовыя, фіскальныя і адміністрацыйна-паліцэйскія функцыі.

Вызначаны аб'ём дадзенай рэцэнзіі абумовіў яе даволі аглядны характар. Разам з тым спадзяемся, што мы падштурхнулі спецыялістаў, студэнтаў і ўсіх, хто цікавіцца гісторыяй, бліжэй пазнаёміцца са зместам рэцэнзаванага выдання. Высокі навуковы ўзровень усіх матэрыялаў, змешчаных у зборніку, адназначна дазваляе назваць яго важкім унёскам у вывучэнне сацыяльна-палітычнай гісторыі Рэчы Паспалітай XVI–XVIII ст.

Мінск *Уладзімір Падалінскі*

## Urzędnicy Wielkiego Księstwa Litewskiego. Spisy. Red. ANDRZEJ RACHUBA.*

Серыя „Ураднікі Вялікага Княства Літоўскага. Спісы” — гэта працяг шматгадовай серыі Бібліятэкі Курніцкай „Ураднікі даўняй Рэчы Паспалітай XII–XVIII ст. Спісы”[1]. Дадатак да серыі пра літоўскіхураднікаў — два тамы выдання „Дэпутаты Галоўнага трыбунала Вялікага Княства Літоўскага”. Гэта першы навуковы пералік дэпутатаў Галоўнага трыбунала ВКЛ.

Тамы з серый „Літоўскія ўраднікі” і „Дэпутаты” былі выдадзены аднымі аўтарамі, маюць падобнае графічнае афармленне, падрыхтаваны ў блізкіх даследчых варштатах. Аўтараў даследаванняў яднае Інстытут гісторыі

* Серыя: Urzędnicy Wielkiego Księstwa Litewskiego. Spisy: t. 1: Województwo wileńskie XIV–XVIII wiek / red. A. Rachuba, oprac. H. Lulewicz, A. Rachuba, P. P. Romaniuk, przy współpracy U. Jamiljanczyka i A. Macuka, Warszawa: Wydawnictwo DiG, 2004, s. 764; t. 2: Województwo trockie XIV–XVIII wiek / red. A. Rachuba, oprac. H. Lulewicz, A. Rachuba, P. P. Romaniuk, A. Haratym, przy współpracy A. Macuka i J. Aniszczanki, Warszawa: Wydawnictwo DiG, 2009, s. 688; t. 4: Ziemia smoleńska i województwo smoleńskie XIV–XVIII wiek / red. A. Rachuba, oprac. H. Lulewicz, A. Rachuba, P. P. Romniuk, Warszawa, Wydawnictwo DiG, 2003. s. 412; Deputaci Trybunału Głównego Wielkiego Księstwa Litewskiego (1582–1696). Spis / red. A. Rachuba, oprac. H. Lulewicz i A. Rachuba, Warszawa: Wydawnictwo DiG, 2007, s. 469; Deputaci Trybunału Głównego Wielkiego Księstwa Litewskiego (1697–1794). Spisy / red. A. Lulewicz, oprac. A. Rachuba i P. P. Romaniuk, przy współpracy A. Macuka i J. Aniszczenki, Warszawa, Wydawnictwo DiG, 2004, s. 448.

1 Для беларускага чытача найбольш цікавым будуць выдадзеныя ў гэтай серыі тамы: t. 3/1: Urzędnicy województwa ruskiego XIV–XVIII w. Wrocław, 1987; t. 3/2: Urzędnicy województwa bełskiego i ziemi chełmskiej XIV–XVIII w. Kórnika, 1992; t. 3/3: Urzędnicy podolscy XIV–XVIII w. Kórnik, 1998; t. 3/4: Urzędnicy województwa kijowskiego i czernihowskiego XV–XVIII w. Kórnik, 2002; t. 3/5: Urzędnicy wołyńscy XIV–XVIII w. Kórnik, 2007; t. 9: Urzędnicy inflanccy XVI–XVIII w. Kórnik, 1994; t. 11: Urzędnicy centralni i dostojnicy Wielkiego Księstwa Litewskiego XIV–XVIII wieku. Kórnik, 1994.

Польскай Акадэміі навук у Варшаве. Таксама ў працы ўдзельнічалі названыя ў кожным томе даследчыкі з Беларусі, Літвы і Расіі.

Кожны з тамоў серыі мае чатыры абавязковыя элементы: уступ, спіс скарачэнняў, спіс ураднікаў, асабовы індэкс. Ва ўступе аўтары тлумачаць гістарычны фон публікаваных спісаў, гісторыю паўстання пэўных ваяводстваў, іх тэрытарыяльныя змены, эвалюцыю адміністрацыйнай структуры і самой іерархіі ўраднікаў. У „Дэпутатах" абмяркоўваецца паходжанне Трыбунала Вялікага Княства Літоўскага, агульныя прынцыпы яго арганізацыі, абсяг кампетэнцыі ды змены ў функцыянаванні на працягу гісторыі.

Потым разглядаецца крыніцавая база спісаў. Ва „Ураднікаx" падставай для выдання кожнага з тамоў была Метрыка ВКЛ — як выдадзеная версія, так і рукапісная, якая захоўваецца ў РГАДА (*Российский государственный архив древних актов*) у Маскве і ёсць у выглядзе транскрыпцыі ў польскіх архівах — у AGAD (*Archiwum Główny Akt Dawnych*) у Варшаве і ў адзінкавых экзэмплярах у іншых архівах ды бібліятэках. Інфармацыя з гэтых крыніц была дапоўнена звесткамі пераважна з гродскіх кніг, менш — з земскіх, а таксама, у пэўнай ступені, з карэспандэнцыі, тэстаментаў, маёмасных актаў з польскіх, літоўскіх, беларускіх, украінскіх і расійскіх збораў. Для другой паловы XVIII ст. выкарыстоўваліся і друкаваныя матэрыялы перыяду — прэса і календары. Два тамы „Дэпутатаў", у сваю чаргу, грунтуюцца пераважна на актах, звязаных з дзейнасцю Галоўнага Трыбунала (трыбунальныя кнігі і дэкрэты, тагачасныя спісы дэпутатаў, соймікавыя акты ды інш.).

Аўтары спісаў не хаваюць, што не здолелі разгледзець усе даступныя архіваліі. Гэта запатрабавала б значна большых людскіх і фінансавых сродкаў, чым было пры рэалізацыі праекта. Аўтары, аднак, спадзяюцца, што ў будучыні ўдасца кампенсаваць магчымыя недахопы. Дакладную інфармацыю аб скарыстаных матэрыялах даюць спісы ўжытых у тэксце скарачэнняў літаратуры, крыніц і ілюстрацый. Гэта таксама і вельмі

дэталёвая бібліяграфія апрацаваных крыніцавых матэрыялаў.

Уласна спісы ўраднікаў выкладзены ў тапаграфічна-храналагічным парадку. Інфармацыя пра ўраднікаў змяшчае: імя; прозвішча (з варыянтамі напісання); прыдомак; даты нараджэння ці хросту; веравызнанне (толькі ў выпадку некаталікоў); герб; асноўную інфармацыю пра жонку (калі выяўлена, што яна карысталася тытулам мужа); даты, звязаныя з урадавай дзейнасцю: намінацыі, вылучэння (авансу), адстаўкі (рэзыгнацыі), перадачы правоў (цэсіі), смерці. Пры магчымасці да звестак дадаваліся даты абрання (элекцыі), прысягі, прыезду, рэальнага ўваходжання ў пасаду і пахавання. Працу са спісамі спрашчае алфавітны індэкс асобаў, які не толькі адсылае да пэўных пазіцый, але і падае асноўныя біяграфічныя звесткі: даты выканання ўрадаў і смерці.

У „Дэпутатах" скарыстаны храналагічна-тэрытарыяльны прынцып падачы матэрыялу. У межах асобных гадоў пададзены пэўныя дні: даты сойміка, што выбіраў дэпутатаў, рэасумпцыі і кадэнцыі. Поруч з імі даюцца звесткі пра вядомыя спісы дэпутатаў, якія сталі асновай для выдання, прозвішчы маршалка і віцэ-маршалкаў Трыбунала. Сам спіс дэпутатаў падзелены на асобныя ваяводствы і паветы паводле іх старшынства. Індэкс асобаў, у адрозненне ад галоўнай серыі „Ураднікі", змяшчае толькі прозвішчы і імёны асобаў, згаданых у тэксце (разам з адсылкамі да пэўных старонак).

Такім чынам, дадзеная серыя дэманструе новы падыход да тэмы, у параўнанні з тым, які прапанаваў беларускім чытачам Фёдар Чарняўскі ў кнізе „Ураднікі (пасады, тытулы) Менскага ваяводства XVI–XVIII ст." (Мінск, 2007). Серыя пад рэдакцыяй Анджэя Рахубы мае на мэце стварыць прыладу для хуткай ідэнтыфікацыі пэўных асобаў. Кніга Чарняўскага змяшчае збор больш ці менш разгорнутых біяграм пэўных ураднікаў. Адзін спосаб падачы матэрыялу не выключае другога. Хутчэй наадварот, абодва выдатна дапаўняюць адзін аднаго.

Значэнне спісаў ураднікаў і дэпутатаў для штодзённай працы даследчыка гісторыі Вялікага Княства Літоўскага

цяжка пераацаніць. Ім аддасць належнае кожны, хто мусіў ідэнтыфікаваць якую-небудзь постаць, маючы толькі дату падзеі і назву ўраду, у якім тая ўдзельнічала. Застаецца чакаць, што чарговыя падрыхтаваныя тамы з'явяцца адносна хутка[2].

Варшава *Рафал Дэгель*

## KONOPACKI, ARTUR. Życie religijne Tatarów na ziemiach Wielkiego Księstwa Litewskiego w XVI — XIX wieku. Warszawa: WUW, 2010. 253 s.

У Польшчы выйшла чарговая навуковая праца, прысвечаная гісторыі і культуры татараў Вялікага Княства Літоўскага. Калі параўнаць колькасць і якасць польскай і беларускай гістарыяграфіі гісторыі татараў ВКЛ, то, на жаль, яна будзе не на нашу карысць. І справа не столькі ў невялікай колькасці даследчыкаў гэтай праблемы, колькі ў распаўсюджаным стэрэатыпе, што ёю павінны займацца самі прадстаўнікі гэтых груп. Аднак абагульняльныя працы заўсёды маюць назву „гісторыя Беларусі", а не „гісторыя беларусаў". Этнічныя меншасці шмат прынеслі ў развіццё беларускай гісторыі і культуры, а таму ігнараванне гэтага — адзін з бар'ераў на шляху да яе разумення.

Манаграфія беластоцкага гісторыка Артура Канапацкага складаецца з уводзінаў, пяці раздзелаў, заканчэння, бібліяграфіі, спіса скарачэнняў, асабовага і геаграфічнага індэксаў, дадаткаў. У якасці аргументаў на карысць абранай тэмы аўтар называе спецыфічны ха-

[2] Анансаваныя чарговыя тамы серыі: t. 3: Księstwo Żmudzkie; t. 5: Ziemia połocka i województwo połockie, t. 6: Ziemia nowogródzka i województwo nowogródzkie, t. 7: Ziemia witebska i województwo witebskie, t. 8: Ziemia brzeska i województwo brzeskie, t. 9: Województwo mścisławskie, t. 10: Ziemia mińska i województwo mińskie.

рактар ісламу татараў ВКЛ, з аднаго боку, і пэўныя асіміляцыйныя працэсы культуры татараў — з другога (9).

Уводзіны традыцыйна прысвечаны кароткаму аналізу гістарыяграфіі і крыніц. У асноўным тэксце А. Канапацкі таксама неаднаразова звяртаецца да гэтага пытання. Напрыклад, пад час аналізу татарскага духавенства ў трэцім раздзеле аўтар ставіць пад сумнеў сапраўднасць ананімнага трактата пра татар ВКЛ 1558 г., адрасаванага султану Сулейману — „Рысале-і-Татары-і-Лех” (Справа пра польскіх татараў). У беларускай жа гістарыяграфіі гэтая крыніца лічыцца адной з асноўных. Беларуская даследчыца З. Канапацкая мярнуе, што „ён [трактат] застаецца адзінай крыніцай па гісторыі і культуры літоўскіх татараў таго часу”[1].

Першы раздел — „Татарскія салдаты-пасяленцы” — мае інфармацыйны характар і знаёміць са шляхамі і формамі засялення ВКЛ татарамі, сацыяльна-прававым статусам, асаблівасцямі становішча ў гарадах. Цікавым падаецца абагульняльны агляд вострай для польскай гістарыяграфіі праблемы вызначэння прававога статусу татараў (можна ўзгадаць знакамітую дыскусію паміж П. Бараўскім і Я. Собчакам, якая працягвалася больш за дзесяць гадоў[2]). У выніку гэтага абмену думкамі меркаванні польскіх даследчыкаў падзяліліся: у падтрымку тэзіса аб шляхецтве татар ВКЛ выступаюць П. Бараўскі і С. Думін (з імі пагаджаецца і А. Канапацкі), супрацьлеглы погляд прэзентуюць Я. Собчак, Г. Віснэр і А. Закшэўскі (56).

[1] Канапацкая З. „Risale-i-Tatar-i-Lech” як крыніца па гісторыі // Беларускі гістарычны часопіс. 2004. № 7. С. 39.

[2] Sobczak J. Czy tatarska ludność Litwy należała do stanu szlacheckiego? // Przegląd Historyczny. 1986. Z. 3. S. 467–480; ён жа. Z zagadnień spornych osadnictwa tatarskiego w Wielkim Księstwie Litewskim // Acta Baltico-Slavica. 1990. T. XIX. S. 341–360; Borawski P. Kilka uwag o książce Jacka Sobczaka pt. Położenie prawne ludności tatarskiej w Wielkim Księstwie Litewskim // Kwartalnik Historyczny. 1986. № 1. S. 149–164; ён жа. W odpowiedzi Jackowi Sobczakowi // Lituano-Slavica Poznaniensia. Studia Historica. 1990. T. IV. S. 211–221.

Другі раздзел — „Іслам — рэлігія татараў ВКЛ” — прысвечаны агульнай характарыстыцы ісламу і аналізу яго асаблівасцяў у татараў ВКЛ. Прычым з пяці параграфаў толькі ў апошнім („Іслам і татары ВКЛ”) аналізуецца рэлігійная традыцыя татараў княства. Часткова ў трэцім і чацвёртым параграфах (адпаведна „Рэлігійныя рытуалы” і „Мусульманскія святы — абрадавы год”) ёсць згадкі пра татараў на землях ВКЛ. На падставе адсутнасці крыніц аб рэлігійных святах аўтар вылучае „толькі два святы — Байрам і Курбан Байрам” (69). Аднак далей, на наш погляд, падаецца дастаткова спрэчнае меркаванне пра тое, што „іншыя святы таксама былі распаўсюджаны, нягледзячы на тое, што ў крыніцах не захаваліся ўспаміны пра іх” (69). На падставе факта існавання традыцыйных святаў татараў па сённяшні дзень аўтар дае апісанне асноўных гадавых святаў класічнага ісламу. Аднак вядома, што ў XIX ст. татары на землях, далучаных да Расійскай імперыі, былі падначалены Таўрычаскаму муфціяту, класічнай ісламскай установе рэлігійнага кіравання з рэзідэнцыяй у Крыме. Амаль за сто гадоў падначалення муфціяту татары, якія ніколі раней не мелі прафесійных святароў, маглі адрадзіць ці можа нават стварыць упершыню класічныя ісламскія рытуалы святкавання. Трэба таксама ўлічваць уплыў сучасных традыцыйных ісламскіх грамадстваў і дзяржаў. Напрыклад, пад час этнаграфічнай практыкі студэнтаў БДУ ў Міры Карэліцкага раёна аўтар гэтага тэксту размаўляў з мулой навагрудскай мячэці, які распавёў пра моцны трансфармацыйны ўплыў ісламскіх краін Блізкага Усходу на традыцыйныя рэлігійныя ўяўленні беларускіх татараў праз моладзь, якая праводзіла там летнія канікулы. Паказальны і той факт, што яго намеснік рыхтаваўся да гэтай пасады пры турэцкай амбасадзе, дзе, хутчэй за ўсё, знаёміўся не з бацькоўскімі традыцыямі веры. Улічваючы гэта, а таксама значнае павелічэнне колькасці татараў за кошт міграцый з Крыма ў XIX ст., можна казаць пра моцны ўплыў класічнага ісламу на рэгіянальныя традыцыі, якія развіваліся ізалявана на працягу каля

пяціста гадоў. Неабходна памятаць і тое, што першыя татарскія абшчыны з'явіліся ў ВКЛ літаральна праз некалькі дзесяцігоддзяў пасля прыняцця ханам Джанібекам ісламу, а таму яны не мелі дастаткова часу, каб успрыняць класічныя нормы гэтай рэлігіі.

Значную ўвагу А. Канапацкі аддае працэсу хрысціянізацыі татар ВКЛ. Аўтар аспрэчвае існуючую ў беларускай гістарыяграфіі думку аб неэфектыўнасці місіянерскай дзейнасці сярод татараў ВКЛ. У якасці аргументаў ён называе адлегласць татараў ВКЛ ад асноўных ісламскіх цэнтраў, страту ўласнай мовы і імкненне да шляхецкіх прывілеяў (76). Цікавы прыклад місіянерскай дзейнасці сярод татараў — знойдзены аўтарам у бібліятэцы Салтыкова-Шчадрына ў Санкт-Пецярбургу каталіцкі малітоўнік 1591 г. з паралельным перакладам па-арабску (73).

Адзін з найбольш цікавых раздзелаў — „Развіццё джаміятаў — мусульманскіх абшчын". Малараспрацаванаму аспекту гісторыі татараў ВКЛ у працы А. Канапацкага прысвечана значнае месца. На падставе вялікай колькасці крыніц аўтар разглядае агульныя пытанні джаміяту, асобна духавенства, вакуфаў, мячэцяў і іх фундатараў, могілкі.

Неабходна звярнуць увагу на два сцверджанні аўтара. Па-першае, гэта вызначэнне суфійскіх элементаў у рэлігійных традыцыях татараў ВКЛ. У гістарыяграфіі пытання замацавалася думка пра сунізм татараў, аднак А. Канапацкі сцвярджае наяўнасць суфізму на землях княства і прыводзіць прыклад кадзі з Даўбуцішак — Дэрвіша Чэлебі Хаджы Мурзіча. Даследчык лічыць, што Дэрвіш — не імя, а тытул прыналежнасці да суфійскага ордэна. Другім доказам наяўнасці суфізму ў ВКЛ ён лічыць культ святога Эўліі Контуся, магіла якога знаходзіцца ў Лоўчыцах пад Навагрудкам. Эўлія ў перакладзе з арабскага — святы, а менавіта суфіі ў ісламе з'яўляюцца адзіным напрамкам, які прызнае культ святых.

Па-другое, пераасэнсаванне аўтарам думкі пра тое, што на пабудову мячэці патрэбны дазвол караля ці біскупа. А. Канапацкі лічыць, што першая забарона на бу-

даўніцтва мячэцяў адбылася толькі ў 1668 г., а ў 1768 г. абмежаванні былі ўжо знятыя. Аўтар мяркуе, што татары маглі свабодна будаваць мячэці. Гэта была выключная сітуацыя для краіны, дзе паводле кананічнага каталіцкага права было забаронена будаваць касцёлы без дазволу. Падобныя абмежаванні датычыліся праваслаўных храмаў, пратэстанцкіх збораў і яўрэйскіх сінагог.

У параграфе, прысвечаным мячэцям, А. Канапацкі закрануў вельмі спецыфічную традыцыю татараў ВКЛ падзяляць мячэць на мужчынскую і жаночую паловы, часам нават з асобнымі ўваходамі. На яго думку, такі падзел стаў вынікам культурнай асіміляцыі пад уплывам каталіцызму (раней у касцёлах існаваў такі падзел) (102).

На пачатку трэцяга раздзела аўтар адзначае страту татарамі ВКЛ мовы і засваенне мясцовага касцюма. З другой часткай гэтага сцверджання цяжка пагадзіцца. Па-першае, доўгі час у ВКЛ у модзе панавалі ўсходнія (сармацкія) матывы, таму татары ў XVII–XVIII ст. выглядалі вельмі натуральна ў сваім адзенні. Па-другое, у гэты перыяд у судовых вопісах нанесенай шкоды па справах нападу на татараў сустракаюцца апісанні вопраткі, што дазваляе гаварыць пра ўсходнія рысы татарскага адзення. Па-трэцяе, у апісанні падарожжа па Беларусі П. Шпілеўскага сярэдзіны XIX ст. можна сустрэць згадку пра знешні выгляд клецкіх татараў: „…Мужчыны перанялі касцюм беларускіх мяшчан… Жанчыны захавалі ўласны нацыянальны строй…”[3].

У чацвёртым раздзеле — „Рукапісная літаратура мусульман на землях ВКЛ” — даецца аналіз асобных відаў рукапіснай літаратуры татараў — Карана, тэфсіра, кітабаў, хамаілаў, далавараў і інш. Адзін з самых цікавых аспектаў гэтага раздзела прысвечаны аналізу знахарскіх і варажбітных тэкстаў. Шкада, што аўтар, нягледзячы на добрае знаёмства з беларускай гістарыяграфіяй, не выкарыстаў артыкулы вядомага беларускага даследчы-

[3] Шпилевский П. М. Путешествие по Полесью и Белорусскому краю. Минск: Беларусь, 2004. С. 59.

ка М. Тарэлкі, хаця ў бібліяграфічным спісе манаграфіі аўтарэферат яго дысертацыі пазначаны[4].

Апошні, пяты, раздзел („Літоўска-польскія татары ў XIX ст.”) прысвечаны амаль не даследаванаму ў беларускай гістарыяграфіі перыяду. На падставе шырокага кола крыніц (пераважна з Нацыянальных гістарычных архіваў Гродна і Мінска) аўтар апісаў палітычны выбар татараў пасля падзелаў Рэчы Паспалітай, даў агульную характарыстыку іх жыцця ў Расійскай імперыі, асобна разгледзеў пытанне аб праве на будаўніцтва мячэцяў, паказаў працэс функцыянавання джаміяту ў татарскіх абшчынах Студзянкі і Вінкшнуп, вызначыў ролю мячэцяў у рэлігійным жыцці. На думку А. Канапацкага, у XIX ст., па-першае, значная колькасць татараў атрымала шляхецтва, што дапамагала зрабіць адміністрацыйную кар’еру; а па-другое, адбыліся сур’ёзныя перамены ў традыцыйнай сацыяльнай структуры татараў.

Відавочна, што манаграфія А. Канапацкага — добры ўнёсак у гістарычнае вывучэнне татараў ВКЛ. Яна ўводзіць у навуковы зварот значны пласт гістарычных крыніц. Кніга змяшчае шэраг ілюстрацый, карт, інфармацыйны дадатак.

Характарызуючы даследаванне А. Канапацкага, неабходна звярнуць увагу і на пэўныя хібы. Некаторыя раздзелы манаграфіі пабудаваны пераважна на аналізе гістарыяграфіі, з бібліяграфіі выпалі некаторыя абавязковыя працы — перш за ўсё беларускіх гісторыкаў. Напрыклад, няма згадак пра артыкулы і дысертацыю беларускай даследчыцы З. Канапацкай[5].

[4] Кожинова А. Восточнославянские диалектные черты в рукописи „Фал Соломона о двенадцати планетах” / А. Кожинова, М. Тарелко // Język i kultura na pograniczu polsko-ukraińsko-białoruskim. Lublin: Instytut Europy Środkowo-Wschodniej, 2001. S. 145–157; Kożinowa A. Realizacja funkcji magicznej w tekście jednego chamaiła / A. Kożinowa, M. Tarełko // Etnolingwistyka. 2001. № 13. S. 231–246.

[5] Канапацкая З. Татары в Беларуси и их культура (XIV–XVII века). Автореф. дисс. … канд. ист. наук. Минск, 2005.

Аўтара гэтых радкоў закранула і невялікая заўвага А. Канапацкага наконт назвы артыкула А. Грыцкевіча „Працэсы перасялення беларускіх татараў у гарады (XVI–XIX стст.)”. Польскі гісторык піша пра «цалкам незразумелае ў кантэксце XVI ст. паняцце „беларускія татары”» (48). Пэўнае здзіўленне выклікае такая заўвага з боку польскіх даследчыкаў, якія і сёння нярэдка акрэсліваюць беларускія землі паняццем „Польшча”. Калі глядзець на тэрміналогію з такога пункту гледжання, то ўзнікае пытанне аб карэктнасці выкарыстання А. Канапацкім у назве манаграфіі тэрміна „землі Вялікага Княства Літоўскага” ў дачыненні да XIX ст.

Тым не менш, манаграфія А. Канапацкага пакідае добрае ўражанне і, безумоўна, зацікавіць тых, хто разумее пад гісторыяй Беларусі штосьці большае за гісторыю беларусаў.

Мінск *Сцяпан Захаркевіч*

## BOREK, PIOTR. W służbie Klio. Studia o barokowych pisarzach „minorum gentium”. Collegium Columbinum, „Biblioteka Tradycji” nr CVI. Kraków, 2011. 334 s.

Аўтар кнігі прафесар Педагагічнага ўніверсітэта імя Камісіі народнай адукацыі ў Кракаве, доктар Інстытута польскай філалогіі Пётр Борэк — адзін з найбольш дынамічных даследчыкаў старапольскага перыяду, а дакладней — літаратуры XVII ст. і гісторыі паўднёва-ўсходніх тэрыторый Рэчы Паспалітай. Сваю ўвагу ён сканцэнтраваў на творчасці малавядомых пісьменнікаў. Пошук іх твораў — цяжкая праца. Яна патрабуе шмат цярпення, уедлівасці, выкарыстання ледзь не дэтэктыўных метадаў, бо калі біяграфіі знакамітых асобаў маюць багатую і даступную інфармацыю, аўтары *minorum gentium* часта застаюцца ў цяні вялікіх падзей

(адкрыцці могуць стаць справай выпадку або так і застацца на ўзроўні сфармуляванай з рознай ступенню абгрунтаванасці гіпотэзы). У гэтай сувязі неабходна мець выключны досвед, каб адгарнуць старонкі жыцця гэтых людзей, нават у агульных рысах.

Пётр Борэк дастаткова доўга займаецца творчасцю малавядомых гістарычных пісьменнікаў сярэдзіны XVII ст. (пераважна часоў казацкіх ці турэцкіх войнаў), чыя творчасць выклікае пытанні з мастацкага пункту гледжання. Пры гэтым аўтар ідзе двума шляхамі: адзін звязаны з літаратурна-гістарычнымі даследаваннямі, другі — з крытычным выданнем крыніц. Кніга, пра якую ідзе гаворка, — адначасова вынік ранейшых пошукаў і прыкмета іх працягу. Сярод найбольш важных навуковых публікацый аўтара трэба назваць „Ukraina w staropolskich diariuszach i pamiętnikach. Bohaterowie, fortece, tradycja" (Кракаў, 2001), „Szlakami dawnej Ukrainy. Studia staropolskie" (Кракаў, 2002) і „Od Piławiec do Humania" (Кракаў, 2005). Увагі заслугоўвае і рэдактарская дзейнасць П. Борэка. Варта згадаць, напрыклад, прысвечаную 350-годдзю Гадзяцкай дамовы паміж Рэччу Паспалітай і казацкай Украінай працу пад назвай „W kręgu Hadziacza A. D. 1658. Od historii do literatury" (Кракаў, 2008). Рэгулярна кракаўскі даследчык выдае і старапольскія тэксты, выбар якіх невыпадковы. Ён звязаны з рэалізацыяй больш шырокага плана, доказам чаго з'яўляецца апошняя, прысвечаная малавядомым пісьменнікам эпохі Барока, публікацыя пад назвай „W służbie Klio". Гэтая праца мае аналітычна-абагульняльны характар і з'яўляецца завершаным цэлым.

Кніга складаецца з дзевяці даследаванняў, якія пачынаюцца „Уступам", дзе аўтар характарызуе змест і сувязі паміж сэнсавымі часткамі: „Галоўнай з'яўляецца вядучая праблема гісторыі, часцей за ўсё застылай, якую творцы эпохі Барока выкладалі ў паэтычнай і празаічнай форме <…> Элементамі, якія побач з гісторыяй аб'ядноўваюць кнігу, выступаюць эпічныя вартасці і біяграфіі слаба вядомых або ўвогуле невядомых пісьменнікаў XVII ст. Я лічу, што згадванне асобных пісь-

меннікаў *minorum gentium* і характарыстыка іх некаторых твораў „з-пад знака вершаванай гістарычнай эпікі" можа выклікаць большую зацікаўленасць філолагаў і гісторыкаў да друга- ці трэцеразрадных сведчанняў, якія ў эпоху барока карысталіся папулярнасцю ў чытачоў".

Цалкам пагаджаемся з думкай аўтара пра неабходнасць пастаяннага пашырэння колькасці выкарыстаных крыніц шляхам працы ў архівах і згадвання ўнікальных, адзінкавых друкаў ды выяўлення ў старапольскай літаратуры не толькі тэкстаў, якія з'яўляюцца шэдэўрамі. „Ужо сёння можна сцвярджаць, што ў XVII ст. да ліку найбольш чытаных адносіліся менавіта эпічныя пераказы з гісторыі (звычайна ваеннай) сям'і, аўтары якіх прымалі актыўны ўдзел у апісваных падзеях. Развіццё старапольскай манеры напісання дзённікаў, навін, рукапісных газет і вершаванай эпікі неабходна аднесці да бурлівых падзей XVII ст., у якім давялося жыць дамарослым пісьменнікам" (7).

Аўтар, па спецыяльнасці паланіст, спалучае ў сабе кампетэнцыі літаратуразнаўцы і гісторыка, прычым у абедзвюх галінах добра арыентуецца, даследуе гісторыю і культуру эпохі Барока і вялікіх войнаў, якія вяла Рэч Паспалітая ў XVII ст. Асноўным рубяжом выступаюць падзеі другой паловы праўлення Жыгімонта III Вазы, калі паходам на ўсход папярэднічала грамадзянская вайна (рокаш Зебжыдоўскага). Заканчваецца разгляд самым пачаткам XVIII ст., а калі дакладней — 1702 г., калі на рынку ў Луцку разыгралася драма шляхціча-паэта, героя апошняга раздзела кнігі, якому па рашэнні суда адсеклі галаву. Тэкст быў дапоўнены 18 ілюстрацыямі, рэзюме на рускай і англійскай мовах, геаграфічным і асабовым паказальнікамі. Аўтар паставіў мэту, якую, дарэчы, і рэалізаваў, падаць вобраз непасрэднай гістарычнай рэчаіснасці, паказаць гістарычных асобаў, сармацкую ментальнасць, а таксама творчае майстэрства і самапрэзентацыю аўтараў прааналізаваных тэкстаў.

Два першыя раздзелы звязаны з асобай Станіслава Жулкеўскага, а таксама з грамадзянскай вайной і паходамі на Маскву. Іншымі словамі — з падзеямі, у якіх

гетман адыграў галоўную ролю. Прапанаваны ў кнізе матэрыял сведчыць пра перспектыву з'яўлення новых даследаванняў і выданняў крыніц. Тэкст пад назвай „Hetman Stanisław Żółkiewski w poezji rokoszowej z lat 1606–1608" (13–30) развівае зробленую яшчэ ў 1920 г. выснову Віктара Хана пра драматычны момант у жыцці будучага героя Цэцоры, калі Жулкеўскі ў якасці прыхільніка караля стаў аб'ектам вострых нападак з боку тых, хто падтрымаў рокаш Зебжыдоўскага, і быў абвінавачаны ў здрадзе Рэчы Паспалітай. Тым часам ён, легаліст, хутка праявіў сябе як прыхільнік лагоднага стаўлення да бунтаўшчыкоў, сярод якіх было шмат людзей у той ці іншай ступені з ім звязаных. У назве другога тэксту змяшчаецца заўвага, што гэта толькі ўводны разгляд тэмы: „Moskiewski rok 1612 w barokowych relacjach pamiętnikarskich (rekonesans)" (31–48). Справа датычыцца вельмі важнага ў гісторыі войнаў панавання ў Крамлі ў той год, які прынёс шмат як станоўчых, так і адмоўных падзей для інтэрвентаў. Нататкі вёў гетман-пераможца і іншыя ўдзельнікі вайны. Сярод апошніх былі Юзэф Будзіла, Самуэль Маскевіч і Мікалай Сцібор Мархоцкі. Пацверджаннем інтарэсу даследчыкаў да гэтых дзённікаў служыць факт іх крытычнага выдання ў апошнія некалькі гадоў. Такім чынам можна чакаць больш шырокай і грунтоўнай працы аўтара на гэтую тэму, дзе падмуркам якраз і выступяць наяўныя публікацыі.

Раздзел „Samuel Hutor Szymanowski — zapomniany epik barokowy" (49–88) пераносіць нас у час вялікіх казацкіх паўстанняў і згадвае крытычнае выданне яго твора „Mars sauromatski i inne poematy" (да друку падрыхтаваў П. Борэк. Кракаў, 2009). Тут мы трапляем ў стыхію вершаў, звязаных з Ярэмам Вішнявецкім. Аўтар адносіць паэта-салдата, які піша пра войны Рэчы Паспалітай з Масквой, татарамі і казакамі, да ліку надзеленых пісьменніцкім талентам дакументалістаў, бо апошні апісваў гістарычныя падзеі так, як ён іх бачыў або як чуў пра іх ад іншых відавочцаў.

Наступныя раздзелы таксама маюць дачыненне да выдадзеных П. Борэкам крыніц: «Jana Białobockiego

„Odmiana postanowienia sfery niestatecznej kozackiej". Przyczynek do dziejów wierszowanej epiki historycznej» (89–108)[1]; „Oblężenia Lwowa 1648 i 1655 roku w twórczości Józefa Bartłomieja Zimorowica" (109–140)[2]; «Samuela Leszczyńskiego „Potrzeba z Szeremetem"» (141–168)[3]. Аўтар звяртае ўвагу на польскацэнтрычны, што зразумела, пункт гледжання згаданых пісьменнікаў XVII ст. на ўнутраных і знешніх ворагаў, які праяўляецца ў трактоўцы казакоў як ворагаў айчыны, якіх надорваюць красамоўнымі эпітэтамі. Пры гэтым можна заўважыць прапагандысцкія функцыі тэкстаў, асабліва ў выпадку, калі мецэнатам аўтара быў Я. Вішнявецкі. Паэма Ляшчыньскага — ён належаў да вышэйшай магнатэрыі ў краіне — акрамя эстэтычных якасцяў (пераважна яны дазваляюць адносіць аўтараў да *minorem gentium*) змяшчае шмат фактаў, якія сведчаць пра тое, што дзяржаўная ўлада не заўсёды плаціла грошы сваім падначаленым, чым ставіла апошніх у складаную сітуацыю.

Наступныя два раздзелы маюць дачыненне да праслаўленай дзякуючы трылогіі Г. Сянкевіча постаці Ежы Валадыёўскага. Гэта «„Relacyja Kamieńca wziętego" Stanisława Makowieckiego jako źródło do upadku twierdzy w roku 1672» (169–209)[4] і «Stolnik przemyski Jerzy Wołodyjowski w „Relacyi Kamieńca wziętego" S. Makowieckiego i ostatniej części Trylogii H. Sienkiewicza» (209–234). Да гэтага часу даследчыкі, якія карысталіся гэтым літаратурна няўдалым, але багатым на факты, творам лятычоўскага стольніка, павінны былі ў дадатак глядзець адну з трох рукапісных копій у Галоўным

[1] Гл.: Białobocki J. Poematy rycerskie / Wstęp i opracowanie P. Borek. Kraków, 2004.

[2] Гэты дакумент друкуецца ўпершыню. Але варта звярнуць увагу на публікацыю: Józefowicz J. T. Lwów utrapiony in anno 1704 / Opracował P. Borek. Kraków, 2003.

[3] Гл: Leszczyński S. Potrzeba z Szeremetem, hetmanem moskiewskim, i z Kozakami w roku Pańskim 1660 od Polaków wygrana / Opracował P. Borek. Kraków, 2006.

[4] Гл.: Makowiecki S. Relacyja Kamieńca wziętego przez Turków w roku 1672 / Opracował P. Borek. Kraków, 2008.

архіве даўніх актаў (AGAD) у Варшаве, Бібліятэцы ПАН у Кракаве ці Курніцкай біблітэцы ПАН або абапірацца на публікацыю Т. Вяжбоўскага (вольная празаічная адаптацыя вершаванага тэксту). Цяпер дзякуючы П. Борэку іх задача стала больш лёгкай.

Кнігу завяршае раздзел пад назвай „Daniel Bratkowski, zapomniany wierszopis z Wołynia” (235–268). Як і ў іншых выпадках, гэтаму тэксту папярэднічала дакументальная публікацыя[5]. Кракаўскі выдавец, абапіраючыся на крыніцы, зрывае з постаці браслаўскага падстолія ідэалістычны налёт, якім яго надарыла ўкраінская гістарыяграфія.

Апошняя кніга П. Борэка — падсумаванне яго рэдактарскай працы, якая адначасова акрэслівае далейшыя перспектывы. Яна абапіраецца на крыніцы, пераасэнсоўвае пастулаты і паказвае асобы некаторых пісьменнікаў *minorem gentium* у новым святле. Публікацыя дае даследчыкам і аўтарам будучых абагульняльных прац па гісторыі старапольскай літаратуры матэрыял, які дазволіць удакладніць і дапоўніць цяперашнія ўяўленні.

Познань *Марцэлі Косман*

## GIL, ANDRZEJ. W kręgu dziejów i kultury Kościołów wschodnich w Rzeczypospolitej. Siedlce, 2009. 152 s.

У зборнік артыкулаў вядомага люблінскага вучонага Анджэя Гіля ўвайшлі, галоўным чынам, яго публікацыі па гісторыі грэка-каталіцкай царквы ў Холмскай епархіі і на Валыні. Амаль усе з іх друкаваліся раней у цяжкадаступных выданнях, таму з’яўленне гэтых тэкстаў

[5] Bratkowski D. Świat po części przeźrzany / Opracowali P. Borek i B. Krzywy. Warszawa, 2011.

у адным томе вельмі дапаможа іншым даследчыкам гісторыі хрысціянства ва ўсходнеславянскіх землях Рэчы Паспалітай.

Чырвонай ніткай праз усе часткі кнігі праходзіць тэма недастатковай крыніцавай базы для распрацоўкі гісторыі праваслаўнай царквы ў Рэчы Паспалітай да канца XVI ст. У свой час і мітрапаліт Макарый, аўтар шматтомнай „Гісторыі Рускай царквы”, у якой два вялікія тамы былі прысвечаны Кіеўскай мітраполіі, і М. Грушэўскі з прыкрасцю канстатавалі, што пра даунійнае праваслаўе ў ВКЛ і Рэчы Паспалітай вядома вельмі мала. Таму кожны з ацалелых помнікаў вельмі каштоўны, і А. Гіль ужо зрабіў вялікі ўнёсак у вывучэнне таго, што ацалела. У прыватнасці, у рэцэнзаванай кнізе чытач знойдзе артыкул пра холмскі сінодзік, які ў сваёй найстаражытнейшай частцы паведамляе шмат каштоўных звестак пра склад і сувязі прывілеяваных груп Валыні ў Сярэднявеччы. Сінодзік увайшоў у склад твора Якуба Сушы „Phoenix redivivus”, пра які напісаны яшчэ адзін артыкул у кнізе.

Адзін з самых карысных і працаёмкіх артыкулаў прысвечаны складанню больш-менш поўнага і дакладнага спіса манастыроў Холмскай епіскапіі (да канца XVI ст.). Аднак шкада, што ў канцы яго мы не знаходзім сумарнага пераліку ці табліцы манастыроў.

Далей А. Гіль з уласцівай яму вострай і нават прыдзірлівай крытычнасцю паказвае, што апублікаваная ў „Актах Віленскай археаграфічнай камісіі” грамата 1521 г. адной з цэркваў Берасцейска-Уладзімірскай епархіі (царква ў Аполе пад Уладавай) з’яўляецца фальсіфікатам, створаным пад час барацьбы за маёмасць і аўтарытэт у XVII ст. Адзін з выяўленых анахранізмаў — згадванне свайго роду візітацыі, тады як гэтая практыка з’явілася ў праваслаўных і грэка-каталіцкіх епархіях не раней за XVII ст. (52).

Вельмі вузкі і спецыяльны сюжэт у артыкула пра складванне і развіццё прыходскай сеткі ў Вохіне (на польска-літоўскай мяжы) — выдатны прыклад таго, з якіх мікраскапічных „цаглінак” у А. Гіля атрымліваецца

крок за крокам узнаўляць гісторыю арганізацыйных структур праваслаўнай і грэка-каталіцкай цэркваў Рэчы Паспалітай. Такі ж характар носяць два наступныя артыкулы — па-першае, артыкул пра ўніяцкія цэрквы Берасця (на падставе актаў візітацыі 1726 г.), да якога прыкладзены адпаведны, вельмі шырокі, фрагмент падрабязнага візітацыйнага інвентара; па-другое, артыкул пра царкву ў Яравішчы (па візітацыях канца XVIII ст.), які апісвае рэдкі прыклад ператварэння манастырскай царквы ў прыходскую (гэты артыкул, як і папярэдні, суправаджаецца вялікімі ўрыўкамі з пратаколаў візітацый).

Несумненна, прыцягнуць увагу многіх два артыкулы пра знакаміты абраз Холмскай Божай Маці. Першы з іх адлюстроўвае, як складаўся (фактычна — ствараўся другім пакаленнем біскупаў-уніятаў) культ Холмскай Божай Маці. А. Гіль яскрава паказвае, што гэта адбылося не раней за пачатак XVII ст. (насуперак некрытычна ўспрынятаму паведамленню Якуба Сушы пра нібыта нашмат больш ранні яе культ). У другім артыкуле дэталёва разгледжаны функцыі гэтай іконы ў бітве пад Берасцечкам, калі абраз Божай Маці мэтанакіравана падаваўся як выява нябеснай заступніцы антыказацкага і антытатарскага войска.

Артыкул пра царкоўную архітэктуру Сокаля вельмі рэлевантны пры звароце да зусім не лакальнай праблематыкі, а да праблематыкі так званай „лацінізацыі” уніі (у тым ліку і такой відавочнай яе праявы, як архітэктура храмаў). А. Гіль вельмі цвяроза канстатуе, што унія 1596 г. не прывяла да гарманічнага збліжэння дзвюх канфесій, а спарадзіла шэраг канфліктаў ва ўлонні хрысціянскай культуры (129). Знешняе выражэнне гэтых канфліктаў і спароджаная імі „лацінізацыя” — трансфармацыя архітэктуры сокальскіх цэркваў.

Апошні артыкул кнігі прысвечаны дзейнасці грэка-каталіцкага духавенства такога рэгіёна Лемкаўшчыны, як дэканат Мушына Перамышльскай епархіі ў 1848–1914 г. Гэта чарговы прыклад таго, як „мікрагісторыя” магла б дапамагчы і дапамагае выяўленню агульных

тэндэнцый развіцця канфесійных і этна-рэлігійных канфліктаў у межах былой Рэчы Паспалітай. Пра наяўнасць гэтых канфліктаў і іх вастрыню і нагадвае артыкул А. Гіля.

У цэлым зборнік артыкулаў Анджэя Гіля, дзякуючы ўласцівай аўтару акрыбіі, выдатнаму веданню ўсіх матэрыялаў і вялікай прафесійнай адказнасці, — бліскучы доказ таго, што менавіта з дапамогай „мікрагісторыі” мы пачынаем бачыць і разумець, якой „насамрэч” была гісторыя праваслаўя і уніі ва ўсходніх частках Рэчы Паспалітай.

Масква *Міхаіл Дзмітрыеў*

FRIEDMAN, ALEXANDER. Deutschlandbilder in der weißrussischen sowjetischen Gesellschaft 1919–1941. Propaganda und Erfahrungen. Stuttgart: Franz Steiner, 2011. 428 S.

У прадмове да кнігі „Вобразы Нямеччыны ў беларускім савецкім грамадстве 1919–1941 г.” Аляксандр Фрыдман тлумачыць прычыну захаплення тэмай сваёй працы: гэта сямейная гісторыя яго прадзеда Абрама Качаноўскага, яўрэя, ветэрана Першай сусветнай вайны, які дзякуючы атрыманаму на ёй досведу доўгі час меў вельмі пазітыўны вобраз Нямеччыны і да сваёй смерці не мог зразумець, як такія „сяброўскія і сімпатычныя людзі”, якімі ён пазнаў немцаў, праз нейкія два з паловай дзесяцігоддзі маглі праводзіць мэтанакіраванае брутальнае вынішчэнне яўрэяў на яго беларускай радзіме (13). Ключом да такога захаплення быў факт, што як перакананы антыбальшавік Абрам Качаноўскі з прынцыповым недаверам ставіўся да таго вобраза Нямеччыны, які пашыраўся савецкай прапагандай.

Аляксандр Фрыдман даследуе, якім чынам у беларускім грамадстве ў міжваенныя часы, паміж 1919 і

1941 г., праз самыя розныя сродкі масавай інфармацыі, але заўжды ў строгай адпаведнасці з савецкім Агітпрапам, пашыраліся вобразы „чужога". Вобразы Нямеччыны знаходзяцца ў цэнтры яго ўвагі, што і адпавядае назве кнігі, але не выключна — разглядаюцца таксама вобразы Польшчы, заходнееўрапейскіх дзяржаў, а таксама ЗША і нават Японіі. Апошнія параўноўваюцца з вобразамі Нямеччыны — цэнтральным аб'ектам даследавання. Тое, што праца Фрыдмана сканцэнтравана на ўсходняй палове Беларусі, г. зн. на той частцы, што да 1939 г. была Савецкай Беларуссю, зусім не дае падставы дапускаць, быццам аўтар шукаў тут лёгка акрэсленага поля для сваёй працы. Фактычна ён прыцягвае для свайго выкладу неверагодна шырокі корпус крыніц і матэрыялаў: побач з прэсай, друкаванай пабеларуску, па-польску, на ідыш і па-руску, сярод якой штодзённыя газеты і малатыражкі прадпрыемстваў, дзіцячыя і жаночыя часопісы мясцовага, рэгіянальнага і агульнасаюзнага рангу, сюды ўвайшлі школьныя падручнікі і праграмы, навуковыя і літаратурныя выданні, прапагандысцкія брашуры, праграмкі тэатраў і аркестраў разам з праграмамі беларускага радыё, а таксама апублікаваныя ўспаміны сведак і тамы актаў розных савецкіх партыйных і дзяржаўных устаноў. Толькі выразна структураваны падзел, які задаў Фрыдман, дазваляе зарыентавацца ў гэтым калейдаскопе вобразаў „чужога".

У храналагічных межах свайго даследавання аўтар арыентуецца на тры розныя фазы савецка-нямецкіх адносін: 1) збліжэнне і супрацоўніцтва ад І сусветнай вайны да прыходу да ўлады нацыянал-сацыялістаў у 1933 г.; 2) перыяд выкліканага апошнім антаганізму; 3) эпізод удаванага сяброўства, якое ў жніўні 1939 г., пасля падпісання пакта Рыбентропа — Молатава, змяніла антаганізм. Заключнай рамкай храналогіі даследавання з'яўляецца нямецкі напад на Савецкі Саюз. Далей А. Фрыдман вылучае 4 фактары, вызначальныя для ўтварэння вобразаў Нямеччыны сярод беларускага насельніцтва, кожнаму з якіх прысвячаецца адпавед-

ная частка працы. Першы — вопыт I сусветнай вайны ўключна з нямецкай акупацыяй. Другі — той вобраз Нямеччыны, які распаўсюджваўся савецкай прапагандай, і ён займае ў даследаванні несумненна цэнтральнае месца. Абыходжанне з нямецкай мовай, гісторыяй і культурай у Савецкай Беларусі вызначана як трэці фактар, а ў якасці чацвёртага разглядаюцца аўтавобразы (Selbstbilder) беларускага савецкага грамадства, што адначасова выступала і рэцыпіентам апісаных вышэй прапагандысцкіх вобразаў „чужога". Змены, часам радыкальныя, якія зазналі гэтыя фактары ў розныя фазы перыяду даследавання, з'яўляюцца сутнасным пунктам усяго разгляду і даюць уяўленне аб запраграмаваных і фактычных механізмах функцыявання савецкай прапаганды.

Па сваёй сутнасці праца „Deutschlandbilder in der weißrussischen sowjetischen Gesellschaft 1919–1941" — гэта незвычайна шырокае і грунтоўнае даследаванне вобразаў „чужога", ствaранага медыйна-прапагандысцкімі сродкамі. На 375 старонках — больш за 1800 спасылак! У плане скрупулёзнасці і аб'ёму апрацаваных крыніц кнігу Фрыдмана было б зусім не сорамна параўноўваць з іншымі падобнымі выданнямі апошніх гадоў. Хутчэй наадварот. А. Фрыдман, які сваю навуковую адукацыю распачаў у постсавецкай Беларусі, цяперашняй Рэспубліцы Беларусь, спалучыў традыцыйную для той гістарычнай навукі схільнасць да грунтоўнай апісальнасці з заходнееўрапейскай / нямецкай школай гістарычнага аналізу і дыскурс-аналізу. Апрача ўсебаковай апрацоўкі крыніц і пачатковага жадання зразумець асаблівы вобраз Нямеччыны, што быў у яго прадзеда, выразна заўважаецца і глыбокае захапленне аўтара сутнасцю і механізмам дзеяння савецкай прапаганды.

Аўтар праводзіць чытача ў медыйны космас Савецкай Беларусі, і ўжо ў першай частцы працы, у якой разглядаецца абыходжанне Агітпропа з I сусветнай вайной і ўспаміны пра яе, становіцца ясна, што ў гэтым прапагандысцкім паралельным свеце панавалі

свае ўласныя законы прычыннасці. Такі ўступ важны не толькі храналагічна, але і для таго, каб паказаць чытачу, як савецкія прапагандысты разглядалі гістарычныя падзеі быццам пластычны матэрыял, які яны пераінтэрпрэтоўвалі ў новую медыйную рэчаіснасць, нязменна кіруючыся ўстаноўкамі савецкага цэнтра, дапасоўваючы іх толькі раз-пораз да беларускіх асаблівасцяў. Калі адносна І сусветнай вайны і нямецкай акупацыі гаворка ішла пра падзеі, што ў многіх беларусаў былі яшчэ жывымі ў асабістых успамінах, то ўлады, нягледзячы на відавочныя несупадзенні, спрабавалі прывесці свядомасць ды ўспаміны рэцыпіентаў прапаганды ў адпаведнасць з па-новаму фармуляванай імі рэчаіснасцю. І ў гэтым, і ў іншых месцах кнігі выкладкі А. Фрыдмана найбольш пераканальныя, калі ён паказвае падобныя супярэчнасці на асабістых лёсах людзей.

Гэта характэрна і для другой, самай аб'ёмнай часткі, у якой даследуюцца вобразы Нямеччыны ў прапагандысцкім дыскурсе Савецкай Беларусі. З адчувальным задавальненнем аўтар праводзіць чытача лабірынтамі маніпуляцый з усёй іх супярэчлівасцю ў малым і вялікім, з памылкамі, непаразуменнямі і проста абразлівымі для чалавека падступніцтвам і вычварэннямі. Часта з дарэчным гумарам і дэманстрацыяй абсурднасці Фрыдман паказвае ўсю несумленнасць тых медыяў, аднак атрутная канцэнтрацыя прапагандысцкага нахабства проста ашаламляльная — асабліва ў выпадку цынічнага асвятлення сталінскіх рэпрэсій і горкай іроніі хлусні пра нацыянал-сацыялістычную Нямеччыну, сапраўдныя злачынствы якой, аднак, потым на самай справе пераўзыдуць прапагандысцкі вобраз. Парадоксы прапагандысцкіх установак прасочваюцца і кантэкстуалізуюцца ў гэтай частцы са скрупулёзнай дэталізацыяй, а ў трэцяй часты працы гэтая кантэкстуалізацыя ўзбагачаецца культурнымі і школьна-дыдактычнымі аспектамі прапагандысцкага паказу Нямеччыны з „вялікім рэвалюцыйным мінулым" і „вялікай рэвалюцыйнай будучыняй" (336).

У чацвёртай частцы А. Фрыдман разглядае аўтавобраз Савецкай Беларусі, што дазваляе ўрэшце ацаніць дзейснасць ніжэй паказанага Агітпропа. Калі ў папярэдніх раздзелах кнігі чытачу час ад часу не хапае такіх сюжэтаў, дык тут яны ўтвараюць метадалагічны вузел, і толькі дзякуючы выразна вызначаным узаемазалежнасцям паміж успрыняццем „свайго" і „чужога" вобразы Нямеччыны становяцца больш чым проста прапагандысцкім канструктам. Пасля значнага ўражання ад паказу механізмаў агітпропаўскіх інтэрпрэтацый чытач можа з палёгкай успрыняць месца, дзе аўтар дае слова вядомаму гісторыку і быламу рэктару БДУ Уладзіміру Пічэту, які асабіста добра ведаў Нямеччыну і дакладна ацэньваў фатальнае развіццё нацыянал-сацыялісцкай улады. Але гучна пра пакт Рыбентропа — Молатава акадэмік абачліва не хацеў выказваць крытыкі: «У СССР, гэтай „фашысцкай катоўні", у якой для прэсы былі ўласцівыя „выхваленне" і „дурасць", яму хацелася толькі выжыць» (388).

Да вызначанай на пачатку мэты спасцігнуць вобраз Нямеччыны свайго прадзеда ў гэтай аб'ёмнай і вартай працы Фрыдман наблізіўся настолькі, наколькі гэта наогул было магчыма. Пры гэтым ён дае такую магчымасць і чытачам. Яны цяпер таксама могуць уявіць у поўнай ступені прапагандысцка-медыйную камунікацыйую прастору, у якой жылі грамадзяне Савецкай Беларусі ў міжваенныя часы (і з якой яны не маглі нікуды падзецца). Хоць кніга сканцэнтравана галоўным чынам на вобразах Нямеччыны, абыходжанне Агітпропа з іншымі тэмамі ў ёй таксама паказана. Чытач можа даверыцца пры гэтым ацэнкам і спецыяльным ведам Аляксандра Фрыдмана як праваднікa праз гэтую насычаную зместам камунікацыйную прастору, якая пераважна сягала далёка за межы праўдзівасці і добрапрыстойнасці.

Ляйпцыг *Ёганэс Вігерынг*

## РОМАНЬКО, ОЛЕГ В. Легион под знаком Погони. Белорусские коллаборационистские формирования в силовых структурах нацистской Германии (1941–1945). Симферополь: Антиква, 2008. 304 с.

Тэма калабарацыянізму ў Другой сусветнай вайне робіцца ўсё больш актуальнай для даследчыкаў розных краін[1]. Па-першае, у сувязі з адкрыццём многіх цэнтральна- і ўсходнееўрапейскіх архіваў сталі даступнымі раней засакрэчаныя крыніцы. Па-другое, ва ўмовах узнікнення новых дзяржаў і хуткіх зменаў сістэмы міжнародных адносін пытанні „здрады" і „барацьбы за нацыянальны суверэнітэт" выклікаюць заканамерную цікавасць як у аматараў, так і ў спецыялістаў.

На жаль, беларуская гістарыяграфія гэтага пытання, можна сказаць, адсутнічае. Ніводнай колькі-небудзь значнай абагульняльнай манаграфіі нараджэнцы „партызанскай рэспублікі" (БССР) за дваццаць гадоў незалежнасці не апублікавалі. Таму з'яўленне выдатна дакументаванай працы вядомага крымскага гісторыка Алега Раманько, прысвечанай беларускім узброеным калабарацыянісцкім фармаванням у сілавых структурах Трэцяга райха, можна толькі вітаць.

У манаграфіі выкарыстаны матэрыялы дзесяці архіваў Беларусі, Нямеччыны, Украіны, Расіі і ЗША, не кажучы ўжо пра сотні публікацый на рускай, англійскай, нямецкай, украінскай, беларускай і польскай мовах. Работа складаецца з уводзінаў, заключэння і чатырох разделаў: „Причины создания белорусских коллаборационистских формирований", „Белорусский национализм и проблема создания коллаборационистских формирова-

[1] Пры гэтым адзінай кнігай пра ўласна беларускі калабарацыянізм, якая заслугоўвае ўвагі, застаецца манаграфія амерыканскага даследчыка Антоніа Муньёса ў суаўтарстве з Алегам Раманько: Munoz A. J., Romanko O. V. Hitler's White Russians: Collaboration, Extermination and Anti-Partisan Warfare in Byelorussia, 1941–1944. New York, 2003. 512 p.

ний", „Белорусские коллаборационистские формирования в полицейских и антипартизанских структурах", „Белорусские коллаборационистские формирования в Вермахте и СС".

Аўтар выразна абазначыў сваю пазіцыю па пытанні, якое даследаваў: „…Советский коллаборационизм был, по сути, продолжением событий гражданской войны 1918–1920 гг., а его предпосылками послужили особенности общественно-политического развития предвоенного СССР. Среди них, прежде всего, следует назвать репрессии, коллективизацию, фактическую нерешенность национального вопроса, религиозные притеснения и т. п." (37).

Пры гэтым, па меркаванні Алега Раманько, уласна беларускі нацыянальны рух ў 1920–30-я г. быў вельмі слабым і разрозненым, а большасць беларускіх партый у Другой Рэчы Паспалітай вялі вартае жалю бесперспектыўнае існаванне. „Новае жыццё" ў іх удыхнулі Другая сусветная і асабліва савецка-нямецкая вайна, у тым ліку таму, што самае позняе з 1943 г. нацысты раздзьмувалі ў беларусаў нацыянальныя пачуцці, імкнучыся выкарыстаць іх у сваіх мэтах.

Пра слабасць беларускага нацыяналізму сведчыць той факт, што ў адрозненне ад Украіны ў гады нацысцкай акупацыі тут не было арганізавана колькі-небудзь масавай беларускай антыкамуністычнай паўстанцкай барацьбы (143). Кіраўніцтва невялікіх атрадаў падобнага накірунку было забіта савецкімі партызанамі ў ходзе перамоваў, а самі фармаванні разагнаныя камуністамі без якіх-небудзь высілкаў. Значыць, у адрозненне ад украінскіх беларускія нацыяналісты дзейнічалі ў асноўным у рамках калабарацыянізму.

У працы апісаны погляды розных палітыкаў нацысцкай Нямеччыны на беларускае пытанне, дэталёва паказаны акупацыйны апарат Райха на тэрыторыі БССР, прыведзена класіфікацыя розных беларускіх калабарацыяніісцкіх фармаванняў па прынцыпе іх падначалення і аператыўнага выкарыстання. Хоць асноўная цяжкасць па ахове тылу і барацьбе з партызанамі ляжала

на плячах беларусаў, але справіліся калабарацыяністы з гэтай задачай зусім не на „выдатна”, што было выклікана як ваганнямі лініі нямецкай палітыкі, так і супрацьдзеяннем савецкага боку, Арміі Краёвай, а таксама недабразычлівымі настроямі насельніцтва.

Па словах аўтара, «закономерным был конец этих формирований, который, помимо всего прочего, показал, что поражение ждёт всех, кто попадёт в центр схватки между двумя гигантами. К тому же, если еще и погонится за заведомо утопической идеей, какой на тот момент являлся белорусский национализм с его стремлением создать „Независимую Белоруссию” (незразумелае ўжыванне двукосся. — *А. Г.*). Ни политических, ни военных, ни национальных, ни каких-либо других предпосылок для подобного начинания в условиях того времени попросту не было» (260).

Праца ў цэлым выканана на належным навуковым узроўні. Але сустракаюцца ў ёй і спрэчныя моманты.

У шэрагу выпадкаў адзначаецца некрытычнае выкарыстанне крыніц, у прыватнасці давер да мемуараў. Напрыклад, на с. 145–146 звесткі пра шырокамаштабную антыпартызанскую аперацыю Палескую Сечу Т. Бульбы-Бараўца ўзяты з мемуараў самога Бараўца, якія вядомы сваім „красамоўствам”. На с. 155–158, 208–209 механічна прыводзіцца інфармацыя з успамінаў былога калабарацыяніста Ф. Кушаля, які на розныя лады расхвальвае сваіх былых братоў па зброі. На с. 213–214 апісваецца шырокамаштабная дзейнасць антысавецкіх партызанаў Беларускай вызваленчай арміі (БВА) у 1944–1948 г., прычым крыніца таксама вельмі сумнеўная. Улічваючы вельмі слабы характар Супраціву ў Беларусі ў 1944–1946 г., можна дапусціць, што гісторыя БВА — фантом, народжаны беларускімі нацыяналістычнымі эмігрантамі.

Агульная ацэнка нямецкага апарату ўпраўлення выглядае слушнай, але не дакладнай: пры вывучэнні нямецкага акупацыйнага рэжыму на тэрыторыі Беларусі „может сложиться впечатление, что он был чересчур громоздким и излишне усложненным таким

обилием пересекающихся структур власти. Однако следует подчеркнуть, что между тремя его основными ветвями — гражданской, военной и полицейской — не было никакой принципиальной разницы, а имелись лишь некоторые, чисто функциональные различия. В действительности же эти ветви представляли собой неразрывно связанные части одного оккупационного аппарата" (89). Сцвярджэнне адводзіць убок ад спецыфікі нацысцкага ўпраўлення ва Усходняй Еўропе, пра што ў падобнай працы варта было б узгадаць. Афіцэры і генералы СС з недаверам ставіліся да Вермахта, лічачы яго эліту зборышчам адсталых служак, косных і рэакцыйных прадстаўнікоў „былой Нямеччыны". У сваю чаргу, камандны склад Вермахта глядзеў на сваіх калег з СС як на крыважэрны нацысцкі зброд, які пляміў зверствамі нямецкі мундзір і да таго ж не меў уяўлення пра традыцыі і гонар. І тыя і другія аднолькава пагардліва глядзелі на „тылавых пацукоў", фанабэрыстых і няўмелых „залатых фазанаў" з грамадзянскай акупацыйнай адміністрацыі, узлаваных на жыццё крыварукіх няўдачнікаў. Апошнія лічылі сілавікоў тупымі салдафонамі. Дапаўнялася гэтая псіхалагічная гармонія перманентнай барацьбой паўнамоцтваў і кампетэнцый, што аказвала моцны ўплыў на ўсю акупацыйную палітыку Трэцяга райха ў Беларусі.

Баяздольнасць беларускіх калабарацыяніcцкіх фармаванняў аўтар у цэлым ацэньвае як невысокую. Гэтая выснова стала ледзь не агульным месцам і ў многіх працах іншых калег Алега Раманько. Але, як правіла, ніхто не гаворыць, у параўнанні з якімі фармаваннямі ўсходнеславянскія калабарацыяністы ваявалі дрэнна. Калі казаць пра нямецкія часткі Вермахта, нямецкія або латышскія часткі *Waffen-SS,* то, вядома ж, параўнанне па вывучцы, майстэрстве і матываванасці асабовага складу зусім не на карысць беларусаў або, напрыклад, рускіх. Калі ж мы супаставім паліцэйскія батальёны з савецкімі партызанскімі атрадамі або нават страявымі часткамі Чырвонай арміі, то выснова не настолькі адназначная. Бо шуцманы і паліцаі абавязкова праходзілі на нямец-

кай службе навучанне ваеннай справе, а ва ўзброеных фармаваннях СССР шарагоўцы нярэдка наогул упершыню бралі вінтоўку ў рукі проста перад боем.

Прачытаўшы ў кнізе апісанне некалькіх беларускіх партый, якія мелі ў 1941–1944 г. пэўны, хоць бы прапагандысцкі, уплыў на насельніцтва БССР, можна прыйсці да высновы, што аўтар зрабіў некаторае перабольшанне: „...белорусский национализм являлся на тот момент фикцией” (121). Такую самую заўвагу можна зрабіць і ў дачыненні да сцвярджэння, што з сярэдзіны 1942 г. савецкае „...партизанское движение, в силу разных причин, становится по настоящему массовым и всенародным” (123). Наяўнасць калабарацыянісцкіх фармаванняў ужо выключае ўсенароднасць камуністычнай партызанскай барацьбы. Асабліва калі ўлічваць, што большасць у партызанскіх атрадах Беларусі складалі сяляне, мабілізаваныя туды пад пагрозай расстрэлу. Акрамя таго, на с. 126 аўтар апісвае маштабы савецкай партызанскай барацьбы, выкарыствоўваючы раздзьмутыя лічбы савецкай гістарыяграфіі, заснаваныя на надзвычайных партызанскіх прыпісках у аператыўных справаздачах. З іншага боку, відавочна прымяншаецца значэнне партызанскай барацьбы польскай партызанскай Арміі Краёвай у Заходняй Беларусі. У прыватнасці сцвярджаецца, што гэты партызанскі рух не быў масавым (129). Між тым, з канца 1943 г. і да лета 1944 г. паміж АК і чырвонымі на тэрыторыі Беларусі ішла сапраўдная міжпартызанская вайна, прычым, як скардзіліся ў Цэнтр савецкія камандзіры, у шэрагу выпадкаў польскія нацыяналісты прыносілі ім большую шкоду, чым немцы.

Прынамсі спрэчным выглядае сцвярджэнне пра тое, што „...большинство коллаборационистских проявлений имели в своей основе национализм и антикоммунизм” (3). Савецкая гістарыяграфія большасць паліцаяў называла „шкурнікамі”. Гэта значыць прыстасавальніцтва, канфармізм, кар’ерызм і дзеянні „па абставінах” і былі асноўнымі прычынамі, якія пабуджалі людзей да ўступлення ў добраахвотніцкія часткі і падраздзялен-

ні. Ідэалагічна матываваныя байцы ў любых масавых узброеных фармаваннях, як правіла, складаюць меншасць.

Выклікае вялікія сумненні выніковая лічба 50 тысяч беларусаў (255–256), якія прайшлі службу ў шэрагах нямецкіх узброеных сілаў у 1941–1945 г. Хоць у тэксце і агаворваецца, што дадзеныя прыблізныя, але, верагодней за ўсё, няслушны нават іх парадак. Па-першае, у гэты лік не ўвайшлі шматлікія „добраахвотныя памочнікі" Вермахта беларускай нацыянальнасці. Па-другое, не ўлічваюцца шматлікія паліцэйскія і ахоўныя фармаванні, створаныя на тэрыторыі Паўднёвай Беларусі (Райхскамісарыята Украіна) і Усходняй Беларусі (зона акупацыі Вермахта). Гэтыя часткі і падраздзяленні хоць і не насілі статусу беларускіх, але служылі там пераважна беларусы. Па-трэцяе, практычна праігнаравана ў статыстыцы „самаахова" сёлаў, створаная нямецкімі сілавымі структурамі. Пэўная няўважлівасць назіраецца і ў дачыненні да іншых мясцовых фармаванняў, у прыватнасці, да „ахоўных камандаў індывідуальнай службы" (Schutzmannschaft Einzeldienst) — нечага накшталт участковых міліцыянераў у СССР. Гэта значыць, агульная лічба павінна быць значна павялічана.

Неапраўданым спрашчэннем выглядае сцвярджэнне пра тое, што „приписывать белорусским добровольцам какие-либо эксцессы на национальной или религиозной почве нельзя. В отличие от, например, Прибалтики, Украины или Крыма белорусские добровольцы никогда не убивали людей за то, что они говорили на другом языке или исповедовали другую религию" (260). Тым больш што ў гэтай жа працы на с. 163 можна знайсці такія звесткі: «Известно много случаев, когда белорусские или польские полицейские убивали евреев-беглецов из гетто, „принимая" их за „советских партизан"». У гэтым кантэксце пакажам такі недахоп манаграфіі, як адсутнасць звестак пра ўдзел калабарацыяністаў у правядзенні Халакосту, апісання іх значэння ў гэтым злачынстве. Ці была іх роля важнай, малазначнай, нікчэмнай? Улічваючы маладаследаванасць тэмы, у наз-

ванай кнізе можна было б прысвяціць гэтаму пытанню некалькі старонак.

Уяўляецца, што занадта вялікая ўвага аддадзена палітычнай гісторыі, сваркам і бясплодным унутраным спрэчкам беларускіх нацыяналістаў і назіраецца пэўная няўвага да гісторыі ваеннай. Бо сутычкі калабарацыяністаў з чырвонымі партызанамі ўвайшлі ў шэдэўры савецкай літаратуры, кінематографа і нават у фальклор. Гэтае супрацьстаянне вартае падрабязнага і яркага апісання спецыяліста. А ў рэцэнзаванай працы не перададзена напружанне, драматызм барацьбы паміж байцамі дзвюх таталітарных сістэм на нізавым узроўні. Хоць менавіта даследаваны рэгіён дае мноства яскравых прыкладаў. Узгадаем тут толькі знішчэнне беларускімі паліцаямі і шуцманамі „партызанскіх” вёсак і знішчэнне беларускімі савецкімі партызанамі „паліцэйскіх” сёлаў — у абодвух выпадках разам з усімі іх жыхарамі. Можна было б шырэй асвятліць прапаганду калабарацыяністаў і прапаганду на калабарацыяністаў, агентурныя мерапрыемствы нямецкага боку з выкарыстаннем беларусаў як на акупаванай нацыстамі тэрыторыі СССР, так і ў савецкім тыле, спробы тэрактаў беларускіх калабарацыяністаў супраць функцыянераў сталінскай сістэмы і тэракты спецгруп НКУС-НКДБ БССР, НКУС-НКДБ СССР і Галоўразведупраўлення супраць беларускіх калабарацыяністаў. Зрэшты, многія падобныя сюжэты дагэтуль застаюцца недаступнымі для даследчыкаў, бо шмат дакументаў пра падзеі мінулага стагоддзя ўсё яшчэ застаюцца „засакрэчанымі на перыяд рассакрэчвання”.

Берлін — Бостан *Аляксандр Гагун*

*Рэцэнзія напісана пры фінансавай падтрымцы Гарвардскага інстытута ўкраінскіх студый (HURI).*

## ИОФФЕ, ЭММАНУИЛ Г. Когда и зачем Гитлер и другие высшие чины нацистской Германии приезжали в СССР? Москва: Харвест, 2010. 512 с.

Каб адказаць на пытанне, пастаўленае ў назве кнігі, яе аўтар, прафесар Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка, апрацаваў гіганцкі масіў крыніц — ад дзяржаўных архіваў Расіі і Беларусі да мемуараў паплечнікаў Гітлера і яго военачальнікаў ды спецыяльнай літаратуры. Ужо ў першым раздзеле, цэнтральным персанажам якога стаў сам Адольф Гітлер, Э. Іофе прасачыў яго прылёты і прыезды ў розныя населеныя пункты Расіі, Беларусі і Украіны — галоўным чынам у тыя, дзе знаходзіліся штаб-кватэры груп армій „Поўнач", „Цэнтр", „Поўдзень", а таксама сустрэчы фюрэра з іх камандным складам. Усе візіты нацысцкага фюрэра ва ўказаны рэгіён сістэматызаваны, па многіх з іх зроблены важныя ўдакладненні. Так, аўтар даказаў, што Гітлер знаходзіўся ў Барысаве 4 жніўня, а ў Брэсце — 26 жніўня 1941 г. (13), але не выявіў пераканальных пацверджанняў версіі пра наведванне фюрэрам Мінска (33–36).

Візіты вярхоўнага галоўнакамандуючага ўсімі ўзброенымі сіламі Трэцяга райха былі звязаны з яго імкненнем даведацца з першых рук пра сітуацыю на Усходнім фронце і ў выпадку неабходнасці аператыўна ўнесці карэктывы ў дзеянні Вермахта. Эмануіл Іофе паказаў, што карэктывы Гітлера далёка не заўсёды ўзгадняліся з ходам думак нямецкіх военачальнікаў. У якасці прыкладу можна ўзяць нараду ў Барысаве 4 жніўня 1941 г. Напярэдадні нямецкая вайсковая эліта не сумнявалася ў тым, што для фюрэра захоп Масквы — задача нумар адзін. Камандаванне групы армій падрыхтавала план наступлення на адпаведным напрамку і, натуральна, чакала станоўчай рэакцыі вярхоўнага галоўнакамандуючага. Аднак Гітлер сфармуляваў сваё бачанне прыярытэтаў наступ-

ным чынам: „Першая дасягальная мэта — Ленінград і рускае ўзбярэжжа Балтыйскага мора… На другім месцы па важнасці для праціўніка стаіць поўдзень Расіі, у прыватнасці Данецкі басейн, пачынаючы ад раёна Харкава… Раён Масквы па сваёй важнасці для праціўніка стаіць толькі на трэцім месцы” (23). На падставе заявы Гітлера ў Барысаве аўтар заключае, што фюрэр збіраўся не браць Маскву, а шчыльна акружыць і потым затапіць.

Змястоўны бок другога раздзела складаюць нарысы пра знаходжанне ў заходніх абласцях СССР такіх паплечнікаў Гітлера, як Іон Антанеску, Ганс Баўр, Марцін Борман, Ёзэф Гебельс, Рэйнгард (Рэйхард) Гейдрых, Герман Герынг, Генрых Гімлер, Карл Дзёніц, Отта Дзітрых, Фрыдрых Заўкель, Эрых Кох, Беніта Мусаліні, Ганс Ратэнхубер, Іаахім фон Рыбентроп, Альфрэд Розенберг, Рудольф Шмунт і Альберт Шпеер. Напрыклад, намеснік фюрэра па нацысцкай партыі Марцін Борман наведаў Мінск у верасні 1943 г., адзін з кіраўнікоў СС і генерал паліцыі Рэйнгард Гейдрых двойчы бываў на беларускай зямлі, у 1941 і 1942 г. (140, 142). Другі візіт згаданага фашысцкага дзеяча на Беларусь звязаны з ходам знішчэння тут нямецкіх яўрэяў і асаблівай пазіцыяй генеральнага камісара генеральнай акругі „Беларусь” Вільгельма Кубэ. Вядома, што апошні, хоць меў непасрэднае дачыненне да Халакосту, не ставіў знак роўнасці паміж нямецкімі і ненямецкімі яўрэямі. Калі поўнае і безагаворачнае ўключэнне апошніх у лік аб’ектаў Халакосту ўяўлялася генеральнаму камісару слушным, то намер вышэйшых чыноў СС знішчыць усіх без выключэння нямецкіх яўрэяў, дастаўленых у Мінск, Кубэ аспрэчваў. Яго першы аргумент — што з гледзішча асабістай гігіены „няма ніякага параўнання паміж высланымі і мясцовымі яўрэямі”, другі — што сярод прывезеных яўрэяў былі ветэраны Першай сусветнай вайны, якія рызыкавалі жыццём дзеля перамогі Нямеччыны, мелі ўзнагароды (143). Усё гэта Кубэ выклаў у спецыяльным лісце ў РСХА. І рэакцыя эсэсаўскіх вярхоў была неадкладнай. Адзін з архітэктараў Халакосту Гей-

дрых прыляцеў з Берліна ў Мінск толькі для таго, каб аб'явіць вымову генеральнаму камісару акругі „Беларусь" (144).

Аўтар кнігі вызначыў, напрыклад, што імперскі міністр авіяцыі Герман Герынг наведваў Брэст, райхсфюрэр СС Генрых Гімлер — Мінск, як і стаўку Гітлера пад Вінніцай — месца, якое паплечнікі фюрэра наведвалі найчасцей. Там бываў грос-адмірал Карл Дзёніц, райхслейтэр, обергрупенфюрэр СС Отта Дзітрых, кіраўнік ведамства па выкарыстанні працоўнай сілы обергрупенфюрэр СС Фрыдрых Заўкель, які быў арганізатарам масавага вывазу насельніцтва з Савецкага Саюза і іншых акупаваных дзяржаў, з чым былі звязаны ажно тры яго паездкі ў Мінск. Дакладна выяўлена, што 26 жніўня 1941 г. у Брэсцкай крэпасці знаходзіўся Рыбентроп. Добра вядома і тое, што імперскі міністр замежных спраў неаднойчы бываў у 1942–1943 г. у стаўцы Гітлера пад Вінніцай (212).

Бываў у Беларусі і імперскі міністр па справах акупаваных усходніх тэрыторый Альфрэд Розенберг, адзін з архітэктараў нямецкай акупацыйнай палітыкі адносна Прыбалтыкі, Беларусі, Украіны. Аўтар лічыць, што пры ўсім сваім расісцкім антысемітызме і заалагічнай русафобіі „ён быў адзіным сярод нацысцкага кіраўніцтва, хто рабіў адрозненне паміж рускімі і іншымі нацыянальнасцямі Савецкага Саюза", а ў Масковіі ачаг „руска-мангольскай адсталасці", які і пры царскім, і пры савецкім рэжымах падаўляў нацыянальную своеасаблівасць многіх нярускіх народаў і праводзіў іх гвалтоўную русіфікацыю. „Немцы выступалі тут як вызваліцелі ад бальшавіцкага прыгнёту і давалі магчымасць стварыць уласныя аўтаномныя дзяржавы пад нямецкай абаронай" (215). Так, прыляцеўшы ў Мінск у траўні 1942 г., А. Розенберг, хоць і выдатна ведаў пра існаванне плана „Ост", „у гутарцы з кіраўніцтвам БНС (Беларускай Народнай Самапомачы) заявіў, што Нямеччына зацікаўлена ў існаванні незалежнай і моцнай Беларусі як нямецкага фарпоста на ўсходзе" (218).

Не мог не наведваць заходнія вобласці СССР галоўны ад'ютант Гітлера Рудольф Шмунт. У кнізе паказаны яго ўплыў на прыняцце Гітлерам рашэнняў у час знаходжання ў дадзеным рэгіёне. А імперскі міністр узбраенняў і боепрыпасаў Альберт Шпеер неаднаразова бываў на Украіне. Па зразумелых прычынах прыярытэт належаў стаўцы Гітлера пад Вінніцай, куды імперскі міністр узбраенняў і боепрыпасаў выязджаў на абмеркаванне з фюрэрам розных тэхнічных нюансаў. Аўтар адзначае, што як галоўнакамандуючы сухапутнымі войскамі Шпеер „вельмі цікавіўся імі і імкнуўся сам вырашаць многія пытанні" (231).

Трэці, самы вялікі, раздзел кнігі прысвечаны гітлераўскім военачальнікам у заходніх абласцях СССР (1941–1944). Агулам разгледжаны 41 военачальнік. На прыкладзе некаторых з іх аўтар паказаў, як канкрэтна яны вырашалі свае задачы ў сітуацыі, калі стратэгічная ініцыятыва знаходзілася на нямецкім баку, і наадварот, калі яна перайшла да Чырвонай Арміі.

Мяркуючы па „Дадатку", у заходніх абласцях СССР бывалі галоўны дыверсант нацысцкай Нямеччыны Отта Скарцэні і оберштурмбанфюрэр Адольф Эйхман. Першы ўваходзіў у склад войскаў Вермахта, якія ваявалі з абаронцамі Брэсцкай крэпасці (485), а другі прыязджаў з мэтай актывізацыі знішчэння яўрэяў.

Кніга прафесара Э. Іофе, якая стала плёнам дваццацігадовых пошукаў аўтара, абавязкова будзе запатрабавана і навукоўцамі, і выкладчыкамі гісторыі. Яе з вялікай цікавасцю змогуць чытаць усе, хто неабыякавы да гісторыі Другой сусветнай вайны.

Брэст *Міхаіл Стралец*

## Единорогъ: Материалы по военной истории Восточной Европы эпохи Средних веков и Раннего Нового времени. Вып. 2. Москва: Квадрига, 2011. 554 с. Карты, ил.

Напрыканцы лета 2011 г. у Маскве выйшаў з друку доўгачаканы другі выпуск „Единорога" — тэматычнага альманаха, прысвечанага ваеннай гісторыі Усходняй Еўропы эпохі Сярэднявечча і ранняга Новага часу. З'яўленне гэтага выдання ў 2009 г. стала ў пэўнай ступені сенсацыяй у навуковых колах, што было абумоўлена вялікай запатрабаванасцю зборніка, дзе на аб'ектыўна-навуковым грунце аддавалася б увага калізіям ваенных канфліктаў паміж усходнееўрапейскімі дзяржавамі, арганізацыі ўзброеных сілаў і іх забеспячэння, праблемам ваеннага майстэрства. З самага пачатку рэдакцыя альманаха ўзяла курс не на даказванне рацыі маскоўска-расійскай знешнепалітычнай лініі (што так ці іначай набывала канфрантацыйнае гучанне ў дыскусіі з гісторыкамі іншых краін), а на свабодны абмен меркаваннямі і канструктыўны пошук ісціны з прыцягненнем крыніц з розных бакоў.

Адразу скажам, што другі выпуск „Единорога", які рыхтаваўся досыць доўгі час, не расчараваў ні ў афармленні, ні ў змесце. Рэдакцыя альманаха трымае высокую планку, выпускаючы ў свет саліднае друкаванае выданне ў цвёрдай вокладцы, з загалоўкам, ціснёным залатымі літарамі, з грунтоўнай падборкай ілюстрацый і карт (выкананых у большасці светлай памяці Віктарам Цемушавым, які быў штатным рэдактарам-картографам альманаха). Выданне значна падрасло ў аб'ёме — другі выпуск налічвае аж 550 (!) старонак.

Змест альманаха паказвае, што яго павінен мець у сваёй бібліятэцы кожны, хто сур'ёзна цікавіцца ваеннай гісторыяй краін Усходняй Еўропы, перадусім ранняга Новага часу. Добрая палова матэрыялаў прама або ўскосна звязана з падзеямі на беларускай тэрыторыі. Асаблівая ўвага аддаецца XVII ст., якому прысвечана

12 публікацый з 19 (не лічачы рэцэнзій). Як і ў першым выпуску, рэдакцыя адводзіць вялікае месца публікацыі дакументальных матэрыялаў, прытым яны маюць разнастайны характар — ад спісаў і рэестраў вайсковых падраздзяленняў да ліставання палкаводцаў і нават соймікавых пастановаў (*laudum*).

Другі выпуск „Единорога” выразна адлюстроўвае, што вакол альманаха склалася сталае пладавітае ядро аўтараў. Алег Курбатаў размясціў тут ажно пяць публікацый, прытым амаль ва ўсіх рубрыках. Пашырылася кола польскіх вучоных: да Томаша Бохуна дабавіліся Конрад Бабятыньскі і Анджэй Харатым з публікацыямі крыніц.

Відавочна, што кааперацыя з замежнымі вайсковымі гісторыкамі (польскі вучоны Т. Бохун выступае намеснікам галоўнага рэдактара) спрыяе падвышэнню якасці матэрыялаў — без трывіяльнага абвінавачвання адзін аднаго ў шальмаванні гісторыі, перацягванні фактаў на свой бок і г. д. Адчуваецца двухбаковая канструктыўная праца, якая ператвараецца ў работу над выпраўленнем памылак і ўдакладненнем звестак пра важныя падзеі ваеннай гісторыі Расійскай дзяржавы, Рэчы Паспалітай і Украіны.

Прывядзем прыклады. А. Курбатаў прысвяціў артыкул рэканструкцыі бітвы пад вёскай Даманы 12 лютага 1655 г. Правёўшы дэталёвы і ўсёахопны аналіз максімальнага кола крыніц, сярод якіх былі новыя дакументы з расійскіх архіваў, невядомыя польскім даследчыкам (маецца на ўвазе перадусім К. Бабятыньскі), аўтар прыйшоў да высновы, што „внимательное сопоставление документов [воюющих] сторон позволяет не только свести к минимуму ошибки в оценке состава противоборствующих отрядов, но и уточнить время и место события, а также довольно подробно описать его ход. <…> В противном случае неверно понятая одним ученым фраза из единственно использованного источника может послужить причиной грубейшей ошибки другого исследователя…” (78). Варта дадаць, што свае меркаванні А. Курбатаў дапоўніў публікацыямі найважнейшых крыніц па тэме.

Такі метад так ці іначай прыводзіць да праблемы крытыкі наяўных гістарыяграфічных стэрэатыпаў і развянчання прапагандысцкіх міфаў, што добра відаць па артыкуле іншага маскоўскага даследчыка І. Бабуліна, які прысвечаны праблеме складу і колькасці расійскага войска ў вядомай бітве пад Канатопам 1659 г. У высновах ён абапіраецца на матэрыялы справаводчай дакументацыі Разраднага прыказа, якая складалася ў мэтах кантролю за фінансаваннем і забеспячэннем расійскай арміі. Дадзеныя падобных дакументаў, на погляд аўтара, маюць высокую ступень верагоднасці і праўдзівасці, у адрозненне да наратыўных крыніц. І. Бабулін прыходзіць да заключэння, што расійскае войска складала максімум 34 тыс. чалавек, што абсалютна разыходзіцца з інфармацыяй казацкіх летапісаў і польскіх хронік, якія падаюць лічбу 100–150 тыс. жаўнераў. Больш за тое, атрымліваецца, што ўкраінскае войска пераважала расійцаў па колькасці ў паўтара раза.

У такім жа рэчышчы, на гэты раз верыфікуючы звесткі ўкраінскіх даследчыкаў, знаходзіцца публікацыя К. Качагарава, прысвечаная праблеме стратаў Запарожскага войска ў чыгірынскай кампаніі 1678 г. Друкуючы арыгіналы крыніц, якія захоўваюцца ў РДАСА, расійскаму вучонаму ўдалося ўдакладніць лічбы стратаў казакоў. Да публікацыі дададзены імянны паказальнік, які значна палягчае пошук патрэбных асобаў.

З матэрыялаў, найбольш цікавых для беларускага чытача, трэба адзначыць працу Т. Бохуна, які напісаў пра змаганне Яна Караля Хадкевіча за Маскву ў 1612 г., паспрабаваўшы адказаць на пытанне аб прычынах паражэння войска Рэчы Паспалітай у гэтай кампаніі.

Яшчэ некалькі публікацый прысвечана вайне паміж Рэччу Паспалітай і Расійскай дзяржавай 1654–1667 г. Польскі гісторык Конрад Бабятыньскі апублікаваў нізку лістоў Януша Радзівіла да Яна Казіміра пра баі з расійскімі войскамі ў лютым — красавіку 1655 г., копіі якіх захоўваюцца ў бібліятэцы Чартарыйскіх у Кракаве. Расійскі гісторык П. Прудоўскі падрыхтаваў да друку адпіску царскага дыпламата пра абарону Коўна ад

войскаў Рэчы Паспалітай у канцы 1658 — пачатку 1659 г. А. Курбатаў даў апісанне палкоў драгунскага і салдацкага строю войска Расійскай дзяржавы, якія існавалі напярэдадні вайны.

Не менш цікавымі выглядаюць два дакументы па гісторыі Смаленскай вайны 1632–1634 г., якія апублікаваў польскі даследчык А. Харатым. Яны звязаны з Полацкам: першы з іх — гэта маніфестацыя мяшчан супраць смаленскага падстолія Пятра Мравінскага, другі — лаўдум сойміка Полацкага ваяводства ад 5 лютага 1633 г. Гэтыя дакументы ўносяць новыя звесткі пра малавядомыя падзеі, звязаныя з разгортваннем ваенных дзеянняў.

З больш ранніх часоў цікавасць уяўляюць матэрыялы пра абвяшчэнне Маскоўскай дзяржавай Інфлянцкай вайны, апублікаваныя і прааналізаваныя А. Філюшкіным і В. Паповым. Як блізкія да гэтай тэматыкі, адзначым, што ўважлівае прачытанне маскоўскіх пасольскіх кніг дазволіла б даследчыкам падкарэктаваць свае высновы наконт уплыву падзей пад Пазволем у верасні 1557 г. на распачынанне маскоўцамі Інфлянцкай вайны.

Важныя матэрыялы пра паход крымскага хана Даўлет-Гірэя на Маскву ў 1572 г. апублікавалі А. Малоў і А. Вінаградаў, забяспечваючы іх дэталёвым аналізам міжнароднай сітуацыі і ваенных падзей. Варта адзначыць таксама біяграфічны нарыс „касімаўскага цара” Сімяона Бекбулатавіча аўтарства разанскага даследчыка А. Белякова. У ім раскрываюцца новыя факты з жыцця гэтага Чынгізіда, удакладняюцца генеалагічныя сувязі, даюцца падрабязныя звесткі пра яго вайсковую службу.

Немалая частка альманаха прысвечана XVIII ст. Гэтыя матэрыялы, аднак, не завязаны на стасунках з Рэччу Паспалітай і больш патрэбныя тым, хто цікавіцца ўнутранай расійскай гісторыяй. І. Курукін прааналізаваў планы і вынікі Персідскага паходу Пятра І. Е. Гусарава дала апісанне невядомага чарцяжа з часоў дэрбенцкага паходу Пятра І, а таксама ў асобным артыкуле з яўным палемічным адценнем распавяла пра існаванне „коннай каруселі” ў часы панавання Елі-

заветы Пятроўны. В. Навасёлаў прысвяціў увагу вытворчасці і выпрабаванню шпажных клінкоў у 30-я г. XVIII ст. А. Дзмітрыеў ахарактарызаваў гарнізонныя падраздзяленні расійскай арміі на тэрыторыі Сібіры ў 40-я г. XVIII ст.

Акрамя таго, варта звярнуць увагу на асобны блок рэцэнзій і аглядаў. Тут размешчаны рэцэнзіі на апошнія манаграфічныя выданні Ю. Аляксеева, К. Качагарава, І. Габдуліна, Т. Таіравай-Якаўлевай. Таксама ёсць агляд дыскусіі пра колькасць ўзброеных сіл Расійскай дзяржавы ў XVI ст., які быў нядаўна ініцыяваны рэдакцыяй часопіса „Пецярбургскія славянскія і балканскія даследаванні”.

Узорнасці выдання перашкаджаюць толькі некаторыя дробныя памылкі, за якімі, што называецца, не дагледзелі рэдактары альманаха. Так, у публікацыі А. Філюшкіна і В. Папова фонд 389 РДАСА названы „Лівонскай метрыкай” замест „Літоўскай”. На ілюстрацыях Януш Радзівіл памылкова названы герцагам „на Берках” (слушна — „на Біржах”). Больш пільную ўвагу хацелася б бачыць да правільнага напісання ў спасылках прац на беларускай мове — традыцыйна тут сустракаюцца такія неахайнасці, як няўважлівыя адносіны да ***ў,*** мяккае ***р*** („Гілярія”) ці ***ш***, замена ***і*** на ***и*** і г. д.

Заканчваючы агульны агляд, трэба адзначыць, што вучоныя і ўсе тыя, хто цікавіцца ваеннай гісторыяй, атрымалі выдатнае выданне, якое падымае на добры навуковы ўзровень ваенна-гістарычную праблематыку і дазваляе гісторыкам з розных краін абменьвацца думкамі і адкрываць для сябе новыя крыніцы. Аднак не трэба забывацца, што альманах выходзіць у Маскве, і па падборы і падачы матэрыялаў добра відаць, што расійскія ваенныя гісторыкі сочаць за сваім інтарэсам, які заключаецца на гэты раз не ў эйфарычна-ўзнёслым паказе ўласных дасягненняў у ваеннай справе і ўхваленні або апраўданні дзеянняў расійскіх войскаў, а ў распрацоўцы навуковых праблем, якая грунтуецца на выкарыстанні шырокага кола крыніц і крытычнага метаду.

Мінск *Андрэй Янушкевіч*

## Российские и славянские исследования: научный сборник / редкол.: АНАТОЛИЙ П. САЛЬКОВ, ОЛЕГ А. ЯНОВСКИЙ (отв. ред) [и др.]. Вып. I–V. Минск: БГУ, 2004–2010.*

Беларуская славістыка мае глыбокія карані, аднак у адрозненне ад шматлікіх публікацый па гісторыі Беларусі ці Расіі матэрыялаў па гісторыі паўднёвых і заходніх славян у нашай краіне няшмат. Гэты ў пэўным сэнсе „недахоп" паспрабавалі выправіць на гістарычным факультэце БДУ, дзе з 2003 г. прайшла чарада абарон кандыдацкіх дысертацый па гісторыі Чэхаславакіі, Польшчы, Македоніі, Югаславіі, Харватыі, а з 2004 г. пачаў выходзіць зборнік навуковых артыкулаў пад назвай „Российские и славянские исследования". За перыяд з 2004 да 2010 г. убачылі свет пяць нумароў гэтага выдання, якое па праву стала вядучым у галіне замежнай славістыкі.

У першым выпуску матэрыял згрупаваны ў тры рубрыкі: „Расійская і славянская гісторыя ў перыяд Сярэднявечча", „Новы час у гісторыі Расіі і славянскіх народаў", „Праблемы навейшай гісторыі Расіі (СССР) і славянскіх краін". Працы беларускіх, украінскіх, расійскіх і польскіх гісторыкаў закраналі пераважна праблемы з гісторыі Расійскай імперыі і Беларусі, якая знаходзілася ў яе складзе, старажытнай гісторыі славянскіх народаў, гісторыі СССР і найноўшай гісторыі Польшчы.

Другі нумар навуковага зборніка займеў больш падрабязную рубрыкацыю (артыкулы, паведамленні, крыніцазнаўства і гістарыяграфія, публікацыі, крытыка і бібліяграфія, навуковае жыццё), шырокую тэматыку і міжнароднае прадстаўніцтва аўтараў. У ім раскрываліся структурна-функцыянальныя мадэлі вывучэння савецкай гісторыі 1930-х г. у англа-амерыкан-

* Вып. I (2004), 252 с.; вып. II (2007), 263 с.; вып. III (2008), 367 с.; вып. IV (2009), 431 с.; вып. V (2010), 419 с.

скай гістарыяграфіі (В. Мянькоўскі), паказваўся генезіс канцэпцыі старарускай народнасці ў працах У. Пічэты (Н. Усава), нямецкая эканамічная палітыка на акупаванай тэрыторыі Беларусі ў 1941–1944 г. (С. Новікаў), чэхаславацкая ідэя і „венгерскае пытанне" ў гады Першай сусветнай вайны (І. Кручкоў), характарызавалася становішча праваслаўнай царквы ў міжваеннай Польшчы (Я. Мірановіч) і адлюстроўваліся пытанні развіцця польскай сельскай гаспадаркі і сялянскага руху на старонках часопіса „Аграрныя праблемы" ў 1927–1935 г. (Г. Матвееў).

Канчаткова канцэпцыя штогодніка ўсталявалася з выхадам у 2008 г. трэцяга выпуску „Российских и славянских исследований". Менавіта з гэтага нумара структура часопіса стала ўключаць такія рубрыкі, як „Артыкулы", „Паведамленні", „Гістарычныя партрэты", „Гістарычная падзея — асоба ў гісторыі", „Крыніцазнаўства і гістарыяграфія", „Партрэты гісторыкаў", „Публікацыя", „Крытыка і бібліяграфія", „Навуковае жыццё".

Сярод дакументальных публікацый, змешчаных у II–V выпусках, пададзены вытрымкі з паказанняў У. Пічэты ў час яго знаходжання пад следствам з верасня 1930 да жніўня 1931 г. (вып. II); урыўкі з успамінаў і перапіскі старшыні польскай дэлегацыі на Рыжскай мірнай канферэнцыі Я. Домбскага пра тайныя перамовы са старшынёй расійска-ўкраінскай дэлегацыі А. Іофе наконт мяжы паміж Польшчай і Беларуссю (вып. III); заклік польскай моладзі да жанчын беларуска-літоўскіх зямель пад назвай „Литвинки и Русинки", які, па меркаванні аўтара прадмовы да дакумента А. Фірыновіч, мог узнікнуць у перыяд з красавіка 1861 да студзеня 1863 г. (вып. V).

Чацвёрты выпуск „Российских и славянских исследований" прысвечаны 75-годдзю гістарычнага факультэта БДУ, што ў першую чаргу адлюстравалася ў рубрыцы „Публікацыі". Яе значную частку склалі падрыхтаваныя расійскай даследчыцай Л. Уткінай дзённікавыя запісы У. Пічэты, якія ахопліваюць жыццё гісторыка да 1905 г. і ў 1944–1946 г., успаміны былых дэканаў гістфака І. Царук,

П. Шупляка і А. Яноўскага, дакументы, якія характарызуюць пэўныя этапы ў жыцці У. Пічэты, У. Перцава, Л. Шнеерсона.

Сярод матэрыялаў і паведамленняў III–V выпускаў можна вылучыць артыкулы А. Салькова па праблеме ўсталявання межаў у Паўднёвай Еўропе пасля Другой сусветнай вайны і пазіцыі СССР, матэрыялы па палітычнай гісторыі Польшчы, Чэхіі, Славакіі, Югаславіі, прапанаваныя як айчыннымі (І. Вашкевіч, Н. Прыступа, С. Лукашанец, Л. Козік, А. Космач, Ю. Паўлавец, А. Еўдакімовіч, В. Кухарэнка, А. Пеганаў і інш.), так і замежнымі (Т. Валакіціна, В. Комар, Я. Рыхлік, Р. Туркоўскі, Д. Алімаў, В. Варынскі, М. Шмігель і інш.) даследчыкамі. Вялікая колькасць публікацый прысвечана розным праблемам у гісторыі Беларусі: шляхецка-сялянскім міжсаслоўным адносінам на беларускіх землях у другой палове XVI — першай палове XVII ст. (П. Лойка), асаблівасцям рэгулявання ўнутранага гандлю на беларускіх землях у XVI — першай палове XVII ст. (А. Кісялёў), тэндэнцыям гаспадарчай дзейнасці ў парэформенным маёнтку на Палессі і ў прыватнасці ў маёнтках Цярэшчанкаў (В. Кахновіч), ролі дваранства ў сістэме гарадскога самакіравання Беларусі ў апошняй чвэрці XIX — пачатку XX ст. (І. Грыбко), удзелу беларускага сялянства ў „польскім” паўстанні 1830–1831 г. (У. Сосна), фарміраванню беларускай дыяспары ў Чэхаславакіі на пачатку 1920-х г. (А. Буча) і інш.

У зборніку закранаюцца і некаторыя праблемы метадалогіі гістарычнага даследавання. Так, А. Каханоўскі разглядае асаблівасці метадалогіі і методыкі аналізу сацыяльнай трансфармацыі беларускага грамадства ў другой палове XIX — пачатку XX ст. (вып. IV), а М. Сакалова прасочвае эвалюцыю канцэптаў „нацыя” і „нацыянальны суверэнітэт” у розныя гістарычныя перыяды і паказвае асноўныя падыходы сучасных беларускіх даследчыкаў да іх разумення (вып. V).

Адзін з пастаянных элементаў штогодніка — рубрыка „Партрэты гісторыкаў”. Першым матэрыялам у ёй

стаў артыкул А. Баранавай і А. Яноўскага, прысвечаны 130-годдзю з дня нараджэння У. Пічэты (вып. III). Аўтары засяродзілі ўвагу на „беларускай складовай" у біяграфіі знакамітага даследчыка і паказалі яго ўнёсак у станаўленне і развіццё не толькі БДУ, але і нацыянальнай гістарычнай навукі, асабліва такой яе часткі, як беларусазнаўства. Працягам публікацый пра вядомых даследчыкаў-славістаў сталі артыкул А. Давідсана пра М. Палецкіка (вып. IV) і матэрыялы А. Яноўскага і С. Цемушава пра А. Савіча (вып. V).

У рубрыцы „Крытыка і бібліяграфія" ўведзены ўнутраныя падзелы: „Разважанні над кнігай", „Рэцэнзіі", „Каротка пра кнігі". Варта адзначыць, што ва ўсіх падраздзелах прадстаўлены працы, якія выйшлі не толькі і не столькі ў Беларусі, колькі за яе межамі — у Польшчы, Расіі, Украіне, ЗША, Харватыі, Сербіі і іншых краінах. Аўтары публікацый знаёмяць чытачоў з дасягненнямі замежных калег-славістаў і дзеляцца сваімі разважаннямі і заўвагамі.

Варта падкрэсліць, што рэдактары „Российских и славянских исследований" вырашылі не спыняцца толькі на знаёмстве чытачоў з новым фактамі і падзеямі. Яны прапанавалі, на наш погляд, вельмі цікавы раздзел „Запрашэнне да дыскусіі" ў рубрыцы „Навуковае жыццё". У гэтай частцы зборніка былі прыведзены разважанні А. Яноўскага пра развіццё сучаснай нацыянальнай гісторыі (вып. II), А. Насковай пра стаўленне Сталіна да Арміі Краёвай (вып. III), А. Лукашэвіча пра ацэнку расійскіх службаў палітычнага вышуку і контрразведкі палітычнай сітуацыі ў беларускіх губернях напярэдадні вайны 1812 г. (вып. IV), А. Стыкаліна пра гісторыю падрыхтоўкі і правядзення маскоўскіх паседжанняў кампартый у лістападзе 1957 г., прысвечаных арганізацыі ўрачыстых мерапрыемстваў да 40-годдзя Кастрычніцкай рэвалюцыі (вып. V). На жаль, далей „запрашэння" гэтыя дыскусіі не пайшлі. Хаця ўздыманыя аўтарамі праблемы сапраўды заслугоўваюць абмеркавання. Можна спадзявацца, што ў перспектыве закранутыя ў штогодніку пытанні выклічуць актыўную рэакцыю навукоўцаў

не толькі з Беларусі, але і з іншых краін. Прынамсі рэдкалегія, спадзеючыся пашырыць кола сваіх чытачоў і патэнцыйных аўтараў, а таксама з увагі на невялікі наклад часопіса, з лютага 2009 г. стварыла сайт *(www.rsijournal.net)*, дзе рэгулярна размяшчае матэрыялы чарговых выданняў.

Спрабуючы пашырыць кантакты беларускіх славістаў з замежнымі калегамі, рэдкалегія штогодніка знаёміць чытачоў з цэнтрамі і школамі славістыкі і русістыкі, з працай навуковых канферэнцый і форумаў, запрашае да ўдзелу ў працы спецыялістаў з розных краін свету. Хочацца спадзявацца, што пачынанні беларускіх гісторыкаў-славістаў дадуць свой плён і прывядуць да актывізацыі даследаванняў не толькі па айчыннай гісторыі, але і па гісторыі іншых славянскіх народаў.

Мінск *Любоў Козік*

# Публікацыі па гісторыі ў беларускіх часопісах за 2010 г.

## Беларускі гістарычны часопіс

**Першы нумар** за 2010 г. пачынаецца матэрыялам **Вітаўта Чаропкі** „Іван Хруцкі: адкрыццё мастака (да 200-годдзя з дня нараджэння)", у якім ва ўласцівай аўтару маляўнічай манеры апавядаецца пра жыццё і творчасць Івана Хруцкага (1810–1885), робіцца спроба зняць шэраг супярэчнасцяў у дачыненні да біяграфіі мастака. Аднак поўная адсутнасць спасылак (пададзены толькі спіс літаратуры) змяншае магчымасць праверкі сцвярджэнняў аўтара. Тры наступныя артыкулы прысвечаны гісторыі царквы пры бальшавіках. У даследаванні **Мікалая Клепікава** „Канфіскацыя царкоўных рэліквій у 1920-я г." распавядаецца, як пад лозунгам „дапамогі галадаючым" у 1922 г. ладзілася разрабаванне маёмасці рэлігійных супольнасцяў. Звесткі па ССРБ падаюцца як ілюстрацыйны матэрыял. Назва артыкула **Тацяны Івановай** — „Канфесіянальная сітуацыя на тэрыторыі Віцебскай губерні ў 1917–1924 г." — не цалкам адпавядае яго зместу, бо гаворка ідзе пераважна пра змены ў палітыцы бальшавіцкай улады ў дачыненні да хрысціянскіх канфесій. **Уладзімір Гарыдавец** („Гісторыя абнаўленчага расколу на Віцебшчыне") апісвае ўнутраны канфлікт у Праваслаўнай царкве ў 20–30-я г. XX ст. паміж прыхільнікамі захавання старых царкоўных звычаяў і т. зв. „абнаўленцамі", якія выступалі за адаптацыю праваслаўя да савецкага ладу. Святарскі сан аўтара, прыналежнасць да „патрыяршай" царквы не спрыяюць бесстароннасці выкладу. Тэма гісторыі адукацыі прадстаўлена артыкулам **Алены Трубчык** „Школьная справа на тэрыторыі Беларусі ў

час польска-савецкай вайны 1919–1920 г. на старонках перыядычнага друку”, дзе паказваецца адлюстраванне школьнай праблематыкі ў матэрыялах выбраных польскіх афіцыйных, беларускіх незалежных і савецкіх газет. **Мікалай Токараў** у матэрыяле „Акадэмік Павел Восіпавіч Горын (да 110-годдзя з дня нараджэння)” у характэрным для такога кшталту прынагодных тэкстаў патэтычным стылі апісвае лёс беларускага савецкага гісторыка Паўла Горына-Каляды (1900–1938), вучня Міхаіла Пакроўскага, прэзідэнта Беларускай акадэміі навук (1931–1935), які спрычыніўся да разгрому т. зв. „нацдэмаўшчыны”, але і сам не пазбегнуў рэпрэсій.

**Другі нумар.** У артыкуле **Аляксандра Кушнярэвіча** „Храмы-кастэлі Вялікага Княства Літоўскага” характарызуюцца помнікі абарончага дойлідства ВКЛ XV — пачатку XVII ст. Робіцца выснова, што прататыпам храмаў-кастэляў у ВКЛ (як каталіцкіх, так і праваслаўных) быў касцёл Святога Станіслава ў Вільні. Даследаванне **Алены Коршук** „Каштоўнасныя асаблівасці нацыянальнай свядомасці беларусаў” — чарговая спроба даказаць схільнасць беларусаў да калектывізму: на гэты раз у якасці прыкладаў фігуруюць незразумела па якіх параметрах абраныя вершы, а таксама варыянты беларускага гімна. Апошняе зусім недарэчна, бо любы гімн так ці інакш апелюе да супольнасці. **Аляксандр Павільч** („Асэнсаванне міжканфесіянальных адрозненняў у помніках усходнеславянскага пісьменства: культуралагічны аналіз”) імкнуўся „прасачыць эвалюцыю ўяўленняў пра міжканфесіянальныя адрозненні” (с. 25), але замест гэтага падаў малазвязаныя паміж сабой анатацыі дзясятка тэкстаў, якія адносяцца да розных часоў, належаць розным народам і культурам.

**Трэці нумар** адкрываецца артыкулам **Леаніда Землякова** і **Мікалая Шчокіна** «Праблема „адукацыя і рэлігія” ў кантэксце дзяржаўна-канфесіянальных адносін у Рэспубліцы Беларусь». Аўтары лічаць, што канфесійная адукацыя не адпавядае свецкаму характару навучальных устаноў, а вось рэлігіязнаўчая — цалкам магчымая ў іх сценах. Звяртаецца ўвага на неабход-

насць удасканалення заканадаўства ў сферы рэлігійнай адукацыі. Незразумела, аднак, наколькі дарэчны гэты матэрыял у гістарычным выданні. Таксама ўражвае няведанне аўтарамі беларускай мовы: „пабудова пісьменнай (!) палітыкі” — няўдалая калька з „построения грамотной политики”. **Віталь Галубовіч** („Палітычная сістэма Вялікага Княства Літоўскага ў 1588–1648 г.”) спыняецца на ролі манарха ў палітычным жыцці, дзяржаўных інстытуцыях, складзе, унутраным падзеле і ролі ў Рэчы Паспалітай палітычнай эліты ВКЛ, дзейнасці соймаў і соймікаў у акрэслены перыяд. Адзначаецца паступовае набліжэнне да польскіх узораў па ўсіх параметрах. Яшчэ два артыкулы прысвечаны пытанням этнаграфіі і мастацтвазнаўства. У матэрыяле **Аляксандры Раманюк** „Рэгіянальныя і лакальныя асаблівасці намітак Усходняга Палесся канца XIX — пачатку XX ст.” апісваюцца асаблівасці рушніковых галаўных убораў (не толькі ўласна намітак) у вылучаных М. Раманюком рэгіёнах — Калінкавіцкім, Давыд-Гарадоцкім, Тураўскім, Брагінскім, „Вічынскай зямлі” (тэрмін І. Сербава), Турава-Мазырскім. **Паліна Богдан** („Мастацкія асаблівасці традыцыйных беларускіх паясоў”) зрабіла (па традыцыйных этнаграфічных раёнах) апісанне паясоў паводле тэхнікі вырабу, памераў і дэкору — каларыстыкі і арнаментацыі.

**Чацвёрты нумар** мае выразную „ваенную” скіраванасць. Змешчана справаздача „Вялікая Айчынная вайна (агляд матэрыялаў круглага стала, які адбыўся ў Інстытуце гісторыі НАН Беларусі 3 сакавіка 2010 г.)”. Большасць выступленняў на „круглым стале” была вытрымана ў навуковым рэчышчы, арыентавана на акрэсленне актуальных задач вывучэння дадзенай тэмы, хоць не абышлося (даклады Уладзіміра Кузьменкі, Вадзіма Гігіна і асабліва Яўгена Новіка) без традыцыйнага „выкрывання фальсіфікатараў”. У артыкуле **Уладзіміра Паўлава** „Беларусы ў руху Супраціўлення Чэхаславакіі” сабраны звесткі пра нараджэнцаў Беларусі, якія былі партызанамі на тэрыторыі Чэхіі і Славакіі, апавядаецца як пра партызанаў — уцекачоў з палону і г. д., так

і пра спецыяльна закінутых з тэрыторыі СССР. Матэрыял **Неанілы Цыганок** „Праведнікі народаў свету" прысвечаны выратавальнікам яўрэяў у часы Другой сусветнай вайны ў Асіповіцкім раёне, вызначаецца матывацыя іх дзеянняў. Асаблівая ўвага звяртаецца на гісторыю праведніка Аляксея Дзянісава. З агульнай канвы выбіваецца даследаванне **Леаніда Казакова** „Узнікненне і развіццё фальваркаў у шляхецкіх уладаннях у Вялікім Княстве Літоўскім (другая палова XVI — першая палова XVII ст.)", у якім вызначаюцца асаблівасці з'яўлення фальваркаў у шляхецкіх маёнтках у ВКЛ, адрозненні фальваркаў ад гаспадарскіх двароў, асаблівасці гаспадарання пры дадзенай эканамічнай сістэме.

У **пятым нумары** тры матэрыялы прысвечаны гісторыі Полацка. У артыкуле **Марата Клімава** „Новае адкрыццё ў храналогіі старажытнага Полацка" адзначаецца, што знаходкі арабскіх дырхамаў, якія, на думку аўтара, трапілі ў Полацк у 820–840-я г., пацвярджаюць існаванне Полацка на гарадзішчы ўжо ў першай палове IX ст. **Дзяніс Дук** („Ад Рагвалода да Івана Грознага: Верхні замак у сацыяльнай тапаграфіі Полацка") насуперак прынятаму ў ранейшай гістарыяграфіі меркаванню сцвярджае, што Верхні замак здзяйсняў функцыі дзядзінца не з XI, а з XIV ст. (княскі церам на ім даследчык датуе акурат XIV ст.), а дагэтуль ён быў сакральным (спачатку — паганскім, а пасля — хрысціянскім) цэнтрам. Матэрыял **Івана Саверчанкі** «„Полацкі летапіс" — галоўная крыніца палітычнай гісторыі Беларусі XII ст.» — гэта спроба рэканструяваць тэкст „Полацкага летапісу" на падставе Іпацьеўскага, Лаўрэнцьеўскага і Радзівілаўскага спісаў. Але ніяк не пазначаюцца прынцыпы адбору паведамленняў, бо адзін факт згадкі ў іх падзей і асоб, звязаных з Полацкай зямлёй, недастатковы для аднясення звестак у набыткі полацкага летапісання. Астатнія матэрыялы па гісторыі Беларусі датычаць XX ст. У артыкуле **Міхаіла Анісяева** „Арганізацыя Асобага аддзела Заходняга фронту" апісваецца стварэнне, структура і паўнамоцтвы савецкай ваеннай контрразведкі

на тэрыторыі Беларусі ў 1919–1920 г. **Вольга Коваль** у працы „Узаемасувязь беларускай і ўкраінскай эміграцыі міжваеннага часу (па матэрыялах беларускай эмігранцкай прэсы)" адзначае сумесны ўдзел беларусаў і ўкраінцаў у палітычных і грамадскіх мерапрыемствах, падкрэслівае, што беларускія дзеячы лічылі ўкраінцаў прыкладам для сябе.

Надзіва шмат матэрыялаў па сярэднявечнай і раннемадэрнай гісторыі Беларусі і ў **шостым нумары**. У артыкуле **Аляксандра Доўнара** „Белавежская пушча ў XVI–XVIII ст.: асноўныя вехі гісторыі" апавядаецца пра сістэму аховы і карыстання ў Белавежскай пушчы, вялікая ўвага аддадзена розным катэгорыям насельніцтва, што служылі ў пушчы. **Дзмітрый Крывашэеў** („Тэрміналогія лясных промыслаў у Вялікім Княстве Літоўскім XIV–XVI ст.") падае назвы прыстасаванняў для палявання, баброўніцтва, бортніцтва і нарыхтоўкі драўніны. Робіцца выснова, што за выняткам нямецкамоўнай тэрміналогіі апошняга промыслу назвы астатніх прыладаў маюць мясцовае паходжанне. Тэма Другой сусветнай вайны раскрываецца ў тэкстах **Сяргея Новікава** („Абарона Брэсцкай крэпасці: традыцыйнае і новае ў гістарыяграфіі") і **Крысціяна Ганцара** („Штурм Брэсцкай крэпасці"). Гэтыя артыкулы ўяўляюць сабой рэцэнзіі на працу расійскага даследчыка Расціслава Аліева „Штурм Брэсцкай крэпасці" (2008), у якой гісторыя абароны Брэсцкай крэпасці падаецца не як звычайна, на падставе ўспамінаў абаронцаў, а па звестках нямецкіх крыніц. Да пераважна станоўчай рэцэнзіі С. Новікава (К. Ганцар куды больш крытычны) дададзены яшчэ выклад савецкай (яна ж — афіцыйная беларуская) версіі гісторыі абароны.

**Сёмы нумар** прысвечаны 600-годдзю Грунвальдскай бітвы. У артыкуле **Руслана Гагуа** „Грунвальдская бітва 1410 г." апавядаецца пра перадгісторыю і ход Вялікай вайны 1409–1411 г. у цэлым і, вядома ж, пра Грунвальдскую бітву 15 ліпеня 1410 г. Аўтар разглядае ролю Ягайлы ў бітве, значэнне смаленскіх палкоў і інш. Яшчэ адзін аналіз перадумоваў і ходу бітвы робіць **Юрый Бохан** („Да пытання аб некаторых дыскусійных момантах

Грунвальдскай бітвы 1410 г.”). Даследчык спыняецца на легендзе аб наяўнасці „воўчых ям”, а таксама на пытаннях размяшчэння войскаў перад бітвай і ўласна яе ходу, перадусім, характару і маштабаў уцёкаў войска ВКЛ. Як і ў папярэднім нумары, два даследаванні напісаны пра Другую сусветную вайну і яе наступствы. **Сяргей Новікаў** („Магілёўская бітва 1941 г. у данясеннях вермахта”) на падставе нямецкіх крыніц апісвае бітву за Магілёў на яе апошнім этапе (20–26 ліпеня 1941 г.), адзначае выдатную сістэму абароны горада, удакладняе склад (па дывізіях і палках) абаронцаў, колькасць палонных, акрэслівае нямецкія страты. Аўтар прапануе прысвоіць Магілёву ганаровае званне „Горад-герой”. У артыкуле **Анатоля Шаркова** „Нацысцкія злачынцы перад судом ваенных трыбуналаў у Беларусі ў 1945–1950 г.” апавядаецца пра дзейнасць ваенна-палявых судоў, адкрытыя і закрытыя судовыя працэсы над ваеннымі злачынцамі. Падкрэсліваецца, што калі адкрытыя працэсы ў межах ваенных трыбуналаў адбываліся з захаваннем законнасці, то пры закрытай судавытворчасці назіраліся парушэнні. **Аляксандр Кушнір** і **Ігар Чаквін** („Этнагістарычныя асаблівасці фарміравання антрапалагічных рыс насельніцтва Беларусі”) паводле дадзеных даследавання чарапоў акрэсліваюць шляхі прыходу славян на тэрыторыю Беларусі (з поўдня), ролю балтаў і фіна-ўграў у этнагенезе беларусаў.

**У восьмым нумары** ў артыкуле „Рукапісная кніга ў Куцейне” **Юрый Лаўрык** разглядае рукапісы рэлігійнага характару, якія з розных прычын акрэсліваюцца як напісаныя ў Куцейне, і высвятляе, якія з іх сапраўды былі створаны ў куцеінскіх Багаяўленскім і Успенскім манастырах. У публікацыі **Вольгі Папко** „Арганізацыя паляванняў у ардынацыях князёў Радзівілаў у канцы XIX — пачатку XX ст.” апавядаецца пра паляванні ў Давыд-Гарадоцкай ардынацыі, якой у названы перыяд валодалі Лявон (1808–1885) і Антоній Вільгельм (1833–1904) Радзівілы. Асноўную частку матэрыялу складае пераклад успамінаў польскага мастака Юльяна Фалата (1853–1929) пра паляванне

1886 г., у якім удзельнічаў будучы германскі імператар Вільгельм II Гогенцолерн. У матэрыяле **Міхаіла Цубы** „Партызанскі рух на беларускіх землях у гады Першай сусветнай вайны” сцвярджаецца, што арганізаваны расійскімі ўладамі ў 1915–1917 г. партызанскі рух, за выняткам некалькіх удалых аперацый з удзелам мясцовага насельніцтва, не меў поспеху, затое сапраўдны масавы рух супраць нямецкага панавання разгарнуўся ў 1918 г., калі яго імкнуліся ўзначаліць беларускія эсэры і бальшавікі. У матэрыяле **Ніны Змачынскай** „З гісторыі збораў медыцынскіх кніг у Беларусі (да 70-годдзя Рэспубліканскай навуковай медыцынскай бібліятэкі)” падаецца гісторыя медыцынскіх кніжных збораў на тэрыторыі Беларусі з часоў Сярэднявечча. Але асноўная ўвага звернута на перыяд канца XIX — XX ст. і перадусім на стварэнне (1940) і дзейнасць Рэспубліканскай навуковай медыцынскай бібліятэкі.

Тэмай **дзявятага нумара** стала гісторыя Бабруйска. У артыкуле **Вітаўта Чаропкі** „Бабруйск: горад-папялушка” асноўная ўвага аддаецца гісторыі Бабруйскай крэпасці як вайсковай фартэцыі і турме, акрамя таго, апавядаецца пра мінулае Бабруйска ў цэлым, згадваюцца яго вядомыя нараджэнцы і жыхары. **Іна Аўсейчык** („Бабруйская крэпасць: помнік гісторыі і архітэктуры”) падрабязна спыняецца на сістэме ўмацаванняў крэпасці, апісвае план яе аднаўлення. Яшчэ два тэксты належаць да галіны гісторыі мастацтваў. У матэрыяле **Наталлі Пінчук** „Раслінны, зааморфны і антрапаморфны матывы ў дэкоры металічных упрыгажэнняў X–XIII ст. на беларускіх землях” вызначаецца семантыка арнаментацыі металічных упрыгажэнняў X–XIII ст.: раслінныя і жывёльныя матывы знітоўваюцца з паганскімі вераваннямі, а антрапаморфныя — з хрысціянскім культам. У артыкуле **Алы Савіцкай** „Беларускі тэатр у 1930-я г.: пошукі, выпрабаванні, страты” распавядаецца, як пад сцягам барацьбы з „фармалізмам” і „нацдэмаўшчынай” знішчаліся здабыткі беларускага тэатральнага мастацтва, а пастаноўкі ператвараліся ў агіткі.

Найбольшая ўвага ў **дзясятым нумары** звернута на гісторыю беларускіх татараў. У артыкуле **Зарыны Канапацкай** „Славянамоўныя рукапісы арабскім пісьмом як крыніцы ведаў па культуры беларускіх татараў” даецца кароткая характарыстыка розных відаў рукапісных помнікаў беларускіх татараў (кітабы, хамаілы, тэфсіры, тэджвіды, далавары). Падкрэсліваецца, што гэтыя помнікі могуць служыць для вывучэння старабеларускай гутарковай мовы, хоць тут жа (с. 30) сцвярджаецца, што іх мова ўяўляла сабой „мясцовы гутарковы варыянт польскай мовы (моцна беларусіфікаваны)”, праўда, апошняя заўвага датычыць толькі XVII–XVIII ст. У матэрыяле **Ірыны Сынковай** і **Міхаіла Тарэлкі** „Шыіцкая малітва ў рукапісах беларускіх татараў” падаецца тэкст шыіцкай малітвы „Дванаццаць імамаў”, якая захавалася ў шэрагу кітабаў і хамаілаў беларускіх татараў-сунітаў. Робіцца спроба растлумачыць наяўнасць шыіцкай малітвы ў суніцкім тэксце — разуменне шыіцкіх імамаў як святых-памочнікаў, уплыў на беларускіх татараў з тэрыторый шыіцка-суніцкіх кантактаў — Ірана, Туркменістана, Малой Азіі. **Аляксандр Кушнярэвіч** і **Антон Францішак Брыль** („Готыка ў Ашмянах”) сцвярджаюць, што францысканскі касцёл у Ашмянах быў першапачаткова пабудаваны ў гатычным стылі, праявы чаго захаваліся да сёння. Удакладняецца дата яго пабудовы — канец XV — пачатак XVI ст. **Юрый Мікульскі** („Новыя лісты Філона Кміты-Чарнабыльскага”) акрэслівае ранейшыя публікацыі эпістальярнай спадчыны Філона Кміты-Чарнабыльскага, публікуе тры раней не друкаваныя лісты, з якіх можна даведацца пра абставіны канфлікту ў 1574–1576 г. за пасаду архімандрыта Кіева-Пячорскага манастыра (№ 2) і цяжкую хваробу Івана IV увесну 1579 г. (№ 3). У артыкуле **Эдуарда Карніловіча** „Міністр-прымірыцель з роду Святаполк-Мірскіх” акрэсліваецца палітычная біяграфія віленскага, гродзенскага і ковенскага генерал-губернатара (1902–1904), міністра ўнутраных спраў Расійскай імперыі (жнівень 1904 г. — 18 студзеня 1905 г.) князя Пятра Святаполк-Мірскага (1857–1914), які харак-

тарызуецца як ліберальны палітык. Сцвярджаецца, што ён не меў дачынення да „крывавай нядзелі”. **Вадзім Гігін** у публікацыі „Разгром небальшавіцкіх палітычных партый і груп на тэрыторыі Савецкай Беларусі ў першай палове 1920-х г.” падае змястоўны матэрыял, але асноўная ўвага аддаецца ліквідацыі агульнарасійскіх і яўрэйскіх партый на Віцебшчыне і Гомельшчыне, якія ў першай палове 20-х г. у склад Беларусі не ўваходзілі. З беларускіх партый аўтар падрабязна піша пра роспуск БПСР у 1924 г.

**Адзінаццаты нумар** пачынаецца аглядным артыкулам **Вольгі Ляўко** „Развіццё археалагічнай навукі ў Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі ў 2006–2010 г.”, у якім акрэсліваюцца вынікі даследаванняў на Агінскім канале, у Белавежскай пушчы, на стаянцы Кавальцы і паселішчах Крывінскага тарфяніка. Аўтарка таксама спыняецца на археалагічным вывучэнні помнікаў эпохі Вялікага перасялення народаў і часоў вікінгаў. Асобная ўвага аддаецца здабыткам беларускіх археолагаў у даследаванні гісторыі беларускіх гарадоў (Друцк, Мінск, Віцебск, Шклоў) у сярэднявечны і раннемадэрны перыяды. У артыкуле **Вітаўта Чаропкі** „Адысея Зыгмунта Мінейкі” апісваецца жыццё паўстанца 1863 г., ганаровага грамадзяніна Грэцыі, адкрывальніка антычнага горада Дадон Зыгмунта Мінейкі (1840–1925). Аповед пераважна вядзецца на падставе мемуараў самога Мінейкі і ўспамінаў яго знаёмых. „Ваенная Беларусь у найноўшых нямецкіх даследаваннях” **Сяргея Новікава**: падаецца змест новых прац Бабеты Квінкерт, Богдана Мусяля і Аляксандра Брагеля. Крытычныя заўвагі робяцца толькі ў дачыненні да працы Мусяля. У даследаванні **Андрэя Гаранскага** і **Святланы Мандрык** „Рэформа прыходскага кіравання 1961 г. і яе наступствы ў Беларусі” ідзе гаворка пра адхіленне святароў ад фінансава-гаспадарчага кіравання парафіямі і перадачу гэтых функцый парафіяльным саветам, у якія ў тым ліку ўводзіліся адданыя савецкай уладзе людзі. Адзначаецца змяншэнне колькасці парафій і святароў у Праваслаўнай царкве ў Беларусі ў выніку рэформы.

**Дванаццаты нумар** змяшчае два матэрыялы па гісторыі мастацтваў. У артыкуле **Наталлі Пінчук** „Геаметрычныя матывы ў дэкоры металічных упрыгажэнняў IX–XIII ст. на беларускіх землях" пералічваюцца асноўныя геаметрычныя матывы на розных відах упрыгажэнняў, коратка вызначаецца іх сімвалічнае значэнне. **Наталля Наркевіч** („Скроневыя ўпрыгажэнні жанчын Беларусі XI–XIV ст.") апісвае знешні выгляд, тэхніку вырабу, мастацкае аздабленне скроневых колцаў, колтаў і раснаў. Сацыяльная гісторыя рэпрэзентавана артыкулам **Вольгі Сабалеўскай** „Феномен беднасці беларускіх яўрэяў у другой палове XIX ст.", у якім падкрэсліваецца наяўнасць вялікай колькасці бедных сярод яўрэйскага насельніцтва беларускіх губерняў, апісваецца сістэма дабрачыннасці і дапамогі, якая існавала ў яўрэйскім асяроддзі. Пытанні палітычнай гісторыі закранае **Рыгор Лазько** ў матэрыяле „Польска-савецкія мірныя перагаворы 1920 г. і лёс Беларусі", у якім на падставе ўважлівага аналізу крыніц сцвярджае, што другое абвяшчэнне ССРБ было толькі інструментам бальшавіцкай улады для аблягчэння перамоваў з Польшчай.

## Весці Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі. Серыя гуманітарных навук

У 2010 г. у выданні „Весці Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі. Серыя гуманітарных навук" было надрукавана 15 артыкулаў па гісторыі і этналогіі, з іх: 1 — па сусветнай гісторыі (у дадзеным аглядзе не падаецца), 2 — па гісторыі этналогіі, 1 — па гісторыі беларускага сярэднявечнага мастацтва; 1 — па гісторыі Рэчы Паспалітай XVIII ст. і ажно 10 (!) — па гісторыі Беларусі XX — пачатку XXI ст.

Тры гістарычныя і адзін этналагічны матэрыял змешчаны ў **першым нумары**. **Андрэй Мацук** („Барацьба магнацкіх груповак за ўрад падканцлера ВКЛ у 1752 г.") раскрывае падрабязнасці барацьбы за паса-

ду падканцлера ў 1752 г. (фактычна — за вяршэнства ў ВКЛ) паміж Радзівіламі і Фаміліяй (Чартарыйскімі), чый кандыдат Міхал Антоній Сапега ў выніку абышоў вылучэнца Радзівілаў Ігната Сапегу. Гэтае супрацьстаянне прааналізавана ў кантэксце імкнення Аўгуста III усталяваць спадчынную манархію, праціўнікамі чаго былі Чартарыйскія. У артыкуле **А. Зябко** „Антываенны рух на тэрыторыі Беларусі ў гады Першай сусветнай вайны (жнівень 1914 — люты 1917 г.) у савецкай і айчыннай гістарыяграфіі" характарызуецца вывучэнне антываеннага руху пад час Першай сусветнай вайны ў даследаваннях 20–50-х г., 60–80-х г. і найноўшага перыяду. Адзначаецца вялікая факталагічная база і тэндэнцыйныя ацэнкі, уласцівыя савецкай гістарыяграфіі, і нераспрацаванасць тэмы ў сучаснай беларускай навуцы. Робіцца спроба акрэсліць паняцце „антываенны рух". У матэрыяле **Надзеі Зайцавай** „Роля грамадскіх фондаў спажывання ў сацыяльным забеспячэнні калгаснага сялянства Беларусі (1966–1975)" акрэсліваюцца сферы, у якія накіроўваліся грамадскія фонды ў калгасах, прасочваецца дынаміка грашовых выплат, вызначаецца доля фондаў (28–30%), якая прыпадала на вёску. З артыкула **Наталлі Луйгас** „Роля навуковых школ у даследаванні праблемы беларускай сям'і 80–90-х г. XIX ст." вынікае, што мэтай аўтаркі было паказаць уплыў „юрыдычнай" (?), „эвалюцыйнай" і „міфалагічнай" школ на этнаграфічнае даследаванне сям'і. Але паколькі фактычна аналізуецца толькі спадчына М. Доўнара-Запольскага і Я. Карскага, атрымалася, што першы — і „юрыст", і „эвалюцыяніст", а другі — „эвалюцыяніст" з праявамі „міфалагічных" падыходаў.

„Гістарычную" частку **другога нумара** распачынае артыкул **Аляксандра Кавалені** „Вялікая Перамога — на вякі ў памяці людзей", у якім апавядаецца пра ўшанаванне ў Беларусі памяці герояў вайны, перадусім апісваюцца вялікія і малыя мемарыяльныя аб'екты. Тэкст змяшчае відавочную недакладнасць: „Вечны агонь [у Брэсцкай крэпасці] быў запалены ў дзень адкрыцця мемарыяла 9 мая 1985 г. Героем Савецкага Са-

юза, першым сакратаром ЦК КПБ Пятром Міронавічам Машэравым" (с. 59), што не адпавядае рэчаіснасці, бо П. Машэраў загінуў у 1980 г. У артыкуле **Надзеі Зайцавай** „Станаўленне сістэмы сацыяльнай абароны калгаснага сялянства БССР (1966–1975)" акрэсліваецца працэс стварэння адзінай сістэмы сацыяльнага страхавання (у 1971 г.) і пенсійнага забеспячэння (з 1964 г., цалкам — у 1971 г.) калгаснікаў. Адзначаецца, што іх сацыяльная абароненасць была ніжэйшая, чым рабочых і служачых у горадзе. У матэрыяле **Марыны Глеб** „Рэспубліка Беларусь і еўрапейскія міжнародныя арганізацыі" характарызуюцца ў становчым рэчышчы адносіны афіцыйнага Мінска з Цэнтральна-Еўрапейскай Ініцыятывай (Беларусь — удзельнік з 1996 г.), Арганізацыяй Чарнаморскага эканамічнага супрацоўніцтва (назіральнік з 2005 г.), Саветам дзяржаў Балтыйскага мора (назіральнік з 2009 г.), акрэсліваюцца асноўныя напрамкі кантактаў.

У **трэцім нумары** змешчаны наступныя працы. **Наталля Наркевіч** („Ювелірнае мастацтва Беларусі XI–XIII ст.") разглядае розныя віды скроневых, нагрудных, паясных, наручных упрыгажэнняў, а таксама асобна прадметы рэлігійнага культу. Артыкул **Вячаслава Даніловіча** „Моладзь у сацыяльна-эканамічным жыцці савецкай Беларусі ў пачатку 1920-х г." прысвечаны высвятленню значэння камсамола ў навучанні і працаўладкаванні моладзі ў ССРБ у першай палове 20-х г. XX ст. У матэрыяле **Ксеніі Разуванавай** „Асноўныя кірункі дзейнасці Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры ў Заходняй Беларусі (1926–1936)" апісваецца разнастайная дзейнасць БІГіК, перадусім у культурна-асветніцкай, а таксама ў гаспадарчай сферы. Але на с. 73 гісторык і грамадскі дзеяч Мікалай Шкялёнак чамусьці названы М. Шлякёнкам. У артыкуле **Уладзіміра Здановіча** „Беларусы на франтах вайны і ў еўрапейскім руху Супраціўлення ў айчыннай гістарыяграфіі (1991–2009)" аналізуюцца набыткі беларускай гістарыяграфіі па наступных тэмах: беларусы ў польскіх вайсковых фарміраваннях і Еўрапейскім руху Супраціву, жанчыны на вайне, роля заградатрадаў і штрафбатаў.

**Чацвёрты нумар.** У артыкуле **Наталлі Луйгас** „Станаўленне беларускай савецкай этнаграфічнай школы даследавання праблемы сям'і (50–70-я г. XX ст.)" апавядаецца пра асноўныя напрамкі ў вывучэнні сям'і і шлюбу ў беларускай савецкай этнаграфіі, акрэсліваюцца метадалагічныя падыходы ў іх адрозненні ад характэрных для ранейшых (напрыклад, прац М. Доўнара-Запольскага) даследаванняў. У матэрыяле **Мікалая Мязгі** „Польска-савецкая вайна 1919–1920 г. у савецкай міжваеннай гістарыяграфіі" паказваецца савецкі погляд на прычыны, характар, ход (перадусім бітву на Вісле) і вынікі вайны, беларускі нацыянальны рух пад час яе. Адзначаецца, што ў 30-я г. савецкая інтэрпрэтацыя вайны 1919–1920 г. зведала змены ў бок яшчэ большай ідэалагізацыі. **Віталь Крывуць** у артыкуле „Маладзёжная палітыка польскіх улад на тэрыторыі Навагрудскага ваяводства ў 1920–1930-я г." аналізуе сельскагаспадарчую і ваенную падрыхтоўку моладзі, акрэслівае дзейнасць польскіх праўрадавых моладзевых саюзаў.

## **Веснік БДУ.** Серыя 3

„Веснік БДУ" у сваёй гістарычнай частцы з'яўляецца, верагодна, адным з самых збалансаваных перыядычных выданняў Беларусі: прыкладна пароўну на яго старонках прысутнічаюць матэрыялы па гісторыі Беларусі і сусветнай гісторыі, рэпрэзентаваны іх розныя перыяды. У дадзеным аглядзе апісваюцца толькі артыкулы па гісторыі Беларусі.

**Першы нумар.** У артыкуле **Дзяніса Буціна** „Копны суд на беларускіх землях Вялікага Княства Літоўскага ў гістарыяграфіі" пасля падрабязнага акрэслення поглядаў гісторыкаў другой паловы XIX — першай трэці XX ст. на склад, механізм дзеяння і функцыі копнага суда робіцца выснова, што ўсе ранейшыя працы выкананы на састарэлай метадалагічнай базе і ўтрымліваюць памылковы тэзіс пра тоеснасць капы з судом пэўнай грамады. **Сяргей Бусько** („Дэпартамент паліцыі і прафесійны працоўны

рух у беларускіх губернях у 1895–1904 г.") асэнсоўвае „зубатаўшчыну" (падкантрольны паліцыі і абмежаваны эканамічнымі патрабаваннямі рух працоўных) як адну з апошніх магчымасцяў пазбегнуць рэвалюцыі ў Расійскай імперыі. Звернута ўвага на прычыны абрання беларускіх і літоўскіх губерняў для правядзення „зубатаўшчыны". У артыкуле **Андрэя Радзюка** „Органы Советской власти в Чечерской партизанской зоне на оккупированной территории Гомельской области (1941–1943)" апавядаецца пра дзейнасць партызан у раёнах Гомеля, Чачэрска, Свяцілавічаў і Кармы, ператварэнне гэтай тэрыторыі ў партызанскую зону, карную аперацыю па яе ліквідацыі ўлетку 1942 г. і аднаўленне яе функцыянавання ў лютым 1943 г. Падаюцца імёны арганізатараў і актыўных удзельнікаў партызанскіх атрадаў.

**Другі нумар** распачынаецца артыкулам **Ганны Карпечанкі** „Грамадска-палітычная і асветніцкая дзейнасць магнацкага роду Тышкевічаў у гістарыяграфіі канца XIX — пачатку XXI ст.", які ўяўляе сабой бессістэмнае пералічэнне (без усялякіх крытычных заўваг) прац пра Канстанціна і Яўстаха Тышкевічаў. У матэрыяле **Кацярыны Марозькі** „Пинский мужской Богоявленский монастырь: исторический аспект (вторая половина XIX — начало XX в.)" апавядаецца пра насельнікаў манастыра ў сярэдзіне XIX ст., робіцца спроба вызначыць матывацыю іх прыходу ў манастыр, акрэсліваецца матэрыяльнае становішча гэтай духоўнай установы.

**Трэці нумар.** У артыкуле **Таісіі Доўнар** „Зараджэнне айчыннай гісторыка-прававой навукі і яе развіццё ў Беларускім дзяржаўным універсітэце" пералічваюцца найбольш значныя дасягненні беларускай правазнаўчай думкі (у гэтым кантэксце згадваецца нават Еўфрасіння Полацкая), пачынаючы з эпохі Сярэднявечча. Галоўная ўвага аддаецца XX–XXI ст., адзначаюцца недахопы гісторыка-прававых даследаванняў у савецкі перыяд. **Максім Хамец** („Праблема функцыянавання павятовых соймікаў Вялікага Княства Літоўскага ў канцы XVII — першай палове XVIII ст. на беларускіх землях і яе адлюстраванне ў гістарыяграфіі") акрэслівае беларускую,

польскую, расійскую, літоўскую гістарыяграфію пытання па перыядзе XVI–XVIII ст., а не канца XVII — першай паловы XVIII ст., як пазначана ў назве. У даследаванні **Наталлі Карповіч** „Узровень адукаванасці праваслаўнага духавенства Беларусі ў другой палове XIX — пачатку XX ст.” адзначаецца, што ў дадзены перыяд існавала тэндэнцыя да павелічэння адукаванасці праваслаўнага духавенства, вызначаюцца прычыны гэтага. **Аляксандр Бурачонак** у артыкуле „Прамысловыя прадпрымальнікі ў сацыяльна-эканамічным жыцці Беларусі канца XIX — пачатку XX ст. (на прыкладзе фабрыкі па вытворчасці шпалераў К. М. Кантаровіча)” аналізуе прычыны поспеху фабрыкіКівы Меера Кантаровіча ў Мінску (1900–1916), сярод якіх вылучаюцца сацыяльнае забеспячэнне працоўных і наладжаныя эканамічныя сувязі з пакупнікамі і партнёрамі. У матэрыяле **Віктара Хаданёнка** „Праблема забеспячэння рускай арміі фуражом у гады Першай сусветнай вайны” адзначаецца, што ўвесь цяжар па забеспячэнні фуражом быў ускладзены на прыфрантавыя беларускія губерні. Складанасці з пастаўкамі абумоўліваліся завышанасцю патрабаванняў, недахопам працоўных рук і тэхнікі.

## **Весці БДПУ.** Серыя 2

У дадзеным выданні ў 2010 г. асноўная ўвага звярталася на гісторыю Беларусі XIX — пачатку XX ст. Так, у **першым нумары** гэтай тэме ў той ці іншай ступені былі прысвечаны шэсць артыкулаў. **Анжэла Лютая** („Айчынныя савецкія гісторыкі аб становішчы сельскай гаспадаркі ў Беларусі ў другой палове XVIII — першай палове XIX ст.”) аргументавана крытыкуе меркаванні беларускіх савецкіх гісторыка-аграрнікаў пра другую палову XVIII — першую палову XIX ст. як час генезісу капіталізму. У артыкуле **Святланы Талмачовай** „Праблема правядзення земскай рэформы ў беларуска-літоўскіх губернях” адлюстравана, як боязь „польскага ўплыву” кожны раз адкладала ўвядзенне земстваў

у беларускіх губернях, хоць гэта было эканамічна абумоўлена і мела падтрымку грамадскасці. **Таццяна Осіпава** ў матэрыяле „Інфармацыйныя магчымасці друкаваных крыніц пры даследаванні становішча рабочых цэнзавай прамысловасці Беларусі (1861–1914)" робіць крыніцазнаўчы аналіз статыстычных крыніц (пераважна аглядаў па губернях) па тэме, акрэслівае іх структуру і змест, адзначае вартасць і недахопы. У даследаванні **Ігара Гушчынскага** „Месца судовых устаноў у дзейнасці расійскага ўрада па стабілізацыі палітычнай сітуацыі ў Беларусі (1864–1914)" раскрываецца, якім чынам суд з'яўляўся часткай расійскай дзяржаўнай палітыкі ў рэгіёне: праз абмежаванне доступу ў судовыя структуры каталікоў і яўрэяў, працяглае нераспаўсюджанне судовай рэформы 1864 г., практыку паскоранага судаводства па „палітычных" справах. **Кацярына Драздова** ў матэрыяле „Роля банкаў у сацыяльна-эканамічным развіцці Беларусі (1861–1914)" акрэслівае ўплыў Дзяржаўнага і камерцыйных банкаў на развіццё прамысловасці, пераразмеркаванне зямельнай уласнасці ў вёсцы, функцыянаванне гандлёвых дамоў. **Ігар Груцо** ў артыкуле «Гісторыя сімвалаў воінскай доблесці ў кампаніі 1812 г. (па матэрыялах даследавання Edward Fraser „The war drama of the Eagles")» выяўляе недакладнасці і скажэнні ў працы 1912 г. (!) брытанскага гісторыка Эдварда Фрэйзера пра зберажэнне французамі пры адступленні з тэрыторыі Расійскай імперыі сімвалаў палкоў — „Арлоў". Яшчэ два матэрыялы па гісторыі Беларусі прысвечаны іншым часавым перыядам. У артыкуле **Андрэя Самусіка** „Уздзеянне Паўночнай вайны на адукацыйную справу Беларусі ў першай чвэрці XVIII ст." раскрываецца ўплыў разбурэнняў пад час Паўночнай вайны на дзейнасць езуіцкіх навучальных устаноў (часовае закрыццё, з'яўленне калегіумаў у больш бяспечных месцах), а таксама (ускосна) на актывізацыю адукацыйнай дзейнасці дамініканцаў і піяраў ва ўмовах паслаблення ролі езуітаў. **Сяргей Гарбіцкі** ў матэрыяле „Гістарыяграфія беларуска-чэшскіх узаемасувязей (другая палова XX — пачатак XXI ст.)" пералічвае пра-

цы, у якіх аналізуюцца беларуска-чэшскія адносіны, і робіць стандартную выснову, што яны „спецыяльна не вывучаліся” (с. 39) у гістарыяграфіі.

**Другі нумар.** **Уладзіслаў Кадзіра** ў артыкуле „Казацка-сялянскае паўстанне пад кіраўніцтвам К. Касінскага на тэрыторыі Беларусі і Украіны (1591–1593)” апісвае паўстанне Крыштафа Касінскага ў катэгорыях „класавай барацьбы” і „гісторыі двух братэрскіх [беларускага і ўкраінскага] народаў” (с. 44), хоць з тэксту ніяк не вынікае, што выступленне распаўсюдзілася на беларускія землі. Уражвае выказаная ў „рэферацe” ўпэўненасць, што „аналіз казацка-сялянскага паўстання (!) у другой палове XVI (!) — першай трэці XVII ст. (!) зроблены аўтарам пераканаўча, поўна і аб’ектыўна” (с. 113), асабліва калі ўлічыць, што тэкст напісаны ў асноўным па матэрыялах украінскіх даследаванняў і нават сінтэзаў. У артыкуле **Таццяны Палікоўскай** „Гісторыя станаўлення школьнага езуіцкага тэатра ў Беларусі ў айчыннай гістарыяграфіі” акрэсліваюцца падыходы беларускіх савецкіх даследчыкаў да разгляду школьнага езуіцкага тэатра. Аналізуюцца працы Я. Мараша, У. Конана, Я. Усікава, А. Мальдзіса, І. Ягоравай, Т. Бліновай. У даследаванні **Ігара Вугліка** „Рэгіянальныя асаблівасці традыцыйнай матэрыяльнай культуры і побыту беларускіх сялян XVII–XVIII ст.” вызначаюцца рэгіянальныя асаблівасці ў землеўладкаванні, забудове, прыладах працы, адзенні і знешнім выглядзе, акрэсліваюцца іх прычыны. **Ігар Груцо** („Сімвалы воінскай доблесці французскага войска ў ваеннай кампаніі 1812 г.: Па матэрыялах дарэвалюцыйнай расійскай гістарыяграфіі”) разглядае выпадкі звароту тагачасных даследчыкаў да пытання лёсу французскіх палкавых сімвалаў, робіцца акцэнт на недакладнасцях у гэтых працах. У матэрыяле **Анжэлы Лютай** „Даследаванне сацыяльных працэсаў у беларускай вёсцы ў 1861–1917 г. у айчыннай гістарыяграфіі першай трэці XX ст.” аналізуюцца погляды беларускіх гісторыкаў першай трэці XX ст. па акрэсленай тэме. Але галоўная мэта артыкула, здаецца, не ў гэтым, а ў крытыцы (дастаткова

абгрунтаванай) выдадзенай у 2005 г. гістарыяграфічнай працы Вячаслава Панюціча „Историография аграрной истории Беларуси 1861–1917 г.”. У матэрыяле **Святланы Талмачовай** „Удзел жыхароў заходніх губерняў у аказанні дапамогі рускай арміі пад час Руска-турэцкай вайны 1877–1878 г.” апісваецца як арганізацыя прызыву нараджэнцаў Беларусі ў армію, так і дабрачынная дзейнасць (збор сродкаў і г. д.) грамадзянскага насельніцтва беларускіх губерняў. **Ігар Гушчынскі** ў даследаванні „Дзейнасць натарыяльных установаў Беларусі і іх роля ў сацыяльна-эканамічным развіцці краю (1883–1914)” высвятляе станоўчыя і адмоўныя бакі сістэмы натарыяту ў Расійскай імперыі, асаблівасці яе функцыянавання ў беларускіх губернях, дзе яна была ўведзена толькі ў 1883 г. У артыкуле **Ірыны Лаўрыноўскай** „Грамадскі статус сялянкі ў Беларусі ў першай трэці XX ст.” паказваецца працэс пераадолення гендэрнай няроўнасці ў вёсцы, адзначаецца, што сяляне (у тым ліку самі жанчыны) негатыўна ставіліся да эмансіпацыі жанчын. **Сяргей Елізараў** („Плошча і колькасць насельніцтва БССР 1921–1938 г. у крыніцах і гістарыяграфіі”) адзначае несупадзенне дадзеных па тэрыторыі і насельніцтве ССРБ-БССР у розных крыніцах і даследаваннях, акрэслівае прычыны разыходжанняў, прапануе больш верагодныя, на яго думку, лічбы. У артыкуле **Георгія Карзенкі** „Даследаванні навукоўцаў Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны” з адчувальным пафасам апісваецца праца беларускіх навукоўцаў у эвакуацыі. Даследаванне **Анатоля Крыварота** „Узаемадзеянне беларускіх і расійскіх партызанскіх фарміраванняў на тэрыторыі заходніх абласцей БССР у 1942–1944 г.” дае ўяўленне аб дзейнасці на захадзе Беларусі закінутых з тэрыторыі РСФСР савецкіх партызан: іх брыгады складалі 21% ад агульнай колькасці ў рэгіёне, а 60% кіраўнікоў партызанскіх злучэнняў прыбылі менавіта з Расіі.

У **трэцім нумары** матэрыялаў на гістарычную тэматыку няма.

**Нумар чацвёрты**. У артыкуле **Аляксандра Корзюка** „Навуковая школа даследаванняў у галіне тэорыі

і методыкі навучання гісторыі ў Рэспубліцы Беларусь” пералічваюцца даследаванні ў галіне методыкі выкладання гісторыі і грамадазнаўства з 1970-х г. **Юрый Урублеўскі** („Ацэнка поглядаў расійскіх навукоўцаў на праблему паходжання гарадоў IX–XIII ст. на тэрыторыі Расіі і Беларусі”) разглядае наступныя тэорыі: „племянных гарадоў”, „замкавую”, „гарадоў-дзяржаў”, „шматварыянтнасці шляхоў утварэння гарадоў” і інш. Асобна звернута ўвага на даследаванне расійскімі навукоўцамі гарадоў у Беларусі. Але аўтар часам блытаецца ў вызначэнні нацыянальнай прыналежнасці: украінец Пётр Талочка ўведзены ў шэрагі расійскіх даследчыкаў (с. 25), а пра даследаванне расійскага гісторыка і археолага Леаніда Аляксеева сказана, што яно „адлюстроўвае асноўныя дасягненні айчыннай (!) археалагічнай навукі ў вывучэнні гісторыі беларускіх зямель і гарадоў у прыватнасці” (с. 27). Якая „Айчына” маецца на ўвазе — незразумела. Яшчэ адзін гістарыяграфічны матэрыял — гэта „Айчынная гістарыяграфія канца XX — пачатку XXI ст. гісторыі культурна-асветніцкай дзейнасці езуітаў у Беларусі” **Таццяны Палікоўскай**, якая у цэлым станоўча характарызуе набыткі сучаснай беларускай навукі па праблеме езуіцкай адукацыі, але падкрэслівае, што даследаванні вядуцца ў межах „гісторыі падзей”. **Уладзіслаў Кадзіра** і **Аляксандр Юдзінец** („Узмацненне феадальнага прыгнёту ў гарадах Беларусі і Украіны ў другой палове XVI — першай трэці XVII ст.”) імкнуцца паказаць узмацненне нацыянальнага і сацыяльна-эканамічнага прыгнёту беларускага і ўкраінскага насельніцтва ў акрэслены перыяд. **Раіса Зянюк** („Фарміраванне сеткі духоўных семінарый на тэрыторыі Віленскай, Мінскай і Магілёўскай каталіцкіх дыяцэзій у канцы XVIII — XIX ст.”) прасочвае, як змянялася колькасць каталіцкіх семінарый у залежнасці ад грамадска-палітычных абставінаў, перадусім, палітыкі расійскіх уладаў у дачыненні да Каталіцкай царквы. У артыкуле **Ігара Груцо** „Матэрыялы расійскіх архіваў як крыніцы па гісторыі воінскіх рэліквій французскага войска ў ваеннай кампаніі 1812 г.” апісваецца, як расійскія ўлады

выкарыстоўвалі захопленыя французскія вайсковыя сімвалы ў прапагандысцкіх мэтах, пры гэтым выконваючы „даробку” тых іх элементаў, якія не ўдалося ўзяць. **Таццяна Осіпава** („Заканадаўчае афармленне медыцынскай дапамогі рабочым цэнзавых прадпрыемстваў Беларусі ў другой палове XIX ст.”) аналізуе пастановы для Гродзенскай і Віленскай губерняў аб медыцынскай дапамозе працоўным, выяўляе адрозненні ў іх, характарызуе стан медыцынскага абслугоўвання на прадпрыемствах. У матэрыяле **Святланы Талмачовай** „Распаўсюджанне земскай рэформы ў заходніх губернях Расійскай імперыі (1903–1911)” разглядаюцца рэформы 1903 г., калі ў Віцебскай, Магілёўскай і Мінскай губернях былі ўведзены нявыбарныя камітэты па справах земскай гаспадаркі, і 1911 г., калі ў тых самых губернях былі створаны земствы на падставе „нацыянальнага” прынцыпу. **Уладзімір Пуцік** („Утварэнне землеўпарадкавальных камісій як пачатак зрухаў ва ўкараненні Сталыпінскай аграрнай рэформы на тэрыторыі Беларусі”) вызначае склад і паўнамоцтвы землеўпарадкавальных камісій, а таксама на падставе справаздач губернатараў характарызуе адносіны да іх сялян. У артыкуле **Кацярыны Крывічанінай** „Навукова-тэхнічнае супрацоўніцтва Беларусі і Расіі па рэалізацыі міждзяржаўных праграм (1997–2000)” апісваецца беларуска-расійскае супрацоўніцтва, якое ладзілася па наступных напрамках: лазерныя, касмічныя і камп’ютарныя тэхналогіі, машынабудаванне, аграномія, пераадоленне наступстваў Чарнобыльскай аварыі. Адзначаецца недахоп фінансавання праграм.

## **Веснік Брэсцкага ўніверсітэта.** Серыя 2

У 2010 г. „Веснік Брэсцкага ўніверсітэта” зазнаў рэарганізацыю, адным з вынікаў якой стала вылучэнне матэрыялаў па гісторыі (разам з эканомікай і правазнаўствам) у серыю 2 з перыядычнасцю выхаду 2 разы на год.

**Першы нумар.** Артыкул **Ірыны Шумскай** „Роль творческого наследия М. Огинского и С. Монюшко в культурном пространстве Польши и Беларуси” — гэта ўзнёслы аповед пра Міхала Клеафаса Агінскага і Станіслава Манюшку, іх значэнне для беларускай і польскай культуры. Незразумела, праўда, якая роля самога гэтага матэрыялу ў раздзеле „Гісторыя” ў навуковым выданні. У даследаванні **Васіля Табунова** „Положение православной церкви и вопрос о её реформировании на белорусских землях в конце XIX — начале XX ст.” акрэсліваюцца спробы рэформаў у Праваслаўнай царкве на мяжы XIX і XX ст. (патрэба склікання Памеснага сабору, павелічэнне ролі прыходаў, змяненні ў адносінах з дзяржавай) і стаўленне да іх іерархаў з беларускіх губерняў. У артыкуле **Наталлі Даўгялы** „Межконфессиональные отношения в БССР в 20-е г. XX в.” аналізуюцца ўзаемаадносіны праваслаўных, каталікоў, пратэстантаў і іўдзеяў паміж сабою, палітыка бальшавіцкай улады ў дачыненні да гэтых супольнасцяў. Артыкул напісаны пераважна на падставе савецкіх данясенняў, але пытанне пра іх аб’ектыўнасць і рэпрэзентыўнасць аўтарка чамусьці не ставіць. **Ігар Шаўчук** („Пераўтварэнне Інбелкульта ў Беларускую акадэмію навук”) раскрывае спробы ператварэння Інбелькульта ў БАН на працягу 1920-х г., акрэслівае навуковыя і ідэалагічныя прычыны іх няўдач, падрабязна спыняецца на працэсе стварэння БАН у 1928 г. У артыкуле **Аляксандра Савіча** „Нацыянальна-вызваленчы рух у Заходняй Беларусі 1921–1939 г. у беларускай савецкай гістарыяграфіі 1920-х — першай паловы 1950-х г.” паказваецца, як стаўленне да асобных пытанняў гісторыі Заходняй Беларусі (перадусім, ролі КПЗБ і БСРГ) змянялася ў залежнасці ад палітычнай кан’юнктуры. Тэму Заходняй Беларусі працягвае матэрыял **Вольгі Мярчук** „Працоўная эміграцыя насельніцтва заходнебеларускіх зямель у Францыю ў 1920–1930-я г.”, у якім адлюстроўваецца арганізацыя эміграцыі ў Францыю, асноўныя галіны, дзе працавалі выхадцы з Заходняй Беларусі, умовы жыцця і працы. У яшчэ адным „заходнебеларускім” артыкуле — „Дзей-

насць Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры на тэрыторыі Палескага ваяводства (1926–1936)” аўтарства **Ксеніі Разуванавай —** асноўная ўвага аддадзена вызначэнню прычын слабой рэпрэзентаванасці гурткоў БІГіК у Палескім ваяводстве. У даследаванні **Аляксандры Носавай** „Организация репатриации и социальной защиты детей-сирот в БССР” апісваецца працэс вяртання беларускіх дзяцей з замежных тэрыторый пасля Другой сусветнай вайны, іх уладкавання ў сем’і (родныя і прыёмныя), дзіцячыя дамы, акрэсліваюцца магчымасці адукацыі для такіх дзяцей. **Таццяна Саўчук** у артыкуле „Эволюция памятников Великой Отечественной войны на территории Брестской области” вылучае чатыры этапы ў стварэнні помнікаў, дае іх характарыстыку, адзначае, што сярод мемарыяльных аб’ектаў пераважалі скіраваныя на паказ велічы Перамогі, а не пакут жыхароў Беларусі.

Такім чынам, асноўны змест першага нумара склалі публікацыі па гісторыі Беларусі міжваеннага часу, а сярод іх найбольшая ўвага была звернута на праблемы існавання Заходняй Беларусі пад уладай Польшчы.

**Другі нумар** змяшчае толькі адно даследаванне пра Заходнюю Беларусь у міжваенны час. Гэта артыкул **Віталя Гарматнага** „Браніслаў Тарашкевіч і аграрнае пытанне ў Сойме ІІ Рэчы Паспалітай”, у якім акрэсліваецца пазіцыя Браніслава Тарашкевіча па аграрным пытанні, выказаная ім на паседжаннях Сойма, характарызуецца яго дзейнасць як члена БПК, БСРГ і КПЗБ. А тэмай нумара можна ў пэўнай ступені назваць гісторыю рэлігійнай дабрачыннасці: гэтаму далёка не „масаваму” сюжэту прысвечаны два матэрыялы. У артыкуле **Кацярыны Марозькі** „Благотворительная деятельность Минской православной епархии” апавядаецца пра дзейнасць Праваслаўнай царквы па дапамозе бедным у Мінскай губерні, а таксама пра ўдзел Царквы ў акцыях, інспіраваных дзяржавай, — зборах на пабудову храмаў у „заходніх губернях”, на Каўказе, у Палесціне і інш. **Андрэй Паўшок** („Благотворительные католические общества на территории Беларуси

и их деятельность в начале XX века") спачатку падае патрабаванні расійскага заканадаўства да грамадскіх аб'яднанняў (у тым ліку дабрачынных), а пасля характарызуе дзейнасць асобных каталіцкіх дабрачынных суполак. Некалькі іншы бок гісторыі Царквы закранаюць **Наталля Галімава** і **Ларыса Лаўрэенка** „Брестская епархия: основные аспекты религиозной жизни (1945 — 1960-е г.)": зроблена спроба вызначыць рэлігійнасць жыхароў Брэстчыны ў разгледжаны перыяд, паказваецца ўплыў дзеянняў савецкай улады на рэлігійнае жыццё. У даследаванні **Наталлі Аляксейчыкавай** „Вдовство в белорусских городах в XVI–XVIII в. (по материалам актовых книг Могилевского магистрата)" высвятляецца, як змяняўся сацыяльны статус (хоць на самай справе аўтарка разглядае толькі пытанні правасуб'ектнасці) чалавека пасля смерці сужонка. Адзначаецца, што статус мужчыны ніяк не змяняўся, а вось жанчыны-ўдовы маглі выступаць суб'ектамі ў здзелках у большай колькасці выпадкаў у параўнанні з замужнімі. Вартае пахвалы імкненне **Ігара Вугліка** („Застольны этыкет старабеларускай шляхты XVII–XVIII ст.: тыпалогія, гістарычныя змены") паказаць „старабеларускія" застольныя звычаі у еўрапейскім кантэксце, але выразаў кшталту „так было і на беларускіх землях" для гэтага недастаткова. Акрамя таго, прыкрае ўражанне пакідае процьма абдрукаў. **Аляксандр Савіч** („Дзіцячыя дамы на тэрыторыі Івацэвіцкага раёна ў другой палове 1940-х — 1950-я г.") характарызуе ў асноўным на прыкладзе Косаўскага дзіцячага дома ўмовы знаходжання дзяцей у такіх установах, прафесійную падрыхтоўку выхаваццеляў і настаўнікаў, іх адносіны да сваёй працы. У матэрыяле **Расціслава Цімафеева** „Культурный досуг работников транспортных предприятий БССР в 1943–1991 г." апісваецца арганізацыя адпачынку чыгуначнікаў, рачнікоў, аўта- і авіятранспартнікаў. Паказваецца функцыянаванне стацыянарных і перасоўных клубаў і г. д.

У адрозненне ад выпускаў за 2009 г. (іх агляд гл. у БГА, т. 17, сш. 1–2, с. 388–390), гэтым разам „Веснік Брэсцкага ўніверсітэта" не засяродзіўся толькі на XIX–XX ст.,

а змясціў урэшце і матэрыялы (хоць і нешматлікія) пра больш раннія перыяды гісторыі Беларусі.

## Веснік Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта

З 2010 г. часопіс выходзіць 6 разоў на год. З другога нумара выданне пазначаецца як унесенае „ў Пералік навуковых выданняў Рэспублікі Беларусь для апублікавання вынікаў дысертацыйных даследаванняў па біялагічных, педагагічных, фізіка-матэматычных навуках”, так што артыкулы па гісторыі з яго старонак зніклі, але ў **нумары першым** яны яшчэ былі.

Цэлы калектыў **(Аляксандр Саладкоў, Віктар Акуневіч, Аляксандр Дзядзінкін, Анатоль Дулаў)** стаў аўтарам „юбілейнага” матэрыялу „Витебский учительский институт: создание и деятельность (1910–1918)”, у якім адлюстроўваюцца падрыхтоўка да адкрыцця інстытута, арганізацыя ўступных экзаменаў і навучальнага працэсу ў ім, узровень ведаў выпускнікоў, магчымасці іх будучай кар’еры, а таксама змяненні ў дзейнасці ўстановы ў 1917 г. У даследаванні **Вольгі Емяльянчык** „Антропоэкологическая характеристика населения Полоцка XVII–XVIII в. (По материалам погребений на Полоцком городище)” на падставе разгляду параметраў росту, паталогій твару, прысутнасці траўмаў і праяваў захворванняў аналізуюцца працягласць і якасць жыцця полацкай шляхты XVII–XVIII ст. Робіцца параўнанне дадзеных з матэрыяламі з пахаванняў у г. Горы Вялікія, у сельскіх мясцовасцях поўначы Беларусі, а таксама са статыстычнымі звесткамі А. Дэмбавецкага па Магілёўскай губерні другой паловы XIX ст. **Дзмітрый Лаўрыновіч** („Еврейские либеральные партии и организации на территории России и Беларуси в 1907–1917 г.”) характарызуе „нацыянальныя” і агульнапалітычныя патрабаванні трох плыняў у яўрэйскім лібералізме: сіяністаў, якія выступалі за стварэнне асобнай яўрэйскай дзяржавы; Яўрэйскай народнай партыі (прыхільнікі С. Дубнова), якая распаўсюджвала ідэю аўтаноміі; а

таксама дзеячаў, якія гуртаваліся вакол Яўрэйскай народнай групы (прыхільнікі М. Вінавера) і Яўрэйскай дэмакратычнай групы, што не вылучалі спецыяльных „нацыянальных” задач. Акрэсліваецца ўдзел яўрэяўлібералаў у працы Дзяржаўных дум і Устаноўчага сходу. У артыкуле **Канстанціна Карпекіна** „Антырэлігійная палітыка савецкай улады ў дачыненні да іўдзейскіх культавых аб’ектаў на Віцебшчыне ў 1918–1929 г.” раскрываюцца мерапрыемствы бальшавіцкай улады па ліквідацыі сінагог, мікваў (басейнаў для амавення) і яўрэйскіх могілак. Адзначаецца, што ў гарадах гэтыя дзеянні набылі большы размах, чым у мястэчках.

## Известия Гомельского государственного университета имени Ф. Скорины

У 2010 г. толькі **нумар шосты** перыёдыка меў спецыяльную рубрыку „Гісторыя”, дзе большая частка матэрыялаў была прысвечана 1920–1930-м г. Частка з іх мае тэмай гісторыю Савецкай Беларусі. **Рыгор Лазько** („Нацыянальная палітыка савецкай Расіі на службе сусветнай рэвалюцыі: Па ідэалагічных дакументах 13 лістапада — 23 снежня 1918 г.”) падкрэслівае, што існавала прамая залежнасць абвяшчэння савецкіх рэспублік на заходніх ускраінах былой Расійскай імперыі ад планаў бальшавікоў па здзяйсненні сусветнай рэвалюцыі. Аўтар таксама спыняецца на вырашэнні праблемы позняга абвяшчэння ССРБ у гэтым кантэксце. **Сяргей Елізараў** у артыкуле „Отношения между Союзом ССР и БССР по вопросам административно-территориального деления (1919–1941)” адзначае, што БССР мела паўнамоцтвы самастойна вырашаць пытанні ўнутранага адміністрацыйнага падзелу, але яны (за выняткам перыяду 1920-х г.) усё адно павінны былі ўзгадняцца з Цэнтрам, а ў 1930–1940-я г. гэтымі справамі займалася фактычна толькі Масква. У матэрыяле **Міхаіла Старавойтава** „Естественное движение населения белорусско-российско-украинского пограни-

чья во второй половине 1920-х — 1930-е г.” прасочваецца дынаміка нараджальнасці і смяротнасці ў заходніх абласцях РСФСР, Кіеўскай, Житомірскай і Чарнігаўскай абласцях УССР і па ўсёй БССР (апошняе, як сцвярджаецца на с. 183, з-за таго, што ў БССР да 1938 г. абласцей не было). Характарызуецца ўплыў перасяленняў з вёскі ў горад, эпідэмій і голаду на натуральны прырост насельніцтва. У даследаванні **Андрэя Кротава** „Образ поляка в делах Гомельского ГПУ-УГБ НКВД БССР 1920–1930-х г.” аналізуюцца праявы польскага патрыятызму, якія ацэньваліся „чэкістамі” як антысавецкія. Аднак незразумела, як гэта суадносіцца з дэклараваным вывучэннем „вобраза паляка”. **Андрэй Лебедзеў** у даследаванні „Антикатолическая печатная пропаганда в БССР (1920-е г.)” акрэслівае тэматыку антыкаталіцкіх выступаў у савецкім друку і характарызуе прапагандысцкія метады — дыскрэдытацыю ксяндзоў, выкрыццё „сапраўднай сутнасці” рэлігіі, рэлігійных святаў і абрадаў, прасавецкую агітацыю былых святароў. У артыкуле **Аляксандра Куксы** „Торгово-экономические отношения между Беларусью и Украиной в первой половине 1919 г.” вызначаюцца наменклатура гандлю, магчымасці эканамічных зносін паміж тэрыторыямі ва ўмовах ваенных дзеянняў; адзначаецца кіраванне Масквой беларуска-ўкраінскіх гандлёвых стасункаў.

Па „заходнебеларускіх” сюжэтах імкнулася даследаваць беларуска-ўкраінскія сувязі **Вольга Коваль**, але назва яе артыкула — „Асаблівасці арганізацыі беларускай і ўкраінскай эканамічнай хвалі эміграцыі (1918–1939)” — не адпавядае зместу: адлюстроўваецца пераважна дзейнасць польскіх уладаў і прыватных кампаній па заахвочванні і правядзенні эміграцыі, але ніякіх „асаблівасцяў” для беларускіх і ўкраінскіх зямель не прасочваецца. Яшчэ адзін артыкул, што датычыцца мінулага Заходняй Беларусі, змясціў у нумары **Віталь Гарматны** („Заканадаўчая база аграрнай палітыкі польскіх улад у Заходняй Беларусі ў 1919–1925 г.”): выкладаецца змест прапанаваных законапраектаў і зацверджаных законаў па аграрным пытанні ў Другой Рэчы

Паспалітай, паказваецца пазіцыя польскіх палітычных груп па іх прыняцці. Таксама **Мікалай Мязга** („Польская гістарыяграфія польска-савецкіх адносін: этап станаўлення") аналізуе стаўленне польскіх палітыкаў і інтэлектуалаў (ужыты аўтарам тэрмін „гістарыяграфія" выглядае не зусім карэктным), выяўленае ў працах 1919–1926 г., да пытанняў польска-савецкай мяжы, пагаднення ў Рызе, „федэралісцкай" і „інкарпарацыйнай" палітыкі на „крэсах", значэння міжнароднай сітуацыі („германскі фактар", рашэнні міжнародных канферэнцый) для польска-савецкіх адносінаў. У даследаванні **Сяргея Шабельцава** „Просоветская ориентация белорусских иммигрантов из II Речи Посполитой в Аргентине (1930–1950)" паказваецца, што значная частка беларускіх міжваенных эмігрантаў з Заходняй Беларусі ў Аргенціну адрознівалася прасавецкімі і камуністычнымі настроямі, мела „ружовы" вобраз СССР, нават перабралася туды ў другой палове 1950-х г., але пасля тыя, каму дазволілі, палічылі за лепшае вярнуцца з Саюза ў Паўднёвую Амерыку.

Асветлены і ранейшыя перыяды беларускай гісторыі. **Сяргей Жыхараў** („Строительство и начало эксплуатации Московско-Брестской железной дороги в 70-е г. XIX в.") выяўляе прычыны будаўніцтва Маскоўска-Брэсцкай чыгункі, апісвае прапановы па яе маршруце (быў абраны шлях праз Мінск), ацэньвае якасць працы і адзначае, што ўдасканаленне чыгункі было звязана з ваеннымі патрэбамі расійскага ўрада. У артыкуле **Аксаны Яшчанкі** „Ученические экскурсии гомельчан накануне Первой мировой войны" апісваюцца формы правядзення і маршруты экскурсій (пераважна вучнёўскіх) як па мясцінах паблізу ад Гомеля, так і ў аддаленыя часткі Расійскай імперыі — Сярэднюю Азію, Фінляндыю.

Гісторыя пасля Другой Сусветнай вайны разгледжана ў наступных матэрыялах. **Ала Зелянкова** і **Марына Савінская** ў артыкуле „Малоизвестные страницы истории Гомельского государственного педагогического института (по материалам Национального архива Республики Беларусь)" апісваюць, як у 50-я — пачатку 60-х г.

у Гомельскім педынстытуце стваралі і закрывалі факультэты (у тым ліку гістарычны), набіралі навучэнцаў у аспірантуру. Таксама аўтаркі апавядаюць, як у 1957–1958 г. інстытут ледзь не спыніў існаванне. У матэрыяле **Таццяны Шкрабавай** „Материальная культура сельского населения Гомельщины в 50–80-е г. XX в.” акрэсліваецца ўплыў гарадскога ладу жыцця на змены ў забудове, звычаях, адзенні, занятках на вёсцы. Акрамя таго, **Анатоль Рубан** („Россия, Украина и Беларусь в условиях глобализации”), пачаўшы з уводзінаў у складаны лёс „славянства”, перайшоў да сучасных праблем Расіі і эканамічных інтарэсаў Беларусі ў адносінах з ёй і Украінай, што, аднак, не ёсць прадметам гістарычнай навукі.

У рубрыцы „Філасофія” змешчана даследаванне **Вячаслава Цацарына** „Белорусская историография в свете поэтологической философии истории Х. Уайта (на примере работ Н. И. Ермоловича)” — спроба прыкласці структурны метад Хэйдэна Уайта да аналізу гістарычнай канцэпцыі Міколы Ермаловіча: на думку аўтара, пабудова сюжэту ў ёй — камедыя з рысамі трагедыі (у тэрмінах Х. Уайта), тып доказу — кантэкстуалісцкі, ідэалагічны падтэкст — кансерватызм. Праблема, аднак, у тым, што працы Ермаловіча не прэзентуюць адэкватна беларускай гістарыяграфіі, таму аўтару варта б звярнуцца да канцэпцый іншых беларускіх навукоўцаў і публіцыстаў.

## **Веснік Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы.** Серыя 1

**Першы нумар.** Гісторыя ранняга Новага часу, якая знаходзіцца не ў асаблівай пашане ў большасці беларускіх перыёдыкаў, закранаецца **Валянцінам Голубевым** („Сельская абшчына ў дзяржаўных уладаннях на тэрыторыі Панямоння ў XVI–XVIII ст.”): як і ў іншых матэрыялах, даследчык імкнецца даказаць (і не без поспехаў), што абшчына „дзейнічала як чыста сялянскі, самарэгулюемы інстытут” (37) і не знікла пасля

ўвядзення „Уставы на валокі", а працягвала існаваць і нават (ва ўмовах аднаўлення гаспадаркі пасля шматлікіх войнаў) павялічвала сваё значэнне. Тэматычна блізкія даследаванні **Іны Соркінай** і **Вольгі Сабалеўскай**. У артыкуле І. Соркінай „Асноўныя тэндэнцыі развіцця мястэчак Беларусі ў канцы XVIII — першай палове XIX ст." аналізуюцца сацыяльная і эканамічная роля дадзенага тыпу паселішчаў, іх статус у расійскай адміністрацыйнай сістэме, існаванне яўрэйскага „штэтла" ў межах мястэчка. Матэрыял В. Сабалеўскай „Город как доминанта еврейской культуры Беларуси (конец XVIII — начало XX в.)" — гэта спроба акрэсліць значэнне горада ў жыцці яўрэяў заходніх губерняў Расійскай імперыі: адзначаецца, што прымусовае пасяленне ў гарадах спачатку спрыяла кансервацыі звычаяў традыцыйнага яўрэйскага грамадства, але потым „гарадское жыццё" прывяло да паступовай мадэрнізацыі яўрэйскай супольнасці на беларускіх землях.

Гісторыя 1920–1930-х г. прадстаўлена двума матэрыяламі. У даследаванні **Міхаіла Старавойтава** „Интеллигенция белорусско-российско-украинского пограничья в 1920–1930-е г. (этнокультурный аспект)" пад „інтэлігенцыяй" маюцца на ўвазе „кіраўнікі партыйных, дзяржаўных і грамадскіх арганізацый", „культасветпрацаўнікі", „працаўнікі мастацтва" (53), адзначаецца, што ўкраінцы і асабліва беларусы мелі ніжэйшы ўзровень адукацыі, чым прадстаўнікі нятытульных нацый. Аўтар згадвае, што шмат беларускай інтэлігенцыі працавала па-за межамі БССР (па выкладзеных дадзеных, адвакатаў- і юрысконсультаў-беларусаў у астатнім Саюзе было больш, чым у Беларусі — с. 56), але гэты факт на ніякія высновы, напрыклад пра нацыянальную палітыку ў Краіне Саветаў, даследчыка не натхняе. У артыкуле **Аляксея Загідуліна** „Спробы вырашэння нацыянальнага пытання польскімі ўладамі ў Заходняй Беларусі ў другой палове 30-х г." акрэсліваецца палітыка польскіх дзяржаўных дзеячоў другой паловы 1930-х г. па „вырашэнні" нацыянальнага пытання ў Заходняй Беларусі, г. зн. здзяйсненні поўнай нацыянальнай

асіміляцыі меншасцяў праз іх уцягванне ў грамадскае, эканамічнае і культурнае жыццё Польшчы. „Беларуска-польская тэма” раскрываецца і ў працах па больш позніх перыядах. **Віталь Барабаш** („Белосточчина в эпицентре советско-польского противоборства в 1943–1944 г.”) характарызуе дзейнасць савецкага кіраўніцтва (да 1944 г. — перасылка партызан, арганізацыя іх атрадаў, барацьба з АК; у 1944 г. — рух Чырвонай Арміі і „мерапрыемствы” НКУС), накіраваную на замацаванне на Беласточчыне, хоць апошняя ў выніку „палітычнай гульні” была аддадзена Польшчы. У артыкуле **Марыны Калацэй** і **Наталлі Улейчык** „Развитие национального образования этнических меньшинств на Гродненщине в 1990 — начале 2000-х г.” галоўная ўвага звернута на арганізацыю і дзейнасць дзвюх польскіх (у Гродне і Ваўкавыску) і дзвюх літоўскіх (у Пялясах і Рымдзюнах) школ, гаворыцца пра „школы выхаднога дня” іншых нацыянальных меншасцяў, акрэсліваюцца формы выкладання роднай мовы ў гэтых установах. У матэрыяле **Іосіфа Дарняк**а „Использование потенциала белорусского и польского сообществ в развитии белорусско-польских связей” адлюстроўваецца стан беларускай дыяспары ў Польшчы і польскай — у Беларусі ў 1991–2004 г. (але амаль увесь тэкст прысвечаны 90-м гадам), акрэсліваюцца кантакты ўладаў Беларусі і Польшчы са сваімі суайчыннікамі за мяжой. Аўтар старанна абыходзіць шматлікія супярэчлівыя моманты ў заяўленай тэме, можа, акурат таму ён апынуўся „ахвярай” клішаваных фраз: „В конце 90-х — начале 2000-х г. белорусскими учеными был проведен ряд научных конференцию [так у тэксце. — *Я. Г.*] по данной проблеме [2; 4; 20; 21], что должно было, по их мнению, способствовать актуализации существующих проблем [вылучана мною. — *Я. Г.*] в национальных вопросах” (87). Спадзяемся, на самай справе гэтыя канферэнцыі не мелі на мэце ўскладніць беларуска-польскія адносіны.

Вельмі папулярныя ў нумарах 2009 г. (іх агляд гл. у БГА, т. 17, сш. 1–2, с. 396–403) матэрыялы гістарыяграфічнай скіраванасці знайшлі месца і ў гэтым выпуску. **Тадэвуш Кручкоўскі** („Н. И. Кареев о цивили-

зационном выборе польского народа в средневековье") аналізуе погляды прадстаўніка расійскай ліберальнай гістарычнай думкі Мікалая Карэева (1850–1931) па пытаннях далучэння Польшчы да заходнееўрапейскай цывілізацыі, ролі каталіцтва ў яе гісторыі, адносінах Польшчы з Нямеччынай, Літвой і Руссю, характару палітычнага ладу Польшчы. **Аляксандр Бубноў** („Адлюстраванне дзейнасці беларускіх калабарацыяністаў на акупіраванай тэрыторыі Беларусі ў працах прадстаўнікоў замежнай гістарыяграфіі") разглядае працы Аляксандра Даліна, Нікаласа Вакара, Івана Любачкі і Юрыя Туронка. Аўтару трэба больш пільна рыхтаваць свае тэксты да друку, бо на с. 16 чытаем: „на думку саіскальніка", а гэта паказвае, што дадзены артыкул складаў частку дысертацыйнага даследавання. Матэрыял **Аляксандра Мініча** „Научные исследования исторических факультетов вузов Республики Беларусь в 90-е г. XX в." складаецца з пералічэння навукова-даследчых тэм, выкананых на гістарычных факультэтах БДУ, БДПУ імя Максіма Танка і ГрДу імя Янкі Купалы.

**Другі нумар** змяшчае матэрыялы амаль што толькі па гісторыі XX — пачатку XXI ст. Выключэнне — даследаванне **Алега Карповіча** „Сословный состав участников восстания 1830–1831 г. в Гродненской губернии", у якім робіцца выснова, што ў Гродзенскай губерні рухальнай сілай паўстання былі буйныя памешчыкі, дробнае дваранства было не дужа актыўным, а сяляне, хоць і складалі колькасную большасць сярод паўстанцаў, у асноўным прыцягваліся да ўдзелу сілай ці абяцаннямі з боку сваіх паноў. Перыяд Расійскай імперыі асвятляе і **Андрэй Паўшок** у артыкуле „Материалы по истории деятельности Римско-католической церкви в Беларуси в 1905–1907 г. в архивах Гродно и Минска": акрэсліваюцца фонды Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі ў Мінску і Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі ў Гродне, прысвечаныя дадзенай тэме, даецца іх кароткае апісанне (ступень паўнаты, дакладнасці і рэпрэзентатыўнасці не вызначаецца), прыводзяцца вытрымкі з дакументаў.

Гісторыя Заходняй Беларусі ў 1921–1939 г. адлюстравана ў двух тэкстах. **Андрэй Борка** („Структура і асаблівасці дзейнасці Брэсцкіх гарадскіх радаў”) пасля даследавання гарадскога самакіравання ў Гродне перайшоў да вывучэння гісторыі выбараў у шэсць гарадскіх радаў Брэста, іх нацыянальнага складу (беларусы адсутнічалі), паўнамоцтваў, кантролю іх ваяводскімі ўладамі. У матэрыяле **Вольгі Шчукі** „Деятельность еврейских политических партий и организаций в Западной Беларуси в 1934–1939 г.” вызначаюцца праграмныя тэзісы і падыходы да надзённых пытанняў (адносіны да „санацыі” і Канстытуцыі 1935 г., барацьба з фашызмам, рух за стварэнне Яўрэйскай дзяржавы) ліберальных, сацыялістычных, сіяніцкіх і кансерватыўна-клерыкальных яўрэйскіх партый і арганізацый; высвятляецца іх папулярнасць.

Яшчэ два даследаванні прысвечаны „каляваенным” справам. У артыкуле **Дзмітрыя Кіенкі** „Боевая подготовка личного состава ВВС ЗапОВО накануне Великой Отечественной войны” падкрэсліваецца, што перад вайной ваенна-паветраныя сілы ЗахАВА адрозніваліся слабой падрыхтаванасцю і нізкай дысцыплінай асабовага складу. **Валерый Чарапіца** ў матэрыяле „У истоков высшего образования в Западной Беларуси: жизненная драма директора Гродненского учительского института Д. П. Кардаша (1940–1950)” апісвае судовы перасслед Дзяменція Кардаша, у 1940–1941 г. дырэктара Гродзенскага настаўніцкага інстытута, які пасля вайны быў абвінавачаны ў антысавецкай дзейнасці і асуджаны на 10 гадоў, рэабілітаваны ў 1995 г.

Крыху асобна ад іншых тэкстаў у нумары стаіць праца **Алесі Гаравой** „Накірункі навукова-даследчай дзейнасці прафесарска-выкладчыцкага складу філалагічнага профілю ў ВНУ БССР (1944–1961)”, дзе апавядаецца пра адносіны дзяржавы да навуковых работнікаў (павышэнне матэрыяльнага забеспячэння і аднадчасова рэпрэсіі), тэматыку прац філолагаў, у асноўным скіраваных на падкрэсленне блізкасці беларускай і рускай моў.

Яшчэ два артыкулы падобныя і храналагічна, і тэматычна. **Наталля Мінаева** („Асноўныя накірункі ўзаемадзеяння дабрачынных грамадскіх арганізацый з дзяржаўнымі і мясцовымі органамі ўлады ў Рэспубліцы Беларусь у 1991–2001 г.”) акрэслівае формы ўзаемадзеяння органаў улады з дабрачыннымі арганізацыямі рознага профілю — „універсальнымі”, дапамогі дзецям, інвалідам і сталым людзям, ахвярам фашызму, з фондамі па дапамозе „чарнобыльцам”. У матэрыяле **Людмілы Каралёнак** „Развитие гуманитарных связей и контактов между Республикой Беларусь, Великобританией и Ирландией (1992–2009)” апавядаецца пра дапамогу брытанскіх і ірландскіх дабрачынных арганізацый пацярпелым ад Чарнобыльскай аварыі. Аўтарка падрабязна спыняецца на дзейнасці найбольш актыўных арганізацый — „Праект Дзеці Чарнобыля”, „Лінія жыцця дзяцей Чарнобыля”, „Падтрымка дзецям Чарнобыля”.

**Трэці нумар.** Артыкул **Сяргея Занеўскага** „Польская шляхта и русское самодержавие в политических памфлетах Речи Посполитой последней трети XVIII в. (источниковедческий анализ)” выдатна адлюстроўвае, як Station Сташыц і Гуга Калантай стваралі адмоўны вобраз прарасійскай часткі магнатэрыі, але аўтар імкнецца выкарыстаць творы названых інтэлектуалаў як рэпрэзентатыўныя гістарычныя крыніцы па палітычнай гісторыі, што далёка не бясспрэчна. „Шляхецкую” праблематыку дапаўняе **Святлана Словік** („Мэты, умовы, прынцыпы і практыка выбару сужонкаў у шляхецкіх сем’ях Беларусі 1-й паловы XIX ст.”): адзначаецца захаванне традыцыйных матрыманіяльных стратэгій у шляхецкім асяроддзі — выбар сужонка бацькамі, шлюб з прадстаўніком адной саслоўнай і рэлігійнай групы. Аднак падкрэсліваецца павелічэнне колькасці выпадкаў „няроўных” шлюбаў (як у маёмасным, так і ў „прэстыжным” плане) у другой чвэрці XIX ст., робіцца спроба растлумачыць гэтую з’яву.

Гарадская тэматыка даследуецца **Захарам Шыбекам** і **Інай Соркінай** („Працэсы ўрбанізацыі ў заходнім рэгіёне Беларусі ў XIX — пачатку XX ст.”): высвятляец-

ца, што Гродзенская губерня была самай урбанізаванай часткай беларускіх зямель, асвятляецца ўплыў расійскай дзяржаўнай палітыкі на існаванне гарадскіх паселішчаў праз дэфармацыю этнічнага складу насельніцтва, ненаданне статусу гарадоў буйным мястэчкам. Здавалася, што ў знітаванні з папярэднім матэрыялам артыкул **Віктара Белазаровіча** і **Івана Крэня** „Урбанізацыйныя працэсы ў заходнім рэгіёне Беларусі ў другой палове XX ст." выявіць цікавыя аспекты для параўнання, але замест гэтага даводзіцца канстатаваць поўную неадпаведнасць назвы зместу: большую частку тэксту займаюць агульныя звесткі пра развіццё прамысловасці на Гродзеншчыне і Брэстчыне, аўтары нават закранаюць праблему рэнтабельнасці калгасаў (92) — і гэта ў артыкуле пра ўрбанізацыю. Заяўленая тэма ўрбанізацыйных працэсаў у выніку рэпрэзентавана толькі невялікай статыстычнай падборкай, пазычанай (добра хоць, што са спасылкамі) з прац іншых даследчыкаў.

Ваенная гісторыя ў гэтым нумары асветлена даволі грунтоўна. **Ігар Груцо** («История воинской чести французской армии в военной кампании 1812 г. по материалам исследования Jean Regnault „Les Aigles Imperiales et le drapeau tricolore"») крытыкуе тэзісы, выкладзеныя ў 1967 г. французскім гісторыкам Жанам Рэньё, перадусім наконт таго, што Напалеон не даваў загаду знішчаць сімвалы палкоў французскай арміі. **Сяргей Піваварчык** у артыкуле „Документальные источники по истории фортификационного строительства в Беларуси (XIX — первая половина XX в.)" дае кароткі, але змястоўны агляд дакументальных крыніц па тэме. Аднак аўтар (33–34) па нейкіх прычынах аднёс да дакументальных крыніц успаміны сучаснікаў падзей. У артыкуле „Роль материально-технических ресурсов интендантских служб Западного особого военного округа в обеспечении боеготовности войск накануне Великой Отечественной войны" **Уладзіслава Крыўчыкава** даследуецца харчовае і абозна-рэчавае забеспячэнне ў ЗахАВА, адзначаюцца шматлікія недахопы ў гэтай галіне. „Знакавыя" для сучаснай беларускай навукі тэмы

вайны і гістарыяграфіі сумясціла **Святлана Сілава** ў артыкуле „Православная церковь в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941–1945): историографический обзор": падрабязна аналізуюцца некалькі прац, астатнія фактычна толькі пералічваюцца. На с. 86 Беларускі інстытут навукі і мастацтва (БІНіМ) памылкова пазначаны як „Белорусский институт литературы и искусства". Пытанні пасляваеннага ўрэгулявання адлюстраваны ў матэрыяле **Аляксандры Носавай** „Репатриация советских граждан из Франции в 1945 — начале 1950-х г.": аўтарка спыняецца на паказе механізму пацвярджэння статусу выхадца з СССР, акрэслівае тэрыторыі, куды перасялялі рээмігрантаў, вызначае ўмовы жыцця людзей пасля рэпатрыяцыі.

Перыяд паміж дзвюма сусветнымі войнамі аналізуецца ў наступных даследаваннях. **Андрэй Чарнякевіч** („Православная церковь на белорусских землях в условиях польской оккупации 1919–1920 г.: по материалам польских источников и литературы") пастулюе выкарыстанне крыніц і нават пералічвае архівы, дзе яны зберагаюцца, але дадзенае даследаванне з'яўляецца аглядам польскай гістарыяграфіі праблемы. Акрамя таго, на с. 60–61 і 62 паўтараецца частка абзаца. Назва артыкула **Дзмітрыя Мігуна** „БССР в германо-советских отношениях 20-х г. XX ст." больш вузкая за яго змест, у якім звернута ўвага на ўсю сукупнасць нямецка-савецкіх стасункаў у 1920-я г. Пра Савецкую Беларусь згадваецца толькі з нагоды няўлічвання яе інтарэсаў пры падпісанні Рапальскай дамовы 16 красавіка 1922 г. (адмова ад кампенсацый за ваенны ўрон) і падпісання ад імя БССР 5 лістапада 1922 г. дамовы з Нямеччынай.

Акрамя таго, у разгляданым нумары надрукаваны яшчэ тры даследаванні. У матэрыяле **Расціслава Цімафеева** „Особенности решения жилищной проблемы в БССР в 1943–1991 г. (на примере транспортных предприятий)" адлюстраваны пастаянны недахоп жылля для працаўнікоў транспарту ў акрэслены перыяд, паказваецца, што гэткія праблемы ў меншай ступені датычылі чыгуначнікаў і работнікаў трубаправодаў.

**Ганна ЗміТрукевіч** у артыкуле „Восточнославянский мир в исследованиях научных центров г. Мюнхена (конец 40-х — 80-е годы XX в.)” канцэнтруецца на апісанні славістычных і саветалагічных даследаванняў Вольнага Украінскага Універсітэта, Інстытута Усходняй Еўропы, Універсітэта Людвіга і Максіміліяна, але „мюнхенская” беларусіка амаль не знаходзіцца ў полі яе ўвагі. **Сцяпан Стурэйка** ў артыкуле „Афганцы ў Беларусі. Гісторыя фарміравання і сучасны стан дыяспары” характарызуе шляхі з’яўлення і колькасць афганцаў у Беларусі, іх грамадскія аб’яднанні; акрэслівае ступень уключанасці бежанцаў у беларускае грамадства, іх матэрыяльны стан і сацыяльны статус.

## Веснік Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. А. Куляшова
### Серыя А. Гуманітарныя навукі (гісторыя, філасофія, філалогія)

Як і „Веснік Брэсцкага ўніверсітэта”, перыёдык у 2010 г. змяніў фармат: з’явіўся падзел на серыі — гісторыя апынулася ў „Серыі А”, у якой убачылі свет два нумары.

**Першы нумар.** У артыкуле **Кацярыны Марозькі** „Материальное содержание приходского духовенства Минской православной епархии во второй половине XIX — начале XX в.” акрэсліваюцца наступныя крыніцы матэрыяльнага ўтрымання праваслаўных святароў: заработная плата (з 1864 г. яна не залежала ад велічыні і месцазнаходжання — у горадзе або вёсцы — прыходу), падпрацоўка ў кансісторыі (толькі ў Мінску), пастаянныя і разавыя грашовыя выплаты ў якасці дапамогі, прыбытак ад зямельных надзелаў. **Уладзімір Зарэмскі** („Организация работы женщин в почтово-телеграфных учреждениях Российской империи”) характарызуе ўмовы працы жанчын на тэлеграфе (першая ўстанова такога кшталту, дзе была дазволена праца жанчын), пошце, тэлефонных лініях, вызначае стаўленне працаўнікоў-

мужчын да ўцягвання жанчын у гэтую дзейнасць. Даследаванне адрозніваецца добрай структураванасцю і дакладнасцю выкладу. У працы **Вольгі Марозавай** „Музыкальные учебные заведения в Могилеве в конце XIX — начале XX в." апавядаецца пра прыватныя музычныя вучэльні, курсы і асабістыя ўрокі ў Магілёве ў 1886–1917 г.

Палітычная гісторыя пачатку XX ст. даследуецца ў тэкстах **Канстанціна Бандарэнкі** і **Алены Галавач**. К. Бандарэнка („Современная отечественная историография монархического движения в России и Беларуси начала XX в.") вызначае падыходы, якія існуюць у беларускай навуковай і навучальнай літаратуры па пытанні дзейнасці манархічных арганізацый. Калі меркавалася даць агляд „сучаснай" гістарыяграфіі, то незразумела, навошта згадваецца праца Фёдара Турука, першае выданне якой, што ўсведамляе і аўтар (8), адбылося ў 1921 г. У артыкуле **А. Галавач** «Аграрный вопрос и проблема народного образования в воззрениях и тактике общества „Крестьянин"» апісваецца стаўленне дзеячаў „заходнерусісцкага" таварыства „Крестьянин" да вырашэння аграрнага пытання — падтрымка ўрадавага курсу, падкрэсленне неабходнасці атрымання сялянамі сельскагаспадарчых ведаў.

Адзіны артыкул па гісторыі Беларусі, не прысвечаны часу яе знаходжання ў складзе Расійскай імперыі, — гэта даследаванне **Віктара Буракова** „Ограничение права пользования жилой площадью в Белорусской ССР в 1920-е г.: историко-правовой аспект": разглядаюцца „ўшчыльненне" ў выпадку перавышэння нормы жылплошчы, замацаванне за камунальнымі аддзеламі часткі плошчы прыватных дамоў, высяленне „непрацоўных элементаў". Акрэсліваюцца вызначаныя ў тагачасным заканадаўстве падставы для пазбаўлення права пражывання ў пакоі, кватэры або доме.

**Другі нумар** атрымаўся больш разнастайным у тэматычным рэчышчы. У артыкуле **Барыса Сідарэнкі** і **Пятра Дзмітрачкова** «Современная российская историография „русско-литовских" войн конца XV —

первой трети XVI в.» робіцца выснова, што сучасная расійская гістарыяграфія войнаў паміж Маскоўскай дзяржавай і ВКЛ характарызуецца значнай навуковасцю і ўзважанасцю, хоць з прыведзеных аўтарамі цытат вынікае, што штампы, кшталту „ўз'яднання рускіх зямель", у ёй яшчэ актыўна ўзнаўляюцца. У даследаванні **Юрыя Усціновіча** „Утрыманне дзяржаўных замкаў у ВКЛ у другой палове XVI ст." (дарэчы, гэта адзіны беларускамоўны матэрыял у „гістарычнай частцы" выдання ў 2010 г.) паказваецца, як дзяржава імкнулася павялічыць абароназдольнасць замкаў — праз стварэнне каля іх мястэчак, жыхары якіх забяспечвалі б утрыманне фартэцыі. Для гэтага рабіліся спробы спыніць злоўжыванні з боку ўраднікаў і шляхты ў дачыненні да мяшчан, а таксама прывабіць новых жыхароў у калязамкавыя мястэчкі шляхам часовага змяншэння для іх падаткаў і павіннасцяў.

„Магістральная" для разгляданага часопіса тэма — гісторыя беларускіх зямель у складзе Расійскай імперыі — знайшла сваё адлюстраванне ў двух наступных даследаваннях. **Сяргей Васовіч** („Трансформация епархиального управления Русской православной церкви в Беларуси в 1860-х — начале XX в.") характарызуе ўзнікненне, функцыі і значэнне „благочиннических" з'ездаў і радаў, а таксама акруговых вучэльневых і епархіяльных з'ездаў духавенства. Адзначаецца, што „съезды благочинных" узніклі як рэакцыя на паўстанне 1863–1864 г. **Васіль Табуноў** („Позиция епископата белорусских земель по вопросу о необходимости созыва Поместного собора в начале XX в.") пералічвае прапановы вышэйшых іерархаў беларускіх епархій па пытаннях паўнамоцтваў планаванага Паместнага сабору, арганізацыі выбараў на яго. Акрамя таго, у нумары змешчаны чарговы матэрыял **Міхаіла Старавойтава** па гістарычнай дэмаграфіі — „Изменения в численности и составе городского населения белорусско-российско-украинского пограничья (1920–1930-е г.)" — прасочваецца дынаміка ў колькасці, нацыянальным і прафесійным складзе, узроўні пісьменнасці гараджан акрэсленага

рэгіёна. Асабліва падкрэсліваецца поліэтнічнасць і пераважная „небеларускасць” беларускіх гарадоў.

## Вестник Полоцкого государственного университета

Выданне падзелена на шэсць серый, з якіх у „Серыі А” друкуюцца матэрыялы па гуманітарных навуках, у тым ліку па гісторыі, археалогіі, этналогіі і культуралогіі. Але пры гэтым „Вестник” мае скразную нумарацыю, таму „Серыя А” адпавядае першаму і сёмаму нумарам у агульным спісе.

У **першым нумары** ў публікацыі **Аляксандра Салаўёва** «Натурныя даследаванні падвала і першага паверха корпуса „В” былога езуіцкага калегіума ў Полацку» робіцца спроба рэканструяваць выгляд сутарэнняў і першага паверха будынка. Акрэсліваюцца наступствы шматлікіх перапланіровак, адзначаецца, што гэты корпус XVIII ст. быў узведзены на падмурку яшчэ больш даўняй пабудовы. У артыкуле **Уладзіміра Лобача** „Міфасемантыка культурнага ландшафту беларусаў: тэарэтыка-метадалагічныя праблемы даследавання”, адзіным з галіны этналогіі, акрэсліваюцца найбольш вядомыя і прызнаныя ў свеце падыходы да вывучэння ўяўленняў пра прастору ў традыцыйным грамадстве. Гісторыю мастацтва рэпрэзентуе матэрыял **Ганны Барвенавай** „Калекцыя сярэднявечных тканін Нацыянальнага Полацкага гісторыка-культурнага музея-запаведніка”: апісваюцца фрагменты тканін XI–XII ст. з металічнымі аздобамі, тканін XIII ст. іголкавага пляцення, заслоны XVI ст. з Сафійскага сабора з гафтаваным надпісам, а таксама рэшткі сукна XIII–XIV ст., верагодна, англійскай вытворчасці.

Гісторыя Беларусі сярэднявечнай і раннемадэрнай эпох разглядаецца ў дзвюх наступных публікацыях. **Аляксандр Казакоў** („Тытулаваная знаць з Маскоўскай дзяржавы ў Вялікім Княстве Літоўскім у канцы XV — 30-х г. XVI ст.”) аналізуе прычыны з’яўлення і

палітычныя кар'еры ў ВКЛ Мацвея Мікіцініча, Івана Львовіча Барацінскага, апошняга разанскага князя Івана Іванавіча, Івана Дзмітрыевіча Губкі Шуйскага і Сямёна Фёдаравіча Бельскага. **Наталля Аляксейчыкава** ў даследаванні „Опека над несовершеннолетними детьми в белорусских городах в XVI–XVIII века [так у тэксце. — *Я. Г.*] (на примере Могилева)" вызначае кола магчымых апекуноў сірот, характарызуе апякунскія абавязкі і адказнасць за іх невыкананне, высвятляе адрозненні ў апецы над хлопчыкамі і дзяўчаткамі.

Астатнія публікацыі сфакусаваны на гісторыі Беларусі XIX–XX ст. У працы **Алены Барун** „Монашеские общины города Полоцка: история, организация управления, характеристика братств в середине XIX — начале XX в." аналізуюцца колькасць, склад насельнікаў, матэрыяльны стан і роля ў рэлігійным жыцці жаночага Спаса-Еўфрасіннеўскага і мужчынскіх Богаяўленскага і Барысаглебскага манастыроў, а таксама прыпісаных да іх драбнейшых рэлігійных устаноў. Аўтарка падкрэслівае, што жаночыя манастыры былі шматлюднымі і папаўняліся ў асноўным сялянкамі, а мужчынскія, наадварот, адрозніваліся малалікасцю. **Вольга Папко** („Маёнтак Магілёўцы памешчыкаў Дзяконскіх у 1880–1930-я г.") апавядае пра забудову і ўнутранае ўбранства маёнтка, узнаўляе лёс яго гаспадароў. У анатацыі перад тэкстам сцвярджаецца, што ў артыкуле друкуюцца фотаздымкі (66), але іх няма. У матэрыяле **Мікалая Клепікава** „Ахова віцебскіх помнікаў даўніны ў пачатку XX ст." адлюстроўваецца дзейнасць Віцебскай вучонай архіўнай камісіі (1909–1919) па ўшанаванні памяці ўдзельнікаў вайны 1812 г., па зборы помнікаў старажытнасці, па наглядзе за захаванасцю дзяржаўных і ведамасных архіваў на Віцебшчыне. У даследаванні **Алесі Корсак** „Штодзённасць жыцця остарбайтэраў з Віцебскай вобласці ў нацысцкай Германіі (1941–1945)" апісваецца добраахвотны і пераважна прымусовы выезд на працу ў Нямеччыну, выяўляюцца адрозненні ва ўмовах жыцця прамысловых і сельскагаспадарчых рабочых, абставіны вызвалення і вяртання на радзіму. Гістарыяграфічны

характар носіць артыкул **Марыяны Сакаловай** „Изучение истории общественных движений XIX — начала XX в. в Беларуси в конце 20–80-х г. XX в.”: адзначаецца, што ў савецкай (у тым ліку беларускай) гістарычнай навуцы панавала канцэпцыя „рэвалюцыйнай традыцыі”, калі ўсе „прагрэсіўныя” грамадскія рухі разглядаліся як „папярэднікі” бальшавікоў і Кастрычніцкай рэвалюцыі.

У **другім нумары** цікавыя для дадзенага агляду артыкулы былі змешчаны ў рубрыках „гісторыя” і „культуралогія”. Апошняя складаецца з трох матэрыялаў. У працы **Ігара Вугліка** „Матэрыяльная культура Полаччыны ў крыніцах канца XVIII — пачатку XIX ст. (новыя матэрыялы і даследчыцкія ракурсы)” перадаюцца звесткі А. Луніна, С. Пляшчэева, В. Севяргіна пра побыт, звычаі, заняткі жыхароў Полацка і Полаччыны. **Аляксандра Раманюк** у матэрыяле „Вясельныя жаночыя галаўныя ўборы і прычоскі Усходняга Палесся канца XIX — пачатку XX ст. (жаночыя галаўныя ўборы і прычоскі ў народных святах, абрадах і звычаях)” акрэслівае сімвалічную, эстэтычную і практычную функцыі галаўных убораў пад час вяселля, робіць іх апісанне. У змястоўным артыкуле **Уладзіміра Аўсейчыка** „Пахавальна-памінальная абраднасць вясковага беларускага насельніцтва Падзвіння ў канцы XX — пачатку XXI ст.” апісваюцца сучасныя абрады пахавання і памінання памерлых у Падзвінні; акрэсліваюцца адносна нядаўнія змены, што адбыліся ў гэтых звычаях. Робіцца выснова, што часткова змяняюцца матэрыяльныя прадметы (цяпер яны пераважна набытыя, а не самаробныя), затое элементы духоўнай культуры адрозніваюцца значнай устойлівасцю.

Пад рубрыкай „гісторыя” апынуліся артыкулы па самых розных тэмах і перыядах, што варта толькі ўхваліць. Аднак узровень некаторых з іх засмучае. Маюцца на ўвазе „даследаванні” **Юрыя Кежы** і **Ігара Уварава**. У артыкуле першага „Генезіс княжацкай улады на беларускіх землях у VIII–XI ст.” замест заяўленай тэмы даецца кароткі агляд палітычнай гісторыі Русі з ухілам у падзеі гісторыі Полацка і, у меншай ступені, Турава. Аўтар замяняе „монатэізм” на загадкавы „монацэнтрызм” (10), „этас” на

„этнас” (12), паслядоўна робіць памылкі ў напісанні слоў іншаземнага паходжання. У цэлым, артыкул пакідае ўражанне студэнцкага рэферата. Пад шматслоўнай назвай („Проблемы исследования историографии шляхты и сословно-представительных органов в период становления и развития Великого княжества Литовского до Люблинской унии 1569 г.”) публікацыі І. Уварава не толькі хаваецца агляд гістарыяграфіі па праблеме шляхты і соймаў (чамусьці без уліку сучасных даследаванняў), але і згадваюцца працы па гісторыі гандлю і гарадоў, што крыху здзіўляе. Неадназначна выглядае і артыкул **Наталлі Нестэр** «Полоцк в книге И. Мессения „Scondia illustrata”»: аўтарка звяртае ўвагу на малавядомую ў беларускай навуцы крыніцу — твор шведскага гісторыка Ёгана Месэнія (1579–1636), але сам артыкул складаецца толькі з цытавання фрагментаў пра Полацк з гэтай кнігі. Але ў большасці гэтых урыўкаў Полацк знаходзіцца на ўзбочыне ўвагі храніста: ніякіх новых фактаў пра горад або інтэрпэтацый ужо вядомага ў яго тэксце няма. На с. 3 напісана абсалютна некарэктная фраза: „Труд И. Мессения интересен еще и в том плане, что это один из немногих (!) исторических трудов XVI (!) столетия”. Па-першае, „гістарычных прац” з XVI ст. вядома багата, па-другое, Месэній сваю кнігу напісаў ужо ў XVII ст.

Іншыя матэрыялы ў цэлым адпавядаюць навуковым стандартам. У артыкуле **Віктара Чараўко** „Матэрыялы да карты пахавальных помнікаў Беларускага Падзвіння XIV–XVIII ст.” складзены спіс (16–18) і карта (18) курганных пахаванняў, курганна-жальнічных могілак, магіл з каменнымі крыжамі, пахаванняў унутры культавых аб’ектаў, памінальных курганоў XIV–XVIII ст. з Беларускага Падзвіння. Робіцца спроба растлумачыць розную шчыльнасць іх размяшчэння. У даследаванні **Андрэя Мацука** „Аршанская павятовая эліта ў часы панавання Аўгуста III” адзначаецца, што сярод аршанскай эліты вылучаўся род Юзэфовічаў. Таксама адлюстроўваецца ўплыў агульнадзяржаўнай барацьбы (перадусім, паміж Фаміліяй і Радзівіламі) на аршанскія соймікі, дзе пераважна перамагалі прыхільнікі Фаміліі.

Як і звычайна ў беларускіх часопісах, большасць аўтараў разглядаюць падзеі XIX–XX ст. **Сяргей Глазырын** („Рэвалюцыйная сітуацыя 1861–1862 г. у Віцебскай губерні") не пазначае, ці прытрымліваецца ён ленінскай трактоўкі паняцця „рэвалюцыйная сітуацыя", ці разумее пад ёй нешта іншае, але ў цэлым у артыкуле апавядаецца пра антыўрадавыя дэманстрацыі, канспіратыўныя арганізацыі і сувязі польскіх, беларускіх і расійскіх рэвалюцыянераў на Віцебшчыне. Асноўная ўвага **Галіны Лабохі** („Храмы прападобнай Еўфрасінні Полацкай епархіі: параўнаўчы аналіз умоў існавання і развіцця") звернута на трагічны лёс у савецкі час Свята-Еўфрасіннеўскай царквы ў в. Бароўка Верхнядзвінскага раёна і Еўфрасіннеўскай („Цёплай") царквы Спаса-Еўфрасіннеўскага манастыра ў Полацку: першы храм выкарыстоўваўся як зернясховішча, клуб і крама, другі пераважна пуставаў. У артыкуле **Марыяны Сакаловай** „Изучение истории общественных движений в XIX — первой трети XX в." аналізуюцца інтэрпрэтацыі паняцця „грамадскі рух" у вызначаны перыяд. **Іван Янушэвіч** («Характер и причины форсированного решения „церковного вопроса" партийно-государственными структурами в 1917–1924 г.») барацьбу бальшавікоў супраць Праваслаўнай царквы акрэслівае як змаганне са „стратэгічным ідэалагічным праціўнікам" (50), вызначае формы гэтай барацьбы: забойства святароў, знішчэнне святыняў, захоп царкоўнай маёмасці, падтрымка „абнаўленчага" руху, нарэшце прапаганда. Асабліва падкрэсліваецца роля Льва Троцкага ў антырэлігійнай кампаніі. **Алена Сумко** ў даследаванні „Перыядызацыя дзяржаўнай палітыкі ў кнігавыдавецкай справе БССР (1919–1941)" характарызуе змяненні ў кнігавыдавецкай дзейнасці ў БССР у бок павелічэння цэнзуры і поўнага падпарадкавання выдання кніг патрэбам партыі і дзяржавы. У працы **Вольгі Рымко** „Деятельность сельскохозяйственных переселенческих товариществ в БССР в 1925–1927 годах на примере Полоцкого округа" даследуецца арганізацыя добраахвотных перасяленняў з БССР у Сібір і на Далёкі Усход: аналізуецца працэс стварэння і

абсяг дзейнасці перасяленчых таварыстваў, апісваюцца функцыі „хадакоў” — выведнікаў тэрыторый для засялення, пералічваюцца ільготы для перасяленцаў і праблемы, якія ўзнікалі ў апошніх. **Ірына Нікалаева** („Прыцягненне жаночага насельніцтва Беларусі на прымусовыя работы ў Германію ў 1942–1944 г.”) падкрэслівае, што набор добраахвотніц на працу ў Нямеччыну не меў поспеху, таму (а таксама з-за эканамічных складанасцяў у Райху) нямецкія ўлады перайшлі да прымусовай адпраўскі жанчын у Нямеччыну, што выклікала супраціў. Адзначаецца, што ўсё-такі была вывезена вялікая колькасць жанчын. У артыкуле **Расціслава Цімафеева** „Развитие ведомственного медицинского обеспечения БССР в 1943–1991 г. (на примере транспортных предприятий)” адзначаецца, што з цягам часу сістэма медыцынскіх установаў для абслугоўвання транспартнікаў паляпшалася, але ў выніку шэрагу ператварэнняў забеспячэнне медыцынскімі паслугамі некаторых іх катэгорый (напрыклад, рачнікоў) змянілася не ў лепшы бок.

## Гістарычны альманах
## Том 16 (2010)

У артыкуле **Руслана Гагуа** „Грунвальдская бітва ў паведамленнях Энеа Сільвіа Пікаламіні” пераказваюцца звесткі пра Грунвальдскую бітву, змешчаныя ў творах Энеа Сільвіа Пікаламіні (1405–1464; папа рымскі Пій II — 1458–1464) „Пра землі і паходжанне прусаў” і „Пра Еўропу”. Праўда, яны захаваліся толькі ў пазнейшых кампіляцыях, з якіх аўтар згадвае Арундэльскі і Чыгішскі манускрыпты, зусім не спыняючыся на важным пытанні прыналежнасці ўсіх іх звестак менавіта Пікаламіні. **Ігар Бортнік** («Праблема дзяржаўна-палітычнага ўладкавання ў ананімнай працы „Размова Паляка з Літвінам”») адзначае, што для верагоднага аўтара „Размовы Паляка з Літвінам” Аўгустына Ратундуса (каля 1520–1582) ідэальнай формай кіравання ўяўлялася моцная манархічная ўлада, абмежаваная

пры гэтым свецкай і духоўнай радай. У матэрыяле польскага гісторыка **Томаша Цясельскага** „Попіс войска Вялікага Княства Літоўскага каля гарадоў Рось і Заблудаў у верасні 1744 г.” апісваецца праведзены ў 1744 г. палявым гетманам літоўскім Міхалам Казімірам Радзівілам збор і агляд войска ВКЛ, вызначаюцца прычыны гэтай унікальнай для часоў Аўгуста III падзеі, падрабязна акрэсліваецца склад войска ВКЛ. **Аляксандр Пашкевіч** і **Андрэй Чарнякевіч** («„Бацька” беларускіх паланафілаў») характарызуюць палітычную кар’еру Паўла Алексюка (1892–?), беларускага дзеяча прапольскай арыентацыі, аднаго з арганізатараў Беларускай вайсковай камісіі, Беларускага палітычнага камітэта, Краёвай сувязі, якія існавалі ў 1920–1922 г. на занятых Польшчай беларускіх землях. **Аляксандр Пашкевіч** («Чалавек з-за шырмы: спроба высвятлення таямніцы „Старога”») аналізуе звесткі пра аднаго з інспіратараў расколу ў КПЗБ у канцы 1924 г. і ўтварэння т. зв. „сэцэсіі”, якую сучаснікі і пазнейшыя даследчыкі называлі „беларускай нацыяналістычнай” і „ультракамуністычнай”, кіраўніка віленскіх камуністаў, які хаваўся пад псеўданімам „Стары”. У артыкуле **Юрыя Грыбоўскага** „Рада БНР на эміграцыі і праекты інтэграцыі ў Цэнтральна-Усходняй Еўропе (1945–1956)” апісваецца міжнародная актыўнасць Рады БНР: наладжванне кантактаў з палітычнай элітай ЗША, удзел у распрацоўцы супольнасці краін Цэнтральна-Усходняй Еўропы (канцэпцыя „Міжмор’я”), стасункі з польскімі, украінскімі, літоўскімі, латышскімі, эстонскімі і славацкімі эміграцкімі арганізацыямі. **Настасся Жарская** ў артыкуле „Чарнобыльская аварыя ў памяці жыхароў в. Вохар (Чэрыкаўскі раён, Магілёўская вобласць)”, выкарыстоўваючы метады „вуснай гісторыі”, адлюстроўвае ўяўленні жыхароў „адселенай” вёскі пра саму катастрофу, перасяленне большасці жыхароў і побыт пасля аварыі ў Вохары і новых месцах пражывання. Даследчыца ў асноўным абмяжоўваецца перадачай „простай мовы” інфармантаў, мінімізуючы долю ўласнай інтэрпрэтацыі і высноваў.

# Аўтарэфераты дысертацый па гістарычных навуках, дапушчаных да абароны ў 2010 г.

## На ступень доктара гістарычных навук

Батяев, В. Ф. Развитие белорусских общественных объединений в XIX — 20-е годы XX века. Этнологическое исследование: 07.00.07 / Батяев Василий Федорович; Ин-т искусствоведения, этнографии и фольклора им. К. Крапивы НАН Беларуси. — Минск, 2010. — 44 с. — Библиогр.: с. 36–40 (43 назв.).

Вабішэвіч, А. М. Нацыянальна-культурнае жыццё ў Заходняй Беларусі (1921–1939 гг.): 07.00.02 / Вабішэвіч Аляксандр Мікалаевіч; Беларус. дзярж. ун-т. — Мінск, 2010. — 52 с. — Бібліягр.: с. 36–49 (123 назв.).

Гайдукевич, Л. М. Туризм в международных отношениях стран Центральной и Восточной Европы (1989–2009 гг.): 07.00.15 / Гайдукевич Леонид Михайлович; Белорус. гос. ун-т. — Минск, 2010. — 49 с. — Библиогр.: с. 40–46 (58 назв.)

Голубеў, В. Ф. Сялянская абшчына ў дзяржаўных, прыватнаўласніцкіх і царкоўных уладаннях Беларусі ў XVI–XVIII стст.: 07.00.02 / Голубеў Валянцін Фёдаравіч; Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т гісторыі. — Мінск, 2010. — 50 с. — Бібліягр.: с. 37–47 (93 назв.).

Ракава, Л. В. Эвалюцыя традыцый сямейнага выхавання беларусаў у XIX–XX стст.: 07.00.07 / Ракава Любоў Васільеўна; Ін-т мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К. Крапівы НАН Беларусі. — Мінск, 2010. — 43 с. — Бібліягр.: с. 36–40 (43 назв.).

Сакович, В. С. Аграрная политика в Беларуси в 1981–2008 гг.: 07.00.02 / Сакович Виктор Савельевич; Нац.

акад. наук Беларуси, Ин-т истории. — Минск, 2010. — 61 с. — Библиогр.: с. 56–58 (33 назв.).

## На ступень кандыдата гістарычных навук

Аніпяркоў, В. В. Стварэнне і дзейнасць Таргавіцкай канфедэрацыі на землях Вялікага Княства Літоўскага (май 1792 г. — верасень 1793 г.): 07.00.02 / Аніпяркоў Вадзім Вадзімавіч; Беларус. дзярж. ун-т. — Мінск, 2010. — 23 с. — Бібліягр.: с. 19–20 (13 назв.).

Балтрушэвіч, Н. Г. Пратэстанцкія арганізацыі БССР у 1944–1985 гг.: структура, формы дзейнасці, узаемаадносіны з дзяржавай: 07.00.02 / Балтрушэвіч Наталля Генадзеўна; Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т гісторыі. — Мінск, 2010. — 27 с. — Бібліягр.: с. 22–24 (24 назв.).

Бартош, О. А. Традиционная социальная культура цыган Беларуси в конце XX — XXI в.: 07.00.07 / Бартош Ольга Эдуардовна; Ин-т искусствоведения, этнографии и фольклора им. К. Крапивы Нац. акад. наук Беларуси. — Минск, 2010. — 22 с. — Библиогр.: с. 18–19 (10 назв.).

Гаравая, А. А. Развіццё сістэмы вышэйшай філалагічнай адукацыі ў Беларусі (1944–1961 гг.): 07.00.02 / Гаравая Алеся Аляксееўна; Беларус. дзярж. ун-т. — Мінск, 2010. — 24 с. — Бібліягр.: с. 20–21 (14 назв.).

Герновіч, Т. Д. Дакументальныя крыніцы па гісторыі перамешчаных беларускіх архіваў (кан. XVII — пач. XXI ст.): 07.00.09 / Герновіч Таццяна Дзмітрыеўна; Беларус. дзярж. ун-т. — Мінск, 2010. — 22 с. — Бібліягр.: с. 18–19 (14 назв.).

Дмитрук, И. П. Государственная политика в Республике Беларусь по социальной поддержке учащейся молодежи (1991–2000 гг.): 07.00.02 / Дмитрук Ирина Павловна; Нац. акад. наук Беларуси, Ин-т истории. — Минск, 2010. — 23 с. — Библиогр.: с. 19–20 (13 назв.).

Дорняк, И. И. Белорусско-польское экономическое и культурное сотрудничество в 1991–2004 гг.: 07.00.02 /

Дорняк Иосиф Иосифович; Ин-т истории Нац. акад. наук Беларуси. — Минск, 2010. — 22 с. — Библиогр.: с. 18–19 (11 назв.).

Дроздова, Е. А. Банковская система и ее роль в социально-экономическом развитии Беларуси (1861–1914 гг.): 07.00.02 / Дроздова Екатерина Анатольевна; Белорус. гос. пед. ун-т им. М. Танка. — Минск, 2010. — 23 с. — Библиогр.: с. 18–20 (26 назв.).

Елисеев, А. Б. Российская историография взаимоотношений Советского государства и Русской православной церкви в 1943–1953 гг.: 07.00.09 / Елисеев Алексей Борисович; Белорус. гос. ун-т. — Минск, 2010. — 25 с. — Библиогр.: с. 20–22 (19 назв.).

Захаркевич, С. А. Этнические меньшинства на территории Беларуси в XIV–XVIII веках: стратегии культурной адаптации: 07.00.07 / Захаркевич Степан Артурович; Ин-т искусствоведения, этнографии и фольклора им. К. Крапивы Нац. акад. наук Беларуси. — Минск, 2010. — 17,[1] с. — Библиогр.: с. 14–15 (15 назв.).

Кахновіч, В. А. Гаспадаранне ў маёнтках палескага рэгіёну Расійскай імперыі ў 1861–1914 гг.: 07.00.03 / Кахновіч Віктар Адамавіч; Беларус. дзярж. ун-т. — Мінск, 2010. — 22 с. — Бібліягр.: с. 18–19 (13 назв.).

Козленко, А. В. Кельтиберские тессеры гостеприимства как исторический источник (II в. до н. э. — I в. н. э.): 07.00.09 / Козленко Алексей Владимирович; Белорус. гос. ун-т. — Минск, 2010. — 21 с. — Библиогр.: с. 17–18 (16 назв.).

Косов, А. П. Внешняя политика США второй половины XX — начала XXI в. в постсоветской российской историографии: 07.00.09 / Косов Александр Петрович; Белорус. гос. ун-т. — Минск, 2010. — 25 с. — Библиогр.: с. 20–22 (17 назв.).

Крывічаніна, К. А. Навукова-тэхнічнае супрацоўніцтва Беларусі з краінамі СНД і ЕС (1991–2000 гг.): 07.00.02 / Крывічаніна Кацярына Аляксандраўна; Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т гісторыі. — Мінск, 2010. — 27 с. — Бібліягр.: с. 23–24 (13 назв.).

Курстак, Ю. И. История славянства в творчестве А. С. Будиловича (1846–1908 гг.): 07.00.09 / Курстак Юрий Иосифович; М-во образования Респ. Беларусь, Гродненский гос. ун-т им. Я. Купалы. — Гродно, 2010. — 22 с. — Библиогр.: с. 18–19 (8 назв.).

Марченко, О. В. Русская политическая эмиграция в Германии в 1920–1939 гг.: организационная структура и идеология: 07.00.03 / Марченко Олег Валерьевич; Белорус. гос. ун-т. — Минск, 2010. — 24 с. — Библиогр.: с. 20–21 (12 назв.).

Матусевич, О. А. Политические партии и общественные организации в Западной Беларуси 1920–1930-х годов в польской историографии: 07.00.09 / Матусевич Ольга Александровна; Нац. акад. наук Беларуси, Ин-т истории. — Минск, 2010. — 25 с. — Библиогр.: с. 21–22 (10 назв.).

Мельнікаў, І. В. Сацыяльна-эканамічная гісторыя Беларусі перыяду капіталізму (1861–1914 гг.) у польскай гістарыяграфіі: 07.00.09 / Мельнікаў Ігар Вячаслававіч; Беларус. дзярж. ун-т. — Мінск, 2010. — 25 с. — Бібліягр.: с. 20–22 (17 назв.).

Плавінскі, М. А. Фарміраванне і эвалюцыя комплексу зброі бліжняга бою і засцерагальнага ўзбраення X–XIII стст. на тэрыторыі Беларусі: 07.00.06 / Плавінскі Мікалай Аляксандравіч; Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т гісторыі. — Мінск, 2010. — 26 с. — Бібліягр.: с. 20–23 (42 назв.).

Рыбчонак, С. А. Крыніцы масавага паходжання па генеалогіі Беларусі сярэдзіны XVII — пачатку XX ст. (па матэрыялах Нацыянальнага архіва Беларусі): 07.00.09 / Рыбчонак Сяргей Аляксандравіч; Беларус. дзярж. ун-т. — Мінск, 2010. — 25 с. — Бібліягр.: с. 20–22 (23 назв.).

Савченко, Н. М. Политический кризис Итальянской республики в первой половине 1990-х годов: 07.00.03 / Савченко Наталья Михайловна; Белорус. гос. ун-т. — Минск, 2010. — 24 с. — Библиогр.: с. 20–21 (16 назв.).

Сугако, Н. А. Общественно-политические взгляды М. П. Погодина: 07.00.03 / Сугако Наталья Анатольев-

на; Белорус. гос. ун-т. — Минск, 2010. — 23 с. — Библиогр.: с. 20 (9 назв.).

Тукала, С. М. Генацыд і барацьба яўрэяў у Мінскім гета ў гады Вялікай Айчыннай вайны (ліпень 1941 — кастрычнік 1943 года): 07.00.02 / Тукала Сяргей Мікалаевіч; Беларус. дзярж. ун-т. — Мінск, 2010. — 25 с. — Бібліягр.: с. 21–22 (13 назв.).

Черкасов, Д. Н. Внешняя политика Бургундии в 1419–1467 гг.: 07.00.03 / Черкасов Дмитрий Николаевич; Белорус. гос. ун-т. — Минск, 2010. — 22 с. — Библиогр.: с. 18–19 (16 назв.).

Шимак, Е. К. Внешнеполитические приоритеты России во взаимоотношениях с Римской курией (1469–1582 гг.): 07.00.03 / Шимак Елена Казимировна; Белорус. гос. ун-т. — Минск, 2010. — 24 с. — Библиогр.: с. 20–21 (10 назв.).

Шніп, М. А. Унутрыпалітычны канфлікт 1508 года ў Вялікім Княстве Літоўскім у кантэксце міжнародных адносін ва Усходняй Еўропе: 07.00.02 / Шніп Макар Аляксандравіч; Беларус. дзярж. ун-т. — Мінск, 2009. — 24 с. — Бібліягр.: с. 21 (7 назв.).

Эльмалян, А. С. Приоритеты внешней политики Ливийской Джамахирии (1969–2003 гг.): 07.00.15 / Эльмалян Абдураоф Салах; Белорус. гос. ун-т. — Минск, 2010. — 18 с. — Библиогр.: с. 15 (6 назв.).

Юрчак, Д. В. Белорусско-украинские связи в 1991–2004 годах: 07.00.02 / Юрчак Денис Валерьевич; Белорус. гос. пед. ун-т им. М. Танка. — Минск, 2010. — 24 с. — Библиогр.: с. 19–21 (19 назв.).

*Ніна Камарова*

# *In memoriam*

## Віталь Скалабан (5.08.1947 — 20.08.2011)

20 жніўня ў Мінску на 65-м годзе пасля цяжкай хваробы пайшоў з жыцця вядомы беларускі гісторык, энцыклапедыст, архівіст, загадчык аддзела публікацыі дакументаў Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь Віталь Скалабан. Ён нарадзіўся ў 1947 г. у вёсцы Шылавічы Слонімскага раёна Гродзенскай вобласці ў сям'і, дзе вітаў дух гісторыі і краязнаўства. Хутчэй за ўсе ад бацькі, вясковага настаўніка, гісторыка і краязнаўцы да Віталя перайшло захапленне мінулым Беларусі, якое стала яго жыццём і прафесіяй.

Як прафесійны гісторык і, галоўнае, як даследчык гісторыі Беларусі ён сфармаваўся ў колішнім Ленінградскім універсітэце, які скончыў у 1970 г. Калі мы толькі пазнаёміліся, а гэта было больш за 20 гадоў таму, я не ведаў, чаму ён так цёпла, з настальгічнымі ноткамі ўзгадваў Ленінград-Пецярбург. Пазней зразумеў. Гэта было юнацтва, студэнцтва, далучэнне да беларушчыны, вернасць якой ён пранёс праз усё жыццё. Менавіта там ён пазнаёміўся з вядомым дзеячам беларускага нацыянальна-дэмакратычнага руху Яўсеем Канчарам і пачаў вывучаць гісторыю Усебеларускага з'езда 1917 г. як падзею, што значна паўплывала на фармаванне дзяржаўнасці Беларусі. Увогуле тэма дзяржаўнасці была адной са стрыжнёвых у яго даследчыцкіх планах і пошуках. Намнога пазней, ужо ў час „перабудовы", у Мінску, калі быў зняты грыф сакрэтнасці з фонду Беларускай Народнай Рэспублікі, В. Скалабан упершыню ў некалькіх нумарах „Беларускага гістарычнага часопіса" надрукаваў пратаколы Усебеларускага з'езда, а ў 2010 г.

мемуары Я. Канчара. Яны паказваюць, якім няпростым і пакручастым быў шлях да дзяржаўнасці. Тэме дзяржаўнасці, толькі ўжо на савецкай аснове, прысвечаны зборнік дакументаў „Временное рабоче-крестьянское советское правительство Белоруссии” (2005), які не страціў сваёй актуальнасці і цяпер і ў падрыхтоўку якога дзядзька Віталь унёс шмат энергіі, сіл, часу. Тэму дзяржаўнасці закранала і яго кандыдацкая дысертацыя „Беларускі нацыянальны камісарыят. Студзень 1918 — сакавік 1919 г.”, якую ён абараніў у 1987 г., ужо будучы вопытным, прафесійным даследчыкам.

Дзяржаўнасць для яго была не абязлічанай. Ён добра разумеў, хто і як рабіў гісторыю. Дзякуючы яго намаганням і пошукам сёння мы можам даведацца больш пра постаці Ф. Шантыра, Ф. Турука, У. Фальскага, А. Вазілы, У. Ігнатоўскага ды іншых грамадска-палітычных дзеячаў. На ўдакладненне звестак з асабістага, грамадскага, палітычнага жыцця той ці іншай асобы ён ніколі не шкадаваў часу. Шукаў нашчадкаў праз знаёмых, інтэрнэт, ладзіў з імі перапіску і быў вельмі задаволены, калі яму дасылалі ўспаміны, нейкія дакументальныя сведчанні ці якую іншую інфармацыю. У дачыненні да людзей для яго не было дробязяў.

Для яго станаўлення як гісторыка, энцыклапедыста вялізную ролю адыграла праца ў выдавецтве „Беларуская энцыклапедыя” імя П. Броўкі, дзе ён пачаў працаваць як рэдактар, а потым быў загадчыкам рэдакцыі гісторыі Беларусі. Менавіта энцыклапедыя дала яму магчымасць пашырыць гарызонты, пазнаёміцца з вучонымі, журналістамі, пісьменнікамі, выдаўцамі, дзеячамі мастацтва, кіна- і тэлерэжысёрамі, палітыкамі, якія сталі потым яго суаўтарамі, знаёмымі, сябрамі, аднадумцамі, калегамі.

На мой погляд, стыль В. Скалабана сфармавала энцыклапедыя, з яе патрабаваннямі лаканізму, дакладнасці вызначэнняў, праверкі фактаў, падзей. Дзядзька Віталь ніколі не гнаўся за кідкай фразай, не намагаўся ўразіць чытача ажурнасцю і хітраспляценнем думак, высокімі словамі. Аднак у гэтым знешнім лаканізме і прагматыз-

ме адчувалася і пульсавала ўнутраная напружанасць думкі і доўгія пошукі аднаго, але самага неабходнага і патрэбнага слова, адной, але знешне і ўнутрана завершанай фразы, абзаца і ўсяго тэксту. Такі стыль ён называў „прыгожым пісьменствам" і заўсёды вельмі паважліва і ўдумліва ставіўся да кожнага слова, кожнага радка.

Захапленне прыгожым пісьменствам прывяло яго да драматургіі. Я памятаю, які рэзананс у Мінску выклікала яго дакументальная драма „У жніўні 36-га", пастаўленая ў фармаце „тэатра п'есы" на малой сцэне Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы ў лістападзе 2002 г. Напэўна, з таго часу ні адна пастаноўка не збірала столькі людзей. Маленькі тэатр не змясціў усіх ахвотнікаў, давялося прыстаўляць крэслы… Гэта была спроба паказу гісторыі тэатральнымі сродкамі. Эпізод з жыцця класікаў (Янкі Купалы і Якуба Коласа), адлюстраваны ў п'есе — гэта драма ў айчыннай гісторыі і гісторыя ў драме. Віталь Скалабан заўсёды адзначаў, што ў Нацыянальным архіве знаходзяцца матэрыялы, якіх хопіць на дзясяткі такіх драм, трэба толькі ўбачыць, прыйсці і ўзяць. Але не кожны знойдзе і не кожны ўбачыць…

На 60-годдзі Віталя Скалабана Адам Восіпавіч Мальдзіс, віншуючы юбіляра, назваў яго „Рыцарам беларускай архівістыкі". Аднак чаму толькі архівістыкі? Архівістыка, архівы, архіўная справа, якой ён прысвяціў апошнія гады свайго жыцця — гэта толькі невялічкі, але мо адзін з найбольш плённых і, на жаль, апошніх этапаў жыцця і працы дзядзькі Віталя. Ён не толькі сам працаваў, але і яго супрацоўнікі працавалі і раслі прафесійна. Прафесійныя архівісты заўсёды бачылі і адзначалі бездакорную археаграфічную апрацоўку тэкстаў, зробленую В. Скалабанам, што сведчыць пра яго высокі прафесіяналізм. Дзясяткі зборнікаў дакументаў, архіўныя і міжархіўныя даведнікі выкананы на высокім археаграфічным узроўні. Прычым яны выйшлі за межы дакументаў толькі Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь. Расійскія, украінскія, нямецкія архівісты і гісторыкі дасылалі дакументы ў запланаваныя да выдання зборнікі „пад Скалабана", таму яны маюць высокі

навуковы ўзровень і шырока вядомыя ў Расіі, Украіне, Літве, Польшчы, Нямеччыне, Ізраілі.

Віталь Скалабан спрычыніўся і да адраджэння навуковага краязнаўства, фактычна знішчанага ў Беларусі ў 1930-я г., стаў адным з заснавальнікаў і актыўным аўтарам „Краязнаўчай газеты”, выношваў канцэпцыю „Беларускай энцыклапедыі краязнаўства”.

Гісторык, архівіст, энцыклапедыст, драматург, літаратуразнавец Віталь Скалабан ні ў савецкі час, ні ў час „перабудовы”, ні ў апошнія гады не вагаўся, на якой мове пісаць, думаць, размаўляць. Гэты яго стрыжань, цвёрдасць, перакананасць у тым, што „будам жыць”, а таксама тое, што зроблена гэтым чалавекам, яскрава характарызуюць „Рыцара беларускай архівістыкі”.

*Анатоль Вялікі*

## Выданні, атрыманыя рэдакцыяй

Бібліяграфічны паказальнік археаграфічных публікацый у Рэспубліцы Беларусь (1991–2006 гг.). Склад. В. С. Пазднякоў. Мінск, 2010.

Білоус Н. Тестаменти киян середини XVI — першої половини XVII ст. Київ, 2011.

Вялікае княства Літоўскае і яго суседзі ў XIV–XVIII стст.: саперніцтва, супрацоўніцтва, урокі: Да 600-годдзя Грунвальдскай бітвы. Мінск, 2011.

Изобретение империи: языки и практики. Москва: Новое издательство, 2011.

Кавалёў С. Літаратура Вялікага Княства Літоўскага XVI — пачатку XVII ст.: феномен культурнага памежжа. Мінск, 2011.

Макушников О. А. Гомель с древнейших времен до конца XVIII в. 2-е изд. Гомель, 2010.

Невядомы Дунін-Марцінкевіч. Дакументы да біяграфіі з Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі. Мінск, 2011.

Портнов А. Упражнения с историей по-украински. Москва, 2010.

Шыдлоўскі С. А. Культура прывілеяванага саслоўя Беларусі: 1795–1864. Мінск, 2011.

Университетская идея в Российской империи XVIII — начала XX веков: Антология: учеб. пособие для вузов / сост. А. Ю. Андреев, С. И. Посохов. Москва, 2011.

Bohn T. M., Neutatz D. (Hg.) Studienhandbuch Östliches Europa. Bd. 2: Geschichte des Russischen Reiches und der Sowjetunion. 2. Auf. Köln — Weimer — Wien, 2009.

Ein weisser Fleck in Europa… Die Imagination der Belarus als Kontaktzone zwischen Ost und West. Hg. von T. M. Bohn, V. Shadurski. Bielefeld: Transcript Verlag, 2011.

Kaminski A. (Hg.) Erinnerungsorte an die Opfer des Kommunismus in Belarus. Berlin: Metropol, 2011.

Kosman M. O kresach w historii i legendzie. Studia i szkice z dziejów granicy wschodniej. Cz. 1. Poznań, 2011.

Lorenz C. Przekraczanie granic. Eseje z filozofii historii i teorii historiografii. Tłum. M. Bobako i R. Dziergwa. Poznań, 2009.

Prawo w Europie średniowiecznej i nowożytnej. Red. A. Lis. Lublin: Wydawnictwo KUL, 2011.

Przez Kresy i historię po obrzeża polityki. Profesorowi Marcelemu Kosmanowi w półwiecze pracy naukowej. Komitet red.: Iwona Hofman. T. 1–2. Wydawnictwo Adam Marszałek, Toruń, 2011.

Romanowski W. Ukraina przystanek wolności. Kraków, 2007.

Tradycja — metody przekazywania i formy upamiętnienia w państwie polsko-litewskim, XV — pierwsza połowa XIX wieku. Pod red. U. Augustyniak. Warszawa, 2011.

Запісы. Т. 34. New York — Miensk, 2011.

Ab Imperio. 2011, № 1, 2.

Das Historisch-Politische Buch. 59. Jg. 2011. Hf. 1–4.

History and Theory. Vol. 50. 2011. Nr. 1–3.

Kwartalnik Historyczny. 2011. Nr. 1, 2.

Przegląd Wschodni. T. X. Z. 4 (40).

Studia Białorutenistyczne. T. 5. Lublin, 2011.

Zapiski Historyczne. T. 76. 2011. Z. 1, 2.

Zeitschrift für Ostmitteleuropa-Forschung. Jg. 56 (2007) — Jg. 60 (2011) Hf. 2.

## Аўтары нумара

**Дзмітрый Віцько**
Беларускі навукова-даследчы цэнтр
электроннай дакументацыі
вул. Францыска Скарыны, 51
220141, Мінск

**Konrad Bobiatyński**
Instytut Historyczny UW
Krakowskie Przedmieście 26/28
00-927 Warszawa

**Thomas Bohn**
Justus-Liebig-Universität Gießen
Historisches Institut / Osteuropäische Geschichte
Otto-Behaghel-Str. 10
D-35394 Gießen

**Alexander Friedman**
Seminar für Osteuropäische Geschichte
Universität Heidelberg
Grabengasse 3–5
69117 Heidelberg

**Геннадій Корольов**
м. Боярка, вул. Гоголя, 52а, кв. 38
Києво-Святошинський район
08153 Київська обл.

**Henryk Litwin**
Instytut Historyczny UW
Krakowskie Przedmieście 26/28
00-927 Warszawa

